# Кузьма Чорны



## ЗБОР ТВОРАЎ У ШАСЦІ ТАМАХ





Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
Аляксея Рагулі і Рагнеды Раманоўскай

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

Звераватую панурасць Лявону Бушмару перадаў бацька — княжацкі дробны арандатар. Памёр ён тады, калі Расія ваявала з немцамі. Акрай таго лесу, які ўсё жыццё сваё вартаваў яго бацька, арандаваў ён ад князя добрую дзялянку зямлі. Калі ажаніўся і аддзяліўся ад бацькі — забудаваўся на арэндзе, усё ў лік арэндных выплатак князю. Гэта быў стары моцны, як дуб. Пражыў ён на свеце год, мусіць, з дзевяноста і рабіў усё да самых апошніх дзён сваіх. Нават казалі, што гадзін за дзве да смерці з'еў яшчэ пару цвёрдых антонавак — гэтак сканаў у памяці і без думак пра смерць; доктара пры ім не было ніколі, ад самых малых дзён і аж да скanання. Не любіў ён дактарскіх лекаў, зваў гэта прымхаю, панскаю выдумкаю, хоць паноў сам не цураўся. Не верачы ў дактароў, ён гаварыў, што чалавек павінен як мае быць працаваць, колькі трэба выспацца, у меру, смачна з'есці — і тады будзе здароў. Калі прыязджаў, бывала, у свае лясы князь, ён, разам з іншымі княжацкімі дзедзічамі і гэтакімі, як сам, дробнымі арандатарамі, заўсёды з'яўляўся ў маёнтак — стаяў там з усімі перад ганкам па гадзіны дзве без шапкі, пакуль выйдзе павітацца з імі князь. Тады цалаваў князю ў калена (у руку цалавалі толькі самыя буйныя дзедзічы і маёнтаўскія фундатары) і ішоў адразу дадому, ніколі не застаючыся пагаварыць з людзьмі.

Малады ваўчок — Лявон быў ужо дарослы хлопец тады, калі памёр бацька, але яшчэ ў салдаты не папаў праз гады свае. Незадоўга да смерці бацька колькі раз гаварыў яму:

— Ты, сынку, глядзі, каб не папасціся адно ў войска. А калі вайна зацягнецца, дык і пагатоў пра гэта думай. Што ж, я ўжо век свой пражыў, можа, і не будзе мяне хутка на свеце, дык думай сам. Калі прыйдзе пара ісці ў

салдаты, дык напрамілуй бог старайся як-небудзь выкруціцца. Можа, грошай трэба будзе паткнуць доктару ці якому іншаму гаду, дык што ж ты зробіш.— Трэба дык трэба! Я сам не служыў, грашыма адкупіўся, і нябожчык дзед твой ад рэкрутаў захаваўся: некалькі год засаб стуляўся, часамі, расказваў, цэлы тыдзень пралежыць, бывала, у хляве пад гноем; дык не канечне і табе ісці служыць ліха ведае за што чорту лысаму.

А калі вайна была з палякамі, Лявону прыйшла ўжо была пара ісці ў войска, але так усё ішлося, што не лішне ён і клопату ўжываў, каб не ісці — то адступленні, то наступленні, то прыхоўваўся крыху, так яно і сыходзіла. Толькі калі ўжо вайна канчалася, выйшаў быў загад такі, што ўсім дэзертырам будзе даравана, калі ў тры дні самі з'явяцца. У Лявона, вядома, і ў думках не было з'яўляцца, ды, можа, і не чуў ён пра гэты загад, седзячы, як воўк, у сваёй лясной гушчырні. Але з блізкіх залесных хутароў два хлапцы сабраліся ехаць і яго падгаварылі:

— Дурны ты, што ты выгадаеш, калі будзеш сядзець дома! Можа, неўзабаве, кажуць, замірэнне будзе, дык доўга служыць не давядзецца, а так — усё роўна не пададаруюць.

— А ці праўда, што цяпер нічога не будзе?

Яму паказалі друкаваны загад. І хоць ён чытаць не ўмеў, але друкаванай паперцы паверыў і такім чынам праслужыў у Чырвонай Арміі нешта з год. Расказвалі, што чырвонаармеец з яго выйшаў несамавіты. Страляў ён добра (разам з бацькам найлепшымі паляўнічымі былі), але палітграмата — дык гэта была для яго пакута. Чытаць яго таксама ледзьве-ледзьве навучылі, але ж калі ён пасля вярнуўся дадому, дык адразу і гэта забыўся.

У арміі папаў ён у тую часць, якая кагадзе з фронту прыйшла. Стаялі раней у казармах, а пасля выйшлі з іх.

Сярод лясоў і поля Лявон Бушмар павесялеў, стаў вастрэйшым на слова. А то раней, у горадзе, у казармах быў надта ўжо панурым і маўклівым. Часамі слова ад яго выцягнуць нельга было. Сярод гэткага збору людзей і гарадской таўкатні ён адчуваў сябе, як мядзведзь за сталом у пакоях. Некалькі разоў за ўсю службу ён прасіў усё аднаго ж таварыша напісаць да мацеры ліст:

— Напішы ты, будзь ласкаў, ліст мне дадому, я табе аддзякую.

З гэтага «я табе аддзякую» заўсёды смяяліся ўсе яго таварышы і раз нават вывелі яго з цярплівасці.

— Які тут можа быць смех! А што ж ён павінен мне пісаць, ці што? Або ты мне, або я табе — што рабіць? Усякі сам і для сябе толькі можа рабіць што і калі сам захоча.

— Ты зусім, Бушмар, не калектыўны чалавек,— сказаў хтосьці з таварышаў.

На гэта ён нічога не адказаў, унурыўся і лёг на свой ложак, адвярнуўшыся ад усіх. Ліста ў той дзень ён пісаць ужо не захацеў. Ліст напісалі на другі дзень, калі той таварыш, што пісаў заўсёды яму, сам падышоў да яго:

— Ну дык давай, Лявон, напішам, ці што?

Лявон пачаў дыктаваць:

— Дзякуй богу жыў, напішы, здароў. Нудна па доме, і няхай не збывае жарабіцы і рабіць каго найме, пакуль я прыйду, каб не рашаць гаспадаркі...

Маці раз прыслала была яму пасылку. Дык ён дастаў з пасылкі самы большы сыр і падышоў да таго таварыша, што заўсёды пісаў яму:

— Вазьмі, будзь ласкаў, сыр. Ты заўсёды мяне слухаеш, калі я прашу цябе напісаць дадому.

Таварыш пакрыўдзіўся:

— Так, па-таварыску, дык я вазьму, а калі гэта заплата, дык не хачу.

Лявон Бушмар, як бездапаможнае дзіця, агледзеўся навокал. Высокая постаць яго крыху прыгнулася ад нейкай як бы нецярплівасці, непаразуменне было ў вачах.

— Вазьмі,— яшчэ раз сказаў і працягнуў у руках сыр.

— Не вазьму. Давай усе гуртам яго з'ямо.

Ён не ведаў, што рабіць з сырам, схаваць яго назад ці пакінуць на таварышавым ложку. Але тут сам таварыш дапамог яму — забраў сыр, і тут жа ўсе гуртам з'елі яго. З таго часу Бушмар яшчэ большым ваўком зрабіўся, а яму яшчэ больш сталі надакучаць.

— Не калектыўны ты чалавек. Звераваты.

— Дзікі і нялюдскі.

— Ты ж ніколі чалавеку, каб прыйшлося, не паможаш, калі ў таго не будзе чым адплаціць табе.

Бушмар раз у такі момант усхваціўся і размахнуў сваімі шырокімі плячыма. У адну руку згроб нешта з траіх і шпурнуў на блізкі ложак. Кароткая шыя яго густа пачырванела, ён моцна і шумна дыхнуў. Тады з ім ужо мала загаворвалі. Твар яго стаў жорсткім, бровы часта ссоўваліся.

Калі выйшлі з горада, дачыненні між ім і таварышамі сталі лепшымі. Бушмар стаў сам загаворваць з усімі. Але не быў ніколі ў вялікім гурце — любіў адзіноцтва і нават кватараваць застаўся ў сялянскай хаце адзін, без таварышаў. Ён тут трохі здружыўся з гаспадаром хаты. Калі льга было ад службы, вельмі ахвотна ішоў у гумно малаціць і тады ажыўляўся:

— Чалавек без работы не можа доўга быць, хіба толькі спрадвечны лайдак або каторы змалку не прывык.

Тады ж нейк раз ён, разгаварыўшыся, прызнаўся гаспадару, што трохі каецца, што пайшоў служыць:

— Не ведаў, што гэтак доўга зацягнецца. Чорт ведае чым займайся тут. Хіба гэта работа!

Ён вельмі рваўся цяпер дадому.

## II

На ціхім небе стылі зоры. Вільгаць ішла з лясоў і туманамі асядала на голую зямлю. Перад світаннем маўчала поле; злазячы ў рэчку, бялелі на чорнай зямлі лапіны апошняга снегу.

Над самай рэчкаю, на ўзгоркаватым яе беразе, высока над змрочнымі паплавамі, узнімалася няроўная сцяна лесу. Дарога ў лес ішла праз рэчку, цераз мост, з поля і паплавоў. На дарозе ў лесе было чорна і ціха. Таму пад нагамі ў чалавека звонка і мокра трашчала леташняе лісце. Чалавек ішоў паволі, нёс за плячыма клунак. Часамі ён прыпыняўся, дзе дрэвы разыходзіліся ад дарогі і над палянкай ніжэй звісала зорнае неба. Чалавек як бы прыглядаўся ці прыслухоўваўся да чаго. Стаяў так хвіліны са тры і зноў ішоў далей. Ступаў ён моцна, але хада яго была лёгкаю, хоць і ўтомленаю, так, як ходзіць чалавек па роднай зямлі. Дарога доўга ішла лесам, перакідалася праз кавалкі поля, праз нізкія ядлаўцовыя лагчыны.

Ужо світаць пачало, як чалавек прыпыніўся каля густой няроўнай агарожы. Застукаў брамкаю і пхнуў яе каленам. Забрахаў сабака, заядла захроп, кінуўся пад чалавека, заскроб кіпцямі па вільготным крысе салдацкага шыняля.

— Галас, Галас,— загукаў чалавек.

Сабака адбегся і брахаў, пачаўшы павільваць хвастом.

— Галас, не пазнаў? Ах ты дурны!..

Сабака радасна завішчаў, падбег, абняў гаспадара пярэднімі лапамі, лізнуў у твар. Чалавек усё стаяў, аж па-

куль не прайшло сабачае захапленне. Тады ўзышоў на ганак, спусціў з плеч клунак. У сенцах ужо стукалі хатнія дзверы — сабака кагосьці пабудзіў сваім брэхам.

— Хто?

Голас з сянец чуваць быў малады, жаночы, прывабны, хрыплаваты ад сну. Чалавек на ганку ад гэтага голасу падняў галаву і падаўся крыху назад.

— Хто? — зноў запытала жанчына.

— Гаспадар.

— Які гаспадар?

І, здагадаўшыся, загаласіла:

— А божачка ж мой, Лявон!

Яна з грукатам адкінула ад звярэй завалу, і Лявон Бушмар пачуў знаёмы пах сяней. У кухні жанчына запаліла газоўку, і тут Бушмар ацапянеў, глянуўшы на жанчыну. Яна таксама не зусім, мусіць, вольна пачувала сябе: стаяла ля печы маўкліва, спусціла ўніз рукі і не гаварыла больш ні слова. Твар яе густа ружавеў.

— Ты... тут?..— запытаўся Бушмар.

— Служу... Як напісаў тады адразу быў, каб хоць каго маці ўзяла рабіць... Дык я нанялася...

— Нанялася?

Жанчына маўчала. Глыбокае непаразуменне прайшло па Бушмаравым твары.

— А маці дзе?

— Маці хворая... Не ўстае... Другі ўжо тыдзень.

Бушмар адчыніў дзверы ў чыстую хату. Жанчына запаліла лямпу. Маці прачнулася, пачала ад радасці плакаць, гаварыць і стагнаць.

Маладая жанчына колькі разоў выходзіла і ўваходзіла — пачыналася дзённая гаспадарская таўкатня. Бушмар не захацеў адпачываць, пасядзеў каля маці, пераапрануўся ў сваю цывільную адзежу і адразу пайшоў на сялібу. Сабака весела гайсаў следам за ім. Бушмар агледзеў непапраўленую агарожу, непадгрэбеную салому, незачыненыя вароты на прыгуменне... Выцягнуў з студні вады, паспрабаваў, ці добра ходзіць коварат.

Як і заўсёды, пануры быў выгляд яго. Пахадзіўшы па двары, ён выйшаў за гумно. Там скідаўся сялібны ўзгорак глыбока ўніз, у рэчку. Пад стагоднімі дубамі прэла леташняе іх лісце. Малады ельнік зубіў цёмную зяляніну за паплаўною лукою. З трох бакоў быў дубняк і ельнік. З чацвёртага — горбілася поле. Неба над светам было высокае, ціхае, веснавое.

Бушмар правёў рукою па твары, як бы знімаючы з яго штосьці чужое і непрыемнае. Вочы яго ператварыліся ў агністыя стрэлкі. Ён зняў шапку, расшпіліў жакетку. Здавалася, што ён хоча гэта пазбавіцца ўсяго лішняга, каб як мага глыбей чуць вялікую музыку лясной адзіноты.

Бушмар стаяў. І от твар яго выцягнуўся, губы сціснуліся. Ноздры раздзьмуліся і заварушыліся. Так звер чуе магутны пах лесу, зямлі, вады, вясны, адзіноты. Так жа звер чуе пах і цёплай крыві. Вочы прыжмурыліся, бровы пацягнулі за сабою ўніз лоб.

Бушмар ішоў назад па прэлых лісцях. Маладая жанчына, нанятая гаспадыня, упоперак перад ім перайшла двор. Бушмар спусціў у зямлю вочы і жорстка запытаў:

— Як жа ты нанялася з хаты?

Жанчына адказала не адразу. І то як бы нехаця:

— Так здарылася.

— Як?

— Памёр мой.

Бушмар аж уздрыгануўся. Вочы яго ўскінуліся на жанчыну. Яна чамусьці ад гэтага зірку пачырванела, апусціла галаву, уздыхнула. Заспяшалася ў сенцы. Бушмар стаяў усё і не зводзіў вачэй з жанчыны, аж пакуль яна праз увесь двор ішла.

У той дзень Бушмар рабіў многа. Заходзячы ў хату, ён разоў два падыходзіў да матчынай пасцелі, стаяў па колькі хвілін і маўчаў. Старая жанчына была слабою зусім.

Бушмар стараўся цяпер не заставацца падоўгу ў хаце. Дарваўшыся да работы, ён у той дзень зрабіў шмат і надвечар, прытомлены, распачаў ужо завіхацца каля агарожы. Жанчына зноў папалася яму на вочы. Яна ўскінула цяпер на яго вочы свае, і ў голасе яе цяжка было заўважыць што большае за гаспадарлівую звычайную руплівасць, за абыякавасць да гаспадара і чужой работы. Была нават недаверлівасць і варожасць да чужога чалавека. Яна іначай ужо, як раніцаю, гаварыла цяпер:

— Можа, памагчы насіць?

Ён змоўчаў, а праз хвіліну сказаў:

— Рабі там, што ў хаце трэба.

І глянуў гэтак, як і той раз, ёй услед, але тут жа ўнурыўся ў работу. А яна пайшла ад яго подбегам, можа, штучна спяшаючы. Завязаная назад рагамі хустка збілася ў яе з галавы, кароткая кудзельная вопратка была абсыпана асцюкамі. Яна была ў хаце, аж пакуль не змеркла,

а на змярканні шукала па двары яго вачыма. Нідзе нікога не было, яна вярнулася ў хату і пагаварыла з хвораю:

— Лявона няма нідзе поблізу, можа, куды адышоўся, а тут мне позна будзе ісці адной, яго чакаўшы. Я ўсё ўправіла, дык я так пайду. Чуць дзень буду зноў.

— Добра,— адазвалася старая.

Жанчына рушыла з хаты. Мінула сялібны лясок, перайшла па кладцы рэчку; адышлася ўжо трохі ад сялібы. І там убачыла Бушмара. Ён стаяў над загіністым берагам каламутнай рэчачкі і кудысьці глядзеў.

Яна на момант прыпынілася, трохі жахнулася ад нечаканасці. Ён пачуў яе крокі і азірнуўся. Бровы яго былі ссунуты — гэта яна добра заўважыла.

— Аміля? — неспадзеўкі сказаў ён першы раз за гэты дзень яе імя, таксама ўздрыгануўшыся ад раптоўнага яе з'яўлення.

— Я іду дадому на сёння, даўно не была, заўтра на світанні прыйду. Тут усё ў парадку.

— Ідзі,— адказаў ён адразу.

Яна заспяшалася. Ён доўга яшчэ стаяў, аж пакуль змрок не агарнуў усяго. Тады паволі пайшоў назад. Так ён сярод цішыні спаткаў першы вечар у роднай сялібе.

«Ёй не хочацца быць тут са мною,— думаў Бушмар уночы,— пайшла, уцякла. Баіцца».

Ён усміхнуўся жорстка і ціха, як бы дамогшыся таго, чаго доўга дамагаўся.

— Гэта вы самі, мамуня, падгаварылі яе застацца да нас? — падышоў ён, устаючы на світанні, да старой.

— Каго? — не зразумела адразу маці.

— Амілю?

Стогнучы і вохкаючы, маці гаварыла:

— Яна толькі як дачулася, што наняць нам каго трэба, дык сама прыйшла прасіцца. Дзе ж яна тутноймецца іначай, няма тут лішне дзе і да каго. А так ёй жыць — хто яго ведае як і з чаго. У хаце — галота.

— Шпарка ж яна аўдавела,— панура сказаў Бушмар.

## III

За колькі год перад гэтым на тым самым месцы, дзе стаяў на змроку Бушмар, калі папаткала там яго Аміля, адбылося адно не зусім звычайнае здарэнне. Польскія салдаты стаялі тады густа па ўсіх суседніх вёсках. Бушмар жыў у сваім звычайным жывым спакоі. Раз у два тыдні

выязджаў у пастарунак на стойку з фурманкаю, а больш, як і заўсёды, мала дзе яго хто бачыў. Вечарамі ж ён падыходзіў праз свой лес да вёскі. Там ужо чакала яго Аміля. Часта яна выходзіла яму на спатканне, тады ён вёў яе да лесу. Там садзіліся блізка адно пры адным на паваленай яліне. Лес ціха гуў, страсаючы з сябе сухія іголкі і снег. Снег быў і пад нагамі ў іх — абледзянелы, гладкі і ўлежаны. Яна мерзла на халодным дрэве, ён браў яе на свае калені, яна згіналася ў яго руках, рабілася маленькаю перад ім, бездапаможнаю. Часта ён дзеля жартаў пераносіў яе праз усю паляну да дарогі, адкуль яна бегла дадому, а ён стаяў пад ельнікаваю сцяною і пільнаваў яе ўзрокам сваім. Замарожаная цішыня скоўвала поле, а гул лесу быў спакайнейшым за ўсялякую цішыню. Яна знікала з вачэй яго недзе ў цёмным міргаценні сцен і стрэх, а ён усё стаяў. Высокая постаць яго цямнелася наводшыбе за колькі крокаў ад лесу. Ён пасля паволі падаваўся ў свой бок, ніколі не познячыся ў сваю мярлогу. Дзень назаўтра праходзіў ні доўга ні коратка — ішоў, як ішоў у рабоце. А вечарам Бушмар зноў ішоў праз лес.

У той памятны для некаторых вечар Аміля была такая, як і кожны раз — маленькая, блізкая. Яна нават больш, як заўсёды, праседзела ў яго на каленях. Але ўжо, калі ён памкнуўся давесці яе да самага дому, яна сказала скрозь прынадны смех:

— Я адна перабягу, а ты ідзі.

Звярыная трывога ўкалола яго. Ён, як з помстаю, да болі сціснуў яе пальцы; яна аж закрычала ціха. Ён сціснуў руку ёй яшчэ мацней.

— Бяжы,— як бура, дыхнуў ён.

І сам пайшоў, але злосная трывога не пакідала яго. Як на тое ўсё роўна ішлося. З паўдарогі ён вярнуўся ў вуліцу і прыпыніўся каля знаёмай хаты. Праз акно ён убачыў, як Аміля стаяла ля стала і моцна смяялася. У хаце чулася мужчынская польская мова. Нешта яго цюкнула. Ён падбег да акна з двара і ўбачыў з другога боку стала паляка з афіцэрскімі нашыўкамі на зялёным салдацкім сурдуце. Бушмаравы вочы ў той жа момант зажмурыліся, губы сціснуліся.

Па вуліцы хадзіла колькі жаўнераў. З сваімі польскімі няспрытнымі жартамі яны зазіралі ў вокны, дзе былі дзяўчаты. Бушмар пайшоў на прыгуменне і сеў на бярвеннях. Быў ён тут нядоўга. Забразгалі дзверы, і дзве постаці пайшлі паволі на вуліцу. Бушмар краўся следам. Ён чуў,

як паляк дробна сыпаў каверскімі жартамі, а Аміля, як шамкамі, звінела вясёлым смехам і пробавала адказваць нешта, падрабляючыся пад польскую мову:

— Це́пер позна...

— Панна муві «цепер» — хо-хо!

Паляк сам рагатаў і ўсё трымаў за руку Амілю. Бушмар следам за імі выйшаў за апошнюю хату. У галаве яго стукала кроў, ён трымаў у зубах губу і краўся ззаду. Стараўся даслухаць гаворкі. Тут яму зноў прыйшлося прыпыніцца і стаць пад дрэвам. Паляк доўга трымаў Амілю, пасля павёў назад у вуліцу. Яна ўсё смяялася, весела і гулліва. Бушмар ірваўся падбегчы да іх. Нарэшце яна зноў пайшла з ім з вуліцы. Так Бушмар прастаяў доўга. І што больш за ўсё страсянула яго, гэта Амілін смех, такі бесклапотны, шчыры, вясёлы. І гэтакі ж знаёмы яму.

Бушмар цярпеў і дачакаўся канца. Было з палавіна ночы, калі ён убачыў паляка аднаго. Той ішоў дарогаю, мінаючы ўбаку лес. Бушмар паўз лес абабег кругам і пайшоў насустрач.

— Хто? — гукнуў паручнік.

— Чалавек! — гукнуў у адказ Бушмар, падняў угару рукі і стаў так на дарозе.

Паручнік падышоў, трымаючыся за рэвальвер.

— Сконт?!

Бушмар як стаяў, кінуўся наперад і грунуў кулакамі паручніку ў грудзі. Той адно звіўся Бушмару пад ногі і духу не ўказаў.

Можа б, і не лішне ўзялі б на падазронасць Бушмара, каб ён праз дзён два недзе не знік з дому. Назаўтра пасля забойства паручніка знайшлі пасярод дарогі, і следства пачало трэсці кожную хату. Былі і ў Бушмара, але нічога не даводзіла яго вінаватасці, хіба толькі што сляды на снезе зварочвалі з дарогі на яго хутар. Але ж слядоў было шмат, і ці мала куды і чаго ходзяць людзі напрамік, каб карацей было? Аднак жа ён доўга не сядзеў дома. Калі на трэці дзень з'явіліся, каб забраць яго, у хаце знайшлі адну маці. Яна енчыла і стагнала, што Лявон паехаў да стрэчнага брата і вернецца дзён праз чатыры, бо брат жыве далёка, вёрст за трыццаць, «таксама на арэндзе ў найяснейшага князя». Яе некалькі раз нагайкаю і дапыталіся, дзе жыве той Лявонаў брат. Арыштаваная Аміля расказала ўсё, як гадзін за тры да развітання з польскім афіцэрам яна бачылася з Бушмарам, а пасля «бавілася ў хаце і на вуліцы з панам паручнікам». Праз

месяцаў два яе выпусцілі, а Бушмара і ў брата не знайшлі — счуўшы бяду, ён там застаўся прыхоўвацца.

Так справа дацягнулася да польскага адыходу, тады ён і вярнуўся. На адыходзе палякі хутар яго паскублі, дый так маці пачала рашаць гаспадарку, бо не было сілы ўпраўляцца адной.

Нікому Бушмар ні ў чым не прызнаўся, нават самой Амілі, якая пасля прыйшла была сама да яго бледная і трывожная. За ласкавы і нявольніцкі зірк яе вачэй ён тады ж адвярнуўся ад яе.

— Не я забіў,— адказаў ён і мацеры.

I маці з таго была ўпэўнена, што сын яе не вінаваты. Час прайшоў, і пра цёмнае здарэнне толькі калі-нікалі ўспаміналі людзі. На Бушмара ж, можна сказаць, ніхто і не думаў цяпер.

Другі раз Аміля прыйшла была да яго ўжо нейк пад восень. Незвычайная для яе, нездаровая смеласць была ў вачах яе. Узбуджанасць прыкметна была ў ёй надзвычайная.

— Я прыйшла запытацца ў цябе, Лявон.

— Пытай.

Ён чуць-чуць паказаў зубы ад штучнага смеху.

— Ці ісці мне замуж? Да мяне адзін сватаецца.

— Калі добры чалавек трапляецца, дык ідзі.

У яе была трохі надзея на нейкі іншы адказ яго. Пасля ж гэтага яна прыкусіла губы і пайшла шпарка. Ён упэўніў сябе, што добра зрабіў, напусціў на сябе вясёласць, выбраўся на пару дзён да таго самага стрэчнага брата. Цяпер ён увесь аддаўся аднаўленню сваёй паскубленай гаспадарскай мярлогі.

Аміля ж, можа, і на злосць Бушмару, паслухала яго рады. Чалавек знайшоўся не кепскі. Яна пайшла замуж праз месяцаў чатыры пасля апошняга свайго прыходу да Бушмара. Ад гэтага замуства яна нарадзіла сына.

## IV

Бушмарава маці яшчэ больш аслабела. Сярод ночы ён вымасціў сядзенне ў возе і паехаў па брата. У полі як мае быць асталёўвалася вясна. Раннія гаспадары пачыналі скародзіць.

Апаўночы было ў полі цёмна і холадна-парна. Бушмар выбіраўся з лагчын паволі. Паўз дарогу бялелі каморніцкія тычкі і межавыя слупы — яшчэ без самога гаспадара

Бушмара вёска адціснула яго да самага лесу і ўрэзалася ў яго паплавы.

Ужо ў наступныя дні пасля прыходу свайго ён спрабаваў не паддавацца. Але гаварыў ён толькі з самімі суседзьмі — мець дачыненне да начальства, хоць і да самага малога, было для яго горш усялякай пакуты. Ён тады пачынаў заікацца ад жадання выказаць усё як ёсць разам. Блытаў словы, нарэшце змаўкаў і пачынаў спачатку.

— Чаму гэта залезлі сюды? — сыпаў ён злоснаю гаворкаю і паказваў рукой на лес.

— А як жа? На тое абрэзка,— адказалі яму.

— Чаму гэта? — зноў перапытваў ён.

Маўчалі.

— Чаму гэта? Што, у мяне лішняе ёсць, ці што? Можа, вы і на той бок лесу палезеце?

— Можа, і палезем.

— Хто арэнду плаціў, а хто палезе! Чаму гэта?

З братам яны прыехалі ў наступную ноч. Зноў бялелі каля дарогі межавыя слупы і тычкі.

— О,— паказаў рукой Бушмар.

— Але,— адказаў брат.

Больш яны нічога пра гэта не гаварылі і ўехалі ў лес моўчкі.

Брат быў вельмі падобным да Лявона, але ростам быў яму, высокаму, па плячо ўсяго. Бушмар падстрыгаў вусы, а гэты падкручваў іх стрэлкамі ў бакі. Гаварылі яны адзін з адным мала і без слоў вельмі добра разумелі адзін аднаго.

Назаўтра зусім парушыўся звычайны ход жыцця ў Бушмаравай сялібе. Папаўдні Бушмару давялося ісці ў вёску прасіць людской дапамогі. Сёй-той потым прыйшоў з вёскі. Прыйшоў стары Вінцэнты, што ўмеў на памяць усялякую касцельную адправу. Труну рабілі самі Бушмары, а Вінцэнты маліўся з кантычак — пераспяваў колькі разоў «Анёл панскі» і «Здровась Марыя». Пасля труну ўдвух Бушмары завезлі ў мястэчка пад касцёл. Вярнуліся позна. А назаўтра сышліся ўсе ў Бушмаравай чыстай хаце на жалобны абед. Вінцэнты прыйшоў з жонкаю, за гаспадыню была Аміля. Бушмар дастаў людзям выпіць. Перад абедам Вінцэнты зрабіў жалобную адправу — заспяваў зноў «Анёл панскі», усе падцягалі. Нават сам Бушмар падаваў свой, як з-пад зямлі, голас.

Спачатку быў ціхі настрой. Бушмараў брат, расчулены і ўзлагоджаны, успомніў свайго хлапчука:

— Бывала, адна ўцеха была. Прыедзеш дадому, распрагаеш каня, а ён пад нагамі трэцца, памагаць лезе. Часамі і крыкнеш на яго, і ўшчунеш, калі пасваволіць, але як памёр, дык сам палез бы лёг на яго месца, абы падняць яго.

На твары яго засвяцілася чуласць. Жанкі заплакалі, уцёр слёзы і сам Бушмараў брат. Так прайшоў абед. А як выйшлі на ганак, каб разысціся, той жа самы Бушмараў брат не сцярпеў:

— У мяне адрэзалі палавіну ўсяе зямлі. Але я хоць толькі што на арэнду быў сеў, але о!

Ён ткнуў пальцам на брата:

— О! Спрадвеку арэнду плаціў.

— Нічога не зробіш,— сам жа адказаў брат.

— Чаму гэта не зробіш! — зароў Бушмар.

— Можа, што і зробіш,— хітра сказаў Вінцэнты.

## V

Меркла ў лясах. Гусцілася цёплае неба. Адвячорак цадзіў паплаўныя туманы.

Рэчка ўлілася ўжо ў свае берагі, цякла ціха-ціха. Магутнасць вясны жыла ў лясах і ў полі.

Бушмарава постаць чарнелася над рэчкаю.

Ён зноў быў адзін. Брат паехаў дзён праз тры пасля матчынага пахавання. Бушмар жа яшчэ некалькі дзён, як выбіты з свае каляіны, не задумваўся ні над чым. Аміля каля яго чула сябе ніякава, кожны адвячорак пакідала ў сялібе яго аднаго, начаваць хадзіла ў вёску. Можа, таму, што ад Бушмара слова цяпер больш як калі цяжка было выцягнуць.

— Я пакіну служыць тут зараз,— сказала была раз Аміля.

Ён не пачуў ці так нічога не адказаў.

На змроку высокая постаць узвышалася над рэкаваю лукою. Чалавек маўчаў, як і ўсё, што было навокал яго. Доўга стаяла высокая постаць. Змрок пагусцеў, неба яшчэ не запаліла зораў.

Чалавек азірнуўся і пайшоў паволі назад. Храсткі яго носа варушыліся, бровы з'ехалі нізка і зрасліся.

Маленькая жанчына ішла па траве. У руках яна несла чаравікі, ад работы ружавеў твар. Яна ішла подбегам ад гумна. Вольнай рукою папраўляла валасы і глядзела кудысьці паверх усяго. Яна напаткалася высокаму чалаве-

ку. На адзін момапт вочы іх спаткаліся, але чалавек адвярнуўся і пайшоў на высокі ганак. Жаночая постаць прыгнулася ад таго ўзроку мужчыны, больш заспяшалася. От яна сядзіць на ганку і абуваецца. Марудзіць, абцірае ногі аб мокрую траву. Ціха навокал, нікога нідзе няма. Жанчына ўстала, яна ўжо гатова была ісці.

— Дык я пайшла ўжо, заўтра на світанні прыйду,— моцна гаворыць яна тое, што і кожны дзень у гэтую самую пору.

Але чамусьці яшчэ марудзіць. Яшчэ нагнулася паправіць у чаравіку шнурок. Шнурок нешта завязваецца доўга, раптам ірвецца, і яго трэба звязаць. Ідзе жанчына паволі, унурыўшы галаву, трымаецца роўна, як бы чуючы ўсё яшчэ на сабе той момантны зірк.

Яна ідзе паўз разваленую пуню; пахне з яе прэлая салома і веснавая цвіль. Тут жанчына пайшла шпарчэй. Але чалавек выбягае на ганак і моцна заве сабаку:

— Галас, Галас!

Жанчына бачыць здалёк, як цераз двор імчыцца да гаспадара сабака, як сам гаспадар сыходзіць з ганка. Яна прыпыняецца і глядзіць: а можа, там здарылася што, яна ж тут усю гаспадыніну работу адна парабляе, можа, чаго і не дагледзела.

Чалавек жа адагнаў ужо ад сябе сабаку і ідзе цераз двор. От пайшоў ён шпарка. Яна вельмі павольна паварочваецца да дарогі і ідзе сабе: яна ж ужо развіталася — сказала, што пайшла.

За брамаю гарачая хада магутных ног дагнала яе. Яна не азірнулася, але чула на сабе чужую буру. Тады з востраю, неперапаможнаю, пакутнаю і страшнаю радасцю пайшла шпарчэй, штосьці бяздумна ўгадаўшы ў гэтым. І тады ж пачула, як схапіла яе тая чужая бура. Бушмаравы рукі ўзнялі яе высока, пад звярыным дыхам яго валасы з-пад хусткі казлытнулі твар. Слабасць і раптоўны ўздым страсянулі яе. Разам з тым ласкавая хітрасць прайшла па твары яе.

— Я чуць не вярнулася, думала, што здарылася,— шапнула яна і змоўкла зусім.

Бушмар цераз увесь двор бегам нёс яе назад на руках.

Праз паўгадзіны яна нехаця выйшла на ганак. У расчыненых дзвярах неўзабаве з'явіўся за ёю Бушмар. Яна сышла з ганка, вельмі паволі зноў моўчкі пайшла да брамы ці толькі зрабіла выгляд, што ідзе. Бушмар збег з ганка за ёю. І з трох крокаў зноў схапіў яе на рукі. Хітрая жа-

ночая ўсмешка лягла на твар яе. Яна ўзмахнула рукамі, вызваліўшы іх з-пад Бушмаравых, узняла ўгору галаву і ахапіла яго за шыю. Бушмар панёс яе зноў у хату.

## VI

Віславухі, белавусы, стары Вінцэнты стаяў за лесам на дарозе. Амілін брат падыходзіў да яго ўпоперак цераз раллю. Твар Вінцэнтага тоненька ружавеў на ветры, нядаўна зголены, гладзенькі. Амілін брат ледзьве цягнуў ногі па цяжкай, скібаватай раллі.

— Адпоўз Бушмар за лес,— сказаў Амілін брат.

— Напалі на чалавека,— адказаў Вінцэнты.

— Будзе з яго аднаго.

— Можа, будзе, а можа, і не. З таго боку лесу тамашнія яшчэ падбіраюцца. Так, мусіць, і адхвацяць усю гору.

Вінцэнты задумённа плюнуў, абцёр рукавом вусы. Твар яго на ветры заружавеў і пагладзеў больш. Здаваўся мокрым. Цераз поле, з кустоў, ішлі людзі. Амілін брат уваткнуў ля дарогі тычку, мігнуў Вінцэнтаму. Той пайшоў далей ад дарогі, набраўшы з зямлі пад паху гатовых тычак. Мужчыны прыпыніліся ля дарогі.

З лесу, з-пад Бушмаравай сялібы, выйшла Аміля. Яна ішла шпарка, заклапочана. Брат памкнуўся быў пайсці ёй насустрач, але пад цікаўнымі і хітрымі позіркамі мужчын застаўся.

Аміля падышла да яго адразу.

— Чаму Бушмар сам не прыйшоў? — запыталася колькі галасоў разам.

Аміля адказала аднаму толькі брату:

— Не прыйдзе... Мяне прыслаў... Што тут хаця рабіцца?..

Яна спусціла рукі і стаяла з сухой заклапочанасцю. Глядзела на ўсю работу.

— Што гэта за чалавек, чаму ён вачэй не пакажа: а пасля смяртэльнай крыўды не абярэшся,— загаманілі некаторыя мужчыны.

— Каб тут каморніка не было, можа б, і прыйшоў,— засмяяўся Амілін брат.— Што, невядома, як яму цяжка з начальствам гаварыць?

Аміля бездапаможна глянула на брата. Той падступіў да яе бліжэй.

Мужчыны заварушыліся на полі.

— Думаеш кідаць служыць? — запытаў брат ціха, адводзячы сястру ўбок.

Аміля пацiснула плечуком і апусціла вочы. Скрытнасць цяпер удалася ёй.

— Кідай! Што гэта не ўгаварыць цябе ніяк! І тады вырвалася з хаты ліха ведае чаго, як бы не можа памеркавацца разам. Гэта ж не вечна будзе цяснота ў хаце, заразшто-небудзь зробім. Кідай, годзе табе ліпець за наймічку. Чаму ты паслухаць мяне не хочаш? Чаго ты баішся, што ў хаце цесна і хлеба можа не хапіць? Не прападзем! Будзем разам рабіць, разам жыць... Гэтак табе трэба было і адразу ісці за наймічку! Што ж не паслухала! Кідай!.. Чаму ты босая прыйшла, халодны дзень гэтакі? Раніцою мароз быў.

Яна аглядзела яшчэ раз падлеснае поле і пайшла назад.

Брат паглядзеў ёй услед, нахмурыўся.

— Можа, яна крыўдзіцца чаго,— з'явіўся раптам збоку Вінцэнты.

Амілін брат не захацеў з ім гаварыць. Вінцэнты, як знячэўку дзе абмочаны на холадзе, заклапаціўся вельмі каля тычак.

## VII

За лесам насядала на сялібу вясковае поле. Арудаваў там Андрэй — Амілін брат, працiўны Бушмару чалавек. Бушмар і ніколі не меў з ім сталай гаворкі (хіба, бывала, трэба было пагаварыць крыху, увайшоўшы ў хату да Амілі), а цяпер і пагатоў. Ён з-за лесу чуў праз Амілю, што Андрэй сіберна заеўся на Вінцэнтага за ўсялякія там справы, што Вінцэнты нагаворваў супроць Андрэя людзей, што ў самога Вінцэнтага ў хаце нелады нейкія... Аміля кожны дзень пад вечар даведвалася да свайго дзіцяці, доўга не бавілася там, у Андрэя,— цяпер ужо заўсёды варочалася напач. Яна ўсё была такою ж самаю ціхаю, прывабна, па-жаноцку пакорліваю. Вечарам, прыбегшы ад брата, яна знаходзіла Бушмара ў хаце, зазірала яму ў вочы. Ён цягнуў яе да сябе.

Вясна тады ўбіралася ў сілу. На полі, на палянах і лесавых выцерабах зазяленьвала ярына.

Навокал Бушмаравай сялібы з'явілася новая агарожа. За лесам, тут жа пад бокам у Бушмара, забялелі слупы на другую іншую агарожу. Дарога з лесу, што з Бушмаравай

сялібы падалася ўбок, закруцілася пад самую рэчку — новы перароблены вясковы палетак адапхнуў яе.

Аміля з Бушмарам часамі, у нядзелю, калі быў час, выходзіла сюды за лес. Яна-то, праўда, ішла не разам з ім, а ззаду, як бы назіркам. Ён выходзіў з хаты адзін, ён нікуды не клікаў яе з сабою, калі ішоў куды так, без работы. Але яна даганяла яго, убачыўшы за брамаю. Сыходзілася з ім ужо ў лесе. Тады гаварыла:

— Можа, мы сёння ўдваіх да Андрэя пойдзем?

Ёй хацелася, каб гэта было, і баялася яна зводзіць іх.

Ён сціскаў губы, хмурыўся. Адказваў не адразу, а ўжо калі яна начакаецца гэтага адказу:

— Ты ж кожны вечар бываеш там.

Яна так ужо і ведае, што ён гэта скажа. Але яшчэ не паддаецца:

— Мала што я адна хаджу. Каб з табою калі ўдваіх пайсці, мне гэтак хочацца... Лявонка...

Яна ведае, што на гэта ён ужо нічога не скажа. Толькі як бы дзеля таго, каб разглядзець што па дарозе ці ў полі, адвернецца ён і колькі хвілін не змігне з аднаго месца. А там і Андрэеву хату відаць на ўзгорку, другая з краю. Разбіты маланкаю клён гнецца пад растрэсенаю страхою, развалены комін накрыты вялікаю бляшанаю міскаю без дна. Там Андрэй, можа, дзе ў нядзелю курыць на вуліцы на бярвеннях з мужчынамі і, можа, зноў нагаворвае людзей на Бушмара.

Ніколі Бушмар не пойдзе туды!

Амілю цягне туды хоць на момант.

— Я пайду,— гаворыць яна,— калі ты пачакаеш крыху тут, я не забаўлюся. Добра?

Яна глядзіць пакорліва ў вочы яго. Усё роўна як просіць ласкі якой. Ён жа заўсёды адзін і той жа — пануры, маўклівы. Хто яго ведае, якія думкі варушацца ў яго віхрастай галаве, пад гэтым навіслым чэрапам.

— Ідзі сабе.

Ах, каб ён не гаварыў гэтага «сабе»!

З прычыны гэтакага тону яна не ідзе. Ён сядзіць дзе-небудзь на пенчуку ці на вывернутым дрэве.

Край лесу. Перад імі поле — цяпер ужо чужое, не яго. Бярозавыя прысады туманяцца за полем, іх ледзьве відаць — з гэтага, аднаго толькі боку, поле чыстае ад лесу. Скрыўленая, адсунутая Бушмарава дарога яшчэ мала вызначылася калясьмі. Межавыя палявыя слупы залезлі аж на яе — ледзьве з драбінамі льга прасунуцца.

Аміля кладзе рукі на Бушмарава плячо:

— Чаму ты гэтакі, Лявон?

— Што? — гаворыць ён адразу.— Што ты сказала? (Часамі ён гэтак ажыўляецца без прычыны.)

— Чаго ты на мяне сярдуеш?

— Ідзі туды,— паказвае ён пальцам на вёску.— Ідзі, адно прыходзь хутка.

Цяпер яна ўжо ідзе адразу, моцна ўздыхнуўшы. Але ж і праўда, што не бавіцца там доўга.

Андрэй спатыкае яе жартлівым смехам:

— Хутарская гаспадыня ідзе. Ну, як гаспадар, не лішне эксплуатуе цябе?

Яна вымушана смяецца.

У акне з двара відаць дзеці. Ходзяць за сталом па высокай лаве, насамі ледзьве дастаюць вокны. Вочы ў абодвух чорненькія, як вугельчыкі. Аднагодкі — Амілін і Андрэеў.

— Ідзіце, сынкі, я вам тварыкі памыю,— гаворыць Аміля, калі ўвойдзе ў хату.

Бярэ іх абодвух на рукі і нясе ў мыцельнік да вядра з вадою. Хлапчукі ў захапленні пішчаць.

— Сыночак,— туліць яна да сябе свайго малога.— Можа, табе баліць што?

— Каб балела што, дык плакаў бы,— аскірзаецца пакрыўджаная Андрэіха.— Разам жа з маім і ядуць і спяць.

— От пасварыцеся нечага,— рагоча на ўсю хату Андрэй.

— Я так гавару, мала што маці скажа,— апраўдваецца Аміля.— Ці гэта што я скажу, дык...

Яна гладзіць па белай галоўцы свайго малога і спяшае назад да Бушмара. Андрэй выходзіць у сенцы. Стоячы ў дзвярах, глядзіць Амілі ўслед:

— Пабыла б калі больш... Эксплаатуе цябе твой гаспадар.

Ён раптам кідае жартаваць. Тон яго робіцца сталым:

— Табе і нядзелі няма?

Аміля ўжо выходзіць з двара.

Бушмар усё ж чакае яе. Яна як бы просіць яго:

— Я не бавілася, праўда?

Яны ідуць назад ужо разам. Калі край лесу губіцца за востраю павароткаю ляснойі сцежкі, Бушмар туліць яе да сябе. Яна, у гэты момант шчаслівая, глядзіць яму ў вочы; уся больш яшчэ прыгажэе, ружавее, жмурыцца, лашчыц-

ца да яго. Падыходзяць да дому, і яна тут зноў успамінае тое, на што ён раней не адказаў:

— Чаму ты гэтакі... Нейкі...

— Які?

— Не гаворыш ніколі са мною?

Яна не спускае з яго вачэй, і ён глядзіць доўга ў яе твар. Жанчына робіць цуд: на Бушмаравым твары з'яўляецца ласкавая мяккасць.

## VIII

Вінцэнты на погляд здаецца ціхі чалавек. Ён ходзіць павольна і стала. У нядзелю заўсёды ўсцягвае на ногі шкарпэткі — шэрыя, у чырвоную палоску ўпоперак — жончына работа — і камашы. Ногі ў яго крывыя — разагнутыя дугі, і паходка — з боку на бок. Святочная ватоўка яго з рудога, чырванаватага старасвецкага бобрыку. Ці то ўлетку горача, ці то ўвосень, ці ўвясну здорава — ён у свята заўсёды ў ёй. Колер твару яго дзіўна падобны да колеру гэтай вопраткі.

З Бушмарам ён — так сабе, ні вораг, ні прыяцель. Трохі дружыў з Лявонавым бацькам,— але як дружыў! — разам палавічных пчол разводзілі, пакуль не заеліся адзін на аднаго за мёд. А з маладым Бушмарам Вінцэнтаму пакуль што не здарылася за што пасварыцца.

І от у нядзелю, калі Бушмар рыхтаваўся снедаць, прыйшоў да яго Вінцэнты. Ён колькі часу стаяў за Бушмараваю брамаю і разглядаў Бушмараву ярыну.

— А-а-а як жа авёс пайшоў, аж сінее,— енчыў Вінцэнты з нейкай пакутнай зайздрасці.

— Шалее твой авёс, дзяньдобры, жэгнай божа,— сказаў ён, калі пралез цераз парог у хату.

Бушмар бачыў яшчэ яго праз акно за брамаю. І буркнуў быў сабе пад нос:

— Ці не сюды яго няшчасце гоніць.

— Добры дзень, проша на сняданне,— прывітаў ён госця.

Вінцэнты сядзеў на парозе, пастукваў па падлозе кійком сваім, цадзіў па слову гаворку — чакаў, калі Бушмар скончыць снедаць і калі адыдзецца ад стала Аміля.

— Я прыйшоў да цябе,— загаварыў ён пра справу, выводзячы Бушмара на двор.

Бушмар як бы пачуў што трывожнае, маўчаў і рыхтаваўся слухаць. Ён вёў Вінцэнтага па двары. Вінцэнты

раптам перайшоў на дробныя ўсмешкі і нават сказаў жарт:

— Я хачу ў падсуседзі да цябе.

Бушмар траціў цярплівасць — ён сам ніколі не жартаваў і да людскіх жартаў не прывык. Вінцэнты ж адразу пасталеў, гэтак як напусціў бы на сябе жартаўлівасць:

— Ты ж чуў пэўна?

— Што?.. Нічога я не чуў.

Бушмар як мае быць ужо ўстрывожыўся. Вінцэнты больш не мучыў яго сваімі жартамі:

— Падсуседзі — не падсуседзі, а хаўрус з табою хачу зрабіць. Уцячы ў лес да цябе хачу. Хлопцы мае самі прыслалі мяне да цябе... Дарогу тваю адапхнулі? Палетак паўз лес адрэзалі? На гэты бок лесу залазяць? Андрэй арудуе? І арудаваць будзе, бо ён на цябе вока не мае. Ён пытаў (сам я чуў) у Амілі нядаўна — ці запісана яна ў гэтым рабачкоме...

Вінцэнты раптам спыніў гаворку і палажыў рукі на полы вопраткі. Расцягнулася ніжняя губа, стала тоненькаю, і мяшкі пад вачыма пачырванелі. Ён трошкі прысеў, трошкі нагнуўся да Бушмарава вуха. Спачатку так памаўчаў, пасля захіхікаў:

— Хі-хі-хі, хі-хі-і-і...

Бушмар зусім здзівіўся. Аж злосць папаўзла па твары яго.

— Хі-хі, гэта такі недурны нехта выдумаў, імя яму даў — рабачок... падточвае гаспадароў... Ці запісалася ты, кажа, у рабачок... Хі-хі-і-і.

Зноў ён раптам зрабіўся сталым, пасля гэтай штучнай весялосці:

— Страшная штука робіцца. Усё к чортавай матары пойдзе. Гады, запанаваць хочуць... Будзе табе яшчэ не гэта. Яшчэ і хату адбяруць у цябе, і самога з торбаю па свеце пусцяць, калі самому не ратавацца.

— Што? — гукнуў з усіх жыл Бушмар.

А той як бы наўмысля прыйшоў сюды, каб памучыць:

— І ўсім нам тое самае будзе, калі, я ж кажу, не ратавацца.

Тут ён змоўк і ўздыхнуў. Бушмар, каб прымеў, дык увагнаў бы тут яго на месцы ў зямлю. Вінцэнты яшчэ трохі памучыў:

— Гэта можна было адразу бачыць, што гэта будзе...

— Што?! — нема раўнуў Бушмар.

І ўжо тут Вінцэнты як мае быць дайшоў да справы:

— Усё пойдзе нанава. Гэта, што яны там панастаўлялі тычак і слупоў, дык увосень усё параскідаюць самі ж. Гэтыя новыя межы на знос пойдуць. І гэта, што падзялілі гэтыя дзялянкі, што адхапілі ад хутароў (і тваё тут дабро запала),— усё ў адзін кацёл пойдзе. Усё як ёсць! Нават больш яшчэ ад хутароў адхопяць, нават зусім некаторых пазганяюць з месц сваіх — няма табе, кажа, ні хаткі, ні градкі. Народ, можа, паддавацца не будзе, але гэта... займі чорта ад варот, дык ён цераз плот! Ён цябе пройме навылёт, а свайго дойдзе... Згоняць усіх разам, выдзеляць табе, каб з голаду ўздоўж лавы лытак не стуліў, а рэштку спажыве той, хто будзе на чыёй шыі сядзець.

— Можа, да гэтага яшчэ не дойдзе,— разважыў сам з сябе Бушмар.

Ён аж панурасць сваю пачаў траціць.

— Ты тут сядзіш, як воўк, і нічога не ведаеш, што па людзях робіцца. Цябе да калецтва як мае быць збіраюцца давесці, а ты снедаеш сабе, як на выгодзе...

— Хто гэта хоча?

— Гады, Андрэй. Аміля нябось маўчыць табе. От папытайся ты ў яе, што Андрэй парабляе...

— Ну, дык што рабіць?

— Я табе скажу, што рабіць — яны сваё, а мы сваё. Няхай сабе іх там дзвесце сядзе каля аднаго катла, а мы тут удзесяцярох сядзем. Ты, я, хлопцы мае, можа, яшчэ хто з адзін падахвоціцца, от табе і кацёл. Без гадаў, без нікога, сам сабе. І ўсё маё будзе пры мне, і пальцам ніхто не зачэпіць. Тады мы і адсудзіць можам законам, што і ад цябе забралі. Яны няхай сабе, а мы сабе, не канешне галетніка ўспамагаць сваім уласным ды родным. Ну як? Ты сядзіш і нічога не чуеш?

Бушмар маўчаў.

— Я сам на гэты бок лесу перабяруся. Забудуем усё як мае быць. Уцячы адтуль, хай яны там хоць падушаць адзін аднаго.

— Сюды? На гэты бок? Тут жа маё!

— Усё роўна забяруць.

Бушмар памаўчаў.

— Можа, нічога яшчэ не будзе.

— Як-то не будзе. Ты сядзіш і нічога не бачыш.

— Ці ім там мала?.. І так жа паадрэзвалі ад усіх.

— Хамскага горла ніколі не ўтхланіш.

— Дык што ж рабіць?

— Я ж табе гавару што.

— Пачакаем крыху, будзе відаць. Калі што якое...

— Позна будзе чакаць. Да восені, калі пачакаем, дык там і аман будзе на ўсё.

Бушмар не ведаў, што рабіць і што думаць.

## IX

Вінцэнты прыходзіў яшчэ раз, але Бушмар упарта не хацеў яго слухаць. Вінцэнты ўгаворваў яго:

— Гэта не прыперла табе яшчэ бяда, дык ты атрэпаеш рук. А пачакай, што ўвосень будзе.

— Не ўсё роўна мне! Ці сціснуць мяне, ці з кім я за адным катлом буду ні госць, ні гаспадар. Няхай што хочуць, то і робяць, а за адзін кацёл я ні з кім не сяду.

Вінцэнты тады пакінуў хадзіць да Бушмара. Бушмар пачаў задумоўвацца.

Вясна ўжо зусім увабралася ў сілу і паддавацца пачала лету. Рыхталіся да сенажаці; буялі аўсы і ячмені, адкрасоўвала жыта.

Аміля тады стала больш сумнаю, як калі раней была. Яна ціха корпалася з цямна да цямна за сваёю работаю, сам Бушмар ніколі ў хаце не прыпыняўся,— ледзьве ўхапіў управіць адзін веснавое поле.

Адзін раз у яго сялібе была пакутная ноч.

Надвечар яшчэ ён заўважыў, што Аміля як бы рвецца штосьці сказаць яму. Яна падыходзіла да яго колькі разоў, зазірала ў вочы, а ён быў утомленым з поля, тупаў па хаце. Яны павячэралі моўчкі, толькі яна сказала разы са два штосьці нецікавае ні ёй, ні яму. Ён адказваў вяла, нехаця, як і заўсёды. Аміля ведала ўжо добра гэтую яго натуру, ніколі не зважала на гэта. Пасля ж ужо ўсёй хатняй упраўкі, калі ён раздзяваўся класціся спаць, яна падышла да яго. Паглядзела на яго з дакорам, просьбаю, замілаваннем, паслушэнствам, села каля яго і сказала тое, ад чаго ён падняў вочы, але з твару не змяніўся:

— Ад мяне?

— А ад каго ж яшчэ?

— А можа, ад каго іншага?

— Лявонка?!

Ён маўчаў. Яна падсела яшчэ бліжэй, зазірнула яму ў вочы, прыпёрлася галавою да пляча. Яна гаварыла хутка, выказвала ўсё, што сабралася за ўсю вясну, але што было дагэтуль цяжка выказаць Бушмару:

— ...Мы тады і малога майго забярэм сюды. Добра, Ля-

вонка? Ён неўзабаве падрасце, дык і помач ад яго гатовая будзе. Ты, Лявонка, запішыся са мною ці павянчайся — трэба зрабіць што-небудзь, ці скажы мне пэўнае слова, дык я тады спакойнаю буду. А не хочаш, можа, вянчацца ці запісвацца, дык я так магу быць, адно каб ты мне сказаў напэўна, што я твая жонка. Можна і так, калі хочаш, людзі цяпер усякся жывуць...

Ён устаў падкруціць у лямпе агонь. Яна чакала, сядзела ўсё. Ей здалося, што ён стаў тады такім, якім яна яго жадала сабе — ласкавым, добрым. Ён сеў поплеч з ёю і маўчаў доўга. Яна палажыла галаву яму на плячо. Тады ён адхіснуўся і не зводзіў з яе вачэй:

— А той твой хлапчук, якога трэба забраць сюды, ад каго? Можа, ад паручніка?

Яна жахнулася:

— Нашто ты пытаеш тое, што сам ведаеш?

— А ты скажы.

— Нашто ты гэта?

Ён усё глядзеў на яе.

— Ну ад нябожчыка... Памёр жа...

Яна моцна заплакала. Нагнулася і скінула шпарка рукі.

Бушмар стаяў пасярод хаты, прыжмурыўшы вочы. Ён бачыў Амілю ранейшую, калі яшчэ насіў яе на руках снежнымі палянамі з лесу. Чуў яе каля сябе там, на паваленым дрэве ў снегавыя ночы. Чуў і смех яе паручніку. Чуў яе і ў раннюю вясну, у той вечар, калі, не памятаючы нічога, хапіў за брамаю на рукі і мчаў у хату. І ўсе тыя наступныя дні і тыдні, нават, можа, месяцы... Калі ён ужо не пускаць пачаў яе да Андрэя, да гэтага ненавіднага брата яе, гэтага ворага, злыдня...

От ужо ён бачыць Андрэеў твар — гэты насмешлівы твар!

Андрэй усё зробіць, усюды дападзе. Ён і праўда, што гатоў сагнаць з месца сялібу, гэтак, як дарогу адапхнуў, як за лесам адрэзаў самую лепшую дзялянку. Усе слухаюць яго, не паможа і Вінцэнтага хітрасць. Усё будзе на восень, як казаў Вінцэнты. Андрэй арудуе, Андрэй стараецца, Андрэй — Амілін брат.

— А калі багацце я сваё страчу?! — смальнуў Бушмар.— Дык як тагды будзе з жонкаю, з дзецьмі і з сваімі, і з паручнікавымі...

Ён паварушыў барадою.

— Не паручнікаў! — крыкнула яна.

— Не, не, гэта я так сабе! — падступіў ён да яе на крок, збянтэжыўшыся ад яе крыку.

— Дык чаго ж ты.

Яна заплакала мацней, плечы яе затрасліся, галава звесілася на рукі. Скрозь пальцы капалі слёзы.

Бушмар прыгледзеўся. Ён як бы ніколі не бачыў чалавечых слёз, гэтакіх горных. Цераз твар яго прабегла дзіўная рыса.— Дзіва? Нецярплівасць? Новае разуменне рэчаў?

— Сціхні,— сказаў ён ласкавей.

— Лявонка, што мне рабіць? — ледзьве выгаварыла яна за слязьмі.

Аміля сілком пасадзіла яго каля сябе. Выплаквала свае слёзы доўга на плячы яго. І гэта зрабіла з Бушмарам цуд. Ён пачаў сцішаць яе, заспакойваць. Прытульваў да сябе яе твар. І ўсё стараўся скрывіць губы ў ціхую ўсмешку.

Пад поўнач яна старалася забыцца на тое, што было вечарам, і ўсё не магла. Яна была адна ўжо ў хаце. Бушмар быў сказаў:

— Мне галава баліць вельмі, пайду лягу на салому ў пуню, там вальней.

— Ідзі,— абняла яна яго.

Забыла патушыць лямпу і лягла. Заснуць не магла. Успомніла вячэрнюю гаворку з Бушмарам і зноў затраслася ад слёз.

## X

Бушмар паволі спусціўся з ганка ў чорную ноч. Чула драмала зямля, вялікая цішыня вартавала Бушмараву сялібу. У маўчанні начаваў лес, маўчалі ж пад туманамі і паплавы.

Бушмар паваловся аж да брамы, дзе мацней пахла на загоне канюшына, дзе лясная вільгаць чулася мацней. Бушмар там не стаяў доўга. Ён як бы шукаў чаго — з непакоем нейкім пайшоў назад і зноў вярнуўся. Пасля падаўся да старой пуні, пралез у прычыненыя дзверы, лёг на салому. Так ён ляжаў доўга, шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў у цемень. Штосьці тупа ныла пад сэрцам. Было гэта новым. Толькі засмактала было гэтак калісьці ў грудзях, як выбраўся быў у салдаты і пакінуў за сабою сялібны лес. Ён паспрабаваў самохаць капляць, заплюшчваць вочы... Нарэшце ні то дрымота, ні то тупое бяздум'е апанавалі ім.

Бушмар уздрыгануўся і прысеў. Цяпер збіраў думкі свае, пачынаў думаць. Далёка было тут да разважлівасці, але думкі хутка прагналі жах нядаўняй дрымоты.

Нізка навісла цемень, здаецца, ён бачыў над сабою яе — цвёрдую, моцную, неперawardможную. У ёй жыў увесь свет, усё там дзейнічала і душыла яго. Ён устаў на ногі. У думках з'явіўся Вінцэнты з сваімі прароцтвамі. Цяпер ужо трывога і крыўда адганялі ад чалавека ўсё іншае. Праходзіў жах, трывога ўсё павялічвалася. Ён зноў лёг, штучна пакашляў і моцна ўголас уздыхнуў.

— Лявон,— пачуў ён голас з двара.

І магло б стаць яму самому дзіўна, каб адно ён мог раздумаць пра гэта: ён самымі пачаткамі адчуванняў сваіх узрадаваўся гэтаму голасу. У той жа момант, як у гарачыню піць, прагнуць ён стаў гэтага слова, каб хоць раз яшчэ яна гэтак сказала.

— Ты на двары? — абазваўся ён.

Аміля прыйшла на яго голас.

— Мне страшна адной... Ты мяне пакінуў там адну... Ты мяне знявідзеў, я табе непатрэбна больш, я ведаю, я ведаю... Праўда, Лявон? Скажы, ці праўда? скажы...

— Хадзі сюды,— падаў ён голас.

— Скажы, якая я для цябе?

— Сядзь.

Ён пачуў, што яна плача, што яна не асмельваецца ўжо сесці блізка да яго. Ён прагнуў яе ранейшага, нядаўняга слова, дзе не было ні папроку, ні слёз, а толькі пакорлівасць — гатовай да ўсяго дзеля яго жанчыны. Абое маўчалі доўга.

— Лявон...

Цяпер ён працягнуў руку, падцягнуў яе да сябе.

— Скажы.

Як у бяспамяцтве, ён прыціснуў да сябе яе галаву. Яна плакала ўжо ціхімі, бяздумнымі слязьмі, выпрошвала ў яго слова:

— Скажы, ну скажы, Лявонка, якая я табе?.. Ты мяне знявідзеў... Завошта. Чаму ты?..

— Маўчы,— зашаптаў ён,— ты маўчы.

— Чаму ты сказаць не хочаш?.. Ты мяне гэтак укалоў, гэтак скрыўдзіў... Нашто ты мяне гэтак?..

— Маўчы,— папрасіў ужо ён.

Яна больш не гаварыла, маўчаў і ён. Цяпер пасадзіў сабе на калені і прытуліў яе твар да свайго. Яна пакінула

плакаць, ціснулася да яго, вісла рукамі на яго шыі. Так доўга цягнулася маладое шаленства, радаснае і пакутнае.

Ужо забялела над лесам, ужо нават і ружавець пачало, а ніхто не хадзіў па Бушмаравым двары. І от нарэшце з цёмнай пары выйшла Аміля. Яна была новая нейкая, не падобная на сябе ранейшую. Штосьці было ў вачах закончанае, зусім сфармаванае. Можа, гэта цвёрдае ўяўленне назаўсёды было, што такое яна і што такое Бушмар і што яны адзін для другога.

Яна доўга сядзела на ганку, гледзячы перад сабою ў зямлю. Гэтая ноч змучыла яе. Яна ўсё глядзела на свой росны след на траве.

Бушмар выйшаў неўзабаве. Ён пайшоў проста да студні. Выцягнуў вядро вады, нагнуўся і стаў ліць празрысты холад сабе на галаву.

## XI

Ужо зблекла ружовасць на ўсходзе. Вяршаліны лесу гарэлі сонечнымі агнямі, і лес слухаў безутрапёную музыку чулай раніцы. Сонца было за ўзгоркам, але далёка яшчэ, пакуль знікне раса. Росны след скрозь клаўся з-пад Амілiных ног, да лесу, а ў лесе сцежка з леташніх хвойных іголак маўчала пад нагамі. Тут было ціха і прытульна. З-пад дрэў цёк водыр вечна маладога ядлоўцу, пахла хвоя і лясная зямля. Вечнасцю дыхала ўсё. Нават чулыя гукі былі як цішыня.

Аміля выйшла за лес. Сонечнае поле жыло клапатлівым веснавым днём. Яно гучэла птушынымі галасамі, зелянілася ячменямі і аўсамі. У бок ад узгорка туліліся да яго знаёмыя стрэхі.

Як бы шукаючы чаго, Аміля палажыла да лба над вачыма руку і ўгледзелася ў поле. Вецер абвеяў ёй твар. Не думаючы, яна пайшла пaціху цераз поле. Перад ёю, наводдалек, бегла хвалямі жыта.

Андрэева хата ветліва глянула на яе спарахнеласцю сваіх сцен. На прызбе, на ўмятай кастрыцы, драмаў узлахмачаны сабака. Ён толькі гультайскім зіркам правёў яе ў двор. Там яна ўбачыла свайго малога. Ён адразу пабег да яе:

— Мама!

Яна панесла яго ў хату. Там быў ранішні рэзрух. Ляжалі непрыбраныя, расцягненыя пасцелі; самому ад сябе цесна здавалася. Усё было гэтакім знаёмым — усё, як і

заўсёды,— на тым самым месцы, як і шмат год да гэтай хвіліны. Усё тут цякло паволі, з вонкавым спакоем... Нават нейкае зелле, якое яна сама, гадоў, можа, тры таму, заткнула за трам — яшчэ і цяпер тырчыць адтуль.

Аміля выцягнула гэтае зелле і кінула ў сенцы. На палку каля печы панакіданы знаёмыя лахманы...

Думкі пачалі бегчы шпарчэй, вырывалі абрыўкі мінулага, забытага, што здавалася пахаваным назаўсёды. Можа, ёй было гадоў шэсць ці сем, як (гэта страшна цяпер укалола яе) сварыліся ў хаце за старую вопратку, што засталася пасля нябожчыка, бацькавага бацькі. Прыходзіла па вопратку бацькава сястра, бацька ж ірваўся ўсё прагнаць яе з хаты. Тая вопратка, можа, і каштавала ўсяго якую двазлотку, а колькі было сказана з-за яе усялякіх крыўдных слоў. І праз яе, праз Амілю. Ёй не было ў што апрануцца, гнаць у поле быдла і гэтаксама стрыечнаму брату, малому; сыну гэтай самай цёткі. Чаму, як якія дзікуны, забыўшыся на блізкае сваяўство, крыўдзяць адно аднаго з-за гэтакай дробязі нядобрымі словамі? Гэтак жылі, што і старыя лахманы для іх не заўсёды драбяза. А яшчэ — калі чалавек кожны дзень у голадзе і холадзе, дык тут ужо ўсякія межы і ўстанаўленні руйнуюцца.

Беглі ў яе думкі няроўна, утрапёна.

То выхапяць яны з чалавечай таямніцы што-небудзь з таго, што калісьці было пражыта, ранейшае бацькава парабкоўства ў двары, бадзянне па месцах, то засцелюць усё перад чалавекам у ясныя колеры чагосьці невядомага, што вельмі падобна пад маўклівую шырыню зямлі ў гарачы поўдзень, калі ў чалавека такое ўтрапенне, а навокал усё само ў сабе і ў сваім спакоі.

З усіх гэтых думак і ўяўленняў паўстала спёка на пыльнай дарозе і аж чырвоны бляск сонца на ёй. Яна, гэтая дарога, была пустая, і пыл на ёй, што ўзнімаўся з-пад калёс, не ападаў, а стаяў невысока над зямлёю. На драбінах поплеч з Аміляю сядзеў Андрэй, якога яна везла ў горад да доктара.

Ён не спадзяваўся выжыць, і на захадзе сонца сумна яна развіталася з ім каля глухога будынка гарадской бальніцы. І ўсю ноч ехала адна дадому.

Хлопчык усё стаяў каля яе на зямлі, трымаўся за яе ногі, а яна глядзела кудысьці за вокны ў гарачае неба.

У гэтай хатняй сумятні, у цясноце пачула яна яшчэ тое, што часцей за ўсё чула ў несвядомых успамінах сваіх. Чула ў самыя вострыя моманты. Гэта брала пад сваю ўла-

ду думкі і волю, каб — або зрабіць чалавека вельмі моцным і рашучым, або зусім нямоцным, слабым. Усё тады робіцца малым і нязначным перад адным, што займае ў тыя хвіліны чалавека.

Калі яшчэ была дзіцём Аміля, дык з таго часу памятае яна адзін гэтакі момант. Ён навек застаўся ў памяці, і цяпер заўсёды паўстае ва ўяўленнях гарачы сонечны адвячорак, калі было гэта. Яна малая не магла ўседзець дома ўвесь той дзень і назаўтра, пакуль не сплыла патроху горкасць з душы.

— Занясі, дачушка, тату хлеба, бо ён не еў з самага ранку,— сказала была тады маці.

І яна панесла той нішчымны хлеб, сухі, вымучаны з апошняй мукі. А бацька з поўдня ўжо нешта стаяў без шапкі перад ганкам аканома ў двары, выпрошваючы нейкай палёгкі за нейкія даўгі.

— Табе колькі разоў казалі — не таўчыся тут перад вокнамі дарэмна,— сказала пакаёўка, выходзячы на ганак.

Тады бацька заенчыў:

— Унь мне дзіця апошні кусок хлеба з стала прынясло. Няўжо я з раскошы прашу? Няўжо я...

І вось тады адбылося тое самае важнае. Сам аканом, высокі і моцны, выскачыў на ганак і схапіў бацьку за шыю, пхаў яго гэтак перад сабою цераз увесь дзядзінец, да самай дарогі, дзе стаялі дваровыя людзі, і некаторыя спачувалі, некаторыя смяяліся. Бацька пайшоў, а яна, малая, бегла за ім, і страшны малюнак бацькавай прыніжанасці не даваў ёй спакою.

— Заўтра пайду папрашу аканоміху,— сказаў спакойна бацька, калі адышліся яны трохі ад двара.

— Не ідзі!

Яна закрычала немым голасам. Не магла больш выгаварыць ніводнага слова ад слёз і вялікай цяжкасці.

— Чаму? — сказаў бацька.— Можа, не ўпрашу, дык як-небудзь і абыдзецца добра.

І, памаўчаўшы, яшчэ сказаў сам сабе:

— Яна, кажуць, ніштаватая кабета, ласкавейшая за яго.

І яшчэ большая крыўда за гэты бацькаў спакой і халодную нявольніцкую разважлівасць пеканула яе ў сэрца. Бацька ж гаварыў:

— Давай хлеб, падсілкавацца трохі.

Яны селі на дарозе, і Аміля магла толькі сказаць:

— Як ён цябе пхаў цераз увесь двор.

— Што ж ты зробіш,— адказаў бацька.— Будзе горшая бяда, калі прыйдуць ды апошняе забяруць.

І маўчаў. Можа, буры кіпелі ў ім на дне душы, але твар яго, грубы, абветраны, быў халодны. І от з таго доўга насіла яна ў сабе страшны роспач: «Можа, яму не зусім моцна балела, як яго ціснулі за шыю, але як гэта ён яго гнуў уніз, пхаў!»

Бацька ішоў гэтак у чужых руках праз увесь дзядзінец, той самы бацька, які заўсёды галодны і спрацованы. Ён пойдзе да аканоміхі, хоць тут зусім не можна ісці прасіць — нейкая сіла не дазваляе ісці зноў прасіць, а загадвае штосьці іншае: пайсці і ўзяць таго, хто пхаў бацьку, і забіць яго, але не адразу, а каб ён мучыўся перад смерцю і каб слухаў, як яму будзе яна за скрыўджанага бацьку выгаворваць усю крыўду. Толькі гэта трэба зрабіць, больш нічога не можна рабіць.

Але нічога не магла яна, тады малая, выказаць. Толькі праз колькі ўжо дзён сказала бацьку:

— Тата, набі яго.

Ён здзівіўся:

— Каго?

— Аканома.

— Што ты выдумляеш?

І ўсё гэта засталося навек.

Аміля стаяла ўсё ў хаце, ні з кім не гаворачы.

— Як ты прыйшла ад работы? — запытала Андрэіха.— Хіба Бушмара дома няма?

Аміля ўздрыганулася ад чалавечага слова. Яна ўзяла на рукі дзіця і вынесла на двор.

— Гуляй, сынок, гуляй сабе.

— Ты пойдзеш? — запытала дзіця.

— Пайду, сынок.

— Чаму ты пойдзеш?

Яна панесла яго да варот і там паставіла на зямлю.

— Не ідзі, мама.

— Я прыйду... Бяжы ў хату, сынок.

У полі вецер плыў па засевах, жыта шаптала.

Праз узгорак Аміля выйшла да лесу. На самым узгорку пад ветрам прыпынілася азірнуцца. Высыхала пад нагамі раса. Вецер мяў і трапаў адзежу.

Яна ўзняла галаву. Штосьці незнаёмае дагэтуль нараджалася з думак пра Бушмара. І як хмары перад навальніцай збіралася ўсё больш і запаноўвала ў чалавеку.

Бушмар стаяў як жывы ў яе вачах з ссунутымі брывамі, нездаволены, упарты...

Першы раз у жыцці ў яе сціснуліся губы. Гэта было толькі лёгкае дрыжанне іх.

Яна адна была на ўзгорку, перад сцяною лесу. Постаць яе ўзвышалася над аўсамі і жытам. Вецер абвяваў яе, і галава яе была ўзнята.

Шпаркаю звычайнаю сваёю хадою яна ўвайшла ў лес.

## XII

Чалавеку цяжка перарабіцца адразу. Можна думаць і гаварыць іначай, а сам чалавек доўга будзе ранейшым. Так, як ляцяць кожны год, абы толькі замакрэе веснавы снег, гусі над Бушмаравай сялібай, так, як адлятаюць яны над гэтымі ж лясамі назад, абы толькі пацямнее ад старасці на ржышчы белае павуцінне,— гэтак сваімі дарогамі будзе хадзіць чалавек, пакуль увесь узыдзе на дарогі іншыя.

У той дзень, калі вярнулася Аміля пасля ўтрапення свайго ў Бушмараў дом, яна ажыла была дзеля іншай сваёй дзейнасці, жывучы на свеце. Яна, як Бушмар прыйшоў толькі ў хату, пад поўдзень пачала выгаворваць яму ўсё, што сабралася ў яе; гаварыла яму і пра сябе і пра яго.

— ...Ты пануры, ты цяжкі, і з табою цяжка. Але ты можаш з'інача̀цца. Толькі скажы мне раз назаўсёды, што я для цябе і ці патрэбна я табе. Калі ты знявідзеў мяне, дык годзе папрокамі ўсякімі мучыць мяне, а выгані мяне з хаты. Тады я ведаць буду! Калі ж ты сам не ведаеш, што я для цябе, дык слухай — я застануся з табою... Нам не кепска будзе жыць... У нас будзе дзіцё, тваё дзіцё... А маё дзіцё цяжкім для цябе не будзе. Я зраблю тут усё ў нашым доме так, што нічога лішняга і непатрэбнага для нас не будзе, усё будзе добра і табе і мне. Толькі не будзь воўкам для мяне. А калі інакшым быць не можаш, дык — скажы мне, не маўчы — нашто я табе? Ты скажы... Ты не маўчы больш, але скажы тое, што трэба. Без папрокаў скажы... Тады лепш будзе ўсё...

Яна гаварыла доўга. Ён спачатку маўчаў з новым прасветленым пейкім тварам, як ад якой трывожнай і важнай навіны, пасля якой прыкра яму стала. Але ж ён даслухаць хацеў да канца. Усё маўчаў, ніводнага разу не глянуў на яе.

— Чаго ты? — сказаў ён раптам.

— Што?
— Што з табою зрабілася? Дзе ты была?
Яна глядзела на яго.
— Дзе ты была? Чаму ты гэтакая?
— Дома была.
— Дзе дома?
— У Андрэя была. Сына свайго глядзець хадзіла. Сын у мяне ёсць, ведаеш?.. Той самы, пра якога ты ўчора дапытваўся, ад каго ён. Той самы, мой сын. Ты чуеш пра майго сына?
Ён сціснуў зубы, але на гэта змоўчаў. Толькі глянуў на яе. І раптам здзіўленне нейкае засвяцілася ў яго вачах.
— Дык от я цябе пытаю, ты павінен сказаць мне.
— Я не ведаю, што ты хочаш, каб я табе сказаў.
— Я кагадзе гаварыла табе што.
— Я табе нічога не рабіў кепскага.
— А вечарам учора, ты забыўся?
— Я цябе не біў.
— Канешне біць?! — А што ты гаварыў мне! Ты памятаеш, што ты гаварыў мне?
— Я табе гаварыў праўду.
— Праўду? Гэта твая праўда?
Ён зноў узняў на яе вочы. Ён ніколі не бачыў яшчэ яе гэтакаю. Ні адна жанчына ніколі не гаварыла яшчэ з ім гэтак. Ён маўчаў, здзіўлены.
— Што ж ты маўчыш?
— Што табе гаварыць?
— Ты лепей сам ведаеш.
Пасля доўгай маўчанкі свае яна пачула ягоануры голас:
— Тое прайшло.
Ён пачаў заікацца.
— Што прайшло?
— Што было ўчора вечарам.
Больш ён маўчаў. Яна адышлася ў чыстую хату, старалася разагнаць сваю ўзбуджанасць, сваё ўтрапенне. Ён доўга сядзеў, успёршыся локцямі на стол, пакуль яна не ўвайшла. Цяпер спакайнейшаю здавалася, штучна нават усміхнулася, калі падышла да стала:
— Усё прайшло, што было?
І памаўчаўшы:
— Ты праўду кажаш мне?
Села з ім поплеч. Зноў штучна — не было яшчэ прычыны для шчырасці — хмурна ўсміхнулася і сама ж адра-

зу прагнала з твару гэтую непатрэбную ўсмешку. Так сядзелі яны, і яна каля яго рабілася ўжо той самай ранейшай Аміляй.

## XIII

Людзі жылі тут павольным жыццём, спрадвечным, ціхім... Людское жыццё было, як жыццё гэтага поля навокал і гэтых лясоў. Кожны год зямля мяняла ўсё твар свой. Але праз год яна была той жа самай. І гэта трымала людзей пад нейкаю ўладаю.

Кожную восень над гэтым полем і лясамі адлятаці жоравы і гусі. Тады людзі глядзелі на гэты свой радасны сум, думалі свае няхітрыя рэчы. Падоўгу стаялі і ўглядаліся ў гэтых адвечных падарожнікаў, якія ведаюць толькі сваю, гэтую адвечную дарогу. Але дарога гэтая здавалася людзям незвычайнаю і вольнаю. Можа, людзі зайздросцілі гэтай птушынай волі, можа, яны чулі ў гэты час тое сваё адвечнае імкненне, што жыве ў іх, у глыбіні пад няволькіцкімі путамі гаспадарскай клапатлівасці.

Так ішло тут жыццё зямлі і людзей на ёй.

Калі Бушмар служыў яшчэ ў войску, ён нудзеў па гэтым жыцці. Тут быў для яго цэнтр свету. Гэта ён тады чуў больш, як цяпер. Цяпер толькі жыў, больш, можа, як хто тут заклапочаны ўпартым сваім змаганнем з зямлёй. Ён папрабаваў быў выкарчоўваць падлесную неўрадлівую дагэтуль граду. Але не даў рады. Так у яго гэта засталося толькі ў думках — от нешта такое прыйдзе, пара гэтакая, калі неяк гэта ў яго зробіцца, ён сам пра гэта пастараецца, тады будзе нешта іншае... Такое чаканне ўсё было ў чалавека, пакуль ён ладзіў і ладзіў удала, што пакінуў яму бацька.

Гэтакае ж чаканне было і ва ўсіх. Бушмаравы вясковыя суседзі спрадвеку мучыліся на сваёй зямлі, яна была цяжкаю, але яе было мала. Людзі думалі — каб яе было больш, яна была б лягчэйшай.

З вялікаю радасцю людзі пачалі рэзаць яе, адрэзваць сабе, дзе толькі льга было. Суседнія ад вёскі хутары адразу паменшыліся. Вяскоўцы ўрэзалі сабе зямлі і з княжацкага маёнтка. Зямлі хапіла, яе стала даволі, але яна стала яшчэ цяжэйшаю. Таму яе яшчэ ўсё было мала.

Трэба было рабіць з зямлёю штосьці зусім іншае.

У гэты ж час Бушмар узнявідзеў Андрэя. Андрэй тады пачаў арудаваць над зямлёю. Тады, калі Бушмар быў

яшчэ ў войску, Андрэй першы падаў быў думку пра тое, за што стары Вінцэнты назваў быў яго ў Бушмара гадам.

Людзі не любілі Бушмара, і ён не любіў людзей. Ён быў звераваты з натуры сваёй і, яшчэ з бацькам жывучы, прывык адмяжоўвацца заўсёды ад усіх.

Ужо ў тую ноч, калі варочаўся Бушмар дадому з войска, ён, ступіўшы на сваю зямлю, адчуў быў сумную трывогу. Але пасля гэта прайшло, ён як бы не заўважаў ці стараўся не заўважаць таго, што навокал яго рабілася.

Але ў глыбіні яго душы з гэтага расло страшнае пачуццё. Можа, яно павялічвалася з таго, што гэтак неспадзявана і гэтакаю блізкаю стала да яго Андрэева сястра. Аміля сама заўважала гэта, і гэта яе мучыла. Яна не магла дзеля Бушмара сцурацца брата,— там было ўсё роднае, з малых дзён блізкае і знаёмае. Там было і праходзіла ўсё, чым поўнілася аж дагэтуль жыццё. Там былі і радасці і гора. Таму ва ўсе цяперашнія горкія хвіліны свае яна заўсёды была там. І да Бушмара ж яна была прывязана вялікаю і страшнаю цяпер для яе прычынаю. Яна цяпер пакутавала страшна. Ёй хацелася расказаць каму пра гэта. Але каму? А Бушмар? У наступныя ж дні пасля той шалёнай ночы Аміля зноў стала ад яго плакаць. Ён рабіўся больш усё жорсткім, хоць часамі находзіла на яго нейкае прасвятленне. Аднак жа гэта была толькі слабая праява чалавечага пачуцця, якое і ў яго недзе драмала. Аміля бачыла — гэта не ёсць блізкасць яго да яе, блізкасць таго Лявона, які ў першыя дні быў для яе ўсім.

Тая навала, якую прарочыў Вінцэнты, упарта насядала на Бушмара. Чым больш набліжалася восень, тым шырэй ішлі гаворкі пра гэта і ўсё больш адбіралі ў Бушмара гаспадарскі спакой.

Лета тады было гарачае, сухое. Гэтакага лета ніколі не ведала Аміля. Штосьці чорнае, страшнае стаяла перад ёю. Гэта было няведанне страшнага далейшага, роспач, які к канцу лета стаў з'яўляцца кожны дзень на доўгія хвіліны разам з пакутнымі думкамі. Бушмар быў бязлітасным. Яна ўжо не пытала больш, завошта ён зняважыў яе. Гэтага не трэба было пытаць. На гэта ён не сказаў бы нічога. Ён сам, можа, жахнуўся б, каб мог уразумець, што гэта ж ён сапраўды страшна зняважыў яе. Непатрэбнасць тут Амілі панавала ў яго над усім. Яна была звязана праз Андрэя з той навалаю, што ішла разам з восенню.

За лета Аміля напакутавалася ў полі. Бушмар прынаймаў на поле людзей; яму было ўжо страшна, што Амі-

ля тут сярод іх за гаспадыню. Людзі не ведалі гэтага, ніхто ні пра што не думаў. Але Бушмару здавалася ўсё пра людскія думкі. Ён стаў ужо думаць пра свае справы. Раней думак было ў яго мала, думаць ён не прывык.

Лета канчалася сухімі днямі. Аміля не прыкмячала больш росных раніц, ціхіх адвячоркаў. Усё стала няважным, другарадным. Цяпер сапраўды яна ўсё больш рабілася ў Бушмаравай хаце наймічкай.

Гаварыць з Бушмарам яна пакідала, а Бушмар і пагатоў маўчаў.

## XIV

Бушмар бачыў, як Аміля далей усё адыходзіла ад яго. Нейк гэта раптам заўважыў ён, у адзін сонечны дзень. Усё нагадвала тады блізкую восень. Сям-там жаўцеў лісток на дрэве, вялікая была ўжо атава на паплавах. Ён не здагадваўся, не чуў, што Амілі цяжка з ім. Ён не мог гэтага ведаць з самой натуры сваёй. Сам жа ён несвядома адчуў дзікую радасць з усяго гэтага. Можа, і яшчэ ён калі будзе блізкі да яе, але ўжо быў тут канец. Ён штосьці мармытнуў раз быў ёй, але яна не адказала наўмысля ці не заўважыла. І гэта аж страсянула яго. Ён выйшаў на двор і агледзеў шпаркім зіркам навокал усё — зялёную рунь зямлі, лес, неба... і пайшоў так, як ёсць, без вопраткі, без шапкі за браму. Ён сеў на каня, каб завесці яго на атаву, а выехаў за лес і прыпыніўся там. Ён доўга сядзеў так на сваім хутарскім дэрашу, трапаў яму грыву і стаў, як дзіцё,— радасны, без думак аб прычынах. Ён чуў, як вецер ідзе над лесам, трашчыць і гудзе ў верхавінах спрадвечных дрэў, падае на зямлю і вялікаю свежасцю абдымае ўсё. Ён убачыў над лесам буйнага коршака і не зводзіў з яго вачэй. Ён, здавалася яму самому, чуў нават пах пер'я гэтай птушкі, і от ужо — раздзьмуліся яго ноздры, вочы сталі шпаркімі іскрамі. Ён пусціў каня і сеў на зямлю. На траве, на хвойных шыпулях сядзеў ён доўга, так як бы тут было яго ўсё.

Перад гэтым жа, у той самы дзень Аміля пражыла пакутную гаворку з братам. Ён ужо сам збіраўся ісці да яе, бо сам ужо ведаў.

— Я за ім замужам.

Гэта яна адказала брату.

— А як, зусім ці так сабе?

Ён гэта сказаў, бо бачыў, што яна сама зараз пра гэта

будзе гаварыць. І ён пастараўся памагчы ёй лягчэй пачаць гэтую гаворку. Адказ яе быў гэтакі: яна страсянулася ўся, і скрозь штучную цвёрдасць прарваўся плач.

— М-гу.

Ён толькі і выказаў гэта.

Пасля яшчэ:

— Гэта я сам вінават, што пусціў цябе. Трэба было тады мне сілком цябе не пусціць служыць...

— Сама я...

— Трэба рабіць зараз жа канец усяму.

— Чаму канец?

— Уцякай адтуль і падавай у суд.

— Ён мяне адтуль не гоніць.

Тады брат аж зазлаваў, доўга хваляваўся і гаварыў.

Так прайшоў той дзень. Яна пад вечар адна была дома, а Бушмара ўсё не было. Ён не прыходзіў доўга, ён сядзеў там усё, каля свайго каня. Вечар пачаў агортваць яго, а ён як бы і не думаў рушыць адсюль. Ён як бы першы раз цяпер на жыцці сваім адчуў моц водыру лясной зямлі, вялікую цішыню гэтай адзіноты тут, гарачую імклівасць конскіх вачэй каля яго, пераможныя гукі вялікай птушкі над лесам.

Аміля ні за што не бралася дома. Адвячорак спаткаў яе ў полі, з другога боку ад сялібнай брамы, там, дзе за агарожаю пачыналася ржышча на лясным выцерабе. «Ці не паручнікаў гэта?» — тачыла яе сэрца крыўднае Бушмарава слова, якое яна чула ад яго нават гэтымі днямі, калі прынесла была сюды на кароткі час свайго малога.

Ля ног яе ляжала пустое ржышча. Над полем, над ёю, над усім вакольным — чула яна — гуў лес. Яна сядзела на зямлі, маленькая, змучаная, без ранейшых жывых колераў уваччу.

Быў вецер, было чыстае неба і адзіноцтва. Шумеў лес, і маўчала поле.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

Вінцэнты ніколі не ўспамінаў ужо сваіх дзяцей ад першай жонкі — яны даўно рассыпаліся па свеце. Ад другой жонкі былі два сыны. Праз колькі ўжо год яны сварыліся — ніяк не маглі выжыць разам, але гаспадарка была

гэтакая, што дзяліцца было нельга. Жывучы пры іх, Вінцэнты трымаў руку то аднаго, то другога, як калі. А ўсім гаварыў, што ўмешвацца яму ў спрэчку дзяцей няма ўжо лішне чаго — ён іх пагадаваў, а цяпер яны павінны яго дагледзець, і больш ён нічога да іх не мае.

Багатым лішне Вінцэнты ніколі не быў, але ганарыстым быў заўсёды. З Бушмаравага бацькі смяяўся, бывала, што той хоць і заможны, але страціў з выгляду ўсю сваю шляхетнасць, забыўся, мусіць, на сваю радавітасць і не знаўся з выдатнымі арандатарамі і панамі. Сам жа Вінцэнты з панамі знаўся гэтак: чакаў, бывала, у нядзелю ля касцёла пры панскіх фаэтонах, пакуль не выйдзе з касцёла знаёмы пан. Панскія фурманы пакепліналі з яго, а ён зняважліва, моўчкі адно паглядаў на іх з вышыні свайго шляхетнага гонару. Як выходзіў да фаэтона знаёмы пан, Вінцэнты далікатна вітаўся. Пакуль лёкай зашпільваў на пану дарожны пыльнік, Вінцэнты падтрымліваў панаў локаць і пасля падсаджваў пана ў фаэтон. За гэта пан пры спатканні ніколі не адмаўляўся адказаць на прывітанне Вінцэнтага. А калі Вінцэнты раз у год з'яўляўся ў маёнтак да панскіх пакояў, пакаёўка выносіла яму што-небудзь з старых панскіх убораў — нагавіцы, сурдут або камізэльку. Гэтакія дачыненні былі ў яго, можна сказаць, з усімі вакольнымі панамі і нават некаторымі падпанкамі. З гэтай прычыны іншы пан ля касцёла яшчэ здалёк пазнаваў яго па сваіх, напрыклад, нагавіцах, другі па сурдуце, а па камізэльцы — які-небудзь маянтковы радзівілаўскі фундатар. Як на паноў прыйшоў звод, Вінцэнты пачаў прарокаваць, што «гэта так не будзе хамам даравана». Але пасля, як сыны яго панацягвалі з панскага лесу дрэва, ён стаў цішэйшым. Моўчкі ўжо ўбіраўся святочнымі днямі ў панскія неданоскі.

З суседзьмі ён ладзіў, але дружбы ні з кім не меў. Каго і ненавідзеў, дык і з тым гаварыў заўсёды лагодна. Так ён гаварыў і з Аміліным братам Андрэем. Андрэя называў ён гадам. Шмат было прычын дзеля таго, каб быць яму «гадам». Зусім спураўся ён усялякай веры ў бога. Ён першы павёў вёску на панскую зямлю і шляхечыя хутары, тлумачачы ўсім, што савецкая ўлада ніколі не лопне. І хоць сыны Вінцэнтага таксама раскашней атайбаваліся на зямлі цяпер, але Вінцэнты ведае, што «не аб адным толькі хлебе жыў будзе чалавек».

Быў час, калі Вінцэнты гатоў быў з кожным Андрэевым словам згаджацца. Гэта ў той год, калі сыны яго пана-

біралі зямлі і лесу. Андрэй рабіў «выгадную справу», і каб на гэтым справа гэтая спынілася, лепшага нічога і не трэба было б. Цяпер паны ўжо могуць і не варочацца, можна, калі на тое пайшлося, і без іх пражываць на свеце, абы толькі ўсё як мае быць усталявалася; абы паўрасталі як мае быць новыя межы. Вінцэнтаму вялікай работы не было, дык ён так у сваю ахвоту папрацаваў тут, паглядзеў — мяжу хлопцы зрабілі шырокую, нават яна ўжо дзірваном пачала ўрастаць. І Вінцэнты панасаджваў скрозь на ёй грушак-дзічак: «Няхай урастаюць — і мяжа будзе вечна трымацца аднаго месца, і ў спёку адпачыць добра на сваім полі, пад сваёю дзічкаю». А пасля і над дзічкамі гэтымі і над мяжою пачала навісаць хмара. Тады Вінцэнты лішні раз упэўніўся, што гады гадамі застануцца вечна і з імі таму, хто не гад, не выжыць разам.

З таго часу, як Вінцэнты прыходзіў да Лявона Бушмара пагаварыць аб ратунку, ужо два ці тры разы прыходзіла і праходзіла восень. І як снег закідаў зямлю, сціхалі і ўсялякія трывожныя гаворкі, і ўсё зімавала спакойна. Дзічкі на мяжы пачалі ўжо як мае быць убірацца ў сілу. Але гэтая восень была самаю трывожнаю, і гаворкі былі самымі пэўнымі.

Восень даўно запанавала ў полі. Лес загуў мацней і трывожней, дарога паўз яго не хацела высыхаць. Мокрымі прасторамі тхнула з лесу. Поле сінела пад рухавым ветраным небам.

Вецер імчаўся полем.

З узгорка павольна спускаўся чалавек. Ён лёгка апіраўся на сукаваты старасвецкі кій, ішоў як бы спацырам, нават штосьці мармытаў сабе пад нос, нейкую песню, без слоў і мелодыі. Ён перакідаўся з нагі на нагу і ішоў да лесу. За плячыма яго танула ў імгле вёска.

У лесе, на прыдарожных выцерабах, вецер шастаў непрыбраным галлём і шыпулямі, ганяў кусты і весяліўся. Чалавек спыняўся, слухаў, але твар яго заставаўся халодным, як у таго, хто ўсё гэта спрадвеку ведае, уведаў стала і назаўсёды.

Імглісты дзень. Мокры скавыш. Яна патрэбна тут, павольная постаць гэтага чалавека.

Так чалавек выйшаў за лес.

Сабака вартуе хутарскую адзіноту. Яго брэх доўга, аж пакуль чалавек не падышоў да ганка, ваюе з ветрам. Чалавеку непрыемны сабачы брэх.

— Галас, Галас, сціхні...

І, нарэшце, з раптоўнаю злосцю:
— Сціхні, каб ты апруцянеў, каб ты!
Тады адчыняе сенечныя дзверы жанчына ці дзяўчына — гэтакая яна свежая, ружовая. Вочы чорныя і вялікія. Нездаваленне і разам з тым жартлівая хітрасць у яе ўсмешцы:
— Як гэта ён не парваў вас?
— Дзяньдобры, пані Галена.
Жанчына ўсё стаіць на парозе, і ветліваму старому няма як ісці далей. Ён трымаецца на адным месцы, растапырыўшы рукі.
— Якая ж я пані? — смяецца жанчына,— цяпер няма паноў.
— Ну, няхай сабе няма, а вы пані.
Ён гаворыць гэта спрытна, лёгка. Падступае бліжэй і есць вачыма жанчыну. Відаць, за свой век добра вывучыў ён разнастайнасці жаночых характараў. Жанчына разумее яго добра і хітра глядзіць на яго. Ёй робіцца весела, і яна смяецца. Але стары ведае цану ўсім жаночым смехам, ён ім не верыць адразу. І гады яго гэтакія ўжо, што толькі хіба кпіць можа з яго, усмешкаю, маладая жанчына. Але думак гэтакіх няма ў старога. Ён вітаецца з жанчынай за руку. Тая руку падае, але з хітрым, моцным смехам адразу вырывае назад. Тады стары бярэ яе за плечы, каб прайсці ў сенцы. Жанчына бачыць, што ўжо досыць распвяліла старога, і годзе ўжо гэтага. Дык яна робіцца жорсткаю:
— Вы за якою патрэбаю прыйшлі ці зноў...
— За патрэбаю, за патрэбаю,— шпарка ратуецца ён,— з таею ж самаю ўсё патрэбаю... З таею ж...
— З якою?
Жанчына быццам не памятае або і зусім не ведала нічога. На твары яе вясёлая рашучасць і злосць. От яна зараз назаўсёды адшые адгэтуль старога, каб больш не цягаўся сюды.
— Пані Галена?
— Якая я пані!
Мала калі чалавека гэтага бачыць такім лагодным, якім ён раптам цяпер робіцца, хіба, можа, тады ён бываў такім, як разам з лёкаямі падтрымліваў пад локаць пана. Ён як бы просіць Галену:
— Бушмар усё роўна не вернецца...
Галена востра ўсміхнулася, ускінула ўгару вочы: ёй штосьці вядома! А той гаворыць:

— Гэтакіх хутка не пускаюць. Яго закапалі надоўга. Усё адно да аднаго сабралася там.

— Вы ўсё пра нешта гаворыце, можа, з паўгода,— крычыць жанчына,— я сама здагадваюся, чаго вы ад мяне хочаце, але самі вы ніколі выразна пра тое, чаго вы ходзіце сюды,— не гаворыце. Гаварыце выразна!

— Я з паўгода ўсё думаю, ходзячы сюды, гэта праўда. Бушмар не вернецца. Пройдуць гады, пакуль ён будзе тут. Я па-чалавецку хачу сказаць. Два разы вы адкінулі ад сябе майго сына — навошта вы гэта робіце? Нашто вам траціць маладыя гады, прападаць так? Гаспадарка гэта не Бушмарава...

— Мая! Я жонка Бушмарава!

— Вось, вось! Ваша! Цяпер гэтакае права. Хто робіць — таго. А вы ж яшчэ і жонка. А Бушмар правоў не мае, ён арыштант! Вам з ім разлуку трэба браць. Вы сына майго не адпіхайце. Жыць будзеце, рабіць будзеце. І тут будзеце гаспадарамі. Як гэта вы жывяцё, ліха ведае як, не па-людску.

Жанчына кіпіць ад крыўды і злосці. Але чакае яшчэ чагосьці.

Нарэшце Вінцэнты гаворыць тое, што павінна давяршыць церах край келіх:

— Я перабраўся б сюды, галавою я яшчэ ў гаспадарстве кіраваць магу... Што меў я там з гадамі ў адзін кацёл нос мачаць...

— Во-о-он! — раптам крычыць Галена.— Вон!.. Вон!..

Вінцэнты чакаў усяго, толькі не гэтага. Ён нават не разумее спачатку. Адступае назад і глядзіць на Галену.

— Каб больш я цябе тут не бачыла!

Вінцэнты ўпірае ў зямлю кій: няўжо ўсё гэтак па-дурному скончыцца? Гэтулькі прапала думак і хатніх нарадаў? Ён ужо глядзіць у зямлю. Жанчына закрычала:

— Галас! Галас!

Аднекуль з'яўляецца сабака. Жанчына кіўнула галавою на старога. Галас пачаў браць яго. Стары замахаў навокал сябе кіем. Сабака стаў зверам. Стары пайшоў задам да брамы, адмахваючыся ад сабакі.

— Як гэта я дагэтуль не здагадвалася! Гэта ж ты ўсадзіў яго!

— Бушмара? Я! — урачыста крычыць Вінцэнты.— Гэта я. Гэта мая работа. Забойцаў я не мілую! Гадаў не цярплю!.. А ты хочаш жыць з ім! Паручніка забіў, казённага

лесу насек, раённага начальніка забіць хацеў!.. Гэта я каля яго пастараўся, нашто мне таіцца...

З-пад брамы ён крычыць, гатовы памірыцца:

— Сын мой яшчэ прыйдзе да вас!

— Добра, што сказаў, я другога сабаку дастану!

Сабака праводзіць старога да лесу. Па лесе гулка ходзіць сабачы брэх.

## II

Чаму так Вінцэнты дзіўна думаў пра Галену? Не толькі ўпэўнены быў, што сына пажэніць з ёю і сам заўладае Бушмаравым хутарам, але нават сам каля яе быў смелы: пачынаючы гаворку, не раз гэта ён, стары, клаў руку ёй на плечы. Ён і ўсе навокал пасміхаліся адно, успамінаючы Бушмарава вяселле. Пра Галену і ва ўсіх была пэўная думка — яна не пара сталаму чалавеку. А сталым быў тут Бушмар, сталым быў і Вінцэнты! Сталых людзей тут шмат.

Пасміхаліся, успамінаючы, як Бушмар падхваціў Галену.

Яму цяжка гаварыць з начальствам, нават і з сельсавецкім — гэта для яго вялікая пакута. А перад раённым начальствам ён хвалюецца, заікаецца. Начальству яго лёгка збіць, ён блытаецца, усё выходзіць у яго не гэтак, як было, хоць яму і няма ніякай патрэбы гаварыць няпраўду. Але затое, калі дзе давядзецца не гаварыць, а дзейнічаць рукамі, хоць перад якім сабе хочаш начальнікам, дык тады Бушмара не пазнаць — ён спрытны тады і бязлітасны. Свайго ён тады не перапусціць.

Суд тады трашчаў ад рогату. Не памагаў і злосны званок суддзі. Нават народныя засядачы ўсміхаліся ў вусы — калі Бушмар выступаў перад судом. Рудая суконная бурка рабіла яго тонкім і больш высокім. Шапку ён няспрытна трымаў у руках, у руках трымаў і стусінавую пугу, пакуль яму не параілі хоць пугу гэтую куды-небудзь паставіць у кут. Ён заікаўся і хваляваўся страшна. Пра Амілю як пачаў гаварыць, дык каб траха, дагаварыўся б да паручніка. Сыпаў паўсловамі, чырванеў і бялеў, угаворваў усё сюды, што не было тут патрэбна, і ўгаварыў сам сябе. Пра паручніка не ўспомніў, але не далёка было ўжо і да гэтага. І раптам усе зноў успомнілі пра тое забойства. Усякі, хто памятаў тую справу, адразу падумаў — няйначай-такі гэта Бушмарава работа. Суд пацвердзіў патрабаванне Амі-

лі — Бушмару прысудзілі даваць на дзіцянё і сплаціць Амілі за ўвесь час яе работы на хутары. Так скончыўся гэты суд. Бушмар уночы ехаў адзін дадому, разганяючы адзіноцтвам сваё судовае ўтрапенне. Паспакайнеўшы, ён пачаў думаць пра маладую жанчыну, справу якой ён, да свайго яшчэ выступлення, гэтак як і ўсе, з цікавасцю выслухаў. Яна пажыла з мужам два месяцы і цяпер разлучалася; выявілася, што муж хворы, а жыць з хворым яна не хацела. Яна пра ўсё спакойна расказвала суду. Ад мужа яе было ўражанне вялікай, але ціхай нездаволенасці гэтакім здарэннем, а яна гаварыла жорстка, вінавацiла яго, што ён хворы жаніўся. Калі пасля выдзяляла яна сабе свой пасаг, выступалі сведкі — суседзі іх, вяскоўцы. Бушмар разам з усімі слухаў справу, чакаючы сваёй чаргі, а жанчына, гаворачы, колькі разоў ненаўмысля, глянула на яго. І гэты позірк укалоў яго. Пасля суду, ад'язджаючы дадому, ён убачыў яе на возе — чамусьці яна яшчэ не паехала. Бацька яе завіхаўся каля воза.

— Бывайце,— з смуткам сказаў ёй Бушмар.

— Бывайце.

І яна ўсміхнулася, можа, успомніўшы, як ён апраўдваўся ў судзе. А ад яго гэтая ўсмешка адабрала спакой.

Наступныя дні ён усё думаў пра жанчыну, а праз некаторы час паехаў радзіцца да брата. Той яму даў параду такую, якая надала яму радаснай пэўнасці. І ён з братам паехаў сватацца. Яму было патрэбна цяпер скончыць як найхутчэй усё ранейшае. Гады два прайшло, мусіць, з таго, як назаўсёды пайшла з яго хутара Аміля. І Галена застала тут вялікі непарадак ва ўсім тым, што не належала да зямлі і жывёлы. Навокал пачалі гаварыць пра Бушмараву жонку. Яе першае замуства пачало абрастаць людскімі выдумкамі. Праз паўгода якога самы суд яе з першым мужам зрабіўся ў людскіх вуснах, можна сказаць, легендаю нейкаю. Асабліва стараліся каля гэтага хлопцы. І нават стары Вінцэнты раз быў пусціў брыдкую здагадку, што праз нейкі час, як і першы муж, Бушмар стане хворым і няўгодным ёй. Але гэта не прышчапілася да людской думкі — больш усяго цікавіліся Галенаю цяперашняю, а не заўтрашняю. Яна з хітрым жартам дражніла зіркам хлопцаў і мужчын. Святымі днямі хлопцы знаходзілі прычыну зайсці на Бушмараў хутар — патаргаваць насеннай капусты або садавіны. Галена калола іх вачыма, даводзіла іх да таго, што ім не хацелася ісці адгэтуль, а сама, зірнуўшы katoраму з іх у вочы апошні раз, жорстка гава-

рыла, што тут не саўгас, каб прадаваць канюшыну, і ішла ў хату. Хлопцы яшчэ тупалі каля Бушмаравай хаты, а Бушмар, як звер, паглядаў у акно, а пасля, як бы ненарокам выпускаў з сянец сабаку. Хлапячы рогат і сабачы брэх доўга абуджвалі лясныя нетры. Пасля гэтага Бушмар даходзіў ад Галены «праўды». Яна адказвала яму ласкава, але гэтак, што ён дрыжаў, каб не страціць гэтай яе ласкі. Ледзьве яна з штучнаю абыякавасцю на яго гляне, ён, не думаючы, усхватваўся, патрабаваў, прасіў, выпрошваў ад яе сказаць «праўду». А яна, патрымаўшы яго крыху гэтакім, упэўнівала яго, што не ведае, чаго хлопцы валочацца сюды, і дакляроўвала другі раз сама адразу выпусціць сабаку і не выходзіць да іх. Яна ўскідала на яго вачыма гэтак, што ён пакорліва змаўкаў і верыў. Усе так і гаварылі, што Бушмар пад бабскаю ўладаю, а ўлада гэтая нават і самому Бушмару дасць рады. «Гэта яму не Аміля!» А Бушмару было ўсё роўна, што і як пра яго гавораць. Людскою думкаю ён не цікавіўся. Ён быў бы рад, калі нават чалавечая нага не ступала на яго хутар, каб ніводная жывая істота, якая можа думаць і гаварыць, не з'яўлялася ніколі па гэты бок лесу.

Але гэтае ўтрапенне Бушмарава не цягнулася доўга. Зацяжарыўшы, яна стала іншаю. Яе пакінула цягнуць на вёску, яна пакінула скардзіцца на воўчую адзіноту ляснога хутара, часта ўсміхалася сама сабе ціхаю ўсмешкаю, гэтакаю непадобнаю да той момантнай усмешкі, якая прыкоўвала да аднаго месца хлопцаў каля хаты, а Бушмара — у хаце. Бушмару было больш цяпер спакою, і яшчэ больш, здаецца, ён пачаў ненавідзець кожнага, хто заходзіў калі-небудзь на хутар.

На той бок лесу ішла тады ўпартая работа, ад якой свет не міл быў Вінтэнтаму. Але на хутар да Бушмара ён не прыходзіў больш радзіцца і даваць парады. Пачаў хадзіць ён сюды тады, калі бяда навалілася на Бушмара. Сам Вінцэнты памог гэтаму — у яго тады ўжо раджалася думка сілаю засталявацца каля Бушмара. Ён пачаў варушыцца — стараўся ўсё надгадзіць начальства, каб, як будзе поўная абрэзка, далі яму кавалак Бушмаравай зямлі. І калі не ўдалося гэта, стаў прыглядацца да новай справы. Бушмара пацяглі тады ў суд за буйную высечку лесу: ён пачаў патроху спускаць хвоі і закладаць неўзаметкі разабраную сцяну ў гумне. Вінцэнты адразу дагледзеў гэтай Бушмаравай работы. На Бушмара паклалі вялікі штраф. Бушмар яго не выплаціў, таксама як і не

аддаваў падатку. Хтосьці прыехаў з раёна спагнаць з яго штраф. Бушмар захваляваўся, пачаў заікацца, злаваць. А ў тыя дні штосьці не паладзілі яны з Галенаю, і ён тады хадзіў, як звер. Якраз здалося яму (ці, можа, гэтак і сапраўды было), што раённы начальнік вельмі нешта прыглядацца пачаў на Галену, а тая не прагнала яго з хаты, што было патрэбна дзеля Бушмаравага спакою. І от на двары раённы службовец штосьці пачаў гаварыць Галене, смеючыся гэтак, як смяюцца прыгожым жанчынам. Бушмар, сціснуўшы зубы, схапіў службоўца за пояс, перамчаў упоперак цераз двор і кінуў на той бок плота. Той ледзьве падняўся, доўга сядзеў на зямлі, пакуль сяк-так здолеў павалачыся ў вёску. А назаўтра Бушмара арыштавалі. Тут было ўсё — і нявыплата падатку, і лясныя высечкі, і калецтва раённага службоўца (той доўга ляжаў у бальніцы і ледзьве ачуняў), і Бушмара засудзілі на два ці тры гады адседкі.

Выходзячы з двара, Бушмар нічога не сказаў Галене. Яна з плачам правяла яго за лес. А ён нават не азірнуўся. Гэта яе не ўкалола. Яна як бы чакала гэтага і ведала, што інačай з Бушмарам нельга.

Галена хутка разумець стала Бушмара. За кароткі час навучылася пазнаваць яна ўсю звераватую простасць яго характару. Яна сэрцам пазнавала ўсю яго чалавечую ўрачыстасць і прыгнечанасць. І застаўшыся адна, яна адразу зразумела, што гаварыла Бушмарава маўклівасць на адвітанні і ссунутыя бровы. І яна стала берагчы тое абяцанне, якое дала б Бушмару, каб той не маўчаннем, а словамі развітаўся з ёю. Яна адразу стала такою, што нікому і на думку не ўзбягала мець якія-небудзь інтарэсы на Бушмаравым хутары. Не было Бушмара, не прадавалася тут і насенная канюшына. Толькі праз месяцаў два зайшоў быў сюды як бы ненарокам Вінцэнты. Тады ўжо ў яго пачала фармавацца цвёрдая думка ажаніць дзе-небудзь малодшага сына і разам з ім перабрацца куды-небудзь так, каб дажыць свой век самому сабе панам. Жыццё гнала яго з уласнай хаты, ад слядоў былога. Цяпер ужо ён ненавідзеў Бушмара гэтак, як і Амілінага брата: адзін быў ворагам, які не паддаваўся, а другі — які наступаў.

Галена адразу і не чакала ніякіх вестак ад мужа. Яна разумела яго навылёт. І праўда, што Бушмар маўчаў месяцаў мо з тры. А пасля загаварыў раптам. Адно за адным пайшлі ад яго лісты: «глядзі сябе добра», «пільнуй сябе ў сваёй хаце», «трымай усё, як мага, не збывай нічога, а я

доўга тут не буду...» Хтосьці малапісьменны, мусіць, дапраўскі Бушмараў таварыш, выпісваў прывітанні, пажаданні, імкненні Бушмаравай душы. Але Галена пазнала Бушмара толькі ў словах пра гаспадарскі набытак, пра «пільнаванне сябе ў хаце». За гэтымі словамі і жыла Бушмарава душа, якая для Галены была яснаю і вядомаю і якая не патрабавала для выказванняў шматслоўя. Галена разгадала: поўны нечаканым утрапеннем, прыглушаны бядою, Бушмар спачатку не думаў ні пра што. Як бы ўсё ўжо было скончана, больш ужо нічога не трэба на свеце чалавеку. Але пасля з'яўляцца пачала абыкласць, незвычайнае стала набываць адзнакі звычайнасці, і тады зноў чалавек стаяў на зямным грунце.

## III

У хутарской адзіноце Галена нарадзіла сына. У той самы дзень Бушмараў брат ледзьве ўспеў прывесці сваю жонку. А праз які дзень Галена пачала брацца за работу. Братава жонка паехала. Гэтай Бушмаравай радні Галена не любіла.

Бушмараў сын удаўся ўвесь у матку. Бацькаўскі быў толькі колер вачэй. Гэта гаварылі ўсе, хто бачыў яго. А паглядзець на малога падыходзілі людзі пад Галену, калі яна выносіла яго ў лес і за лес. Яна несла яго скрозь паўз сцяну лесу, думала толькі пра яго і гэтым адцягвала непатрэбны клопат свой ад непазбыўнага бязладдзя ў хаце. Бо як ты ні глядзі і ні клапаціся, аднымі рукамі нічога не парадзіш. Як яна спачатку ні разрывалася за работаю і клопатам, усё роўна не ўтрымала парадку. Усё было не дагледжана, параскідана. І яна прыняла гэта з лёгкім сэрцам. У яе з'яўляцца пачала нуда па людзях, таму яе гэтак часта і цягнула за лес. А тады якраз адбыліся вялікія змены навокал. Бушмару пакінулі толькі сялібу і зямлі па норме на душу. На гэты бок лесу было ўжо калектыўнае поле. Яно ціснула сялібу неміласэрна. Тады Галена першы раз за ўвесь час напісала Бушмару праўду пра гаспадарку.

У тыя часы Вінцэнты трапятаўся як падсмалены. Мусіць, дапякло чалавеку добра, калі не цураўся ўзяць на сынаву шыю Бушмарава дзіцянё. Але пасля апошняга таго прыходу да Галены ён асеў як знясілены. Ён толькі шаптацца пачаў з людзьмі і вохкаць.

Тады была трэцяя восень, як адышла Аміля з хутара.

Пра Амілю Бушмар ніколі не гаварыў Галене, яна і не дапытвалася, ведала толькі тое, што пачула была тады на Бушмаравым судзе.

Несучы малога паўз лес, яна бачыла людзей на полі. На яе прыглядаліся здалёк, як бы ненарокам падыходзілі бліжэй. Яна сама пайшла да ўсіх. Дзіцянё разглядалі доўга, спачувалі, што яна адна з ім. Галена пагаварыла з людзьмі і пайшла назад. Гэта было пасля апошняга здарэння з Вінцэнтым. Восень у той дзень прачнулася пагодліваю. Цвілі паўз лес верасы, беразняк увесь зіхацеў ад сонца і лісця. Лясы дыхалі спакоем, сумная радасць поўніла іх. У бяздум'і Галена ўвайшла ў лес, на сваю дарогу. І тады пачула, што хтосьці даганяў яе. Крокі былі лёгкія і шпаркія. Галена азірнулася. Бегла жанчына. Галена пачакала яе, і от яны сышліся.

— Я пагляджу вашага малога,— сказала жанчына.

Галена ўбачыла сумны спакой незнаёмага твару, незвычайную шпаркасць у рухах, здэтэнаванасць.

— Не падобен да Бушмара,— устрапянулася жанчына.

Штосьці яшчэ яна хацела сказаць — Галена заўважыла гэта і чакала. Яны ішлі поплеч — тая першая рушыла праз лес. Галена здагадвацца пачала. Ісці моўчкі ім было нядобра. Галена спакойна глядзела на дзіцянё і на ўсё, тая была неспакойнаю.

— Вы Аміля? — проста і звычайна сказала Галена.

— Я.

— Хадзем на хутар.

Сказала яна гэта так проста, што Аміля пайшла. Ішлі яны паволі. Аміля ўглядалася ўсё ў дзіцячы твар.

— Ён мог бы быць падобным да свайго брата...

— Да якога?

— Да майго малога, да другога Бушмаравага сына. Ён якраз мог бы быць гэтакім...

Пасля яна падумала, што Галена магла пакрыўдзіцца за што, і глянула на яе. А тая ішла, як ішла. Толькі як бы не разумела гаворкі. З-за лесу Аміля пайшла назад:

— Не пайду далей. Нядобра мне ісці туды.

— А я даўно хацела вас пабачыць.

Аміля ішла назад шпарчэй. Яна ж толькі хацела паглядзець на другога Бушмаравага сына, ці не падобен ён да яе сына! Гэта было б страшна! Тады яна магла б знелюбіць яго. Бо і прыйшоў ён на свет праз гэтакія пакуты, якія дарэшты выветрылі ўсе маладыя імкненні. Першы ж сын яе раней браў усю матчыну ласку! Не, яна пароўні

дзеліць цяпер гэтую ласку між абодвума сваімі сынамі! Сынамі сваімі!

Яна гнала ад сябе страшныя думкі.

«А яшчэ тая запрашае на хутар! На той самы хутар!»

Чамусьці нейкую крыўду раптам пачула яна ў гэтым запрашэнні. Наўмысную знявагу да сябе. Нават, можа, кпіны.

Не думаючы, Аміля вярнулася. Галена паволі ішла сцежкаю на ржышчы.

— Я пайду на хутар.

— Добра... Я ж прасіла вас.

Галас пазнаў сваю ранейшую гаспадыню, стаў лашчыцца да Амілі.

Вось тое самае месца, дзе яна была калісьці нагнулася завязваць чаравік. Той самы дзядзінец і сад...

Аміля ўвайшла ў хату следам за Галенаю.

— Не ўдаліся мне маладыя гады,— сказала Галена.

— А вы думаеце мне ўдаліся!

Аміля гэта аж крыкнула. Галена здэтэнавалася.

— ...І мне не ўдаліся! Вы ж тады (я добра заўважыла вас) былі на судзе, вы чулі ўсё, як жа вы гэта пайшлі за яго? Як вы не пабаяліся! Хіба не відаць было тады, што гэта за чалавек!..

— Мы з ім жывём добра.

Аміля плакала. Дрэннае пачуццё да Галены расло ў ёй.

— Дзякуй богу, што яны не падобны адзін на аднаго.

— Хто?

— Дзеці. Я свайго знявідзела б тады.

— За што? Нашто вы гэта гаворыце? Вы і на мяне нядобра, як на ворага, глядзіце? А за што?.. Я ж бачу, што пра Бушмара вы і цяпер думаеце. Які б ён ні быў, вы на яго не забыліся...

— Забылася... Не думаю...

— Мусіць, думаеце, калі гаворыце гэтак, калі адразу не ўцяклі былі тады ад яго, з першых дзён. Бо ён цяжкі чалавек, інакшым ён ніколі не будзе.

— А вы ж жывяце з ім, не ўцяклі ад яго.

— Я жыву, але каб ён паздзекаваўся з мяне, я і дня ніколі з ім не была б. Бо нашто гэтак жыць...

— А калі лепш няма як?

— Як гэта няма? На свеце ўсякага жыцця даволі і чалавечае долі шмат...

Аміля панура слухала. Якраз так гаворыць часам брат, калі жонка пачне скардзіцца на долю.

— Чаму ж ты сам свае добрае долі не знайшоў, а каго дык вучыш? — крыўдзіцца жонка на Андрэя тады.

Андрэй тады гаворыць колькі жорсткіх слоў пра дурную чалавечую нецярплівасць і пра нуду з гэтакімі людзьмі. І сыходзіць куды-небудзь з хаты.

«Пануры ён чалавек»,— думае тады пра Андрэя Аміля, не ўмеючы іначай назваць братавай натуры.

## IV

Неба было над лясамі сіняе і ціхае. І ціха было ў самых лясах. Восень зрабіла сваё і адпачывала на палянах — там яшчэ зелянілася трава, стаяла вада. Сям-там яшчэ жоўты лісток трымаўся на дрэве, гатовы і зімаваць там... Гэтай ціхасці не парушалі і вятры. Яны густа ішлі ў сваю дарогу, дзікаю ласкаю ападаючы на зямлю. Сонца часамі выкрадвалася з-за хмар, але восень, перад сканаI нем сваім, любіла хмурнасць. Гэтак дажывала восень апошнія дні. Туман з рэчкі ці лагчыны або дым з пастушковага вогнішча калі ўзнімецца, дык невысока стаіць над зямлёю. І гукі людскога голасу звіняць доўга ў гэтай прасторнай цішыні.

Дарогі былі пустыя. На дарозе высокая чалавечая постаць вырасла раз надвечар. Жорсткі і рухавы выгляд яе рваў гармонію ціхай восеннай ласкавасці.

Чалавек спяшаў. За плячыма ў яго матлялася пустая торба. Ён толькі на ўзгорку прыпыніўся, адкуль больш відаць было зямлі навокал. І зноў заспяшаў. Вёску ён абышоў стараною, але яго ўсё роўна ўбачылі. І ўсе гаварыць пачалі пра яго:

— Бушмар ішоў дадому з астрога.

— Спяшаў страшна.

— Не адбыў свайго часу, амунісцыя, мусіць, нейкая!

Вечар увосень находзіць шпарка. Бушмара ён агарнуў ля хутарской брамы. Сінь неба згусцілася, лясы пачарнелі.

Дубняк падыходзіў да самых хат. Увечары ён зусім зліваецца з мізэрным драўляным чалавечым прытулкам. Як запальваюцца на небе зоры, неба ўздымаецца вышэй, зямля чула дрэмле пад ім. Тады, калі заплача ў хаце дзіцянё, дзіцячы голас далёка чуваць у лесе.

Я цябе люляла...

Спявае жанчына. На дварэ чуваць, як скрыпяць вяроўкі ад калыскі. У хаце гавораць. Жанчына ўсё спявае.

— Андрук, ты збіраешся куды? — чуваць другі жаночы голас.

— Я надвечар бачыў, як Бушмар дадому з допру ішоў,— адказвае мужчына.

— Гэтак хутка...

Жанчына яшчэ нешта гаворыць, але чалавек выходзіць з хаты. Другі чалавек шпарка адбягае ад акна. У змроку ён здаецца клышаногім. Адбегшы крокаў дзесяць, ён спакойна варочаецца назад, нібы ідзе сабе спакойна ў сваю дарогу.

— Добры вечар, Андрук,— гаворыць ён, стараючыся быць спакойным.

— Добры вечар, Вінцэнты,— гэтаксама стрымліваючыся, гаворыць Андрэй.

— Бушмар вярнуўся.

— Ну!

— Не бачыў?

І Вінцэнты хітра ўсміхаецца, як следчы, які злавіў на слове падсуднага. Пасля гаворыць:

— Лепш бы ён зусім не вярнуўся.

— Чаму?

— Брыдкі чалавек. Воўк. Звер. Людзей ненавідзіць. З яго карысці людзям жаднае быць не можа.

— Дзіўлюся. Вы ж з ім павінны добра ладзіць. Ён сабе дзедзіч, а ты далікатны чалавек і хамаў не любіш, з гадамі знацца не хочаш... Хіба вы не падзялілі чаго?

— А адкуль ты ведаеш, што я з ім вельмі вялікі прыяцель павінен быць?

— Па-мойму, няма вам за што сварыцца. Жылі б вы сабе як мае быць, далікатна, па-божаму; зналіся б, як добрыя людзі, як сваякі якія...

Вінцэнты не даслухаў. Ён пайшоў шпарка, з маўклівою нянавісцю.

— Бож-жа мой, бож-жа мой,— шаптаў ён, прыціскаючы на «ж». Ён здалёк чуў, як пайшоў у вуліцу Андрэй і як Аміля спявала ўсё свайму меншаму сыну.

## V

Калі Бушмар выйшаў за страшную браму допра, яшчэ чуў на сабе цяжкасць прыгнечання, аж пакуль не мінуў апошняга гарадскога завулка. Як бы хто магутны, непераможны трымаў яго за плечы і ціснуў у зямлю. Калі праходзіў местам, пазнаў блізкіх, з свайго боку людзей

каля вазоў, але яшчэ больш тады даў ходу,— каб хаця не заўважылі і не запрасілі садзіцца на воз. Ён зусім прыйшоў да спакою, калі пачуў, як палявы вецер свішча ў вушы і б'е проста ў вочы. Тады адчуў ён струмень бурнай волі. Яна гнала яго па зямлі асеннімі дарогамі, сцежыстымі пераходамі, лясамі. Больш нешта за сорак вёрст зрабіў ён за той дзень і яшчэ больш ішоў бы. Лёгка ўвайшоў ён у лес, як бура, мінуў яго зараз жа. Галас ірвануўся да яго на поўны рух сваёй сабачай радасці. У браме яны стаялі ўдвух, абняўшыся. Бушмар раздзьмутымі ноздрамі цягнуў у сябе восенны пах мокрага дрэва, саломы, зямлі, сабака захлынаўся віскам, калаціўся з радасці. Апамятаўшыся, Бушмар рушыў пад хату. Сабака паваловся на задніх лапах следам, трымаючы ў абдымках гаспадараву спіну. Галена спаткала Бушмара на ганку. Яна абняла яго за шыю і павяла ў хату. І толькі тут, калі ўжо запахла знаёмым спрадвеку кутком, заварушылася дзесьці ў нетрах сэрца трывога. Ён і сам не разумеў яшчэ, што гэта і з чаго. Ці гэта пачатак чагосьці вялікага, ці драбяза якая? Галена падвяла яго да калыскі:

— Бачыш?

Ён чыркануў запалку, каб угледзецца ў твар невядомага яшчэ сына. Галена не зводзіла з яго вачэй.

Праз паўгадзіны ён ужо хадзіў па двары. Сабака гайсаў за ім. Постаці іх шпарка варушыліся ў раннім змроку, яны некалькі разоў абышлі двор. Нарэшце Бушмар рушыў за браму. Ён ішоў шырокаю сваёю мяжою і тут чуў, як тая трывога шпарка расла. І ён пачаў усвядомліваць яе. Ён ужо трымаў у думках тое, што бачыў, як толькі падышоў быў сёння пад дом, але што ўцякло тады з галавы і сэрца. Каб бязлітасна вярнуцца цяпер.

За дзікаю, яшчэ бацькаўскаю палявою грушаю мяжа была разворнена плугам. Нават спачатку, пакуль яшчэ не закіпела думка, ён з гаспадарскай прывычкі падумаў быў: «Нейкі няўмека зворваў»,— а пасля раптам усё патанула ў мітусенні навакольнага зямнога змроку і надлеснай яснаты. Усё скрозь пабіта было разорамі на дзялянкі — пачатак позняга зябу. Далёка чарнеў у змроку хутар. Разоры вялі Бушмара да самай агарожы. Дзіка кінуўся ён у хату да Галены.

— Наша поле вунь там,— сказала яна, паказваючы яму ў акно за сад.— На тры душы пакінена нам. От нядаўна ўсё зрабілася. Я ж пісала табе.

— Без мяне?!

— А што ты памог бы?

Яна глядзела яму ў вочы, прасіла позіркам не думаць пра гэта. Вочы ў яе былі гэтакія, як тады, калі ён першы раз убачыў быў яе на судзе. Вочы гэтыя палілі яго. І гэта яшчэ больш узняло ў ім навальніцу страшнага ўтрапення. Падобна было тады, як калісьці першы раз пасля паверкі сеў ён на ложак у казарме і як першы раз зачынілі яго ў допраўскай камеры. Ён кінуўся з лямпаю раптам да калыскі.

— Чаго ты ўглядаешся гэтак? — здзівілася Галена на страшны неспакой яго панурага твару.

— Гэта мой?

Яна гнеўна, горда стала перад ім:

— Твой!

— А не хлусіш?

Яна ўзняла галаву і адышла моўчкі.

— Ага, чаго ж ты змоўкла?!

Ён пачынаў ужо крычаць. Яна стаяла напроці акна.

— Мусіць, грэх нейкі ёсць, калі маўчыш!

— Ёсць! — адказала яна, павярнуўшыся да яго.

— Гавары!

— Не скажу.

— Скажы!

— Не!

— Дык я зараз іначай пагавару.

— Ніяк ты іначай не пагаворыш.

— Гавары, хто прыходзіў да цябе.

— Хто толькі хацеў, той і прыходзіў.

— Скажы!

— Не скажу.

— Скажы...

Яна стаяла перад ім, не зводзячы з яго вачэй. Ён усё гаварыў: «Скажы... скажы...» Раней крычаў, пасля пачаў прасіць. Прасіў доўга, раптам рабіўся мяккім — дзіўным нават для Галены, то зноў узнімаўся да сваёй звярынай сілы ў голасе. Біў тады кулакамі аб стол, пасля зноў ападаў да просьбы. А яна глядзела, як ён вар'яецца, і ўсё сцвярджала:

— Не скажу.

Нарэшце ён абяссілеў. Пайшоў з хаты, гукнуў за сабою Галаса. Як віхор прамчаўся да лесу і праз лес, ішоў, сам не думаючы куды. У лесе моцна шастала пад цяжкімі ботамі яго не зляжалае яшчэ лісце, за лесам — гучна шоргаўся аб абцасы жвірысты пясок на дарозе. Буш-

мар нагадваў штосьці бязлітаснае і цяжкае, што ўсё крышыць дашчэнту пад нагамі сваімі, сцірае ўсё з твару зямлі і, не заўважваючы гэтага, у імя сваіх адчуванняў свету для сябе аднаго. Малыя і слабейшыя істоты ратуюцца, уцякаюць з-пад гэтага страшнага ходу. Але іх ніхто не заўважае. Тут толькі дзікасць і выпадковасць. Што і хто пападзецца пад бот?! Хто і што будзе растаптана насмерць?! Хто і што застогне пад ботам, развітваючыся з жыццём?

Бушмар шукаў свайго спакою ў шпаркай хадзе. І толькі цяпер загаварылі сорак вёрст дарогі за дзень. У нагах з'яўлялася цяжкасць, ападаць пачалі нездаваленне, страх, злосць, нянавісць, трывога... Перад ім чарнелі сцены і стрэхі, мільгацелі святлом вокны. Даўно не быў тут Бушмар. Ён цураўся гэтага месца даўно ўжо, аж з самага здарэння з паручнікам. А цяпер і пагатоў. Каля крайняй хаты ён стаў, пакуль узыходзіць пачала на думку вялікая патрэба яго рушыць зараз жа адсюль.

— Здароў, Бушмар!

Бушмар здрыгануўся. Ён не заўважыў быў, што ў варотах стаялі людзі. Некалькі чалавек. Цяпер ён пазнаваў тутэйшых хлопцаў. Яму нядобра стала пры іх.

— Як маешся, Лявон?

— Нечага ж да нас?

Бушмар не гаварыў нічога. Да яго падышлі. Цяпер ён пазнаў і Андрэя тут. Штосьці там гаварылі каля яго ці то з ім, ці то самі з сабою, але ён не чуў пра што. Толькі кальнула яго Андрэева слова. З гэтага ён і чуць пачаў гаворку:

— Кагадзе што пра цябе мне Вінцэнты ўспамінаў. Нешта вельмі не любіць ён цябе.

І тут прайшло ўсё ранейшае. Выразна вырасла перад усім адно вялікае і найважнейшае цяпер: нянавісць да Андрэя.

— А ты яго ці не нацкоўваеш на мяне?!

— Хіба мне работы іншае няма?

— А што табе больш рабіць? Іншае работы і не трэба.

— Чаму ты гэтак думаеш?

Бушмар чуў на сабе зняважлівы і злосны Андрэеў зірк, бачыў, як той падступіў бліжэй.

— Я не думаю, а на сабе бачу тваю работу. Я яе пачуў добра! Можа, лепш ужо і чуць не трэба.

Ён стрымліваў моцнае жаданне змяшаць Андрэя з зямлёю.

## VI

Што ён там гаварыў з Андрэем ці Андрэй гэта з ім — Бушмар не памятаў. Штосьці ён адказваў, а то маўчаў у злосці. Толькі пасля ўжо, калі Андрэй знік недзе з-пад яго, ён адчуў яго гаворку. Не ўспомніў, а адчуў. Той кідаў словамі як каменнямі. А як дагаварыўся Андрэй да сваёй гэтай казані, не ішло на памяць.

— ...Ты дзе ні павернешся, усюды прыкрасць, а можа, што і большае каму зробіш. Як бы ўвесь свет табе павінен быць...

— Я на чужое не лезу,— закрычаў Бушмар,— каб адно ніхто мяне не чапаў! Не чапай мяне!

— А ты пагавары пра людзей, а не пра свой хутар! Ты ж яго ад усяго свету не агародзіш! Райвыканкомавец ступіў быў раз на твой хутар? Ты нікога не чапаеш? Успомні пра ўсё, з кім ты спаткаўся калі. А Амілі ты не забыўся яшчэ ці ўжо і следу ў тваёй галаве яе не засталося? Ты хочаш прайсці, жывучы на свеце проста, як сабе хочаш. Што на дарозе — павінна саступіць табе. А што не ўспее саступіць, пападзецца пад твой бот. А каго-небудзь ты і сам паклічаш да сябе на момант, дзеля якое-небудзь прагнасці свае ці патрэбы. Бо і воўк жа не цягаецца вечна адзін, без кампані. А пасля ідзеш далей і ні на што не глядзіш, нічога пад нагамі не прыкмячаеш. Як бы ўсё гэта толькі дзеля цябе жыве на свеце...

Калі ішоў ужо Бушмар назад, словы гэтыя жылі дзесьці ў адчуваннях яго, але былі яны далёкія ад яго, нічога ў ім не чапалі і павялічвалі толькі нянавісць да Андрэя. Ён адумаўся адзін на вуліцы. І што ўкалола яго тут, дык гэта толькі неспадзяванае, што стаіць ён каля той хаты, дзе жыла калісьці, а можа, і цяпер жыве, Аміля. Ён рушыў назад ціха, не гэтак, як ішоў сюды. Ён быў стомлены гэтак моцна, можа, першы раз на жыцці сваім. Ні то што яму балелі ногі, ці нылі плечы, ці туманілася галава — ад дзённай дарогі, ад вячорнага ўтрапення,— штосьці іншае было. Як у тумане прайшоў ён тое месца паўз лес, дзе сядзеў калісьці, чуючы радасць сцяны між ім і Аміляю, дзе ўглядаўся ён на коршака над лесам — ён цяпер гэта, праз колькі год, задрыжаўшы ўвесь, успомніў. Як праз імглу, бачыў ён пакарпаную плугамі дарогу пад нагамі, раскапанае глінішча на цэглу, навожанае дрэва за вёскаю, падворваныя межы, паразбіраную агарожу... Усё інакшае, як было нават гэтак нядаўна, калі забіралі яго ў адседку...

Усё рушыцца і ўцякае!

Галас гайсаў перад ім. Брэх яго гулка рваў лесавую цішыню.

Прыйшоў дадому Бушмар позна. Галена карміла дзіцянё.

— Дзе ты ходзіш? — сказала яна.

Ён маўчаў.

— Чаму не адказваеш?

Як бы ўсё ішлося тады на тое, каб выслухваць яму людскія ўшчынкі.

— Ты маўчыш, дык і я магу маўчаць. Як ты прывітаў мяне, вярнуўшыся ад такое свае бяды? Няшчасце мінула, дык ты няма каб пачуў гэта, разам са мною, з дзіцём, якога яшчэ не бачыў, а пачаў думаць пра ўсё, чаго не было. Чаму ты не паверыў мне і нават чаму ты пытаў гэта? Ці гэта вінават хто, што гаспадаром ты стаў меншым? Можа б, ты мог бы на ўсё іншае забыцца тады, а пабыць як чалавек, з сваёю сям'ёю. Усё роўна як я табе не блізкі чалавек, а хто чужы, што табе трапіўся на дарозе...

Яна гаварыла доўга. Успамінала незнарок пра ўсё.

— ...Тут Аміля заходзіла. Мы з ёю разгаварыліся былі доўга.

— Пра што ж вы гаварылі гэта з ёю?

— Менш за ўсё пра цябе. Яна парывалася ўсё на гэта, але ж хіба малы свет чалавеку, што канечне думаць пра адно ўсё?.. Пра ўсё мы гаварылі. Яна ўспамінала ўсё, як гадавалася, як расла, што ў іх у хаце рабілася. А я дык не! Ніколі я нічога не ўспамінаю і не хачу ні пра што ўспамінаць. Што было, тое аджылося, а што будзе, тое важней...

Бушмар стаяў, скруціўшы пальцы ў кішэнях жакеткі.

— Каб ты павесяліўся сваёю воляй, дык не, ганяешся за нечым уночы недзе па полі, шукаеш немаведама чаго, чаго ніколі не губляў, чаго, можа, і не было ніколі ў цябе...

— Не было? Не губляў?! Я з-гу-б-іў!

— Што ж ты гэтакае згубіў?

Яна сапраўды чакала ад яго адказу.

— Якраз ты, можа, і не згубіў нічога, хоць і здаецца табе. Нічога ты не згубіў. А калі што і згубіў, дык нехта знайшоў, так яно на дарозе не прапала. Можа, той, што знайшоў, не мог жыць без яго, а цябе гэта толькі сапсавала навек. Што ты на чалавека не падобен. Што з табою і табе самому жыць на свеце цяжка...

Галас драпаў з сянец у хатнія дзверы. Адчыніў іх і ўскочыў у хату. З віскам кінуўся да гаспадара. Той з аса-

лодаю ткнуў яму ў жывот наском бота. Галас заенчыў, не ведаючы, што гэта раптам зрабілася, адскочыў. Малы прачнуўся, заплакаў. Зрабілася шумна ў хаце. Бушмар выкінуў Галаса на ганак. Пайшоў у кухню, лёг за сталом на голай вузенькай лаве і заснуў.

Галена раніцаю не будзіла яго позна. Ціха хадзіла па кухні. Ён, калі прачнуўся, з дзівам нейкім у вачах, як бы не разумеючы нічога, глядзеў навокал. Як і заўсёды, спрадвеку, быў ён панурым, маўклівым.

— Не думай ні пра што,— падышла да яго Галена.

І, не дачакаўшыся адказу:

— Можа, нават да ўсіх прыстанеш жыць, мне хочацца ў людзі. І ты там зменішся...

— Дык мне змяніцца трэба?

Яна адчула, што сказала ў гэтую хвіліну глупства. І папраўілася як магла:

— Гэта так я сказала. Так сабе... Кінь, не думай ні пра што, давай жыць будзем, як людзі жывуць... Вазьмі сябе ў рукі, не злуй, не муч сябе і мяне ліха ведае якімі думкамі, словамі...

Яна палажыла яму локці на плечы, нагнулася да яго тварам. Ён сядзеў цяпер гэтакі малы і слабы перад ёю. Яна стаяла над ім, глядзела яму ў твар.

Але ён не паддаўся. Ён перш за ўсё глыбока чуў мяжу між сабою і ўсімі, нават ёю. У іх нейкае там сваё жыццё, а ў яго сваё. Ён, дзеля прыклёпу, пагладзіў яе па галаве і падняўся. Нехаця ўзяўся ён за работу на двары, чуючы сябе чужым усяму і ўсім нават тут. Ён і не спрабаваў саўладаць з сабою. Нашто гэта патрэбна чалавеку! Ніколі гэтага не было, не радзілася гэта разам з ім на свет!

## VII

І Андрэй бачыў цеснату навокал сябе, але ў сабе самім чуў волю.

Як тады, пасля неспадзяванай гаворкі з Бушмарам, увайшоў ён у хату, чамусьці, як ніколі раней, ахвація яго адчуванне цесваты тут. Можа, гэтая гаворка абудзіла ў ім парыванні, што заўсёды жылі ў ім.

Яго і Аміліны дзеці спалі. Аміля больш не спявала калыханкі. Яна і жонка яго шылі штосьці, пагінаючыся над сталом да лямпы. Пахла ў хаце парнасцю, тхнула запечным пылам. Ён заўважыў: за трамам пылела праз доўгія

ўжо гады колькі кніг, з тых часоў, як яшчэ яму было калі больш цікавіцца імі, калі яшчэ з арміі некаторыя з іх прынёс ён. А цяпер гаспадарскі клопат — адны яго мужчынскія рукі ў хаце — забіваў у ім увесь час.

Ён падышоў да стала, глянуў у жончын твар. Ён часта спрабаваў уявіць яе сабе ранейшаю, маладою. І не мог. Даўно ўжо яна замужам за ім. Твар яе даўно пачаў блекнуць і старэць. І толькі рабіўся маладым, дзявочым, калі радасць якая ажыўляла яго. Тады вочы яе свяціліся агнямі, разганялася з твару надакучлівая і прыкрая непазбыўнасцю сваёю заклапочанасць.

Калісьці, у зусім яшчэ маладыя гады, калі ён быў удалым цымбалістам, яна была сарамяжаю і ціхаю. Першыя спатканні яшчэ і цяпер хвалявалі яго. Колькі разоў ён, жывучы з ёю, успамінаў той час. Яна глядзела ў адно месца, кудысьці скрозь усё, што было перад вачыма, далей за ўсё, і надоўга клала на твар летуценную ўсмешку...

— Памятаеш, як ты да мяне бегла тады праз поплаў, уцякаючы ад канпані?

Яна пераводзіла вочы на яго, не зганяючы з твару той прывабнай заўсёды дзеля яго ўсмешкі.

— А я крычаў табе: «Хутчэй, хутчэй, дагоняць!» Памятаеш?

Можа, ад яго цяперашняга пільнага зірку яна ўзнімае на яго вочы. Штосьці гэтакае нечаканае ўзбягае на яе думкі, робіць нецікаваю работу. Яна нават крыху адкідае ад сябе сфастрыгаваную з палатном кудзелю і апускае вочы на стол. Думае. Настрой гэты перадаецца і Амілі. Утраіх яны маўчаць. Думкі ці то летуценні пануюць у іх. Думкі — як бяздумнасць. Гэтак доўга. Над дзвярыма ледзьве жыве няроўным стукам сваім старасвецкі, можа, дзедаўскі яшчэ, гадзіннік. Раптам пачынае плакаць меншы Амілін сын. Аміля кідаецца да калыскі закалыхваць яго. Зноў калыханка льецца за вокны, а там яе падхватываюць дубы і пераносяць у сваю гушчырню. Там яна тоне ў роўнай песні ветру. Вецер ідзе ў сваю дарогу.

Даўнейшыя Андрэевы цымбалы вісяць у каморы насупроць акенца без шкла. Ветру, калі ён з гэтага боку, латва кожны раз казлытаць запыленыя струны іх. Цымбалы і цяпер звіняць ціхім звонам.

— Цымбалы звіняць,— гаворыць Андрэю жонка, летуценна гледзячы ў вяршаліны дубоў над страхою.

Яны выходзяць з хаты, у ясную ноч. Восень спіць у бляску зямлі пад срэбрам неба. Дубы гудуць.

Удваіх яны стаяць на вуліцы. Нічога не хочацца гаварыць, а толькі думаць бяздум'ем.

— Ліхі малы, не дае Амілі спакою ніколі,— гаворыць яна, азіраючыся на хату.

— Тут кагадзе быў Бушмар, я гаварыў яму, а ён слухаў,— гаворыць ён.

— Ну? — дзівіцца яна.

Зноў яны маўчаць. У хаце сціхла калыханка. Аміля выбягае ў ноч. Утраіх яны стаяць.

— Цымбалы звіняць,— прыслухоўваецца Аміля.

— Няхай адно хлопцы падрастаюць,— смяецца Андрэй.

Ноч.

## VIII

Вінцэнты ліпеў, як на пакуце. Цяпер яго не мучыў ужо ні смутак, ні якое-небудзь моцнае вельмі жаданне, а была толькі злосць. Старэйшы сын у пачатку зімы зусім выбраўся з хаты, чуць нават не сцураўся бацькі за яго дурную ўпартасць. Сам застаўся ў падсуседзях, хат праз чатыры ад бацькі. На вясну палавіна вёскі ішла на знос, усё перараблялася, зменьвалася. Ён не адступіўся ад усіх. Колькі гаспадароў засталіся адшчапенцамі, і Вінцэнты з імі. Балазе поле іхняе было ў самым кутку, за дубняком, нават наводшыбе крыху. Меншы сын Вінцэнтага тае зімы ажаніўся і ўпарта трымаўся бацькі.

Вінцэнты больш не патыкаў носа на Бушмараў хутар. Ён дрыжаў аднаго: каб Галена нічога не сказала Бушмару пра яго. Бушмар сіберны чалавек, ён можа, засцігнуўшы дзе, адным махам рукі адабраць навек здароўе або і зусім душу выняць. Адно толькі цешыла тут і заспакойвала Вінцэнтага: чуткі ішлі па ўсім наваколлі, што ў Бушмара ў хаце нелады. Калатні няма (Галена не такая жанчына, каб дапусціцца да гэтакай сараматы), але Бушмар знявідзеў яе. Хоць, можа, і не знявідзеў, не можа Бушмар Галены знявідзець, але ж і не будзе яна вельмі любая яму. Бо яна толькі падабалася яму, а сама далёкая ад яго. Яна ўжо рвецца адтуль, ад яго, цяжкога чалавека. Яна ў людзі рвецца. Ён сам чуе далёкасць сваю ад яе, гэтак як і да ўсіх. З таго вар'яцкага вечара, як толькі з'явіўся ён дадому, не ўспала жыццё на дабро, дык гэтак і далей пайшло. Можа, тут і не вінаваты ніхто ў іх...

Вінцэнты гоніць ад сябе сваю трывогу.

Але Бушмар раз такі засцігнуў Вінцэнтага.

Хмурны дзень. Снег сінее паўз лес. Вінцэнты выбіраецца на дарогу з вязкаю вецця. Валёнкі яго мокрыя, нагамі ён ледзьве грабае па вільготным снезе.

— Стой, Вінцэнты,— гукнуў Бушмар.

Гэта было знячэўку. Вінцэнты здрыгануўся. Бушмар ехаў паўз лес аднекуль, з-за лясной завіліны выехаў раптоўна. Вінцэнты спыняецца і дрыжыць.

— Адкуль гэта едзеш, васпане? — выгаворвае ён.

— От я табе зараз скажу, адкуль я еду,— чуе ён Бушмараў адказ.

Дык ён пачынае падлагоджвацца пад Бушмара гаворкаю:

— Гэта я дзеля разрыўкі. Па вецце пайшоў. Ты думаеш, мяне з хаты вельмі выпраўляюць гэта? Барані божа. На сына і на нявестку я не паскарджуся. Гэта я сам дзеля разрыўкі. Дзеля разрыўкі...

Гаворыць слабым, роспачным голасам і глядзіць, як Бушмар злазіць з возка і прывязвае свайго каня да прыдарожнага дубка.

— Дзеля разрыўкі гэта я...

— От тут табе зараз будзе і разрыўка.

Гаворыць Бушмар і з д'ябальскаю ўсмешкаю ідзе да яго. Барада яго зрабілася няроўнаю ад таго, што сціснуты зубы. Бровы ссунуліся і з'ехалі ўніз так, што аж закрылі вочы. Але вочы гэтыя ядуць Вінцэнтага. Ён чуе гэта яшчэ здалёк і спускае на снег вецце. Бушмар, не спяшаючы, бярэ яго за штрыфлі вопраткі.

— Гва-а-алт!.. Васпане, што робіш!

— Пачакай, не гвалтуй.

Яны так і стаяць, упіўшыся адзін у аднаго вачыма,— адзін глядзіць, як агнём смаліць, другі міргае і пускае паабапал носа дзве слязіны.

— Дык цябе сын не выпраўляе па вецце?

— Барані божа, гэта я сам дзеля свае разрыўкі.

— Добры ж твой сын. Гэта гэты, што ажаніўся нядаўна?

— Але, гэты самы.

— Каго ж ён узяў?

— Узяў, далібог...

— Чаму ж гэта ён мае жонкі не ўзяў?

Вінцэнты прысядае каленьмі на снег, і галава яго, як вялая, звешваецца набок. Бушмар арудуе не спяшаючы. Ён як трымаў за штрыфлі Вінцэнтага, так нясе яго перад сабою і з размаху кідае аб дрэва.

— Гык! — абазваўся адно Вінцэнты і ўткнуўся плечуком у снег. Шапка з галавы яго з'ехала, і галава лягла на яе.

Бушмар па-вар'яцку глянуў на Вінцэнтага і, усё таксама не спяшаючы, сеў на воз і свіснуў над стаеннікам пугаю.

## IX

Бушмара ўзяў одум тады, калі ён ужо ўз'ехаў на свой двор. Тут ён затрапятаўся. «Забіў ці так адно прыглушыў, але гатова пачацца ўсё як пасля таго райвыканкомаўца». І як ні находзіла цяпер на яго часта абыякавасць да ўсяго, у гэтую вострую хвіліну ён мацней, як заўсёды, цяпер пачуў прынаднасць і водыр гэтага сіняга снегу, і гэтага дубовага шуму, і смольнага паху з зімовага лесу.

Бушмар кінуўся да стайні, выпраг каня і вымасціў вазок у далёкую дарогу. З вялікай непярплівасцю чакаў ён вечара. Быў сам не свой, выбягаў з хаты глядзець, ці не меркне над лясамі дзень, колькі разоў падсыпаў каню перад дарогаю аўса...

— Я паеду да брата,— сказаў ён Галене.

— Чаго гэтак раптоўна?

— З'еду на нейкі час.

— Чаго? — устрывожылася яна.

— Трэба мне з'ехаць адсюль.

Яна застыла перад ім у маўклівым чаканні.

— Я ці не забіў гэта адно Вінцэнтага.

— Калі?

— От цяпер.

— Дзе?!

— Ай!

Ён адмахнуўся ад яе рукою, як ад якой назолы, сярдзіта пранізаў яе зіркам.

— Ты заўсёды сам сабе бяды наробіш. Сам заўсёды няшчасце на сваю галаву...

— Маўчы! — грукнуў ён страшным голасам.— Праз цябе гэта ўсё!

— Праз мяне?!

— А праз каго ж! Ты мне калі прызналася, што ён даходжваў сюды ці прысылаў свайго сына? Што тут насупроць мяне ўсё падстройвалася...

Галена стаяла белая як палатно.

— Калі ты мне прызналася, што ён цябе падгаворваў

кінуць мяне! Адразу не сказала, як я толькі прыйшоў, а ў паўзімы прызналася!..

— Не было ў чым мне прызнавацца.

— Мусібыць жа было, калі не прызнавалася, калі адразу не гаварыла!

— Як жа я магла гаварыць тады пра такія рэчы, калі ты якім быў тады, у той першы вечар?

— Маўчы, у маёй галаве цяпер увесь свет пераварочваецца. Мяне за сэрца смокча. Маўчы, калі хочаш, бо зараз і цябе заб'ю!

— Мяне? Завошта?!

— За ўсё!

— Нашто ты кідаешся гэтакімі словамі?

— Ай!

Ён страсянуў рукамі і выбег з хаты. Пасля вярнуўся яшчэ, падбег да калыскі, паглядзеў на сына. І адтуль ірвануўся зараз жа, як бы ён зрабіў які нядобры гэта ўчынак.

Сінеў вечар. Бушмар запрагаў каня. Галена на ганку плакала. Бушмар не бачыў гэтага. Ён шпарка пагнаў каня ў дарогу. За лесам, дзе павінен быў ляжаць забіты Вінцэнты, Бушмар пусціў каня паволі. Ён азірнуўся. Нікога нідзе не было відаць. Змрок гусціўся ў кустах і пад дрэвамі. Ён звярнуў пад тое месца і ўгледзеўся. Вінцэнтага не было. Дзіўны след, цэлая дарога раўчуком цягнулася напрамік цераз поле да сцежкі ў вёску.

— Жывы,— мармынуў Бушмар,— папоўз дадому.

Яму не стала ад гэтага ні цяжэй, ні лягчэй. Але ён пасмялеў. Сцёбнуў каня і памчаўся цераз вёску. У Вінцэнтавай хаце, як і ва ўсіх, не было ні вялікага святла, ні руху.

— Каб памёр, дык варушыліся б каля яго,— сказаў пад нос сабе Бушмар і прамчаўся вёскаю. Галас дагнаў яго ў чыстым полі. Ён прагнаў сабаку дадому. Каня гнаў так, як бы пагоня насцігала яго.

## X

Вінцэнты ачомаўся надвечар. Снегавы холад абудзіў яго. Вельмі балеў левы бок і плячо. Нават зварухнуцца было цяжка. Ён папробаваў крычаць, але не мог. Замест голасу было штосьці нялюдскае, немагушчае. Ён ляжаў гэтак і калаціўся ад холаду. Разам з тым гарачка туманіла галаву і ламала калені. Разгаты дуб упіраўся над ім у

неба. Вецер не даваў спакою. Вінцэнты зноў пачаў траціць прытомнасць, але востры струменьчык думкі на момант устрасянуў яго. Ён зрабіў нечалавечы рух балючым целам і сяк-так перакінуўся на другі бок, пасля лёг на жывот. Грудзі ўехалі ў цяжкі снег. Уткнуўся ў яго і твар. Цяпер стала яшчэ горш. Ён так пабыў, пакуль адсопся, і папрабаваў паўзці. Ногі былі здаровыя, ён імі ўпіраўся ў снег і гэтак патроху браўся наперад. Так выкіроўвацца пачаў на сцежку. А там ужо шукалі яго.

Тым часам каля сцежкі ён зусім страціў сілы і прытомнасць. Як бралі яго пасля на сані, яму здавалася, што гэта Бушмар, дробны паўпанак, саджае яго ў свой фаэтон, а ён не хоча лезці: «Я яго ніколі ля касцёла за лакаць не трымаю, у яго нават свайго лёкая няма. І не гонар мне ездзіць у яго фаэтоне, ды яшчэ разам з ім». У хвіліны прасвятлення думкі ён шаптаў:

— Гэта ён, гэта ён.

— Хто і што? — пыталі ў яго.

— Ён, ён,— шаптаў ён і не мог сказаць — «Бушмар».

Дома ён упаў у вялікую гарачку. І ўсё сухімі губамі шаптаў, крывячыся ад болю:

— Вяльможны пане, не турбуйцеся. Калі вяльможная ласка...

Аж сыну яго і нявестцы было прыкра.

Тады былі месячныя ночы. Суседзі выйшлі на тое месца — гаварылі, што навокал санных і пешых слядоў шмат. Убачылі, што праўда. І здагадвацца тады ж пачалі — след павёў якраз у Бушмараву дарогу. Але за якую крыўду Бушмар мог абязвечыць гэтак старога Вінцэнтага? Прычына нікому нават і на думку не магла ўзбрысці.

Ціхая была зіма. Сляды там на снезе засталіся надоўга.

Доўга Бушмараў след чуў на сабе і Вінцэнты. Не спадзяваліся нават, што ён выжыве. Страшна стала хрыпець у яго ў грудзях. Але стары быў жывучы, як кот. Пад вясну сяк-так узвалакацца пачаў на ногі.

— Бушмар? — запытаў раз быў сын, калі бацька весялей глядзець пачаў на свет.

— Але.

— За тое?

— За тое самае.

І між імі стала маўклівая згода. Абодва думалі, як адпомсціцца і каб людзі не ведалі, з чаго ўсё пачалося. Стары патроху дужэў. Сонечнымі днямі, пад вясну, вывала-

кацца пачаў ён на двор. Ён бачыў і чуў навокал рух з'іначвання свету. Але ён спачатку не думаў ні пра што — дзякаваў бога, што сяк-так выскрабся ад хваробы. Пасля ж, калі пачуў у сябе больш сілы, ранейшая злосць пачала варочацца да яго. Ён хадзіў як атручаны.

Ён усё прапыткоўваў па людзях, дзе што чуваць на свеце, ці не гаворадь дзе пра што добрае, ці не ідуць адкуль навіны. Ён цікавіцца пачаў кожным новым чалавекам, але з сваімі, тутэйшымі людзьмі, не лішне трымаўся блізка. Дрэнна чуў ён сябе тут. Брыдкая была тая зіма!

Ён прыслухоўваўся і прыглядаўся, што робіць і дзе паварочваецца Бушмар. І чуў тут прыемныя навіны. Бушмар, казалі, бунтуецца. Хтосьці недзе чуў, як ён грозіў некаму, нібыта гаварыў, што жывым у рукі не дасца, што страсяне ўсю акругу і вялікі след па сабе пакіне...

Дакладна гэтага ніхто не сцвярджаў, але гаворкі былі. І гэта хоць трохі ды цешыла Вінцэнтага. Ён гэтым толькі і жыў цяпер.

Брыдкая была зіма.

Нудна было на свеце.

Пра Бушмараў хутар Вінцэнты больш не думаў. Сама думка гэтая аж сцепала яго.

Так жыў ён і пакрысе ачуньваў. Усё ішло паволі, цягнулася гэтак марудна!

## XI

Бушмар усё больш пачынаў нядобра пачуваць сябе пад зіркам Галеніных вачэй. Зірк гэты пакрысе ператварацца стаў з па-жаноцку хітрага, гуллівага ў цвёрды і нават жорсткі. Яна як бы загадвала яму гэтым зіркам. Ён ні то што баяцца пачынаў яе, а чуў у Галене штосьці яе ўласнае, што ніколі не страціцца ў яе, ніколі не падначаліцца пад чужое.

Яна часта падносіла яму сына:

— На, паглядзі. Бачыш, у яго бровы такія, як у цябе, робяцца.

— Але,— гаварыў ён, дакранаючыся пальцамі да незарослага цемя дзіцяці.

Ён сам пачынаў чуць, як цяжка разбурыць той холад, які з'явіўся між імі з таго самага вечара, калі вярнуўся ён з астрога, і з таго вечара, калі ён, абязвечыўшы Вінцэнтага, уцякаў да брата. Пасля гэтага вырасла вельмі; калі ён вярнуўся праз тыдзень ад брата, яна сказала яму:

— Ну, заб'еш ты мяне ці не?

Ён маўчаў.

— Скажы.

— Нашто табе гэта?

— Хачу ведаць. Калі гэта ты праўду тады сказаў, дык я не буду чакаць, а забяру дзіця і пайду.

— Ты, мусіць, хочаш давесці мяне да гэтага, калі ўспамінаеш наўмысля, што я калі сказаў.

Ён ведаў, што яна гэта здзекуецца з яго, помсціць за яго неабдуманае слова. Бачыў, што яна нідзе ў крыўду не дасца, што яна нават за слова дараваць не хоча. І гэта рабіла яе дзеля яго больш, як калі, прынаднай, але ж больш, як калі, і далёкай. Прыкрасць да ўсяго вырастала ў яго. І горш за ўсё было тое, што ён цяпер пачынаў думаць, прынамсі, несвядомае з'яўлялася імкненне дзесьці ў істоце дазнацца, дзе пачатак гэтай варожасці між ім і Галенаю. Варожасці, якая за кароткі час апрыкрыла ім абодвум, але ж і пазбыцца якой было нельга. Але пачаткі думак гэтых прападалі, ледзьве з'явіўшыся.

Былі ў іх і лепшыя хвіліны. Часамі, пасля даўжэзнай маўчанкі, яны пачыналі гаварыць пра што-небудзь не вельмі важнае і цікавае для іх цяпер абаіх. Раз, напрыклад, яна сказала:

— Мусіць, шчэпы ў садзе павымярзалі, ніхто не абгледзеў іх на зіму.

— Не да гэтага было,— буркнуў ён, але чамусьці ўзняў на яе вочы.

Мусіць, штосьці было ў голасе яе цяпер, што нагадала ранейшы час іх, калі яшчэ ён толькі паглядаў з акна, ці не доўга бавяцца каля хаты хлопцы, а яна хвалявала яго бляскам вачэй.

І яны цяпер пачалі гаварыць пра ўсялякую драбязу, маючы асалоду не з гаворкі, а з нейкай згоды між імі. Але гэта сапраўды была толькі згода. Больш за ёю нічога не было. Так гэта і праходзіла, як з'яўлялася. Без следу і карысці.

Затое часамі Бушмару было абыякава ўсё — і халоднасць жонкі і нелады навокал яго. Хоць з гэтага ўсё нараджалася, але засланяла сабою першапрычыну і само вырастала ў ім і поўніла сабою ўсё. Гэта часта было, і заўсёды тады, калі Бушмар пакідаў за сабою ўсё і быў адзін. Апошні раз гэта было перад самым канцом зімы, і той раз яно скончыла ўсё ранейшае.

Зіма тады канчалася рана. Яшчэ ў канцы лютага збі-

ралася пад снегам вада, і дарогі пачалі прападаць. Бушмар надвечар прыехаў ад брата. Страшна змарыў, аж да пены, свайго стаенніка. Сам прамок на імгле і быў злосны. Гнаў каня па прабоінах і замакрэлых ухабах і нікому не з'язджаў з дарогі (гэта і заўсёды меў ён сабе прывычку гэтую). Дома якраз іскра папала ў порах.

— Нашто ты гэтак каня морыш, улегцы едучы? — сказала Галена.

— Што табе да каня. Маўчала б!

— Чаму маўчала б?

— Таму што... К д'яблу!

Увайшоўшы ў хату, ён заўважыў, што Галена кудысьці збіраецца. Ён моўчкі глядзеў, што з гэтага будзе. Яна раптам пакінула свае зборы і лягла спаць.

— Ага,— загаманіў ён, дзіка і ўрачыста смеючыся,— пастрашыла. Ну што, пастрашыла?

— Слухай,— абазвалася яна,— я цябе не страшыла і страшыць не думаю. Дый не такі ты чалавек, каб цябе можна было чым устрашыць. Да цябе ніякі страх не прыстане... Ты сам бачыш, што — якая гэта наша жытка! Гэта каб увесь век у гэтакім пекле жыць? Лепш мне пайсці адсюль. Я даўно гаварыла пра гэта з людзьмі. І з Аміляю гаварыла, і шмат з кім там гаварыла. Туды я пайду.

— Дык ты ўжо гаварыла?! Даўно ўжо думала пра гэта?! У маёй хаце ўсё гэта робіцца, а я нічога не ведаю!..

Ён крычаў і тупаў нагамі.

Ён праспаў тую ноч у кухні на лаве, а раніцою знік з хаты, каб не бачыць, нічога не чуць. Ён стаяў на ўзлеску, адзін, пануры постаццю, але не пануры тварам цяпер. Як звер, якому дзесьці здалёк запахла воля. Ноздры яго раздзьмуліся, бровы ссунуліся, і з-пад іх вочы свідравалі ветравую далячынь. Высокая, чуць сутулая постаць яго доўга ўзвышалася на ўзлеску.

Там, на сонцы, снег пазыходзіў, і леташняя трава зяляніла свае вяршкі. Адзін кусцік яе, маладзы, веснавы, бялявы, папаў пад Бушмараў бот. Падкаваная набойка глыбока ўвагнала яго ў зямлю.

Пакуль не вярнуўся, Бушмар не думаў, зусім забыўся на сваю хату і Галену з сынам.

У тую ж ноч Вінцэнты, адхаяны сынавым доглядам, падпаліў Бушмарава гумно. Ноч была без ветру, і гумно згарэла ціха, як свечка. У ім згарэла шмат Бушмаравага набытку.

Тым часам Вінцэнтаму падпаліць гумно не было лёгка.

Ён колькі разоў варочаўся з паўдарогі, ад страху, пасля зноў ішоў. Ён цягаўся ўночы доўга, плюхаўся па мокрым снезе, правальваўся па калені ў ваду, падыходзячы да гумна паплавамі. Нарэшце, калі прытуліўся за гуменным вуглом, пачаў шпарка жагнацца. Ткнуўшы агонь пад навіслую нізка страху, ён з усіх сіл кінуўся наўцёкі. Колькі разоў праваліўся па дарозе і ўвесь вымак у ледзяной вадзе да апошняй ніткі. Дадому ён не пайшоў проста дарогаю, а даў кругу паўз лес, каб не папасціся на людскія вочы — на пажар зараз жа пачалі бегчы. Тут ён ірваўся, каб падпаліць Андрэеву хату, але рух людзей па дарозе перашкодзіў яму. Змучаны і змочаны, дапаў Вінцэнты да хаты. Палез на печ, укрыўся кажухом і хваравіта задрамаў. Назаўтра прачнуўся ён у гарачцы. Прахварэў нешта з тыдзень і сканаў.

Бушмар жа наказаў брату, каб той прыехаў. Брат вохкаў і бедаваў, але не так па тым, што ўцякла Галена, як па тым, што згарэла гумно.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### I

Свет быў шырокі і вольны. У дзіцячым сэрцы нараджалася, расло і жыло захапленне ім. Кожны пражыты дзень даваў большае ўсё ўведванне свету. Так раслі два браты.

Часамі старыя жанчыны, бабулі калгасаўцаў, ківалі галовамі, пускалі нават, калі-нікалі, слязу, божкаючы:

— Ай-ай, за жывым бацькам, бацькі не ведаюць. От пайшлося ім як небаракам.

Аміля тады не перапускала:

— А на чорта ім гэтакі бацька!

Галена ж, тая адно падміргне тады слязлівай старой:

— А яны ж гэта і нарадзіліся без бацькі.

— Без бацькі? А-ёй!

— Але. От надумаліся ды і нарадзіліся.

І тады да Амілі:

— Ну што ім канечне растлумачваць! Ты гавары таму, хто ўразумее тваю гаворку.

Тады і Аміля засмяецца, радасна гляне на сваіх сыноў. Галена ж, калі скончана работа, заўсёды пяньчыцца з усімі трыма. Часамі да трох далучае яна чацвёртага — Андрэевага. Андрэй тады жартуе:

— От мацярок у маіх сыноў!

Ён жартам заве іх усіх сваімі сынамі. Жывуць яны не разам, але блізка — цераз сенцы. У сенцах яшчэ падлога пахне свежаю смалою, і яны яшчэ не застолены. Робіцца ўсё не адразу. Цяжка ў адзін год зрабіць усё як ёсць. А яшчэ цяжэй было зламаць дурную ўпартасць некаторых суседзяў:

— Як жа я пакіну, калі гэта маё?

— А там жа будзе ўсё тваё гэтак як і ўсіх.

— Калі ўсіх, значыцца, не маё.

— Бушмар ты,— смяяўся неспакойным смехам тады Андрэй.— Гэтае «маё» даводзіць вось да чаго чалавека.

Само слова «Бушмар» было ўжо словам незвычайным. Яно ўжо кожнаму тут гаварыла пра звярыную нялюдскасць, пра здзек над усім, што не ён сам і не яго. Пра тое, што не можа навокал яго, пакуль ён пануе, абысціся так, каб не было пакрыўджаных, каб не было слёз людскіх. Тыя ж самыя бабулі божкалі і ўздыхалі, што гэта бог даў чалавеку гэтакую натуру, можа, за якія грахі яго ці нават бацькоў яго. Мужчыны ўсе і маладшыя жанкі смяяліся з гэтакай «божае кары», але ўсё ж некаторыя гаварылі, што «натура гэта такая ў чалавека», і толькі. Тым часам былі і яшчэ адны, якія іначай тлумачылі Бушмара. Да іх належаў і Андрэй, але першы як мае быць выказаў гэта не ён. Трымаўся тут вельмі блізка Андрэя заўсёды (а цяпер выйшла наадварот — Андрэй стаў блізка трымацца яго — той набываць пачаў сілу ў сваёй дзейнасці) адзін хлапец. Ён на хутарах за лесам змалку пасвіў каровы, служыў нават год на Бушмаравым хутары. Яго неўзаметку пачалі заўважаць, як пачаў вырастаць тут. Бацькі яго ў вайну ўцяклі недзе з-за Вільні сюды і тут змерлі ад пакутных невыгодаў жыцця, а малы неяк выкідаўся. Так на людзях і ўзрос. Звалі яго Уладзем; ён, калі яшчэ малым пастушком быў, зблізіўся неяк дзіўна з Андрэем, якога тады пачаў зваць дзядзькам. Раз Андрэй ішоў паўз лес і ўбачыў быў, як на дарозе стаіць і не варушыцца, як аслупянелы, малы хлапчук. Падышоўшы бліжэй, ён пазнаў «бежанскага Уладзю». Ён глядзеў у адно месца, кудысьці ў поле, і маўчаў. Каля вачэй у яго была чырваната, як ад нездароўя, або бессані, ці ад слёз. Было тады холадна, восень, і ён, відаць, мёрз.

— Чаго ты гэтакі? — запытаў Андрэй.

— Кароў гляджу,— адказаў той.

— Дзе ж твае каровы?

— Недзе пацягліся.

І хлапчук пачаў плакаць.

— Чаго ты?

— Бушмар чуць не забіў мяне.

— Завошта?

— Карова закульгавела, дык ён крычыць, што гэта я не даглядзеў. Раніцаю сёння сукаватым паленам па шыі біў, схаваў мае лапці, нарочна, каб я мёрз,— гэта табе, кажа, навука.

Андрэй глянуў на босыя Уладзевы ногі. Праўда, што яны аж пасінелі з холаду.

— У мяне была адна запалка, але патухла, як я хацеў раскласці агонь.

Андрэй неўзабаве прыслаў яму з дому свае лапці, а праз колькі дзён падгаварыў кінуць Бушмара і перайсці ў вёску. З таго часу Уладзя пачаў мець Андрэя як за бацьку.

У той меры, як Уладзя рос на людзях, ён сам заўважаць стаў, што дачыненні яго з Андрэем неяк зменьваюцца. Калі дзялілі панскую зямлю і калі Андрэй на гэтую зямлю першы павёў вяскоўцаў, Уладзя тады ўжо быў як бы нават дапаможнікам Андрэевым. Ён ні то што дзейна дапамагаў яму, а чуў сябе, што як бы гэта ён сам усё гэта робіць. Ён тады ўжо быў сказаў Андрэю:

— А Бушмару нашто гэтулькі лесу?

Ён чуў, як расце ўсё больш і больш у ім страшэнная нянавісць і да Бушмара, і да ўсіх тых гаспадароў, што трымалі яго тут за пастуха. Нават адзін з іх, калі дзялілі вяскоўцы панскую зямлю, вытknуўся быў на сваю мяжу і з хітраю ўсмешкаю сказаў:

— Што ж, зямлю вы берherаце, балазе пан уцёк. І лес панскі папрабавалі зачапіць. Але маладцы, што лазу пакінулі, не выцерабілі.

— Чаму? — гукнуў Уладзя, чуючы ў гэтым паўпанкавым слове нейкую, няясную яшчэ, страшную крыўду.

— А таму, што калі вернецца пан, дык будзе чым вас сцёбаць.

Уладзя сціснуў кулакі і падаўся бліжэй:

— Маўчы, гадзіна!

Дык той злосна заенчыў:

— А-а-а, глядзі ты! Гэта ты гэтак дзякуеш, што цябе выгадавалі чужыя людзі, што не даў і я табе прапасці на чужой старане!..

— Мая старана ўсюды, дзе я стаю на зямлі.

— Усюды? А от цяпер стаіш на маёй мяжы. Вон!

Уладзя быў тады яшчэ недарослы дзяцюк. І повен ён быў хлапечага задору. Ён тады наўмысля пайшоў упоперак цераз забаранаваную хутаранскую ярыну, а хутаранец, скамячыўшы губы, схапіў яго за плечы. Андрэй рагатаў, стоячы ў мужчынах. Уладзя вылузаўся з хутаранцавых рук і пайшоў назад смеючыся.

Другі раз была ў яго сутычка з Бушмарам. Тут было менш гаворкі, але больш яшчэ выразнасці. Гэта ўжо тады, калі надышла пара зачапіць хутаранцаў. Уладзя сказаў быў пра Бушмараў хутар:

— Вяльможныя паны ўжо ўпарадкаваны, цяпер пара зачапіць звяроў.

Бушмару хтосьці сказаў пра гэта, і пры спатканні з Уладзем ён, звер, пранізаў зіркам яго. Уладзя прыпыніўся і таксама не спускаў вачэй з Бушмара. Так прастаялі яны колькі момантаў. Хто каго пераможа? Але ўсё ж Бушмар заўсёды абмінаў думкамі Уладзю, можа, таму, што прывык ён дагэтуль бачыць яго хлапчуком? А мо таму, што яму проста страшна было чуць у гэтым хлапчуку варожую сілу, што раптам вырасла. Вобразам гэтай сілы паўставаў перад ім Андрэй.

Дык вось гэты Уладзя сказаў цяпер быў раз пра Бушмара. Ён гэтае разуменне сваё вынес яшчэ з суду, у якім быў тады, калі судзілі Бушмара і за збойства райвыканкомаўца, і за буйную высечку лесу, і за ўсё іншае. Пра Бушмара тады абвінаваўца гаварыў доўга:

«Бушмар — вынік, аканчальны лагічны вынік ляснога спрадвечнага хутара. Гэта звер, навокал якога павінны быць пакрыўджаныя. Інакшай нельга, пакуль жыве на свеце Бушмар. Навакольны лес і дзікі хмызняк валодае Бушмарам, а праз яго адвечная прыродная дзіч спрабуе авалодаць усімі тут людзьмі. Бушмар, каб і хацеў, не можа даць рады ні лесу, ні хмызняку — засталася ж навек няскончанаю дзеля яго раскарчоўка прылеску! Бушмараў лад — гэта пастка і вечная вайна, бо ж нават з сваім, можна сказаць, жыццёвым братам — Вінцэнтым была ў яго смяртэльная спрэчка. У звяроў заўсёды ў адным нават логаве — вайна... Вось ён жыве на свеце, жыве спрадвеку, робіць нават гісторыю свайго часу, гісторыю крыўдаў слабейшых, ад якіх маюць крыўду яшчэ слабейшыя... Чалавечая гісторыя нялюдскасці! Дзе расплоджваюцца звяры і каля іх чэрві!»

## II

Андрэй за гэтыя гады пастарэў крыху, але не змяніўся. Засталася ў ім і яшчэ больш асталявалася мяккая жартаўлівасць і, дзе трэба, ясная цвёрдасць. Ён крыху меў натуру іншую, як Аміля, а можа, гэта не натура, а проста іншае дачыненне да ўсяго. Ён увесь падаўся быў у клопат за ўсю тую справу, якую тут рабілі, адкінуў нават ад сябе неспакой за ўсялякую сваю ўласную гаспадарскую драбязу. Тут ён зусім свядома вучыцца пачаў у Уладзі. Той бязлітасна кпіў з «усялякае мышы ў сваёй цеснай нары», жыў апошнія гэтыя гады гэтак, што старыя нават навучаць яго браліся:

— Гэтакі ты ўдалы хлапец, а вецер у тваёй натуры нейкі ёсць. У гады ўбіраешся, дык пара табе пра сябе падумаць. Паставіў бы ты сабе хату, узяў бы зямлі, меў бы сваю сям'ю, як усякі чалавек...

— Няма зямлі,— аджартоўваецца ён.

— Мала?

— Мне мала. Мне каб усяею заўладаць.

— Дзіўны хлопец,— гаварылі адыходзячы,— от усё жартамі абыходзіцца.

А пасля хтосьці кінуў на людзі здагадку:

— Ён гэта сабе хлеба лёгкага шукае. Службы дзе якое.

— Вось гэта яно і ёсць,— сказаў быў ён раз на гэта, смеючыся.— Хачу нічога не рабіць і добра жыць.

— От зноў жартуе!

А тым часам Уладзя вырас зусім, больш яшчэ пасталеў, больш зблізіўся з Андрэем. Стаў ён рослым і моцным, і хто ўспамінаў таго ранейшага хутарскога пастушка, дык гаварыў:

— От як вырастае чалавек.

Яны з Андрэем і ўзялі на сябе ўвесь той цяжкі клопат — арудаваць з людзьмі, з зямлёю, з дзікім хмызняком, з трухлінаю старых хат... Калгас зрабілі увосень, калі рыхтаваліся сеяць жыта. І ўсе гады пасля гэтага даводзілі яго да ладу. Кожны год вырастаў на ўзлеску новы вялікі дом, туды перабіраліся патроху кожны год людзі, і шмат хат ішло на знос. Цяпер гэта рабілася радасна, ахвотна, але першы раз одум браў некаторых:

— Увесь век гараваў, гараваў, збіраў па саломіне, і нават котла роднага адцурацца трэба.

Аднак ішлі, бо, шкадуючы чагосьці невыразнага ў старым, пачыналі ўжо баяцца яго.

Гэтак вось і Аміля спахмурнела была, калі чарга прыйшла і да Андрэевай старой хаты:

— Мне не шкода гэтых катухоў і пакут ранейшых, але так нешта, я і сама не ведаю, што гэта.

Андрэй, можа, і зразумеў яе, але нічога сказаць не мог іншага, як толькі:

— Гэта так з чалавекам бывае.

Але Уладзя пасля сам загаварыў пра гэта з Аміляю:

— Гэта ведаеш што? Гэта спадчыннасць старая. Гэта, калі хочаш, дык рэшткі бушмараўшчыны, якія спрадвеку ўкараніліся ў нас. У таго больш, у таго менш, але яны ёсць. Табе гэта не шкада трухлявага кута гэтага, але ты тут жыццё, хоць цяжкае, пазнала...

— Тут я ўспамінаю пра ўсё, што было, тут паўміралі бацькі, тут...

— Вось гэта самае. Але мы роднае нам возьмем з сабою, а непатрэбнае адкінем.

Уладзя бываў цяпер шмат на людзях, даводзілася яму і далёка выязджаць адсюль, ён меў цікавыя сустрэчы, чытаць пачаў шмат, гадаваў у сабе новую нейкую чалавечую імклівасць, часта задумваўся і навучыўся гаварыць новае тут, у гэтых лясах. Ён гаварыў з Аміляю:

— ...Нам от, можа, і думаецца часам пра ўсё гэта вось так, як ты кагадзе гаварыла. От жоравы ўвосень ляцяць, і мы чагосьці шкадуем. Нам, можа, шкада бывае яшчэ, што калі вось усюды будзе поле выробленае, калі згладзім мы з зямлі ўсе дзікія зараснікі, выкарчуем дзікія ўзлескі — і жоравы тады пазводзяцца ў нас, не будзе ім дзе тады вясціся, і не будуць тады яны курлыкаць увосень, не будзем мы бачыць тады і чуць гэтага іх лёту ўвосень ці ўвясну. Нам часам і шкада ці то якраз гэтага іхняга лёту, ці то чаго іншага разам з гэтым...

— Бо мы прывыклі да гэтага,— здагадалася ўсмешкай Аміля.

— Прывыклі, з гэтым мы жылі, выраслі. Гэта было разам у нас з уцехамі і з слязьмі.

Аміля думала і маўчала.

— ...Я ж ведаю, што прыйдзе штосьці новае, што будзе дзецям нашым ды і нам яшчэ такім, з чым нам таксама будзе не лёгка адразу, каб прыйшлося разлучыцца. Новы час нясе і ўсё новае. Толькі што яно не будзе для нас часта, а то, можна сказаць, заўсёды цяжкім, як было ўсё дагэтуль.

Ён гаварыў доўга і цешыў Амілю гэтым сваім новым

дзеля яе, чалавечым, словам. Яна аж захапілася гэтым, пачула ў сябе прылівы непераможнай радаснай сілы.

— Нашы дзеці ўжо не будуць гэтакімі,— зноў здагадалася яна.

— Толькі нам трэба, можа, нават дзе і з цяжкасцю, назаўсёды адвязацца ад старога. Вырваць яго з сябе. І дзеля сябе і дзеля дзяцей трэба, каб мы гэтую работу рабілі. Я от табе скажу гэта адным словам — забіць і вытруціць бушмараўшчыну. Табе гэта вядома добра, бо ты ж сама доўга была жыла ў самай бушмараўшчыне...

Ён гаварыў як бы не адной толькі Амілі. Пасля змоўк і пра штосьці думаў. Доўга гэтак стаялі ў старой хаце, што дажывала апошнія дні свае. Пасля ён, як бы адумаўшыся, глянуў на Амілю. У яе ружавеў ад узбуджанасці твар, яна была рада гэтакай гаворцы. Тады на адвітанні Уладзя моцна сціснуў яе руку. І першы раз, зусім іначай, як дагэтуль, яны паглядзелі адно аднаму ў вочы.

## III

Як жа жыў цяпер Бушмар? Каб не збегла тады была ад яго жонка, ён, можа б, і яшчэ сяк-так трымаў бы добрага таго каня свайго, можа, па-воўчы б гаспадарыў на сваім куце, які яму пакінулі. Але, застаўшыся адзін, ён, як ні стараўся, не мог даць рады. Брат да яго прыязджаў часта. Бушмар раз пачаў раіцца з ім, каб як гэта зноў ажаніцца. Брат параіў яму:

— Гэта то трэба, але бяры сабе жонку па сваёй натуры. Бо табе ўжо наверыла абы-якая жонка.

Дык ён так заставаўся адным, не могучы дабраць сабе жонкі. Да якой хутаранкі і сватаўся, дык не лішне ўжо квапіліся ісці за яго — слава пайшла пра яго гэтакая, гэтак гаварылі пра яго ранейшае жыццё з дзвюма жонкамі, што ён толькі адно думаць пачаў.

Тады, адразу пасля таго, як уцякла Галена, ён быў дадумаўся засцігнуць дзе ды прыбіць яе. Пасля думка гэтая перайшла на Андрэя і на гэтым закаранела. Ён пачаў цяпер варушыцца гэтак, як калісьці варушыўся Вінцэнты. Толькі той ліслівенька да кожнага падыходзіў, а гэты свае воўчай панурасці не траціў. Нават раз Бушмар як мае быць падумаў: «Дарэмна я тады чуць не абязвечыў Вінцэнтага і адагнаў яго ад сябе. Не паслухаў яго тады. Добрым хаўруснікам мог бы быць, каб паслухаў тады яго».

Ён усё раздумваў пра гэта, чмыхаў, аж стукаў нейк носам, корпаючыся ў сваёй мярлозе. Часамі нават перасільваць пачаў сваю ваўкаватасць і даходжваць да тых хутароў, што засталіся яшчэ наводдалек. Але ўсё ж там людзі не мелі з ім адных інтарэсаў — там яны з калектывам змагаліся, але са «сваім», іншым. Тады абмацаў Бушмар сяброўства паблізу,— меншы Вінцэнтага сын, той самы, што мерыўся ўзяць Галену і асесці на яго хутары, не адапхнуў яго ад сябе. Ранейшае было забыта. Там яшчэ хат чатыры было гэтакіх, што не пайшлі разам з усімі, а ахоўвалі ўсё яшчэ сваю ўласную гаспадарку, на якой «сам сабе панам». Гэта — з таго краю вёскі, некаторыя нават перанеслі на сваё поле (было яно якраз наводшыбе) хаты і аселі дробнымі асэсарамі. Чакалі ўсё «змены ўлады», а найбольш, «што палякі прыйдуць». Там Бушмар і бываў цяпер часта. Першыя часы яны з Вінцэнтавым сынам зрабілі былі выгляд, што нічога прыкрага між імі не было, а пасля гэта, вельмі хутка, стала абыкласцю, і ўсё ранейшае забылася. Бушмару ўсё ж часамі ўзбягала на думку тое, як Вінцэнты ляжаў прыбіты пад дубам, уехаўшы плечуком у мокры снег. Раз нават ён, як бы апраўдваючыся, загаварыў пра гэта з сынам Вінцэнтага. Ён пазайкаўся крыху, выразна не могучы выказаць тое, што хацеў. А гаварыць трэба было асцярожна. Вінцэнтага сын падумаў быў, што гэта Бушмар выгаворвае яму за Галену, і сам штосьці заблытаў словамі. Так яны абодва змоўклі і па той раз маўчалі пра гэта. Бушмар, ходзячы сюды, ні то што гэта вельмі хацеў бачыць гэтых людзей ці гаварыць з імі. Але ён чуў, як у ім рабілася нейкая работа і пасля як мае быць (чаго раней з ім ніколі не было!) меў у галаве сваёй нават план нейкі сваёй дзейнасці. Нейкая рыса з'явілася ў ім новая, як бы ўкрадзеная ад нябожчыка Вінцэнтага. Гэта было штосьці падобнае да хітрасці, хоць і не хітрасць. Ён усё бліжэй трымацца пачаў Вінцэнтага сына. А той таксама штосьці трымаў у галаве сваёй, часамі даходжваючы туды, дзе ля лесу бялелі новыя калгасаўскія будынкі. Там, у старэйшага свайго брата, цяперашняга калгасаўца, ён гаварыў і пра нейкае парабкоўства ў кагосьці калгасаўцаў, і пра нейкую паншчыну, якая нейкім робіцца. Старэйшы брат усміхаўся з гэтага, але нарэшце дадаваў сваю думку пра гэта ўсё:

— Хто дужшы, той прутшы.

— Вось гэта і я кажу. Бацька тады разумна стараўся выдзеліцца невялікім гуртам...

Яны ўспаміналі бацьку, гаварылі пра Бушмара (хоць хутара яго больш не ўспаміналі).

Пасля адзін раз Бушмар нешта доўга не пайшоў да Вінцэнтага сына і яго суседзяў. А праз тыдзень які ён з'явіўся да першага ад лесу калгасаўскага дома і пастукаў у акно. Выйшаў з дому другі Вінцэнтага сын. Вечар быў, цёмна. Дарога праз лес была аж чорнаю. Два мужчыны падаліся скрозь паўз лес і поле, ішлі паволі і гаварылі пошапкам.

Зайшлі аж на Бушмараў хутар, а пасля назад. З таго часу калі-нікалі яшчэ заходзіў гэты калгасавец да Бушмара. Прыходзіў ужо смела і другі Вінцанцюк, а часамі і яшчэ хто-небудзь з тых падлесных новых хутаранцаў аціраўся тут.

Раз Бушмар і з Галенаю быў спаткаўся. Было папаўдні, свяціла сонца. Галена ішла з дзецьмі (сваім і двума Амілінымі) па новай грэблі за тым месцам, дзе калісьці была вёска.

Бушмар джгаў аднекуль дарогаю. Перад Галенаю ён прыпыніўся, аж падаўся ад раптоўнасці крыху назад. Галена яму нічога не сказала, хацела моўчкі прайсці ў сваю дарогу, але ён стаяў і глядзеў на яе. Тады яна, здэтэнаваўшыся, сказала:

— Дзяньдобры.

Ён адказаў. І як яна пайшла далей, ён затрымаў яе:

— Пачакай.

— Чаго?

— Пачакай. Стой... Да мяне не вернешся?

— Не.

— А можа, падумаеш?

— Не... Ніколі.

І, памаўчаўшы:

— Каб ты здаў усю гаспадарку ў калгас, сам, з добраю ахвотаю, ды каб год колькі як чалавек пажыў у калгасе, каб змяніўся, каб нанава радзіўся, тады, можа б, што і было. А так... Не, не!

Яна павяла дзяцей далей, а ён загукаў услед:

— Раней я з свету пазводжу вас усіх!..

Галена пайшла шпарчэй і чула яшчэ ўсё яго моцны шэпт:

— І сыны мае там у іх, без бацькі, без мяне...

— Хоць раз ты сваіх дзяцей успомніў,— гукала здалёк, абярнуўшыся да яго, Галена.— Які ты бацька, так ты і сыноў пры сабе маеш.

Тады Бушмар вярнуўся назад, адкуль ішоў, колькі раз азірнуўшыся на Галену. Калгасаўскія новыя будынкі весела залаціліся сонцам.

## IV

Раз надвечар Андрэй з Уладзем выйшлі з калгасаўскай канторы. Дзённая работа была скончана, мужчыны ля студні мылі рукі. Падышоў да студні памыцца і Уладзя — перад гэтым ён паўдня рабіў у кузні з кавалём. Андрэй рушыў за ім. Здалёк яшчэ чулі мы, як нейкая спрэчка ішла ля студні, аж крык нейкі чуваць быў. Вусаты дзядзька, размахваючы шырака рукамі, штосьці даводзіў. Некаторыя памагалі яму, некаторыя стараліся абсадзіць яго. Нарэшце выразна выявілася, чаго ён хацеў:

— Гэта праўду ён мне кажа, што цяпер можна іначай крыху.

— Што? — запытаў Андрэй.

— А от тое, што — поле дык мы разам будзем рабіць, а агароды падзелім кожны па кавалку. Куры падзелім, малочную жывёліну.

— Нашто?

— А каб распараджэнне мець сабе.

— Тады хіба і поле?

— Пасля можна будзе і поле.

— А мо цяпер ужо?

— Я не кажу цяпер, але... а ўрэшце...

Тады падаў голас Вінцэнтага сын:

— Гэта-то не трэба, гэтак калгас раскідаецца, але зрабіць два ці тры меншых калгасы — дык патрэбна. Пааддзяляцца па колькі сем'яў разам...

Пасля гэтага ўзняўся большы яшчэ крык. А калі разыходзіліся, некалькі чалавек аддзяліліся і пайшлі ў другі бок за Вінцэнтавым сынам. Ён раптам вярнуўся туды, дзе стаялі Андрэй з Уладзем, і растлумачыў:

— Тут гэта от дзеля чаго. Каб усіх гаспадароў пацягваць сюды. У вялікі гурт дык не лішне яны паквапяць, а так — дык усе пойдуць. Тады ўся ваколічнасць наша будзе калгасаўскаю.

— А як не пойдуць? — як следчы, запытаў Уладзя, глянуўшы на Андрэя.

— Пойдуць.

— Што, ты пытаўся ў іх?

— Пытаўся.

— Ну і пойдуць?

— Усе.

І, падумаўшы:

— Нават Бушмар.

— Ён, мусіць, самым першым пойдзе? — здагадаўся Андрэй.

Але той таксама здагадаўся, што гэта допыт:

— Ён не хоча, але, дзеля спакою, і яго трэба завалаць.

— Ён табе патрэбен?

— Я не пра сябе аднаго дбаю.

— Ты за ўсіх! — усміхнуўся Уладзя.

Той падаўся ад студні.

У той вечар шмат калгасаўцаў непакоіліся вельмі. Хмурна думаў Андрэй, а на Уладзевай кватэры сабраліся хлопцы. Пакойчык быў невялічкі, дзвярыма ў прасторную зборню, дзе раніцамі жанчыны зносілі карміць малых дзяцей. Стала яшчэ не было, а можа, вынеслі куды яго. На акне гарэла лямпа, а акно застаўлена было да палавіны фанернаю дошкаю. Хлопцаў сышлося чалавек сем, і, як сабраліся ўсе, Уладзя аглушыў усіх запытаннем:

— Чулі?

Чулі ўсе, толькі адзін не:

— Што?

Але на яго паглядзелі так, што ён спусціў уніз вочы. Гэта быў хлопец бадай старэйшы за ўсіх тут, яго недалюблівалі за скрытнасць.

— Значыцца, ты, Сымон, за тое, каб зрабіць тут два калектывы з аднаго? Ну, чаго тут таіцца, прызнавайся...

Так выявіўся раскол.

— А ты скажы, чаму табе здаецца, што гэтак будзе лепш?

— Каб калектывізаваць усё наваколле.

— А калі гэта будзе канец усёй калектывізацыі?

— Як?

— А так што без хутаранцаў ты ці, можа, хто тваімі рукамі хоча разваліць усю работу, а тады ўсё будзе проста. Можа, каму толькі гэтага і трэба.

Пасля падышоў Андрэй з некаторымі мужчынамі, найшло хлопцаў і дзяўчат, жанок. У маленькім пакойчыку не маглі стоўпіцца, адчынілі дзверы ў дзіцячую сталавальню і выйшлі ўсе туды. Неўзабаве, можна сказаць, сышліся ўсе.

— Вось і сход! — гукнуў хтосьці.

І яшчэ Андрэй заглушыў усіх:

— А ну, скажы там, як гэта рабіць трэба нам далей? На колькі гуртоў разбіцца? А калі будзем дзяліцца, дык мо ўжо цяпер нарыхтаваць калоў, каб адзін аднаму галавы растоўкаць.

Пачаліся гаворкі, спрэчкі. Папаў Андрэй якраз туды, куды трэба было. Умеў часамі ўцэліць словам!

— Каму няўгодна, няхай хоць сёння выбіраецца!

— Бо тады гаварылі, што бо адразу рай будзе на зямлі, што і трактары і шмахтары будуць, а гэта — тымі самымі плугамі і конымі ару.

— А што ж ты думаў, табе нехта гасцінец адразу паткне,— на, галубок, цешся! Патроху ўсё прыдбаецца! Глядзі, у якой ты хаце раней і як жыў, а як цяпер!

— Мала што калі што там будзе! Далёка чакаць!.. К чортавай матары!

— Дык дайсці ж да чаго трэба!

— Мужчыны! — гукнуў Андрэй.

Сціхлі ўсе.

— Тут справа вельмі простая здаецца некаторым,— раздзяліўся, разбіўся, і ўсё. Раней рабілі, а пасля раскідаць. Я думаю, што тут гэта работа аднаго ці двух чалавек. І якраз не нас, а недзе трохі дальшых!..

Сход доўга не цягнуўся, але ён павярнуў справу ў другі бок. Некалькі чалавек пакаялася ў сваёй гаворцы з малодшым Вінцэнтавым сынам: кожнаму калгасаўцу пабудаваць асобную хату і давесці справу да разбіўкі зямлі на дзялянкі.

## V

Сонечны дзень. Лясы ў зялёных уборах маўчаць у летняй палявой шырыні. Поле — як жытняе мора, аж да самага дальняга лесу, далёка за ўзгорак — адзін бязмежны палетак. Людзі чакаюць добрага ўраджаю.

Ужо зусім, можна сказаць, забудаваўся калгас. Усе ўжо за гэты год выбраліся пакрысе з сваіх даўнейшых хат. Але некаторыя хаты стаяць яшчэ — патроху іх разбіраюць. Яшчэ ўзвышаюцца з жыта печышчы, пазарасталі яны крапівою і лопухам. Збоку дзе-нідзе пазацвітаў нават калючы чартапалох. Зелле і трава буйна павыбіваліся з-пад парассыпанай бітай цэглы і гліны. Адтуль, з-пад лесу, дзе ліпіць некалькі хат-хутарцоў, прыходзяць часамі жанчыны рваць гэтае зелле і траву сваім каровам і свінням: калгасаўцам шкада часу на гэтую карпаніну ся-

род патрушчанай цэглы. У іх наўмысля дзеля летавых патрэб рунее загон зеляніны, тут жа побач. Хутаранскія жанчыны, тыя самыя ранейшыя вяскоўкі, корпаюцца на печышчы паволі, маўчаць, а часам гаворадь. Яны гавораць пра даўнейшае, пра цяперашняе, як хто жыве, як хто жыў. Успамінаюць дзядоў, бацькоў... Кожнае печышча нагадвае багатую гісторыю — там жылі, нараджаліся і ўміралі, сяк-так спрадвеку пражывалі век свой людзі. Некаторыя печышчы яшчэ ведалі часы войтаў, прыгонных нявольніцкіх слёз. Жанчыны як загаворацца, дык, разгінаючы спіны, стаяць, успамінаюць.

А дзень зіхаціць сонцам. Поле — жыта і ярына — звініць гарачаю цішынёю. Чуваць, як у ёй жыве шматлікае, але дзікае жыццё: незлічонасць істотаў наліваецца сокам, збіраецца сіла ў сцяблах і каласах, убіраецца ў сілу зерне.

Цішыня гучыць.

Недзе песня чуваць, ля лесу, за калгасаўскімі будынкамі. Там стукае коварат цэментовай студні, штосьці яшчэ стукае ці то звоніць.

Галасы ўжо бліжэй.

— Дзяўчаты спяваюць,— гаворыць жанчына.

Яна ставіць на зямлю свой кош з травою і выпростваецца. Разам з ёю яшчэ і больш жанчын. Твар у гэтай жанчыны не зусім страціў яшчэ свайго ранейшага дзявочага хараства, але вочы свецяцца ўтомаю, твар — непазбыўным клопатам. Доўга стаяць так жанчыны. Песня сціхла, а яны ўсё яшчэ маўчаць і стаяць.

Вузкая дарожка, як аднаму праехаць, ляжыць паміж жытоў. Вось па ёй едуць людзі. Трасуцца дзве фурманкі. Два мужчыны ў зрэб'і патузваюць лейцы. Спрадвечнае ўпартае і бяссільнае чуецца:

— Но, но!

Канюкі прабуюць бегчы патроху, ратуючыся ад заедзі.

Людзі праязджаюць. Зноў пуста і ціха на дарозе. Жанчыны нясуць траву дадому. Адна за адною ідуць сцежыстым пераходам паўз дарожную каляіну. З узгорка ім відаць добра, як увесь узлесак укрыты новымі будынкамі. Тыя самыя ўсё старыя дубы стаяць сцяною паўз сцену самых прылесных дамоў. Здалёк там мільгаецца штосьці.

— Колькі дзяцей назбіралася,— гаворыць жанчына.— Вунь там, усіх яны збіраюць разам.

Жанчыны выходзяць за жыта. Там шэсць спружыповак скародзяць раллю. Калгасаўскія коні памахваюць ад гарачыні галовамі, трасуць грывамі.

— Памажы божа! — гукае жанчына здалёк.

— Няхай паможа, калі хоча! — адказвае чыйсьці там з іх голас.

Недалёка мяжа. Роўная, як струна, перарэзала поле, ад лесу і да лесу. Жанчыны мінаюць яе. Там скародзяць папар іхнія мужчыны. Бароны, з дзернавымі накладычамі, падскокваюць на раллі.

Некалькі хат туліцца да хваёвай сцяны лесу. Хвоі і ў ціхую бязветраніцу роўна і спакойна шумяць.

## VI

Андрэй сядзеў на жняяркавым сядле — даў коням перадыхнуць крыху. Спёка пачынала крыху спадаць. З полудня ён аджаў ужо доўгія гоні. Паўз лес пшаніца злягла, і той загон аджыналі жанкі сярпамі. Звінелі над пшаніцаю мошкі, траскалі на ржышчы кавалі.

Андрэй заўважыў, як бегла напрамік цераз іржышча жанчына. Бегла як магла. Валасы растрапаліся. Яна штосьці гукнула жанкам, там не прыпынілася і рушыла далей да Андрэя. Андрэй раптам пачуў у сабе трывогу, саскочыў з жняяркі, яшчэ выправіў з хамутоў конскія грывы, адмахнуўся ад авадня і пайшоў жанчыне насустрач. Тая засаплася, ледзьве гаварыла:

— Малады конь той, завадскі, пухнуць пачаў.

— Калі?

— От раптам неяк.

— Хто пры ім?

— Стары Стафан. Больш нікога з мужчын няма дома. І жанок, можна сказаць, нікога няма. Я была з дзецьмі, пакінула іх на Алену. Яна сёння на кухні. Мне бегчы назад трэба.

Пасля дадала яшчэ:

— Няма каго па Уладзіка паслаць.

Андрэй выпраг коні, стрыножыў іх на ржышчы, прыпаручыў жанкам і пабег.

Конь тыдні два таму быў куплены на завод у суседнім калгасе. Ён стаяў у стайні ля жолаба, звесіўшы мысу долу. Пухліна пайшла ад капытоў скрозь па нагах. Каля яго клапаціўся стары Стафан.

— Апойкі,— сказаў ён.

— Хто яго паіў?

Стары стаў успамінаць.

— А хто на ім куды і калі ездзіў?

— Гэтымі днямі як Вінцэнтага пасылалі па жалеза, дык ён быў канешне намогся на ім ехаць.

— І ездзіў?

— Ездзіў.

— Утаміў?

— Утаміў.

— І сам адразу паіў?

— От гэтага не ведаю.

— А хто ведае?

— Я не паіў тады яго цэлую ноч, баяўся, гэтакі быў ён змардаваны. Можа, хіба ён яго дзе ў рэчцы за агародамі папаіў, як пад'язджаў дадому.

Андрэй хапіўся за галаву:

— Бяжы на пшанічышча, бяры аднаго каня, запрагай і гані па доктара ў мястэчка.

Стафан рушыў бегчы. Жняярка ў той дзень гуляла да самага вечара.

Каня так моцна ўзяло, што праз колькі дзён ён кончыўся. Наладзілі следства. Усім вядома было, што гэта Вінцанцюк пастараўся, але выразнага доказу не было. Усё было зроблена гладка — і канцы ў ваду.

Праз колькі часу, аднойчы вечарам, Уладзя ішоў з хлапцамі гуляць. Было ўжо не лішне рана. Быў ясны змрок маладога месяца. Крыху цягнула ветрам з вячорнага поля. Хлопцы мінулі ўжо кузню — яна стаяла на агародах, наводшыбе крыху ад усёй забудовы — і заўважылі, як хтосьці адарваўся ад цёмнай сцяны дубовага лесу і, азірнуўшыся, перабег упоперак дарогу да крайняга дома. Хлопцаў цюкнула. Чалавек, відаць, заўважыў цяпер іх, бо раптам падаўся назад і, як бы так гэта чаго ходзіць тут, спакойна пайшоў скрозь дарогаю. Хлопцы рушылі за ім. Бушмар! Яго пачалі насцігаць.

— Чаго, пане Бушмар, шукаеш тут?

— Цяля збегла, можа, думаў, прыбілася сюды.

— А можа, яшчэ што збегла?

— Не, больш нічога.

Хлопцы больш не цвялілі яго, але правялі яго аж да самай яго павароткі ў лес.

Каля таго, можна сказаць, часу прыходзіў у калгас малодшы сын Вінцэнтага прасіцца, каб прынялі яго з усімі яго суседзьмі. Пачынаўся нейкі трывожны час тут. Малодшага Вінцанцюка выслухалі з асцярогаю і выразна яму адразу нічога не сказалі. Некаторыя гатовы былі прыняць іх. На гэта падгаворваў усіх і Вінцанцюк старэйшы. Але

больш галасоў было (Уладзя і Андрэй таксама), каб не прымаць. У гэтым бачылі нейкую авантуру. Далі выразны адказ тады, як старэйшы Вінцанцюк раз дагаварыўся, што трэба ўзяць у калектыў Бушмара.

— А калі ён не захоча? — запыталі.

— Захоча. Усіх трэба калектывізаваць.

Тады сказалі Вінцанцюку малодшаму:

— Пачакаць крыху. Тады будзе відаць.

Яшчэ ўсе добра памяталі той нядаўні чуць не бунт, што патрэбна падзяліцца ўсім і нават да дзялянак давесці поле.

Спакойнай работы ўсё ж не было гэтымі часамі. Скрытая нейкая была трывога.

## VII

У самым большым, крайнім ад лесу, доме было нешта з дзесяць кватэр. Было некалькі агульных пакояў, дзе ў вольны час заўсёды шмат збіралася людзей. Гэты дом пабудаваны быў сама пазней, і яшчэ не ўсё было ў ім скончана. Там гэта жыў Уладзя, там, за дзіцячаю сталавальняю, у вялікім пакоі абсталёўвалася чытальня. Туды ўпрасіўся перабрацца Вінцанцюк. Ён яшчэ не зусім перайшоў з суседняга дома, таксама прылеснага. Рабіў ён гэта чамусьці вельмі павольна (кватэру тую звальняць льга было і не спяшаючы). Дык от ён так рабіў, як бы раздумваючы. Шмат хто дзівіўся гэтакай павольнасці, некаторыя бачылі ў гэтым нейкія намеры — пасля таго, як прапаў конь, думка, можна сказаць, усіх не была вельмі даверліваю да яго. Да гэтага дома была прыбудавана другая прыбудоўка, дзе ляжала шмат калгасаўскага дабра.

Уладзя здагадаўся першым:

— Выселіць Вінцанцюка назад, штосьці ці не трымае ён у галаве.

Вінцанцюк дачуўся і заспрачаўся:

— Калі гэтакая недаверлівасць, дык аддзяліце мне дзялянку, я выберуся.

Зайшла спрэчка. Хтосьці папракнуў яго:

— От пакуль ты не ездзіў на кані, дык конь быў жыў.

— Калі будуць усе гаспадарамі над кожным канём, дык яны ўсе, коні гэтыя, падохнуць.

Ён паклыбаў дадому, плюнуўшы, размахваючы картовымі галіфэ.

Спусціўся вечар. Шмат людзей сабралася ў двух пакоях — чытальні і дзіцячай сталавальні. Уладзя сабраў

навокал сябе гурт. Там гаварылі пра агульную хлебапякарню для ўсіх шасці калгасаў, што былі тут па-суседску, пра ўсялякія іншыя планы, да якіх дабіралася ўжо калгасаўская ўпартая думка.

Раптам страшны крык уздрыгануў усіх.

— Пажар!

Як ільецца часам з вузкай бутэлькі вада — падае і сціскаецца ў горле, гэтак пацісnуліся ўсе праз дзверы. Пачалі выскокваць праз вокны. Гарэла глухая сцяна гэтага ж дома. Перад усімі выскачыў з акна Вінцанцюк, з крыкам:

— Адзежа ўся гарыць мая на новай кватэры!

Неўзабаве гарэла ўжо ўся прыбудоўка. Агонь па смольнай сцяне бег шпарка. Зараз жа загула і ўся франтовая сцяна. Утушыць было нельга, як ні стараліся. Не ўспелі нават павыносіць усяго з дома.

Андрэй абліваўся потам, выпіхаючы з агню пас ад малатарні. І ледзьве твар яго выглянуў з дыму, убачыў ён, страшна жахнуўшыся, як бегла аднекуль Галена. Асвечаны агнём твар яе быў страшны. Яна штосьці крычала, але рухавы гул натоўпу і агню глушыў яе. Андрэй кінуўся да яе і ледзьве расчуў:

— Бушмар ходзіць за гумнамі. З аўса выпаўз... сама бачыла...

Хто чуў — ірвануліся бегчы. Андрэй адскочыў на крокаў дзесяць наперад усіх і ўскінуў угару руку. Ціхом, не крычаў і не загадваў словам, натоўп спыніўся, як ад грознага загаду. Андрэй стаяў адзін момант перад усімі, акінуў натоўп зіркам. Мала калі бачылі яго такім, як цяпер. Ён толькі жорсткім шэптам выгаварыў, страшна змяніўшыся і гаручы ўвесь жудаснаю трывогаю:

— Два за мною, і нікога больш!

Дом ужо гарэў увесь. Страха ўпала. Трашчалі сцены. Натоўп выдзеліў у сябе двух чалавек — само гэта зрабілася, з маўклівай несвядомай згоды. Паўз нязжатыя аўсы памчаліся яны пад гумны.

Хоць бы жывая душа была дзе тут! Шум пажару грозна дакочваўся сюды, але святло не даходзіла з-за сцен і дрэваў. Змрочна было на агародах. Тры гумны стаялі ў самых аўсах. Адно было поўна пшаніцаю і жытам, два яшчэ пуставалі да ярыны...

...Але натоўп не вытрымаў больш каля агню: ужо чуўся стук і шорганне ног, гул. Андрэй кінуўся, як наўцёкі ўсё роўна. Андрэй махнуў рукою налева ад гумен, і муж-

чыны кінуліся туды. Сам ён забег з правага боку і ўпаў у авёс. Пачаў паўзці.

Рабілася ўсё гэта ну мо хвіліны тры, найбольш. Нікога за гумнамі не было відаць. Натоўп гуў дзесьці і трымаўся пакуль на той бок гумен. Прайшло яшчэ колькі найкаротшых момантаў. Раптам ад гуменнай сцяны аддзялілася высокая постаць. Страха ў сярэднім поўным гумне з гонты была, і чалавек штосьці раздумваў. Раптам ён нагнуўся, лёг на зямлю. Туды з-пад варот цяглася непадгрэбеная салома.

Але натоўп з таго боку быў ужо тут. Страшны гул трос цішыню. Дык чалавек штосьці там спяшаўся рабіць. Раптам ён пачуў, мусіць, што нічога не ўспее. Паўзком шмыгануў ён упоперак цераз дарогу ў ярыну. Але там трох чалавек устала перад ім, з левага боку гумен і тут, каля яго адзін. Бушмар падаўся задам да гуменнай сцяны, выцягнуўшы шыю, выпрастаўшыся на ўвесь рост свой. Адыходзіўся ўсё задам. А адтуль ужо хлынула бурная паводка людзей.

## VIII

У той дзень Бушмара бачылі на полі. Ён вазіў з наймічкаю і з пастушком сваім снапы. Апошні воз браў ён позна, калі ўжо на калгасаўскім полі даўно нікога не было. Узяўся ён за сваю вячорную брыдкую работу познім ужо вечарам.

Ён цяпер азіраўся па баках, як злоўлены воўк.

— Гэта ён! — заенчыў натоўп.

— Гэта ён!

— Гэта ён!

Людское мора рынулася на яго.

— Жывога на кавалкі разарваць!

— Духі з яго дастаць!

— Бі яго!

— Бі!

— Цягні, цягні!

Бушмар прытуліўся да гуменнай сцяны і калаціўся ўвесь ад нялюдскай узбуджанасці і роспачы. Вось ён раптам ва ўвесь дух ірвануўся, думаючы, мусіць, прабіцца праз жывую сцяну. Тут жа яго хтосьці пхнуў, аж ён ляснуўся плячыма вобземлю. Тут на яго і ліпулася людская бура.

Але каля яго арудаваў ужо Уладзя. Ён кінуўся ў самую

гушчыню натоўпу і размахнуў рукамі. Хтосьці закрычаў, хтосьці сам распіхаць пачаў натоўп. Усё над Бушмарам кіпела, як у катле. Бушмар ратаваўся і рукамі і зубамі. Толькі на нагах сядзеў ужо хтосьці і падбіраўся да яго рук.

— Жывога не пусціць!

— Бі!

— Бі!

Яго ўжо збівалі.

Але вось на адзін момант Уладзю ўдалося спыніць раз'юшанасць натоўпу. І голас яго, разам з Андрэевым, пранізалі навальнічны гул тады, калі натоўп зноў гатоў быў рынуцца і змяшаць Бушмара з зямлёю.

— Назад!

— Пальцам не зачапі яго!

Тады забушавалі нездаволеныя галасы. Навальніца расходжвалася. Але вось зноў:

— Прэч!

— Адыходзь!

Бушмара паднялі і паставілі на ногі. Ён стаяў, увесь дашчэнту дрыжаў.

Тады ўжо і ў натоўпе загаварылі:

— Нашто яго біць, што гэта паможа?

— Дайсці ад яго праўды трэба.

— У суд яго.

Пачаўся допыт, навальны, натоўпны:

— Гэта ты ўсё? Прызнавайся.

— Дом ты падпаліў?

— Не, не я.

— А чаго ты тут хадзіў?

Ён замаўчаў. Тады людская сцяна зноў рушыла па яго.

— Я толькі хацеў гумно падпаліць.

— А дом хто падпаліў?

— Віцанцюк.

— Каторы?

— Ваш.

— Калгасавец?

— Але.

Яго тады падхапілі пад рукі і павялі на пажарышча. Ужо адно галавешкі тлелі. Знайшлі Віпцанцюка. Той бедаваў і стагнаў, што ўся адзежа яго пагарэла. Іх паставілі з Бушмарам разам і акружылі. Віпцапцюк апраўдваўся:

— Адкуль, таварышы, такі паклёп на мяне? Я богу ду-

тою хіба толькі вінен. Што! Няўжо я сваю кватэру буду надпальваць. Уся ж адзежа мая там прапала.

Тады нехта здагадаўся:

— Вось тут і музыка ўся, што ты на гэтым выехаць хацеў: хто бо на цябе падумае, калі ты сам туды перабраўся!

Раптам з натоўпу праплішчылася наперад, у круг, Аміля, заплаканая, устрывожаная.

— Бушмар! — крыкнула яна слабым, змучаным голасам.— Гад, згубіцель! Што ты нарабіў!.. Звер!.. Як жа даравадь табе!.. Хто ж табе цяпер падаруе!.. За ўсё!

Яна цяпер як бы расцвіла ўся ад трывожнай узбуджанасці. Малая постаццю, з маладым бляскам вачэй, яна выглядала, як дзяўчынка.

Бушмар азіраўся.

— Звязаць яго!

— У суд!

Ён ужо не бараніўся. Не было карысці. Зірк яго ўпаў туды, дзе людзей радзей было. Там Галена трымала на руках дзіцянё. Другое, Аміліна, трымалася за яе, напалоханае, сплаканае. Вось туды падышла і Аміля. Ён адвярнуўся.

Андрэй заўважыў: нейкае падабенства ў Вінцанцюка з'явілася цяпер да нябожчыка бацькі. Вінцанцюк выў слязьмі.

## IX

Цэлую ноч быў неспакой у калгасе. Пажарышча курэла да самага рання. Змучаныя гэтакаю трывогаю пасля дзённай працы, людзі пад дзень разыходзіліся адпачываць.

Ужо бялела тады неба на ўсходзе. Запахла з поля здароўем расы. Поле драмала, лясы маўчалі.

Праходзячы паўз пажарышча дадому, Андрэй спыніўся. Глядзеў, як пусцела навокал ад людзей, і толькі вартавыя хадзілі ля пажарышча. Ён увайшоў у хату. Там Галена стаяла над дзецьмі — яны ўсе як пазбіраліся разам у трывозе, гэтак і паснулі. Жонка яго стаяла ля стала і маўчала. І ўсе яны не гаварылі, чуючы і так, без слоў, адно аднаго.

За вокнамі ціха было.

Там Уладзя хадзіў яшчэ па двары. Узбуджанасць гнала ад яго ўсялякую ўтому. Ён стаяў з вартаўнікамі, так хадзіў. Пасля падаўся ён да Андрэевай кватэры — пера-

спаць да раніцы. Ля гапка, дзе дубы (лесавыя пасланцы ў поле) застылі ў перадранішняй дрымоце, цямнела ў водбліску неба чалавечая постаць.

— Аміля! — пазнаў ён.

Яна маўкліва глянула на яго.

— Што думаеш?

Яна адказала не адразу:

— Так... Нічога не думаю... І пра ўсё думаю... думаецца...

Пасля яшчэ:

— Як даўней усё...

— Што?

— Жылося...

Яна не скончыла сваёй думкі, чамусьці ўсміхнулася і глянула ціха і спакойна на яго. Вочы яе чуліся ў змроку, і голас усё меў у сабе сляды трывожнай знерваванасці:

— А ты адзін ходзіш... чаго?..

Але ён нічога не адказваў. Ён узяў яе за руку, другую яна сама працягнула яму.

— Родная... ты...

Яны пайшлі да Андрэя, несучы ў сабе радасць сваёй новай блізкасці.

Назаўтра зноў позняе лета зіхацела сонцам. Дзень быў капатлівым, гарачым. Надвечар меўся адбыцца сход. Сход збіраўся быць бурным і доўгім.

* * *

Следства не цягнулася доўга. Бушмара і Вінцанцюкоў судзілі ўвосень. Бушмар адбываў кару.

За тыя гады яшчэ некалькі новых будынкаў вырасла паўз лес.

Бушмар больш у гэтую мясціну не вярнуўся. Ён знік.

* * *

Другая гісторыя перад намі. Гісторыя сыноў Амілі і Галены. Яны растуць, каб дзейнымі ўвайсці ў новае жыццё.

Гэтае ж апавяданне скончана.

## ПРАЛОГ

У сутонлівай каламуце выносістыя хвоі гойдалі шумлівае верхавінне. Сівер ішоў з поўначы. Над лясамі неба доўга чырвоніла тонкія каснікі, агорталася лістападаўскім змрокам. Ноч ішла з надхмарных вышынь паволі, распускала шэрыя засцілы скрозь, ад краю неба і да краю, цераз поле і лясы. Якое было ў той вечар неба! Хмары рваліся і плылі. Чырвоных жа каснікоў яны кранулі позна, дык скрозь змрок доўга чулася святло. Яно было дзесьці блізка і раставала ў шэрай рухавасці.

Палявая дзічка, старая, як той сівер, аж скрыпела дзвюма дуплістымі раламі. Зусім голая яна яшчэ не была, чорнае лісце і апошнія грушы, дробныя, як гарох, у той вечар вельмі сыпаліся з яе. Дзве постаці, калі падышлі пад дзічку і селі на выгнутую ралу, аж закрывалі спачатку твары ад нястрымнай паводкі гэтых груш і лісця. Моўчкі яны сядзелі вельмі мала. А як пачалі гаварыць, дык мужчынскі голас часта рабіўся ўстрывожаны. Але найбольш — чалавек, відаць, не паддаваўся свайму ўтрапенню,— голас быў спакайнейшы, можна сказаць, зусім звычайны голас цвёрдага маладога чалавека. Жаночы ж голас увесь час быў спакойны. Жанчына была ў белым адзенні, толькі паверх апранена ў кароткую чорную світку. Мужчына быў увесь у чорным і зусім зліваўся з разгацістым дрэвам. Ён, пакуль яшчэ маўчалі, колькі разоў даставаў з кішэні электрычны ліхтарык, немаведама дзеля чаго пстрыкаў святлом.

— Навошта ты мяне прывёў сюды? — сказала яна.
— Хіба мы мала разоў тут былі?
— Ты гаворыш, як малы або хітры...
— Чаму?.. Адкуль да цябе ліст сёння прыйшоў?
— А табе не ўсё адно? Што табе!
— Чаго ты гэтакая?..

Маўчалі доўга.
— Дык ад каго ліст?
— Няўжо табе гэтак цікава?
— Чаму ты думаеш, што не?
— Ад Галены ліст.
— Ад якой?
— Ты нават не ведаеш, хто гэта Галена! Забыўся! А мо і не ведаў ніколі! Дык нашто ж пытаеш?
— Ну, стрэчная сястра, Галена.
— Здагадаўся.
Памаўчаўшы:
— Што ж яна піша, Галена?.. Прачытай або раскажы. Прачытай, ну, прачытай.
— Цёмна.
— Я пасвячу.
Ён свяціў у самую паперу.
— Яна на вясну скончыць універсітэт... Вельмі ж, піша яна...
— Мо ты і не разумееш нават, што піша.
У вячорным сутонні яна не ўбачыла яго кплівай усмешкі.
«...Тут, з усіх родных, блізкая самая мне ты. Тым летам, як пазнаёміліся мы ў вас, я гэтакаю блізкаю цябе да сябе адчула. Памятаеш, з якой радасцю ты пісаць вучылася? І цяпер здаецца ўсё мне, што не нагаварыліся мы тады з табою, што нічога я табе пра сябе не расказала. Ты дык не памятаеш яшчэ, а я добра памятаю, як бацькі нашы разышліся. Мне было тады восем год, як мой тата прадаў вашым сваю спадчынную дзесяціну, і пераехалі мы туды, дзе цяпер мама жыве і браты мае (ты іх не ведаеш). Тата застаўся быў за дворніка ў вялікім месце. Бывала, падмятаю я з ім на вуліцы, а людзі, як чорная хмара, ідуць і наступаюць мне на мятлу. Усё чыстыя, прыбраныя людзі. У мяне аж слёзы на вачах...»
— На што я табе чытаю. Пусці мяне, я пайду. Ты не праводзь больш мяне. Я хачу хутчэй дадому, я цэлы тыдзень сваіх не бачыла. Я нядзелі чакаю заўсёды, як нямавведама чаго, як шчасця якога.
— Пачакай, пасядзі. Пачытай яшчэ. Ну, чытай.
«...Я чакаю вельмі вясны. Тады я скончу універсітэт. Я гэтак прагну хутчэй узяцца за сталую работу. Я сябе не цешу тым, што будзе лёгка працаваць. І мне хочацца хутчэй дарвацца да гэтай цяжкай работы... З якім болем і ўпартай узнятасцю ідуць мае думкі туды, на той бок гэтай

мяжы, дзе мама і браты, адкуль мне з гэтаю бядой і горам давялося ўцякаць. Я напісала б ім адгэтуль, што жыву, вышэйшую школу канчаю, але баюся,— там, мусіць, і цяпер мяне шукаюць і цераз лісты мае возьмуць тады іх на пакуту...»

Раптам яна глуха застагнала.

Пасля стала ціха. Ліхтарык тры разы засаб пстрыкнуў святлом, чорная мужчынская постаць падалася на паўзлесную сцежку.

Пад поўнач хмары пазбягалі на захад і ачысцілі ўсход. Тым часам бялявае святло з ветравага надхмар'я чулася ў змроку скрозь. Вецер як бы пачаў сціхаць, і з-за чорных абрысаў, наводдалек — ці то нізкага лесу, ці то высокіх будынкаў,— чулася часамі флейта, скрыпка. Адтуль жа ішлі двое ў чорным, паціху гаварылі (хлапячыя галасы). Да грушы яны не падыходзілі, а наводдаль селі на высокую мяжу.

— Ваш Толяк сёння бесперастанку танцуе. І ты. Чаго гэтак рана намогся ісці? Я яшчэ пагуляў бы.

— Заўтра рана ўставаць трэба.

— І Зося ваша рана ўцякла з вяселля.

— Мусіць, дадому пайшла начаваць, заўтра, у нядзелю, яна не робіць у нас.

— Выходны дзень?

— Але.

— Толяк ваш некуды хадзіў на змроку. І Зося тады неўзабаве пайшла.

— Не ведаю. Я танцаваў... А мо і праўда яшчэ вярнуцца, сама што танцы ідуць.

— Давай вернемся, рана ж яшчэ.

— Не ведаю і сам. Заўтра рана ўстаць трэба будзе, Зосі ж няма. Не, пайду дадому. Хадзем.

Ён падняўся ісці.

— Бачыш?

— Што?

— Штосьці белае унь, лапіна нейкая.

— Дзе?

— Пад дзічкай.

— Я не бачу.

— Прыгледзься добра... Бачыш!

— Але... штосьці...

— Падыдзем.

Як падышлі пад дзічку, аслупянелі.

— Ляжыць хтосьці.

— Жанчына нейкая.

Пстрыкнуў ліхтарык.

— Нежывая. Яна ўжо ўкарчанела.

— Бяжым назад, трэба зараз жа сказаць.

Яны пабеглі нацянькі цераз поле да паўзлеснай сцежкі. З таго боку ішла з ветрам музыка — скрыпка чулася, флейта.

Вецер сцішваўся, апошняе лісце сыпалася з дзічкі на дзяўчыну, белая сукенка заблыталася навакол ног.

Пакуль прыбеглі людзі, вецер уняўся, ледзьве плыў. Выносістыя хвоі наводдалек зашапталі іначай, іржэўнік і халодная трава пачыналі на ўсю ноч ціхую сваю песню.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

Аднекуль падбег дробны на вока чалавек, у лапцях, у каравых анучах, у вышмарганым кажушку, і запытаўся, ці не ў Чарніцу гэта трэба, а калі ў Чарніцу, дык ці не на запалкавую фабрыку. Адказваючы яму, што ў Чарніцу і на запалкавую фабрыку, яна заўважыла: вочы ў чалавека з рухаваю прыжмурынкаю, крыху як бы сарамяжыя. І сам ён рухавы завельмі і ўсё стараецца дагадзіць — тупае ля саней, без злосці кляне расплюхануюдарогу. Гаворка яго таксама занадта трапяткая.

Цягнік пайшоў далей у тую ж хвіліну, і сіратлівая станцыя зусім патанула ў самоце. З рудога поля тхнула халодная вільгаць, ціхае змярканне чулася скрозь. У лагчынах і гліністчах мерзла нанач снегавая вада, прадвесне драмала ў вячорнай сцюдзёнасці; сонца ледзьве зайшло. Места ледзь туманілася для вока на роўным полі, ля сініх засцілаў далёкага лесу.

— Чаму ж мы не едзем? — запытала яна.

Чалавек сядзеў у санным перадку і ціха сабе паглядаў на конскія ногі. Сціх ён і паспакайнеў раптам, як толькі старгаваўся. Яна падумала, што ён чакае, каб хто яшчэ трапіўся ехаць, і колькі разоў азірнулася на пустую станцыю, але там нават і святло патухла, свяцілася толькі адно акно.

— Чаму не едзем? Каб не схлусіць, дык тут павінен зараз прыйсці, Нахлябіч ён завецца. Таксама з фабрыкі, і

прасіў, напрамілуй бог, каб я пачакаў яго. Свой хлопец. Кожны дзень бачымся.

Ён не бачыў і не мог заўважыць, як уздрыгануўся твар у яе.

Прайшло яшчэ хвілін пяць, а той усё не ішоў. Чалавек сам пачаў турбавацца:

— От не ідзе, сядзіць. Ах! Можа, ты там засеў на ўсю ноч, халера цябе ведае. Добры інтэрас! Ты сабе сядзіш там, а я — чакай тут! Дзякуй табе за ласку. Праўда ці не?

Чалавек усё бубніў і бубніў сабе пад нос.

— Едзьце,— сказала яна.

Дык чалавек пачаў разварушваць каня, так што паехалі яшчэ хвілін праз тры. І, едучы, усё бубніў:

— ...Свой-то свой, добра кажа, чалавек, але што гэта ён мне барыша паставіць, ці што? Чаму гэта я яго чакаць павінен?.. Ён тут ад каляд у нас.

— А як ён завецца?

— Як ён завецца? Каб не схлусіць — Мікалай ён завецца.

Твар яе зноў уздрыгануўся. Ёй стала ясна ўсё.

Утрапенне ўскалыхнула яе. Яшчэ грымелі ў ёй апошнія дні. З таго пазаўчарашняга вечара, як гаварыла яна сваю тую развітальную ці прывітальную прамову, яшчэ ўсё ўзбуджанасць не прайшла. Быў пасля той выпускной студэнцкай урачыстасці развітальны вечар, з шклянкай шпанкі і гарбаты, былі пасля гэтага танцы, прафесура ўспамінала (вельмі ж прафесарскія жанкі!) ранейшыя банкетныя гады. Назаўтра яна чакала ў паважнай канцылярыі падарожнай паперы, а ўвечары, позна, нават уночы, інтымнае слаўнае адвітанне на вакзале, таўкатня ў вагонаў.

На вакзал прыходзілі развітацца з ёю двое. Прыйшоў Алесь Гарус і з ім, як і заўсёды, Алеся Таланка, уся — процілегласць Гарусу, гэтакая рагатуха, сакатуха заўсёды, і няма на твары ў яе ніколі і ценю Гарусавай сталасці.

— Кепска, Галенка, што мы на кватэры не сышліся адвітацца,— сказаў Гарус.

— А хто не сышоўся? — і нарыхтавалася зарагатаць Алеся.

— Мы,— проста сказаў Гарус.

— А хто цяпер шкадуе?

— Мы.

І цяпер яна залілася рогатам. І гэтак жа адрыўна сціхла. Галена глядзела на Гаруса мяккім сваім позіркам.

— Едзь шчасліва, Галенка,— сказалі яны абое разам, як згаварыўшыся.

Алеся зноў зарагатала і зноў абарвала свой рогат. Шчаслівая ўсмешка маладосці адно засталася на яе губах. З вагона Галена глядзела праз акно, а яны абое хадзілі паўз цягнік пад руку і кожны раз, як ішлі паўз той вагон, Гарус маўкліва глядзеў на Галенін твар за цьмянаю шыбаю, а Алеся махала рукою. І Галене хацелася яшчэ выйсці да іх на перон і пахадзіць з імі. А як цягнік выйшаў у змрочную ноч і вагон добра і надоўга разгойдаўся, Галена глядзела праз шыбу, як ішлі паўз чыгунку дрымотныя лясы і палявыя галы. Ночы адно крыху засталося. На світанні за каржакаватымі хвойнікамі паўз дарогу бялела і ружавела неба. Дзесьці паводдаль ад думак стаяў Гарус, а ў думках поўная моладзі зала.

— От имени выпускников-студентов имеет слово Елена Сегень,— сказаў з прэзідыума ўрачыстага сходу сівы прыжмураны прафесар. Старшыня — чарнявы, жаўта-смуглы, нізкаросл Адам Бародзіч штосьці пісаў у блакноце, прыгнуўшыся да самага краю стала.

«...Нам будзе цяжка працаваць, і гэта трэба, каб яшчэ больш надало нам упартасці. Наша пакаленне трэба, каб было ўпартым і цвёрдым, як камень, яно нарадзілася ў агні, і навальніц гэтых павінна хапіць яму да сівых валасоў, бо гэта не жарты — перарабіць чалавецтва! А пакуль што гэта робіцца на адной толькі шасціне зямлі. І гэтак мы павінны працаваць, каб за кароткія гады зрабіць тое, што вякамі робіцца, памятаючы і тое, што наша нацыянальнасць толькі нядаўна ўстала з шматвяковае свае труны. Мы чакаем зняцця з твару нашай краіны крывавай раны, ганебнай мяжы, што жывое цела рэжа папалам, каб і Захад увесь хутчэй стаў тым, што цяпер мы...»

А як скончыла гаварыць і як выйшаў на падмосткі другі студэнт, заўважыла, што Адам Бародзіч сышоў уніз і шукае кагосьці вачыма. Убачыў яе і падышоў:

— Дзе Гарус? Няхай бы ён выступіў... Ты добра гаварыла.

— Я гэтак шмат хацела сказаць, а, здаецца, нічога не сказала.

— Добра ты гаварыла. Дзе ж Гарус?

«...Чалавецтва падзелена на два лагеры,— слухала яна наступнага прамоўцу-студэнта,— і мы выходзім у жыццё, каб папоўніць сабою адзін з гэтых лагераў усясветнага змагання, усясветны пралетарскі лагер...»

Гучныя воплескі не даюць прамоўцу скончыць. Прафесар махам рукі сцішае залу, але дарэмна. Прафесар любіць парадак, ён нервуецца. Пенснэ спадае ў яго з носа некалькі разоў. І сам пачынае апладзіраваць.

— Очень рад вашей жизнерадостности,— паднімаецца прафесар.— Следующее слово имеет...

Мах рукі ў прафесара класічны!

Тым часам да Галены падышоў высокі і сталы на выгляд доктар з універсітэцкай клінікі — Галляшэвіч. Галена села на пустой лаўцы ля сцяны, і Галляшэвіч поплеч яе:

— Чаму вы заўсёды ўспомніце нацыянальнасць? Нацыянальная ж культура — гэта толькі сродак.

— Дык трэба, каб гэта была культура, а не халтура... Чаму ж вы ніколі не ўпікнулі немцаў, рускіх, палякаў, французаў, што яны — немцы, рускія, палякі... А самі сябе вы заўсёды ўпікаеце, што вы беларус?

— Вам, вядома, не падабаецца, што і прафесар гаворыць рускай моваю.

— Не падабаецца.

— Вы адно не станьце за шавіністку...

— Вы там і дзяржаўную мяжу ўспаміналі. Гэта што? Зняццё з твару Беларусі ганебнай мяжы (здаецца, так вы казалі), а тады, значыцца, ці не нацыянал-дэмакратычная рэспубліка?

— Не здзекуйцеся. Нашто вы ў сваёй нянавісці да сваёй нацыянальнасці даходзіце да здзеку з кожнага ўспамінання пра гэтую нацыянальнасць. На чорта мне гэтакая Беларусь, пра якую вы мне тут шэпчаце, у якой кожны падпанак вернецца ў свой маёнтачак, кожны пан — у маёнтак. А не вернуцца магнаты, што паасядалі ў Польшчы, дык знойдуцца свае, тутэйшыя, самабытныя — і графы, і бароны, і так сабе панкі — адкуль іх толькі і набярэцца! На чорта мне такая Беларусь! Рэакцыя на поступ пралетарскай рэвалюцыі!

— А як жа вы пра мяжу гэта, пра мяжу?

— А так, каб і Захад увесь хутчэй стаў тым, што цяпер мы. Зняцце мяжы — урачыстасць заходняга пралетарыяту, вызваленне яго! Каб пралетарская рэвалюцыя зняла мяжу, бо хто б там яе іншы не знімаў — усё адно!..

Яна ўскіпела і пакінула Галляшэвіча аднаго...

Хрыпатая фурманава гаворка перарвала яе думкі:

— Ну, і заесца ж цяпер па мяне Нахлябіч, што не пачакаў яго. Натура ў яго ўпартая. Па бацьку пайшоў.

— А вы бацьку яго ведаеце? — зацікавілася яна.

— Чаму ж мне яго бацькі не ведаць? Разам жа мы гадаваліся. Я ж сам адтуль родам. З Пнівадзіч я. Можа і чулі? Адсюль так вёрст з пяцьдзесят да Пнівадзіч. Пнівадзіцкія лясы аж сюды даходзяць. Унь за фабрыкаю лес. Бачыце? Так і завецца — Пнівадзічаўшчына. А праз лес рэчка цячэ, з-пад самых Пнівадзіч ідзе, завецца Пнівадка. А скрозь па рэчцы хутаркі, вёскі — Ціхаходаўка, Плытаўка, Чорны Вір, Вазярышча, Гнілыя Застаўкі, Пнівада... Даўней (яшчэ і я памятаю) скрозь па рэчцы княжацкія млыны стаялі, уся рэчка была на застаўках. Вада скрозь стаяла гэтак высока, што а-я-яй! і гэтак напіналася сіберна, што, каб не схлусіць вам, кожны год застаўкі ламала і гнула, пакуль князь не здагадаўся прыслаць добрага майстра... Каб не схлусіць, дык я сам, як вам сказаць! Я завуся Зыдор Пніцкі. А тут ужо год з пятнаццаць жыву, перабраўся сюды з Пнівадзіч. Цесна там было жыць удвух з братам, дык ён мне сплаціў, а я сабе тут дамоўку справіў і атайбаваўся. Каня гэтага ўжо дзесяць год трымаю. Колькі таго поля ёсць, дык, каб не схлусіць вам, гэтым канём перакоўзаю. А то пад станцыю пад'язджаю поўрубля якога абарваць...

Ён ткнуў пугаўём недзе ў конскія парэбрыны і весела азірнуўся на Галену.

— Стары Нахлябіч дык, каб не схлусіць вам, забіяцкі чалавек. Сіберная натура. Голас! Дык як з гарматы смаліць, калі раўне-раўне, дык каб яму зарвала, а сківіцамі, здаецца, жалезную весь ператрэ. Бывала, ззамаладу яшчэ, як пойдзе на Сегенецкага хутар (ён азірнуўся і бачыў, як уздрыгануўся яе твар), дык на другі бок Пнівадкі за вёрст дзве чуваць, як раззявіць горла. Нахлябіч рагоча! Так ужо ўсе ў Пнівадзічах і ведаюць, што Нахлябіч пайшоў гуляць да Сегенецкага Марылі... Пасля ён яе ўзяў замуж.

Ён заўважыў, як яна памкнулася як бы штосьці сказаць і падсунулася вышэй на саломе.

— Вам мо няспрытна сядзець?

І пачаў абтыкаць ля яе ног салому.

— У мяне, каб не схлусіць вам, сані вельмі нялюдскія, а шапкаваць перад людзьмі, каб пазычыць сягды-тагды, дык... Но, но! Загавайла! — торкаў ён усё пугаўём у конскія парэбрыны. Чарніца з сінім лесам і фабрычным комінам паўзла насустрач паволі.

— Як толькі кагадзе была пачалася равалюца, дык ён страшэнная моц што выробляў.

— Хто?

— Нахлябіч. Каб не схлусіць, дык яны з сынам удвух. Ён і цяпер кажа, стары Нахлябіч,— я, кажа, равалюцу рабіў. Паноў усіх выкідаў з пакояў — за каўнер ды з ганка, бывала, і спусціць. А півадзіцкаму папу траха галавы не адкруціў — запарваў на вуліцы ды калі гламяне! за валасы. На папоў ён вока ззамаладу не меў. Усё прашэнні па кожнага падаваў да біскупа, каб іншага папа прыслалі, бо гэты, кажа, зайздроснае вока мае і распуснік. Яшчэ як хлопцам быў, дык на папа заеўся быў за нешта — дзялянку канюшыны конькі стравіў яму і занатырыўся да споведзі не ісці. Раней, кажа, я яго выспаведаю, а тады ўжо ён мяне. А поп таксама маху не даў — падгаварыў, каб не схлусіць вам, урадніка, а той яго, як арыштанта, і пёр скрозь да царквы — увесь народ павыбегаў глядзець. А ўжо за равалюцу, як лес пляжылі, дык ён у камітэтчыкі ўлез і дзялянкі людзям вызначаў, а сабе — дык самае лепшае цягаў. А гэты самы Мікалай — сын, за камісара над дварамі астаўся, дык бацька што скарбовага дабра панацягаў! Страшэнная, каб не схлусіць, моц! За равалюцу ён забагацеў...

Ледзьве прыпаўзлі яны да фабрычнага месца. Зусім быў вечар.

## II

Зыдор Пніцкі стаяў усё ў Галены ўваччу. Учора ён спрытна ўзбягаў на высокі больнічны ганак, заўзята званіў і горача тлумачыў тоўстай павольнай жанчыне, што «прывёз новую дактарыцу. Пад'язджаю пад станцыю — бачу, стаяць яны (вясёлы зірк у бок Галены). Я, што робячы, куды вам, кажу, ехаць?.. Вы ж тут дайце з дарогі добра адпачыць ім». Як Галена ўзыходзіла на ганак, ён стаяў, выцягнуўшы рукі, уціснуўшыся плячыма ў балясы.

— Ну, дык я пайшоў,— заявіў ён нарэшце.

— Ідзі,— заспявала жанчына.

І ўжо як увяла Галену ў прасторны пакой, чула, як Пніцкі разварушвае на двары свайго каня: «Но-но-ё! Пайшоў, загавайла!», не сцярпела:

— Трэцца пад пагамі, трапечацца.

І адкруціла электрычнасць.

Рапіцаю мокры вецер біўся з лесу ў сонечнае акно. Лес зусім блізка стаяў перад вокнамі. Была мокрая зямля, сонца, веснавая цеплыня. Учарашняя жанчына паказала

ёй страўню — там вялікія залы: рыхтавалі да кожнадзённага абеду больш, як за тысячу чалавек з фабрыкі. Пасля была ў Галены гутарка з доктарам гэтай фабрычнай бальніцы, сівым чалавекам. Ён скардзіўся на мноства ўсялякай работы і рад быў Галене. А пасля яшчэ хтосьці турботлівы прыслаў ёй запрашэнне прыйсці на агульнафабрычны сход.

На сход той, у прасторны клуб, Галена прыйшла перад самым пачаткам. Усё тая ж больнічная жанчына заўважыла яе і паклікала кіўком галавы, вызваліла з-пад сябе край крэсла: «Хоць не ўежна, кажуць, але ўлежна. Хоць тут прысядзьце». Поўна было людзей.

Белатварая, зграбная жанчына сядзела за сталом перад усімі. Вочы яе аглядалі залу, кагосьці шукалі ўсё ў людзях. Да яе падыходзілі часта, гаварылі, нагінаючыся цераз стол.

Штосьці пакутнае было ў напружанасці Галеніных думак: «Што за знаёмы твар! Дзе раней уелася ў памяць гэтае аблічча?» Яна была зусім маладая, бялявая, стрыжаныя да вушэй густыя валасы шчыльна ляжалі на галаве пад двума грабнямі па баках. Голас яе быў мяккі, пявучы (гэтакі знаёмы!); як загаварыла яна, застукала алавіком аб стол, цішыня стала адразу. Галена глядзела: вочы ў жанчыны ўтомленыя, рысы твару тонкія. І раптам успомніла Галена: на партрэтах Вера Фігнер гэтакая ў маладосці. Ці з гэтага знаёмы гэты твар? Але ж голас! Да пакуты даходзіла ўпартасць думкі: хто гэта?

Галена не лёгка ўваходзіла ў новыя справы, незнаёмыя ёй дагэтуль.

«...Наконт прарываў была папярэдняя нарада загадчыкаў цэхамі. Яны скардзяцца, што рапарты аб вытворчасці даводзіцца складаць у выходныя дні...

...Не лёгка расправіцца з прарывамі, бо не ўсе цэхі механізаваны. У адным цэху нелады, а тармозіцца работа ў іншых цэхах...

...Падлік вытворчасці павінен быць пасля кожнай змены, бо калі рапарт падаецца праз два тыдні, ён нічога не варт...»

Жанчына давала слова для выказванняў. Цяпер яна зноў сядзела і здавалася Галене вельмі ўтомленай. Локці палажыла на стол, а як падапрэ твар рукою — белымі сваімі пальцамі, здаецца, цяжка ёй адарваць твар ад рукі. Але вочы яе бесперастанку бегалі па двухтысячным натоўпе, гаварылі пра штосьці кожнаму, а бурная паводка людскіх слоў не спынялася. Часамі яна сама выклікала каго

гаварыць: «Вінгар, будзеш гаварыць? Гавары, Вінгар. Таварышы, хто яшчэ будзе гаварыць? Вінгар, гавары».

Мова тут была ўсялякая. Каржакаваты хлопец, гэтакі таўсматы здаравяк, гаварыў з сялянскім раздум'ем, яшчэ з нейкаю як бы нават лёгкаю збянтэжанасцю выгаворваў фабрычныя тэрміны. Вастраносая дзяўчынка старалася гаварыць рускаю мовай, дзекаючы і акаючы на кожным слове.

«...А чаму загадчыкі цэхамі не падцягваюць каго трэба? Сярод нас ёсць гэтакія, што ім галава не баліць, калі фабрыка сядзе на чорную дошку...»

— Ужо села! — грымнуў проста прамоўцу ў твар рыжаваты, яснавокі чалавек. Галена паглядзела на яго — ў ваччу яго быў жорсткі смех.

«...Загадчык цэха няхай чуе, што ён адказвае за свой цэх. Калі трэба, дык няхай падцягне, а не гаворыць — на чорта мне сварыцца з рабочымі...

...Калі ў нас па канец рук усё будзе ісці, дык як жа мы нават тых людзей, што ідуць да нас з вёскі, пераварым у сваім катле!..

...У прарывах вінаваты мы ўсе. Ці здолелі мы даць патрэбны кірунак нашаму ж энтузіязму?..»

Мяккім сваім голасам жанчына накіроўвала кіпучую строму рабочых слоў. Ля яе, на краі стала, некалькі чалавек з алавікамі нагнуліся над папераю выпрацоўваць праект рэзалюцыі. І раптам уздрыганулася Галена: ці гэта здалося ёй, ці сапраўды прагучэў гэтак жанчынін голас:

— Цяпер мае слова Апанас Сегень.

«Сегень! Яе прозвішча!»

Сапраўды жанчына сказала гэтак. «Гавары хутчэй, Сегень».

А Сегень гэты быў той самы рыжавусы, яснавокі, што падаваў кагадзе рэплікі. Ён узышоў на падмосткі, зняў шапку:

— Мне трэба сказаць пра пасылку таварышаў на працу ў вёску, але я вярнуся яшчэ да таго, што тут гаварылі і перагаварылі. Мы другі месяц таўкомся ўсё на адным — знішчыць прарывы, а ў гэтым месяцы дагналі і перагналі прарывы тагомесячныя. І калі мы гэтакімі тэмпамі пойдзем далей, дык неўзабаве выславімся на ўвесь СССР. Дагонім і перагонім усіх чарнадошнікаў.

Пачуўся смех, пасля голас:

— Насмяешся тады, як на чорнай дошцы будзеш красавацца.

— ...Няхай жа кожны з нас паставіць перад сабою задачу падвысіць на новы месяц норму свайго вырабу. І трэба гэта ўсім, бо ў рабоце мы кожны залежым адзін ад аднаго...

— На пятнаццаць процантаў падвысіць за месяц норму,— пачуўся голас,— у мяне прапанова.

Жанчына застукала алавіком. Прапанову ўхвалілі.

Сегень, як гаварыў пасля пра работу ў вёсцы, прыводзіў прыклады, якія ведаў, успамінаў жывых людзей. Галена не прапусціла ніводнага яго слова. І яна ж ведае гэтых людзей! А сам жа ён, гэты Апанас Сегень! Прозвішча яго! І чаму ён як бы асабліва нейк успомніў пнівадзіцкага Сегеня? Ведае ён яго? Ці мо сваяк. Абодва ж Сегені! Але што гэта, што гэта ён кажа, што здарылася ў сям'і пнівадзіцкага Сегеня? Нарэшце высвятляецца, успамінае Апанас Сегень, што быў ужо ў Пнівадзічах зімою, з восені. Працаваў там ці так?

Адразу пачаў гаварыць Апанас Сегень пра адвечную вясковую песню: за кавалак гнілой вяроўкі ўвесь век ядуць адно аднаго. А ў каго мацнейшыя зубы, дык той усіх скваппен глынуць за адным махам... А як сказаў: «...Супроць Нахлябіча стаў там Якуб Сегень... у яго ў сям'і там няшчасце адбылося, немалое здарэнне... Але тут цэлая гісторыя. У газетах крыху было зімою...» Галена тут адчула жаданне зараз жа пайсці да падмосткаў і, перарваўшы ўсіх, дазнацца пра ўсё, што было гэта ў сям'і пнівадзіцкага Сегеня. «А Зося, чаму ж яна ні слова не напісала мне?» — думала з трывогаю Галена. Трывога яе не прайшла да канца сходу, калі яна слухала пра знаёмага, нецікавага ёй цяпер, старога Аляксандра Нахлябіча.

— Я сам,— гаварыў Апанас Сегень,— гадаваўся і нават маладыя гады свае быў у Пнівадзічах. Дык я калі прыехаў быў туды, дык усіх пазнаваць пачаў. Аляксандра Нахлябіча адразу пазнаў па голасу. На сходзе пачаў гукаць супроць калгаса. Дзіўна, як голас праз усё жыццё ў чалавека захаваўся. Гэта колішні сусед майго бацькі; я яшчэ быў малы, а ён ужо на жаненні быў. Ён цяпер трубіць усім у вушы: я, кажа, сваімі рукамі рэвалюцыю рабіў, а тым часам цяпер замагільвае рэвалюцыю.

«...Цяпер мука з-пад камянёў млына рэвалюцыі пайшла на сіта. І сеецца здорава. Высеўкі адсейваюцца. Дайшло да парога. А яго трэба пераступіць, каб ісці далей...»

— Дык Нахлябіч не пераступіў? — пачуўся голас.

— Сеў на парог і сядзіць. Мы, кажа, рэвалюцыю сваі-

мі рукамі рабілі на тое, каб цяпер самім панаваць. І праўда, як панок які (мужычы)! Малацьбіты ў гумне малацяць, а парабка не трымае, бо падатку баіцца. Зямлі нахватаў...

— І ўсяго, чаго толькі хочаш! — перабіў Сегеня ціхманы, танклявы і рухавы голас.

Галена азірнулася і ўбачыла, як ля дзвярэй збянтэжыўся Зыдор Пніцкі, мусіць, адумаўшыся, што з языка сарвалася не зусім патрэбнае слова. І тут Галена пазнала: у праходзе, ля дзвярэй, стаяў Мікалай Нахлябіч. Гэтакі ж усё самы. Вузкія, нават крыху як бы трахомныя, вочы на азызлым твары. А твар — нерухомы. Нізкі лоб, кантовыя плечы. Стаіць і не зводзіць вачэй з Апанаса Сегеня. А ля яго трэцца ўжо Зыдор Пніцкі, і Галена чуе, як ён шэпча да Нахлябіча: «Пажартаваў гэта я». Нахлябіч жа на яго аніякай увагі. Раптам Нахлябіч збочыў зірк свой, і вочы яго сталі на момант шырокімі ад нечаканасці: ён спаткаўся з Галенінымі вачыма. З хвіліну ён стаяў гэтак нерухома, пасля спакойна перавёў вочы зноў на Апанаса Сегеня, як бы нечаканасці гэтай ён даўно чакаў.

Ледзьве Сегень паспеў скончыць, як Нахлябіч пайшоў да прэзідыумскага стала, нагнуўся да жанчыны і зашаптаў штосьці. Сегень сыходзіў ужо з падмосткаў. Жанчына, крыху як бы хвалюючыся, устала з свайго месца.

— Слова мае таварыш Нахлябіч.

Сегень спыніўся ў праходзе і азірнуўся. Нахлябіч стаяў ужо на падмостках і глядзеў кудысьці паверх людскіх галоў.

— Таварышы,— пачаў гаварыць ён,— я павінен зрабіць тут заяву. Паколькі тут успаміналася імя Аляксандра Нахлябіча, дык лічу сваім абавязкам сказаць, што гэта мой бацька. Безумоўна, тут маецца факт.

Дзесьці зашапталіся, але гэта не парушыла напружанай цішыні.

— Я зараз перад усёй грамадскасцю зачытаю вам...

Ён выцягнуў з кішэні паперку:

— Гэтым заяўляю, што паколькі гаспадарка майго бацькі Аляксандра Нахлябіча перарасла ў кулацкую і ён сам мае ў гэтым напрамку спрыяючыя адносіны, пастолькі я яго зусім выракаюся. Хачу высветліць фактам усе маючыяся быць непаразуменні.

Ён жорстка глянуў на жанчыну, што вяла сход, і кіўнуў ёй галавою. Сегень рушыў на сваё месца ля сцэны.

Галена бачыла, як Зыдор Пніцкі вельмі збянтэжана паглядаў навокал.

Эпізод гэты тут жа мінуўся. Неўзабаве сталі галасаваць рэзалюцыю і выбіраць рабочых на працу ў вёску. Выбралі і Апанаса Сегеня. Нахлябіч стаяў зноў на сваім ранейшым месцы. Губы яго як бы рабілі патугі ўсміхнуцца, і штосьці неспакойнае перасмыквала яго твар. Раптам Зыдор Пніцкі заўважыў Галену, учарашнюю сваю пасажырку, і падышоў:

— Гэта Сегень, што гаварыў тут, ваш сваяк. Вы ж таксама з Пнівадзіч, я вашага бацьку, каб не схлусіць, ведаў. Мне Нахлябіч сказаў пра вас, дык я і раскінуў розумам — ці не сваякі з Апанасам? Ажно ж такі сваякі.

— А як жа Нахлябіч ведае, што я прыехала?

Яна назнарок запытала.

— А я нядаўна паказаў быў вас яму. Выбачайце, мы землякі... От чалавек, гэта ж трэба, бацькі роднага выракся!.. Ай-я-яй!..

Сход пачынаў разыходзіцца. У шумным натоўпе прайшла Галена праз фабрычны двор і ўсё шукала вачыма Апанаса Сегеня, каб распытаць пра сям'ю Сегеня Якуба (у самым канцы сходу яна згубіла Апанаса). Упоперак цераз двор паўзлі адна за адной у парню драўляныя калоды. Роўны машынны гул ішоў з-за сцен. У скрыначным цэху дробна стукалі малаткі. Горы свежай фанеры ляжалі скрозь паўз сцяну аж да брамы. З дзвярэй фанернага цэха выпаўзаў на двор па рэйках ланцуг пустых ваганетак. Дзесьці свістала пара, грукацела, гуло, шаравалася, енчыла... Двор пусцеў, і Галена выйшла пасля ўсіх. Рабочы пасёлак, новы, ясны ад нізкага над лесам сонца, даходзіў траха не да самага лесу. Па другі ж бок фабрыкі відаць было старое мястэчка, за ім узгоркаватае поле. Галена ішла па новых, мокрых ад снегавой вады, тратуарах. Яна ўвайшла ў лес. Загіністая сцежка павяла праз густы ядловец. Лес тут сыходзіўся на вузкую граду, а за ёю ўбачыла Галена рэчку. Вада залівала сіні лёд і пачынала крышыць яго. Тут яшчэ відаць было сонца — вялікае, над самай зямлёю. Лес за рэчкай адыходзіў направа да далягляду, а налева скрозь вызвалілася кагадзе з-пад снегу, як вокам акінуць, тарфяное балота, да сініх лясоў за ім.

«Колькі я ні бачыла, як заходзіць сонца»,— бурна ўстрапянулася сэрца, і з маладым радасным успрыманнем зямной волі, прастору, свежасці Галена паволі ішла паўз узгорысты лесавы бераг.

## III

Жанчына пасля сходу асталася адна за сваім сталом. Нейкі час каля яе быў Нахлябіч. Яна дапытліва паглядзела на яго і сказала:

— Ідзі, Нахлябіч. І я зараз пайду адпачыць.

Дык ён пайшоў. Яна паволі збірала і складвала роўна паперы. Закінула рукі за галаву, дастала з валасоў грабянец, паволі зачэсвалася. Сонца коса падала з акна на стол, на супрацьлеглыя дзверы. Жанчына так засталася на колькі хвілін сядзець у сонцы. Не варушылася, трымала рукі на галаве. Пасля адным махам рукі схавала паперы ў шуфляду і ўстала. Тады якраз увайшоў Апанас Сегень. Жанчына падышла да акна. Уся залітая сонцам, постаць яе была зграбная; валасы гладка ляжалі пад грабянцом.

— Сегень, ну як сёння?.. Дзе ты быў дагэтуль?

— Дрэнна. Я думаю, што ніякае надзеі.

— Не бядуй, Сегень, нічога.

— Я ведаю, што нічога.

Падабенства да невясёлай усмешкі схавалася ў яго вусах. Ён трымаў рукі ў кішэнях сваёй ватоўкі.

— Нічога, Апанас,— яшчэ сказала жанчына.

Ён паглядзеў на яе не з удзячнасцю і нават як бы з лёгкім здзіўленнем.

— Чаго ты глядзіш гэтак на мяне?

— Як гэта ты адважылася назваць мяне Апанасам?

— Не ўпікай, Сегень... Пойдзем?

Ён злавіў у яе вачах бляск жаночай хітрай задуменнасці. Поплеч выйшлі яны за фабрычную браму. Гэта было тады, як Галена ўваходзіла ў лес. А ўвесь той час, пакуль яна ішла з лесу назад, і як адбылося з ёю спатканне, яны сядзелі ў Сегеневай кватэры. Два пакойчыкі і кухенька. У большым пакоі ляжаў хворы хлапчук, гадоў так шэсць было яму. Сегень падышоў да яго, ён хворымі сваімі, белымі губамі ледзь паспрабаваў усміхнуцца і шапнуць:

— Тата.

Пасля яшчэ, як убачыў за бацькавымі плячыма жанчыну:

— Наталя.

Жанчына пагладзіла яго па лбе, і ён, усміхаючыся, зажмурыў вочы і не варушыўся. Высокая, тонкая стараватая жанчына паправіла яму падушку.

— Апанас,— сказала яна,— распранайся ды ляж, братка. Жарты! з цёмнага не прысеў ні на момант.

— Не выпадае. З гадзіны ночы раблюся вольны на ўсё заўтра, а цяпер у цэх зараз зайсці трэба.

Наталя сядзела ля стала. Усе маўчалі, аж пакуль не прыйшоў стары больнічны доктар і пакуль ён тупаў ля хворага. Наталя першая запытала ў яго, як ён толькі адышоўся да дзвярэй:

— Ну што?

— Не буду вас цешыць.

Доктар падаў усім руку. Апанасава сястра заплакала. Доктар гаварыў пошапкам далей:

— Захаладзіўся ён вельмі... А можа, можа... Не трэба яго трывожыць.

Сегень сумна акінуў вокам усіх.

— Не адыходзь ад яго, сястрыца,— сказаў ён,— мне зараз ісці трэба.

Яшчэ пастаялі з хвіліну і выйшлі моўчкі. Неба над лесам ружавела. Слаўся вечар. Доктар далікатна развітаўся і збочыў да больніцы.

— Я ў цэх,— сказаў Сегень.

— Я правяду цябе, пасля адразу дадому... Ведаеш, Апанас, сёння на сходзе заўважыла я новага чалавека, знаёмага. Дзяўчына. А можа, проста падабенства. Але не. Вельмі ж падобна! Гэта яна. Памятаеш, я табе расказвала пра адну дзяўчыну, Галену Сегень, як толькі сказаў ты мне быў першы раз сваё прозвішча?

— Я не памятаю.

— Гэта ж было нядаўна.

— Можна сказаць, ты пра сябе мне нічога ніколі не расказвала.

— Чаго ты гэтакі стаў сёння, Апанас? Размяк гэтак. Я цябе ніколі гэтакага не бачыла. Няшчасце з сынам цябе замучыла, ці ты змарыўся?

Яны стаялі ля фабрычнай брамы. Змяркалася. Сегень стараўся глянуць у Наталіны вочы.

Адышоўся крокаў пяць ад брамы. Наталя азірнулася. Убачыла, як Апанасава постаць раставала ў лёгкім змярканні на фабрычным двары, і пайшла ў сваю вуліцу. Галена тады варочалася назад.

Яны здалёк убачылі і пазналі адна адну. Наталя толькі паспела працягнуць Галене руку, як Галена загаварыла:

— Я ўспомніла цяпер. Я на сходзе глядзела на вас і думала ўсё, не магла ўспомніць. Вы Гарбачынская Наталя?

Галена ўся была ўсхвалявана. І ў вячорным сутонні

прыкметна было, як ружавее яе твар і гарацъ вочы. Рысы твару ў яе былі шырэйшыя ад Наталіных, постаць мацнейшая. Каштанавыя валасы непаслушна выбіваліся з-пад танюсенькай сіняй хусцінкі ў веснавы вецер, звешваліся паабапал высокага лба.

— І я вас бачыла на сходзе, як вы сядзелі на адным крэсле з больнічнаю жанчынаю.

— І здзівіліся?

— Не.

І яшчэ раз сціснула Галеніну руку. Галена думала, ці поціскам адно рукі трэба абмежавацца ім пры гэтакім спатканні?

Яны тут не стаялі доўга. Галена запрасіла Наталю да сябе:

— На маю новую доктарскую кватэру. Я ў вас тут за доктара ў больніцу прыехала.

— Вы ўжо за доктара вывучыліся?

— От тут дык вы ўжо здзівіліся.

— Не. Як час бяжыць! Здаецца, от толькі што гэта было. Памятаеце, і не забыліся, тое прыгранічнае мястэчка?.. Але я лепш зайду да вас заўтра, як адпачну. Я вельмі стамілася.

— На хвілінку. Я вас тады правяду.

Яны ўвайшлі ў шырокі карыдор. Востра даходзіў сюды водыр аптэкі. А як увайшлі ў Галенін пакой — пусты яшчэ, усяго толькі з ложкам, сталом і адным белым больнічным крэслам — адразу ж з суседняга пакоя хтосьці застукаў у дзверы. Там была доктарава кватэра. Атрымаўшы запрашэнне ўвайсці, стары доктар шырока адчыніў палавіну дзвярэй і ўвайшоў. «Што ж вы без святла?» — ён па-гаспадарску адкруціў святло і нават як бы здзівіўся, як убачыў тут Наталю. Але тут жа пачаў абедзвюх іх запрашаць на гарбату. Сівая барада яго была падстрыжана на тупы клінок, рысы твару былі шырокія, і адлюстраванне шчырай дабраты ляжала на іх. Тры глыбокія зморшчкі ляжалі адна на адной на высокім ілбе, а валасы — мяккі белы рэдзенькі пушок — былі толькі ля вушэй.

— У нас можацс і сталавацца,— далікатна гаварыў ён Галене,— але пра гэта жонка мая з вамі меціь будзе гаворку.

Ён увёў іх абедзвюх у сваю кватэру.

— У мяне брыдкая натура,— шапнула да Галены Наталя,— не магу адмаўляцца. А мне ж гэтак ісці адпачыць трэба.

Пакой, куды ўвёў гасцей доктар, быў вялікі. Высозныя, траха не да столі, вазоны стаялі паўз сцены скрозь. Новая мэбля, нефарбаваная, простая, відаць, работа чарніцкіх мястэчковых майстроў, была дасціпна парасстаўлена на сваім месцы. Нічога не стаяла там, дзе яно не павінна было стаяць. Але ўсё ж была тут рыса нейкай супярэчнасці. Яна ляжала на ўсім, і выразна заўважыць яе нельга было. Яна была і ў тым, што водыр духоў, тонкі, слабы ад адзежы доктаршынай, ніяк не пасаваўся з гэтаю мэбляю. Галена адразу адчула сябе тут не зусім добра. Ад тонкай доктаравай наглядальнасці гэта не схавалася, і твар яго перасмыкнуўся рухаваю, пакутнаю грымасаю.

У той самы момант, як адчыніў доктар дзверы, шарганулася аб падлогу ножкамі крэсла, і з-за купчастага нізенькага вазончыка на стале глянула на ўсіх Нахлябічава галава. Пасля паволі ўстала насустрач гасцям дасціпная, прыгожая, старая жанчына — доктарыха. Першы Нахлябічаў зірк быў на Галену. Ён вельмі спакойна падаў ёй руку:

— Учарашні ваш фурман гаварыў мне, што вы прыехалі сюды на сталую працу.

— На сталую працу,— схілілася яму Галена.

— Дык вы ўжо знаёмыя былі? — сказала Наталя.

— Вы папраўіліся,— загаварыў Нахлябіч,— твар ваш ружовы.

— Гэта ад ветру,— адказала Галена.

І тады пачалася агульная гаворка.

Старога доктара Галена не магла спачатку зразумець, а ад жонкі яго, расійскай старой інтэлігенткі (Галена ўбачыла гэта адразу, з першых жа слоў) яна проста-такі збянтэжылася. («Гэта ўсё загаварыла мужычая галетніцкая кроў»,— пісала яна ў той жа вечар пра ўсё гэта да Гаруса. Яна, як і ва універсітэце была, цяжкавата ёй было, калі даводзілася ў старую прафесарскую ці іншую падобную сям'ю папасці.) Пасля першай няспрытнай маўчанкі гаворка аднавілася з таго, што доктарыха загаварыла, нібы да мужа і нібы так сабе, між іншага, пра кветкавую расаду. Доктар штосьці адказаў, але Наталя падтрымала тэму:

— Перад вокнамі клуба пусты пляц трэба скарыстаць для пасадкі дрэў і кветак.

Доктарыха тады пачала ўспамінаць, як калісьці, з самых маладых год яе і аж да самай рэвалюцыі, заўсёды шмат мела яна садовых і хатніх кветак. Вельмі ж аднаго

году цвілі «чудные два левкоя». Тады Галена, нечакана нават для самой сябе ў гэтую хвіліну, раздражнена пайшла насупроць доктарыхі:

— І я люблю кветкі, але найбольш дзікія. Малачайнік дзе-небудзь на выгане або шыпшыну на мяжы.

Тут доктар з добрым ажыўленнем паглядзеў на Галену: ён усё пільна ўглядаўся ў бляск яе вачэй.

— Тут гэта не густы вашы сходзяцца ці разыходзяцца, вы гэта і не кветку дзікую любіце, а свет той, выган той, дзе яна расце. Тых людзей, якіх вы звязваеце з гэтымі вобразамі. Угадаў я?.. Я тут не па спецыяльнасці сяджу. Мая спецыяльнасць псіхіятрыя... Вы і яна (глянуў на жонку) ніколі не сыдзецеся. От мы і высветлілі ўсё. Цяпер нам будзе лягчэй гаварыць. Няяснасці і штучнасці мы, здаецца, знішчылі... А цяпер яшчэ пра сябе, і тады будзе ўсё.

З вамі, маладымі, у мяне на адным пункце дагаворанасць павінна быць: я рэвалюцыі чакаў і нават памагаў рабіць яе, пакуль яна не была фактам. А тады яе мне давялося прымаць. І я прыняў яе як рэвалюцыю расійскую. Цяпер, трапіўшы сюды, прымаю яе як рэвалюцыю інтэрнацыянальную, а ўсе ранейшыя ўяўленні даводзіцца разбураць. Бачыце, колькі ломак?

Галене ён здаўся цікавым і сімпатычным за гэтую сваю адкрытасць.

— Вось я такі і ёсць. Рэкамендуюся... Цяпер мы адзін аднаго ведаем, і нам гаварыць будзе лёгка.

Ён, усміхнуўшыся, паважна кіўнуў галавою Галене і гэтак жа паглядзеў на ўсіх. Адразу стала лёгка ўсім тут сядзець і гаварыць.

Нахлябіч не зводзіў усё вачэй з Наталі.

— Што ты на мяне глядзіш гэтак? — сказала яму Наталя.

— Ты казала, што адпачываць пойдзеш, якая ты...

Тут ён выняў з кішэні газету і палажыў перад сабою.

— Я гэта да вас і заходзіў,— глянуў ён на Галену,— паведаміць, каб на мітынг прыйшлі, як будзе канчацца вячорная змена. Будзе гудок. А мітынг будзе вось з якой прычыны.

І пачаў чытаць з газеты:

«...Урад БССР канчаткова зацвердзіў будаванне раённай электрастанцыі на тарфяным Півадзіцкім балоце, у раёне Чарніцкай запалкавай фабрыкі. Паводле вылічэнняў дзяржаўных інжынераў, торфу на Півадзіцкім балоце

хопіць для запраектаванай станцыі больш як на сто пяцьдзесят год. Галоўным інжынерам на пабудову назначаны тав. Курц. Абавязкі яго памочніка даручаны для выканання практыканту-інжынеру Адаму Бародзічу».

— Адаму Бародзічу? — перапытала Галена.

— Вы ведаеце яго? — глянула на яе Наталя.— Ён летась увосень быў тут у нас. Складаў план перабудовы Пнівадзіцкага раёна. Копію прыслаў Сегеню; з ім здружыўся, як быў тут.

— Адам Бародзіч працуе там, у цэнтры. І нейкія дысцыпліны ходзіць слухаць на медфак. Яшчэ дзён тры таму я яго бачыла...

— Дык я і прыйшоў сказаць вам, што будзе мітынг, лятучы.

«Не гэта, мусіць, прычына»,— варушылася ў Галены думка.

— Дзякую. Мне дзіўна з вашай клапатлівасці,— жорстка сказала яна. Нахлябіч як бы нічога не заўважыў:

— Я вам пакіну газету, можа, пачытаць захочаце.

Ён стараўся гаварыць тонам далікатным. Наталя гэта заўважыла і папытліва паглядзела на яго. Нахлябіч цяпер злаваўся, моцна думаў: штосьці ўпэўненае было на твары яго. Раптам ён сказаў як бы з лёгкаю задумаю:

— Цяпер ужо кожны ныцік павінен упэўніцца, што пара прапяяць рэвалюцыі акафіст.

— Акафіст? Рэвалюцыі акафіст? — устрапянулася Галена як бы нават з радасцю, што льга кідаць Нахлябічу вострыя словы.— Акафістаў рэвалюцыя не прымае. Рэвалюцыю льга рабіць, поўніцца ёю, успрымаць яе, як спрацованы чалавек прымае хлеб... Але агаварыцца трэба, які спрацованы чалавек. Я ўсё маленства сваё глядзела, як спрацованая жанчына, змучаная, успрымала хлеб, як божы дар. Калі хлеб упадзе на зямлю, яна цалавала яго. Перапрашала божы дар. Я гавару не пра гэтакае ўспрыманне... Акафіст — гэта «славословие», нявольніцтва. Вы, здаецца, усе таксама ўблытаны ў гэтым вузле.

Пры слове «таксама» Нахлябічаў твар змяніўся, стаў жорсткі.

— Вы думаеце, што той новы чалавек, пра якога вы мне тады чыталі ў сваіх вершах, будзе толькі таму новы, што будзе абуты, пегалодны, адзеты?.. Ну, адным словам, выратуецца з сацыяльных бядот, а сам, які быў, гэтакі і застанецца?.. Поўны новы чалавек пачнецца тады, калі з яго будзе вытраўлены апошні цень ад пачуцця ўсяляка-

га акафіста ў дачыненні да каго і да чаго б там ні было...

Доктар ужо шпарка хадзіў па пакоі. Нахлябіч з пагардаю смяяўся. Наталя глядзела на Галену:

— Як вы змяніліся.

Нахлябіч як бы сам сабе, але моцна сказаў:

— Яна ніяк не змянілася.

Наталя паднялася ісці.

— Прыйдзеце на мітынг? — сказала да Галены.

— Я цяпер пайду. Я да Сегеня. Каб расказаў ён мне пра сям'ю пнівадзіцкага Сегеня, што ён пра штосьці ўспамінаў на сходзе.

— Ага, ага, пайдзеце,— сказаў Нахлябіч,— навіну пачуеце, калі не чулі... І вы да гэтае справы прычыніліся, хоць і кідаеце словы, якая павінна быць рэвалюцыя.

Ён развітаўся з доктарам за руку і кіўнуў Наталі. Глянуў на Галену і выйшаў.

— Цяпер Сегень да канца змены заняты вельмі і наўрад ці можа гаварыць з вамі. Пачакайце, зараз гудок будзе... Я яшчэ дадому зайду,— гаварыла Наталя.

— Нецярплівасць мучыць мяне.

— Нічога, можа, так што. А вы гэта з пнівадзіцкімі сваякі, дык і з Апанасам Сегенем, значыцца?..

Яна выйшла рухаваю сваёю ўтомленаю паходкаю. Доктар усё хадзіў па пакоі. Доктарыха яшчэ прапанавала Галене гарбаты. Галена адмовілася і развіталася.

— От жа ваша газета,— працягнуў ёй доктар пакінёную Нахлябічам газету.

Яна выйшла ў свой пакой. У голыя, незавешаныя вялікія вокны глядзела ноч. Чуўся танклявы крык таварнага паравоза з далёкага адгэтуль вакзала, а з фабрыкі ціхі шаргаваты шум. Ноч жа была маўклівая. Неспакой і трывога апаноўвалі Галену... І павялічваліся з прычыны тае як бы пагрозы, якую яна адчула ў дачыненні да сябе ад Нахлябіча. «Што за слова яго — прычынілася да гэтае справы? Якая справа?» З вялікаю нецярплівасцю чакала яна гудка, каб ісці тады да Апанаса Сегеня. Хадзіла па пакоі, пасля села пісаць.

## IV

Галена пісала да Гаруса:

«...Прыехала я, можна сказаць, у свой родны Пнівадзіцкі раён. Адгэтуль мой бацька выйшаў, і я сама тут радзілася, і першае маленства маё прайшло тут. Самыя Пні-

вадзічы я добра памятаю, выехалі мы адсюль з бацькам, як мне было гадоў восем, і ўсё, як у белы дзень, засталося перад вачыма. А пазалетась я ўлетку была ў Півадзічах, у родных па бацьку, і ўражанне дапоўнілася. Але і тут, у Чарніцы, людзей «сваіх» шмат спаткала — то бацьку майго ведалі, то мяне пазнаюць, то ўспамінаюць тых людзей, якіх я ведаю. Адным словам, трапіла ў сваё котлішча. Першы наверзся на вочы мне Зыдор Пніцкі, смешны чалавек, абшарпаны і абадраны, мой зямляк (зямляк майго бацькі), спрадвечны, здаецца, бядак, з спрадвечнаю сваёю бядачаю канеечнаю хітрасцю (абы-як выкруціцца на дзень, на два). Я ўспомніла адну блізкую мне жанчыну (не старую і старую, зразумей), што ўсё жыццё сваё ненавідзела гэтакую хлуслівую хітрасць і ўсё жыццё сваё прымушана была хітраваць перад усімі (за крошку хлеба!). Гэта адна дворнічыха ў вялікім месце, з двума сынамі; цяпер у вёсцы, у глухім закутку ля лесу на Наваградчыне жыве. Уладзімер і Кастусь!.. Ты ведаеш... Мне цяжка пра ўсё гэта ўспамінаць.

...Памятаеш, як уцякалі мы адтуль сюды і як у прыгранічным мястэчку, на гэты ўжо бок, былі ў райкомаўскай працаўніцы Наталі Гарбачынскай? Дык сёння я Наталю Гарбачынскую спаткала тут, на фабрыцы. З таго часу некая прыхільнасць у мяне да яе захавалася, хоць я яе і не ўспамінала ніколі за ўвесь гэты час да сённяшняга дня. Выявіўся тут нечакана і сваяк мой (далёкі, здаецца) Апанас Сегень. Быў ён на рабоце ў Півадзічах і ўспамінаў сёння пра сваякоў маіх півадзіцкіх, пра сям'ю Якуба Сегеня. Штосьці там здарылася ў іх. Калі што вельмі важнае, прыпішу сюды яшчэ табе. Страшэнна бедна жывуць яны там, півадзіцкія сваякі мае, Сегені. Як я была ў іх, дык тады гаворка ў сям'і была, каб куды пайсці служыць Зосі ці так дзе на старане работу знайсці. Зоська — гэта стрэчная сястра мая. Сям'я вялікая, ратоў многа (Зосьчынага бацькі звыклыя словы), а разгуляцца няма на чым. Пасля ўжо ўвосень Зося мне пісала, што асталася служыць на суседнім багатым хутары ў Сегенецкага. Дык слухай жа, Гарус. Сегенецкі — гэта той самы Сегень. Было Сегенёў чатыры браты. Мой бацька — дворнік у горадзе быў, другі брат — Якуб Сегень, Зосьчын бацька, увесь век пражыў у каравых анучах, трэці брат — хутаранец і не Сегень ужо, а Сегенецкі. Прозвішча змяніў сваё на далікатнейшае, каб бліжэй крыху да паноў, да паўпанкаў быць. Гандлем быў заняўся з маладых год і гэтакі ўвішны

быў, што праз некалькі год зямлю пачаў скупоўваць і з усімі навакольнымі паўпанкамі знацца. Дзе ж яму быць тады простым Сегенем? Ёсць паны і паўпанкі навакольныя — Навадворскія, Шатроўскія, Шумоўскія, а гэта з'явіліся Сегенецкія. Хоць не радавіты пан, а ўсё ж хоць прозвішчам бліжэй да пана. Вось куды пайшла адна лінія Сегенёў. І яшчэ ёсць адна лінія. Я ніколі не бачыла, але бацькі мае расказвалі ўсё, што яшчэ дзесьці ёсць чацвёрты Сегень. Той ужо ніколі сюды і вачэй не паказваў, як толькі сілаю-гвалтам з простых людзей выйшаў. За царом у мінскай губернатарскай канцылярыі за чыноўніка быў і цяпер недзе, кажуць, у Мінску век свой дажывае. Але Сегені яго цяпер не ведаюць і не бачылі ўжо год дваццаць пяць. Таксама, казалі, нейк прозвішча змяніў у гэтакім кірунку, каб лепш было выдавацца, так сказаць, за радавітага чыноўніка Расійскай імперыі. От і ўсё, што пра яго маглі расказваць мне мае бацькі і сваякі.

...Зося тады як была напісала мне, што за парабчанку пайшла служыць да Сегенецкага (так і пісала —«за парабчанку»), як хто камень нянавісці мне на душу ўскінуў. Гэта родная пляменніца! Стрэчная сястра!.. У Сегенецкага два сыны, хлопцы — Толяк і Балеслаў. Як была я тады ўлетку ў Пнівадзічах, бачыла іх, гэтых сваіх стрэчных братоў. А як бачыла? З'яўляецца раптам сам стары Сегенецкі да брата Якуба ў Пнівадзічы, а той брат пнівадзіцкі Сегень аж сумеўся ад нечаканасці. Што за дзіва! Які вецер загнаў сюды хутарскога Сегенецкага? Бо хутар той ад Пнівадзіч хоць і быў усяго за пяць вёрст, але год ужо мо з дзесяць, як Сегенецкі ў братавую хату носа не патыкаў. Чаго яму быць у нейкага там галетніка? Якія ў іх могуць быць там інтарэсы? Тым часам справа высветлілася як бачыш. Прычына тут была — я. Я — не як дачка брата дворніка, а як сваячка, што вучыцца ва універсітэце, праз гады два вывучыцца за доктара, так сказаць, з пэўнага пункту погляду — паненка, хоць і савецкая, вышэйшага калена, ну, і ўсё гэтак... Дык от Сегенецкі і з'явіўся запрасіць у госці мяне. З братам пагаварыў, каб не маўчаць, паглядзеў на Зосю — гэта ты, кажа, гэтакая вялікая вырасла! (Зосі тады было гадоў семнаццаць.) Нічога і нікога я тады яшчэ там не ведала. Паехала ў госці да хутарскога дзядзькі. Дзеля прыклёпу і Зоську забраў Сегенецкі. Палі мы там дзён пяць. Якая мясцовасць! Лес навокал — выносістыя хвоі. Пнівадка цячэ ў паплавах. А хутар — сапраўды паўпанскі. Так сказаць, у мініятуры пан жыве.

У паноў былі ля мураваных пакояў паркі з ліп, а тут — з дваццаць ліп і кляноў у газоне перад драўляным дамком. А Сегенецкага хлопцы! Праўду кажучы, дзікуны. Панскі дух бацька ўбіў у іх. Але не чыста панскі, а з лёкайскім душком. Стары Сегенецкі сапраўднаму пану, бывала, заўсёды ў руку пацалуе, а жонку ўзяў — радавітую ахмістрыню з панскіх пакояў. Старэйшы — Толяк, сярэднюю асвету прайшоў. Але асвета толькі больш развіла пэўныя інстынкты, пэўную іх накіраванасць. От Толякава слова, якое ад пят да галавы яго выявіла. Стары Сегенецкі завёў быў гутарку пра палітыку (у якой ён разбіраецца гэтак, як мы з табою ў багаслоўі). Палітыка яго адна — прыйдзе Англія, Францыя, праз Польшчу, вядома, і зробяць у нас «парадак». Гаворачы пра палітыку, нейк успомніў Троцкага (ні к сялу ні к гораду). Дык Толяк і выказаў сваю думку: «Троцкі, кажа, разумны чалавек, бо ён заўсёды жыў так, як добра. Ён і раней жыў добра, а цяпер яшчэ лепш. Мусіць, чуе, што тут нядоўга ўсё гэта будзе». І гэта гаварылася з захапленнем перад гэтакім чалавечым вобразам. Вось тут Сегенецкія з галавы да пят. Усё дзеля свайго ўласнага карыта. Што ж, Сегенецкі мог бы, каб не рэвалюцыя, так сказаць, пашырацца на зямлі. Толяк і Балеслаў маглі б ужо быць сапраўднымі панкамі, калі не панамі. А другая лінія Сегеньскага котла не вылазіла б з каравых андаракоў. Цень гэты яшчэ і цяпер крайком затрымаўся: Зося — парабчанка ў Сегенецкіх... Чуеш, Гарус?

...Яшчэ пра адно спатканне. Мікалай Нахлябіч. Як была пазалетась я ў Пнівадзічах, спаткалася была з ім. Быў такі выпадак, што я не захацела з ім гаварыць. Ён тады адчуў сябе вінаватым. І сёння з пачатку спаткання з ім гэтак трымаўся ён перада мною. Але пад канец у ім загаварыў ён сам. Я цяпер пачынаю ўпэўнівацца, што ўся тая мая цяганіна, уся там мая універсітэцкая справа — гэта яго работа. Мабыць, ён, здаецца мне, абвясціў мне сёння вайну. Але пра гэта і пра яго больш не буду табе пісаць. І так шмат напісала...

...Я сёння бачыла захад сонца. Стаяла на ўзлеску над Пнівадкаю, а сонца заходзіла ў сінія туманы. Пнівадзіцкае балота, як вокам сягнуць, ляжала перада мною. Сюды прыязджае Адам Бародзіч зараз, але ж ты бліжэй да яго і сам, мабыць, ужо дазнаўся. Дык я глядзела, як заходзіла сонца. Гэтакі быў адвячорак якраз тады, як мы з табою ішлі паўзлесным выганам у гэтакай трывозе. Памятаеш?

Я гэтага ніколі не забуду. Усё жыве перад маімі вачыма і ў думках. Усе вобразы і словы жывыя засталіся навек... Ну, бывай. Пацалуй ад мяне рагатуху Таланку».

І яшчэ пісала Галена да Зосі:

«...Зоська, я цяпер у нашым Пнівадзіцкім раёне, у Чарніцкай больніцы за доктара. Я дзіўлюся, чаму ты нічога не пішаш мне. Ты мне ўсяго і напісала была тады, што пайшла служыць да Сегенецкіх за парабчанку. Праўда, што і я табе мала пішу, два ці тры разы ўсяго пісала. Я табе тады ўвосень паведамляла, што хутка скончу універсітэт, і гэтаю зімою пісала, а ты маўчыш...

...У мяне вялікае замілаванне да цябе, сястрыца. Да таго лета мы нават не ведалі адна адной, пакуль мне не ўздумалася было паехаць да вас, на бацькоўскую (дый на маю першую) радзіму. Як ты жывеш? Ці служыш ты цяпер? Ці не здарылася што з табою? Сёння наш сваяк Апанас Сегень (ведаеш жа яго, ён быў там у вас) успамінаў вас. І я трывожуся... Сёння першы дзень я тут. Хочацца пабачыцца з вамі ўсімі. Тым летам, як была я ў вас, дык тата твой усё гаварыў мне, што я вельмі да цябе падобна. А сам ён, як жывы, тата мой, стаіць перада мною. Штосьці адмысловае цераз увесь твар ідзе. Раз ён пад вечар са мною сеў быў на прызбе ў вашым двары і кажа: «Я цябе, дачушка, толькі і памятаю дзіцём, а здаецца мне, што я цябе ніколі з воч не спускаў». Я чула, што ён хоча сказаць, што любіць і шкадуе мяне...

...Ты мне тады як напісала была, што асталася служыць, дык мне цяжка стала. Горш за ўсё гэта тое, што ты ж там (я ведаю добра) нават крыху як бы за сваячку будзеш лічыцца, а гэта горш яшчэ прыніжае цябе. Я думаю яшчэ адно, ці не пайшоў Сегенецкі тут на хітрасць, можа, ён запісаў цябе не як парабчанку, а як бедную сваячку, якой ласку робіць. У Сегенецкага тады, значыцца, няма наймітаў! Можа, вашым і не ў голаў гэта?

...Я думаю пра адно — каб ты вучылася. Калі яшчэ не кінула служыць, дык зараз кінеш... Яшчэ дапішу пасля...»

## V

Мітынг яшчэ не пачынаўся, як прыйшла Галена. Яна застала Наталю на выхадзе:

— Мітынг будзе хвіліны тры, не больш, але я не дачакаюся, мусіць... Што гэта з Нахлябічам у вас? Ён вас, здаецца, узненавідзеў пасля сённяшняй гаворкі? Вы як бы

гэта канчалі сёння раней калісьці пачатую гаворку? Што ў вас было раней? Прынамсі, здаецца мне гэтак.

— Нічога важнага не было. Я была разам улетку ў сваякоў у Пнівадзічах, ён яшчэ тады дома быў, у бацькавай хаце. Ён чытаў мне свае вершы, вельмі рэвалюцыйныя, вядома, у пэўным сэнсе, гаварыў пра сацыялізм і вельмі рабіў націск на новага чалавека. Сапраўды, мы сёння канчалі пачатую раней гаворку. Ён, так сказаць, простаю моваю, валачыцца пачаў за мною тым летам. Але я (гэтакі выпадак здарыўся) не захацела з ім гаварыць. Гэта пасля аднае справы, што выйшла з яго рук там жа, у Пнівадзічах... Але цяперашнята яго не ведаю. Можа, ён цяпер іншы. Я пасля таго выпадку з ім аж да сёння не бачылася і не чула пра яго, хоць цяпер пачынаю здагадвацца, што праз яго гэта паўгода пакутавала, як была яшчэ ва універсітэце. У ганьбу гэтакую папала...

— А што ж там за справа была з яго рук, што вы кажаце?

— Гэта пасля ўпэўніў мяне ў гэтым, пасля таго лета адзін хлапчук з Пнівадзіч. Знайшоў мяне ў горадзе. Значыцца, думала я, не памылілася тады, летам...

Праз дзверы лінуўся людскі струмень. Стала адразу шумна, і, мабыць, праз паўхвіліны ўсяго якой пачаўся мітынг. Сегень дакладваў пра пастанову ўрада аб пабудове на Пнівадзіцкім балоце электрастанцыі.

Мітынг ухваліў рэзалюцыю паслаць прывітанне ўраду БССР. Але Галена не была тут, пакуль скончыўся мітынг. Наталя яшчэ стаяла ля яе, як падышлі да іх рабочыя. Наталя пачала знаёміць:

— Вінгар.

Галена пазнала таго таўсматага хлопца, што па-сялянску нейк гаварыў удзень на сходзе.

— Клаўдзя Мініч.

І Галена пазнала вастраплечую дзяўчынку, што гаварыла на сходзе.

Яшчэ падышлі, калі ўжо гаварыў Сегень. Наталя тады адышлася. Галена механічна нейк дастала з кішэні газету, тую Нахлябічаву. Слухала і глядзела на гушчыню петытнага шрыфту. Пад выдзеленым вялікім шрыфтам паведамленне пра пабудову электрастанцыі яна пачала пакрысе ўваходзіць у страшны для яе сэнс петытных нататак. Яна чытала: «Весткі з Заходняй Беларусі (паводле паведамлення польскіх газет): «Арышты ў Наваградчыне»:

«Гэтымі днямі палітычная паліцыя арыштавала мала-

дых хлопцаў Уладзіміра і Кастуся Сегенёў. Іх вінавацяць у рэвалюцыйнай дзейнасці. На трэці дзень пасля іх арышту згарэў у той мясцовасці буйны маёнтак пана Азэмбловіча. Панскай сям'і ў маёнтку не было, яна цяпер у Рыме. Абвінавачанне ставіць пажар у сувязі з арыштамі, што адбыліся скрозь па вёсках... Праз колькі дзён пасля арыштаў Сегенёў маці іх сышла з дому і знікла, ніхто не ведае куды. Арыштаваных накіроўваюць у Віленскую турму. Думаюць, што маці пайшла за імі...»

Галена паволі, губячы думкі, скамячыла газету, колькі хвілін глядзела шырокімі нерухомымі вачыма ў чорнае бяздонне акна насупроць. Пасля, нічога ўжо тут не заўважаючы і не чуючы, пайшла да дзвярэй. Ля самага выхада хтосьці ўзяў яе за руку. Яна ўздрыганулася. Гэта быў стары доктар.

— І я прыйшоў... Чаму ж вы мне не аказаліся, як ішлі... Там у бальніцы адна хворая, як даведалася пра вас, хоча вас пабачыць. Кажа, што ведае вас...

Галена пайшла. У бальнічным карыдоры гарэла адна слабая электрычная лямпачка. Дзверы ў пакой, дзе былі хворыя, адкрывалі за сабою мяккі сонны змрок. Пад лямпачкаю ў карыдоры сядзелі двое: бальнічная сядзелка і яшчэ дзяўчына, белатварая, у бальнічным халаце...

Зося!

Галена шпарка пайшла ёй насустрач. Галена была як у агні.

## VI

У тыя дні прыехалі на Півадзіцкае балота пад Чарніцу Адам Бародзіч і інжынер Курц. Балота вызвалілася зусім з-пад снегу, леташняя сухая асака і мох рыжэлі на ім пад вадою. Півадка гнала цэлае мора вады, узгоркаваты хвойны бераг падплыў да самага балота. Зыдор Півіцкі, атрапаўшы рукі ад усяго хатняга дробнага і непазбыўнага капеечнага клопату, зрабіўся нязменны спадарожнік Адама Бародзіча і Курца. Ён іх прывёз з станцыі, дазнаўся пра Бародзічава знаёмства з Галенаю і выкіраваў каня проста да бальніцы. Зноў тлумачыў на бальнічным ганку: «Пад'язджаю пад станцыю, бачу, каб не схлусіць вам, стаяць яны ўдвух...»

Галена ўзрадавалася Бародзічу. Ужо дзён два прайшло з часу спаткання з Зосяю ў бальнічным карыдоры. Ужо ўсё ведала Галена, Зося доўга расказвала, успамінала

ўсё. Якая была новая Зося цяпер! Галена ўбачыла гэта адразу. Быў той самы малады твар, але задума ляжала на абліччы, і не па-дзіцячаму свяціліся вочы. Гэта не была ўжо тая порсткая дзяўчынка. Тую ноч яны праседзелі ў Галеніным пакоі, а назаўтра Зосю выпісалі з бальніцы. Галена не спяшала адпраўляць Зосю дадому, і Зося не працівілася.

Барадзіч прывёз навіну пра Гаруса. Галену навіна гэтая ўзварушыла вельмі: тут была ўмешана Зося. Нават на першым месцы яна тут была. Барадзіч успомніў гэта на другі дзень; гэтай справы ён яшчэ не ведаў.

Чарнявы, нізкарослы Адам Барадзіч напоўніў Галеніну кватэру басавітаю сваёю гаворкаю. Ён мала сядзеў на адным месцы, гаворачы, любіў хадзіць, залажыўшы назад рукі і сціснуўшы пальцы. Чорны пух укрываў яго верхнюю губу. Ён адразу ж сабраўся на работу. З чамадана выцягнуў картовыя нагавіцы і практыканцкія яшчэ свае боты з доўгімі халявамі.

Курц закватараваў першыя дні перад выездам на балота ў доктара. Ён быў высокі, тонкі, бялявы, вастраносы. З Галенаю ён быў ветлівы і далікатны.

Яны з Барадзічам увесь другі дзень пасля прыезду праседзелі ў Галеніным пакоі, разбіраючы планы і рысункі. Курц некалькі раз пытаўся ўсё ў Галены, ці не перашкаджаюць яны ёй. На трэці дзень прыехала некалькі чалавек тэхнікаў і рабочых, і яны выехалі на балота апаўдні. Зранку Барадзіч, Галена і Зося пайшлі на фабрыку да Апанаса Сегеня. Той канчаў сваю ўжо тут работу. Ён выязджаў у тыя дні на доўгі час зноў у Пнівадзічы. Барадзіч, Галена і Зося чакалі яго на двары.

Апанас Сегень перадаваў Вінгару цэх. Вінгар, падобны крыху да Барадзіча, стаяў ля нізенькага фанернага століка і складваў гатовыя бланкі на рапарты. Валасы яго зачэсаны былі нізка на лоб, ён упарта глядзеў у жмут дробна раздрукаваных і спісаных папер. Змена падыходзіла да канца. Сегень і Вінгар працавалі гэтую змену ўдвух.

З сушыльнага цэха патыхала сухім цяплом, нават гарачынёю, гул стаяў скрозь. У праходах паміж машынамі бегалі рабочыя, найбольш босыя, у расхрыстаных, непадпяразаных чорных рубашках, пхалі перад сабою ў сушыльню вагончыкі, падобныя да этажэрак; праз другі праход варочаліся назад з вагончыкамі пустымі. Пад высокай аркай, дзе пачынаўся другі цэх і дзе поблізу быў выхад на двор, стаяла некалькі чалавек другой змены. Рэшта

людзей была на двары. Чакалі гудка. Апанас Сегень нацягваў ужо на сябе ватоўку, як увайшла Наталя Гарбачынская:

— Ты, Апанас, як будзеш ісці, ідзі праз маю малую фортку, там цябе чакаюць.

— Барадзіч? Ведаю.

Наталя пачакала яго. Выйшаў разам з імі і Вінгар. Спаткаліся ўсе на фабрычным двары і пайшлі адсюль разам. Спатканне Барадзіча і Сегеня было як бы ўмоўлена раней, хоць яны яшчэ не бачыліся цяпер. Разам — усе яны пасля спаткання агульнага былі вельмі з'яднаная кампанія; пра гэта падумала Зося. Яна глядзела на ўсіх гэтых людзей, з якімі толькі адбылося першае яе знаёмства, і пазнавала тут нейкую еднасць. Хоць яна яшчэ не пазнала гэтых людзей як след, як трэба было ёй пазнаць іх. Вінгар трымаўся тут маўкліва; пасля яны ішлі поплеч з Зосяю, наперадзе ўсіх, калі ўсе выйшлі на дарогу ад фабрыкі.

— ...А табе прывітанне ад Гаруса,— глянуў Барадзіч на Галену,— ты выбачай, што дагэтуль не перадаў.

— Што ён, як жыве?

І падумала яна, адчула: «Чаму ён не напісаў ні слова, блізкага, інтымнага слова».

Яна пашкадавала тут чагосьці, штосьці кальнула яе.

— Яго цяпер на практыку назначылі. Так сказаць, пачынае быць юрыстам. Пасля выпуску адразу прыкамандзіравалі да адной справы аб забойстве; аб няўдалым забойстве. Забойства не адбылося, але яно, разам з тым, і было. Забойца — малады хлапец, Толяк Сегенецкі.

Зося адышлася з Вінгарам далей наперад і не чула гэтай гаворкі.

— Гарус! Які гэта Гарус? — запытала Наталя Гарбачынская і глянула на Галену.

— Вы яго ведаеце,— адказала Галена.

— Гэта той Гарус, Алесь Гарус, што тады ў пагранічным мястэчку ў мяне разам з вамі быў? Белатвары той хлопец?

— Вы яго добра памятаеце, калі гэтак успамінаеце. Гэта ён.

І тут Галена, уся ўсхвалёваная, загаварыла да Барадзіча. Яна ўзяла яго пад руку і загаварыла цішэй.

— От тая дзяўчына, што не ўдалося забойства Толяку Сегенецкаму.— Яна паказала на Зосю.

— Гэта мая стрыечная сястра... Я ведаю Гаруса і ўжо адразу паставіла дыягназ: яму ў гэтай справе цяжка бу-

дзе, ён тут сапраўды практыку сваю ўгледзіць. Гэта добра яму. Ён, можа, зжыве цяпер непатрэбную сваю частку самога сябе... Але Гарус! Гарус у гэтай справе! Я яму толькі нядаўна пісала пра ўсіх гэтых людзей.

Яна цяпер гаварыла як бы сама з сабою. Апанас Сегень спакойна слухаў усё. Ён толькі паглядзеў на Зосю з цікавасцю. Зося ішла з Вінгарам ужо далекавата ад усіх. Белая хусцінка цесна абвязвала яе галаву. Пахудзелы твар быў белы, нос — вастраваты. Яна ішла паходкаю лёгкаю; і з паходкі аднак жа гэтак, як і з усіх іншых характэрнасцей, была вельмі падобна на Галену. Адам Барадзіч як бы крыху ашаламаніўся ад гэтай Галенінай гаворкі і ад навіны, ад нечаканасці. Ён тут як бы чагосьці не разумеў. Галена маўчала і ішла задумаўшыся.

Праз некалькі гадзін Апанас Сегень правёў Адама Барадзіча да самага больнічнага двара, дзе ўсе ўжо былі гатовы ехаць на балота. Яны паціснулі адзін аднаму рукі, цёпла развіталіся. Сегень пайшоў назад, дадому. Перад гэтым яны сядзелі ў Сегеневай кватэры. Былі толькі яны ўдвух. Гэтымі днямі Сегень пахаваў сына. Сястра яго плакала ўсё часта; мала сядзела дома. І сам ён мала быў цяпер у хаце: яго ўвесь час з'ядаў клопат на заводзе. Вінгар даўно быў застрэльшчыкам арганізацыі ўдарных брыгад. Брыгады разгортвалі работу. І яшчэ да Сегеневага прыезду з Пнівадзіч спынена было штомесячнае паніжэнне вытворчасці. Увесь час пасля прыезду Сегень разам з Вінгарам клапаціліся больш за ўсіх. Сынава хвароба і смерць крыху прысадзілі Апанаса. Ён проста-такі нудзеў па сыне. У яго была гаворка з Наталяю:

— Мне здаецца, штосьці на свеце недароблена. Не гэтак нешта. Хіба ёсць яшчэ большая недарэчнасць, як уміраць у гэтакім веку і ад нейкага там захалоджання? Я тут вінаваты перад ім. Як гэта я мог дапусціць!

— Не перабірай меры, Апанас. Як гэта ты вінават?

І яна старалася звесці яго думкі на другое.

Прыезд Барадзіча ўвёў Сегеня ў звычайную каляіну. Цяпер яны як сядзелі з ім удвух, гаварылі пра пачатак індустрыяльных работ у Пнівадзіцкім раёне. Барадзіч, як сапраўдны малады энтузіяст, развіваў свае планы далей ад таго, што ўжо ведаў Сегень. Ён радасна ганарыўся сваімі планамі, іх зацверджаннем урадам, далейшым іх развіццём.

**«...Пнівадзіцкі раён першы ўрэжацца ў першапачатковую паласу сацыялізма...»**

Ён быў зусім яшчэ малады. Першая практыка была разам з тым і вельмі важнай работай, вялікім будаўніцтвам. Удалая практыка пакідала быць толькі практыкай.

Яны не былі падобны адзін на аднаго. Сегень рабіў усю сваю справу спакойна, роўна, упарта, ціха. Бародзіч увесь жыў звонку, як паверхня кіпучай рэчкі пад сонцам. На яго твары пісалася ўсё, што робіцца ў галаве. Наталя яму заўважыла была неўзабаве пасля яго прыезду:

— А вы падобны нейкім чынам на Галену, маладога доктара нашага.

Бародзіч засмяяўся:

— Мне Гарус заўважаў гэта.

Але ў лішнія гаворкі Бародзіч не падаваўся. Ён сказаў толькі Наталі, што яны з Гарусам шмат гаварылі апошнія часы. Цяпер блізка да таго, што могуць разысціся востра, надоўга, калі не назаўсёды. Яны з Наталяю, з часу першага знаёмства і цяпер, сышліся ў знаёмстве: нават і адразу, як толькі пазнаёміліся, уражанне ў абаіх іх было гэтакае, як бы яны даўно ўжо ведалі адно аднаго.

Галена ўгадвала наперад: яна гаварыла Наталі:

— Ведаючы Гаруса і Бародзіча, я думаю, што яны не доўга будуць таіць выгляд дружбы. Тое самае адчуваю і я сама, хоць я вельмі даражу Гарусаваю дружбаю. Можа, не гэтак гавару, можа, не даражу, а штосьці ёсць тут дарагое мне...

Гэта яна спавядалася Наталі. А тая думала: «Галена ў нечым стараецца пераканаць сама сябе. Яна штосьці перамагае ў сябе».

## VII

Конь доўга піў з плыткага броду. Спусцісты бераг жаўцеў пад вадою скрозь. Размытая гліна асядала з вады на дно. Веснавы вецер ачысціў неба, вада жыла пад сонцам.

Па той бок броду Зыдор Пніцкі пагнаў каня шпарчэй. На ўзгорках дарога сохла пад ветрам. Хвойны лес абступіў яе з усіх бакоў. Доўга ехалі лесам.

Усё ўжо было перагаворана за гэтыя дні ў Галены з Зосяю. Зося ўспамінала і палявую дзічку ў лістападаўскі вечар, і вяселле тое ў залеснай вёсцы. Далёка было ўжо тут ад Чарніцы. Галена развіталася з Пніцкім за высокаю сцяною хвояў. Яна доўга стаяла на адным месцы. Была тут адзінота, сонца ішло над лесам. За выцерабам зноў быў лес, там ён спускаўся ў лог, ішоў глыбока ўніз. Гале-

на ўспамінала, як ёй расказваў дарогу Пніцкі. Яна пайшла ўніз ледзьве пратаптанаю сцежкаю.

Знайшла яна некалькі старэнькіх хатак на нізкай прагаліне. Навокал стаялі хвоі, у адным месцы яны сыходзіліся на вузкую граду, а за ёю, праз бялявыя прасветы паміж хвояў, ляжала балота. Тут, ля лесу, дзе быў груд, стаялі нізенькія слупкі — адзнакі леташняга апланавання. Уздоўж дарогі стаялі і свежыя, відаць, тычкі; Галена пайшла скрозь па дарозе і выйшла да крайняй ад балота хацінкі, як і расказваў ёй Пніцкі. Адам Бародзіч быў там. Пасля ранішняй работы рабочыя адпачывалі і чысцілі інструманты. Курц з паловаю людзей быў з другога боку балота, за некалькі вёрст адсюль. Тут быў Бародзіч.

— От наш і штаб,— сказаў ён, спатыкаючы Галену.— Маладзец, што наведалася, усё будзе так, як і казалі. Увечары паедуць нашы ў Чарніцу, дык і завязуць цябе.

Хата была абгароджана скрыўленым, плеценым з ядлоўцу, плотам. У вільготных сенцах было цёмна, аж чорна па кутках. Знаёмы водыр адсырэлай саломай тхнуў на Галену, як толькі пераступіла яна парог. Бародзіч правёў яе ў хату. Тут было святлей. Ля сцен было паслана сена, ляжала некалькі нязгорненых прасцірадлаў і зрэбных дзяружак. Даўно не беленыя сцены паасыпаліся, з-пад гліны чарнелі пазы ў бярвенні і спарахнелы мох. Столь навісала нізка. Яна нават і не навісала, гэтакае было ўражанне, што гэтае чалавечае жыллё — проста цацка, усё гэта льга адным махам рукі змясці, як птушынае гняздо. І жыццё тут туліцца да часу, яно тут цёмнае, ціхае, няшчаснае. Як сухі дубец дзе-небудзь пад хвояю. Праз маленькія акенцы прабівалася знадворку святло. З двара было цямней — ад хвояў, з трэцяга акна ў другой сцяне святла было больш — там пачыналася адкрытае балота. Людзі збіраліся зноў на работу.

Рабочых яшчэ было мала і найбольш усё тутэйшыя людзі. Бародзіч ледзьве ўспеў пагаварыць з Галенаю, як сабраўся зноў ісці. Выйшлі ўсе, пуста стала ў хаце. Галена выйшла за ўсімі і глядзела, як Бародзіч пайшоў скрозь паўз балота нізкаю, расплюханаю дарогаю. Там варушыліся людзі. Тры студэнты ў бобрыкавых паліто нешта радзіліся на самай дарозе. Бародзіч падышоў да іх. Неўзабаве ён глядзеў у бінокль далёка ў дарогу, азірнуўся, махнуў Галене рукою і пайшоў проста. Балота яшчэ жыло сваім уласным жыццём, яго стыхія яшчэ панавала тут. Як вокам акінуць, жаўцелі вяршкі леташняй асакі — гэта

была жоўтая роўнядзь, мокрая, трасучая. Рух людскі яшчэ тут быў малы. Піянеры новай чалавечай стыхіі кагадзе яшчэ з'явіліся тут — пасланцы хуткай змены твару зямлі.

Галена стаяла адна. Раптам аднекуль з'явіўся перад ёю нізкарослы стары; кружаллё, зрэб'е, сярмяга ў латах, анучы, лыка, брудная воўна — усё гэта хавала пад сабою чалавека. Які быў стары яго твар!

— Бачыце, паненачка, хмара находзіць,— сказаў ён спакойным да фаталізму голасам.

Хрыпаты быў яго голас! Ён памахваў павольненька сухім дубцом і запрашаў Галену ў хату перачакаць хмару. Галена пайшла за ім. Ён увайшоў у знаёмы двор.

— Усе з хаты пайшлі ў заработкі на балота, а я за гаспадара адзін астаўся. Сядайце, паненачка.

Ён сеў на нізенькую калоду і стаў скідаць лапці. У анучах было мокра, ногі яго былі ў мокрай гразі. Ён дастаў з печы сухія закарэлыя анучы, скручваў іх і качаў у далонях; пацертая на пясок гразь сыпалася з іх. Крэкчучы, накручваў ён на ногі гэтыя анучы, усе ў сухой гразі і пяску. Вока яго адно было зацягнена бельмаю.

— З чаго ў вас, дзядуня, вока не бачыць? — запытала Галена.

— А гэта я, дзеткі, некаторага году ў спасаўку выйшаў грыбоў паглядзець. Ішоў я, ішоў, а мне лазовы дубчык сербануў па воку, дык яно і выцекла... І што гэта вы тут робіце? Што гэта бог ужо дасць? От прыходзяць людзі, выглядаюць, мераюць, ходзяць... Каб што добрае з гэтага выйшла, можа б, бог даў які спосаб жыць на свеце людзям... Бывала, сюды на паляванне адно паны прыязджалі, цэлае лета ўсё, то тыя, то тыя, усё мяняліся. А бывала — дык гэта мы былі княжацкія падданыя, дык князева псярня тут заўсёды летавала. Яшчэ тады тут галаў гэтых голых не было — скрозь быў лес. І дарогі гэтае не было. Я быў яшчэ хлопцам, можна сказаць, яшчэ хлапчуком малым, ледзьве памятаю сёе-тое. Наша хата стаяла тады па той бок балота, унь дзе цяпер той хвойнік.

Ён ткнуў пальцам недзе ў акно.

— Бацьку, бывала, выганялі з княжацкаю псярняю бегаць, як князь на паляванне прыязджаў. Усіх тутэйшых падданых выганялі. Раз бацька бег з псярняю лесам. Князь паляваў мядзведзяў. Тут, як на ліха, на бяду, у бацькі пад рукамі мядзведзь, падстрэлены крыху, панскага ўлюбёнага ганчака рвануў за шыю. Дык той і кончыўся ў той самы момант. Бяда на бацьку ўся пайшла. Князь ні піць,

ні есці не ўзяў, пакуль бацьку не пакараў. Загадаў падвесіць за нагу да дуба і не знімаць, пакуль не скончыцца паляванне. Бацька вісіць акрай лесу і енчыць пакуль мог, а пасля хрыпець пачаў. Мяне матка вадзіла пад яго плакаць: а вартавому было загадана ўсіх ад дуба таго адганяць. Дык ён нас і гнаў з маткаю праз усю дарогу. Бацька вісеў аж да змроку, а тады яго адвязалі, і каб сам яшчэ да хаты дабраўся. А ён і паварушыцца не можа ўжо. От тут яго павалтузілі крыху і пакінулі. Уночы мы забралі яго, дык ён пасля таго ўсё жыццё крывёю кашляў. Калекам да самае смерці і пражыў.

Дзед доўга яшчэ сядзеў на адным месцы і ўсё глядзеў кудысьці за акно. Фаталістычнае бяздум'е ляжала на абліччы яго. Раптам ён застагнаў:

— А сабакі тады гэтак заляі аліся, як бацька вісеў!

І яшчэ колькі раз сярод глыбокага маўчання:

— А сабакі гэтак залягаюцца, гэтак залягаюцца!

Цяпер штосьці жывое, пакутнае прабегла па твары яго і зноў знікла. Ён зноў, не міргаючы вокам, глядзеў у адно месца і больш не абзываўся. Зямляны спакой, нежывы, быў на твары яго. Галена ціха выйшла. Слёзы душылі яе. Ей хацелася цяпер знайсці Бародзіча і з ім быць. Пасля думкі пачалі апаноўваць яе. Яна думала пра ўсё.

«...Што ж далей там? Што ж больш? Дзе ж браты цяпер, Уладзімір і Кастусь? Дзе ж маці цяпер?..»

І яшчэ думала яна пра Гаруса. Яна думала пра востры і страшны момант некалькі год перад гэтым, у жудаснай цішыні, у лясным бязлюддзі.

— Братка, Алеська,— сказала яна тады была да Гаруса.— Што будзе з намі мо нават праз некалькі хвілін?

І тады адчула, што ў гэтакія хвіліны гэтак не гавораць: Гарус быў як салома, а не як камень.

Праз дні, праз гады паўстае ўсё з часу!

## VIII

Гэта быў пакутны водыр! Зноў тхпула на яе прэлая салома. Водыр гэты абуджваў буры.

Там, здаецца ёй цяпер, і сонца інакш свеціць, і шчасце, і няшчасце людское іншае.

Каляіністая сцежка, як з калясьмі праехаць, віецца там паўз малады лес. У той апошні дзень смуга вісела над лесам, як яе прымусілі развітацца з сваімі. Хата за-

сталася адна — маці ішла следам доўга, праводзіла немаведама куды адзіную сваю дачку. Мінулі маёнтак пана Азэмбловіча і выйшлі на гасцінец. Маці назіркам яшчэ крыху прайшла і вярнулася. Братоў дома не было.

Вялікае места, тое самае, дзе прайшло маленства ў сутарэнні (дворнік жыў пад трыма паверхамі цаглянага дома), спаткала яе гасціннасцю астрожнага муру. І назаўсёды асталася дзесьці і каляіністая сцежка паўз лес, і асмуглае неба, і маці, і ўсё... У момант развітання з усім гэтым пахла ў сенцах прэлая леташняя салома.

Абвінавачанне прынеслі ёй праз некалькі месяцаў. Было ў камеры следчага:

— Вы Галена Сегень?

— Я.

— Разам з тым вы і Гандзя? Нам вядома!

— Не.

Яна зацяла губы і маўчала больш. Толькі ўрэшце, калі сталі награжаць катаваннямі:

— А за што мяне некалькі месяцаў трымалі ў астрозе, не гаворачы нават, у чым я вінавата?

— Прывядзіце Гаруса,— загадаў следчы астрожнаму жандару.

Яна ўбачыла тады першы раз Гаруса. Ён быў малы, хударлявы зусім хлопчык.

— Вы ведаеце яе?

— Я яе першы раз бачу.

— Падпольнае яе імя Гандзя?

— Я не ведаю.

— Вывесці Галену Сегень.

Як пасля Гарус расказваў, яго тады замучылі допытам, ці Гандзя яна. Ён яе не ведаў. Ніякай Гандзі ён не ведаў.

А яна яшчэ сядзела доўгія месяцы. Здаецца, пра яе забылі. Самае даражэйшае было тады — даведацца, што робіцца на свеце за сценамі астрожнага муру. А нарэшце — другое абвінавачанне. Яно было ўжо сапраўднае:

— Вы стараліся ўзняць сялян супраць польскай школы?

— Я толькі выконвала сялянскую волю. Сяляне хочуць, каб школа была беларуская.

— Але вы жывяце ў польскай дзяржаве?

Колькі б ты тут чаго ні гаварыў, усё адно не давядзеш, што калі ты абуты ў лапці, значыцца ў цябе лапці на нагах. Яна гэта ведала, і яна маўчала. Зноў пацягліся доў-

гія месяцы. Тое ж самае было і з Гарусам. Яна пасля ад яго самога дазналася пра ўсё.

Больш не было ўжо ніякіх вестак з старэнькай хаты, недзе на маладым узлеску ля каляіністай сцежкі. Маці, пэўна, хадзіла там некуды, штосьці рабіла там, але што ж, калі гэта было недзе як бы за светам. Пэўна, і браты стараліся, як маглі, але што могуць зрабіць людзі, якіх ненавідзіць вяльможны пан Азэмбловіч!

Так усё ажыло ў яе перад вачыма, калі выслухала яна, як калісьці княжацкі падданы вісеў цэлы дзень на дрэве за панскага сабаку. Водыр старой саломы мучыў яе на гэтым балотным двары. Яна пайшла адсюль праз лес. Канчаўся дзень. Сонца стаяла над лесам. Гэтак стаяла сонца над лесам і ў той памятны дзень.

Вокны той камеры, дзе сядзела яна, выходзілі на астрожны двор. І апаўдні яна ўбачыла на двары на праходцы Гаруса і адразу пазнала, што гэта той хударлявы хлопец, з якім яе дапытвалі. Ён ускінуў вочы ўгару і таксама пазнаў яе. Яна кіўнула галавою, але вочы яго былі нерухомыя: на яго ўглядаўся жандар. Яна бачыла, як ён пайшоў далей і, ужо ідучы і не гледзячы на яе, кіўнуў галавою. Яна здагадалася, што гэта ёй. Праз некалькі дзён яны на момант спаткаліся на двары, зноў у часе праходкі. Гаруса гналі ўжо ў камеру. Праходзячы паўз яе, ён кінуў ёй моцным шэптам:

— Я думаю ўцякаць.

А праз дзён тры яе нечакана выпусцілі. Яна напісала шпількаю на знойдзенай на двары фанернай трэсцы свой хатні адрас і папрасіла камерных таварышаў перадаць гэта як-небудзь Гарусу. Яна пеша прайшла сотні дзве вёрст і ў сонечны адвячорак падышла да маладога лесу. Як бы якая непераможная сіла гнала яе хутчэй з гэтага горада. Яна нават выкінула з галавы думку пайсці на бацькаву магілу. Дома яе не чакалі, і гэтакае ж было спатканне! Маці і браты! Усё было, як і раней,— Уладзімір хадзіў на работу ў лес, а Кастусь служыў за парабка ў азэмбловічаўскім маёнтку. За курыную хату на ўзлеску за гэты час ужо выплацілі. Яна, як ішла дадому,— здаецца, зямля і лясы спявалі вялікасныя гімны, а як увайшла ў чарнату трухлявай хаты, зноў закалола ў сэрца бядота. Аж не міл стаў свет. Так і пайшлі дні, усё як бы да часу.

Падыходзіла восень. Маці хадзіла жаць у Азэмбловічаў двор. Яшчэ ледзь разднее, а яна ўжо тупае, стараецца ўхадзіцца, разам з тым стараецца згаварыць пацеры

за работаю, каб не пайшло на гэта лішне шмат часу. А неўзабаве яна ідзе ўжо роснаю яшчэ дарогаю ў панскія палеткі. Яна жыве нейкім сваім напружаным жыццём. Разам з ёю ідзе жаць і Галена, але яны мала гавораць адна з адной. Ім няма пра што гаварыць словамі, яны ведаюць адна адну, як кожная сябе. Так разыходзіцца на цэлы дзень з хаты нябожчыкава дворнікава сям'я. А ўвечары зноў усе збіраюцца ў спарахнелай хаце.

У вялікім двары пана Азэмбловіча работа кіпела цэлае лета. Парабкоў і парабчанак і падзённых наймітаў было многа. І от пад восень яны ўсе запатрабавалі большага заработку. Была самая гарачая пара, работа стала, і пан падбольшыў парабкоўскі заработак. Але праз некалькі дзён пачалі забіраць пачынальнікаў забастоўкі. Прычыны знаходзіліся. А яшчэ праз дзён тры і Галену зноў прымусілі развітацца з сваімі. Яна ведала: гэта за забастоўку, але пра гэта ёй маўчалі, а быццам гэта аднаўляецца яе старая справа. Першую ноч яна праседзела ў маянткоўскім свірні. Пад дзень вартаўнічы паліцыянт ляжаў звязаны з заткнутым ротам у садовых кустах, а яна пачула Кастусёў голас.

— Галенка, вылазь праз шчыт.

Яна праз гору і праз шчыт стала ратавацца. Кастусь падхапіў яе на рукі:

— Хутчэй на момант дахаты забяжым,— сказаў ён.

Калоцячыся ад трывогі, яна ішла следам за ім. Дома яна аж сумелася ад нечаканасці. На дварэ світала. У клеці, адкуль святло не магло праходзіць на двор, гарэла газовачка і на палку, здарожаны, знябыты, абарваны, сядзеў Гарус. Яна адразу пазнала яго. Ён быў босы, у адных дранцях. Ён спешна адзяваў Кастусёву рубашку.

— Я ўцёк і знайшоў вас,— сказаў ён.— Вы мяне памятаеце?

— Жыцця больш не будзе, і спакою больш не будзе,— сказаў Кастусь,— ведаеш сама, Галенка.

Яна ведала гэта.

Яшчэ ўсё ледзь шарэла на ўсходзе, як яны з Гарусам пакінулі хату. Маці перахрысціла яе ў сенцах і доўга глядзела праз адчыненыя дзверы ў зорнае неба.

Развіднела неўзабаве. Яны мала прайшлі. Сонца стаяла над лесам. Адтуль Кастусь вярнуўся, каб яшчэ паспець на работу ў двор, каб ніякай падазронасці ані ў кога не было. А яны ўдваіх цэлы дзень у трывозе перачакалі ў тым лесе. Мясцовасць была глухая. Яны самі дзівіліся

пасля, як гэта гэтак блізка ад месца здарэння яны спакойна перабылі дзень. Адвячоркам яны выйшлі з лесу. Сонца падала за хвойныя вяршаліны, трава пад босымі нагамі халаднела. Сонечны водбліск ляжаў на паўзлесным выгане. Ціхі, сінечны быў адвячорак! Вялікая трывога апаноўвала імі. Яны ціхутка ішлі кустамі па сцежцы паўз лесавы гасцінец. За лесам іх агарнула ноч, незнаёмая вёска асталася ўбаку.

За ноч яны прайшлі шмат. Пад дзень лагоднае пачуццё прывычкі пачало гнаць ад іх бурныя прыступы трывогі. Яны дайшлі да першага лесу і засталіся там днявацць. Ім здавалася, што яны не адзін дзень ведаюць адно аднаго, а не было ніколі часу, калі б яны не былі знаёмыя. Усё жыццё іх, здавалася ім, праходзіла разам. Яны цяпер не думалі пра тое, што пакінулі за сабою, перад імі стаяла будучыня, але яна яшчэ не паддавалася ўяўленню. Вялікая трывога з'яўлялася цяпер толькі момантамі. Была яшчэ ноч і яшчэ дзень. Гэтаксама ішло над лесам сонца.

Яны сядзелі паводдаль ад дарогі і чакалі ночы. Яна толькі цяпер пачала думаць пра тое, што пакінула за сабою. Відаць, і Гарус гэтым мучыўся. Ён сядзеў ля яе, худы, змучаны астрогам. Яна палажыла яму рукі на галаву, ён палажыў галаву ёй на калені.

— Небарак ты, пакутнік,— сказала яна.

Ён маўчаў.

— Адкуль ты родам?

— З Віленшчыны.

— Хто твае бацькі?

— Арандатары.

— Што ж яны арандуюць?

— У пана зямлю, што ж яны могуць арандаваць!

Памаўчаўшы, ён загаварыў:

— О, гэтак цэлы век, свае зямлі не меўшы...

— А многа твае бацькі зямлі арандуюць?

— Валоку.

— Ну, дык ім не бяда. За парабкоў яны не служаць.

— Ты мяне як бы чым упікаеш?

— Не, я гэта сваіх успомніла... Што цяпер небарака маці робіць...

— Гэта сімвал нашай краіны.

— Што?

— Арандатарства. Мы дома не маем дому. Праз цэлыя вякі ў сваёй краіне арандатары...

Ён усхваціўся і сеў.

— Ведаеш, Галенка, мы ж героі нацыі, мы змагаемся за нацыю.

— Бачыш, за якую нацыю. Я не за ўсялякую беларускую нацыю буду змагацца. Пан Аээмбловіч, у якога я дагэтуль служыла, таксама гаворыць, што ён належыць да беларускай нацыі. Я за яго змагацца не буду. Я з ім змагаюся.

Гарус раптам паглядзеў на яе дзіка нейк.

— Галенка, пан ваш гэта дзеля палітыкі называе сябе беларусам.

— Не гавары мне гэтага, не гавары.

Гарус маўчаў доўга. Ён ляжаў на зямлі, пасля раптам Галена заўважыла, што ён плача. Чулым сваім сэрцам яна адчувала, што гэта вялікая астрожная змучанасць у ім.

Ён пачаў скардзіцца:

— А можа, ты і праўду кажаш, можа, усё гэта не варта нічога.. У нас цяпер там дома гэтак добра... А я згубіў гэта... На свеце, змагаючыся, ёсць жа што губіць! Я цяпер уразумеў гэтую праўду...

«Як каму»,— хацелася крыкнуць ёй, але яна пашкадавала яго. Разам з тым яна адчула сябе на момант у адзіноце. Але неўзабаве яны пайшлі далей, і ўсё пачало згладжвацца. Яна больш не хацела ўспамінаць пра гэта. Яна чула якуюсьці Гарусаву іншую дарогу ад сваёй. Яна згодна была апраўдваць гэта астрожнаю змучанасцю.

Гэта быў іх апошні дзень тут. Ноч вярнула зноў страшную трывогу. А на рассвітанні яны ўкрадкі прачыталі над аркаю: «Камунізм змяце ўсе межы».

Там была Наталя Гарбачынская.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

Хмурным адвячоркам стараваты чалавек сышоў быў з трухлявага ганка, з павольным одумам акінуў вокам мокры ліпавы газончык, ляпнуў вузенькаю брамкаю ў шчыкецістай агарожы, мінуў пасля хутарскі дзядзінец і пайшоў. Ступаў ён шырока, нагамі ўроскідку, варушыў у тахту ног плячыма, выціраў насаткаю вусы. Кароткая бравэрка на ім была расшпілена, пад ёю гарнітур — на-

гавіцы і рубашка з шарсцянога шарачку — дрэнна ачышчаныя ад мякіны. Як мінуў прысадзістую смольную стайню, прыпыніўся, азірнуўся на гэты нізкі будынак (моцна тхнула адтуль на яго кіслым водырам конскага гною. Ён праз хвіліну якую рушыў далей і выйшаў у поле. Там ішла вузенькая дарога — санкавы след. Тут ён пайшоў няроўна. То паддаваў ходу, то сцішваўся. Лес быў навокал — выносістыя хвоі. Сіняя хмурнасць лажылася на іх. Тут была палявая гала пасярод лесу, узгорак, а наводдалек ён сыходзіў у лагчыну: хмызняк і рэчка.

Чалавек, як ішоў, калі-нікалі падаваў голас, гаварыў сам з сабою, гэтак думаў.

Паводдаль ад дарогі разгацілася палявая дзічка. Выгіністая рала ад пня ляжала над зямлёю нізка. Чалавек прыпыніўся перад дзічкаю.

— От тут гэта, тут... Толяк, згубіў ты сябе, не сцярогся.

І шпарчэй пайшоў. Мокры снег на дарозе шаргавата стагнаў у яго пад нагамі. Ён мінуў поле, пасля шырокую граду хвояў, паглядзеў у бакавую дарогу, дзе ледзь тумаліліся ў перадвячорным сутонні саламяныя стрэхі.

— От там і вяселле тое было.

Мінуў яшчэ колькі хвойных градаў, палявых узгоркаў і лагчын і ўвайшоў у вуліцу. Меркнуў дзень, агні запальваліся ў хатах. Ён падышоў пад высокую новую хату. Святла ў вокнах яшчэ не было, яшчэ відаць было шалёўку на іх, выфарбаваную нажоўта. Саламяная страха не пасавалася з роўнаю вышынёю сцен. Цесны двор, застаўлены гаспадарскім набыткам. Як увайшоў чалавек у хату і як даў добрывечар, адказаў яму голас гучны і празлівы. Следам за гэтым гупнуў чалавек босымі нагамі з печы на палок і, на ўсё жылле пазяхаючы, стаў усцягваць на ногі боты.

— Сядай, от я зараз газоўку...

Але той ужо сам шнарыў рукою на комінку.

Цьмянае святло разлілося па хаце. Мужчыны падалі адзін аднаму рукі, гаспадар — цвёрда і самаўпэўнена, госць — як бы ўкрадкі і нясмела. Гаспадар быў з выгляду моцны і дужы. Твар, відаць, галіў кожныя тыдні два, галаву меў аблыселую і з шырокім ілбом. Госць яго здаваўся перад ім слабы і спрацаваны. На ім былі здаравенныя боты; рэшта адзежы — як бы толькі от з вайсковага добрага старога складу, ватовыя салдацкія новыя нагаві-

цы і гэтакі ж кароценькі каптан («целагрэйка»). На сценах віселі хамуты, над палаткамі сохлі недаробленыя палазы. Было ўсяго шмат у хаце, але было ў ёй крыху і капцанавата. Гаспадар стаяў на нагах пасярод усяго гэтага цвёрда, паварочваўся павольна і як бы ні ў чым не мог зрабіць тут ніякай памылкі.

— Што ж ты, Аляксандр, адзін у хаце? — сказаў госць.

Той і адказаў гэтакім тонам, як бы навучаў няўмеку:

— На шэрай гадзіне ўсе пайшлі з хаты, а я задрамаў... На сход трэба ісці, але яшчэ рана.

Ад гэтага тону і госць ажывіўся:

— Табе цяпер што! Ты ў гэтую раwалюцу ўбіўся з самага пачатку... Ты... Я...

Ён гэта гаварыў лёгка, смеючыся; ляпнуў далонню па калене і сеў. Гаспадар заўважыў усю штучнасць і фальш яго весялосці.

— Я, па-твойму, у равалюцу ўбіўся? — здаецца, зазлаваў ён,— я, можа, яе сам рабіў! Я за народ абстайваў, каб усякі жыў сабе, як ён хоча. А ты тут мне!..

— Ну, дык я ж і кажу...

— Што ты мне тут кажаш! Мы з табою сваякі, шваргры, а я табе скажу ў вочы, ты заціскайла, ты панок... Ты на мяне не крыўдзіся, я чалавек адкрыты. Што ж, ты ў паны выбіваўся, фальварак набыў, парабкоў трымаў, а гэтакіх, як ты, народ за шыю, ды знаеш куды?..

— Ты пачакай, чаго ты?

— Я нічога, я да цябе нічога не маю, я табе, як брату роднаму, усё на адкрытую пускаю. Таму і гавару проста табе ў вочы, што, апроч дабра, нічога табе не хачу...

Ён гаварыў тупаючы па хаце, і відаць было госцю, што гэта чалавек проста задаволены сабою. Госць маўчаў.

— Ну, як Толяк? — сцішыў раптам голас гаспадар, напэўна, каб улагодзіць швагра.— Што ад яго чуваць?

— Чакаю Балеслава з дня на дзень.

Ніжняя палова твару ў яго ўздрыганулася, плечы сагнуліся, і ўвесь ён угнуўся ў лаву, на якой сядзеў.

— Як гэта можа малады хлопец дапусціцца, каб гэтакая падазронасць на яго клалася? Неасцярожны які.

— Ворагі ўсё, ворагі... Толяк. Хіба Толяк можа гэта!

— А Балеслава пускаюць напэўна?

— Пускаюць. Я ж гэтымі днямі прыехаў, з следчым гаварыў.

— Ну, дык і Толяка павінны пусціць.

— Павінны, але не пусцяць. Яна сама паказвае, што гэта ён. Дзе ж ты бачыў, ворагі навакол абселі... А што ў цябе чуваць?

— От я іду на сход... Ты дарэмна, я табе скажу, Якуба адцураўся быў, брата роднага.

— Гэта з яго боку ўсё гэтак пайшло.

— Гавары ты мне, з яго боку!

— А, чэрці яго бяры, з усім разам! Адцураўся дык адцураўся. Але ж як гэта я адцураўся? Што ты мне гаворыш? Хто гэта цураўся! Што, я дабра яму не рабіў? Хоць бы і з гэтаю гадаўкаю! Не дабіў там яе нехта дарэшты, хто там біў яе! Яна як за родную дачку была ў нас, а цяпер яна топіць нас. Гэта я ім дабра не хачу ці яны мне?

Гаспадар ціхом закурваў, высокі, роўны; ватовая абмундзіроўка ляжала на ім гладка. Заклейваючы папяросу, ён доўга слініў паперу языком, пасля пажаваў яе пярэднімі зубамі. Шырокая сківаца заядла хадзіла ў бакі.

— А так што чуваць на свеце? — абазваўся госць.

Гаспадар штосьці думаў.

— Пра вайну нічога? У Польшчы, кажуць, вось-вось начаку. Не чуў?

— Бабы брэшуць. Наш народ не пойдзе на гэта. Каму гэта трэба цяпер? Каб паны вярнуліся? А к чортавай матары! Гэта адно што тут пачалі браць не ў той бок. У камуну зганяць! Да чаго гэта! Гэта на гэта рэвалюца была, каб на паншчыну ісці? Я гэта казаў, кажу і казаць буду. Я сёння на сходзе пагавару. Рэвалюцу мы сваімі рукамі рабілі на тое, каб усякі жыў, як сабе сам хоча, а тут не як сам хоча, а як нехта хоча.

Ён крычаў на ўсю хату, як перад натоўпам якім. Папяроса дымела ў яго з-пад вусоў сіберна. Неўзабаве ён пачаў апранацца — паволі ўссунуў на галаву кажушаную шапку, улез усім сваім шырокім тулавам у вышмарганы кажух. Госць выйшаў з хаты разам з ім. У варотах яны развіталіся.

— Крычы, не паддавайся,— сказаў госць.— Не дапусці, каб гэта зрабілася.

— Ты мне свае таляжоўкі дасі, як снег сыдзе, удзірванела ў мяне за гумном. З таляжоўкаю трэба будзе прайсці разоў па два.

Сказаў гэта, уклаў рукі ў рукавы і падаўся паволі ў вуліцу. Швагар ішоў назад і думаў:

«Як бы табе гэтая таляжоўка ўжо цяпер трэба! Яшчэ

снег ляжыць. Галаву ўгару дзярэ, рэвалюцанер гэтакі...»

Змеркла як мае быць. Ён ішоў шпарка вузенькімі хутарскімі дарогамі. Грады хвойнага лесу стаялі ціхутка. Ралістая дзічка ледзьве чарнела ў сутонлівай каламуце. Ён зноў стаяў перад ёю і ад яе павольней ішоў да чорнага абрысу прысадзістай стайні. У вокнах гарэла святло вельмі моцна. Як сіла якая рванула чалавека. Ён проста-такі ўзбег на ганак. Знаёмы малады голас звінеў на ўвесь дом. Як бурная хваля, даў гэты голас у душу яму.

— Болеська, я цябе гэтак чакаў усе дні!

Балеслаў вымыўся ўжо, зачасаў мокрыя валасы, уздзеў ужо ўсё чыстае, як бы атрэпаў з сябе ўсе свае пакуты. Бледны быў твар яго. Вочы запалі, глядзелі глыбока. Сам бацька здзівіўся ад гэтага зірку. Маці плакала: «небарачак мой».

— Маё сэрца крывёю ацякло,— сказаў бацька і абняў сына.

Твар яго перасмыкваўся грымасамі. Ён плакаў.

— Ну, як тут у вас? — пытаўся сын.

— Як у нас! От ніяк у нас...

Балеслаў тупаў па хаце. Ён быў невялікага росту, зграбны з выгляду, спрытны ў рухах; рукі ў кішэнях, і раз поразу заглядае на сябе ў люстэрка кожны раз, як праходзіць паўз яго.

— Зусім жа цябе пусцілі, сынок?

— Ну, вядома.

— Што з Толякам?

— Я і сам добра не ведаю. Следства яшчэ не скончылася. Канчаецца.

— Ну, я ведаю, сынок, ты не хочаш нас, старых, палохаць. Але ты скажы, усё адно ўжо. Што там хаваць.

— Дапраўды ж я сказаў, як ёсць.

— Яна сама на яго паказвае. Прапаў наш Толяк... Але ніхто, апроч яе, на яго не пакажа. Ніхто не скажа на яго нічога благога. Ніхто не пасведчыць на яго, хіба самы арыштант які. Перагаруе, перапакутуе і выйдзе чысты, як анёл. Усё пройдзе, усё перабудзецца, бог дасць, як найлепш... Ах, ах... Тут у нас без цябе, сынок, нічога, сказаць, і не было вельмі гэтакага... Нейк у тыя дні, як вас кагадзе забралі, дык я от аднаго тут вырабіў быў! Араў там, зябліў на нашай горцы шнівадзіцкі Шлёма. Я сабе іду. Яўрэй, думаю, на зямлю палез! Я сабе іду і богпомач не даю. Мінуў. А ён раптам давай клі-

каць, каб вярнуўся. Я вярнуўся. Каб ты бачыў, сынок, сашнік сагнуў як ёсць, у камень недзе ўправіўшы. Нараў, кажу. А ён, як уюн круціцца — дай рады, кажа, пане Сегенецкі, з плугам нейкая хуртовіна зрабілася. Я паглядзеў, бачу, сашнік. Пастукай, кажу, ілбом або падзяўбі носам, дык адагнецца. Не жартуйце, кажа, пане Сегенецкі. А я яшчэ: ілбом або носам. Узяў дый пайшоў.

— І не памаглі?

— Памагаць яму! Хіба каб папрасіў, каб папаенчыў! А хваробы яму!

Усмешка прайшла па твары яго. Усміхаўся і Балеслаў. Падабенства да ціхай радасці апанавала іх. Але неўзабаве стары зноў спахмурнеў. «Каб як Толяка выбавіць». Думкі ён выказваў моцна. Балеслаў зачыніўся ў сваім пакоі. Ён нагнуўся над столікам, уздзеў на галаву радыёнавушнікі. «А я думаў, што тут без мяне радыё сапсавалася»,— бацькава прывычка думаць моцна. Чула гэта маці, высокая, паморшчаная. Яна абазвалася:

— Ах, тут у нядзелю з Варшавы імшу было чуваць. Мусіць, біскуп або нават арцыбіскуп служыў. От ужо там хараство!

З-за дзвярэй Балеслаў чуў, як яна малілася нанач. Яна моцна шаптала.

Балеслаў адагнаў ад сябе думкі пра Толяка. Ён піў слодыч цішыні бацькаўскага гнязда. Бацька ж, раздзеты ўжо, яшчэ вярнуўся да сына:

— Яна кажа, у Варшаве імша ішла па гэтым радзіве. Цяпер там, але, і я кажу, парадак. А колькі было гора перажыта хоць гэтымі самымі і панамі. Я памятаю, як кагадзе бальшавікі былі выйшлі, ды польская ўлада была асталявалася. Дык пан Шатроўскі з выгнання прыехаў быў у свой маёнтак. Гола, усё хамаўё парасцягала. А ён, небарак, сам не ведае, з чаго пачаць, за што ўзяцца. Спаткаўся я з ім, дык ён з радасці са мною пацалаваўся. Дастае тытунь і частуе. Я калі глянуў на той тытунь — што гэта, кажу, пан курыць? Вішнёвае лісце,— адказвае. Да чаго дайшло было. Ай, ай...

Балеслаў зноў узяўся за радыё. Стары стаяў яшчэ ў дзвярах і ўсё гаварыў, гаварыў. Балеслаў ведае: бацька страціў ужо веру, але цешыцца гэта ён. Балеслаў глянуў на бацьку з замілаваннем. «Я шаную цябе»,— прачытаў бацька ў яго зірку.

## II

Аляксандр Нахлябіч увесь час стаяў ля сцяны ціха, аж пакуль пачало выяўляцца, да чаго дагаворваецца сход. Тады ён падаўся наперад і шапнуў таму-сяму, што трэба не паддавацца і не ісці ў ярмо. Але ўсе гаварылі цішэй, як, яму здавалася, трэба было, ды яшчэ чакалі чаргі, каб узяць слова. Дык ён разгроб рукамі натоўп, вылез з-за спін, растапыраны ўвесь, з паднятым угару тварам і, глушачы ўсё, раўнуў:

— Адным словам, як той казаў, што кухар повару, аддзёўб бы носам галаву! Вы гэта рэвалюцу ў які бок пускаеце? На тое была равалюца, каб кожны жыў, як сабе хоча, а не то што зганяць усіх у талаку. Чалавек я ці быдла?

— Табе ніхто слова не даваў.

— Не даваў, дык я сам узяў! Калгас — гэта не правільна. Паноў на тое праганялі, каб кожны сам сабе панам быў.

— Каб жа кожны сам сабе! А то ты зараз будзеш панам не толькі сабе, але і мне. Ты і так ужо за гэты час дзедзічам зрабіўся. От зараз мне да цябе за парабка прыйдзецца ісці.

— Гэтакага абібока, як ты, я не вазьму, каб ты і хацеў!

— Ну, дык калі я табе абібок, дык і ты панком не будзеш. Колькі ў цябе скарбовага дабра ляснула? Кулак!

— Я кулак? А хто сваімі рукамі паноў з пакояў выграбаў?

— На тое, каб самому над усімі панком стаць? Ці не трэба адно і цябе раскулачыць?

— Мяне ты будзеш раскулачваць?

— Нашто канечне я, і без мяне гэта зробяць.

— Зробяць? Нічога не зробяць. Няма такога равалюцоннага права. На гатовую равалюцу цяпер і ты прыйшоў. Разысціся са сходу, таварышы, зараз жа, і больш нічога! Нашто нам гэта! Мы калгаса не зналі і не знацьмем. Ніхто ў нас яго не хоча. Сама што людзі пачалі абжывацца, а тут — на табе! Я кажу, казаў і казаць буду...

— Хто абжывацца? Ты?!

Нахлябіч крычаў доўга, і цяжка было яго сцішыць. Ля яго сабраўся гурт, спачувальна глядзелі на яго і падгуквалі яму. Але іх ужо і сцішаць пакінулі. Адбылося галасаванне па ўсіх пунктах сходу яшчэ да Нахлябічавага крыку, і цяпер падыходзілі да стала і распісваліся. Ра-

білася гэта павольна, часта з аглядкаю на суседзяў, але спіс вырастаў. Малады вельмі, бялявы, сядзеў за сталом хлопец і падтрымліваў за ражкі аркуш паперы, каб не сцяглі яго доле. Рыжавусы чалавек падпёр локцямі твар і глядзеў на ўсіх. Нахлябіч раптам з'явіўся ля стала і тут разгроб рукамі ўсіх, каб самому выбрацца наперад. Тут ён дыхнуў у твар рыжавусаму чалавеку:

— Ты гэта прыехаў памагаць нам ці бунтаваць усіх? Ты там сабе на фабрыцы панам, ці д'яблам, ці кім сабе хочаш быў, дык няхай бы сабе і быў там! Ты тут прыехаў свае парадкі наводзіць? Таварышы, на чорта нам прышляцы гэтыя!..

— Я вас пазбаўлю голасу, як старшыня сходу,— сказаў рыжавусы.

Раптам вытнуўся наперад ціхі дагэтуль чалавек. У яго былі буйныя рысы твару, высокі лоб. Сівізна пачынала абельваць срэбнымі ніткамі яго галаву, гаварыў ён ціхавата, голас гэтакі, відаць, меў слабы:

— Я не ведаю, ці добра я кажу, але мне здаецца, што нам трэба Нахлябіча раскулачыць таксама. Што вы не бачыце, ці што? Ён адзін можа закупіць, каб прыйшлося, нас усіх. Колькі ў яго дабра хаваецца, мы ўсяго і не ведаем.

— Дык нашто ж ты гаворыш, калі не ведаеш. Ты хаця раней раскулач брата свайго, Сегенецкага.

— Ты мяне братам не ўпікай. Гэтакі ён і брат мне.

— А дачку ж, аднак, пасылаў да яго! Можа, гэта гішэфты якія мерыўся з ім вырабляць, пакуль не папаўся разам з дачкою. Я проціў цябе нічога не маю, але ты! Ты! Ты і дачку згубіў! Можа, цераз цябе калека якая назаўсёды астанецца...

— Я не магу яго перакрычаць...

— Я вам голасу не даваў,— сказаў рыжавусы чалавек.— Вас ніхто ў калгас не цягнуў, дый нікога ніхто туды дубінаю не заганяе. Вы адгаворваеце таго, хто хоча туды пайсці... Я сам, як вы жывеце, мала ведаю, але вы самі чулі, што тут падаў чалавек думку. Дык я стаўлю на галасаванне.

Сход яго раскулачыў. Ён ішоў з ямчэ большым крыкам дадому разам з усімі. Ён вылаяў бялявага хлопца, што пісаў пратакол сходу. Ён, здаецца, раструшчыў бы сківіцамі ўсё, што папалася пад іх. Нарэшце ён прыціх, як бы акінуў одумам усё, што адбылося. Ён не трапятаўся. Ён спакойна закурыў насупроць свайго двара і

пайшоў у вуліцу. Ён і там яшчэ, у самым канцы пастаяў, падумаў. І тады цвёрда падаўся ў дарогу, больш нідзе ўжо не прыпыняючыся. Ён мінуў і палявую разгацістую дзічку, і ўсе, якія былі на дарозе, грады хвойнага лесу. Сегенецкага хутар спаў. У стайні грукалі коні; два сабакі спаткалі яго моцным брэхам. Ён пастукаў адразу ў крайняе акно і ўсё адмахваў рукою сабак. Сегенецкі абазваўся адразу, здалося яму, што нават раней, чым успеў ён стукнуць.

— Я гэта, Аляксандр,— гукнуў ён Сегенецкаму.

Нахлябіч моўчкі, нічога не адказваючы Сегенецкаму, увайшоў у салончык.

— Болесь прыйшоў,— сказаў Сегенецкі.

— Атрамант і папера ў цябе ёсць?

— Ёсць,— здзівіўся Сегенецкі.

— Ну, дык садзіся, напішы мне ліст да Мікалая.

— Нешта здарылася, што ты ўночы прыйшоў дзеля гэтага?!

Нахлябіч маўчаў і чакаў. Сегенецкі моўчкі і пакорліва шукаў атраманта, пасля пайшоў будзіць Балеслава. «Няхай Балеслаў, ён лепш складзе, мае ўночы вочы не свецяць».

Балеслаў усцягнуў галіфэ і з'явіўся перад Нахлябічам. На яго прывітанне Нахлябіч ледзьве адказаў. Балеслаў сеў пісаць.

«...Мяне гэтымі днямі будуць раскулачваць. Зараз жа пачынай што-небудзь рабіць. Націскай на тое, што ты некалі быў за камісара над дварамі, а я ў камітэтчыках, ці што яшчэ прыдумай. Сам лепш за мяне ведаеш, куды павярнуцца. Адразу пачынай, не спі ў шапку...»

Старая Сегенецкая чула з суседняга пакоя гэтую Нахлябічаву дыктоўку, і, як трывога ні мучыла яе, яна ўсё ж моцна ўсміхнулася: гэтак і дыктуе, каб пісаў — не спі ў шапку, папросту так і валіць, як гаворыць. Сегенецкі стаў над Балеславам і не зводзіў вачэй з паперы. Нарэшце ён дачакаўся канца.

— Ну, а мяне? — цяпер толькі асмеліўся запытаць ён.

— І цябе, цябе яшчэ першага,— адразу высмаліў праўду ў вочы Нахлябіч.

Сегенецкі кашляў і дагэтуль, а гэта зусім закашляўся і сеў. З замілаваннем і клапатлівасцю Балеслаў палажыў яго ў пасцель. Нахлябіч пайшоў. Сегенецкі кашляў доўга.

— У гэтага дык хоць ёсць каму паклапаціцца, а гэта хто тут паклапоціцца,— нарэшце выгаварыў ён.

Балеслаў і старая не адыходзілі ад яго цэлую ноч. Пад дзень яму яшчэ горш стала, але ён падняўся на ногі. Думка з'явілася ў яго адразу. Ён загадаў Балеславу ўзяць пяро ў рукі.

— Пішы: дарагой пляменніцы Галене Сегень. Напішы — Сегенецкай. У нас — пішы — у гэтым годзе было вельмі ўсё добра — фруктаў многа і мёду шмат. Толькі дарагая пляменніца ніколі ў госці не загляне да нас. А цяпер раскулачваць усё будуць, дык мы просім вас як няшчаснаму старцу руку дапамогі працягнуць і выратаваць нас ад знішчэння гаспадаркі. Вы ўцяклі з-пад панскае няволі, адтуль, дзе паны і цяпер яшчэ здзекуюцца з мужыка, і вы, як равалюцынерка, маеце ў нас сілу і павагу, дык можаце выклапатаць збавенне нам...

— Гэтак не можна ёй пісаць,— сказаў Балеслаў.

Ад бацькавага імя ён пачаў пісаць іначай. Было позна. Пакуль ён дапісаў, цадзілася першае світанне. Змучаны бяссоннаю ночаю і ўсёю мінулай зімою, выйшаў ён на кухню. Там ужо абуваў лапці хлапчук ісці да жывёлы. Ён узяў з стала хлеба і, жуючы, адзяваў вопратку. Сегенецкая не магла спаць цэлую ноч. Яна стаяла ўжо ў дзвярах і пачала навучаць хлапчука:

— Чаму ж ты, богу не памаліўшыся, ясі, што ж я тваёй матцы скажу, калі ты ад мяне выйдзеш гэтакі, без бога, без сэрца, без душы... Усялякі чалавек павінен насіць у сэрцы бога, міласэрдзе да людзей...

Хлапчук маўчаў. Яны ўдвух з Балеславам выйшлі на двор. Мокры снег шастаў у іх пад нагамі.

— Апошнія дні ты ў нас,— сказаў Балеслаў.

— Я ўсё чуў, як дзядзька Нахлябіч прыходзіў, як твой тата гаварыў табе ліст пісаць... Я ведаю.

— Ты на нас скаргі будзеш заносіць? Ты ў нас быў як свой...

— А калі ж будуць раскулачваць?

— Бачыш, тата мой хворы, яго трэба пашкадаваць, цяпер свет перавярнуўся, і ўсё пайшло наадварот. Ён цяпер мучыцца...

— Я ведаю і сам. Ён успамінаў уночы, як пан той курыў вішнёвае лісце, вельмі спагадаў яму, дык я і падумаў быў — нашто ён гэтак гаворыць, а ніколі не ўспомніў, што от нават і мой тата заўсёды без хлеба галодны быў, як каля вас жывіўся. Мне горна стала...

Балеслаў нічога яму не адказаў і моўчкі, упурыўшыся, пайшоў за браму. Ён ішоў адзін саннаю дарогаю, плюхаў нагамі па мокрым снезе, глядзеў усё перад сабою. Палявая дзічка забрала на некалькі часу яго ўвагу. Ён прыпыніўся насупроць яе і ўсё глядзеў на зямлю пад ёю, дзе звісала і ляжала над самаю зямлёю выгіністая рала. Пасля ён пайшоў назад. Упарты агонь загарэўся ў яго ваччу.

## III

Апанасу Сегеню ў тыя дні падыходзіў тэрмін выязджаць у Чарніцу. На другі дзень пасля таго сходу ён доўга сядзеў у сельсавецкай канцылярыі на нарадзе. Ён перадаваў усю работу бяляваму хлапцу, таму, што на сходзе тады пісаў пратакол. Ён сам бачыў, Апанас Сегень: не было часу лішне гаварыць, вясна ішла шпарка.

«Вывесці масы на работу ў пору. Пераступіць парог першай неспрактыкаванасці...»

Ён праз некалькі дзён выехаў, і, пакуль прыехаў зноў, вясна як мае быць пачала ўсталёўвацца. У тыя дні, як выязджаў ён, Якуб Сегень чакаў з дня на дзень Зосю дадому. Выйшла ж, аднак, што яна прыехала крыху пазней, тады, як Апанас Сегень зноў вярнуўся на работу сюды. Яны прыехалі разам. Тады ўжо вялікія змены адбыліся тут за гэты кароткі час. Змены адбыліся і на Сегенецкага сялібе. Там усё ўжо было да таго часу з'іначана.

Зося з вялікім радасным утрапеннем праехала тады была па гэтай усёй мясцовасці...

Балеслаў, як вярнуўся быў тады раніцою пасля тае ночы ў хату, застаў бацьку слабога.

— Нецярпенне і трывога ў мяне,— гаварыў стары.— Ты прыпісаў Галене, што я тады сам быў па яе прыйшоў запрасіць да нас, напомніў ёй?

Балеслаў цешыў яго. Але праз гадзін дзве яшчэ яму стала горш. Ён папрасіў ксяндза. Балеслаў запрог лепшага каня і паехаў па апошняга доктара душы чалавечай. Пнівадзіцкі ксёндз прыехаў недалёка да змроку. Балеслаў з маткаю выйшлі ў другі пакой. Сегенецкі спавядаўся доўга.

Як увайшлі ўсе, ён сканаў. Ксёндз сказаў, што пехатою пойдзе дадому. Балеслаў правёў яго за сад, пад мост цераз Пнівадку, і ён ціхутка пайшоў, разглядаючы знаёмую мясцовасць. Балеслаў некалькі разоў азірнуўся на

чорную постаць у сутане. Ён хацеў адзін момант вярнуцца, дагнаць ксяндза і прызнацца яму пра свае намеры, пра сваю думку, што ў гэтую хвіліну як мае быць сфармавалася ў яго. Але ён не вярнуўся і не пайшоў. Ён подбегам падышоў дадому. Тут у сенцах яшчэ другая думка з'явілася ў яго, менш важная і, як пасля ацаніў ён яе, непатрэбная. Але цяпер яна не давала яму спакою. Ён яе выканаў назаўтра ўвечары. Апоўдні пахавалі старога Сегенецкага, а ў самы змрок Балеслаў зачыніўся ў пакоі і дастаў паперу. Першы ліст ён напісаў да Гаруса.

«...Я тады, як гаварыў з вамі, убачыў, што вы не падобны да ўсіх. Таму і сказаў быў вам тады тое. Вы не гневайцеся на мяне і даруйце. Цяпер прашу вас зрабіць, каб я мог пабачыцца гэтымі днямі з братам. Я гэтымі днямі з'яўлюся да вас у горад, і вы гэта, прашу вас, зрабіце...»

Ён пасля момантамі шкадаваў, што паслаў гэты ліст: «І так жа мог пабачыцца з Толякам».

Другі ліст быў да Галены.

«Цераз вас усіх тата памёр» — была думка гэтага кароткага, злога ліста. У той жа вечар ён выклікаў тэлеграмай дзядзьку свайго, мацерынага брата, з дальняга мястэчка і адправіў туды з ім маці. Тут у яго таксама былі планы. Маці паехала зранку, а апаўдні прыйшла сельсавецкая камісія і апісала малатарню, жняяркі, коні... Ён не выйшаў спачатку, і вадзіў камісію паказваць усё хлапчук-парабчук. З камісіяй хлапчук і пайшоў назаўсёды з гэтага хутара, расказваючы, як нябожчык Сегенецкі бедаваў, што пан курыў вішнёвае лісце.

Вясна пачалася адразу. У Пнівадзічах, як у вуллі, закіпела новая работа. Зноў тады і надоўга прыехаў Апанас Сегень.

Балеслаў з таго самага дня, як паехала маці, зусім знік. Ніхто яго тут больш не бачыў, толькі Зося — раз, у тую ўтрапёную хвіліну свайго ненаўмыснага момантнага спаткання з ім.

## IV

Той адвячорак, як прыехала Зося, быў ясны і ціхі. Змяркалася доўга, тонкае сутонне лёгка клалася на голае поле. Пакуль умеркла, яны праехалі ўсе гэтыя Зосіны дарогі. Апанас Сегень утульваў рукі ў рукавы сваёй пяэменнай ватоўкі — ясны захад паняваў здароўем весна-

вой замаразі. Неба над лясамі чырвоніла тонкія каснікі, яны трымаліся доўга і сплываць пачалі аж пад поўнач. Зося маўчала праз усю гэтую мясцовасць, дзе скрозь грады хвойнага лесу межаваліся з роўным полем. Праз дарогі, праз хвойнікі віліся сцежкі. Зося выхадзіла іх усе тут за сваё маленства. Ёй здавалася цяпер, што яна ўжо цэлыя гады не была тут; яна слухала гэтую маўклівую музыку родных лясоў і поля. Ехалі ціха. За апошнім паваротам вузкай дарогі яна злезла з воза і пайшла, разглядаючы ўсё, як бы навіну якую; асталася і ішла адна. Ружовае сонца плыло па паўзлесных дзірванцах і палявых галах і сыходзіла на хвойныя вяршаліны. Якраз як у той колішні адвячорак; толькі каб вецер, дык, здаецца, і музыка ішла б з-за лесу.

Яна ішла ўсё цішэй, як бы з думкаю, што ніколі не будзе позна дайсці сюды, вярнуцца, прыйсці ў гэтае месца, да гэтых людзей.

Нага яе ступіла на мост над Пнівадкаю. Веснавая вада сышла, і паплавы абсыхалі. Вячорнае сонца было ўжо толькі на хвоях. Яна сышла з дарогі на сцежку, каб ісці напянькі, скрозь паўз лес, цераз поле, тым узгоркаватым палеткам... Ралістая дзічка цяжка асядала на высокую мяжу. Поле навокал было яшчэ не чэпана баранамі, леташні быльнёг чарнеў скрозь на мяжы. З упартым жаданнем Зося пайшла проста полем.

Чорнае і дробнае леташняе лісце пад дзічкаю шаргавата шастала пад нагамі; вецер — і леташні асенні і веснавы — паразвейвалі яго далёка навокал; сярод яго гнілі дробныя, як гарох, грушы...

«...Дзічка, старая, як той сівер, аж скрыпела тады двума дуплістымі раламі. Зусім голая яна яшчэ не была, чорнае лісце і апошнія грушы, дробныя, як гарох, у той вечар вельмі сыпаліся з яе. У сутонлівай каламуце тады выносістыя хвоі гойдалі шумлівае верхавінне. Над лясамі неба доўга чырвоніла тонкія каснікі, агорталася лістападаўскім змрокам. Хмары рваліся і плылі...» Дзве постаці падыходзілі тады былі пад дзічку...

Але быў тут і яшчэ адзін вечар, і ён гэтак лёгка не сыдзе з памяці. Адно што было тады лета, а не восень.

Усе Сегенецкія, і старыя і хлопцы, сядзелі на чыстым ганку ў газончыку пасля працы. Адвячорак быў сонечны. У хаце, у кухні была адна толькі парабчанка Зося. Ад палявой дзённай утомы мучыла сярэдзіна. Яна рыхтавала вячэру. Вуголле тлела на прыпеку; гаспадыня ўжо колькі

разоў уваходзіла пытацца, ці хутка яна ўправіцца. Раптам у кухенных сенцах забурчаў сабака, і гэтакі знаёмы дзіцячы голас узрадаваў Зосю. Брат! Яна адчыніла дзверы ў сенцы і спаткала яго на парозе.

— Чаго ты прыйшоў? — запытала яна, папраўляючы на ім падпаразку на рубашцы.

— От так... Даўно ты дома не была...

— А як нашы, усе здаровы?

Ён пасядзеў хвілін дзесяць, не больш, і ўздзеў на галаву шапку.

— Дык я ўжо і пайду хіба, бо сцямнее зараз.

І тут ён убачыў на стале сала.

— Я гэтак даўно сала не еў!

Ён не спускаў воч з стала. Дык яна адрэзала кавалак невялікі і дала яму:

— Адно ж ты не нясі гэтак у руцэ, а то ўбачаць і будуць гневацца.

Ён намерыўся схаваць сала пад рубашку, але ў гэты момант адчыніліся дзверы з пакоя, і Сегенецкая ўбачыла ўсю гэтую сцэну.

— Нашто ж ты, Зося, сала ў нас крадзеш, гэта ж не тваё, што ты гэтак смела ім распараджаешся...

Яна чым больш гаварыла, тым больш уваходзіла ў злосць. Яна ўжо неўзабаве крычала:

— ...Гэтак усё прападае. Дзіва, што ўсё гіне. Гіне ўсё, гіне...

Зося маўчала, але тут не сцярпела: крыўда за галоднага брата вывела яе з пакорлівага маўчання.

— Што ў вас гіне? Калі ў вас што прападала!

І заплакала з крыўды. Над ёю прайшла цэлая навальніца. Сегенецкая сама ўзялася рыхтаваць вячэру, бразнула вобземлю чапялу, шмарганула з усяе сілы трапкачом сабаку па спіне. Зося бачыла: гэта па ёй хоча вытнуць гэтак гаспадыня, каб прымела, дык увагнала б яе ў зямлю... Зося сядзела з ціхім плачам. Гаспадыня ж свае крыўды вылічвала больш: выявілася раптам, што папрападалі куры, што карова калісьці хварэла, што гуркі ў пограбе згнілі, што сельсаветчыкі падатак спагналі ўвесь як ёсць...

«...Навалач, гады, галетнікі... Нехта вінават, што яны гультаі, што яны галадранцы...»

— У мяне аж у плячах ломіць ад работы,— заплакала мацней Зося,— які ж я гультай!

— Дык чаму ж ты нічога не маеш, калі ты ўжо гэтак перадала з работаю... Гэтак і ўсе вы, павыклі на чужое рот разяўляць. Плойма!

І гаспадынінаму літанню, здаецца, канца не будзе. Зося ўстала і выйшла зусім з хаты. Яна паволі, стараючыся задушыць у сабе бурныя ўзрывы, пайшла праз увесь двор, выйшла за браму, а там ужо іпло поле ў сонечным летнім змроку. Яна ішла, сама не ведаючы куды, сцежыстаю дарогаю і раптам заўважыла брата ў бок крыху ад дарогі, на купчастай мяжы, пад разгацістаю дзічкаю. Яна звярнула туды і села ля яго. Ён быў вясёлы. Ён смачна еў сала, кусаючы яго проста з гэтага невялікага кавалка. Позірк яго свяціўся ўдзячнасцю да сястры за гэты падарунак.

— Братка!

І яна агарнула яго галаву рукамі. Ён яшчэ не ўбачыў, што яна плача, і гаварыў весела:

— От добра, што хлеб у мяне быў. Гэта ж я, ведаеш што? Як ішоў, дык быў вельмі галодны. Як вёў пасціць каня — не ўзяў полудню. Дык ідучы да цябе, хапіў крыху хлеба і жаваў сабе, сюды ідучы... Чаго ты плачаш?

Ён пакінуў есці і ўставіўся на яе доўгім позіркам.

— Старая ўбачыла, што я сала табе дала, дык нарабіла на мяне крыку. Ты ж чуў спачатку...

— Ну, дык чаго ж ты плачаш? Чорт яе не возьме з яе салам. Не плач, ну, пакінь...

Ён шпарка ўсхапіўся і стаў перад ёю.

— Хадзем дадому.

— Мне ж тут трэба быць.

— Дык заўтра прыйдзеш.

Яна ўсё яшчэ сядзела, але ўжо гатовая ісці разам з братам.

— Каб я ведаў, што яна будзе на цябе гэтак крычаць, дык я хоць бы больш сала адрэзаў, а то ты вельмі мала дала мне. Ну, колькі ты мне дала яго, паглядзі.

Ён паднёс да яе твару пакусаны і паклычаны кавалак.

— Ну, бачыш?

Гэтую рэшту сала ён палажыў у кішэню з развагаю:

— А гэта я занясу дадому Марыльцы. От яна будзе ўсмак есці!

І яшчэ больш павесялеў. Яна ўся ўстрапянулася ад прыліву новага ўздымнага і моцнага пачуцця і ўжо цвёрда рушыла ісці. Брат ішоў подбегам поплеч з ёю. Яна абняла яго рукою, і гэтак яны прайшлі нацянькі аж да са-

мага дому. Там яны застали вячорны змрок. У хаце курodымела газоўка, усе садзіліся вячэраць.

— А я вячэраць не хачу,— сказаў малы,— я толькі што сала еў.

— Дзе ж ты ўзяў?

— Мне Зося дала... На і табе, малая.

Тут ужо ўсе зарагаталі. Рагатала і Зося, гледзячы, як малы, з бацькаўскім выглядам, частаваў меншую сястрыцу. Неўзабаве селі вячэраць. Елі цыбулю з квасам, а нарэшце маці ўсім давала па паўшклянкі малака. Шклянкі было ўсяго дзве, і малако елі па чарзе. Зося ад сваёй часткі адмовілася. Зноў, з усяго гэтага, трывога сціснула сэрца. І яшчэ горш ёй стала, калі брат весела забраў сабе яе частку малака, прыгаворваючы:

— От, малака не хоча... Як гэта не хацець малака!

Ён яшчэ не мог уразумець Зосінага ўчынку.

Яна пайшла з хаты ў цёмны вечар. Дзесьці ў залеснай вёсцы спявалі, а навокал яе туліліся адна да адной чорныя хаты. Дрэвы стаялі ціха; ноч была, як мяшок, чорная. Вокны свяціліся мізэрнымі агнямі. І гэтакае ўсё здалося ёй навокал цеснае! Як вярнулася ў хату, там клаліся спаць. Бацька стаяў ля стала і закурваў. Спрацаваная постаць стаяла нязграбна, рука доўга шнырыла, пакуль знайшла адарваную кішэню ў жакетцы, пакласці назад тытунь, а жакетка тая была — адны лахманы. Цяпер яна ўпершыню заўважыла гэтакую бацькаву постаць.

«Як старац які!»

«Праўда што, няхай бы я яму ўсё тое сала аддала з стала».

Яна выйшла ў сені, дзе спаў брат. Села ля яго на край пасцелі. Ён, узрадаваўшыся ёй, закрычаў:

— Зоська!

І сеў, смеючыся. Ён куляўся па пасцелі, сваволіў, і гэты яго настрой як бы перадаваўся ёй. Яна ўвайшла ў хату з цвёрдаю думкаю ісці заўтра да Сегенецкага і больш ніколі не плакаць ад крыўды. Малы брат як бы навучыў яе нечаму, і яна была ўдзячна яму за тыя хвіліны, калі сядзелі яны на мяжы пад дзічкаю. Бо перад гэтым, калі яна адмовілася ад сваёй часткі малака, у яе яшчэ жыла думка не ісці больш туды на хутар. «Але ж тут цесна, жыццё здушана; не, не гэтак тут штосьці, не гэтак!»

Назаўтра, ледзь развіднела, яна выйшла ўжо з дому. Выходзячы, яна чула, як бацька будзіў малога брата весці каня на пашу і як той прасіўся: «Хоць крышку яшчэ,

татачка, пасплю». Яна хутчэй пастаралася выйсці, каб не бачыць і не чуць гэтага. Але яна гэтага не забыла.

Усе гэтакія сцэны ажылі ў думках і сэрцы яе.

«Латы, каравыя апдаракі, спрацsecurelyанасць, галодныя полудні; як здушана жыццё!..»

На хутары яе спаткалі ласкавей, як учора:

— Чаму ж ты не сказала хаця, што пойдзеш начаваць дадому?

Але яна ведала ўжо гэтую ласкавасць. У першыя дні, як прыйшла яна была сюды, цётка Сегенецкага нават уздыхала колькі разоў:

— Гэта ж мы гэтакія родныя, а нейк гэтак жывом... Калі ж бо твой тата, няма, каб прыйшоў калі парадзіцца, як там... жыць ці што, ці гэтае... А то нейк...

І яна пачала ўспамінаць нейкія крыўды на Зосінага бацьку. Зося збянтэжылася, а пасля ёй было ўжо не навіна слухаць, што бацька яе невядома ў чым тут вельмі ж вінаваты. Праз некалькі дзён сваяўство пачало гінуць.

І сам Сегенецкі скардзіўся, але тут была вялікая гордасць.

«Што я вінаваты, што я пракіткі чалавек, а тата твой непаваротны ў жыцці, і я маю, а ён не мае. Я сабе прыстараўся, а дзе ж ён быў? Да апусклівага чалавека мне інтарэсу няма».

Балеслаў перад ядою хрысціўся і часта гаварыў:

— Бога, можа, і няма, лічаць ужо цяпер, але кожны чалавек павінен насіць у сваім сэрцы нешта гэтакае... адным словам, трымаць у сэрцы ці то бога, ці то што... Каб трымацца нечага аднаго; насіць у сэрцы павінен!..

Ён зачасаў перад люстэркам намочаныя валасы, перацягваў тонка каўказскім поясам талстоўку. У маленькім пакойчыку, на самаробным століку, было ў яго радыё. Кожную нядзелю ён стараўся злавіць Варшаву і слухаў кафедральную імшу. Клікаў маці і перадаваў ёй навушнікі. Дзве слязіны сцякалі ў яе з воч і застывалі гэтак паабапал рота. Але найчасцей у гэтую пору яе дома не было: у пнівадзіцкім драўляным касцёле таксама ў гэты час адбывалася імша, і яна была там. Зося ў гэты час спачатку гаспадарыла, пасля ж яна дачулася, што можа ў гэты дзень зусім не быць тут. З гэтай пары як мае быць адышлі ў нябыт ранейшыя гаворкі пра сваяўства. Яна цяпер пачала зусім чуць сябе тут як да часу і кожныя шэсць дзён чакала сёмага, нядзелі, а тады з самага рання старалася пайсці на цэлы дзень дадому.

Толяк іншы па радыё ніколі не слухаў. Ён прысядаў да радыё ўвечары, калі ішлі перадачы свецкай музыкі. Ён яшчэ часамі слухаў газетныя перадачы, але мала калі. Балеслаў жа і маці ад радыёгазеты адварочваліся з агідаю. Балеслаў моцна, нават сумысля, каб падкрэсліць гэты момант, пляваў, адыходзячы ад радыё. Тады садзіўся за столік бацька. Ён прагна выслухваў палітычныя навіны і пасля цэлы вечар выводзіў свае здагадкі і перакананні.

«А чаму гэта прадаюць замежным дзяржавам тавары? Значыцца, каб ласкі ў Францыі і Англіі не страціць. А чаму Англія і Францыя строяцца ваяваць, а дагэтуль яшчэ не сабраліся на бальшавікоў? Бо яны думаюць сабе: трэба сабрацца гэтак, каб адным махам скончыць усю гэтую бальшавіцкую музыку. Усё цераз Польшчу будзе рабіцца, дык трэба, каб Польшча памацнела. Да часу ўсё гэта на свеце!»

І ён спадзяваўся моцна. І кожны дзень, можа, нават кожны год, трэба было перабыць; гаспадаркі не спускаць, каб у кожны момант яна магла шпарка ажыць, але і не высоўваць яе лішне наперад, каб у вочы вельмі не кідалася. Што ёсць, павінна быць прыхавана абоператворана ў непрыкметныя формы.

Балеслаў быў тут бацькаў паўяроны і самы гарачы аднадумнік. Ён сам тут вымяркоўваў і падаваў свае вельмі добрыя планы. Ён быў душа бацькавага гнязда.

Толяк — гэты не стараўся ўвайсці ў глыбіню справы. Яго бацька пачаў быў рыхтаваць за «вялікага чалавека» праз навуку, і гэта з самых маладых і нават малых год захавалася ў яго. Усё змянілася на свеце, і ўласны Сегенецкага свет, усе ўяўленні пра парадак яго цяпер былі як мізэрная выспа сярод бурнага чужога, варожага мора. І ў гэтае мора ўрэзвалася вострая, свая, адмысловая Толякава думка: ёсць і ў савецкім жыцці гэтакія своеасаблівыя мясціны, дзе льга стаць, каб толькі ўдалося, цвёрда на ногі, не разбураючы свайго свету, звыклага ўяўлення пра парадак яго, не ломячы сябе. Гэтага зломў ён дрыжаў усім бяздум'ем сваім, усімі сваімі глыбіннымі пачуццямі. І ён стаў прыслухоўвацца да свету і выбіраць. Доктар? Позна ўжо! Вайсковы камандзір, адкуль можа быць дарога да чырвонага генерала? Дзеля гэтага можна было б і зламацца. Паветраны флот? І тут з усяго свайго разгону думка яго спынілася. Ён аж жахнуўся вялікіх перспектыў, калі ўсё ўдасца. Тут можна і прыламаць

сябе, хоць дзеля вока людскога. Дзеля вока! І тут зноў думка радасна жахнула яго: калі падняўся ў паветра, над зямлёю, дык жа табе тады вольная дарога на ўвесь свет, куды сабе хочаш! Але як зрабіць першыя захады? Як распачаць першую хаду? Ён усё адкладваў гэта і гэтакім парадкам ён стаў марыць. І гэта стала пакрысе яго адмысловай чалавечай асаблівасцю.

Яны з Балеславам былі блізкія, але пра самыя глыбінныя жаданні і імкненні свае не гаварылі ніколі паміж сабою. Толькі на адным пункце сыходзіліся выразна — у перадачы адзін аднаму настрояў, перакідваліся часамі словамі. Зося адзін раз, як ішла па дзядзінцы, адчула на сабе пільны позірк іх абодвух. Збянтэжыўшыся, яна азірнулася і пайшла шпарчэй з дзядзінца, а яны стаялі ўсё.

— Як яна ходзіць,— пачула яна Балеславаў голас.

Балеслаў пачаў вечарамі хадзіць гуляць туды, куды хадзіла Зося.

Тут усе часта сыходзіліся ў залеснай вёсцы. І тутэйшая моладзь і пнівадзіцкая. І Зося, і пнівадзіцкі сельсаветчык, бялявы малады хлапец, і Балеслаў пачаў з'яўляцца сюды, і часамі Толяк падыходзіў позна, варочаючыся аднекуль з іншага месца. Ён хадзіў тады сюды ломанаю паўзлеснаю дарогаю, з-за апошняй грады лесу, дзе пачыналася на некалькі кіламетраў узгоркаватае поле і дзе на ўзлессі стаяла заняпалая за апошнія гады сяліба. Фальварковы выгляд меў невялікі дамок, але ўсё навокал было запушчана, не дагледжана. І крыха поля ля дому было абы-як, дрэнна выраблена. Толькі кветнік перад вокнамі быў у вялікім доглядзе. А крокаў за пяцьсот адгэтуль стаяў яшчэ адзін дамок. Гэты быў саўсім малы, але дагледжаны, чысты, з вымалёванаю агарожаю навокал і з меншым, але таксама, яшчэ, можа, нават лепш, дагледжаным кветнікам. Тут Толяк ніколі не быў, але заўсёды, праходзячы паўз гэты дамок, цешыў вока прытульным хараством. Часамі ён бачыў, як гаспадар гэтага гнязда, сярэдніх год ксёндз, пан пробашч усіх навакольных касцёлаў, цяпер прыгінаўся з нажніцамі ў кветніку да градак, зрэзваючы кветкі. Толяк спыняўся і назіркам цешыўся з павольных рухаў даволі яшчэ маладой далікатнай асобы. Пасля ішоў далей, да другога дамка. Там выходзіла да яго, у чорнай аксамітавай сукенцы і гэтакай жа шапачцы, дзяўчына, і яны хадзілі па навакольных дарогах. У хату Толяк не за-

ходзіў, і наконт гэтага ўсяго ў залеснай вёсцы моладзь жартавала і смяялася.

«Збяднелы патомак радавітых паноў не хоча мяшаць белае касці з чорнаю косткаю радавітага мужыка».

Уласнік запушчанага дамка спадзяваўся ўсё яшчэ гэтаксама, як і Сегенецкія, праз усе гады аднаўлення старога свету, надыходу лепшых часоў. Непрывыклыя да работы рукі сяк-так перакорпвалі дзялянку зямлі, сама «пані Зямкавічова» мала калі выходзіла на гэты, як мае быць зарослы пырнікам, палетак. А адзіная дачка, панна Анця, глядзела толькі кветак. Быў тут за кожнадзённага гасця толькі ксёндз, і цяпер ужо больш нікога. Сегенецкі ў старыя часы не смеў дамагацца дружбы з «панам Зямковічам», а ў рэвалюцыю, як той яшчэ больш абяднеў, папрабаваў здружыцца, але ўсё адно нічога не выйшла. Той як быў, гэтак і астаўся занадта ганарысты. Анця мела яшчэ першае юнацтва, як Толяк пачаў даходжваць да яе.

Адтуль от і пазніўся Толяк Сегенецкі на гулянкі ў залесную вёску. Яны ўтраіх варочаліся тады на хутар — Зося, Балеслаў і Толяк. Самае падарожжа гэтае патрабавала нейкіх адмысловых гаворак, іншых ад тых, што могуць адбывацца кожны дзень за работаю. І Зосі цяжка было мець гэтыя гаворкі. Яна нават дзеля гэтага менш, мала калі, стала хадзіць туды гуляць, хоць і так не лішне ўчашчала; хутарская кожнадзённая работа вельмі таміла яе.

Раз убачыў Толяк: бялявы пнівадзіцкі хлапец пайшоў з Зосяю раней, як заўсёды. Пайшлі на хутар, у Зосіну дарогу. Толяк пайшоў назіркам следам. Каб хто раней сказаў яму, што гэтакі выпадак уколе яго, ён не паверыў бы. А гэта як бы што рванула яго ўсяго. Ён і сам не ведаў, што гэта і з чаго. Самае большае — тут была нянавісць да бялявага пнівадзіцкага сельсаветчыка. Варожасць, дагэтуль спакойная, пачала выяўляцца бурна. І простай прычыны тут да гэтага не было. Быў толькі спрыяльны выпадак. Тут і Зося не была прычына. Тут быў сам ён, яе гэты новы спадарожнік. Ён правёў Зосю на самы хутар і варочаўся назад. Тут, на ўзлессі, яны і спаткаліся з Толякам. Ім не было пра што гаварыць гэтак, як і заўсёды. Яны нават у першую хвіліну хацелі моўчкі прайсці адзін паўз аднаго, але Толяк першы не вытрымаў.

— У нас быў?

— Не, не ў вас быў.
— Зосю праводзіў?
— Праводзіў.
— Ага...

Толяк змагаўся з жаданнем прыбіць тут жа на месцы ненавіднага чалавека. Бацькава вымушаная працоўная ўмова з Зосяю, падатак, увесь паварот жыцця — ажыло раптам усё гэта перад вачыма ў Толяка. І яшчэ самае важнае тут — што яму самому ходу няма. І чырвоны генерал, і выдатны лётчык, і ўсё, усё — толькі мары. Трэба нічым не адзначацца ад усіх гэтых навакольных сельсаветчыкаў, камітэтчыкаў, лапцявозаў...

І тут упартая думка на момант як бы разагнала пустыя толькі мары: даможацца той, хто дамагаецца; значыцца, трэба варушыцца. Смешная фантазія паставіла раптам перад уяўленнем усё, што можа тады гэтакі чалавек: лётчык або камандзір эскадрыллі забірае шмат важных вестак і дакументаў і ўзнімаецца з імі ў вольную высокую дарогу. Там адкрыта разлегласць на ўсе канцы свету. І от неўзабаве ён ужо там, дзе ўсё ідзе гэтак, як навыкла змалку яго душа. Усё там перад ім. Ён дапамог сабранымі весткамі выратаваць свет ад жудасці, і тут зноў устанавіўся парадак жыцця. А калі і не гэтак, ды ўсё адно ён апынаецца за ўсімі межамі, далёка адгэтуль. І ўсё там перад ім адкрыта, усе дзверы адчынены, і ён не тое, што гэты вось бялявы галетнік, ён не раўня яму!..

Як тумановыя засцілы, ірвануліся перад ім на момант гэтыя думкі і гэтакім чынам зноў ператварыліся ў мары. Але яны ўзварушылі ў ім інстынкт асцярожнасці. І ён моўчкі падаўся ў сваю дарогу, несучы ў сабе яшчэ большую нянавісць да гэтага хлапца за тое, што ён ёсць ён. І дзіўна яму пасля самому было: з таго часу, як бы ад прагнасці зрабіць усё па-свойму, у яго думках Зося заняла нейкае месца. Усялякія думкі, часта штучныя, абуджваліся ў ім. Часамі нават як бы ў іншым святле Зося, як у тумане, паўставала перад ім. Ён раптам заўважыў, што яна зграбная і прыгожая.

Яна ж цэлымі днямі не прыпынялася. А ўвечары нылі ад работы ногі і рукі. Кожны ж сёмы дзень, як прыходзіла яна да сваіх, заставала там пязменных спадарожнікаў усіх іх, ад продкаў і да бацькоў,— цяснату і галечу. І кожны раз адмаўлялася яна вечарам ад сваёй паўшклянкі малака. І гэта кожны панядзелак гнала яе назад. Як

усходзіла сонца, яна пратоптвала росную сцежку на поплаве, да Сегенецкага хутара, мінаючы грады выносістых хвояў.

## V

Паўз дзічку яна прайшла як праз зварушаную назад хаду часу. Гэта было сапраўднае ўтрапенне пачуццяў. І яна мінула гэтае ціхае цяпер, пустое ёй заўсёды дзікае месца. Зусім звечарэла, як дайшла яна да роднай сваёй хаты. Яна пакінула ў баку ад дарогі сваёй пусты цяпер, самотны Сегенецкага дом. Антэна здалёк была відна над гонтавым дахам, ліпы і кляны не варушылі голым яшчэ сваім веццем. Сяліба танула ў змроку.

Як доўгія гады яна не была тут! Усё было ёй новае і як бы ў іншым свеце. Змрок асядаў на нізенькія хаты ў роднай вуліцы, і тут з нецярплівасці яна пайшла шпарчэй. Усе ўжо ведалі, што яна зараз з'явіцца. Малы брат паглядаў цераз плацец на вуліцу, бацька стаяў у адчыненых сенечных дзвярах. Ёй спачатку здалося, што бацька нейк змяніўся за гэты час, што постаць яго стала буйнейшая, што адзежа больш знасілася, твар пастарэў і вочы глыбей увайшлі ў сябе.

— Тата,— прывітала яна яго, узыходзячы на ганак.

— Дачушка!

І ён узяў яе за локці рук і гэтак прытрымаў у дзвярах, не зводзячы з яе вачэй. Яна ўбачыла, што вочы яго зачырванелі, ніжняя палова твару ўздрыганулася, і дзве слязіны застылі на шчоках. А з хаты ўжо выбягала маці і з галошаннем кінулася да яе. Брат валтузіў яе за вопратку, з хаты абзывалася меншая сястрыца.

— Чаго ж вы запынілі тут яе ў дзвярах,— галасіла маці,— няхай жа госцейка ў хату хутчэй.

На комінку куродымела газоўка. Бацька ўзяўся каля лямпы, прыгаворваючы:

— Не шкада сёння і лямпу запаліць...

Ён запаліў лямпу і доўга праціраў чорным ручніком шкло.

— Дайце мне,— забрала ў яго з рук шкло Зося. І ён сеў, не зводзячы з яе вачэй.

Малы брат цёрся ўсё ля яе. Яна як села і абняла яго рукою, ён ужо ўвесь час і сядзеў гэтак, не адсоўваючыся ад яе. Вячэра цягнулася ў гэты вечар доўга. Маці наставіла на стол усяго, што толькі было ў іх. А яна ўсё пры-

глядалася да бацькі, ён і вячэраць сеў гэтак, як быў, не распратаючыся, у сваёй раскудзеленай вопратцы, як прыхваткам усё гэта рабіў. Гаварыў ён звычайна — мала і спакойна, без лішняга слова і спрыту ў гаворцы. Як бы штосьці гэтакае ласкавае і добрае хацеў сказаць гэты чалавек і не адважваўся ці не мог. І адлюстраванне гэтага нявыказанага замілавання ляжала на твары яго, як глядзеў ён на сваю госцю. А яна ўспамінала, як Галена чытала ёй пра яго з свайго ліста да яе (не ўспела паслаць Галена ліста ў той вечар іхняга спаткання ў больнічным карыдоры).

«...Тым летам як была я ў вас, дык тата твой усё гаварыў мне, што я вельмі да цябе падобна. А сам ён як жывы, тата мой, стаіць перада мною. Штосьці адмысловае цераз увесь твар ідзе».

— Татуля!

Яна адарвалася ад брата і, заплакаўшы, абняла бацьку за шыю. І гэта была навіна ў гэтай хаце, дзе не прывыклі выказваць гэтак сваё замілаванне адно да другога. Тады маці моцна раптам заплакала, і брат, сумеўшыся, пачаў выціраць сціснутымі пальцамі вочы. Пасля ж гэтай хвіліны запанавала ціхая яснота. Пачалі гаварыць шмат, смяяцца, жартаваць, успамінаць...

«...Я цябе, дачушка, толькі і памятаю дзіцём, а здаецца мне, што я цябе ніколі з воч не спускаў...»

Галена!

І яна пачала гаварыць:

— Я ж прыехала ад Галены.

Усе глянулі на яе.

— Яна ж цяпер у той самай больніцы за доктара. Я ж з яе рукі і выехала сюды.

Дык было як бы і здзіўленне і радасць. І гаворка тады пайшла шырэй. Брат і дзядзька — нябожчык дворнік з вялікага места пачаў ажываць тады ва ўяўленнях гэтых людзей. Зося слухала бацькаву гаворку пра няведамага ёй Галенінага бацьку, і ўяўленне яе злівала гэты вобраз з жывым вобразам роднага бацькі. Адзін чалавек паўставаў гэта з блізкіх і далёкіх засцілаў свету!

«...Я чула, што ён хоча сказаць, што любіць і шкадуе мяне...»

Гэта Галена ведае, што любіць і шкадуе яе Зосін бацька, Якуб Сегень.

— Тата, а Галена гэтак усё ўспамінае, як была ў нас тады... Яна і выгаворвала мне, што я не пісала ёй доўга...

— Галена? Яна ў бацьку пайшла; і з твару на яго падобная і з голасу нават...

— Вы з ім бачыліся калі, як яны выехалі былі адгэтуль?

— Раз усяго. Ездзіў я да яго быў, усё зацвярджаў на сябе яго спадчынную дзесяціну. А ён, небарак, увесь часірваўся назад каб гэта як. Але нельга было — за што ён тут узяўся б? Або мне, або яму трэба было сыходзіць. Я калі ўвайшоў быў да яго туды, у тую дворніцкую кватэру, дык мне як зробіцца нядобра! Што ж! Гэта ні тое што хата, хоць гнілая. Тут яе, здаецца, вецер разнясе, а прывыкшы... А там усё ўціснута ў зямлю. Два акенцы пад самаю столяю, хоць ты ўслон падстаўляй, каб прыйшлося глянуць на вуліцу. А сцены ўсе ў зямлі, кватэра тая ўся як ёсць увагнана ў зямлю велічэзным мурам. А дом той, дом! Здаецца, там людзей тых як чорнае хмары жыве, і сярод іх яму месца не знайшлося. Як у магіле жыў. А Галенку як убачыў быў тады! Слабенькае дзіця, як цявіна. Трымае мятлу ў руках большую за сябе і змятае з тратуара на вуліцы. Бацька пасярод бруку, а яна найбольш ля сцен трымаецца. Ідуць сабе людзі — той яе абміне, а той на мятлу наступіць. У кожнага свой інтэрас... Я там пабыў дзён са два. А больш ужо і быць не давялося. Праз колькі год раз нейк прыходзіць ліст; Галенка сама пісала. Я калі разабраў гэты ліст, каб ты ведала, як кальнула мяне ў сэрца. Няма, памёр ён! Галенка асірацела! Хлопцы, Уладзімір і Кастусь! — што ж, большы і тады ўжо, як быў я ў іх, не жыў дома, у маёнтак нейкі там наняўся за падпаска, а меншы — дык зусім яшчэ дзіця. От і асталіся яны, немаведама як і пры чым. Ехаць ім сюды? Там заставацца? Нейк яна, удава, падалася ў той самы маёнтак, дзе за падпаска хлапец быў. Нешта там рабіла, а пасля адкупілі ў таго ж пана старэнькую афіцыну, пісалі, што недзе ў лесе ці на ўзлеску. Лясны стражнік жыў некалі. Так нейк і жылі мы адны ад адных, як за светам...

Зося слухала ўсё гэта, даўно знаёмае з бацькавых і ранейшых расказаў, але як бы гэта першы раз яна чуе гэта. Ёй хочацца бачыць тут ля сябе Галену.

Галена ж расказвала ўсё пра сябе Зосі, і Зося — Галене.

Як Галена ішла туды паўзлесным выганам!

«...Ты нават не ведаеш, хто гэта Галена. Забыўся. А мо і не ведаў ніколі!..»

Вядома, што было Толяку і ўсім ім, Сегенецкім, да Га-

лены!.. І да яе, да Зосі! Толькі — рабочыя рукі, а не чалавек, не сястра, не пляменніца!..

Усе вобразы, жывыя, стаяць перад ёю.

## VI

Старасвецкі дом уростаў пакрысе ў зямлю, навокал быў густы сад. Вокны ў доме патрухлявелі, сцены пабраны на ўклюбы. У доме некалькі пакояў з нізкаю столяю. Сцены нядаўна пабелены вапнаю, новыя даўжэзныя сталы стаяць у кожным пакоі. У адным пакоі на сцяне некалькі танных друкаваных плакатаў. Пілсудскі з бізуном у руках, Чэмберлен з д'ябальскімі пазурамі замест пазногцяў, поп з тварам, большым нават за свой жывот... Некалькі доўгіх заслонаў стаяць паўз сцены і ля стала. Побач з дзвярыма ў суседні пакой — шафа з дрэнна абгабляваных дошак, у дзверцы яе нават шкло ўстаўлена, а за шклом з паўсотні кніжак, пазачытваных насмерць, зашмальцаваных, растрэсеных. От і ўсё, што ёсць у гэтым пакоі. У наступным пакоі, большым, папрыбіваны проста да падлогі на падстаўках абгабляваныя дошкі ў два рады, з праходам пасярэдзіне, і перад імі сцэна, завешаная зрэбным палатном. А яшчэ ў наступным пакоі, меншым за гэтыя два, тры сталы, некалькі крэслаў і заслонаў і шафа з паперамі. Тут усяго адно акно ў самую гушчыню саду. І тут ніколі не бывае пуста. На падлозе тут натупана зямлі, заўсёды адчыненая фортка ў акне не можа як мае быць выцягнуць накуранага дыму. Малады хлапец з зачэсанымі назад бялявымі валасамі колькі разоў падае голас:

— Дзядзькі, не курыце гэтак многа.

Дык які-небудзь хрыпаты або танклявы голас заўсёды адказвае:

— От я адно дакуру і кіну.

Стараючыся, каб як не падсмаліць вусоў, чалавек дакурвае да самых губ і смела тады кідае недакурак у кут. І тады разважае, што вельмі ж дыму накурылі шмат.

Стаяць людзі ля дзвярэй, узлягаюць на сталы; патыхае ад людзей кажушынаю, тытунём, караваю павольнасцю, сталаю няўпэўненасцю...

У аконныя шыбы глядзіць першая вясна, неба — сіняе і глыбокае, зямля — вільготная і прасторная, нават і ў цясноце сваёй; ветравыя ўзмахі прыносяць сюды і праз сцены водыр веснавой, хвойнай і палявой разлегласці.

Людзей сюды збіраецца ўсё больш, яны збіраюцца з самага ранні.

— Зэня, Зэнка,— падае голас чалавек, выплішчваючыся наперад.

Бялявы хлопец не слухае, канчае пісаць і падае камусьці цераз галовы людскія паперку. І тады шукае вачыма, хто клікаў яго. А той ужо стаіць ля самага стала. Хлопец бачыць перад сабою даволі высокага чалавека. Стаптаныя ўшчэнт боты, рыжая ватоўка, ці то гэта гэтакі кажух — замест каўняра калмаціцца паскубленая аўчыніна; твар — моцны, рысы яго — буйныя...

— Я от што, Зэнка, каб ты як выстараўся мне плуга, хоць на тыдзень, хоць каб як-небудзь ускорпаць палетак... Прыйшлося, хоць ты носам ары — да таго плуг дайшоў, што і паправіць нельга. Дык я і думаю — пайду я адно ў сельсавет...

— А табе адно каб гатовае хто даваў. Сельсавет табе павінен усё зрабіць! Ах, які ты майстар.

Зэнка бачыць, як сказаў гэта і засмяяўся дробны чалавек: малы чухае раз-поразу пад шапкаю, вольная ад гэтай работы рука ў кішэні суконных нагавіц (адны латы!), на шыі — шаль, падобны і колерам і ўсім выглядам да раскудзеленага вужышча. На твары калючая ўсмешка, так і праколе, здаецца, навылёт і Зэнку і гаспадара, што просіць плуга.

— А табе, Андрэй, што да таго, што мне сельсавет плуга выстараецца?

Той адварочваецца і зноў глядзіць на Зэнку, што той скажа. Навокал іх усіх ужо навісае жывая сцяна, той трымае ў руках нейкую чорную, як падэшва, паперу, той усё шукае недзе ў нетрах пазухі чагосьці і ніяк не можа знайсці і раптам пачынае крыўдзіцца, немаведама на каго:

— От і клаў жа, здаецца, у кішэню ці за пазуху, як выбіраўся сюды, а дзе яна магла дзецца, дык агні не ведаюць, хоць ты з свечкаю шукай.

— З свечкаю за пазухай? Ха-ха-ха... Яшчэ пазуха загарыцца!

— А чаго гэта ты за сваёю пазухаю не далічыўся?

— Як чаго! Дакумант згубіў. Мне трэба... у мяне насення вобмаль, дык я ад члена паперку...

— От, яму насення вобмаль, дык ён сюды!

Гэта зноў падае скептычны голас той самы дробны чалавек. Зэня ўстае за сваім сталом:

— Дык, дзядзька Самоцька, член у вас глядзеў, што плуга няма?

Самоцька яшчэ бліжэй стараецца выбрацца да Зэні. Ён адгрэбае рукамі ад стала дробнага чалавека і шпарка перабірае пальцамі нейкія паперачкі.

— Няўжо ў вас гэтак сышло? — пытае Зэнка.

— Сышло, дальбог, сышло,— гаворыць Самоцька і ўсё шукае чагосьці ў паперках. Іх у яго цэлы жмут.

Зэня запісвае яго прозвішча ў спіс.

— О так, адразу ў спіс яго! О так! — не ўнімаецца дробны чалавек, міргнуўшы дробным сваім адным вокам.

— Цябе, Андрэй, ніхто не просіць быць за адваката.

— Я не чакаю, пакуль мяне прасіць будуць. Гэтаму дай, таму дай, а дзе ўзяць? Праўда ці не? Што гэта, Самоцьку сышло на тое, што плуга небарак агараць не можа? Праўда ці не?

Тут Самоцька і Андрэй счапіліся.

— Што я табе сельсавецкага ці якога там плуга шкадую, ці што? Ты думаеш, я заўбожаю ад таго, што Зэня там табе выстараецца? Праўда ці не? Што я тут свой інтэрас загінаю, ці што? Праўда ці не?

— Ну дык чаго ж ты кіпіш гэтак?

— Як чаго!

— Але, чаго?

— Я нічога!

— Эх, Пніцкі, Пніцкі, Андрэйка, ты добрая цаца. У цябе унь брат у Чарніцы гаруе, а ты і яго часцінаю заўладаў. Цябе людзі ведаюць! Што ты тут на мяне нагаворваеш!

— Нічога табе не пашкодзіць.

— Я тваё шкоды баюся?

І тут Самоцька разышоўся, як мог. Здаецца, ён ужо і забыўся на той плуг, з прычыны якога Зэня запісаў яго ў спіс. Ён адставіў нагу ўбок, засадзіў руку за папругу і чакаў чагосьці ад Пніцкага. А той ужо сама што ў смак гаворкі ўваходзіў: пырскаў слінаю, патрасаў плячыма і гаварыў, гаварыў («Праўда ці не? Праўда ці не?»).

— ...Братам мяне ўпікаюць, братам! Я з братам біўся калі, як гаспадарку дзялілі, ці што? Я яго абязвечыў, я яго прыгубіў? Хай хто што скажа. Праўда ці не? Праўда ці не? Я гарую, я бядняк. А што мне равалюца дала, каб я мог назаўсёды на ногі паўстаць. Гэта як каму, і больш нічога. Аднаму унь што, от пагэтуль (шмаргануў пальцамі сабе па барадзе), а іншаму дык і от пагэтуль нават не хапае

(шморгануў пальцам па калене). Мне як пасынку якому! Праўда ці не? Няхай людзі скажуць. Бедняку дапамога, бедняку дапамога, а той бядняк як каторы: адзін угару адразу пайшоў, а другі як ліпеў, гэтак і ліпіць, як той казаў, як на пакуце. От табе і равалюца? Праўда ці не? Гляньце на Нахлябіча! У таго што? У таго, пане мой, як скарб які ў двары завёўся. От, гэтаму дык рэвалюца дык памагла. Гэты адразу стаў гаспадар гэтакі, што...

— Што аж яго адразу раскулачылі.

— Раскулачылі не раскулачылі, а я гавару напрыклад. Праўда ці не? Я гавару, што аднаму унь як, а мне, скажам... Мне дык і памагалі, я не кажу... але...

— Але што за карысць, што табе памагалі. Табе гэтая помач ішла, як у прадонне якое. І следу і знаку няма.

— Дык што ты мяне ўпікаеш, ці што? Няхай людзі скажуць, я прапіваю ці я раскідаю? Хто пра мяне калі што скажа! Праўда ці не? Праўда ці не? Гаварэце, мужчыны. Я ж кажу, я не магу паскардзіцца, дай божа здароўе хоць бы гэтаму, скажам, і Зэнку і камітэтчыкам,— то насеннем увясну памогуць, то канём увосень, а не ідзецца мне, дый усё тут. От табе, як той казаў, я ж кажу, і равалюца тут табе.

— Значыцца, колькі цябе ні тхлань, усё адно табе нічога не паможа. Як у бочку без дна. А чаму?

Пніцкі растапырыў рукі і застыў гэтак.

— Агні яго ведаюць. Нахлябіч дык унь як пайшоў угору, а я дык, як... як... як грыб, і сяджу пры зямлі.

— Бочка без дна?

— Можа, яно і гэтак.

— А чаго ты на Самоцьку заеўся, што ён плуга прыйшоў прасіць?

— Я на яго заеўся? Няхай ён сам скажа, калі я на яго заядаўся. Праўда ці не, Самоцька? Як той казаў, я з нецярплівасці праўду выказаў. Я табе і ўсё магу выказаць. Я скажу проста і адкрыта, да чаго я гэта ўсё. Што гэта за дапамога, калі яна ўсё адно як кот свіснуў. Высалапіць макулінку, і няма больш. Ты мне, пане мой, каб я адразу паўстаў на ногі, а тады я табе аддзякую ў некалькі столак. Праўда ці не? Гэтак, як Нахлябіч...

Самоцька тут уз'еўся:

— Як Нахлябіч? А ты ж сам крычаў, каб яго раскулачыць.

— Бо ён сабе вельмі ж і грабянуў быў!..

— Ага і цябе пад сваю лапу падгроб быў, дык табе не

смачна стала пішчэць праз каторы ўжо год у Нахлябічавай лапе. Ага, цяпер дык і ты... Аддаў ты яму свае даўгі ці не ўспеў яшчэ? Адрабіў ты яму, аджала яму твая жонка ці не?..

— Цяпер трасцы, не сышча.

— Ну, дык чаго ж ты? А сам дык аж з скуры вылазіш, каб самому за Нахлябіча стаць, адно каб не раскулачвалі... Як вош на струп лезеш, каб аднаго сапхнуць ды каб самому сесці. А трасцы з хваробаю! Ты думаеш, сам ты быў бы лепшы за Нахлябіча, каб прыйшлося да гэтага?

— Што ты мяне з кім раўняеш? Можа, я маю натуру іншую, як Нахлябіч. Не зраўняў бог лесу, не зраўняў і людзей, калі ты хочаш ведаць. Праўда ці не?

— А чаго ж табе душа забалела, калі я плуга прыйшоў папрасіць? Табе ўжо і кальнула ў ныркі: а ну як дадуць. Зайздрасць цябе як перуном страсянула.

— Бяры, бя-я-яры-ы-ы не то што плуг, малатарню бяры, грабі, жары ўсё. Выстарайся яму, Зэня, малатарню, сячкарню, вальцы пад пшанічны пыталь, цынтрыфугу... Як той казаў... цягні, валачы, грабі, жары, калі маеш горла шырокае і кіндзюк моцны, можа, ператравіш. Я табе не шкадую. Хто яму што шкадуе? Мужчыны!

Зэня ціха глянуў на Самоцьку:

— А чаму ж вам гэтак калгас страшны; вы ж самі можаце, не сягоння, дык заўтра яшчэ, мо горай за Нахлябіча стаць. Вы ж самі кажаце. Тады, можа, і нада мною панком будзеце.

— Я над табою панком? Хай мяне бог крые, я апошняе кожнаму аддам.

— Але ж вы іначай крыху Пніцкаму тлумачылі, калі ён скардзіўся, што кожны год памагай яму, а ў яго і следу няма. Хіба каб век вечны нейкі дзядзька сядзеў каля яго і падсыпаў яму ўсё то таго, то гэтага. Самі ж вы...

— У калгас гэты, у калгас!.. Непрывычная справа. А можа, я там волі мець свае не буду. Можа, там мною камандаваць будзе які дурань, што майго і падноска не варт. А я павінен наравіць яму. От чаго я баюся. Я гавару адкрыта.

— А калі вы там самі камандаваць будзеце?

— То, можа, нехта не будзе рад гэтаму.

— А калі вы ці хто другі, як старац, век свой зжываеце, і вам здаецца, што гэта воля, калі выйдзеш ды на прызбе галодны пасядзіш...

— Або чарку, добра кажа, перакуліш, праўда ці не?

— Дык гэта воля? А там нехта будзе пад табою камандаваць? А дзе вы гэтую каманду бачылі! А калі ты сам будзеш разумны і дбайны гэтак, як на сваёй курынай гаспадарцы, якая тады каманда патрэбна, апроч таварыства... Вашывы іншы, галодны, гібее, цэлы век прасветлае гадзіны не меўшы... Сам ты, дзядзька, робіш па дваццаць гадзін у суткі, галодны, араць нават не маеш чым...

— Як той казаў, як мы робім! Хто ведае наша гора, дык той хай сам скажа. Праўда ці не? Я ж кажу, як мы робім? З цёмнага да цёмнага. Як сабака які жывеш. А дзіця тое ў цябе! Яно аж праз сэрца тваё крывёю пройдзе, пакуль ты яго выгадуеш. Калі ты добрае бацькаўскае сэрца маеш, дык, як той казаў, не рад, што на свет яго пусціў. Крывёю сэрца табе часамі ацекае, калі ты паглядзіш на яго. Ты яго і б'еш часам і заснуць яму не даеш, калі ён нацямочку аж вачэй расплюшчыць не можа, аж енчыць небарак, аж просіцца перада мною, аж моліцца, як перад катам якім, а ты яго валачэш з цёплае пасцелі босага ў расу, у туман, у непагадзь... А што гэта я вораг яму, я яму пакуты жадаю, я катам над ім хачу быць? Я ж яму бацька родны, я ж яму першы прыяцель. А ідзецца гэтак, іншая рада не служыць; я яго б'ю, катую, ушчуваю. Гэтак мой дзед вырас, гэтак бацька і я выраслі, гэтак і маё дзіця расце. Што я або хто там іншы парадзіць! Я не вораг сваймy дзіцяці, а што я зраблю? Бяда прымушае. І сам, як старац, на чалавека не падобен, і дзіця маё гэтакае...

— А от трымаешся ж за гэтую старэчую торбу і рукамі і зубамі.

— Я трымаюся. А можа, там яшчэ горш будзе? Я і сам... што, я не хачу смачнейшага кавалка з'есці або рабіць лягчэй, каб на мне жылле гэтак не рвалася? Хто гэта хоча быць жабраком!

— А хто цябе прымушае быць жабраком?

Усе азірнуліся на гэты грымучы голас. За адчыненымі дзвярыма, жуючы саломіну, стаяў Нахлябіч. Вочы яго былі як свярдлы, калі ўрэзваюцца яны ў дубовае бервяно.

— Ты заўсёды быў галетнікам і будзеш! Табе колькі ні дай! Ты не можаш выкіраваць сам сабою, каб гаспадаром зрабіцца. Ты, можа, і робіш і стараешся, а трасцы ты мець будзеш, бо гаспадар з цябе, як з Самоцькі міністар.

Самоцька шатнуўся ад стала і ўзяўся церабіць вусы.

— Я што ж, пры чым жа тут я.

І голас яго быў ціхі.

— Ты што? Сам гукаў, што мяне раскулачыць трэба, а ў калгас чаму не ідзеш? Гэтаксама і ты, Пніцкі. Дык чаму ж не запісваецеся, а ўсе аціраецеся, вывіжоўваеце, за нечыя спіны хаваецеся?

— Можа, гэта за тваю спіну ён хаваецца.

Гэта быў новы голас. Чалавек стаяў у самых дзвярах. Усе азірнуліся на яго. Гэта быў Якуб Сегень.

— Ты сам падставіў яму сваю спіну, каб ён за яе хаваўся. Яны ўдвух, Самоцька і Пніцкі. Што, не праўда, ты не падгаворваў іх, каб яны і самі не ішлі і іншых адгаворвалі? Хто іх і ўгаворваў, і палохаў, і дакляроўваў там ім неба на зямлі?..

— Неба на зямлі гэта ты ім дакляроўваеш.

— Ён адной рукою трымаецца за адно, гукаў жа ён, што цябе трэба раскулачыць, а другою рукою ён за цябе трымаецца. А табе толькі гэтага і трэба...

— Я сам за раскулачванне, але за якое! Сегенецкага трэба было раскулачыць, а не мяне. Таго раскулачылі і добра зрабілі, а я што? Я сам рэвалюцу рабіў.

— Каб самому нажыцца?

— Каб кожны жыў сам сабе за пана.

— А ты ж стаў ужо як мае быць панком над усімі намі.

— Чаму ж ты не стаў?!

— Мог бы і я стаць, дык на чорта гэта.

— Паглядзімо яшчэ, што з гэтага ўсяго выйдзе. Яшчэ са мною справа не скончана. Я пушчу яе куды трэба. Я і сам за равалюцу стаяў, і сын мой.

— Які ты сам, гэтакі твой і сын!

— Заціскайлы абодва!

Гэта гукнуў Андрэй Пніцкі і палахліва паглядзеў на ўсіх і на Нахлябіча. Але той нібы і не чуў. Ён ужо маўчаў і клычыў зубамі саломіну. Скіўіца заядла хадзіла, як у сячкарні нажы. Андрэй Пніцкі падышоў тады крыху ў яго бок, але загаварыў немаведама да каго ці да ўсіх:

— Я і яшчэ пра тое ўсё самае. Хіба я вораг сабе? Гэтак і кожны. Гарую, мучуся, стагну. Гэта і ты ведаеш (зірнуў на Нахлябіча), гэта і ўсе ведаюць...

— Перад кім жа ты апраўдваешся? Баішся Нахлябіча, што перад ім сказаў пра яго праўду?

— Я казаў заўсёды, што ў нашым жыцці, як той казаў, праўда ці не? Мы як жывом? Я тут кагадзе ўсё выказаў...

— Ты сам да нас зараз прыйдзеш. І Самоцька з табою, разам удвух.

І Самоцька і Андрэй Пніцкі азірнуліся. Якуб Сегень блізка ля іх.

— Каб жа чалавек ведаў, што рабіць, куды падавацца. А то аддай сваё ўласнае немаведама куды, а сам тады, калі прыйдзецца...

— Нічога, сам прыйдзеш. І ўсё добра будзе.

Самоцька ж маўчаў, апусціўшы вусы.

## VII

Яны выйшлі ўтрох: Самоцька, Якуб Сегень і Зэнак. Назіркам пайшоў Андрэй Пніцкі, а за ім паваломся Нахлябіч. Самоцька павёў Зэнака ў свой двор паказваць плуга.

— Паглядзі, ты адно паглядзі, увесь злізаўся, пагнуўся, ну як я з ім выеду на гэтае поле?

Зэнак пайшоў глядзець. Якуба дагнаў Пніцкі.

— А ліха яго ведае, можа, і мне, каб папрасіць, памаглі б што.

— А чаго табе трэба?

— Чаго трэба?.. Усяго, сказаць трэба. Гэтак трэба, што хоць гвалт крычы. За што ні возьмешся, нічога а ні-ні. Усяго трэба, бо нічога няма, а калі што і ёсць, дык яно гэтакае, што лепш бы яго і не бачыць.

Ён азірнуўся і ўбачыў Нахлябіча.

— От ходзіць за мною назіркам. От бо чалавек!

— Бо ты ў яго быў за нейкага папіхача ўвесь час. Плюнь ты на яго, што ён табе даў!

— А няўжо ж! Даў ён? Каб тое наадварот ды яму ў жывот. Праўда ці не?

— Дык што ж ты яго слухаеш яшчэ і цяпер? Ён цябе ўсё нагаворвае, а ты і рад старацца. Што ты сам гаварыў кагадзе ў сельсавеце, як ты тлумачыў пра сваё, ды і пра нас усіх, жыццё? А чаго ты яго слухаеш, што ён табе таварыш, ці што? Ён на табе конна заўсёды ездзіў і яшчэ строіцца ехаць, калі будзеш гэтак і надалей.

— А няўжо ж! Ён гэтакі! Ён цябе не памілуе.

Якуб пайшоў. Пніцкі рушыў спачатку за ім і пасля астаўся на вуліцы.

— Ты ўсё яго слухаеш,— загаварыў Нахлябіч, падыходзячы пад Пніцкага,— ты ўсё яго слухаеш. Яму што! Ён сам нічога не мае і кожнага строіцца па свеце з тор-

баю пусціць. Ён не глядзіць, багацейшы хто ці бедны хто. От пасцягалі ўсё ў адну кучу, пазабіралі ўсё добрае, а там як на паншчыну і будуць выганяць. І так унь ужо кожны дзень па падвоканню ходзіць, як цівун, бывала, панскі, заказвае ўсё — то на работу, то на сход, то яшчэ на якую бяду. Ты не ўпісаўся, дык і трымайся ад гэтага яго калгаса! Прыехаў жа яго нейкі братаніч ці нябож з Чарніцы гэтае, дык яны от і закруцілі светам. Гэта доўга не натрымаецца — або само раскідаецца, або як груне вайна, дык... Дзе ў іх там што будзе, калі там галетнікаў больш, як каго. Яны нічога не мелі і мець не будуць. Яны не прывыклі мець. Яны не прывыклі старацца... Мяне раскулачылі, дык я скасую гэта! Сын мой стараецца. Гэта няправільна зроблена. Я сваё вазьму назад, і гэта паглядзім тады, што будзе, хто верх возьме. Тады ты да мяне смела ідзі. А там — што яны там табе дадуць?!

Пніцкі сам не ведаў, што яму рабіць і каго слухаць.

— Аднак жа цябе не пабаяліся раскулачыць,— нарэшце сказаў ён і азірнуўся на Самоцькаву хату.

У двары там стаялі Зэня і Самоцька.

— Гэты цівун табе нагаворыць, слухай ты адно яго. Цівун гад! Ты зайдзі да мяне, меўшы час. Пагаворым. Трэба не паддавацца. Ты Самоцьку скажы, паклічаш яго. Мой сын цяпер — ведаеш хто?

— Аднак жа цябе не пабаяліся раскулачыць,— зноў сказаў Пніцкі.

Ён заўважыў, што Самоцька і Зэня пайшлі ў хату, і сам рушыў да Самоцькі ў двор. Там было разгружана пад нагамі; каструбаватая ад засохлага гною карова паглядала з прычыненага хлява. Дзяўчынка бегла па двары з рэшатам сечкі. Яна была босая і старалася ступаць дзе сушэй. І яна бегла скрозь подскакам.

Пніцкі падаўся ў хату. Чорна было там і цёмна. Гулялі на зямлі дзеці, нейкіх рыштункаў было ўсюды аж не павярнуцца.

— Прападу, калі не будзе ніякай помачы,— гаварыў Самоцька,— няма ў каго пазычыць, хоць што хочаш.

— Бывала, калі што якое, дык я ў Нахлябіча браў,— абазваўся Пніцкі.

— Але і то сказаць, кожны год мне і камітэт памагаў, дай божа здароўя, дзякуй ім... Ну, Нахлябічу я, сказаць, не аддаў двух пудоў жыта яшчэ, дык цяпер трасцы і аддаваць буду. Цяпер не сышча, няхай у кулак пасвішча. Годзе яму...



Кузьма Чорны *(справа)* з жонкаю Р. І. Свераноўскай, дачкою Рагнедай і шваграм Д. І. Свераноўскім. 1929 г.

— Я, сказаць,— гаварыў Самоцька,— цяпер-то і лепш пайшоў крыху, як у раваліюцу зямлі больш прырэзалі. Я не кажу. Я не крыўджуся на ўладу, я не кажу... Я паправіўся, але не гэтулькі, каб... Добра, Зэня, кажаш... Няхай сабе я серадняк, як вы лічыце, няхай я буду бядняк, я адно... от плуга я не маю...

— Заідзі, Зэня, да мяне,— сказаў Пніцкі, не слухаючы Самоцькі, як Зэня збіраўся выходзіць.

Ён па дарозе шаптаў Зэню:

— Я выказаў усё ў сельсавеце, як і я і мы ўсе жывом і жылі. Я гаварыў адкрыта, як на споведзі. Я не маю нічога, мне гэтаксама трэба, каб памаглі, каб не пакінулі.

— А што ў вас?

— Што ў мяне? Усё ў мяне! Я гэтае самае кагадзе і Якубу казаў. На што ні глянь, дык усім трэба мне памагчы. Нахлябіч мне нагаворвае, а я і думаю сабе: э-гэ-гэт, ты мне пулі заліваеш, ты мне вярзеш. Вярзі сабе. Якуб мне праўду сказаў: годзе табе, кажа, на яго пагля-даць. І праўда, не пабаяліся ж яго раскулачыць.

У хаце ў яго было яшчэ чарней, як у Самоцькі. І павуцінне было, і ў качэргах цэлы сметнік. Ён доўга трымаў у хаце Зэню і ўсё тлумачыў, што ўсім трэба яму памагчы. І ўсё ўспамінаў Нахлябіча.

— Э-гэ-гэ, э-гэ-гэ, ты мне пулі заліваеш!

З вялікім задавальненнем заўважыў ён, што Зэня ўпісаў яго ў нейкі спіс. А як пайшоў Зэня, ён пайшоў на прыгуменне і, соўваючыся там, падаваў сам сабе голас:

— Ну, цяпер калі што, калі сапраўды Нахлябічаў сын не малы начальнік, дык тады хоць ліха ведае што рабі. Нагаварыў я лішняга на яго і яму самому ўспомніў, што не пабаяліся яго раскулачыць. Як бы хто мяне за язык цягнуў. За дурною галавою гатова быць нагам бяда. Усё можа быць.

Пасля, папакорпаўшыся ля сваіх хлеўчукоў і свінушкоў, пачухаў шыю і заенчыў:

— Ой, ой, божа мой, жывеш чалавек, як на курыным седале.

## VIII

Увечары на нарадзе Зэня пытаўся ў Апанаса Сегеня:

— У нас усяго цяпер дваццаць гаспадарак абагулена добраахвотна. На прымеце ёсць яшчэ чалавек пяць. Можа, упісаць іх, хоць яны і самі яшчэ аглядаюцца ўсё? Які-

небудзь Андрэй Пніцкі сам не ведае, чаго чакае: яго можа Нахлябіч у адзін бок павярнуць, а мы ў другі. Ён і сам не ведае, што яму рабіць. Дык, можа, адразу ўзяць і ўпісаць яго, а тады ён патрапечацца крыху, патрапечацца і ўсё адно тут будзе.

— Не трэба гэтага рабіць,— сказаў Апанас.

— Мне шкода яго. Не штурханеш яго, дык гэтак усё і блытацца будзе.

Апанас пачаў гаварыць.

— Гэтак не трэба рабіць. Калі што нядобра яму здасца, дык усё наракаць будзе, што сілаю яго ўцяглі...

— Дык трэба рабіць гэтак, каб нічога не было нядобра.

— Малады ты яшчэ, Зэнак. Як гэта ты адразу зробіш, каб усё было як мае быць, каб Пніцкі не знайшоў прычыны паенчыць і, чаго добрага, кінуць-рынуць і адцурацца ўсяго. Тады яшчэ горш будзе. Тады ён табе завядзе сваю песню, як той старац з лераю. Ужо што-што, а енчыць, дык на гэта наш чалавек здатны. Проста мастак на гэта. Тады толькі ён пачне рабіць усё сам цвёрда і добра, калі кіне енчыць. Чуў жа, як сёння, удзень, пачаў ён гаварыць пра сваё і пра наша ўсіх шчасце...

— Ён гаварыў праўду. Ён разумее ўсё, як, можа, ніхто.

— Але ж да якое думкі ён прыходзіць. Ні да якае. Ён табе расказаў усё, як ён жыве і гаруе, і толькі ўсяго. Ніякіх вывадаў ён не робіць. І пайшоў сабе ў сваю адвечную мышыную нару ці, як сам казаў, курынае седала, і там гатоў сядзець да канца дзён сваіх, і ўсё некаму скардзіцца.

— Дык от я ж і гавару, што трэба зняць яго з гэтага седала, бо сам не злезе адтуль.

— Ты забываеш, што не на гатовае сюды вы ўсе прыходзіце, што не наспрыяў нейкі дзядзька тут усім гатовага, а вы толькі, будзьце ласкавы, ідзіце спажывайце на здароўе, а ідзяце рабіць. Ідзяце ў лепшы спосаб на гэта. І недастачы спачатку будуць, і клопату вялікага давядзецца ўжыць. Няхай пакуль што будуць гэтыя дваццаць чалавек, але затое тут пэўнасць, што праз нейкі час Пніцкі і ўсе з ім самі прыйдуць памагаць і рабіць. Прыйдзе і Самоцьку за сабою пацягне. Даводзьма да канца тое, што пачалі.

— А мне здаецца, што ён неўзабаве прыйдзе, адно трэба ачысціць яму дарогу. А то яго тузаюць ва ўсе бакі, і ён сам не ведае, каго слухаць.

Гэта сказаў Якуб Сегепь. Ён дагэтуль ціха сядзеў і ўсё задумёнпа вадзіў каструбаватым пальцам сваім па стале.

— Ты гэта пра што?

— Пра тое, што на яго дарозе трэцца Нахлябіч ды яшчэ з сваім сынам.

— Як з сынам?

— Ну, ты пяўжо ж не чуў? Сын, усё кажа, мой сын вялікі начальнік ці камісар. А той думае, што і праўда, бо бачыў сам, што некалі тут быў самы начальнік над дварамі, у першую равалюцу. А тут чорт яго ведае, дзе ён цяпер.

— Ён цяпер у Чарніцы на фабрыцы загадвае рабочым клубам... Але ж ён бацькі свайго выракся.

— Як выракся?!

— Выракся. Заявіў на рабочым сходзе. Бацькава гаспадарка, кажа, перарасла ў кулацкую, і сам бацька, кажа, сапраўдны кулак, дык я, кажа, з гэтае прычыны...

— Эгэ, чаму ж ты раней...

— А што нам з гэтага?

— Не палохаў бы ён тут усіх сваім сынам. Ты не ведаеш, што гэта тут у нас, калі ў каго хто-небудзь за вялікага начальніка.

— Які там начальнік!

— А што тут хто ведае. Наганяе страху... От яно як... А я ж думаў, што сынок гэты яго немаведама куды адгэтуль выкруціўся... А ці выракся ён самога сябе ранейшага, як з бацькам разам гэтую гаспадарку рабіў? Каб не ён, можа б, і бацька гэтакім не зрабіўся. Раней бацьку за багатыра зрабіў, а цяпер ужо выракаецца. Бач ты, што за чалавек!

— А што ж ён, сын яго гэты?

— З маёнткаў усё цягаў да бацькі. От гэтыя бароны і плугі, што паабагульвалі, пазабіралі мы, адкуль жа гэта яны ў яго! Людзі не ведаюць, ці што? Але тут і яшчэ адно. Я не ведаю, як гэта дагэтуль усё цягнецца...

— Што?

— А от у Сегенецкага парабчук служыў, ці пастушок, як яго клікалі. Там, з залеснае вёскі. Той небарак аж у горад пеша пайшоў быў тады, гэтак дапякло яму было ўсё гэта.

— У горад? Чаго?

— На Нахлябіча скардзіцца. Я тады сам узяўся быў за гэта, а пасля нейк і пайшло яно само па сабе. Бацька

гэтага хлапчука гаварыў тады са мною. Я думаў, што ён сам узяўся, а як цяпер здагадваюся, дык ці не сыпануў быў Нахлябіч грошай яму, каб маўчаў. А сын тады пасварыўся з бацькам.

— Пасварыўся? Значыцца, і тады ўжо з бацькам яны не ладзілі.

— Я думаю, што дзеля людскога вока. Калі што і было, дык на бацькаву галаву, а сам сынок чысты. Бо яму ж трэба было за камісара выбівацца. Пасля гэтага ён неўзабаве і рушыў некуды з дому. І нічога пра яго підзе не чуваць, пакуль от ты не сказаў цяпер. Бацька пра яго маўчаў аж па гэтыя дні.

— Мы пра гэта пасля,— сказаў Зэня,— давайце скончым і без Нахлябіча.

— Гэтымі днямі выезд у поле,— гаварыў Апанас.— Мусіць, Нахлябічавы і Сегенецкага коні самая сіла.

— Самая сіла. Рэшта ўсё — так сабе. Ёсць яшчэ некалькі нішто, а шмат — дрэнных. Каб канёў чатыры прыкупіць — усё было б вельмі добра. У Самоцькі конь добры...

— Я і Самоцьку ўпісаў бы, гэтак, як і Пніцкага. Я сваё гавару,— сказаў зноў Зэня.

— Няхай самі прыйдуць...

Яны гаварылі доўга і разышліся позна. Была ясная ноч. Якуб развітаўся з Зэнкам і Апанасам насупроць свайго двара. Яны пайшлі, а ён адзін доўга стаяў на пустой вуліцы.

Бег у паразрываных хмарах месяц, веснавыя подыхі ішлі па зямлі.

«Як будзе ўсё ў нас увосень, што будзе праз год? Што і як мы будзем праз некалькі год?»

Ён адзін стаяў і думаў. Балелі ў яго ад дзённай работы плечы, вочы яго глядзелі на цёмныя абрысы старой, як грыб, роднай хаты. За ёю чарнелі, як кучы гною, усялякія прыбудоўкі: гаспадарка.

«Гаспадарка!»

І нязвычна яму штосьці было тут, у новай справе, і нават лёгкія адценні незразумелага страху з'яўляліся перад тым, да чаго ён шпарка ішоў цяпер і вёў нават за сабою некаторых. Усё адно, як адным махам рукі, знішчае ён тое, у чым ён радзіўся, жыў і дзяцей гадаваў. Што ішло спрадвеку. Думкі ішлі ўкрадкі, тачыліся, як чэрві. І ён пастараўся адагнаць іх ад сябе. Ірваў іх у гэтую хвіліну і ўсё, што было з імі.

Зося! Яна была дзесьці ў гэтай спарахнелай хаце. Дачушка! Дзеці! Самае дарагое яму!

«Я яшчэ думаю часамі пакінуць ім на іх увесь век гэтую гнілую долю, гэтую спарахнеласць,— упікнуў ён сябе.— Яны самі рвуць і разбураюць гэта».

Ён пайшоў у хату. Цьмяна там гарэла газоўка. Зося сляпіла вочы пры ёй: зашывала брату вопратку. Ён падышоў да яе і з вялікім замілаваннем правёў каструбаватаю рукою па яе галаве. Яна з удзячнасцю паглядзела яму ў твар. І ён падаўся хутчэй у свой кут.

— Кладзіся ты спаць,— сказаў адно ён.

Яна павярнула ў руках вопратку і зноў пачала шыць.

## IX

У тыя часы Апанас Сегень не меў спакою. Клапаціўся разам з ім і Зэня. Якуб Сегень трымаўся каля іх, каля штабу, але ў яго была свая работа: ён рабіў, што было апланавана раней. Прыгнуўшы свае спрацаваныя плечы, ён павольнаю сваёю хадою варушыўся кожную раніцу пад вокнамі хат і заказваў — каму што рабіць, каму куды ісці. Зэня паспрабаваў быў выклеіць расклад працы і абавязкаў, але Якуб адразу сказаў:

— Нашы людзі пакуль яшчэ не прывыклі да гэтага. От паглядзіш, што трэба будзе кожны дзень або ўвечары гаварыць заўсёды.

Гэтак і было. Рыхтаваліся спешна. Навокал ляжала нячэпанае поле: цэлы палетак. Яно чакала плугоў і барон. Гэты дзень надыходзіў.

Было ўсіх дваццаць хат. Як прыйшлі ўсе былі разам на першы агульны калгасны сход, дык — шмат народу. У Зэні аж твар пабялеў ад хвалявання. Радзіліся ўсе доўга. Апанас Сегень прапанаваў план працы. І неяк само па сабе выйшла на тым сходзе, што сельсаветчыкі сталі і за кіраўнікоў калгаса. Усе паднялі рукі за Апанаса і Зэню. Зрабілі некалькі брыгад: абсталяваць хоць да часу будоўлю пад абагуленую жывёлу, перагледзець і ўпарадкаваць прыладдзе, каб было з чым неўзабаве выехаць на поле, адабраць лепшае насенне...

У тыя ж дні Нахлябічава новае гумно адгарадзілі ад старога, выгарадзілі прагон да яго, і там ужо стаялі калгасныя коні. Пніцкі прыходзіў усё паглядаць, як даглядаюцца коні, і часамі бедаваў, што пачне прападаць жывёла «ў вялікім гурце і ў дрэнным доглядзе». Жанкі кож-

ны дзень хадзілі даіць кароў, і тут Пніцкі тужыў, што не чыста выдойваюць: «бо, вядома ж, не сваё».

Ціхі і спакойны Якуб Сегень колькі разоў ужо адварочваўся ад Нахлябіча, як той стаяў на вуліцы.

— Цівун! Пайшоў ужо цівун па падвоканню! Лазіць ужо,— роў ён, сцяўшы зубы.

Якуб шпарка мінаў некалгасныя хаты і ішоў ціха да сваіх. А нарэшце раз не вытрымаў:

— Я цябе, Аляксандр, пакуль што прашу, пакінь і глядзі сябе. Не чапай ты ні мяне, нікога... Кінь ты і Пніцкага нагаворваць, і, можа, яшчэ і Самоцьку.

Нахлябіч змоўчаў. А ўвечары да яго прыйшоў Зэня:

— Калі вы не пакінеце ўсяго гэтага, дык ведаеце што? Тады вас трэба будзе сцішыць.

Нахлябіч сапраўды ў наступныя дні пачаў цішэць. Ён пачаў задумвацца: ніякага адказу ад сына не было. Ён пасля тае ночы яшчэ раз пісаў, а той усё маўчаў. Тады бацька сам уздумаў паехаць да сына. Збіраўся ён не доўга і паехаў ціха, каб ніхто і не ведаў лішне. Выехаў ён уночы.

Усе тыя дні было хмурнае надвор'е. А як пачаў дзьмуць напорысты вецер, пачала сохнуць зямля і заяснела неба. Пнівадзіцкія гаспадары выязджалі пакрысе араць. Абагуленае ж поле яшчэ некалькі дзён чакала. Той дзень, як выехалі ў поле, быў ясны. Блізка не дваццаць параконных плугоў пачалі рваць вільготную зямлю. Назаўсёды рэзаліся і клаліся дзірванiстымі скібамі межы. Укарчанелыя кусты быльнягу адно трашчалі пад блішчастым жалезам. Аратыя як разышліся, дык адцягнулі полудзень, і да паўдня скрозь ралля адно чарнела ўся спрэс роўная, без межаў. Якуб Сегень ішоў у сярэдзіне аратых, за ім — Зэня, і ўсё падаваў голас:

— От каб трактар быў хоць на першы раз. Адразу б пацягнула да нас людзей.

За ім абзываліся хлопцы.

За дзень узаралі з чвэртку ўсяго палетка. Межаў не было. Прапала і вузкая сцежыстая дарожка, адно лагчаінка скрозь па полі асталася на яе месцы. Яна скрозь, як след які, ішла гэтая лагчаінка па полі, аж да самага лесу. Там яна яшчэ не была заворана. Першая вясна — трава пачынала зелянець на ёй там, леташняе дробнае лісце прэла на яе каляінах. Крыху ў бок ад яе, на мяжы, разгацілася адвечная, старая дзічка. Там ужо блізка быў густы лес, вялікасная сцяна выносістых хвояў.

Неба сінела, свісталі птушкі навокал; параконныя плугі да самага вечара бралі ўсё зямлю.

— Ну, што ўжо вам бог дасць,— сказаў увечары Пніцкі, злавіўшы Зэнка на вуліцы.— Гляджу я адно.

— Даўно пара табе, дзядзька, быць з намі,— не сцярпеў Зэня.

— Не ведаю і сам. Няпэўна ўсё на свеце, а я чалавек цёмны, я бядняк. Што я ведаю! Як людзі, гэтак і я ўжо за людзьмі. Праўда ці не?.. Хто яго ведае...

І пайшоў у сваю хату. Там ён доўга шнырыў нечага па кутках, чагосьці тупаў па хаце, як бы нехта не даваў яму спакою. Гэтакі заклапочаны ён лёг спаць і доўга не мог заснуць. Думкі лезлі яму ў галаву і не давалі задрамаць. На другі дзень пачалі гаварыць, што захварэла адна з калгасных кароў, дык ён пайшоў пытацца да Якуба, ці праўда. І як дазнаўся, што праўда, ішоў шпарка, подбегам дадому і, сам не свой, як бы што рушылася ў яго ў хаце, ні то радаваўся, ні то бедаваў:

— Гэтакая ж была карова. Ніколі не хварэла, а гэта — на табе! Што ж, не гаспадарскі догляд. Добра, што пакуль што я яшчэ сам сабе гаспадар. Трэба прыглядацца. Праўда ці не? (як бы хто яго слухаў). Праўда ці не?

І расчараванне, і разам з тым радасць, і горнасць, і тужлівасць — усё было ў яго.

Ён у тыя дні хадзіў некалькі разоў у сельсавет, хадзіў і ў калгасную кантору — гаварыў, слухаў, прыглядаўся. Не мог уседзець спакойна на адным месцы. Нават спрабаваў падаваць парады Апанасу Сегеню:

— Ты пабольш наглядай за гэтаю ўсёю работаю, каб усё было добра, а то, сам жа ведаеш, які ў нас народ — як што дзе якое нядобра, дык гатоў ён адцурацца табе ўсяго і тады яшчэ іншым напсуе.

Сегень усміхаўся.

— Ты от смяешся, а я табе, дальбог жа, праўду кажу.

І з гаспадарскай кемлівасцю ўгадваў:

— Вам цяпер што трэба? Вам цяпер трэба, каб поле было як мае быць у пору ўроблена, каб пасеяна і каб расло нават лепш, як у іншых усіх. Заводзьце добрую жывёлу, набывайце коней, а ўвосень, як пусціце малатарню ды як намалоціце, дык эх... Праўда ці не?

— Ну, ты цяпер ужо неўзабаве ў калгас падасіся,— смяяўся Апанас.

— Гэта як сказаць,— тут ужо стараўся не траціць свайго гонару Пніцкі.

«Як блізнюкі з Зыдорам»,— думаў Апанас, як Пніцкі выходзіў.

I раз, пасля гэтакай гаворкі, сказаў яму:

— Ну, годзе табе, ідзі да нас. Забірай свайго канька — і сюды. Ты ж сам пра гэта думаеш.

— Пабачым,— панура сказаў Пніцкі і пайшоў шпарка дахаты.

Апанас чакаў яго ў гэтыя дні. Была самая гарачая пара. Сама што разгарэлася работа на полі. Пачыналася сяўба. Як скончылі былі араць сваё, пайшлі на паўдня памагаць гуртам бяднейшым пнівадзічанам. Апанас вёў надлік і размеркаванне работы і прывучаў да гэтага Зэню.

## X

У залеснай вёсцы збіралася моладзь. Сышліся ўсе адразу, калі было згаворана. Зося і Зэня прыйшлі разам. Тады ўжо дзень хіліўся да захаду. Былі ўсе ў хаце самага маладзейшага з іх — Сегенецкага — дагэтуль пастушок ці парабчук. Яму было яшчэ крыху няспрытна, што ў яго хаце збіраюцца ўсе. Крыху рабаценьлівы твар яго пачырванеў, і ён усё паглядаў на Зэню, як той увайшоў з Зосяю. Нікога з старых у хаце не было.

Зэня сеў за стол.

— Ціха,— сказаў ён.— Пачынаем. Няхай нам Паўлік сам усё як было раскажа; першае пытанне — яго справа.

— I чаму ён дагэтуль маўчаў пра гэта,— яшчэ сказаў хтосьці...— Можа, гэта нават і не зусім яго справа, яго аднаго...

— Ціха. Паўлючок, ну?

Хлапчук, гаспадар у хаце, пакашляў, падышоў да стала, густа пачырванеў. Гаварыў ён злёгку заікаючыся.

«...Ён жа не маўчаў дагэтуль, як на яго цяпер гавораць. Ён нават пеша ў горад хадзіў, два дні ішоў і ледзьве дайшоў, аж хварэў пасля гэтакай нялюдскай дарогі. А калі ён сам тады намыляўся, калі рабіў брыдкую справу, дык ён малы яшчэ быў і нічога гэтага не ведаў, яму ж і цяпер няма яшчэ пятнаццаці год. Гэта адно. А другое,— ён папаўся ў лапы агіднага чалавека. Ён жа яшчэ дзіця тады быў, гэта трэба цяпер разумець. У лапах у гэтакага чалавека! Гэта не жарты. Хто калі што пра Нахлябіча добрае сказаў ці скажа! А трэба яшчэ і тое ўзяць на ўвагу, што ён з вялікага гора выйшаў, што не з дабра гэта ўсё рабілася. З бруду і з голаду чалавек скрывіўся. Дзі-

ця разумела, як галоднаму і халоднаму бацьку смачна рабіць. І да самых жа апошніх дзён сваіх ён то пастушок, то парабчук...»

— Я цяпер ведаю, што страх за што гэта быў узяўся, паслухаў гада, шкодніка...

— А да каго ты тады з'явіўся быў у горадзе, як пайшоў?

— Да гэтае самае, Зосінае сваячкі.

Паглядзеў на Зосю:

— Да Галены Сегень.

— А больш ты з кім там гаварыў?

— Ну, там, дзе яна вучылася, мяне пыталі там пра ўсё, пыталі пра Сегенецкага, пра Зосінага бацьку...

— А чым скончылася тады?

— Тады я ўсё як трэба расказаў, прызнаўся гэтак, як цяпер тут, і мне сказалі ісці дадому.

— А як ты пасля пайшоў служыць за пастуха да Сегенецкага?

— Ну як жа пайшоў. Вядома, як. Дзе ж мне было дзецца? Што-небудзь рабіць і есці трэба было. Ён прыйшоў да бацькі, угадзіліся, а я і пайшоў. Пасвіў цэлае лета. А зімою, як парабчук душыўся — аглядаў... ды і ўсё праз мае рукі праходзіла...

— А як гэта ўсё было пачалося?

— Як пачалося? Памятаю, было надвечар. Нікога не было дома. Убачыў мяне на двары Нахлябіч і падышоў...

— Каторы Нахлябіч?

— Малады... Ну, падышоў ён, паглядзеў навокал ды і кажа: гумно, кажа, ваша ледзьве ліпіць, ды і ўсе будынкі папарахнелі, зараз параскідаюцца. Гаруе твой бацька, кажа. Я маўчу. Я, кажа ён, мог бы пастарацца твайму бацьку дрэва на гумно і на ўсе будынкі. Я, кажа, як пастараюся, дык адразу будзе дрэва. У мяне, куды ні глянь, дык усё начальства знаёмае. Яшчэ памаўчаў ды і кажа: ты, кажа, напішы адну карэспандэнцыю ў газету. Чаму табе не стаць за селькора? Ты ведаеш, якая гэта патрэбная савецкай уладзе работа. Пачні пісаць у газету, я табе нават скажу, што напісаць на першы раз, а пасля сам, як злаўчышся, дык будзеш знаходзіць, пра што пісаць. І пачаў мне тлумачыць пра ўсю гэтую справу. Убіў мне ў галаву, дык я і напісаў. А пасля ён прачытаў, нават паказаў мне, дзе што паправіць трэба. Я, паправіўшы, аддаў яму, а ён паслаў. І ён сказаў мне: нікому ж ты, кажа, не гавары пра ўсё гэта. Нават бацьку не кажы.

Бо пяможна, каб ведалі, хто селькор, хто піша. Калі ўведаюць, дык заб'юць адразу. Я і маўчаў. Як і надрукавалі былі ў газеце і як усе пачалі гаварыць, дык я, праўду сказаць, праўда што баяўся спачатку. Але і рад быў: супроць багатыроў выступіў, з кулакамі змагаюся. Бо бацька мой да самых апошніх дзён не мог ніяк з даўгоў выбрацца — Сегенецкаму вінаваты быў гэтулькі, што маці кожны год па паўлета дарэмна яму жала. А тым часам прыйдзе зіма, дык даўгі яшчэ большыя робяцца. От я і быў рад, што ўзяўся за гэтых людзей. Толькі пасля, як прызнаўся бацьку, дык той на мяне нарабіў крыку, і я ўпотай ад яго пайшоў у горад.

— Ты, Зося, не ведала пра гэта, што маўчала?

— Не ведала.

— А калі даведалася?

— Нядаўна. Ад самое Галены. Галена і цяпер толькі здагадваецца, што гэта Нахлябіч.

— Дык ты, Паўлючок, не сказаў быў ёй, што гэта Нахлябіч?

— Я гаварыў там у іхняй канцылярыі.

— Ну, а дрэва на гумно бацьку даў табе Нахлябіч,— абазваўся хлапечы голас з кутка.

Паўлючок азірнуўся, пасля глянуў на стол, дзе ляжалі Зэневы рукі, і раптам заплакаў. Валасы яго былі мокрыя ад поту. Пастаяў, пастаяў і сеў плачучы. А як паспакайнеў, яшчэ глянуў на таго, што падаў голас пра Нахлябічава дрэва на гумно і, заікаючыся, чырванеючы, выгаварыў:

— Вы можаце што хочаце рабіць мне, але...

— Але не трэба здзекавацца. Нашто крыўдзіць яго,— гукнула Зося.— Хіба мы не ведаем і не бачым усяго гэтага? Ясна ж усё нам...

І змоўкла.

— Больш нічога яшчэ не маеш сказаць, Зося?

— Яшчэ што сказаць? Скажу яшчэ, што... ну, няхай будзе з намі... што трэба прыняць да нас. Няхай піша заяву ў камсамол.

Яшчэ пасля гаварылі пра нардом, пра камсамольскі клуб, пра заканчэнне сяўбы, пра калгаснае лета...

Зося ішла дадому адна. Зэня астаўся ў вёсцы. Паўлік хацеў перш правесці яе крыху, пасля, як выйшаў з ёю за браму, збянтэжыўся, што на яго і на Зосю хтосьці паглядзеў. Узяў ды і вярнуўся. А яна адна выйшла за агароды. Хлопцы і дзяўчаты разышліся. У яе бок нікога не было.

Пачало змяркацца. Нават добра асядаў ужо вечар на зямлю, як выйшла яна ў поле. Сцежка ішла цераз паплавы да лесу і там паўз яго на палявую дарогу. Трава на дарозе ўбіралася ў сілу, жыта зеляніласяна паўзлесных галах.

Лес цямнеў. Толькі хвойныя вяршаліны яшчэ былі пад бяляваю дзённаю павалокаю.

Ёй трэба было прайсці гэтакаю знаёмаю сцежкаю паўз лес да пнівадзіцкай дарогі. Знаёмыя і пакутныя мясціны — Сегенецкага хутар, каржакаватая дзічка — асталіся ў баку за ўзгоркам і хмызняком.

Яна пра ўсё гэта не думала. Вясна і праца выгналі з думак рэшткі хваравітай чуласці да ўспамінаў пра ўсё гэта. Яна ішла ціхаю хадою, зрываючы махам рукі сухое высокае бадыллё на каляінах. І раптам — ці здалося ёй, ці сапраўды гэта — хтосьці як бы перайшоў цераз дарогу перад ёю наперадзе ля лесу. Паўзлесныя хмызнякі там гусціліся вельмі. «Нехта, мусіць, з нашых хлопцаў». Яна ішла далей, як ішла дагэтуль. Як падышла да лесу і завярнулася паўз яго на вялікую прагаліну, адкуль поле ўжо і пнівадзіцкія хаты, глянула — і аж здрыганулася ўся. Балеслаў стаяў у самым лесе, на мяжы з полем. У першую хвіліну ён як бы падаўся да яе, але астаўся стаяць на сваім месцы. Ён быў у чорным, у высокіх ботах. Яна пабегла. Лес мінаўся неўзабаве. На полі было ясней. Ціха было навокал. Вячорны змрок астаўся пад хвоямі.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### I

Добра занялося на дзень, як Зыдор Пніцкі пачаў варушыцца ў хаце. Звыклым парадкам ён уцягваў на сябе свае латы — закарэлыя ў зямлі нагавіцы, вечны свой кароценькі кажушок без воўны; укорзваўся ў лапці... Усё гэта рабілася некалькі хвілін; ён і не спяшаў лішне, а так усё ў яго адбывалася шпарка. З гэтай трапятлівасці ён анучы як мае быць у аборы не ўвабраў, і яна зараз жа павісла над ёю, як свіное вуха. Ён прысеў да нізенькага стала, пасёрбаў з гаршка ўчарашняга квасу з грыбамі; чорныя казлякі аж скрыпелі ў зубах яго, як ён іх дробненька жаваў. На хадзе закруціў ён на шыю вераўчаны нейкі шалік, закурыў ля чорнага прыпеку прысадзістай

печы і рушыў да дзвярэй. З печы спаўзла жонка яго, вышэйшая ад яго ростам жанчына; закручваючы злямцаваныя за ноч валасы на галаве, яна гаварыла:

— Калі будзеш браць з сабою хлеб, Зыдорка, дык той пад настольнікам, чарсцвейшы.

— Не буду браць,— адказаў ён і ляпнуў дзвярыма.

Гэтакая гаворка адбывалася кожную раніцу: ніколі ён, выбіраючыся на работу, не браў з сабою хлеба на полудзень, а клапатлівая жанчына кожны раз успамінала чарсцвейшы кавалак хлеба.

Уночы быў дождж, на няроўным Пніцкага двары стаяла вада; птушкі крычалі на стрэхах усялякіх яго дробных, спарахнелых гаспадарчых прыбудовак; заўсёды пустая падпаветка на дровы, заўсёды з адчыненымі дзвярыма свінушок... Сані, тыя самыя разваліны, што доўгія гады пад'язджаў ён на іх усё пад станцыю, каб «абарваць з пасажыра паўрубля якога», стаялі прыпёртыя да суседняй сцяны. Панарад — адно кола без шыны — стаяў пасярод двара, насупроць ганка. Зыдор мінуў усё гэта шпарка, як бы ніякага інтарэсу яму да ўсяго гэтак не было. Ён выйшаў на вуліцу, пускаючы дым угару. Хмурнае неба вісела нізка; вуліца была пустая; за агародамі па нізкай паплавіне звінела дажджавая ручаіна. Зыдор мінаў пустыя хаты старога мястэчка, ішоў няроўнаю сваёю хадою. Прыпыніўся ён толькі на момант ужо ў полі, насупроць вузенькай палоскі — на ёй весела рунеў малады засеў ярыны.

Палоска была ўшыркі крокаў чатыры, з гарбом на сярэдзіне, а ля самых меж не сышла яшчэ пасля ночы дажджавая вада.

— Ах, якая няўдалая штука,— сказаў сам сабе паціху Зыдор,— ля меж за вясну вымакне, а на гарбе за лета высахне.

І пайшоў далей, паглядаючы перад сабой у дарогу. Дарога загарбацілася раптам і гэтак жа адразу ўпала ўніз, і там хмызнячок курыўся ўжо ледзь прыкметным засцілам туману. Ядловец быў мокры, крушыннік купчасціўся над ім і саступаў пакрысе дарогу росламу алешніку. А там ужо Пнівадка дала ў нос неабдымным вадырам паводкай вады. Тут сцяна хвояў высока над ёю, іх прарэзала новая дарога, а з другога боку — балотная разлегласць. Там, у адным месцы, курэў сіненькі дымок. Раптам вырваўся за плячыма ў Пніцкага гудок. Ён азірнуўся на момант, звыкла, гэтак як і кожную раніцу,

можна сказаць, усё на гэтай самай мяжы поля і хмызняку. Адно фабрычны комін чарнеў за ўзгоркам; чорны струменьчык дыму ўзнімаўся з коміна і раставаў у хмарным небе. Гудок крычаў доўга, і цяпер Пніцкі зусім выкінуў з памяці, з думак горб на сваёй палосцы і ваду ля меж... З гэтай вясны гэта быў ужо бабскі клопат. Яна — хударлявая, без меры клапатлівая жанчына, усю вясну пятрэла адна на палосцы гэтай з плугам і драўлянаю бараною, агрубелым на ветры голасам падахвочваючы да работы лянога ад старасці і голага балотнага сена каня. Зыдор агледзеў толькі панарад, з лёгкім одумам дастаў з гары кола без шыны і, без вялікай заклапочанасці, уздзеў яго на вось. «Бабе забаўка»,— як бы хацеў сказаць у гэтую хвіліну яго спакойны позірк. Толькі раз у яго была з'явілася думка: а што калі, пакінуўшы гаспадарку, прападу на свеце? Гэта калі жонка сказала раз:

— Гэтая ж работа на балоце не вечная. Скончыцца, а тады што?

Але іначай нельга было: корпацца дзень у дзень на гаспадарцы і хадзіць дзень у дзень на работу ніхто не мог бы патрапіць. Дык ён і махнуў рукою. І выйшла так, што нават як бы лепш усё зрабілася. Пачалі заводзіцца ў хаце грошы, дык пачала пакрысе выводзіцца і нішчымніца. Чорствы кавалак хлеба не пагоршаў, нават палепшаў, а жонка, што менш глядзела хаты, а ўсё поля, гэтаксама, як раней, была заклапочаная. Хата ад гэтага не зліняла, смецця ў хаце больш не стала, анучы з палатак не прапалі. Наадварот, неўзабаве Зыдор купіў жонцы ў кааператыве добрую ватовую вопратку на свята. Сам жа пра сябе ён не прывык лішне дбаць. Гэтак і праходзіла вясна. Ён і сам не заўважыў, як вельмі шпарка адвыкаць пачаў ад сваёй ранейшай местачковай клапатлівасці, ад важдання з канём, ад немачы гэтага небаракі каня. Таксама не думаў ён, ці моцна жыла ў сэрцы яго гэтая канеечная адвечнасць.

Цяпер, як ішоў ён, ніякія дробныя непазбыўныя клопаты не мучылі яго. Гудок на фабрыцы прымусіў яго паддаць ходу. Ён неўзабаве мінуў масток над рэчкаю і пайшоў хвойным берагам. Чуваць было яму тут, як непадалёку чмыхае ў лесе пільня, а праз хвілін дзве выйшаў на прагаліну. Некалькі знаёмых хат туліліся да зямлі; з камінаў ішоў дым. Ля варот людзям ён даваў дзяньдобры. За хатамі стаяў новы барак. Там варушыліся людзі. Людзей было шмат. Усе, можна сказаць, былі яму

тут знаёмыя ўжо, твары гэтыя ён бачыў тут кожны дзень, але, разам з тым, нікога вельмі ён тут і не ведаў. Гаворка тут была ўсялякая, людзей прысылалі некалькі разоў з розных месц. Чуліся тут апроч тутэйшых, сваіх людзей, украінцы, рускія, нават заўважыў раз Пніцкі двух цыган. Палуднуючы, ён падышоў бліжэй да іх і чуў, як яны нешта гаварылі паміж сабою. Ён усміхнуўся немаведама чаго і падышоў яшчэ бліжэй.

— Здароў, бацю! — сказаў ён да аднаго.

Цыган цмокнуў языком і падміргнуў яму.

順чыся паміж новых людзей, Пніцкі нават і сам пачаў часамі трапляць у тахту іхняй гаворкі. Ён пакрысе пазнаваў, што некаторыя тут таксама, як і ён, нядаўна яшчэ нічога не ведалі, апроч гнілой саламянай страхі ды трох якіх вазоў гною на поле з-пад аднаго худога каняняці. А былі і гэтакія, што прайшлі за жыццё сваё свет. Гэтыя былі байчэйшыя, гаварылі моваю нейкаю нязвыклаю Зыдораваму вуху. З гэтымі ён не адважваўся пачынаць яшчэ блізкае сяброўства. Былі ж і блізкія Зыдоравы суседзі: з блізкіх вёсак, нават з самай Чарніцы. Гэтыя — некаторыя, робячы тут, страшэнна дбалі пра дамоўку, кожную капейку, як мурашкі ў свой мурашнік, цяглі дадому і ашчаджалі яе. Толькі і гаворкі ў іх было што пра гэтыя хатнія справы. Некаторыя ж гэтак, як і сам Зыдор, з лёгкаю душою адыходзілі кожную раніцу ад сваёй непазбыўнай дагэтуль хатняй спарахнеласці.

Барак быў доўгі і нізкі. Плакаты і абвесткі віселі на яго новых жоўтых сценах, ля нізенькага ганка ціснуліся людзі. Зыдор падаўся туды.

— Здароў,— гукнуў ён знаёмаму цыгану.

Той рухава сунуў яму сваю руку.

Заглядаючы ўсім у вочы, Пніцкі пачаў прыслухоўвацца да гаворкі. Ён пачуў голас:

— Гэта пасля можна будзе. Знайшлі час! Таварышы, цяпер пара разыходзіцца на работу. Зараз на фабрыцы другі гудок будзе.

Пніцкі згадзіўся з гэтым: калі што важнае, дык не пара гаварыць цяпер, не ўспеюць. Гудок, праўда, мог быць кожную хвіліну: тут фабрычны гудок з Чарніцы быў дармовы сігналізатар.

Тым часам ён пачаў прыслухоўвацца да гаворак.

«Трэба ўзмацніць тэмп падрыхтоўчых работ, каб першага мая льга было зрабіць закладку галоўнага будынка электрастанцыі».

«І так тэмпы шалёпыя, як тут яшчэ больш?»

«А табе каб абы варушыцца!»

«Што мы? Мы тут нічога. Самае важнае, каб цагельня справілася, каб быў заўсёды запас цэглы...»

Пніцкі адчуваў: найбольш налягаюць на цагельню. Што тут чаму гэта ўсё, ён яшчэ не разумеў. Але ўжо стараўся як мага больш пачуць усяго: ён працаваў у цагельні. Абазваўся з фабрыкі гудок, і людзі заспяшаліся; натоўп заварушыўся. Зыдор папоўз следам за ўсімі. Пакрысе пачалі расплывацца людзі, кожны ў свой бок. Цесляры выбягалі з баракаў, размахваючы на хадзе казённымі сякерамі; пратаптаная і выцерабленая ў гушчыні лесу сцежка шпарка ўбірала іх у сябе. Струмень грабароў паплыў у тумановую разлегласць з рыдлёўкамі. Цагельшчыкі, завязваючы тут жа бразантовыя фартухі, пайшлі на палявы лог, дзе гарбаценькія хаткі задымілі ўжо кожнадзённым ранішнім дымам. Каміны ледзь выглядалі з віхрастай саломы на стрэхах, і дым з іх ападаў адразу на растрыбушаныя платы навокал. У тумане ўзыходзіла сонца. Яснасць кралася павалі, туман заружавеў, ласкавая ўсмешка паплыла навокал. Туман ападаў, на полі было зусім чыста. Цагельшчыкі збіраліся паволына, а там ужо раннія пачалі работу. Пніцкі папляваў на рукі і палез з рыдлёўкаю ў раскапанае глінішча.

«Як той казаў, каб не схлусіць, пачнём паволі».

І яшчэ раз папляваў на рукі і ўсадзіў рыдлёўку ў размоклую за ноч гліну. Глінішча было глыбокае, на ўзровень яго галавы, толькі неба, усё больш і больш яснае, было відаць яму з ямы. Навокал хадзіў шум працы: з лесу стукалі сякеры, шоргала моцна ў лесе пільня: тры змены круглыя суткі не давалі ёй заснуць. Недзе тут і над самаю галавою грукалі, стукалі, моцна гаварылі. Укопвалі нейкія слупы, падвозілі цяжкія пакі — ён ведаў: устанаўляць будуць машыну, якая будзе мяць гліну, рабіць цэглу, можа, нават сама і капаць гліну. Што ж гэта за прыстройка гэтакая, ён не ведаў таксама, як не мог выразна разабрацца, што пачало рабіцца на свеце тут. Цэлымі сотнямі з'яўляліся новыя людзі, змяняцца пачала нават мясцовасць: балота разбівалі на роўныя дзялянкі; незадоўга яно будзе сухое, у гэта ён верыў, бо слухаў уважна чарнявага маладога чалавека, прыяцеля новай чарніцкай дакторкі Галены. На станцыі торф будзе пераганяцца на электрычную энергію, іншыя кавалкі балота пойдуць пад засевы; раптам нечакана вырастаць пачалі драўляныя будынкі, па-

куль часовыя баракі; самы лепшы барак будаваўся мулярам. Яны павінны будуць сабрацца неўзабаве, перад закладкаю галоўнага будынка. Ён сам цэлую ўжо вясну не браўся за пугу, каб паганяць свайго з'езджанага каня, цэлымі днямі ён не быў дома, прыходзіў толькі начаваць, і шмат гэтакіх, як ён, суседзяў яго таксама, як і ён, уцягваліся ў новы парадак жыцця, адрываючыся ад старога. На мяжы хмызнякоў і поля вырастаў з дошак і бярвення пасёлак, дзе людзі не асталёўваліся як мае быць, а жылі толькі сённяшнім днём, часта мяняючыся, прыходзячы сюды часамі нават як бы з-за свету. Вочы яго толькі бачылі ўвесь гэты нечуваны працэс, думкі ж толькі патроху даходзілі да таго, каб разабрацца ў парадку яго. Усё адно, як жоўтае лісце з крушынніку і алешніку ўвосень цягне Пнівадка па вадзе сваёй у новую разлегласць, гэтак новая плынь уцягвала яго. Ён адчуваў, што гэта не на жарты, што гэта зусім і назаўсёды, і чамусьці яму было лёгка. Гэтакае можа быць адчуванне ў чалавека, які, нічога не трацячы, цвёрда спадзяецца неўзабаве знайсці штосьці добрае на сваёй дарозе.

Пніцкі кідаў гліну разам з усімі, часта паплёўваў на свае рукі, паглядаў навокал сябе. Крокаў за пяць ад яго, цераз двух суседзяў, кідаў гліну белазубы цыган. Той, відаць, яшчэ ўсё прывыкаў да новай работы, хутчэй ад усіх таміўся, часта выяўляў жаданне закурыць. Пніцкі міргнуў яму, і той бліснуў зубамі, смеючыся. Навокал было толькі шорганне рыдлёвак і часамі ціхія галасы людзей. Гэтак ішло да полудня, пакуль зноў не абазваўся гудок на фабрыцы ў Чарніцы. Абмываючы тут жа ў дажджавой вадзе рукі, людзі таўкліся на адным месцы: некаторыя садзіліся тут жа і пачыналі жаваць свой хатні полудзень; гэта былі людзі тутэйшыя; яны яшчэ не прывыклі траціць кожны дзень дробныя грошы на гарачы абед у страўні. Гарачаю стравою яны здавольвалі сябе ўвечары дома. Але найбольш людзей бегла ў страўню. Там, патоўкшыся колькі хвілін у чарзе, яны неслі на сталы аберуч міскі з стравою. Сярод гэтых быў і Пніцкі.

У вялікай нізкай страўні абед падыходзіў да канца. Ужо некаторыя нават круцілі махорку ў газетную паперу. Некалькі чалавек увайшло і спынілася ля дзвярэй. Пніцкі пазнаў перш за ўсё Бародзіча, пасля ўбачыў у натоўпе Мікалая Нахлябіча. «Нешта будзе»,— падумаў Пніцкі весела, усыпаў у паперу махоркі, пачаў круціць і апаражніў месца за сталом. Ён падаўся туды да дзвя-

рэй. Тут жа ў дзверы пачалі збірацца знадворку яшчэ рабочыя, зрабілася цесна. Малады мясцкомавец (Пніцкі ўсіх і ўсялякіх кіраўнікоў уведаў нейк з першых дзён як мае быць) падняў руку ўгару:

— Таварышы, пачынаем мітынг. Слова мае таварыш Бародзіч!

Адам Бародзіч стаў на заслон.

— ...Да Першага мая тэрмін не вялікі. Дык мы павінны пастарацца, каб праз нас не адцягнулася закладка галоўнага будынка. Уся краіна чакае нашай работы і спадзяецца на нас. Мы не проста чужыя, нанятыя работнікі, мы робім не на нейкага, а самі на сябе. І робячы вялікую гэтую работу, мы самі перарабляем сябе ў лепшы бок, усё сваё жыццё з'іначваем. Кожны з нас як ёсць павінен быць звязаны з гэтаю работаю...

— Яно правільна,— падаў голас Пніцкі, пралазячы бліжэй да Бародзіча.

— Правільна ці не правільна,— пачуў ён тут жа ля сябе голас,— а калі гэтак, дык павінны набавіць плату.

— А што ты думаеш,— згадзіўся Пніцкі,— можа, такі і набавяць. Паслухаем, што ён больш скажа.

— ...Самае важнае — гэта цагельшчыкі. Гэтымі днямі будзе пастаўлена машына, але і да яе трэба, каб не стаяла і абы-як не варушылася работа. Бо калі закладка адбудзецца, а пасля сцен рабіць не будзе з чаго, дык лепш і не пачынаць. Мы самі ўсё гэта ведаем.

— Так што цяпер на нас націснуць,— ціха сказаў Зыдор.

— Патрабаваць трэба падвышэння,— абазваўся той, ранейшы.

— Праўду кажаш,— згадзіўся Пніцкі, гатовы на ўсё, куды яго павядуць.

Тут ён убачыў на Бародзічавым месцы Нахлябіча і поплеч з ім мясцкомаўца. Пніцкі чуў, як чыталі прапанаванне рэзалюцыі.

«...Выкарыстаць усе сілы, каб да тэрміну скончыць падрыхтоўчыя работы...»

Як на галасаванні рэзалюцыю ўхвалілі, заяву зрабіў Нахлябіч:

— ...Адчыненне рабочага клуба будзе дапасована да дня закладкі станцыі, але гатовая палова клуба пачынае працаваць з сённяшняга дня.

Сказаўшы, ён адразу спусціўся на падлогу. Пніцкі стаяў ужо на самым выхадзе, у дзвярах, і Нахлябіч спат-

каўся з ім. Ён сунуў Пніцкаму руку і хацеў ужо ісці далей, але Пніцкі перапыніў яго:

— Ну, як вам паводзіцца?

— Мяне перакідаюць на работу сюды, у рабочы клуб,— паспеў адно сказаць Нахлябіч і раптам змоўк, падтуліў плечы, сумеўся і зрабіў ад Пніцкага крок убок. Пніцкі кінуў зірк туды ж і ўбачыў старога Нахлябіча. Той сына не бачыў яшчэ і ўсё стрыг вачыма натоўп: то ў адзін гурт кідаў вокам, то ў другі. Пакуль малады Нахлябіч стаяў, апусціўшы рукі, Пніцкі кінуўся да Аляксандра Нахлябіча і пацягнуў яго за руку:

— Чаго ты тут? Што ты тут робіш?.. Ага, ведаю. Сюды, сюды...

Ён прыцягнуў яго да сына, а сын маўчаў.

— Ледзьве я цябе знайшоў,— сказаў бацька.

— Чаго ты прыехаў? — адказаў сын.

— Як гэта чаго?

Пніцкі бачыў, як моцна здзівіўся стары Нахлябіч. Аж выпрастаўся разам на нагах і стаў яшчэ вышэйшы. Пніцкі глядзеў, і яшчэ некалькі чалавек падышло. Малады Нахлябіч бачыў, што некаторыя пільна ўглядаюцца ў іх абодвух, у яго і ў бацьку, і адразу скеміў усё. Ён ціха, але гэтак, каб усе чулі, сказаў да бацькі:

— Я цяпер нічога з табою агульнага, бацька, не маю. Нашы дарогі разышліся. Едзь сабе дадому. Я дзіўлюся, чаго ты прыехаў сюды.

«Значыцца, не на жарты ён яго выракся».

І думка гэтая прымусіла Пніцкага ўпіцца позіркам у старога Нахлябіча, як бы ён яго першы раз бачыць. Але тут малады Нахлябіч пацягнуў яго за рукаў:

— Хадзем, Пніцкі.

Зыдор паслухмяна рушыў за ім.

— Зойдзем да мяне на адзін момант, яшчэ да работы паспеем.

Ён увёў яго ў маленькі пакойчык у клубным будынку. Пніцкі ўбачыў новыя з пахучага бярвення сцены, столік з паперамі, жалезны ложак.

— Пасядзі,— сказаў Нахлябіч.

А сам сеў і пачаў штосьці пісаць. Пасля як мае быць заклеіў лісток у канверт і даў Пніцкаму:

— На, Зыдор, знайдзі бацьку і дай яму. Тут я яму як мае быць растлумачваю, што яго выракся. Я яго перасцерагаў пра гаспадарку, а ён зусім іншых поглядаў трымаецца, дык нам не па дарозе. Калі ён закаранелы, дык

я іншы. Так яму і скажы. Парай яму, сёння ж няхай едзе дадому. Тады мы будзем зноў сваімі, калі ён перачысціцца і перамелецца.

Пніцкі хапіў у яго з рук канверт і рушыў бегчы, бо ўжо гучаў сігнал станавіцца на работу. Ён на двары акідаў бокам усё і старога Нахлябіча нідзе не бачыў. Ён гэтак патросся, як перапалоханы які, на адным месцы і кінуўся бегчы да сваіх глінішчаў: ён заўважыў, што стаіць адзін перад баракамі. Канверт ён сунуў сабе ў кішэню. Усё гэта яму зарупела страшна. І самае важнае, што непакоіла яго, дык гэта тое, што расло адчуванне, нібы тут штосьці нядобрае адбылося і ён у гэтым больш за ўсіх вінаваты. Гэтак ён з нецярплівасцю прычакаў канца работы і, вылезшы з ямы, паволі пацягнуўся да ўзлеску, дзе шмат было панакідана свежага бярвення і адкуль разыходзіліся дарогі на ўсе канцы работ і ў Чарніцу. «Дзе дзець мне гэты канверт»,— думаў ён. Але там яму пашанцавала: ён убачыў старога Нахлябіча пад ельнікам. Той сядзеў і паглядаў то ў дарогу, то ў зямлю.

— От табе,— сказаў Пніцкі, падбягаючы да Нахлябіча.

— Што гэта?

— Сын табе напісаў.

— Ага.

Пніцкі бачыў: Нахлябіч павесялеў адразу, як бы прачытаў ужо добрую навіну і як бы ўжо нават гаварыў да Пніцкага: «Я ж гэтак і думаў, свайго Мікалая я добра ведаю».

— Такія справы,— не ведаючы, што казаць, абазваўся Пніцкі.

— Садзіся, Зыдор,— адказаў Нахлябіч, не спяшаючы чытаць сынаў ліст.

Пніцкі пачаў закурваць і прысеў. Толькі цяпер ён пачаў заўважаць, што ўтома гняце яго. Ён зашпіліў каўнер у рубашцы і паволі чыркануў запалкаю.

— Як жывеш, Зыдор?

— Жыву. На работу хаджу.

І тут успомніў Зыдор:

— Ну, як жа там мой брацішак маецца, Андрэй, як ён хаця там жыве? Ой, даўно я ад яго нічога не чуў. Каб не схлусіць, дык я не лішне далёка, а жывецца гэтак, што няма калі выбрацца...

— Жыве. Яго ў калгас цяпер гоняць.

— А ён?

— А ён мае розум, але нічога не парадзіць. Мусіць, трэба будзе і яму пайсці. А можа, гэта раскідаецца яшчэ...

І чым гаварыў больш Нахлябіч, тым больш упэўненасці было ў яго голасе: ён паглядаў на сінаў ліст, і гэта адганяла ад яго ранейшую збянтэжанасць.

— Гаруе, небарак, Андрэй наш,— перабіў яго Пніцкі.

— Гаруе. А што ж, каб не гараваць?..

Штосьці кальнула раптам у душу Няхлябічу. Трывогі апошніх часоў пачалі выліваца на Пніцкага галаву:

— ...А ты сам як жывеш, не гаруеш? Усе мы гаруем і робім, як умеем і як нам даводзіцца...

Дык Пніцкі пачаў раптам апраўдвацца: ён і сам не ведаў, адкуль у яго ўзялося гэтакае слова. Ён толькі адчуваў, што нешта нядобрае з «імі» робіцца, калі сын выракся бацькі, калі бацька прыязджае немаведама чаго сюды да сына, а сын з ім гаварыць не хоча...

— Ты мяне ўпікаеш за нешта,— сыпаў Пніцкі.— Ці ты гэта брата, Андрэя нашага, не любіш...

Адразу прачнулася ў ім крыўда на нейкага і за сябе, і за брата, і за ўсё жыццё сваё.

— Ты на мяне як бы накідаешся за нешта, а я табе калі што думаў зрабіць нядобрае?..

— Чаго ты, чаго ты!..

Нахлябічу аж нядобра стала, што ён гэтак з самага пачатку загаварыў навучальным тонам з Пніцкім. І тут ён даў маху: ён падумаў цяпер, што, раз сын цераз Пніцкага перадае яму ліст і раз Пніцкі стараецца ўзвесці яго на думку, што ніколі пра яго ён, Пніцкі, дрэнна не думаў, значыцца, перад Пніцкім сын яго не тоіцца. І ён змоўк і разарваў смела пры Пніцкім канверт. Чытаў ён слаба і разбіраў гэтакім шэптам, што Пніцкі ўсё чуў.

«...Ці ты, бацька, не ведаеш, які час цяпер? Я цябе выракся. Сам ведай, што час гэтакі. Пакуль што не рыпайся, сам аддавай усю маёмасць. А там будзе відаць, што на свеце будзе. У гэты бок усё пайшло, дык ты нічога адзін не зробіш. Маўчы і не вытыкайся. Памятай, што час гэтакі. Гэта самае важнае, што ты павінен памятаць. А тады будзе відаць, што як і куды пойдзе на свеце. Сітуацыя гэтакая. Перачакай, а там усё перамелецца...»

От што пачуў Пніцкі. Ён быў сам не свой. Ён чуў, што тут ён нешта павінен сказаць ці нешта зрабіць, але выразна што, яму не ясна было. Ён адно дробна адхаркаўся і моцна плюнуў сабе пад ногі. Устаў і пайшоў.

— Куды ж ты, Зыдор? — з падазронасцю глянуў на яго Нахлябіч.

— Куды я? Ці ты ж не бачыш, што я з работы нядаўна і мне трэба дадому, пад'есці, адпачываць... За дзень жа наробішся гэтак. Ого!..

І, падумаўшы, усё ж развітаўся з Нахлябічам.

— Ну, бывай, Аляксандар.

Той чамусьці вельмі ветліва, як умеў, скланіўся яму, не ўстаючы з свайго бервяна:

— Бывай, Зыдорка.

Аж голас яго (заўважыў гэта Пніцкі і здзівіўся) патанчэў і паласкавеў.

Пніцкі пайшоў у свой бок. Нахлябіч астаўся сядзець на бервяне. Пніцкім апаноўваў звычайны яго лёгкі настрой. Ён некалькі разоў азіраўся ідучы.

— Сядзіць,— гаварыў ён усё кожны раз.

Перад ім тулілася да зямлі Чарніца. Новы рабочы пасёлак жаўцеў крыху наводшыбе, а старое мястэчка было бліжэй. Гучэла фабрыка, зіхацела веснавое неба, за плячыма яго, далёка ўжо, у лесе, пільня губіла свой несціханы кашаль.

## II

Як пагалоска пра незвычайную навіну, даходзіў да ўсялякай шчыліны Пнівадскага раёна новы вецер. Як шпарка, у некалькі гадзін, сохла зямля ў веснавы дзень пасля дажджу, гэтак шпарка і неўзаметку ўядаліся ў жыццё сляды гэтага новага ветру. Самая дзіўная навіна ператваралася тут жа ў абвыкласць, жыццё перамолвалася, як зерне пад каменем, і самі людзі, пускаючы бесперапынку ў ход гэты камень, маholіся пад ім. Ішла шпаркая змена твару зямлі.

З Пнівадзіч ішлі да Зыдора Пніцкага весткі пра брата: ён яшчэ нікуды не прыстаў, але сам чуў, што як бы ў новую старану неўзабаве падасца. Нахлябіч як расказаў быў тады Зыдору пра яго: «а ён мае розум, але нічога не парадзіць...», дык у Зыдора ўсе наступныя дні варушылася думка: «Чаму гэта, колькі я раней ведаю, Нахлябіч ніколі не гаварыў, што брат або я маем розум?» Думка спела ў Зыдора ўпарта, яна была новая тым, што была дзейная. І праз дзён тры ён пайшоў да Галены:

— Каб не схлусіць, дык з братам я даўно ўжо не бачыўся. Трэба хоць напісаць яму. Як той казаў, я вас

папрашу, напішыце, бо ў мяне няскладна выйдзе. Пішыце, я жыў, здароў, на работу хаджу, а гаспадарку сваю кінуў. Гэтак прыйшлося, бо, значыцца, большы мне цяпер выйгрыш. Жонка, як можа, кешкаецца на гаспадарцы. Быў тут Нахлябіч стары, дык ён — ох, што за чалавек! Я такі і раней казаў, што ён гэтакі. Усё нешта думае, а ў вочы наўрад ці гаворыць. Андрэйка, калі што якое, дык цурайся яго...

Ён гэтак захапіўся гаворкаю, што прагаварыў доўга, сам адчуваючы асалоду сваёй гаворкі.

Магутная паводка работы на балоце ўцягвала яго ўсё больш. Ён перш за ўсё пачаў таўчыся на рабочых сходах і нарадах, а пасля пачаў прывыкаць да новай справы, гэтак, як раней да кожнадзённага пад'езду пад вакзал. І от пакрысе ён пачаў нават падаваць свае заўвагі, і часта здаралася, што трапляў якраз на патрэбнае слова.

Работа ішла на трох галоўных дзялянках. Самая важная цяпер работа была на цагельні. Далей ішла работа далёка адсюль, на другой мяжы балота, адтуль яно вымяралася і разбівалася на кавалкі. І яшчэ работа ішла ў лесе: будавалася часовая, патрэбная на рабоце, электрастанцыя.

Апошні момант, што як мае быць уцягнуў Пніцкага ў клопат, гэта быў сход ля глінішчаў перад пачаткам работы, у ясную раніцу. Яшчэ перад гэтым Пніцкі чуў быў адну гаворку: было пасля работы, на тых самых бярвеннях, дзе некалькі дзён да гэтага сядзеў ён з старым Нахлябічам. Пніцкі, памыўшыся ў стаячай балотнай вадзе, крочыў дадому. На бярвеннях сядзеў Адам Бародзіч, Курц, некалькі дзесятнікаў. Пніцкі, і яшчэ больш з ім, спыніліся паслухаць гаворку. Ён чуў, як Бародзіч, з нейкім як бы пакрыўджаным выглядам, тлумачыў:

— У нас нават прымаўка пайшла ў народзе: шавец заўсёды без ботаў. Гэта пра нашага тутэйшага шаўца. Можа, дзе шаўцы іншыя. А наш гэтакі.

— Тэхніка ідзе ад вышэйшай культуры,— перабіваў яго Курц.— Яна ўбірае ў сябе людзей як патрэбную ёй сілу, як пару, як электрычную энергію. І такім парадкам творыць патрэбныя гэтым жа самым людзям матэрыяльныя рэчы культуры.

— А людзі гэтыя самыя?

— А яны ж заўсёды шаўцы, якія без ботаў.

— Значыцца, ад іх саміх нічога не можа быць?

— Прынамсі, ад гэтай масы, якая яшчэ не мае культуры. Тэхніка ідзе ад адзінак. Гэтая і ўся культура.

— Значыцца, творцы культуры і спажыўцы яе?

— Гэтак.

— Ну, не. Перш за ўсё мы павінны выжыць грунт з-пад прымаўкі, што шавец заўсёды без ботаў. А гэта, мне здаецца, будзе тады, калі сам шавец стане гэтакі, без ботаў быць яму — значыцца не жыць на свеце. Тады ён сам стане тварыць тое, што вы аддаеце толькі вашым адзінкам. І гэта робіцца.

— Дзе ж яно робіцца, калі от цэглы ўсё адно не будзе. А куток гэты ўвесь з самай найлепшай гліны. Вашы думкі пра ўдарніцтва, гэта — мы свае людзі тут і сказаць думку можам,— нічога не дасць.

— Дык што трэба?

— Выпісаць машыны і паставіць кваліфікаваных людзей. Пакуль гэта ўсё будзе, справа, вядома, зацягнецца, але затое гэта будзе верна і цвёрда.

— А ў нас жа жывой рабочай сілы хапае. Пакуль мы будзем мецъ машыны, выкарыстаем гэтую жывую сілу. Яна ўсё адно так сабе прападаць будзе, гібець гэтак, як і дагэтуль. Я ж сам гавару, што пад нагамі ў нас сырэц, а тавару няма. Машыны мы выпішам, а пакуль, да пачатку работы, паспрабуем так, як і цяпер пачалі.

— Рабіце, як хочаце. Мне здаецца, што ўсё адно не паспеем да Першага мая.

І назаўтра Бародзіч быў з самага ранку на глінішчах. Утварылася шэсць брыгад. Брыгадзіры, пачынаючы працу, заявілі то там, то сям таварышам:

— Цяпер за намі, не аставацца.

— Як яшчэ сам будзеш цягнуць,— гукалі навокал.

Пніцкаму сперш было цікава, што з гэтага будзе. Пасля ён, прыглядаючыся, сам пачаў старацца. А адзін раз, выходзячы з страўні, спаткаў Бародзіча. Той пажартаваў:

— А вы, таварыш Пніцкі, брыгадзір?

— Не,— адказаў весела Зыдор.

— Чаму? — напусціў на сябе хмурнай сталасці Бародзіч.— Трэба ўсім.

Дык Пніцкі назаўтра і ўпісаўся. І пакрысе пачаў адчуваць сябе як бы не так, як трэба, каб было тут. Гэтак пачаў ён уцягвацца ў новы парадак работы. Ранейшая рухавасць яго пачала саступаць месца сталай клапатлівасці.

Даўно ўжо як паслаў ён той ліст да брата Андрэя.

Пра Нахлябіча старога больш ён не ўспамінаў, нават калі спатыкаў Нахлябіча маладога. З кожным днём усё больш і больш Пніцкі рабіўся на будоўлі за свайго чалавека. Атрымаў ён новую спецвопратку. І гэта яшчэ больш укараніла яго тут. У выходныя дні апратаць ён пачаў чыстую картовую жакетку. Пад канец красавіка прыехаў першы гурт муляраў. Чакалі другога. З тым жа цягнікам прывезлі першую торфакапальную машыну. Яна была патрэбна часовай электрастанцыі.

Дыміліся сушыльныя печы. А няпаленую цэглу абвяваў вецер пад нізкімі паветкамі; сонца грэла яе там, дзе яна ляжала проста на зямлі. Яе пачалі ўжо звозіць на месца закладкі будынка. Старэйшыя ж майстры баяліся ўсё, што яе мала будзе.

Раніцамі людзі пачыналі тут арудаваць: прафесіяналы — цягавіта і роўна, з навакольных вёсак і вёсачак — нейк неспакойна, яны найбольш думалі пра дзённы свой заработак, а там хай сабе тут хоць спыняць зусім гэтую работу, калі трэба будзе падзарабіць дзе, дык месца павінна знайсціся. На полі расло, усё адно неўзабаве прыйдзецца варочацца дадому. З іх найменш было гэтакіх, як Пніцкі. Ён пачаў гаварыць:

— Мы не прывыклі да акуратнасці. Мы яе, сказаць, ніколі і не мелі.

— Якой гэта ты акуратнасці хочаш? — пасмейваліся з яго знаёмыя і суседзі на рабоце, чарнічане і тутэйшыя вяскоўцы.

— У нас часта пад нагамі прападае, а мы не бачым гэтага.

Людзям было крыўдна слухаць:

— Хто ж гэтак ашчаджае кожную сяніну, як не наш брат! Усялякі каменьчык з поля добры гаспадар цягне дадому, каб даць яму лад. А ты тут гаворыш! Можа, ты адзін гэтакі гаспадар, дык хто ж табе тут вінен.

— Не, я праўду кажу.

Ён прыжмурваў вочы і доўга думаў, успамінаючы, што на гэта гаварыў Бародзіч. І, нарэшце, гаварыў:

— Перш за ўсё, чаму мы гібелі заўсёды?

— Не было на чым разгарнуцца.

Пніцкі зноў думаў:

— Стоячы з рыдлёўкаю, мы наўмысна, бывае, раскідаем хвіліны, а з іх складаецца ва ўсіх нас ого колькі...

Так ён вучыўся дысцыплінаванасці.

Прыходзячы ўвечары дадому, ён садзіўся сёрбаць з

хлебам поліўку, паволі курыў. Жонка расказвала яму пра сваю работу, і ён адчуваць стаў, што пачало з'яўляцца ў яго замілаванне да гэтай спрацаванай жанчыны, чаго ўжо доўгія гады не было. Жылі яны ўжо, як чужыя. Хата і непазбыўная работа толькі трымала іх разам. І часта ўсё гэта мела характар, як валу ярмо.

Часта цяпер яны, адчуваючы асалоду перадвячорнага адпачынку пасля дзённай работы, сядзелі разам у хаце ля акна і гэтак спатыкалі яснае вясновае змярканне.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### I

У ранні вечар на ціхай вуліцы невысокі ростам хлопец, у добрым фрэнчы, галіфэ і элеганцкіх калісьці ботах, падышоў да драўлянага зграбнага дамка і доўга прыглядаўся на нумар яго. Нумарны ліхтарык яшчэ не гарэў, але нумар быў зусім чытэльны. Непадалёку тут званіў недзе трамвай, недзе грала вайсковая музыка, не густа праходзілі людзі. Хлопец пазваніў, яму адчыніла немаладая жанчына.

— Тут жыве Гарус? — запытаўся ў яе госць.

— Тут. От сюды.

Малады чалавек увайшоў праз чысты карыдор у досыць прасторны пакой і даў «добры вечар». Ён убачыў знаёмы твар, малады, белы, пад гладка зачэсанымі густымі валасамі.

— Не магу адразу пазнаць,— сказаў гаспадар,— недзе я вас бачыў.

— Я Балеслаў Сегенецкі.

Госць заўважыў, як гаспадар правёў шпарка рукою па твары і адразу прыўзняўся на сваім месцы. Але сядзець астаўся.

— Выбачайце, што я вас турбую.

— Нічога.

— Тады, як быў я ў вас, дык я заўважыў ваш адрас. І цяпер доўга не шукаў.

— Вы гэта пра брата хочаце?

— Пра яго. Але выбачайце, я з вамі заўсёды быў шчыры, бо і вы да мяне гэтакі былі.

Гаворачы гэтак, госць пільна паглядаў на гаспадароў твар, але не заўважыў яшчэ нічога нядобрага.

— Неўзабаве будзе суд. Справа ўжо зусім ясная. Вы ж і тады маглі ўжо ведаць усё: яму нельга не прызнавацца, калі жывая сведка ёсць. Як было, ён сам усё расказаў.

Твар у гасця раптам перасмыкнуўся грымасаю, але адразу ж стаў спакойным. Чалавек, відаць, валодаў сабою добра.

— На колькі яго могуць засудзіць?

— Абсалютна нічога не ведаю,— хітрыў крыху гаспадар,— я, вы ж ведаеце, практыкант толькі пры гэтай справе.

— Выбачайце, я думаў... Вы тады гэтак са мною пагаварылі...

— Дык вы мне і ліст пасля гэтага прыслалі,— як бы папікнуў гаспадар.

— Я тады пісаў глупства, і без вашага хадайнічання я мог бы пабачыцца з братам. Але пісаў на гарачую руку.

— Чаму?

— У тыя дні нас раскулачылі.

— Я ж ужо тады гаварыў вам, як гаварыў, што ведаю пра вас з ліста вашай стрыечнай сястры Галены Сегень.

Госць змоўчаў. Гаспадар заўважыў, што ён пачаў непакоіцца з той хвіліны, як сказаў ён, што брат яго ўсё сам расказаў.

— Дык вы з братам бачыліся пасля таго?

— Не... Бачыўся...

— Вы і самі не ведаеце, ці бачыліся вы з братам?

І гаспадар неспакойна падняўся з свайго месца. Госць падаўся да дзвярэй, але зноў авалодаў сабою і спакойна сеў.

— Выбачайце, я ўзнерваваны.

— Дык вы скажыце выразна, з-за якой справы зайшлі сюды?

— Я думаў запытаць у вас, ці не можна хадаінічаць, каб брата пасля суду пакінулі на работах тут дзе, у гэтай старане, поблізу. Я гэтага і зайшоў.

— Яшчэ невядома, што яму будзе.

З усмешкай госць заўважыў:

— Можна ведаць, што будзе.

Усмешка гэтая пакрыўдзіла гаспадара:

— Дык я вам сказаў, што я тут толькі практыкант і памагаў следства весці. І ўсё. Цяпер мая справа сконча-

па. А цяпер от, у гэтую хвіліну, я збіраюся ісці з дому зусім. Выбачайце.

Госць убачыў ход справы. Ён устаў, памяўся крыху на нагах.

— Але ці могуць не высылаць, а пакінуць тут, калі хадайнічаць? Вы бліжэй да справы, вы лепш ведаеце.

— Я думаю, што наўрад ці паможа што.

— Ён жа сам прызнаўся!

— Ён мог бы сабе і не прызнавацца! Жывая сведка, Зося Сегень! Як ён мог не прызнацца?!

— Выбачайце.

— А што вы самі цяпер робіце? — ужо з адзнакамі простай цікавасці запытаў гаспадар.

— Я? Нічога.

І госць зноў павесялеў.

— Бацька мой памёр у самы гэты рэзрух. Не вытрымаў... Сэрца не стрымала.

— У вас парабкі былі заўсёды? — чамусьці запытаў гаспадар.

— Былі.

— І да апошняга часу?

— Як да апошняга?

— Ну, да... Праўда ж, у вас была Зося Сегень яшчэ нядаўна за парабчанку... Так. Так. У мяне з думак выйшла... Ну, буду збірацца ісці...

Госць павольна варушыўся ля дзвярэй.

— Бывайце... Больш я, мусіць, тут не буду... Я вам напісаў быў усё, я тае гаворкі ніколі з вамі не забуду... Бывайце і выбачайце, што патурбаваў вас дарэмна.

Маўклівы цяпер Гарус сунуў яму руку і правёў цераз карыдор да выхада на вуліцу. Там госць яшчэ раз працягнуў яму руку:

— Дык брат пра ўсё як мае быць прызнаўся?

— Я ж вам гаварыў!

— Я, мусіць, далёка адсюль паеду. Бывайце.

Гарус зачыніў за ім дзверы і вярнуўся назад. Няпэўную думку сваю ён выказаў сам сабе ціхімі словамі:

«Як наглядаць за мною прыходзіў! Чаго гэта ён! І куды гэта ён збіраецца ехаць!»

Сеўшы за стол на ранейшае месца, ён падпёр рукамі лоб і яшчэ ўслых думаў:

«Чаму яго не выслалі?»

І раптам адвёў рукі ад твару:

«А можа, ён туляецца?»

І яшчэ:

«Чаго ён дапытваў гэтак колькі раз, ці пра ўсё прызнаўся брат яго?»

І пайшлі моцныя здогадкі і трывожныя думкі:

«...Чаму ж ён блытаўся, калі адказваў, ці бачыў пасля таго, як яго выпусцілі, брата... Значыцца, ці не ходзіць гэта ён украдкі, не могучы з'явіцца на спатканне з братам?.. Ці цяпер што ў яго, ці можа?.. Ці можа?.. Тое самае, на што падазронасць падала з самага пачатку?! Чаго ж гэта ён дапытваўся гэтак, ці пра ўсё брат прызнаўся! І падаўся гэтак збянтэжана да дзвярэй, як першы раз пачуў пра прызнанне брата!..»

Ён усхапіўся, прамаршыраваў колькі разоў па пакоі і зноў сеў:

— Ат, ліха яго бяры.

Але тут зноў захваляваўся:

— Пабратаўся, як да прыяцеля прыйшоў!

Злосць і раздражненасць перасмыкнула яго твар. Ён шпарка захадзіў па пакоі. Хадзіў доўга і, нарэшце, дастаў з стала некалькі змятых лістоў. Паклаў іх на стол перад сабою, падпёрся локцямі і гэтак астаўся сядзець над імі.

## II

Гадзіннік на вежы вызваньваў час. Балеслаў Сегенецкі спазніўся палічыць, колькі. Ён ішоў змрочнаю вуліцаю і неўзабаве выйшаў на пляц. Вечар асталяваўся як мае быць. Пачынаў ісці цёплы дождж, на скверыку было цёмна, толькі як праходзіў паўз яго трамвай, рухавае святло бегла па мокрых дрэвах і траве. Трамвайныя вагоны праходзілі часта. Было змрочна. Толькі па рагах вуліц гарэла па адной лямпе: у той дзень штосьці сапсавалася на электрычнай станцыі. Была добра асветлена толькі адна старана пляца. Там трэцяя змена дахоўшчыкаў накрывала пядаўна надбудаваны на адзін паверх дом. Ацынкованая бляха пад электрычным святлом блішчэла, як чыстая вада пад месяцам. Праехала некалькі лёгкіх аўто, праехалі сялянскія фурманкі. Людзі з іх ціха паглядалі на замакрэлы брук і на раскоўзаную салому пад сабою. Прайшла калона вучняў-дэманстрантаў, і яшчэ пасля гранула музыка, і яшчэ некалькі калон людзей.

Ішлі ва ўсе бакі людзі. Натоўпы збіраліся на рагах гусцей. Раптам палілося святло з усіх вулічных лямп —

электрастанцыя дала ток. Больш яшчэ ажыло ўсё. Загуло некалькі сірэн на заводах; дахоўшчыкі ўсё бразгалі над чацвёртым паверхам ацынкаванаю бляхаю; трамвайнае святло не гэтак пярэсціла ўжо мокры сквер.

Нечакана зазванілі ў дробныя званы ў праваслаўнай кафедры. Дзвін-цілін, дзвін-цілін... Званілі доўга, хвілін больш за пяць. Насупроць кафедральных дзвярэй разышліся два трамвайныя вагоны, месца на хвіліну апусцела, і чорная постаць выйшла з прычыненай форткі. Прытрымліваючы крыссе тонкай сваёй доўгай адзежы, постаць пайшла паволі і роўна. На чорным фоне адзежы белая рука з адтапыраным пальцам была вельмі выразна белая, як мармуровая, як каменная; халодны быў колер. Другая рука трымала посах і ў тахту сваёй хады пастуквала ім аб мокры брук. Скрозь гул, скрозь трамвайны грукат Балеслаў Сегенецкі чуў гэты выразны — сухі, кароткі, не досыць часты гук.

За цёмнай постаццю епіскапа выйшла з царквы некалькі чалавек.

Пяць-шэсць постацей разышліся ва ўсе бакі, постацей жа тры прайшло крыху за епіскапам. Пара людзей — мужчына і жанчына — неўзабаве адсталі і павярнулі назад. Яны былі старыя, мужчына трымаў жанчыну пад руку. Адзеты яны былі ва ўсё чорнае, мужчына быў у пляскатай летняй шапцы з шырокім круглым верхам, жанчына ў старасвецкай дамскай шапачцы, з вялікаю шпількаю ўпоперак цераз яе. Гэтая пара ішла паволі, жанчына неўзабаве распусціла парасонік. Яны як праходзілі ў бакавую вуліцу, пад электрычнаю лямпаю, Балеслаў Сегенецкі ўбачыў, што ў мужчыны сівая, каротка астрыжаная барада, падстрыжаныя вусы, шырокі ўнізе твар, на вачах акуляры. І раптам заварушыўся ўвесь Балеслаў Сегенецкі. Ён, як стаяў на рагу скверу, так рушыў за старою параю. Ён зайшоў ёй наперад і колькі разоў, на хадзе, азіраўся на старога чалавека. Так ён ішоў праз усю вуліцу, дзе ўжо цямней стала, дзе пайшлі платы, драўляныя тратуары, раўчукі вады ля іх. І чым больш ён ішоў, тым больш не мог так адразу вярнуцца назад ад гэтай старой пары. Ён ужо ішоў блізка, следам за імі, адкідаючы ад сябе апошнюю няўпэўненасць. Ён прыглядаўся да паходкі старога чалавека і пазнаваў гэтае прысяданне за кожным крокам. Ён яшчэ не адважыўся зараз жа загаварыць, але ўжо ведаў, што гэта трэба зрабіць. На драўляным мосце старая пара сцішыла хаду. Над мостам гарэлі дзве лям-

пы. Моцнае святло падала на ваду, глыбока пад мостам. Вада ішла ціхутка, і ў ёй пагойдвалася, бясконца бруілася ці багавінне, ці вадзяное доўгае зелле.

Побач з мостам стукаў параю завод, а зелле сабе плыло ціхутка. Старая пара зусім спынілася на канцы моста. Абое абаперліся на парэнчы і гэтак пастаялі з паўхвіліны. Яны глядзелі на ваду, як бруіцца на ёй багавінне. Жанчына старым, няроўным голасам зашушукала:

— Калі на душы спакойна, вечна можна глядзець на гэтае багавінне.

Мужчына змоўчаў.

— На гэтую вечнасць... Вечнасць плыве.

— Так,— адказаў ёй яе спадарожнік.

І тут Балеслаў Сегенецкі ад гэтага голасу падаўся наперад. Ён ведаў, што гэты чалавек жыве недзе тут, у гэтым горадзе. І хоць раней і думкі не было ніколі шукаць яго, дык цяпер выпадак паспрыяў гэтаму спатканню. «Якая тут можа быць няпэўнасць, голас гэтакі падобны, як бы нябожчык бацька з труны падняўся і падаў гэты голас». Балеслаў Сегенецкі прайшоў наперад, вярнуўся і пайшоў старой пары насустрэчу. Тыя ішлі паціху. Чамусьці ён не адважваўся загаварыць адразу, а прайшоў крокаў колькі поплеч, аж стары падазрона паглядзеў на яго. Тады ён нясмела і далікатна загаварыў. На першыя пытанні стары не адказаў зусім, а ўсё з недавер'ем глядзеў на неспадзяванага маладога чалавека, а пасля цвёрда махнуў наўкруга рукою, запрашаючы гэтым жэстам падымацца на ганак. Тут жа, непадалёку ад моста, яны ўсе ўзышлі на высокі ганак, жанчына дастала аднекуль з сваёй адзежы ключ і адамкнула дзверы. У газавай лямпе выкруцілі агонь, і Балеслаў Сегенецкі ўбачыў густа састаўленую даўнейшую мэблю, паабіваную чырвоным плюшам. Густа стаялі паўз сцены столікі, шафачкі, на іх лямпы, збаночкі з сухім зеллем, прыгожыя скрыначкі на пярсцёнкі, голкі, зашпількі, брошкі... На покуці вялікая ікона нейкага святога, за сталом на канапе зложаны адзін на адзін старыя альбомы... Усю гэтую безліч дробных рэчаў разгледзеў Балеслаў, пакуль старыя распраталіся.

«...Вы, значыцца, брата майго сын?.. Я з айцом вашым даўно не бачыўся. Мы з ім толькі перапісваліся. А як жа, мы перапісваліся! Як вы мяне знайшлі? Адрас з лістоў ведалі? Дык я ж нядаўна перабраўся на новую гэтую самую кватэру... Выпадак. Ах, які ж выпадак! Гара з гарою не сходзіцца, а чалавек з чалавекам, калі суджана...»

Як гаварыў, дык праз зубы ішоў у яго шыпучы свіст.

«...Дык вечны пакой брату майму... А вы, а вы, малады чалавек?.. Мы з бацькам вашым жылі душа ў душу. Мы не сварыліся ніколі... Ніколі... Не... Не... Ён хоць быў з фантазіяй вялікай, але... Ён найбольш любіў паноў усадзебных, а на гарадскіх была ў яго муха ў носе... А я іншых поглядаў... Але ўсё ж мы з ім каб не ладзіць, не, не...»

Балеслаў чуў сябе тут, як на выспе сярод бурнага мора. Ён праседзеў да поўначы, дзівячыся сам сабе, як не думаючы пра ўсё, хадзіў надвечар па горадзе. «А чаго Гарус, гэты практыкант судовы, не быў спакойны, калі гаварыў са мною? Няўжо Толяк пра ўсё прызнаўся? Дык чаму ж Гарус не затрымаў мяне адразу...»

Пілі гарбату.

«...Бярог, бярог мэблю, а цяпер прадаю, спродваю, нічога інача́й не...

А Сегень Якуб!.. У таго фантазія хамская! Ну, бедны, ну, мужыком астаўся, але чаго ж нянавісць гэтакая!.. Не, не, у мяне з ім не было сардэчнасці...»

Больш ён не ўспамінаў пра гэта. Балеслаў сам не рад быў, што патрывожыў гэтым успамінаннем старога дзядзьку.

«...Свет гіне. Няма інаверцаў, палякаў, галаў, іназычных... Усе другі за вялікую Расію адзіную... Яны прыйдуць і выратуюць...»

Ён пасля ўскінуў на плечы чорны шынель, з выцертымі рубцамі, з гузікамі, абшытымі чорнай тканінай... І гэтак правёў апоўначы Балеслава на ганак. Балеслаў нават і не здзівіўся, што ён мала распытваў пра яго: што ён тут робіць? як усё ў іх робіцца? Але ён панёс адгэтуль адчуванне, што папаў да свайго блізкага. Ён прайшоў увесь горад і пайшоў далей. Самага важнага баючыся цяпер, што Гарус толькі выпадкова не затрымаў яго, ён стараўся як мага хутчэй пакінуць за сабою найбольш разлегласці.

Ішоў ён больш як суткі, а назаўтра надвечар Пнівадзічы спаткалі яго чужым яму клопатам. Ён з лесу бачыў сярод разбаранаванага добра засеву ярыны тую самую дзічку, а зусім на змярканні паўз яго прайшла тады Зося. Як постаць яе схавалася ў паплавах на сцежцы ў Пнівадзічы, ён неўзабаве і сам рушыў у той бок, але іншаю дарогаю.

## III

Старога Нахлябіча ён застаў дома, на двары. Той важдаўся ля свіронка, перасыпаючы з меха ў кадушку муку. Той здзівіўся, убачыўшы Балеслава.

— Ты тут? А я думаў, што цябе даўно тут няма.

— А дзе, вы думалі, я?

— Дзе думаў?..

Ён сам не ведаў, што казаць і нават як гаварыць з Балеславам. Пасля спаткання з сынам усялякія думкі лезлі яму ў галаву; і самая ўпартая думка, што яго мучыла, дык гэта тая, што трэба будзе невядома колькі часу быць ні за госця, ні за гаспадара. Гаспадарка яго цяпер стала маленькая, плугамі, баронамі, коньмі арудавалі чужыя людзі. Нянавісць і непераможная варожасць узмацняла гэтую думку страшэнна. Калі будзе тая змена, дык колькі год будуць гэтакія парадкі? А што, калі будзе гэтакі закон, што зойдзе даўнасць і не верне ён нічога, што цяпер у яго забралі. І як трымацца цяпер, як гаварыць з сваяком Балеславам Сегенецкім? На вуліцы ён ужо сцішэў, вельмі ж пасля спаткання з сынам. «Час гэтакі, час гэтакі!» Гэтак Мікалай сказаў, гэтак ён парадзіў. Адно толькі бяда, што людзі павінны ведаць, што сын яго выракся. Ну, што за ўцеха з таго, што пасля таго, як Пніцкі Зыдор пакінуў яго на бярвеннях, ён дачакаўся змроку і знайшоў-такі сына нішкам ад людзей у той каморцы ля рабочага клуба? І што там яны пагаварылі, як і раней! І што сын яго казаў: «Час гэтакі, час гэтакі, і трэба абрасці карою гэтага часу, а пад карою туліць у сабе свой ранейшы агонь». Простымі словамі сын гэтага не гаварыў, але без слоў бацька бачыў свайго Мікалая навылёт. Можа, нават і сам Мікалай не ўсвядомліваў гэтага выразна і нават колькі-небудзь, але бацькава нутро шмат што можа адчуць у сыне сваім. Сын быў упэўнены, што ёсць адна рэвалюцыйная праўда, акафіст рэвалюцыі; той быў упэўнены, што гэта вялікая рэвалюцыйная ідэя, а бацька гэты самы акафіст вызнаваў за самы цвёрды манеўр. І ўжо цяпер нават ён сам збіраўся парадзіць Андрэю Пніцкаму: «А што, можа, і лепш гэтыя калгасы. Валі, калі прымаюць і маеш ахвоту». Дык цяпер ён не лішне па-прыяцельску зірнуў на Балеслава:

— Дык дзе ж ты цяпер?

— А чаму вы думалі, што я дзе далёка? Дзе ж я магу быць?



Кузьма Чорны, скульптар А. Бразер,
Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў у час адпачынку. 30-я гады.



Кузьма Чорны *(першы рад, трэці справа)*
з групай беларускіх пісьменнікаў сярод байцоў
і камандзіраў Чырвонай Арміі. 1925 г.

— Я падыходзіў пад вас разы са два, дык там пуста. Дык я пачаў думаць...

Тут ён памаўчаў.

— А от што, цябе, напэўна, выслаць павінны.

Балеслаў усё яшчэ разбіраў, якім тонам гаворыць з ім Нахлябіч. Дык і маўчаў і ўсё стараўся, каб той гаварыў. А той узяўся зноў за сваю работу, і Балеслаў скеміў, што гэта жаданне, каб хутчэй пазбавіцца ад яго. Але ён стаяў, дык Нахлябіч яшчэ нехаця падаў слова:

— А мо дзесяцін пару далі табе і ты дзе асеў ужо гаспадарыць і мне не кажаш?

— Не хачу я гэтак! — з нечаканаю і сабе і Нахлябічу ўпартасцю сказаў Балеслаў.

— А як жа?

— От, выдумаю што-небудзь.

Так і лезла ў яго з языка сказаць: «Я ўжо выдумаў».

Гэтак ён і пакінуў Нахлябічаў двор. Вуліца была цёмная, за агародамі яшчэ цямней было. Нахлябіч бачыў, як Балеслаў падаўся цераз агароды, і дагнаў яго:

— Чаму ж ты не ідзеш вуліцаю?

— Чаму вы пытаеце?

Здогадка апанавала Нахлябічам адразу:

— Ты што задумаў?

— Дзядзька...

— Чаго, сынок?

Нахлябіч спрытна схаваў штучнасць сваёй ласкавасці.

— Я... нічога не задумаў.

— Хлусіш! Ты мяне згубіць хочаш! А што, калі людзі бачылі, што ты ў мяне цяпер. А тут пойдзеш і наробіш ліха ведае чаго. Ты малады, ты куды хочаш махнуць можаш, а я што! Тады кожны скажа, што я памагаў табе або падвучваў цябе...

— Не, не...

— Што — не, не!

Нахлябіч спрытна схаваў штучнасць сваёй ласкавасці. ад яго, усё адно як бы гнаў гэта ён перад сабою Балеслава. Гэтак яны моўчкі падышлі да лесу. Балеслаў пайшоў шырокаю дарогаю, а Нахлябіч астаўся сядзець пад дрэвам. Ён думаў: «Калі вернецца, каб што рабіць, дык не пушчу, а туды няхай ідзе, далей адгэтуль; няхай сабе там хоць чырвонага пеўня пускае, куды хоча».

Ён сядзеў доўга. Нікога не чуваць было, як ён пайшоў назад.

З горнаю злосцю Балеслаў думаў: «Сам ты, мусіць,

нешта думаеш тут зрабіць, калі пра мяне стараешся здагадацца. Як гэта табе на думку можа ўзбрысці гэтакае...»

Ён ужо быў далёка ад таго месца, дзе пакінуў яго Нахлябіч. На ўзлеску чарнела сяліба. Агонь гарэў за фіранкаю ў акне. Балеслаў пастукаў у акно. Сам гаспадар адчыніў яму, але з-за дзвярэй трывожна запытаў хто. Прозвішча Сегенецкага супакоіла яго. Адзяючы лёгкую хатнюю сутану, ён зацягнуў акно густою фіранкаю, гатовы слухаць.

— Я рушу ў ход,— сказаў Балеслаў.

Ксёндз паклаў яму рукі на галаву і блаславіў яго.

«...Твой айцец перад смерцю на споведзі маўчаў пра свае крыўды. Калі мёртвы маўчыць, дык жывы павінен гаварыць. Калі мёртвы даруе, дык мы на тое жывыя! Я веру ў перамену свету і запанаванне вялікай ідэі з Захаду ад нас...»

Балеслаў пайшоў адсюль ціха. Да раніцы ён мог прайсці не многа. Ён ведаў адно: бацькавы думкі і яго носіць тут у сабе пробашч. Не, ён не можа мірыцца з тым і з тымі, з кім праз увесь век свой не мірыўся бацька! Нават каб і раскулачвання не было!

У наступную ноч ён падышоў ціха да соннага мястэчка. Ён успомніў, што пра гэтае мястэчка ўспамінала калісьці Зося Сегень: «Тут Галена жыла крыху, як прыйшла была адтуль, куды цяпер ён накіроўваецца. Адна дарога вядзе ў розныя бакі!.. Тут жа з Галенаю быў і Гарус». Пры гэтым успамінанні ён уздрыгануўся: мусіць, Толяк такі пра ўсё прызнаўся, і толькі выпадкова Гарус не затрымаў яго. Але тут падскочыла іншая думка: «А можа, не выпадкова, а сумысля». Другая думка пачала браць верх і стварала ўпэўненасць, што Гарус, калі і не аднадумец, дык блізкі да яго чалавек. «А ўрэшце, няхай сабе будзе які хоча. Каб толькі ўдалося».

Яму ўдалося: арка з надпісам «Камунізм змяце ўсе межы» — асталася ў тую ноч у яго за плячыма.

## IV

Зыдораў брат Андрэй Шпіцкі ў ясную раніцу пачаў збірацца на штодзённы свой клопат. Неба на ўсходзе гарэла, ясната ішла ад ружовай разлегласці на ім. Вясёлы дзень рынуўся ў маленькія акенцы Андрэевай хаты адразу. Андрэй, пацягваючыся, лінуў на рукі з медзяпай конаўкі вады, намачыў ёю твар, разы са два пацягнуў па ім

даўно не мытым ручніком і спешна пачаў усцягаць на сябе штосьці пашытае з шарачку. Полы гэтай кароткай лёгкай вопраткі абвісалі ўніз, з-пад іх спрабавала абвісаць падшэўка. Ён падперазаўся паверсе вузенькаю папружкаю, знайшоў у сенцах пугу і тады як мае быць падаўся ў глыбіню двара. Ён гаварыў сам з сабою.

«От пакуль выберашся... От пакуль выберашся, дык і паўдня нахопіцца...»

Выцягаў з-пад падваротні ў хлевушку барак, абкручваў анучамі вузлы на пастронках — каб не муляла каню...

«Пакуль выберашся... Больш тае важданіны, як работы!..»

Глянуў у жолаб, загарнуў там рукою конскія за ноч недаедкі: паклычанае і злямцованае сена было на дне.

— Не ясі... не ясі... Эх ты...

І ўздзяваў на каня вобрадь.

Выехаў ён з двара, як уся вуліца была заліта першым сонцам. У полі калёсы каціліся ціха, дарога не пылела. Драбіны яго то зусім хаваліся паміж двума ўзгорачкамі, то ўзніmаліся наверх і былі зусім навідавоку. Свіная дарожка круцілася паміж няроўных палеткаў. Былое Сегенецкага поле ляжала унь там паўз лес. На мяжы яго і вузкіх палеткаў зазелянілася маладым лісцем каржакаватая дзічка. Пніцкі, як праязджаў тут, углядаўся ў яе. Яна была навокал абворана, і толькі пад самаю ёю ўзвышаўся кавалак узмежка. Вылётнай ранейшай мяжы пад ёю не было.

«Ой тут гэта. Ах! Што ёсць на свеце... От гэтае самае месца! А Якуб Сегень моцны чалавек! Колькі ён на сваіх плячах вынес за свой век. Браты! Усё адно як дарогі раскрыжаваліся! Ідуць і ідуць у розныя бакі...»

Тут ён мінуў першую граду лесу.

«...Бач ты, узаралі сабе, пасеялі і цяпер... Што адно будзе далей! І не пабаяліся — параскулачвалі, паразганялі, робяць сабе... Спрыяюць сабе... А дзе ж цяпер гэты, маладзейшы, Сегенецкага панічок? Той большы, дык, эх! Як жа гэта адважыцца, мой божа, узняць на чалавека руку! Што бывае, што бывае... Дзе ж гэты падзеўся, знік, прапаў, і следу няма! Прапаў, як кажуць, з скураю. Недзе і канцы і сляды замёў. Каб хоць хто ведаў!.. Але з бацькам — як адзін былі!.. Яго-то павінны былі б выслаць, каб не прапаў недзе. Але ж у той самы дзень. Ах, які спрытны... А, чэрці іх бяры!»

Ён нават пачаў сам сабе выказваць словамі свае думкі.

Паганяў каня паволі, штосьці трывожыла яго, штосьці паддавала, разам з тым, нейкай яснасці ў думках і надзеях.

Пацягліся маладыя засевы ярыны, палетак быў чысты і шырокі. Ён доўга прыглядаўся на маладое зяленіва, углядаўся ў шырыню поля, як бы першы раз гэта ён бачыць яго. І чым больш пад'язджаў ён пад свой палетак, тым больш мучыла яго нейкая трывога. Як згубіў ён што і толькі цяпер заўважыў гэта, як прапала ў яго назаўсёды штосьці звыклае, але і прыкрае, і ён сам не ведае — быць вясёлым ці сумным? Неспакой быў у яго: і конь сена не можа добра есці, і вузлаватыя пастронкі рэжуць гэтаму каню бакі, колькі ты іх ні абкручвай анучамі, і... усё, усё...

Забараноўваў ён запознены свой ячмень доўга. Стараўся, каб як мага лепш зрабіць сваю работу. Тут ужо цвёрдая думка сціскала яго галаву: калі ўсё ў мяне будзе добра, дык я магу смялей і зусім цвёрда глядзець «ім» у вочы. І пад канец работы гэта ператварылася ў непераможную ўпэўненасць. Аж твар яго загарэўся слаўнаю чалавечаю яснотаю ва ўсіх рысах сваіх. Ён паволі хадзіў па сваім палетку, падняў некалькі каменняў і вынес іх з-пад бараны на дарогу. А пасля ўжо яму хацелася, каб найхутчэй скончыць гэтую работу. Гэтак змяньваўся ў яго ў гэтую часіну настрой. Нецярплівасць і раптам зноў трывога апаноўвала ім. І нарэшце ён ужо ледзьве прычакаў канца гэтай работы. Ён успамінаў усе гэтыя дні: думка цяперашняя яго наспявала праз увесь час пакрысе, і як мае быць сфармавала яе вестка ад брата з Чарніцы. Ліст той вельмі ўзрадаваў яго.

«Дык Зыдор, значыцца, як мае быць на работу пайшоў. Уцягнуўся ў заработкі...»

Ён адчуваў, што гэтая навіна ў Зыдоравым жыцці ахапляе не на жарты ўсё навокал, і толькі не мог яшчэ апланаваць гэта сваімі думкамі. Ён адчуваў і нават цяпер ужо бачыць пачынаў, што і ён сам пераступіць зараз цераз нейкі парог да чагосьці новага.

Пасля работы ён даў крыху адпачыць каню і як бачыш сабраўся з поля. Ён праехаў дарогу да яе павароткі ў другі канец далёкай яшчэ адгэтуль вуліцы і ўз'ехаў на гэтую паваротку. Ён стараўся чамусьці гнаць каня як найшпарчэй. На загуменні ён выбраў выезд пад новае, былое Нахлябічава, гумно і завярнуў туды каня.

«Так ім і скажу: от конь, які ёсць, от барана, а от і я сам. Каго тут першага я спаткаю?»

Зэнкаў бацька — калгасаўскі конюх — адгрэбаў там граблямі ад дзвярэй салому.

— Здароў! — гукнуў яму Андрэй Пніцкі.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### I

Спатканне адбылося ў горадзе, у цесным нумарным пакойчыку драўлянай жактаўскай гасцініцы, дзе спынілася Галена. Гарус прыйшоў да яе надвечар. Галена бачыла, як ён узрадаваўся ад таго, што ўбачыў яе.

— Ты прыехала на суд? — запытаў ён.

— Не, я прыехала, каб пабачыцца з Зосяю.

— Значыцца, на суд?

— Не,— упарта не згадзілася яна.— Ды я ж і не адна прыехала. Тут Бародзіч і Наталя.

— А яны чаго?

— А яны проста — маюць кожны свае справы.

— Пачакай,— перабіў Гарус,— ты прыехала на суд! Толькі ты не гаворыш цяпер са мною шчыра. Ты проста цікавішся гэтаю справаю, а мне стараешся паказаць, што цябе нічога гэта не чапае. Я, бачыш, гэтымі днямі доўга сядзеў над тваімі лістамі і ўпэўніўся, што ты стараешся гаварыць са мною навучальным тонам. У тых сваіх першых лістах, калі ты раз-поразу гаварыла «чуеш, Гарус?». Як бы без цябе я нічога не магу ні чуць, ні бачыць! Мы былі з табою заўсёды шчырыя, дык я табе і гавару ўсё гэта адразу...

— Што цябе ўкалола і што з табою робіцца?

— ...Я сядзеў над тваімі лістамі доўга і ўсё думаў пра цябе. Праўда, я тады быў узнерваваны прыходам гэтага... Сегенецкага.

— Каго? Якога Сегенецкага? Гавары!

— Маладзейшага, гэтага... Балеслава.

— Калі ён прыходзіў? Чаго? Ён тут?

— А дзе ж яму быць.

— Чаго ты, Гарус, гэтак усміхаешся? Ты не ведаеш, дзе яму трэба быць? Ты сам павінен ведаць, дзе яму месца павінна быць!

— Як, і ты здагадваешся?

— Пра што здагадваюся?

— Не прыкідвайся гэтакаю прасценькаю.

— Пра што ты, Гарус? Ты хворы нейкі, ці што?

— Можа, хто хворы, толькі не я. Я толькі дзіўлюся, адкуль ты гэтую справу ведаеш, што здагадваешся пра тое, што мне цяпер ясна за гэтыя дні стала. Ужо тады, як ён гаварыў са мною, ужо тады я амаль што быў упэўнены, што гэта так ёсць. Хоць і раней ужо часамі ў мяне з'яўляліся гэтакія думкі.

Галена маўчала. Яна нічога не разумела і ведала толькі адно: Гарус усё зараз раскажа, калі не перашкаджаць яму.

— Перш за ўсё, ты павінна ведаць, што я гэтай справы не вёў. Я тут быў толькі практыкант, разглядаў справу, вывучаў, раз пагаварыў з гэтым Балеславам, калі ён быў яшчэ арыштаваны. І ўсё. Я тут зусім пабочная асоба...

— Дык чаго ты перада мною апраўдваешся. Усё адно, як ты тут якое-небудзь злачынства зрабіў.

Гарус тут раптам паглядзеў на яе і пабялеў:

— Я не магу не прызнацца табе.

— Што?

І Галена стала проста перад ім.

— Сядзь, Галенка, і слухай! Ты ведаеш, як усё адбылося. Яна сама, мусіць, расказвала табе. Адным словам, ён рабіў замах на Зосю, гэты старэйшы Сегенецкі, Толяк, бо думаў, што яна перашкодзіць яму ўзяць замуж белую папепачку, нейкую там Анцю Зямковічаву. Пра гэта ён сам прызнаўся. Разумееш? Ну, Зося была яшчэ, можна сказаць, дзіця, а ён на хвіліну прыкінуўся, што сам ненавідзіць усялякае парабкоўства, што думае цурацца бацькі, што ў лётчыкі там, ці куды, думае падавацца. От ён і аблытаў яе, на адзін момант, вядома. Яна яму з-за сваёй зялёнай маладосці паверыла, таксама на адзін момант. Гэты момант, можа, тыдзень ці два цягнуўся. І ўсё. А пасля ён пачаў баяцца яе, што і сапраўды трэба будзе цераз яе адцурацца тае Зямковічаўны. А ён баязлівы, от ён гэта з баязлівасці і зрабіў замах. Страх, як пасля выявілася, быў дарэмны: так сказаць, фізіялагічна, Зося была чыстая. Ён быў у той момант страшна п'яны, пасля памагла яшчэ фантазія, і ён прыходзіў у жах ад уяўленых ім вынікаў тых момантных з Зосяю паводзін сваіх.

— Але быў адзін момант, Зося мне расказвала. Калі яна чытала яму мой ліст, дык яму нянавісці паддало адно слова ў тым лісце. Гэта так, і я і Зося ў гэтым упэўнены...

— Той ліст фігураваў у справе. На гэтае месца націскалі, і ён сам успомніў гэты момант і сам пацвердзіў, што

сапраўды гэта паддало яму рашучасці і адвагі. Ты як-небудзь пра гэта дачулася ці сама здагадалася? Калі сама, дык які ў цябе востры розум!

— Не розум тут, Гарус, а адчуванне. Я чую Сегенецкіх з аднаго выгляду іх.

— Дык ён сам прызнае, што яго рука ўзнялася ў той момант, як яна прачытала яму тваё ненавідныя яму словы: «...ты тут вышэйшую школу канчаеш, а браты твае змагаюцца з тым, да чаго ён імкнецца. З ім, значыцца, змагаюцца! І ты адтуль уцякла, каб тут памагаць гэтаму іхняму змаганню». От што падліло яму нянавісці да Зосі.

— А ты сам верыш у гэты момант у гэтай усёй справе?

— Чаму мне не верыць. Ён і сам прызнаецца.

— Значыцца, тут не толькі простая ўгалоўшчына?

— Не толькі, як відаць.

— «Як відаць»? Гарус!

— Ну, дык от. Ён думаў, што скончыў з ёю і сляды будуць замецены. Але — чаго пстрыкаў ліхтарыкам? Значыцца, не так гэта, бо, па-першае, святло магло ўвагу людскую ў тое месца накіраваць, а па-другое, ён не ўзяў гэтага на ўвагу і ўпарта некалькі разоў як бы падаваў некаму сігнал. І чаму якраз брат яго найшоў на гэта? За гэта следства было спачатку ўхапілася, бо былі людзі, што бачылі гэтае пстрыканне ліхтарыкам. А пасля ўсё мінулася гэта ў следстве. Балеслаў трымаўся гэтак, што падазронасць з яго сплыла. Яго пусцілі. А я цяпер упэўнены, што гэта брат яму падаў сігнал, што ўсё, значыцца, гатова. Можа, нават раней яшчэ падаў сігнал, што ён там, на месцы, і пачынаецца ўсё паводле плана. Хто ведае, можа, сам Балеслаў памагаў яму скласці гэты план. Балеслаў павінен быў якраз найсці на гэтае забойства пасля таго, як яно адбылося. Гэтакім чынам, думалі, відаць, яны, усялякая падазронасць на іх лажыцца не будзе. Балеслаў якраз захапіў яшчэ з сабою з тае вечарынкі, ці вяселля, дзе яны гулялі, яшчэ аднаго хлопца. Той, вядома, нічога не ведаў і не вінен, але Балеславу патрэбен ён быў за сведку. Балеслаў, як заходзіў гэтымі днямі да мяне, дык чаго гэта ён усё пытаўся гэтак трывожна: «Дык брат пра ўсё прызнаўся?» Пра што гэта пра ўсё?

— А чаго ён да цябе заходзіў?

— Наконт брата. Пытаў, ці будзе карысць хадайнічаць, каб брата пакінулі пасля прысуду тут. Мне ясна, тут недалёка мяжа з Польшчай! Разумееш?

— І ён смела да цябе пайшоў? Смела хадзіў па горадзе?

— Ён нейк неўзаметку пастараўся змыцца з маёй кватэры. Ён вельмі шпарка пайшоў ад майго дому, я чуў яго крокі па тратуары.

— А дзе ён цяпер?

— А што я ведаю?!

— Як жа ты не ведаеш, калі ты яго аднадумнік! Я гэта гавару шчыра! Ты да гэтага дайшоў, Гарус. Ты папракаў мяне нядаўна, што я пісала табе: «чуеш, Гарус?» Што, не праўду я табе пісала, каб ты чуў тое, пра што я табе пісала? Ты, відаць, адразу з ім гэтак пагаварыў, што ён да цябе гэтак смела хадзіць пачаў. А з Сегенецкімі хіба гэтак трэба гаварыць? З імі ніяк не трэба гаварыць, з імі толькі рабіць трэба, а не гаварыць. Рабіць гэтак, каб назаўсёды ад іх пазбавіцца, каб згладзіць ад іх зямлю. А ты, а ты што зрабіў дзеля гэтага? Што ты зрабіў дзеля таго, каб памагчы гэтаму ачышчэнню зямлі? Ты сам стараешся запаганіць імі зямлю, бо чаму ж ты не затрымаў Балеслава, калі ўпэўнены, што ён тут умешаны. Чаму ты ўпэўніўся ў гэтым, чаму толькі ты адзін? Цяпер я ведаю: ён з табою і гаварыў не гэтак, як з усімі. Ну, хіба ж ты не аднадумец іхні?

— Я паведаміў у той жа вечар, куды трэба, пра сваю гэтую цвёрдую падазронасць і яго ўжо, напэўна, затрымалі?

— А ў тую хвіліну што ты рабіў? А тады, калі ты і раней яшчэ (сам жа кажаш) думаў пра гэта?

— Я перад табою апраўдвацца не буду, але збаў ты тону крыху.

— А можа, я апошні раз з табою гавару.

— Як гэта?

— Памятаеш нашую гаворку тады ў лесе, па той бок яшчэ? Калі я запытала, хто твае родныя?

— Ну?

— А тое, што тады я першы раз падумала пра цябе гэтак, як цяпер адкрыта думаю. А нашы спрэчкі яшчэ ва універсітэце? Ты стаў проста двурушнік! Ты проста і апошні раз скажы — з кім ты і за каго ты? Калі ты яшчэ ўсё спяваеш старую песню, дык яшчэ раз гавару — апошні раз мы гаворым з табою. Як жа я буду глядзець тады ў вочы Наталі, Бародзічу, Зосі, Зосінаму бацьку? Зосінаму бацьку! Пасля таго як не пакінула быць з табою за нейкага там прыяцеля, пасля гэтага? Ды ўрэшце кожная друж-

ба таксама на чым-небудзь трымаецца. Эфірнай дружбы няма на свеце!

— Ну, ну, цікава, калі ты яшчэ раз скажаш тое самае, што гаварыла мне кожны раз.

— Цікава ці не цікава, а скажу, можа, толькі больш выразна, каб больш не варочацца да гэтага і або папрасіць цябе астацца тут, або папрасіць ісці сабе адгэтуль.

— Ну... Я, ведаеш... Той самы Гарус, у імя таго, што ты Галена, гавару толькі табе гэта.

— Толькі мне? А я не хачу, калі ты той самы, каб толькі мне. Дачыненні да «таго самага» павінны стаць выразныя не толькі ў мяне, а і ва ўсіх ранейшых таварышаў тваіх з універсітэта: і ў Бародзіча, і ва ўсіх; таксама і ў таго, хто не твой таварыш блізкі, нават не ведае цябе.

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Тое, што гавару. Больш нават, як маральна ты спрыяеш таму, што які-небудзь Балеслаў, гэты вораг, ходзіць тут сабе як мае быць і, можа, нават робіць, што сабе захоча. А гэта што? Гэта не ранейшая твая пропаведзь пра адзінства беларускай нацыі, пра тое, што яна павінна быць адна непадзельная, маналітная? Я думала, што ты адыдзеш ад гэтай атруты думак. А ты, відаць, калі што якое, дык і на практыку можаш перайсці.

— На якую практыку?!

— Ты і табе падобныя думаеце хіба пра той «народ», імем якога аперуеце і дзень і ноч? Ды яшчэ не абы-як, а «працоўны народ!». А таму народу, на якога бажыцца прывыклі, яму капаеце! Ты, вядома, малы, але за тваёю спіною нехта большы стаіць. Ну, от, дамагліся вы, скажам, сваіх ідэалаў. Ты сваіх, гандлярскіх, прадажніцкіх...

— Кім я і чым гандляваў?

— Ты не крычы. Не ты гэты гандаль, пра які я гавару, выдумаў. Але ты сам падаўся ў гэтыя гандляры. Гэтак яно выходзіць. Сегенецкаму патрэбна твая тэорыя! От што! Дык тады што будзе, калі вы, скажам, дамагліся сваіх гэтых ідэалаў? Тады, назаўтра ж, пасля абвяшчэння гэтай вашай беларускай рэспублікі, паны і паўпанкі папаўзлі б сюды, як чэрві. Ты думаеш, Сегенецкі адмовіўся б узяць свайго брата Якуба за парабка? Ён нават сам пацягне іх да сябе ў парабкі. А калі той і не захоча ісці, дык прымушаны будзе рабіць гэта, бо хто гэта спакойна ўмірае з голаду? Калі хто топіцца, дык за востры нож хапаецца. Гэтак і ён пойдзе ў парабкі. А Зоська пойдзе тады за вечную наймітку. А ты тады, можа, і выбіўся б у вялікія, так ска-

заць, людзі. Але пра цябе гаворка малая. На тваім карку нехта другі ўз'ехаў бы на вышыню. Завялі б сабе бельведэрчык, і ўсялякія панкі з'язджаліся б туды грызціся за партфелі. А пасля б банкецікі за Якубавы Сегеневы крывавыя грошыкі ладзілі б і на гадзіну мірыліся б на гэтых банкецiках. Вы ўбілі сабе ў галаву — народ, народ! А які народ? Той, які ў парабкі пайшоў бы, ці той, які наймаў бы сабе парабкоў?..

— Ты нічога не гаворыш пра самастойнасць нацыі...

— Якраз гавару. Адна самастойнасць тая, якая цяпер пачынае скідаць з Сегеня Якуба латы. А другая, якая стварыла б свайго самастойнага беларускага жандара над галавою гэтага ж самага Якуба Сегеня. От — дзве самастойнасці!

— Беларускай культуры не пашкодзіць, калі пабудзе і нацыянал-дэмакратычная рэспубліка.

— Якой культуры? Сегеневай ці Сегенецкага?!

— А ці паспеў яшчэ Сегень стварыць культуру? Ён яе хутчэй стварыў бы, каб...

— Каб служыў у Сегенецкага за парабка?

— Я супроць парабкоўства.

— А за што ж, калі гэтак. За тое, каб стварыць беларускага жандара?

— Мяне польскія жандары пасадзілі былі разам з табою ў астрог. Хіба ты забылася ўжо?

— Дык от польскія. Ты і ненавідзіш польскага жандара за тое, што ён польскі. А супроць беларускага ты нічога не меў бы?!

Галена не магла цяпер сядзець спакойна. Яна стаяла перад Гарусам, не зводзіла з яго вачэй. Гарус сядзеў перад ёю і маўчаў. Ён не быў спакойны, але штосьці стараўся як бы задушыць у сабе. І нарэшце ён пастараўся спакойна сказаць:

— Я ненавіджу гэтак усялякае жандарства, як і парабкоўства. Яшчэ раз гавару табе.

— На словах! На словах ненавідзіш! А на справе...

— На якой справе! Што я раблю?

Цяпер ён не мог трымаць на сабе свае штучнае спакойнасці. Ён стаў насупраць Галены.

— На тэй справе, што... Што ты, Гарус, ануча, нічога не робіш супраць таго, што дагэтуль стараўся ўбіць мне ў галаву. Ды і не тое гавару. Ты дапамог Балеславу выкруціцца, хоць, веру табе, не стараўся, ці, можа, суб'ектыўна,

і не хацеў гэтага рабіць. Я ўпэўнена, што яго і следу ніхто не знойдзе.

— Ты забылася, якія мы былі блізкія ў тыя хвіліны, калі разам ішлі сюды.

— Бо нам выпала адна дарога, пакуль не прывяла яна да...

— Ты памятаеш, як пісала мне, як прыехала была ў Чарніцу, што бачыла захад сонца. І я люблю захад сонца. Ты ўспамінала, як заходзіла сонца тады, калі мы ішлі паўзлесным выганам.

— Ты што, думаеш чым-небудзь маю душу развярушыць? У тым і справа, што мы абое па адной дарозе неслі ў сабе розныя, кожны сваё зерне, пакуль не прыйшлі да таго месца ў дарозе, дзе пачынаецца раскрыжаванне. Я не на тое ішла, каб назад варочацца!

— А я назад варочаюся?

— Твая дарога тое самае, што вярнуцца назад, але ўжо не ў астрог, а за наглядчыка над астрогам.

— Гэта ты мяне робіш за наглядчыка над астрогам!

— Ты сам сябе ў маіх вачах за гэтакага робіш... А то я яшчэ ведаю і гэтакіх, якія, калі ім не ўдаецца стварыць свайго, самабытнага, беларускага жандара, дык рады хоць абы-якому пайсці ў апеку, абы далей ад таго, што цяпер у нас тут.

— Гэта я, па-твойму, гэтакі?

— Разбярыся ў сабе сам. Я сёння сказала ўсё выразна, што збіралася ў мяне за ўсе гады нашага знаёмства, нашай таварыскасці, нашых гаворак.

Гарус маўчаў. Ён толькі глядзеў на Галену. Нарэшце ён сказаў, зноў стрымліваючы сябе:

— Я такі самы, я не змяніўся. Я за беларускую нацыю. А ты ніколі за яе не была, калі гэтак.

— Я табе веру, што ты за гэтую нацыю, але за якую? Я за адну беларускую нацыю, а ты за другую. Толькі я не за гэтакую нацыю, якая...

— Якая жандарская, хочаш сказаць?

— Крыху не гэтакімі словамі я хацела сказаць, але ты ўгадаў маю думку. Няхай будзе гэтак.

— А ў тваіх словах у дачыненні да мяне і да маіх ідэалаў няма нічога жандарскага?

Галена ўсхапілася. Чырваната заліла яе твар. Слёзы крыўды заблішчэлі на яе вачах. Яна адчыніла дзверы і паказала па іх Гарусу рукою. Ён узяў адразу шапку і пайшоў. Яна кінулася тварам на стол і старалася ўстрымацца

ад слёз вялікай абразы, якой яна яшчэ ніколі ні ад каго не мела.

Ціха заходзіла над горадам сонца. Над гэтаю вуліцаю ішла стрыманая музыка рабочага горада. Гукі гэтыя былі яшчэ цішэйшыя за рамістым акном нумарнога пакойчыка жактаўскай гасцініцы. Галена сядзела доўга адна. Гэтак яна прычакала першага змроку. Адвячорак быў ясны і чысты. Перад акном ішлі нізкія ўжо, драўляныя кварталы. Неба над імі гэтакае чыстае і сонечнае было! І Галена не зводзіла вачэй з гэтага малюнка.

«Зараз на вакзал, спаткаць Зосю...»

«Якое неба! Як чыста заходзіць сонца... Зноў гэтак ясна заходзіць сонца, як тады, у тую трывогу, на тым паўзлесным выгане!»

«...З кім жа я прайшла гэты свой кавалак дарогі? З Гарусам? З гэтым чалавекам, які...»

— Які вораг! — сказала яна моцна сама сабе.— Зоська, гэты чалавек, з якім я думала дружыць, з якім мы разам выйшлі з панскага астрога, прадаў цябе.

«Ат, прывычка гаварыць сама з сабою. І яшчэ сентыментальнасці не хапала!.. Дзе ж яны ўсе падзеліся? Не ідуць так доўга».

І яна ўстала, папpавіла валасы перад люстэркам.

Як прыйшлі ўсе, яна была гаваркая, але Наталя заўважыла ёй:

— Чаму ў цябе твар гэтакі? Ты як бы плакала?

— Я нядаўна прагнала адгэтуль Гаруса.

— Чаму?

— Ён... Ну, я табе пачынала калісьці гаварыць...

І яна расказала ўсё. Наталя адно сказала ёй:

— Я на такім месцы была б зусім спакойная. Ну, што з гэтага? Ну, што табе Гарус, калі гэтак?.. Вы разам прыйшлі адтуль, вы разам... Ну, я памятаю, як вы былі тады ў мяне. Вы былі дружныя, блізкія, дык былі прычыны на гэта. На дружбу патрэбен грунт, і знаходзіліся на ім дзеля гэтай дружбы агульныя мясціны. Ну, і ўсё. Глядзі на рэчы проста.

— Я не таго...

— Ну, дык чаго ж ты?

— Ён гэтым самым паздзекаваўся з Зосі, з старога бацькі яе.

— От зноў у цябе інтэлігенцкая гэтая, ну, проста-такі сентыментальнасць. Кінь! Ты прыехала пабачыцца з Зо-

сяю. Калі яна павінна прыехаць? Я таксама з табою на вакзал магу паехаць. Я цяпер зусім ужо вольная.

— Добра, Наталька.

Яны неўзабаве пачалі збірацца на вакзал. Барадзіч сядзеў усё ля стала ў задуменні.

— Ты пра што, Адам, думаеш? — запытала Наталя.— Пра Гаруса?

— Не. Што тут думаць. Я пра сваё. Ці адразу пасля закладкі здолеем весці безупынку пабудову.

— От маладзец,— сказала яму Наталя.

Галена бачыла гэтакую спакойную жыццярадаснасць сваіх таварышаў і сама набіралася яе.

Да цягніка яны спазніліся крыху. Народ з пакункамі валіў з вакзала, як яны падышлі. Галена шукала сваіх у натоўпе, і нарэшце вочы яе загарэліся. Яна пакінула за сабою Наталю і пабегла наперад. Мужчына ішоў у натоўпе і азіраўся — куды, у які бок лепш і трэба падацца. Ён апіраўся на арэхавы кіёк, нёс пад пахаю невялікі пакунак. Наталя пазнала яго. Зося была — выліты бацька. Яна бачыла, як Галена падбегла да яго, як момант пастаялі яны гэтак адно насупроць другога і як пасля чалавек павалі абняў Галену за галаву і пацалаваў у лоб. А тут з'явілася і Зося. Яна ўсміхалася Галене і з замілаваннем глядзела, як тая вітаецца з бацькам яе.

— Галенка, Галенка,— сказала яна нарэшце.

Галена павярнулася да яе, і тут Наталя ўбачыла, што ў Галены поўны вочы слёз. Яна абняла Зосю, а стары стаяў, глядзеў на іх, і губы яго дрыжалі. Ён сам, здаецца, гатоў быў заплакаць разам з Галенаю. Постаць яго была прыгорблена, ссутулена крыху, спрацаваныя ногі нязграбна стаялі на зямлі. Але гэтакую вялікую замілаванасць ён абудзіў раптам да сябе ў Наталі! Яна стаяла наводшыбе, нейкі час не падыходзіла пад іх, каб не перашкодзіць іхняму слаўнаму прывітанню. Галена, здавалася, забыла ў гэтую хвіліну на Наталю, толькі як трэба было ісці, яна азірнулася:

— Наталька!

Наталя ў ваччу яе прачытала падзяку да сябе за штосьці. Галена пазнаёміла іх, і яны пайшлі разам. Зося ішла з Наталяю, крокаў на тры астаўшыся ад Галены і свайго бацькі, а Галена і стары ішлі разам наперадзе. Яны паціху гаварылі штосьці, і Наталя, гледзячы на іх, думала: якая вялікая і моцная паміж імі жыве блізкасць!

Блізкасць, што ўстаялася вякамі гора і нядолі, у крывавым ярме жыцця бацькоў і дзяцей.

У той вечар Наталя была дома. Пайшоў толькі Барадзіч. Зося з бацькам занялі суседні пакойчык, і ўвечары сышліся разам усе. І тут адбыўся Зосін расказ пра тыя справы, што назаўсёды з гэтай хвіліны адагналі ад Галены астаткі ўсялякай няпэўнасці наконт аднаго чалавека. Гэты чалавек быў малады Нахлябіч.

— Ты памятаеш,— сказала Зося,— да цябе калісьці прыходзіў ці прыязджаў у горад, як ты яшчэ вучылася, зусім малады хлапчук. Ён адмаўляўся ад таго, што напісаў быў пра цябе. Ты памятаеш?

— Я памятаю гэта. Ён гаварыў, што памыліўся і няпраўду напісаў.

— Дык гэта былы Сегенецкага парабак, парабчук, пастушок. Ён не гаварыў табе, хто гэта яго рукою пісаў?

— Не.

— Гэта Нахлябіч.

— Я сама гэтак думала. Было напісана, што бываю летам у сваяка, буйнага кулака, трымаю з ім сувязь і сама ёсць кулацкі ці, прынамсі, падкулацкі элемент. Я тады набралася гора, пакуль не з'явіўся сам гэты хлопец і не папрасіў зняць абвінавачанне, бо ён памыліўся.

— А цяпер ён як мае быць расказаў усё і супроць Нахлябіча справу пачаў.

— Дык я цяпер успамінаю, як ён гаварыў мне, што і я прычынілася да гэтага забойства. Да тваёй, значыцца, справы. Гэта, значыцца, я пагасціла раз тры дні ў Сегенецкіх, а Сегенецкі хацеў цябе з свету зжыць. От як ён хацеў бы вывесці...

— Сегенецкі мяне, а Нахлябіч цябе. Што ён мае да цябе?

— Я яго, бачыш, папрасіла была тым летам не хадзіць да мяне. Былі такія паводзіны яго. От і ўсё.

— Дзеткі мае,— сказаў раптам Зосьчын бацька,— ну, нашто вам успамінаць усё гэта. Было і прайшло. І так усё гэта за мой век сэрца мне пераела.

Ён быў утомлены, і яго Наталя паклала спаць у сваім пакоі, а сама перабралася да Зосі, дзе асталася і Галена.

— А ці была калі разабрана дзе справа гэтая з Нахлябічам? — запытала Наталя.— Ён цяпер загадвае рабочым клубам на пабудове ў Чарніцы.

— Я нічога не чула,— адказала Галена.

— Я не ведаю,— адказала Зося.

— А як цяпер стары Нахлябіч жыве? — пацікавілася Галена.

Зося сказала:

— Жыве, раскулачаны. Стаў, як і ўсе гаспадары. Баіцца, каб не выселілі. Пацішэў, але хто яго ведае...

— Але чагосьці прыязджаў да сына ў Чарніцу нядаўна,— сказала Наталя,— быў у сына, але той спачатку яго перад народам не прыняў, бо ён жа выракся яго! А пасля цераз Пніцкага перадаваў запіску нейкую. Мне сам Пніцкі шаптаў. Выразна мне Пніцкі больш нічога не гаварыў.

— Як бы нічога гэтага і не было ўжо мне,— сказала Галена,— толькі шкода таго часу і сілы, што я патраціла за тыя часы, пакуль мяне ўсё дапытвалі з-за яго брахні.

Зося сказала сваё:

— Праўда, як нічога не было. Ні Сегенецкага няма больш, ні майго парабкоўства. Галенка, сястрыца. Ты не ведаеш, як я часам успамінаю тую восень. Замаразкі пачыналіся першыя... а я кожную суботу да сваіх бегала вечарамі...

— А ты ведаеш, што, мусіць, не толькі адзін Толяк, а і другі, Балеслаў?..

— Што?

І Галена расказала ўсё, што сказаў ёй быў у той дзень Гарус. Зося зноў страціла свой спакой. Галена была рада, што няма тут пры гэтым Зосінага бацькі.

— Мне гэтак не хацелася ехаць сюды,— сказала нарэшце Зося.— Каб так, а то з-за гэтай справы. Я забыла б хутчэй усё. Няхай усё хутчэй скончыцца.

— Мне толькі цябе пабачыць,— сказала Галена.— Мне не хочацца быць на гэтай справе. Наталя, калі ты можаш ехаць?

— Я магу заўтра. Мне заўтра трэба ехаць.

— Можа, і я з табою паеду.

І Галена назаўтра з Наталяю паехала.

Праз два дні Зося пісала да Галены:

«...Я не хачу пра гэта шмат гаварыць і ўспамінаць вельмі. Яго засудзілі на адседку і высылку. Я толькі здалёк бачыла яго, а калі мяне пыталі, дык я глядзела, гаворачы, толькі на таго, з кім гавару. Мне цяжка было, хацелася, каб усё хутчэй скончыць. От і скончана нарэшце. Тата, калі дома, дык і робіць і трымаецца цвёрда, а тут проста-такі аслабеў, абнямог. Ён гэтакі спрацаваны і гэтакі змучаны за ўсё жыццё сваё, што яму трэба вельмі добра адпачыць. Мы выязджаем сёння дадому, і там я яму

не дам пакуль што нічога рабіць: няхай паправіцца. Ён гэтулькі за гэтыя гады вынес гора на сваіх плячах! А дома там цяпер у нас не гэтак: усё ідзе нанава і добра. Усё гэта і суд тату вельміператрэслі. А я яму сказала, што не трэба думаць шмат пра тое, што было і больш не вернецца ніколі. Калі добрае, дык можна ўспомніць і пацешыцца, а калі дрэннае, дык — забыцца на яго трэба. Як заедзем заўтра дадому, дык з татам будзе добра. На судзе мне трэба было ўсё, як было, расказаць. Дык мне было цяжка ўспамінаць. Нават пра тое гаварыла, як ачулася была тады пад дзічкаю: каля мяне людзі варушацца, нешта гавораць, а мяне боль працінае. А на мяне гэтая дзічка проста-такі ўсім голлем навісла... Ат, няхай яно хутчэй забудзецца... Бывай здарова, Галенка. Будзь у нас улетку...»

## II

Дзень быў ясны і гарачы. Людзі збіраліся шпарка, тады калі перадвячорная смуга разганяць пачала дзённую спёку. Збіраліся ля старога дома ў садзе, дзе быў сельсавет. Андрэй Пніцкі не даставаў цяпер папярачак з-за пазухі, не енчыў і не хітрыў, каб памаглі яму «стаць на ногі». Ён цяпер цёрся паміж людзей і ўсё як бы каго ўгаворваў:

— Дык няйначай трэба гэта, мужчынкі, зрабіць. Няйначай. Праўда ці не? Няпраўду я кажу? Няйначай.

— Можа, і трэба, а можа, і не трэба,— гаварылі некаторыя.

— Як гэта не трэба! — крыўдзіўся Пніцкі.— Як гэта не трэба. На чорта каб так аставалася.

Самоцька стаяў маўкліва наводшыбе ад усіх і задуменна абсмоктваў вусы. Пніцкі падышоў да яго:

— Ну, а ты як?

— Што я! Як людзі, гэтак і я.

— Што значыць, як людзі! Як ты! От гэта ты скажы. Дык, можа, і людзі цябе паслухаюць. Праўда ці не? Я сам, сказаць, люблю людзей паслухаць, але, як мой брацішак Зыдор з Чарніцы кажа, люблю і сам свае слова сказаць. Адзін скажа, другі скажа, дык яно разам як збярэцца — паглядзіш тады, дык яно нешта і выходзіць. Праўда ці не?

У рысах твару яго слаўпа свяцілася заклапочаная дабрата і ветлівасць.

— Я табе, Самоцька, скажу, што думаю. Я гэтакі чалавек. Я падаўся нядаўна ў калгас. І ты заяву напісаў. Мяне ўжо залічылі. Залічаць і цябе, не бойся. Я ведаю, браце ты мой, толькі адно: клопату — па вушы. Без клопату не абыдзешся. Трэба тое, трэба гэтае. Ну, дык як патвойму, трэба цяпер, вольным часам, пакуль касіць не пачалі, выцераб гэты зрабіць ці не? Цяпер мы выцерабім, а праз... ну, другім вольным часам, пакасіўшы, ці ўвосень, ці на той год на вясну, мілярацу зробім. Дык паплавы будуць, як лялька! Праўда ці не? Ну, няўжо ж не праўда! Ты сам скажы.

— Ну, добра. Чаму не,— з прыроднаю панурасцю сваёю ціха сказаў Самоцька.

— Але ж гэта яшчэ не ўсё.

Тут Пніцкі перабег да гурту, і неўзабаве адтуль ужо чуўся яго клапатлівы голас. Збіраліся ўсе проста на двары, пад яблынямі. Сад быў стары, і шмат вынес ён, відаць, за апошнія гады нягоды: некаторыя дрэвы былі паабдзіраныя, некаторыя з абламаным веццем. Самоцька падышоў пад гурт і чуў, як Пніцкі гаварыў:

— Або хоць і гэты сад. Вы думаеце, браткі, што! Чаму ён сапсаваўся без догляду? А таму, што кожны думае сабе: ат, не маё, ліха яго бяры, калі я што вырву з яго, дык і спажыву, а рэшта — няхай гіне. Адзін скубяне, другі скубяне, от табе і па ўсім. А сад штука далікатная.

— А ты не скуб? А твае парсюкі не падрывалі тут дрэва? — чуўся голас.

— Мае? Гэтаксама і мае. Я не таюся.

— А пэўна. Што тут таіцца. Ты лепш за ўсіх, ці што?

— Добра кажа, я лепшы за ўсіх, ці што? І я гэтакі самы. Што тут гаварыць, праўда ці не? Я на тое і гавару. Што каб, скажам, чалавек ведаў, што і ён тут нейкае дачыненне мае да гэтага, дык ён бы не псаваў. А то наш народ брыдкі: наш народ не глядзіць, каб захаваць у дабры таварыну.

— Да чаго гэта ты гаворыш?

— А да таго, што каб кожны за чалавека патрэбнага стаў. Я пра сябе скажу: я не глядзеў, бо гэта было не маё. А цяпер трэба, каб калгас сваёю рукою ўзяўся за гэты сад. Значыцца, я сам у сваё цяпер свіней сваіх пускаць не буду. Праўда ці не?..

Тут ён пачаў зменьваць тэму:

— Якуб Сегень мне, бывала, казаў: так і так, кажа, Андрэйка, ты сам, кажа, да нас прыйдзеш. Ажно ж і

праўда. Калі ўсё пойдзе як мае быць, адно каб пастараліся нашы людзі, дык я ніколі шкадаваць не буду.

— Ага, дык калі ўсё пойдзе добра! Калі хто пастараецца! А ты сам што будзеш рабіць? Каб нехта табе стараўся?

— Я гавару пра старэйшых тут у нас. Няхай іх галава выводзіць нас і накіроўвае, куды трэба. Праўда ці не? Я нічога і не скажу нават ім, апроч добрага. Якуб Сегень — ого! Гэта чалавек! Як ён пачаў адразу, што гэта гэтак трэба рабіць! Адразу цвёрда як пайшоў, дык і не збочыў нідзе ні разу. Дзе ён, не прыехаў яшчэ? На судзе на гэтым, на судзе! Ах! Ай! Як гэта ўсё здарылася. А каб ён мяне быў падагнаў спачатку, дык я, можа, даўно б тут быў.

— Значыцца, Андрэйка, нашага брата, выходзіць, дубінаю трэба ў рай заганяць? Ці як ты кажаш?

Пачуўся рогат. Пніцкі пачаў апраўдвацца. Пачатак сходу спыніў гаворкі. Абвестка на сцяне дома гаварыла, пра што будзе сход. Андрэй Пніцкі перабраў перад сходам у сваёй гаворцы ўсё, а тут раптам сціх і ўважна слухаў. Шмат пра што гаварылі на гэтым доўгім сходзе. Апанас Сегень павёў справу гэтак, што прымусіў усіх думаць і гаварыць. Перш за ўсё ішла справа пра поплаў, дзе кусціўся вербалоз і распоўзваўся, пакалечаны быдлам у кожную восень, алешнік. Вада стаяла на поплаве ў куп'ях, яна хавалася пад імшыстымі гузамі. Пасля пайшла гаворка пра касьбу і жніво. На гэта Пніцкі папрасіў слова, калі яшчэ Апанас Сегень толькі абвяшчаў пытанне. Андрэю сказалі ўзяць слова крыху пасля, дык ён усё ж сказаў пацiху сваім суседзям:

— Праўду Апанас там кажа, што і дзецям патрэбны яслі, каб хоць да гэтага часу ўсталяваць і звыш нормы тыдзень або нават і два папрацаваць сталярнай брыгадзе, каб кары парабіць і паправіць.

Тут ён момант падумаў:

— ...Я сам добры сталяр. Чаму мяне ў сталярную брыгаду не ўпісалі?

Ён ужо не быў спакойны да самага таго часу, пакуль не дазволілі яму выказацца. Ён загаварыў:

— Я тут перад усімі скажу, што гаспадар, калі ён гаспадар добры, гэтак заўсёды і робіць: з вясны ён на малако налягае, а на лета апчаджае кавалак сала, бо тады работа ў яго пачынаецца, што аж пуп трашчыць. Тым часам я да чаго гэта гавару? А да таго, што добры гаспадар заўсёды

загадзя пра тое думае, што наперадзе перад ім стаіць. Дык я гавару: добра там таварыш Апанас Сегень кажа, што пра жніво загадзя трэба падбаць. Цяпер пра сябе. Чаму мяне не ўпісалі ў сталярную брыгаду? Я сталяр — здаецца, не ўломак які. Гэта ўсе ведаюць. Дык прашу і мяне ўпісаць. Добра?

— Добра,— адказаў белагаловы Зэня з-за стала.

Пніцкі падышоў да яго і праверыў: глядзеў, як Зэня ўпісваў яго прозвішча ў спіс сталярнай брыгады. Пасля гаварылі пра справы драбнейшыя: новы план размеркавання працы за час да жніва, вывазка дрэва на гумно...

«Калі мы жніво адбудзем добра, дык на восень у нас прыбавіцца сілы. Жывой людской сілы...»

Апанас Сегень выкіраваў гэтую строму думак з жывога натоўпу людзей навокал сябе. Людзі стаялі цесна; усё сталыя, спрацаваныя твары; павольныя словы, цвёрдыя позіркі.

Клапатлівы Андрэй Пніцкі да канца сходу пацішэў, мала цяпер гаварыў. Найбольш маўчаў. Ён штосьці ўсё думаў і пасля сходу астаўся адзін. Ён падышоў да стала, дзе яшчэ Зэня збіраў паперы, і як бы сакрэт нейкі сказаў:

— Маю да цябе справу, Зэня.

— Якую?

— Не пашкадуй, як той казаў, кавалачка паперы і хвіліну часу ды вазьмі напішы ад мяне пару слоў брату майму, Зыдору, у Чарніцу. Пафатыгуйся. Я табе зараз скажу, што пісаць. Я табе буду гаварыць, а ты як складней там будзе пішы.

«...Яшчэ, братка дарагі, я табе пішу, што ў калгас я падаўся адразу пасля таго, як ты мне напісаў. Нахлябіч чалавек гэтакі, што я з ім цяпер не калягую. Хоць і ніколі я з ім гэтак не быў. А ён сам цяпер пацішэў і нічога ніколі ні мне, ні каму не гаворыць. А што ён думае, дык яму аднаму вядома. У чужую душу не залезеш. Мусіць, ён табе што там нядобрае зрабіў, што ты мне радзіў, каб я цураўся яго. Але я і сам. Цяпер жыву, работы хапае, раблю і не ведаю, можа, яно і лепш. І такі, напэўна, лепш. А пасля не тое яшчэ будзе. Дай ты адно нам час умацавацца. Даўно я з табою, братка ты мой, не бачыўся. Было б добра пабачыцца. Ты прыедзь да мяне ў Пнівадзічы нашы. Вазьмі і прыедзь. І толькі яшчэ от што. Трэба і гэта напісаць табе. Я адно думаю — ці не Нахлябічава гэта работа. Ён ездзіў туды да сына свайго Мікалая, а там, як ты пісаў мне, бачыўся з табою. Можа, ён гэта і каля цябе там круціўся,

каб у якую авантуру там уцягнуць. Дык я табе раю, калі што якое, дык гані ты яго ад сябе пад ліхавую долю. Бо тут нябож наш Паўлючок, Сымона Цецеравецкага хлопец, ледзьве ў бяду цераз яго не папаўся. За падлог цяпер яго гатовы пацягаць крыху. Гэта ж ты ведаеш, што цяпер сам Сымон расказвае пра ўсё гэта? Нахлябіч, стары ці малады, ліха яго тут разбярэ, надакляроўваў яму і дрэва на хату, і яшчэ там нечага, толькі каб той там напісаў падлог на Якубаву Сегеня пляменніцу Галену. Дык той і напісаў. І цяпер сам усё як мае быць расказаў, пакаяўся, але бацька, чалавек цёмны і баязлівы, баіцца, што за падлог пападзе і яму і хлапцу. Я думаю, што гэтага не павінны дапусціць. Прыходзіў да мяне сам Сымон бедаваць і радзіцца, дык я яму дакляраваў, што напішу табе, каб ты там пагаварыў з гэтаю пляменніцаю Якубаваю, няхай яна даруе за паклёп і заспакоіць Сымонава сэрца...»

— Дык от, Зэня, ты напішы, як той казаў, усё гэта, каб як найскладней выйшла. Апішы ўсё.

— Гэтага нічога пісаць не трэба.

— Чаму?

— А таму, што калі справа пайшла ў ход, дык тут толькі адзін Нахлябіч будзе вінаваты.

— Жартуеш.

— Не. Што я тут буду перад вамі з гэтым жартаваць.

— Усё адно напішы, няхай Сымон не думае, што я не стараўся за яго.

— Дык навошта ж пісаць?

— Зэня, няхай Сымонава сэрца будзе спакойнае. Як той казаў, табе гэта нічога, узяў і напісаў, а яму, цёмнаму чалавеку, го!.. Праўда ці не? А то ён падумае і на мяне...

Зэню давялося напісаць. І Пніцкі доўга дзякаваў яму.

— Ты, Зэня, Зыдора нашага, брата майго, бачыў калі? Ведаеш яго?

— Ведаю.

— Мы з ім як адзін. Гэта ўсе гавораць. Як блізнюкі. Мы як дзяліліся, дык хоць каб хто слова з нас адзін на аднаго дрэннае сказаў. Мы па-брацку разышліся. Як той казаў, гэта ж брат родны, дык каб сварыцца? Барані божа. Дзякуй табе, Зэнечка.

Як успамінаў брата, твар яго засвяціўся добраю, слаўнаю лагоднасцю. І гэтакая жывая, вялікая ласкавасць ляжала па гэтым твары і не сыходзіла доўга, аж пакуль ён ішоў і думаў пра свайго брата. Назаўтра ён цэлы дзень па-

біваў косы, каб тымі днямі выйшлі гуртам мужчыны на забалочаны поплаў касіць асаку. «А пасля ўвесь хмызняк выкарчуем»,— гаварыў ён. Ліст да брата паслаў ён тады ж. І рад быў ён, што гэтак добра яны з братам Зыдорам.

Зося, як вярнулася з горада, не застала на полі той старой дзічкі. Пакуль да раскарчоўкі паплавоў, хлопцы ачысцілі ад усялякіх зараснікаў тыя мясціны, дзе раней былі межы. Сюды папала і старая груша. Адно каржакаваты пень астаўся нізка пры самай зямлі. Разам з хлопцамі займаўся гэтаю работаю і Андрэй Пніцкі.

Стаяла гарачае надвор'е. Ціхія ясныя дні, пасля дажджоў, палалі сонцам. Цішыня звінела на полі. Засевы добра ўбіраліся ў сілу. Якуб Сегень быў нездароў некалькі дзён. Ён не выходзіў з хаты, і ўсё не давала яму спакою гаспадарская руплівасць, што і не ляжыць ён і нічога не робіць. А пасля ён разам з усімі зноў выйшаў на работу. Ён чакаў, калі прыедзе да іх Галена.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### I

Сціrты сухой цэглы былі складзены на груду перад вёскай, а вёска асталася ў сваёй старой лагчыне і дыміла кожную раніцу дымком сваіх камiноў над растрыбушанымі саламянымі стрэхамі. Хмызняк адыходзіў у балотную лагчыну на той бок Пніваdкі. Узгоркаваты бераг яе з чарніцкага боку жыў новымі гукамі: стук сякер, шоргат піл, песні, свісток... Гэты свісток чуўся цяпер тут бесперастанку. Вузкая істужка рэек ляжала ўпоперак цераз Пнівадку. Яна выходзіла з лесу, а па той бок рэчкі гінула недзе ў далячыні паўзбалотнага груду. І дзень і ноч соўваўся па гэтых рэйках, бегаў дробны паравічок, свістаў, кукаваў на ўсю разлегласць. Стагналі вясёлым лёскатам за ім дробныя вагончыкі. Паглядаючы навокал сябе, асвойтаўшыся з гэтаю шпаркаю зменаю і ўсёй мясцовасці і саміх сябе, ездзілі на іх тутэйшыя людзі — нагрузчыкі торфу і капальнікі яго.

Зыдор Пніцкі арудаваў цяпер на цагляным складзе. Ён вёў цяпер падлік цэглы. Цэглу падвозілі на аднаконных фурманках. Зыдору здавалася, што і не жыў ён ніколі інакшай, як цяпер. Як бы ўсё, што было і як жылося яму раней, праваліласа кудысьці ў бяздонне без следу. Ён цяпер,

з прычыны неабходнасці, успомніў сваё колішняе лемантарнае слібізаванне і спосаб выводзіць ляпцаватыя літары і лічбы. І за гэты час удасканаліў гэтую сваю здольнасць. Тут пастараўся Адам Бародзіч, ахвяраваўшы на гэта па некалькі гадзін кожны тыдзень. І чым больш клапаціўся на складзе Зыдор Пніцкі, тым больш набываў ён практыкі ў сваёй пісьменнасці і абыкласці да гэтай мудрасці. Вялікая кішэня яго кароткай спецвопраткі адтапырвалася ад закладзеных туды сшыткаў і блакнотаў з запісамі таго, колькі новых тысяч цаглін кожны дзень з'яўлялася на складзе. З патрэсканай фанеры была прыбудавана на канцы падпаветкі склада нізенькая прыбудоўка — з фанернаю страхою на адзін скат будка. Тут стаяў малюпаценькі столік, і перад ім урос у зямлю новы нефарбаваны ўслончык. Тут Зыдор і займаўся сваімі запісамі, выходзячы адгэтуль да кожнага новага абозу з цэглаю. І ўсе сталі заўважаць, што ён нават як бы менш стаў гаварыць, стаў цвярдзейшы на слова, часта яго бачылі, як ён пра штосьці думаў — маўчаў, гледзячы наперад перад сабою.

Андрэеў ліст ён атрымаў напярэдадні закладкі электрастанцыі. Ён, як прачытаў яго, доўга думаў, седзячы пасля работы ў сваёй фанернай будцы. Думаў ён не пра Нахлябіча, які, можна сказаць, быў адна з галоўных прычын, з якіх Андрэй напісаў яму гэты ліст. Ён думаў пра самога Андрэя. Думкі яго ішлі ў глыб часу, калі яны з Андрэем яшчэ выраслі ў юнакоў, ведучы ўдвух бацькаўскую капеечную гаспадарку ў Пнівадзічах. Былі тады на ўсю сям'ю ў іх адны боты, і гэта цягнулася аж датуль, пакуль Зыдор не выбраўся на старану ў заработкі. І ўсё гэтакае ішло цяпер Зыдору ў галаву. Ён думаў доўга. Ён і сам не мог бы выразна сказаць у гэтую хвіліну, што з ім робіцца. І жаль нейкі і нечага агортаў яго, і струмень новых жывых сіл варушыўся і вырастаў у ім. І нейкае хваляванне находзіла на яго момантамі. А пасля ён успомніў пра Нахлябіча. Ён схаваў ліст у кішэню і пайшоў дадому. І каб сам ён мог цяпер разгледзець сябе добра, ён заўважыў бы, што цяпер не ўсё магло аднолькава займаць яго ўвагу. Раней усё, у той момант, калі з'яўлялася, было на нейкі час важнае. Цяпер адно, здавалася, было важнае, другое — не важнае і часта нават зусім не цікавае. І дзіўная рэч: Нахлябіч зусім не мог ніяк цяпер доўга трымацца ў яго думках.

Ён сядзеў дома не доўга. З лістом пайшоў ён да Гале-

ны. «Няхай сама прачытае, што я тут буду ёй лішпе растлумачваць». Галена спаткала яго на ганку, выйшла адчыніць яму дзверы. Ён цяпер вельмі мала заходзіў сюды. Там ён застаў і Наталю.

— От,— сказаў ён,— брат з Пнівадзіч напісаў мне, каб я з вамі пагаварыў. Дык вы самі пачытайце, гэтак яно лепш будзе. Вазьміце і чытайце.

— Пра што гэта? — нават злёгку ўстрывожылася Галена.

— Вы чытайце самі.

Галена, як прачытала, адчула штосьці добрае да гэтага чалавека, Зыдора Пніцкага. Яна сама заўважыла, што калі раней часамі і захацелася па-прыяцельску пасмяяцца з яго трапятлівай ранейшай клапатлівасці, дык цяпер жа прыкра рабілася з-за гэтай ранейшай патрэбнасці.

— Сядзіце, таварыш Пніцкі, я зараз гарбаты нагрэю.

І ён астаўся выпіць гарбаты.

— Ну, што вы на гэта скажаце? — запытаў ён Галену, як яна скончыла чытаць яго ліст.

— Я вам вельмі дзякую за вашу клапатлівасць. Я гэта ўсё ведаю, дарэмна ваш сваяк, Паўлючка гэтага бацька, думае пра гэта так нядобра.

— Дык я што,— загаварыў Пніцкі,— я тут ні пры чым. Мяне прасілі, дык я сюды як бы ўмяшаўся. А так — дык я тут пабочны чалавек.

Ён пайшоў адгэтуль гэтак спакойна, як і прыйшоў, незабыўшыся на Нахлябіча, каб успомніць пра яго праз некалькі дзён. Галена глядзела на яго праз акно. Відаць ёй была палова яго твару, на ёй ляжала адзнака жыццярадаснасці і спакойнай раўнавагі.

## II

От ужо зусім Зыдор Пніцкі схаваўся за паваротам вуліцы. І сама вуліца патанула ў першым вячорным змроку. Галена ж стаіць усё ля акна. Наталя дапівае сваю гарбату ў поцемках за сталом. Галена падыходзіць да стала і там стаіць колькі хвілін моўчкі. Наталя заўважае гэта.

— Што ты, Галена? Што ты маўчыш?

Наталя адкручвае святло, і ёй відаць, што Галенін твар нейкі незвычайны. Вялікая ўзбуджанасць кладзе на яго свае сляды, нават здаецца Наталі, што Галена заплача зараз.

— Што ты, Галенка, што з табою?

І Наталя бачыць, як Галепа ціха плача. А пасля садзіцца гэтак блізка да яе ды Наталі штосьці хоча сказаць.

— Ну, гавары, Галена. Ну, гавары.

— У мяне вялікае замілаванне да гэтых людзей. Яны выкіроўваюцца цяпер на сваю сапраўдную дарогу. Гэта гэты Пніцкі... гэта Зосьчын бацька, сама яна, Зося...

— Толькі ты не будзь гэтакая...

— Што я плачу? Гэта, бачыш, спадчыннасць старая, з забітай вёскі асталася яшчэ. Я выносіла гэтую чуласць на сваіх плячах з самага маленства свайго. Ну, а ты — зусім іншая тут. Цябе выкаваў горад... Я толькі от думаю — і цяпер жа там недзе, недалёка адсюль, дзе маці цяпер мая!.. І што з братамі там?.. Я не магу ўсядзець тут спакойна. Мяне цягне да чагосьці, я, здаецца, нічога не раблю, што трэба рабіць. Гэта неспакой у мяне ад усяго гэтага. Можа, дзе і маці там ужо ў астрозе. Яна ж пайшла за імі. Я ведаю — не было ўжо чаго пільнаваць там ёй у той старой хаце, калі іх няма... Я сама ў пакуце цяпер... Я не магу забыцца на тое, што з імі...

— Ты толькі пра іх думаеш?

— Ты пытаеш ці, можа, нават папрокам гучаць твае словы? Наталя! Я, калі думаю пра іх, значыцца і пра ўсіх...

— А Гарус?

— Мне прыкра і балюча за яго. Я прайшла з ім разам панскі астрог, а цяпер выйшла, што не за адну справу мы былі там. Але я не шкадую... Ён або на той бок мяжы стане, або тут апусціцца да... так сабе тубыльца...

Яны ўдвух сядзелі доўга. Наталя бачыла Галенін неспакой, трывогу, узбуджанасць. Яна сапраўды не можа цяпер мець сталай і ўпартай Наталінай раўнавагі.

— Хмара вісіць нізка. Чуеш, Наталя? І толькі навальніца ачысціць неба ад хмары... Разаб'е панскія астрогі...

## III

Закладка галоўнага корпуса электрастанцыі адбылася праз дзён тры. Пніцкі да таго дня скончыў прыёмку цэглы ў тым ранейшым месцы. Падвоз пачаўся з іншага месца. Прыехалі муляры, больш яшчэ ажывілася мясцовасць.

З самага ранку Зыдор Пніцкі быў на пабудове. Святочная вопратка была на ім шчыгульна зашпілена. Рукі ён трымаў у кішэнях і пахаджаў паволі паўз роўную лінію складзенай цэглы. На ўсёй тэрыторыі пабудовы работа ў той святочны дзень стаяла. Толькі некалькі чалавек рабо-

чых клапацілася на тым месцы, дзе будзе неўзабаве палажана першая цагліна. Яны выцягвалі роўна шнур, складвалі ў невялікую сціртy цэглу. Пініцкі прыпыніўся ля іх і глядзеў ціха на іхнюю работу. Навокал былі новыя людзі. Яны папрыязджалі на ўрачыстасць з навакольных вёсак, з гарадоў, нават з самых далёкіх. Натоўп збіраўся ў адным месцы, дзе высілася пад высока ўзнятымі сцягамі трыбуна. Вясёлы паравічок прывёз неўзабаве на ваганетках яшчэ новых людзей — прыадзетыя па-святочнаму вяскоўцы; кожная ваганетка з сцягам і ўбрана зелянінаю.

Пініцкі жыў тут у гэты момант сярод гэтых людзей. Яму штосьці незнаёмае і вялікае і слаўнае хацелася расказаць тут кожнаму. Расказаць ім пра самога сябе і пра брата свайго Андрэя. Усё яго жыццё, як на экране, паўставала ў гэтую хвіліну перад ім. І цьмянае адчуванне з'яўлялася, што не павінна яно забыцца, а трэба, няйначай, давесці яго да людской памяці. Ён шукаў вачыма ў натоўпе знаёмых твараў. І не на тое, каб гаварыць з кім, хацелася спаткацца вачыма з кім-небудзь, хто яго разумее. Тут ён заўважыў непадалёку ад сябе свайго ранейшага таварыша ў рабоце, капальніка гліны, белазубага цыгана.

— Здароў! — гукнуў яму Пініцкі здалёк і рушыў да яго.

Той працягнуў яму руку, і яны асталіся тут разам стаяць. Неўзабаве Зыдор заўважыў у натоўпе жонку сваю. Яна стаяла там, дзе людзей было менш, дзе паўкругам перад трыбунаю былі першыя шэрагі натоўпу. Яна была высокая ростам, белая хустка гамотна абкручвала яе галаву. Яна разглядала ўвесь малюнак, што разгортваўся перад ёю.

— Хадзем туды,— сказаў Пініцкі таварышу свайму цыгану.

— Куды?

Але Пініцкі трымаў ужо яго пад руку і цягнуў наперад. Яны падышлі да жанчыны.

— А от мая... ведаеш... баба...

Яна аглядзела цыгана і не ведала, што гаварыць ім.

— От і мы,— сказаў ёй Зыдор.

А цыган працягнуў ёй руку.

Яны асталіся стаяць на гэтым месцы да самага пачатку ўрачыстасці. Натоўп змыкаўся ўсё цясней, падбліжваўся пад самую трыбуну. Чаканне, напружанасць былі ў натоўпе.

Пініцкі штурхануў цыгана пад локаць і сказаў яму:

— І ты тут гліны папакідаў.

Цыган не зразумеў яго спачатку, дык Зыдор пастараўся тут жа растлумачыць яму:

— Колькі ты тут гліны накапаў на гэтую цэглу!..

— Ага,— адказаў гэты чорны Пніцкага таварыш,— мы тут з табою папрацавалі.

І абое яны зразумелі адзін аднаго; яны тут не былі за гасцей толькі.

На трыбуне з'явіліся людзі. Пніцкі бачыў, як першы ўзышоў Адам Бародзіч, за ім яшчэ некалькі незнаёмых чалавек, пасля... Пніцкі адразу рушыў наперад: на трыбуне, трымаючы рукі ў рукавах чорнай картовай вопраткі, стаяў пнівадзіцкі Якуб Сегень. Тады Пніцкаму захацелася самому ўзысці на трыбуну. Ён бы там расказаў пра самога сябе гэтаму старому суседу і земляку, Якубу. А пасля ён пачаў шукаць вачыма Галены.

«Можа, яна і не ведае яшчэ, што дзядзька яе прыехаў,— думаў ён,— можа, яна дзе стаіць і не бачыць».

У наступную хвіліну ён чуў малады голас старшыні мітынгу. Пачыналася ўрачыстасць. Натоўп змоўк. У напружанай цішыні гучэлі толькі старшынёвы словы. Зыкі «Інтэрнацыянала» ўскалыхнулі гэтую напружанасць. Пніцкі ўбачыў, што гурт вайсковых музык стаяў пад самаю трыбунаю. Пасля мітынг пайшоў сваім парадкам, і, нарэшце, Пніцкі пачуў самае важнае яму ў гэты момант.

— Таварышы,— прагучаў гэтакі знаёмы ціхманы голас.

Якуб Сегень павіс тварам цераз трыбунныя балясы над натоўпам, каб прывітаць усіх ад імя пнівадзіцкіх калгаснікаў.

Пніцкі не чуў далей, што гаварыў Якуб Сегень, бо тут ён убачыў пад самаю трыбунаю свайго брата Андрэя. Ён кінуўся да яго.

— Андрэй, братка, гэта ты прыехаў? Няхай бы ты хоць раней абазваўся мне, дык я цябе спаткаў бы...

Браты горача прывіталіся.

— А мы толькі што,— гаварыў Андрэй,— ледзь не спазніліся. Тут яшчэ Якубава Зося шукае недзе сярод людзей сястры сваёй стрыечнай... гэтай... Галены...

Па стромкіх усходах чалавек сыходзіў з трыбуны. Пніцкі ўспомніў, што толькі што праслухаў яго прамову. Старшыня Саўнаркома!

Старшыня Саўнаркома прайшоў у натоўп, дзе стаяла некалькі рабочых на прагаліне, адцятай ад натоўпу роўна нацягненым шнурам. Ён паклаў першую цагліну. Стары

рабочы, сярод ціхай і шчыльнай сцяны першага шэрага натоўпу, паклаў яшчэ некалькі цаглін. Музыка «Інтэрнацыянала» ішла на ўсю разлегласць.

Пасля яшчэ былі кароткія прамовы. Мітынг падыходзіў да канца.

Раптам Пніцкі заўважыў, што на трыбуне з'явіўся малады Нахлябіч. І тут Пніцкі ўспомніў усё: як ён перадаваў праз яго ліст да свайго бацькі. Пніцкаму проста ў гэтую хвіліну было цікава, што будзе гаварыць Нахлябіч. Але тут ён пачуў гаворку не зусім звычайную: Нахлябіч пачаў чытаць свой верш. Словы гэтага верша Пніцкаму нічога не гаварылі, ён толькі глядзеў, як ходзіць у бакі Нахлябічава барада, як жмурацца яго вочы:

Гэй у брук
Давай грук,—
Сацыялізму ты спявай,
Гэй грукай,
У бубен стукай —
Будаўніцтва пашырай.

Пніцкі падыходзіў бліжэй. От ён стаіць ужо ля самай трыбуны. А Нахлябічаваму чытанню, здаецца яму, канца не будзе. І тут Нахлябічаў ліст да бацькі зноў укалоў Пніцкага.

— Дык я ж яго ведаю,— сказаў сам сабе Пніцкі,— можа, ніхто не ведае, а я ведаю.

Ён пайшоў паціху паўз трыбуну, адчуваючы, як не дае яму спакою Нахлябіч:

«Час гэтакі. Час гэтакі, бацька. А калі «іншы час» падасць свой знак, дык ты таксама іншы будзеш?»

Ён шукаў тут чалавека, успамінаў, каму б расказаць пра Нахлябіча.

Ён азірнуўся і ўбачыў, што ля брата яго Андрэя стаіць ужо Якуб Сегень і Галена. А от убачыла Галену і Зося. Яна падбягае да Галены. Яны абняліся моцна і шчыра — сёстры.

## ПЕРШАЯ ЧАСТКА

### 1. Леапольд Гупка

Каб ведаць, колькі працы павінен быў тут класці чалавек, трэба самому ўбачыць гэтую дзялянку. І камяніца, і глей. Камяніца — наверсе. Там каржакаваты хвойнічак, як і запамятаюць людзі, усё гэтакі ж самы, росту яму няма. Некаторыя хвоі аж на ралы пабіліся, вяршаліна часта віламі ўбок пайшла. Тут камяніца скрозь. Гэта — узгорак над балотам, над асакою, над сіўцом у лагу. Пакуль з узгорка ў балота, яшчэ як на злосць тую, нібыта і мурог у вочы кінецца, а падыдзеш бліжэй, дык там сівец нібыта што і добрае. Калі мінуць хвойнічак, ідучы ўгару праз яго, дык праз чвэртку кіламетра якога разбяжыцца поле і шлях. Тут трапіш усё адно як у якую-небудзь іншую краіну: поле ўрадлівае, глею, каменя — нізвання. Шлях-гасцінец. Старасвецкія бярозавыя прысады загінаюцца ўправа, а адтуль ужо спрадвеку патыхала панскім духам: глухенькае места, панскае і шляхечае гняздо. Места — так, мае завулкаў і вуліц пад пяцьдзесят; невялічкі гарадок. Стаўшы на ўзгорку, акрай каржакаватага хвойнічку, відаць: чорная вежа сярэдневяковага княжага замка, шэрая касцельная вежа, зялёная царкоўная, рудая (абшарпаная) бляха былога бернардынскага кляштара. Гэты кляштар, пасля паўстання шэсцьдзесят трэцяга года, расійская імперская ўлада скасавала. Там толькі ў адной двухпавярховай мураванай афіцыне, што ў глыбі двара, жылі два ксяндзы і іхнія пакаёўкі, даволі-такі дзябёлыя і ў самай жаночай моцы кабецiны. Калі з ветрам, дык тут у хвойнічку нават чуваць, як вызвоньваюць гадзіны на замкавай вежы, або як звоняць на імшу ў касцёле ці ў царкве. Гукі гэтыя за дзесяць кіламетраў даходзяць сюды выразна. Места гэтае тут відаць добра: яно стаіць на даволі-такі вялікім узгорку.

Поле па той бок хвойніку роўнае, добрае; калі ў каго

ёсць каму, як і чым урабіць яго і калі яшчэ яго ёсць, колькі трэба, дык яно табе ў сто столак верне. Але бяда была, што траха не ўвесь гэты абшар панскі. Сяляне абселіся па гэты бок хвойніку. Тут таксама зямля не сказаць, каб самая горшая была, як дзе ў гэтай мясцовасці, адно што падроблена яна на мышыныя загончыкі: народ размнажваўся, без дзяльбы, калі ў каго і было поля ў меру, не жылі. Спрадвеку людзі дзяліліся.

На панскіх і на княжых абшарах, дзе зямля горшая, там запушчаны лясы, а тут — і гляіца, і камяніца, і добрая зямля — усё пайшло ў загоны. Тут сяляне туляцца адзін да аднаго, як апенькі на трухлявым пні,— лыка, шарачак, бруд у зрэбных кашулях; пот, мазалі і анізванне прасветлай гадзіны. Пад сялян гэтыя горшыя кавалкі зямлі пайшлі тады, калі была скасавана паншчына і цар з панамі затыкалі мужычае горла. Тую ж дробную дзяляначку, з якой я пачаў гэтае апавяданне, нават і пан з царом нікому не адважыліся даць: гэтакая ўжо там нядоля павінна была, няйначай, спасцігнуць кожнага. Так спрадвеку гэты кавалачак і пуставаў, урэзаўшыся адным бокам у сялянскія загоны, а другім у панскі палетак. Ён нібыта лічыўся панскі, але, разам з тым, і сяляне тут жывёлу смела пасвілі і сівец касілі. А пасля неяк пан абводзіў з каморнікам свае межы і тут ужо як мае быць далучыў да сябе гэты куток. Паставілі капец, і цяпер ужо ніхто сюды не меў права паткнуцца. Так ён і марнеў, гэты кавалак, без карысці, нават жывёлу на ім не пасвілі; сам, значыцца, не гам і другому не дам. На ўзгорку ля камення раслі палыны, на ўзлеску цвілі верасы, напрадвесні адгэтуль на ўзбалоцце сцякалі каламутныя ручаіны снегавой вады; каршачкі падпільноўвалі дробных птушак, зайцы папстрыкавалі цыбамі, калі браліся з княжага поля ўдодні да дзённай сваёй дрымоты, уночы ваўкі стрыглі зверху вачыма лог. У сонечныя дні, вясною ці ўлетку, на ўзлеску, высланая за доўгія гады хвойнымі іголкамі, зямля добра награецца сонцам.

Раз тут шпацыраваў хударлявы папок з таго самага гарадка. У сухім сонечным цяпле ён прысеў пад хвойкаю адпачыць. Ён скінуў боты і грэў ногі. Пасля пачаў павольненька, каб не пакалоць ног, прахаджвацца ўзад і ўперад па сцежцы. Ці ён які псальм мармытаў сабе пад нос танклявым бабскім галаском, ці мо ўспамінаў якую-небудзь з юнацкіх яшчэ год сваіх, семінарскую песеньку, ці што іншае — адным словам, ён хадзіў тут і ціхенька спяваў, зра-

біўшы раптам вынаходства, што сухая зямля, мяккая ад хвойных іголак і моху, цёплая ад сонца, прыемна можа грэць босыя ногі. Гэта было ўжо тады, калі на гэтай зямлі, праз колькі год ужо, корпаўся чалавек. Тут якраз гэты чалавек і нагадзіўся на папоўскія вочы. Ён браўся за сваю работу.

— Памажы божа,— сказаў папок.

Чалавек зняў шапку і скланіўся:

— Дзякую, ойча.

— Рай зямны,— сказаў папок, азіраючыся навокал і прагнучы добрым словам памагчы чалавеку ўзараць загон,— птушкі спяваюць, бога хваляць, усялякае, значыцца, стварэнне...

— Але, але, ойча.

— Усялякае, значыцца, стварэнне,— не сціхаў папок, разамлелы ад сонца і салодкага спачынку і поўны жадання ўсхваліць бога за яго вялікія міласэрнасці да гэтага аратага,— усялякае стварэнне,— папок пачухаў нагою аб нагу,— «хвалите его в кимволех доброгласнех».

— Праўда, ойча.

Чалавек яшчэ раз зняў шапку, яшчэ раз скланіўся і пачаў брацца за работу. Увёў каня ў пастронкі, прымайстраваўся і ўзяў у рукі пугу, каб частаваць ёю каня, гэтае, як папок казаў, божае стварэнне, а сам гатовы да чарговага націрання крывавых мазалёў і да сёмага поту пад зрэбнаю сарочкаю. Неўзабаве, як і заўсёды за гэтай работаю, на ўсю разлегласць чуцён быў ягоны цяжкі, зямлісты голас: «Но, но, малы! Куды! Но!» Зараз жа пастронкі напяліся, як струны, раскудзеленыя вузлы на іх шморгаліся па конскіх баках (кожны дзень па разы тры пастронкі рваліся), конскія рэбры пачалі хадзіць пад скураю, пара павярнула з шыі гэтага божага стварэння, і яшчэ больш у яго вытырклі лапаткі, косці на крыжы і вострая спіна. Мухі раіліся ля яго гнойных вачэй — конь, небарак, быў сляпы.

Гаспадар усё цягавіта і цярпліва, як вол у ярме, пагукваў на свайго каня, конь пяўся, выцягаўся, як мокрая п'яўка. Гэтак яны ўдвух поўзалі па гэтай камяніцы, аж пакуль не прыгнуўся сашнік, скрыгануўшы аб падземны камень, і не парваўся пастронак. Конь, відаць, прывык даўно да гэтай радасці: ён адразу спрытна, не па гадах і сіле сваёй, падаўся назад, але раптам зноў звяў. Пакуль сабраўся нагнуцца і, уціснуўшы ў зямлю губы, згрызці травы, доўга стаяў, аддыхваючыся і спусціўшы мысу пад

сваe ногі. Адна нага папстрыквала ў калене, сама па сабе, як на спружыне, пакуль ён не аддыхаўся. Гаспадар, угнуўшыся, звязваў пастронак. Пасля, падняўшы плуг і ўпёршы яго ў камень сашнікам, пачаў біць другім каменем зверху: адгінаў. Ён стараўся як мага шпарчэй зрабіць гэта: сонца стаяла высока, недалёка было да паўдня, а ён усяго некалькі разоў прайшоў з плугам. Неўзабаве ён зноў прычапіў плуг да барка і адарваў каня ад салодкага забыцця. Цяпер яны прайшлі ўсяго адзін раз, і то не да канца: конь не браў больш. Гаспадар выцягнуў плуг з зямлі і пусціў плытчэй. Конскіх сіл хапіла на тое, каб паволі паўзці, але пастронак зноў трэснуў. Араты абліваўся потам. Ён сарваў з галавы шапку і кінуў на зямлю. Пасля скінуў з сябе камізэльку. Конь зноў павярнуўся ўбок грызці траву. Гаспадар згарнуў рукі: «божа, божа». Але праз хвіліну ён ужо звыкла абкручваў анучаю на пастронку вузлы, каб не муляла ў конскія бакі. Ён азірнуўся. Да попіка пад'ехала малюпаценькая аднаконная брычачка, хлапчук падганяў гуллівага каня. Ойча духоўны паехаў на спрытным жарэбчыку з шпацыру дадому ў гарадок. Жарэбчык падбрыкваў. У гарадку раптам у касцёле заспявалі званы — мусіць, адпраўлялася імша або каго хавалі. Чалавек перажагнаўся на далёкія меставыя вежы з крыжамі, павольна абцёр рукавом з ілба пот і ўзяўся за работу.

Так яго дзень пры дні бачылі, як ён варушыўся, клапаціўся, тупаў. Але ён не быў трапяткі. Ён быў высокі, у плячах крыху камляваты. Здаецца, нават, на першы погляд, павольны. Цягавіты. На нагах ён стаяў моцна. Ці сонца грэла, ці вецер дзьмуў, ён усё варушыўся на гэтай дзялянцы. Пачынаў ён работу ў шапцы і камізэльцы, канчаў з голай галавою і ў зрэбнай адной кашулі.

Ён з'явіўся тут неяк адразу. Успомнілі, што твар гэты быў некаторым людзям тут знаёмы. Яго і раней некаторыя спатыкалі ў гарадку. Хтосьці ўспомніў, што раз бачыў, як ён выходзіў у нядзелю пасля імшы з касцёла; другі бачыў яго на месце: ён глядзеў, як гаспадар прадаваў карову...

— Калі ўсё гэта рабілася, ён не быў яшчэ сівы. Валасы кучаравіліся з-пад шапкі, суконная гаспадарская жакетка сядзела ў свята на ім хоць не гладка, але і не кепска: мясцовы кравец (не той, што абшываў паноў і падпанкаў, а той, што меў справу з простымі людзьмі) не даганяў лішне адзежыны да чалавека, а заўсёды напускаў яшчэ па пальцы два паводле меркі. Затое дзецям гэта было на-

падрост, а чалавек мог добра замахнуцца ў гэтай адзежыне.

Ён прыйшоў раз у гэты куток на ўзбалоцце ў канцы лета. Людзі бачылі, як ён пільна і задуменна аглядаў гэтую мясціну, хадзіў, стаяў, глядзеў і па той бок хвойніку, і па гэты, нават спускаўся да балота, падкасаўся і пайшоў крыху па куп'і; у асацэ, праз мох, паміж пальцаў у яго пырскала вада. Людзі ім зацікавіліся: тут жа ўсё было гэтак умеркавана, улегавана дзесяткамі год, гэтак усё было аднастайна, без вялікіх падзей і выдатных здарэнняў. Ён праз некалькі дзён зноў прыйшоў сюды, але цяпер ужо людзі паспелі дазнацца ўсё пра яго. Ужо ведалі, што гэта самы просты чалавек, як апранены, гэтакі сапраўды сам і ёсць: ніхто іншы, як панскі парабак з двара па той бок гарадка. У яго ёсць жонка, два сыны і дачка. Ён на пары панскіх коней робіць пану, а сям'я яго — падзёншчыкі ў тым жа самым двары. Жонка зарабляе за дзень работы пятнаццаць капеек, а дзеці — ну, вядома, менш, бо яны яшчэ малыя на сталы заработак. Двое меншых — зусім яшчэ дзеці, на работу іх бяруць мала калі, ім не заўсёды знойдзецца работа (хіба ўвосень у панскім садзе яблыкі абіраць). А большы сын — той ужо можа на падзёншчыну хадзіць.

Гэтымі часамі не ўтрымаўся парабак і зрабіў вялікую памылку: трапіліся яму маладыя, неабучаныя коні і вельмі рваліся ў плузе. Дык там, дзе араў ён, асталася пара ўзрэхаў. Пакуль ён вярнуўся іх направіць, аконам заўважыў гэта і, падрабляючыся пад панскі тон, нарабіў крыку:

— Хлоп, цо робіш!

Парабак быў у злосці ад конскага ўпартага спрыту. А тут, якраз у гэты момант, як аконам крыкнуў, кабыла зноў занатурылася. Дык парабак крыкнуў на ўвесь свой пануры голас ні то на аконама, ні то на кабылу:

— Хлоп! Які я хлоп, каб табе па жываце хлопала.

Аконам кінуўся тады шляганудь нагайкаю па парабкоўскіх плячах, але парабак хістануўся ўбок, і аконам з размаху сперазаў сурамцам пад чэрава кабыле, на якой сядзеў. Кабыла рванулася і памчала аконама па раллі. Яна гэтак тузянулася ўбок, што аконам, па што ўжо добра ездзіў конна, а і то не адзяржаўся, вышмаргнуў адну нагу з стрэмя і бразнуўся вобземлю. Колькі крокаў ён правалокся за кабылай па раллі, пакуль адарваўся. Парабак пабялеў, у яго пацямнела ўваччу — ён ужо чуў, што запахла бядою. Парабкі, хто быў маладзейшы і смялейшы, зара-

гаталі, гледзячы на аконама, як той валокся за кабылаю. Нават хтосьці гукнуў «ура». Аконам устаў, растапырыўшы рукі, спачатку кінуўся бегчы даганяць кабылу, але ў наступную хвіліну загадаў парабкам злавіць яе. Кабылу злавілі, і ён, атросшы з сябе зямлю, ускочыў на сядло і дробным трухам пад'ехаў да парабка. Пырскаючы сліною, ён закрычаў:

— Прасіся!

Парабак стаяў, трымаючыся за плуг, пакуль адумаўся.

— Марш ад работы! — зароў аконам,— пану гэтакіх слуг не трэба.

Парабак паслухмяна пайшоў быў ужо нават з поля, пасля раптам вярнуўся, сарваў з галавы шапку і заенчыў:

— Паночку, даруйце.

— Вон, гад!.. Даары дня, і вон са службы!

— Паночку, я сам не ведаў, што гаварыў.

— Даары дня, і вон!

Аконам шпарка паехаў у двор, а парабак, унурыўшы галаву ў плечы, пайшоў за параконным плугам. У той жа вечар аконам як мае быць удаў парабка пану, і назаўтра, калі трэба было выбірацца на работу, парабка паклікалі ў аконамаўскую афіцыну і далі разлік.

Шмат дзён пасля гэтага хадзіў парабак па суседніх дварах, шукаючы месца, але ўсе пыталі, чаму не ў пару ён пакінуў служыць там, дзе дагэтуль служыў. А тым часам аконам пастараўся пусціць пра яго чуткі па дварах, і неўзабаве, калі толькі парабак з'яўляўся ў якім-небудзь двары, там ужо казалі яму проста ў вочы:

— А-а, ці не той гэта самы?

Думка тады з'явілася ў парабка раптам: ён пайшоў да пана прасіцца. Пан меў вясёлы гумар і адразу спаткаў яго рогатам:

— Добра ж ты сказаў, каб па жываце хлопала. Вясёлы ты чалавек. Жартаўнік.

Парабак тады пасмялеў перад панам:

— Паночку, няхай пан мне даруе і зноў прыме на службу.

— Э-э, не-не. Я ў гэтыя справы не ўмешваюся: аконам наглядае за работаю, ён і парабкаў падбірае.

— Я гэта, паночку, не на вас казаў...

— Не пра мой гэта ты жывот казаў?.. Ха-ха-ха...

Тады раптам іншая думка запанавала ў парабка: ён абышоў ужо ўсе навакольныя двары і ўжо ўсялякую на-

дзею страціў. Тут зноў жа не прымаюць і, відаць, ніколі не прымуць! Што рабіць?

— Дык няхай пан будзе ласкавы дазволіць мне пабудаваць хатку на тэй панскай камяніцы, што ляжыць аблогам, прападае марна. У мяне рублёў трыццаць ёсць сабраных за жыццё грошай, я куплю дзе-небудзь старыя сцепы і забудуюся. Хоць прытулак мець буду.

— Я, можа б, табе і дазволіў, але ж што выйдзе? Будзе тое, што на маёй зямлі будзе чужая хата стаяць. Як жа гэта можа быць?

Тут парабак заплакаў, можа, нават першы раз у жыцці. Пан тады ласкава ўсміхнуўся:

— Купі ў мяне валок пяць зямлі. Я прадам. Я ўвесь той клін, ад вёскі, збіраюся прадаць.

Парабак выцер слёзы і паставіў рубам сэрца:

— Пану добра жартаваць.

— Ну, дык і ты ж жартаўнік. Мы, значыцца, абодва сабраліся жартаўнікі: я табе зямлю прадаю, а ты мне па жываце хлопаеш.

Парабак скланіўся пану і пайшоў. Раптам нагадзілася пані: яна глядзела праз акно на ўсё гэта і цяпер выйшла на ганак, дзе сядзеў пан.

— Дазволь яму паставіць хату, нашто трэба не дазваляць яму. Мужыкі ўсё адно адкупяць зараз тыя палеткі.

— Чакай! — гукнуў пан.

Парабак вярнуўся, яшчэ здалёк знімаючы шапку.

— Стаў сабе хату з самага краю, ля мужычага поля.

Пакуль парабак пану дзякаваў, пан ужо не думаў больш пра гэта: пад'ехаў фаэтон — пан выязджаў кудысьці. Парабак адумаўся толькі тады, калі ўжо не было перад яго вачыма пана, адно пыл курэў з-пад гумавых колаў. От тады парабак радасна і рушыў на агляд панскага падарунка. Ён нешта дзён тры ўсё засаб прыходзіў сюды і кожны раз нёс адсюль у сэрцы сваім няясныя надзеі і сам сябе падбадзёрваў.

Зараз жа трэба было выбірацца з панскай хаты, і ён выбраўся сюды: жыў, як цыган, колькі часу ў хвойнічку, пакуль не апытаў старой хаты на знос. Перавезлі яму хату новыя яго суседзі: сяляне з блізкай вёскі, а склаў яе ён сам, і гэтакім парадкам над узбалоццем на ўзгорку з краю хвойнічку з'явілася малая, як кузня, хаціна.

Цяпер ужо чалавек, б'ючыся, як рыба аб лёд, шукаючы на людзях работы, робячы на блізкіх хутарах, пачаў прыглядацца бліжэй да зямлі, што была навокал яго хаты. Ён

думаў: мала што зямля ў гэтым куточку кепская, але, угнаіўшы яе, ўрабіўшы, даглядзеўшы, будзе неяк жа расці на ёй. Расце ж вунь у лажку неяк панскі авёс на ёй. І ён тады пайшоў да пана прасіць ласкі, каб той выпусціў яму ў арэнду з дзесяціну або дзве гэтай гляіцы.

— Э-э,— абазваўся пан,— што ж, я пусціў цябе стаць на маёй зямлі адной нагою, а ты захацеў на ёй цэлым тулавам легчы. Не-не, мне дробных пасэсараў не трэба.

Парабак папрасіў прабачэння і падаўся назад. Але ён не кінуў думкі пра гэтую зямлю: арэнды за яе пан не мог узяць вялікай, бо што гэта за зямля. А тым часам ён бы жыў на ёй. Ён бы даглядаў яе, угнойваў бы, урабляў. Ён быў бы сам сабе панам: ён пакінуў бы быць за парабка. А купіць дзялянчку зямлі — на гэта трэба грошы, дый не малыя. Ды дзе купіш крыху. Калі дзе чуваць прадаецца, дык усё больш.

Адным словам, кожны дзень, ідучы куды-небудзь на работу або тупаючы без патрэбы ля хаты, калі работы нідзе не знаходзілася (чалавек не мог уседзець ні хвіліны, склаўшы рукі), ён кідаў вока на лажок унізе і на камяніцу ў сябе пад нагамі, думка яго не магла спакойна мінуць гэтай зямлі, гэтак, як яго нябожчыка бацьку не пакідала думка пра далёкую радзіму. Бо гэта не быў ураджоны тутэйшы чалавек.

Калісьці князь, замак якога відаць адгэтуль у гарадку, вандруючы па Еўропе, прыслаў адтуль добрага аўчара: па княжацкіх маёнтках пачала шырока практыкавацца гадоўля мерыносных авец. Аўчароў прыехала некалькі, але разам яны не асталіся, а параз'язджаліся па маёнтках. Дык бацька гэтага чалавека і трапіў якраз у гэтую мясціну. Усе проста і думалі, што гэта прыехаў чалавек, які пры князю, пры пану будзе за паўпанка: нешта накшталт аконама або якога-небудзь вучонага майстра. Ажно ж як паглядзелі праз некаторы час, дык гэта проста самы звычайны пастух, адно што знаецца вельмі на гэтакіх гатунках авец. Ён іх сам з сынам і жонкаю пасвіў, гэтыя авечкі, ён іх сам даглядаў, сам лячыў, нават сам раз быў назначыў час, калі ветэрынар павінен быў усёй чарадзе зрабіць прышчэпкі ад матыліц. Часта, седзячы ля аўчарні на сонцы зранку і чакаючы, пакуль спадзе раса, калі льга будзе выгнаць на пашу авечкі, ён усё ўздыхаў па далёкай бацькаўшчыне.

— Ну, дык чаго ж трэба было ехаць сюды, за свет, калі

ніяк нельга болю па бацькаўшчыне ўтаймаваць? — запыталі яго.

Пакуль адказваць, ён закінуў рукі за сваю магутную загарэлую шыю і маўчаў гэтак колькі часу. А пасля адказаў. І тады даведаліся, што было там у яго краіне паўстанне. Той, супроць каго паўставалі, узяў верх, і, значыцца, хто быў у паўстанні, павінен быў уцякаць адтуль. Гэтакім парадкам і ён з сям'ёю выехаў і, мусіць, назаўсёды. Сын яго тады быў яшчэ зусім, можна сказаць, у дзіцячых гадах.

Прозвішча гэтай сям'і было — Гушкі. Сын зваўся Леапольд. Іх пачалі клікаць немцамі, дык яны пачалі крыўдзіцца: мы не немцы. Наша радзіма не Нямеччына, наша радзіма Сілезія. Тады іх пачалі клікаць — слянзакі.

Стары Гушка памёр тады, калі сын быў дарослы хлопец. Маці тады ўжо жывой не было. Сын кожны год наймаўся ўжо ў блізкі панскі двор за сезоннага аратага, а пасля і зусім там астаўся за парабка. Радзіму сваю ён найбольш памятаў з бацькаўскіх расказаў, хоць і сам ён крыху памятаў: яна паўставала ўваччу яго, як штосьці далёкае, гэтакае, якое ўяўляецца маленства даросламу чалавеку. У цяжкія хвіліны жыцця ён сумысля выклікаў у памяці сваёй гэтую сваю радзіму: на чужыне цяжка жыць. І ён распальваў у сабе тугу. Гэтак было і той раз, калі аконам прагнаў яго з работы і калі ён ніяк не мог дайсці панскай ласкі. Жонцы, а пасля і дзецям, ён не мог ніколі на гэта паскардзіцца: жонка была ўжо тутэйшая.

Леапольд Гушка быў адметны ад тутэйшых людзей, штосьці было адмысловае ў яго вымаўленні. І яшчэ — гэтак як і бацька — насіў ён не гэткую, як усе тут, шапку: нешта накшталт магеркі з брылём.

## 2. Стары Сурвіла і малады Сурвільчык

Пасярод брукаванага рынку ў гэтым пяцьдзесятвулічным заштатным гарадку стаяў змрочны будынак — два паверхі і вежа. Першы паверх быў схаваны за паўкругам дробных крам, з якіх гандляры, небаракі, прыкаваныя да рысы аседласці, напрамілуй бог заклікалі да сябе людзей. Гармідар у свята ці ў кірмашны дзень быў страшэнны. Над жалезным крамным дахам узвышаўся верх будынка і вежа, не лішне высокая, але гэтакая, якая яна і павінна быць паводле таго, нашто яе калісьці будавалі: малюсенькія акенцы, як у астрозе, адно над адным, з якіх і

страляць льга і наглядаць, ці далёка ад горада стаў варожы аблог; і верх — готыка. З сярэднявечча захавалася за гэтай будынінай назва — ратуша. Аблупленая змураваная цэгла прастаяць можа яшчэ не мала часу. Над уваходам у ратушу шыльда паведамляла, што ў гэты стары мех гісторыя ўліла новага віна і віно гэтае тут трымалася як не трэба лепш. На шыльдзе было напісана: «Канцелярия городского пристава». От у нядзелю, калі адбылося ўсё тое, пра што ў гэтым раздзеле будзе гаварыцца, гэты самы прыстаў і сядзеў перад гэтым самым уваходам на лаўцы. Ён быў проста як лялька. Мясцовы цырульнік толькі што яго выгаліў, а старэйшы пісар у яго канцылярыі толькі што нацёр яго па нагавіцах і па сурдуце пруткаю шчоткаю. Бялявыя вусы з рыжым адлівам былі заядла падкручаны. Ён сіберным вокам ласкавага бацькі акідаў аддадзены пад яго апеку і ахову горад: ці няма дзе чаго крамольнага або проста непатрэбнага вялікай матушцы Расіі.

Было ніштавата часу па паўдні. Даўно адзванілі ў царкве — адпраўлялася праваслаўная імша. Ад'енчылі таксама і касцельныя званы: адпраўлялася імша каталіцкая. Сонца апякала горад, народ варушыўся ў ім. На ганках у касцёл і ў царкву стаялі натоўпы старцоў — сляпыя, крывыя, хворыя, няўдалыя. Лернікі круцілі корбы і падспеўвалі пад свае леры, не маючы часу працерці гнойныя вочы. Бязрукія паказвалі сваё голае калецтва і енчылі, вымушаныя ператварыць свае няшчасці ў прафесію. У працягненыя рукі, у раскладзеныя шапкі людзі кідалі медзякі — людзі, у галоўнай масе сваёй мала чым не падобныя на гэтых старцоў: святочны шарачак, святочнае зрэб'е, святочныя лапці нават. Адно што зрэб'е было памыта, і ў ім не было нечыстаты. Шэрыя твары, без пары старыя, без пары атупелыя. Калі з царквы выйшла працэсія і сухарлявы папок узняў над народам крыж, народ упаў на калені, не так дзякуючы бога за яго ласкавыя міласэрнасці да сябе, як проста баючыся ягонай помсты. Натоўп быў повен бяздум'я. Працэсія пайшла навокал царквы, і следам за ёю пацягнуўся народ, устаючы з кален. Старцам загадана было сціхнуць. Па самым перадзе працэсіі, крокаў за дваццаць ад яе, трымаючыся рукою за тронак шаблі, плыў паліцэйскі арол. А самую працэсію пачынаў дубаваты нізкі чалавек; голеная барада, вусы, кангеровы пільчак з павыціранымі крыху штрыфлямі. Ён нёс крыж і твар трымаў надзьмуты, як і трэба было рабіць у гэтакую ўрачыстую часіну. А за ім ужо ішлі пратэсы,

абразы, пеўчыя, папок і багамольны народ. Абышоўшы навокал царквы, працэсія рушыла ў горад. Але на галоўнай вуліцы раптам ёй перагарадзіла дарогу каталіцкая працэсія. Гэта было нечакана ні тым, ні гэтым. Ісус і Езус на крыжах, што пачыналі кожны сваю працэсію, не пазнаўшы адзін аднаго, каб траха, дык бразнуліся б адзін аб адзін. Пасля гэтакай сутычкі крыжы спыніліся, а за імі спыніліся і працэсіі. Ісуса на крыжы трымаў чалавек з надзьмутым тварам у кангеровым пільчаку, а Езуса трымаў шляхціц, таксама вусаты і высокі, і адно што ўзверх пільчака, ці што там у яго было, на яго нацягнена была закрыстыянская комжа. Каталіцкая працэсія выйшла з рога суседняй вуліцы, і паліцэйскі арол, перад праваслаўнаю працэсіяй, ад нечаканасці спачатку сумеўся.

— Пане Сурвіла,— сказаў вусаты шляхціц у комжы,— падайцеся крыху набок, мы пройдзем паўз вас, размінемся.

Праваслаўны крыжаносец яшчэ больш надзьмуў твар і хацеў ужо нават і сапраўды саступіць дарогу, але раптам заўважыў, што адважны паліцэйскі арол падняў угару рукі і падаў каталіцкай працэсіі маўклівую каманду ачысціць дарогу. Тады ў Сурвілы загаварыў патрыятызм:

— Яно-то вам, пане Мазавецкі, спрытней было б падацца на бок, у вас менш пратэсаў.

— Але нашы харонгі цяжэйшыя.

— Асадзі назад! — раўнуў раптам адважны паліцэйскі.— Жыва! Марш!

Мазавецкі адскочыў убок як апараны, а за ім сышла набок і ўся каталіцкая працэсія — харонгі, два балдахіны з ксяндзамі, народ. Паліцэйскі арол адважна рушыў паўз пераможанага ворага, а за ім пайшла і ўся праваслаўная працэсія. Яна выйшла на рынак. Як падыходзіла яна пад ратушу, прыстаў узяў пад казырок і пайшоў поплеч з паліцэйскім. На рынку шмат было народу. Працэсія ішла ў шырокім праходзе паміж вазамі, народ не зводзіў з яе вачэй. Як яна адышлася крыху, зноў пачалася кірмашная сумятня: чуўся металёвы звон — сяляне выпрабоўвалі косы, крамары заклікалі кожнага да сябе, старцы раптам заспявалі на рынку ўжо; тлум гэты павялічваўся яшчэ ад царкоўнага і касцёльнага звону. Назад працэсія варочалася ўжо іншаю дарогаю, але прыстаў адарваўся ад яе раней — ён зноў сядзеў на лаўцы перад ратушаю, раз-пораз у прымаючы рапарты ад сваіх удалых службістаў пра тое, як цячэ ў гарадку жыццё ў гэтакі тлумны дзень.

Тым часам касцельная працэсія таксама ўжо адхадзі-

ла сваё. Набажэнства ў касцёле канчалася. Да касцельнай брамы панскія фурманы пачалі падаваць фаэтоны. Самы дарагі фаэтон стаяў перад самаю брамаю, фурман ледзьве стрымліваў спрыт мышастых рысістых коней. Ля фаэтона даўно ўжо цёрся высокі чалавек: хто быў у працэсіі або бачыў яе, пазнавалі, што гэта той самы крыжаносец, шляхціц Мазавецкі. Ён распытваў у фурмана, а ці пан адразу паедзе дадому, а ці ў добрым ён сёння гуморы, а ці сапраўды ўжо ён як мае быць намерыў спрадаць кавалак зямлі ад вёскі.

Нарэшце, перад самым канцом набажэнства, выйшаў з касцёла пан з паняю. Паню падтрымлівалі пад рукі пакаёўкі. Пан падняўся да фаэтона. Зараз жа падскочыла некалькі ні то збяднелых паўпанкаў, ні то так сабе няпэўных местачкоўцаў і траха не пабіліся за права пасадзіць пана ў фаэтон. Пан даў ім па паўрубля гасцінца, і яны тут жа пайшлі адразу ў піўніцу наладзіць паміж сабою мір і згоду. Пан сядзеў ужо ў фаэтоне, як падышоў да яго Мазавецкі.

— Дзяньдобры, вяльможны пане!

— Дзяньдобры, дзяньдобры, Мазавецкі!

— Я дазнаўся, пане, што маеце ласку прадаць зямлю?

— Прадаю. А які інтарэс маеш?

— Я, вяльможны пане, хачу купіць.

— Не купіш.

— Няхай пан будзе ласкавы сказаць чаму.

— Я ў раздроб не прадаю, а ўсё цалкам. Тут трэба або вялікага купца, або згрупавацца, калі купцы гэтакія, як ты. Згуртуй людзей.

— Паспрабую, пане.

— Язда! — гукнуў пан, і фурман пагнаў коні.

Мазавецкі тут і забегаў. Перш за ўсё ён акінуў розумам, хто тут з тутэйшых людзей можа купіць зямлю. Адразу яго думка спынілася на Сурвіле. Пакуль што ён больш не думаў, а адразу рушыў да царквы. Адправа яшчэ не скончылася. Яшчэ спявалі камусьці «многая лета». Мазавецкі ўвайшоў у царкву і пачаў азіраць народ. Сурвілу ён убачыў ля кліраса, той спрытна падцягваў царкоўнаму кліру задзірыстым голасам. Мазавецкі цярпліва чакаў. А пакуль прычакаў, дык глядзеў і слухаў і разважаў у думках. Філасофія яго ішла ў такім кірунку: «От бо хамская гэтая руская вера. Поп гэты — дык няма, каб паважна, як, напрыклад, ксёндз, рабіў адправу, а пакручваецца, як на ражне, неяк, нават, здаецца, некуды падмірг-

вае адным вокам. А пеўчыя проста дзяруць, як дзеркачамі. Хоць бы гэтаму Сурвілу загадалі змоўкнуць, а то як цвікам па блясе скрабе або кажухом па печы. А Хрыстос — дык таксама не па-людску на крыж прыбіты: не адным цвіком у дзве нагі адразу, а па цвіку ў кожную нагу. От тут і трымайся гэтай веры як хочаш. Дурныя гэтыя мужыкі, што ў каталіцтва не пераходзяць». Тут ён успомніў, што нядаўна, ведучы каталіцкую працэсію, вымушан быў даць дарогу працэсіі праваслаўнай, якую вёў Сурвіла. І падумаўшы пра гэта, сказаў сабе пад нос з горкім расчараваннем: «І не пяройдуць ніколі, калі век вечны будзе гэтакае права». Хацеў нават плюнуць, але ўсё ж не пасмеў у святым, хоць сабе і ў праваслаўным, месцы гэтак злосна выказваць свой настрой. Тым часам клір царкоўны пажадаў рускаму цару здароўя, і Сурвіла, перасмыкнуўшы себе «крестным знамением», загрукаў ботамі, выходзячы з царквы. «От мужык,— падумаў Мазавецкі,— нават і тут ступіць далікатна не ўмее».

— Пане Сурвіла! — тузануў ён яго за рукаў.

— Га?

— Маю да вас інтэрас.

— Які?

Яны разам выйшлі на двор і пайшлі поплеч.

— Тут і ўсялякі дурны галетнік забагацеў бы.

— Дзе гэта?

— А от што пан зямлю прадае. У раздроб не хоча, дык трэба добрым гаспадарам згуртавацца і адкупіць. Не чулі хіба, што пан зямлю прадае?

— Чуць-то чуў.

— Ну дык чаго ж?

Пакуль яны прайшлі палавіну дарогі да Сурвілавага воза, дык ужо гладка дагаварыліся да таго, што ім абодвум патрэбна было. Мазавецкі, часамі нават трымаючы Сурвілу за локаць, гэтак развіваў свае думкі:

— Вы, пане Сурвіла, не думайце, што мы прагадаем, калі збяром на гэтую куплю вялікі гурт. Мы можам нават усялякае галетніцкае драбязы назбіраць, няхай дадуць хоць па сто рублёў кожны. На гэтыя грошы мы і адрэжам кожнаму, колькі яму варта будзе паводлуг яго часці. Нам абы не выпусціць, пане Сурвіла, я ж кажу, з рук лепшых кавалкаў, нават каб і па паўвалокі захаваць за сабою, але я думаю, што і па валоцы, а можа, нават і больш загорнем у рукі. Галетніцкая драбяза, я ж кажу, нам не страшна. Абы іншага купца сюды не пусціць. Бо

тады, калі захочам у яго адкупіць крыху, дык яму зарабіць трэба будзе даць не малыя грошы. На колькі ў вас, пане Сурвіла, грошай можа хапіць?

Сурвіла адказаў не адразу. Гэта Мазавецкі адразу можа сыпануць словамі: розум ён мае вастрэйшы. А Сурвіла дык гэты мае галаву тупейшую і мазгі павальнейшыя. Але ўжо затое калі наважыць што, дык тады ніхто яго не перапрэ. Калі ўжо ў які бок яго мазгі павернуцца, дык хоць калом іх тады падважвай, усё адно назад не адвернеш. І цяпер, падумаўшы, колькі яму ў меру трэба было, ён усталяваў думку, што і сапраўды лепш не прыдумаеш. Дык ён кіўнуў галавою ў знак згоды. Мазавецкі зноў загаварыў:

— Ну, дык згуртоўвайце людзей, якіх ведаеце, а я таксама не буду спаць у шапку.

— Гэта трэба падумаць каго. Спрадвеку кажуць, што хаўрус — гэта гнюс. Вазьмі каго ў хаўрус не памеркаваўшы, дык тады...

— Ну, дык памятайце... от, напрыклад, першага гэтага слянзака, Гушку гэтага. Ён даўно падае, каб дзе зямлі. А тым часам у яго сёе-тое з грошай павінна знайсціся. Я хоць у яго кішэню не глядзеў, але думаю, што ён сабраў крыху. Ён зборлівы чалавек. І працавіты. Ён у мяне з сям'ёю вясною як рабіў на полі падзённа, дык — я ведаю: ты адно націскай на яго, і ён табе, як вол, будзе работу варочаць. Вам гэта трэба з ім пагаварыць, бо тая мясціна, дзе ён пабудаваў сабе хату, якраз жа з вашым палеткам мяжуецца. І вам, купіўшы, якраз прыйдзецца браць тую зямлю, што датыкаецца да вашай мяжы.

— Гэта праўда.

— Ён якраз сёння тут. Я яго на імшы ў касцёле бачыў. От вы яго зараз жа і знайдзіце... А не, дык я яго зараз, напэўна, убачу, ён яшчэ павінен быць ля касцёла, я яго, напэўна, па дарозе спаткаю, я ў той бок іду.

— Добра. Прышліце яго сюды, я буду ля свайго воза, ля ратушы.

Гаворачы гэтак, яны падышлі пад ратушу. Прыстаў усё яшчэ сядзеў там, але ўжо на крэсле. Перад ім стаяў маленькі складны столік, і ён на ім запісваў у кнігу прозвішчы праштрафленых за неашта на кірмашы сялян. Ён быў адданы службіст і перад народам сам любіў часта рабіць гэтакую работу.

— От і воз мой,— сказаў Сурвіла.

Мазавецкі ўбачыў Сурвілаў воз, прывязаную да яго

добрую кабылу, пярэднімі нагамі на расцярушанай зялёнай кошанцы, і на возе ніштаватую дзежачку.

— Прадаваць што прывезлі, пане Сурвіла?

— Не, гэта мёду прыставу.

Сказаў ён гэта важна і шчыра, бо цяпер трэба было паказаць Мазавецкаму, што з ім, з Сурвілам, не страшна пачынаць гэтакую вялікую справу, як купля зямлі ў пана: з ім жа сам гарадскі прыстаў добра, значыцца, знаёмы. Але пра гэтае знаёмства Мазавецкі і так добра ведаў. Ведаў нават (пра гэта адразу цяпер падумаў), нашто Сурвіла прыставу і мёд гэты якраз бо сёння прывёз: усе гаварылі, што Сурвіла мяркуе ўмясціць свайго сына прыставу ў пісары. Сына, гэтага ўрвіцеля, якога за распусту тым годам звольнілі з гімназіі.

Мазавецкі пайшоў. Сурвіла пачаў чакаць, пакуль прыстаў скончыць.

Нарэшце прыстаў вызваліўся. Ён устаў, пацягнуўся перад усім народам, заядла пазяхнуў, аж сківіцы ў яго трэснулі, і зрабіў выгляд, што толькі цяпер заўважыў Сурвілу.

— Здрастуйце, гаспадзін Сурвіла,— адказаў ён на сурвілаўскае прывітанне.

— Я хацеў бы да вас на двор заехаць, на малы час,— папрасіў Сурвіла.

Усё адно як святы дух сышоў раптам на прystава — гэтак адразу ўсё яму ясна стала, нашто гэта Сурвіла набіваецца ўз'ехаць да яго на двор. І ён адразу, у знак таго, што дазваляе гэта Сурвілу, адказаў:

— У мяне было суждзеніе ў канцэлярыі. Вашага сына прыняць прыйдзецца на службу...

Сурвіла, не чакаючы фармальнага дазволу, шпарка ўпрог у аглоблі кабылу і рушыў на двор ратушы. Прыстаў падаўся ў дом. Неўзабаве пакаёўка прымала на двары ад Сурвілы дзежку з мёдам, а сам прыстаў стаяў на ганку і запрашаў Сурвілу, паказваючы рукою на лаўку:

— Садзіцесь, гаспадзін Сурвіла.

Сурвіла сеў і адразу расказаў, якую яны з Мазавецкім справу пачынаюць рабіць. Прыстаў зацікавіўся і нават парады пачаў падаваць. Відаць было адразу, што калі тут будзе яшчэ адна дзежка мёду, дык справа можа дайсці нават да самага гарачага сяброўства. Тым часам падышоў і сам малады Сурвіла — пульхны, выглянсаваны хлопец. Прыстаў яго адразу і прывітаў з пачаткам яго

кар'еры: пакуль што, вядома, пісарчук, але кожны спрытны чалавек павінен выслужыцца.

— Я і сам пачынаў з малога чыну,— пацвердзіў прыстаў, і Сурвільчык спрытна падзякаваў, шмаргнуўшы падэшваю чаравіка па ганку.

Прыставу гэта вельмі спадабалася. А тут яшчэ ўзрадаваны стары Сурвіла падаў танюсенькую, далікатную, як толькі ўмеў, заўвагу, што ў яго яшчэ пчолы не звяліся, таксама і парсюкі кормяцца гэтакія, што хоць у Варшаву адпраўляй. Прыстаў тут адразу выказаў першыя адзнакі сяброўства і прыхільнасці сваёй да абодвух Сурвілаў. Гэтак удала, пад гэтакаю паважнаю апекаю, Сурвільчык пачынаў у гэты дзень сваю кар'еру.

Леапольд Гушка знайшоў Сурвілу на гэтым самым ганку. Прыстаў усё яшчэ гутарыў з Сурвілам. Гушка крыху прыбянтэжыўся, убачыўшы прыстава: гэтакага начальства гэтак блізка бачыць ён не спадзяваўся, калі ішоў сюды. Сурвіла паківаў яму пальцам:

— О-о, сюды, сюды!

Гушка падышоў. Прыстаў здзіўлена глядзеў на дзіўнага чалавека: нялюдская нейкая шапка была на ім. Сурвіла растлумачыў:

— Гэта пра куплю зямлі будзем згаворвацца з ім.

— І ён купляе зямлю?

— Думае.

Прыстаў тут глянуў на Гушку як не на якую-небудзь зусім драбязу. Гушка ўсё стаяў сумеўшыся.

— А чаму ў вас шапка гэтакая?

— Гэта, пане, у мяне захавалася, як у нас там носяць.

— Дзе гэта?

— Мы, бацька мой, значыцца, з Сілезіі прыехаў сюды.

— Але падданства расійскае вы ўжо маеце?

Гушка спярша падумаў, што гэта пытае прыстаў. Пасля здагадаўшыся, вінавата скрывіў губы ва ўсмешку:

— Не, мы падданства не прымалі.

— Дык як жа вы зямлю збіраецеся купляць, не меўшы тутэйшага падданства?

Гушка збянтэжана маўчаў.

— Як жа гэта, павінны прыняць падданства.

Тут Сурвіла падаў голас:

— Ну, калі трэба прыняць, дык і прыняць. Што ж там!

Гэта было Гушку, як перун з неба: спачатку, калі Мазавецкі, спаткаўшы яго па дарозе з касцёла, растлумачыў яму, пра што яму варта пайсці пагаварыць з Сур-

вілам, ён адчуў, як радасная надзея яго ўсяго ўскалыхнула: сярод добрых людзей, разам з імі, ён як-небудзь агорае сабе зямлі крыху і пачне жыць па-чалавечы. Толькі думка пра грошы адразу разанула яго. Але Мазавецкі растлумачыў, што на дзесяціны дзве або тры адразу не так шмат грошай і трэба: трэба на задатак, а пасля можна на выплату. Леапольд Гушка падумаў: можна на гэтакую шчаслівую справу і адзежу, якая ёсць, прадаць, і нават усё, што ў хаце ёсць; пакрысе, жывучы, зноў гэта набудзецца. І ўдзячны Мазавецкаму і Сурвілу, што яны пра яго ўспомнілі ў гэтакай справе, што хочуць яму памагчы, пайшоў да ратушы. Тым часам падданства гэтае яго ашаламаніла. Ён адно развёў рукамі і не ведаў, што сказаць. Прыстаў нават ужо гатовы быў убачыць тут крамолу. Тут Сурвіла зноў сказаў:

— Што ж, падданства, дык падданства.

І пачаў збірацца дадому. Сын яго пайшоў ужо ў горад: з бацькам цяпер ён ужо дадому не паедзе, астанецца тут, заўтра яму ў канцыляры і трэба быць. І заўтра ж бацька зноў сюды прыедзе, улягоўваць яго на кватэры.

Сурвіла міргнуў Гушку, каб ён садзіўся на воз. Той сеў. Сурвіла горадам праехаў паволі, каб не трэсла па бруку. А за горадам пагнаў кабылу моцна. І ўсю дарогу ўгаварваў Леапольда Гушку, што яму адно і застаецца — прыняць падданства. Гушка маўчаў, звесіўшы ногі з боку драбіны над дарогаю. Магерка з брылём налезла яму на самыя вочы. Святло радасных надзей туманілася тым, пра што ён дагэтуль ніколі не думаў.

### 3. Пустая хата

У нядзелю зранку высокі хлопец падышоў да Гушкавай хаты. Відаць, ён не малую дарогу прайшоў шпарка, бо расчырванеўся ад хады. Ён прайшоў упоперак праз хвойнік і, стаўшы ля хаты, аднамомантным зіркам акінуў навокал тут разлегласць і як бы з расчараваннем нейкім хутчэй падаўся ў хату.

— От і Адаська,— спаткала яго з парога яшчэ ў хаце жанчына.— Як жа гэта ты, сынок?

— На нядзелю адпрасіўся ў аконама, а пару коней маіх таварышы там сёння дагледзяць. А ўвечары зноў там буду.

— Ну, як табе на новай службе?

— Ат, мама, што тут лішне гаварыць, от служу.

— І нічога аконам не ўспамінае табе таго, за што бацьку прагнаў са службы?

— Не... Яшчэ не ўспамінаў.

— От, можа, гэтак і лепш будзе, на сталай службе. А то, як дагэтуль, улетку арэш, а зімою і работы не дастаць.

Сын на гэта нічога не адказаў, а пачаў прыглядацца да ўсяго, што рабілася ў хаце. Тут быў сапраўдны рэзрух. Крывабокая, абточаная ўся шашалем шафа стаяла адцягненая ад сцяны. Яна была адчынена. У ёй было пуста. На лаўцы перад ёю ляжала ўся выбраная з яе адзежа: бацькаўская святочная, кароткая да кален, футэрка на заячых скурках, мацерына паліто на ваце, усе яе святочныя спадніцы — і дзявочыя яшчэ і пасажныя; бацькаўскія святочныя боты, што адзяваліся на ногі разы са два на год, не больш, і хаваліся ў шафе ўжо гадоў, напэўна, ці не больш за пятнаццаць; ці не шлюбныя нават гэта яны былі? Усё гэта маці звязвала ў клункі, старанна ўкручвала ў чыстыя дзяружкі.

— Што гэта ў вас робіцца гэтакае? Дзе бацька?

— Бацька? Бацька зараз прыйдзе. А гэта — гэта мы, сынок, зямлю купляем.

— Якую зямлю?

— Ты даўно не быў дома, дык нічога і не ведаеш. Пан тут зямлю прадае. Хаўрусам купляюць людзі, дык і мы ў хаўрус прысталі. На дзве дзесяціны наважыліся.

— На дзве дзесяціны?

— На дзве. Хоць і спрадамо ўсё, але бацька кажа, і праўду кажа, што спачатку колькі год перагараваўшы, а пасля з даўгоў вылезшы, хоць па-чалавечы льга будзе пажыць. Ні на чыю ласку апірацца не трэба будзе. Тады ні да якога пана за парабка не трэба будзе ісці прасіцца...

Яна весела ўсміхнулася, сціраючы чорным ручніком канец лавы, дзе б мог сын прысесці.

— ...Што, сапраўды ўелася ў косці век парабкам быць, за панскіх слуг. Рабіўшы, стараючыся, дык і на дзвюх дзесяцінах льга жыць. Людзі жывуць. А гэта — што папродаем увесь свой гэты абыходак — дык яно, жывучы, пажывецца зноў... Нажывуцца гэтыя анучы...

Яна ўсё ж сумна глянула на сваё паліто і на мужавыя боты і хутчэй загарнула іх у дзяругу.

— ...Шафу таксама прадаем... гэтак, па рублю, па два, збяром на задатак, а рэшту выплачваць будзем. Некаторыя, хто багацейшы, дык тыя на дзесяціны дзве ўсё адра-

зу плацяць. А ў нас — дык Сурвіла бярэцца пасля задатку нашу частку заплаціць, а мы яму будзем выплачваць, а за фатыгу яму адробім пакрысе.

— За фатыгу адробіце? А ці не прагадаў бацька?

— Ну, а што ты іначай парадзіш. Як жыць? Можа, дзе цяпер за парабка зноў прынялі б, дык, сказаць, ужо не хочацца. Ліха яго бяры, нават калі там што якое... знаючыцца... дык горш усё адно не будзе.

Сонца засвяціла проста ў акенцы гэтай хаціны, рухавы пыл пайшоў па хаце ад акна залатым слупам.

— Я ж яшчэ ў печы не падпальвала, кешкаючыся. Можа, ты і есці хочаш пасля дарогі?

— Нічога, вяжыце сабе, рыхтуйцеся...

Жанчына глянула на сына нейкім баязлівым позіркам, пачуўшы ў яго ных словах як бы здзек. Штосьці яна хацела сказаць, але ён шпарка выйшаў з хаты. Яна асталася адна. Рукі яе апусціліся, не давязаўшы вузла, і рагі ў прасцірадле распаўзліся з-пад рук, а з прасцірадла зноў з'явілася перад яе вачыма чыстая адзежа, на якую дагэтуль яна не дазваляла і пылінцы сесці. Раптам яна ўстрапянулася і завязала клунак. Усё было скончана, цяпер яна пачала брацца за печ.

На двары Адась пачуў лёскат драбін. Ад вёскі, паўз хвойнік, ехаў хлопец з вёскі, Павал Няміра, і поруч з ім на возе сядзеў бацька. Не даязджаючы яшчэ да хаты, ён убачыў сына і саскочыў з драбін яму на спатканне:

— Адаська, ты бачыш, што мы робім? Маці казала ўжо табе, ці ты яшчэ ў хаце не быў? — загукаў ён шырокім сваім гарлавым голасам, весела пасміхаючыся сыну.— Ты адно паслухай. Гэта ні то што за парабка. Тут сярод людзей... Няхай яму там і сапраўды па жываце хлопае. Ха-ха-ха... Адаська, хадзем у хату хутчэй.

Бацькава жыццярадаснасць штурханула і Адася. Ён пайшоў поплеч бацькі, а ззаду пад'язджаў Няміра. Як злез Няміра з воза ля хаты, Адась тады заўважыў, што ён як бы ў дарогу сабраны: гэтак Адась дагэтуль прывык яго бачыць толькі тады, калі ён ехаць куды збіраецца. Суконная, не па леце, вопратка была на ім падперазана, а на нагах былі грымучыя боты.

— Куды сабраліся? — запытаў Адась.

— Ну, а з бацькам жа тваім. У места.

— Павязом, брат, набытак прадаць. (Бацька ўздыхнуў, але тут жа адагнаў ад сябе гэтую хмурнасць і напусціў на сябе ранейшую гаварлівасць.) Чорт яго бяры, гэ-

тыя транты, па-чалавечы жыць хачу. (Гаваркі гэтакі бацька ніколі не быў дагэтуль. Натура яго бадай што пачала рабіцца маўклівая.) Я табе, Адаська, скажу па-бацькоўску. Ты яшчэ быў малы, як я першы раз падумаў быў, каб як ад панскага парабкоўства адчапіцца, але і бацьку пахаваў свайго пасля гэтага, а ўсё за парабка служыў. Ах, ліха яго бяры. Ведаеш, сынку, я падаў прашэнне і ўсе паперы, што трэба былі, якія я меў, якія бацька мне пакінуў, каб прыняць расійскае падданства. Без гэтага — зямлі нельга купіць, сам прыстаў мне пра гэта казаў.

На сынавым твары нічога не заўважыў ён новага ад гэтага паведамлення.

— Я табе, сынку, скажу. Я меркаваўся з маткаю. Мы з ёю ўсё перагаварылі. Я здаровы чалавек, я вазьмуся за справу гэтак, што ніхто ніколі гэтак не браўся. Мы з маткаю дамо рады і даўгам і зямлі. І на чужым кані рабіць доўга не буду — як бачыш свайго прыдбаем. А ты, сынку, якім рублём і паможаш бацьку. Калі пачнецца свая гаспадарка, дык і ты тады парабкоўства кінеш. Тым часам Антось яшчэ малы, ён па людзях паробіць пакуль, а Марылька пры хаце будзе...

Увайшлі ў хату, і ён, не спыняючы гаворкі, пачаў хапаць клункі і пакаваць у воз. Пасля з Нямірам вынеслі шафу і ўвязалі яе вяроўкамі, а пасля яшчэ сёе-тое вынеслі, так што маці аж не стрывала:

— Ой, гэта ж нічога ў хаце не астанецца.

Бацька на гэта нічога не адказаў, і яна памагла ўмасціць воз.

Няміра, як сабралі ўжо воз як мае быць і гаспадыня паклікала ўсіх у хату снедаць, паглядзеў на воз, паківаў галавою і не сцярпеў:

— Я думаў, што вы адно сёе-тое прадасце, аж вы ўсё як ёсць. Што ж у вас асталося пасля гэтага? Вы ж на дзвюх дзесяцінах, калі нават вы іх і выкупіце, ці набудзеце ўсё гэта назад?

— Я за парабка быў і набыў,— хмурна абазваўся Гушка.

— Унь мы жывем на дзвюх дзесяцінах, дык скажу вам, што яны, гэта дзве дзесяціны, самі з'ядаюць усё, а нічога не даюць. Ніхто з нашай сям'і на лепшую адзежыну ніяк не ўзаб'ецца каторы год, хоць і не трэба мне набываць гаспадаркі ўсяе спачатку, як гэта вам прыйдзецца.

— А што ты зробіш,— панура абазваўся Гушка, і ў голасе яго загучала ўпартая нецярплівасць.

Няміра адно пацiснуў плячыма.

— От жа бачыш. Што ж, ісці мне на дарогу рабаваць людзей?!

Няміра зноў пацiснуў плячыма.

— У пана — во! (развёў як мог шырока рукі з выстаўленымі далонямі), а ў мужыка — во! (звёў цесна далоні і апусціў галаву). Што, ён гэтую зямлю сам рабіў, сам ствараў яе, што прадае?! Бацькі яго ў народа гэтую зямлю адабралі, награбілі, а цяпер прадаюць?! Каб яны сцежкі пад нагамі не бачылі!

Гаспадыня адно згарнула рукі, і слёзы блiснулi на яе вачах. Гушка панура палез за стол, за ім сеў і Няміра. Адась, не ўзяўшы анічога ў рот, сядзеў ля стала, унурыўшыся. Пасля як сам праз сябе сказаў Няміравы словы: «У пана — во, а ў мужыка — во!» Развёў і звёў рукі.

— Будзем хутчэй снедаць,— сказаў бацька.

— Трэба ж ехаць,— згадзіўся Няміра, і заклапочаны твар яго набыў звычайную цягавітасць. Ярмо жыцця!

Паволі пачалі яны варушыцца ля воза, выязджаючы з двара. Гушка адно пацешыў сам сябе:

— Добра, што я раней купца згаварыў, цяпер адно: завесці і аддаць, а то прыйшлося б вандраваць, каб не гэта, па ўсім горадзе. Паедзем, Няміра, ці што?

Адась успёрся на плацец і пачаў глядзець на балота пад узгоркам. Маці асталася адна, святым днём можна было цяпер і сябе дагледзець, нічога жывога пры хаце яшчэ ў гэтакіх гаспадароў не было. Яна села на парозе з сянец на двор і пачала вычэсваць галаву. Сонца свяціла ёй проста ў твар. Раптам яна ўспомніла:

— Адаська, ты ж не еў нічога.

— Я пачакаю Марылькі. Дзе яна?

Чамусьці яна ўстала і падалася глянуць у хату. Там былі сапраўды пустыя сцены. Яна, як аслупянелая, стаяла некалькі хвілін, пасля не вытрымала жаночае сэрца: вельмі горна было жанчыне ў пустой, у голай хаце пасля Няміравых слоў, пасля таго, як Адаська нешта стаў маўклівы адразу... Яна села ў мыцельніку на ўслон і заплакала. Недачэсаныя валасы закрылі ёй вочы, і яна не адгортала іх, пакуль не выплакала ўсіх слёз. Адно толькі будзённае зрэб'е асталося ў яе: нават і пасажная ўся адзежына, што ад бацькі прынесла, пайшла ў ход. Што ж з усяго гэтага будзе? Як будуць жыць дзеці? Як там меншаму ў чужых людзях? Марылька вырастае, і што чакае яе?

Яна так і не прычакала ў той дзень, калі Адась зноў прыйдзе ў хату. Як аслупянелая яна сядзела на лаве ні то ў дрымоце, ні то ў забыцці. Яна праседзела гэтак, аж пакуль сонца не апускацца пачало кудысьці там, па той бок каржакаватага хвойніку на горад.

— Адась! — гукнула яна, адумаўшыся, але раптам схамянулася: — Гэта ж з паўдня ўніз рушыла!

І кінулася з хаты. А там ужо неўзабаве сам гаспадар, Леапольд Гушка, варочаўся дадому. Ён вельмі рухава ўваходзіў у двор.

— Скончана,— сказаў ён,— грошы ў кішэні. Заўтра адно трэба будзе Сурвілу іх перадаць, а ён ужо там паверне іх, куды трэба. Ён і Мазавецкі — удвух з панам справу маюць.

Яны пачалі гаварыць удваіх, сеўшы на парозе, і зноў ясныя, бясхмарныя надзеі апанавалі імі. Леапольд Гушка як бы малады стаў, гэтакі, які быў, калі сватаўся яшчэ да яе. Ён усё на сваіх плячах вынесе! Ён усё зробіць! Разам з ім усё, што трэба, каб жыць, набудзецца! І яна сядзела поплеч яго, глядзела на яго, поўная надзей і веры ў яго і ў жыццё.

— Цяпер толькі чакаць, пакуль папера прыйдзе аб нашым тутэйшым падданстве,— задумёна сказаў ён.

І яны яшчэ асталіся сядзець. Туманам тхнула ім на ўзгорак з балота, па той бок хаты неба палала чырвоным агнём захаду. Каржакаваты хвойнік пачаў шаптацца.

Леапольд пачаў зноў гаварыць пра тое, з чаго трэба будзе пачынаць, узбіваючыся на гаспадарку. Перш за ўсё каня прыйдзецца агараць...

Марылька адабрала ад іх гэтую гаварлівую задуменнасць. Зранку яна ішла паволі — куды спяшаць у нядзелю. Адась спаткаў яе недалёка ад хаты — ён ішоў кудысьці нацянькі паўз балота. Брат і сястра спаткаліся радасна.

— Ты што, у пустую хату варочаешся? — горка сказаў брат.

— Ведаю... Дык што?..

— Нічога,— адказаў ён, падумаўшы.— А я ўжо на цэлы год за парабка згадзіўся. Вырас ужо, цяпер ужо магу быць за парабка, а то раней усё дагэтуль не прымалі — малы яшчэ казалі!

Здзек з усяго гэтага гучаў у яго словах.

Яна моўчкі, сама таго не заўважаючы, вярнулася і пай-

шла поруч з ім. Нарэшце яны разгаварыліся, панурасць пакінула іх. Яны пачалі жартаваць і смяяцца.

— Хадзем да Антуся.

— А дзе ж мы яго цяпер убачым? — запытаў ён, сам хочучы ўбачыць малога брата.

— А ён па той бок рэчкі з чарадою. Ведаеш, што ён цяпер у трох гаспадароў каровы пасе. І начуе там, у вёсцы...

Яны перайшлі рэчку і знайшлі Антуся ў полі. Ён, здалося Адасю, падрос, выцягнуўся.

— От ты цяпер які стаў!

Антусь быў рад брату і сястры. Ён жартаваў з імі, разам з тым пагукваў на чараду.

— ...Яны ўжо мой дух чуюць, вельмі ж рабая Сурвілава карова. Я калі гукну, дык у шкоду ніколі не пойдзе. Я ўжо знаравіў іх...

Яны пабылі ля яго ніштавата часу, а пасля пайшлі да вёскі, дзе Марылька заўважыла сваіх таварышак. Дзяўчаты збіраліся гуляць у святы дзень, усе Марыльчыны аднагодкі, калі яшчэ маленства сядзіць у чалавеку, але ўжо і першае юнацтва неўзабаве з'явіцца.

Адась, пакінуўшы тут сястру, адзін пайшоў назад у панскі двор, на той бок гарадка, на сваё парабкоўства.

## 4. Ногі ў анучах і молат у руках

Той дзень, зусім надвечар, Адася Гушку бачылі ў гарадку. Ён, як утрапёны які, хадзіў і як бы шукаў чагосьці па вуліцах. У панскім двары таварыш яго так і не прычакаў, пакуль даглядаць нанач коні. Ён прыйшоў позна, апоўначы, калі ўсе ўжо халастыя парабкі ў агульнай скарбовай афіцыне паснулі. Некаторыя заўважылі, што ён доўга не клаўся, а сядзеў упоцемку. А як лёг, доўга не мог заснуць. Назаўтра ж яго не дабудзіцца было ісці на работу. Думалі, што ён проста пагуляў учора дзе ў гасцях. Але на полі ён рантам загаварыў інакш, як гаварыў дагэтуль. Перш за ўсё яму не спадабалася, што гэтак рана гоняць араць і гэтак позна, да самага цямна, трымаюць на полі. Пасля ён пачаў падгаворваць парабкаў запатрабаваць, каб пан падбольшыў ардынарыі. Дайшло нават да таго, што калі была пара збірацца на абед, дык, слухаючы яго, парабкі, раней чым прыганяты падаў знак, пакідалі работу і пачалі збірацца вакол Адася Гушкі. Прыганяты тут жа ўспомніў дзевяцьсот пяты год і памчаўся ў двор сказаць пра

ўсё аконаму. З гэтай прычыны ўвечары аконам узяў на допыт Адася Гушку і просьбаю, і найбольш грозьбаю, дапытваўся, ці гэта ён сам да ўсяго гэтага дадумаўся, ці ў гарадку яго пэўныя людзі навучылі. Калі ж Гушка сказаў, што тут кожны ўжо гэтую навуку і сам прайшоў, дык аконам пагразіў пальцам: «Не ідзі, значыцца, па бацькаўскай дарозе, калі хочаш мець службу». Адась Гушка моўчкі пайшоў ад аконама, не выслухаўшы яго нават да канца. А назаўтра разам з усімі пайшоў на работу. Рабіў ён не больш як гадзін дзве. Пасля таго як аконам напіўся гарбаты, на поле прывялі другога парабка і загадалі Адасю перадаць яму коні, а самому ісці ў двор. Там яму далі разлік, і не ўспеў ён адысціся ад двара ў кірунку да гарадка і кіламетра, як следам за ім з'явіўся на дарозе паліцэйскі і павёў яго ў места. Сам прыстаў трымаў яго перад сабою нешта гадзін са тры, а пасля пусціў, загадаўшы сваім людзям не спускаць яго залішне з вока. У наступныя дні, і нават тыдні, людзі бачылі, што за горадам, дзе кладуць новую шашу, паміж малатабойцаў, што білі каменне, ёсць адзін вельмі малады, гадоў дваццаць, напэўна, яшчэ няма яму, і ўсё нешта тлумачыць людзям. Яго слухаюць і патураюць яму, спагадліва пакіўваючы галовамі. Нават ужо і слова яго падхапілі, якое ён часта гаворыць: «у пана — во, а ў мужыка — во». І пры гэтым заўсёды, перагаворваючы гэтыя словы, рабілі рукамі адпаведны жэст. Пасля заўважылі, што хлопец гэты раптам знік недзе.

Дзе ён і як знік, бачыў адзін чалавек, нізкі, вусаты, дубаваты ў паходцы і ў голасе. Гэты чалавек аднойчы ў нядзелю сядзеў у прystава на кухні. Ён цярпліва чакаў, пакуль прыстаў прыйдзе пагаварыць з ім. Ён такі прычакаў. Прыстаў сам выйшаў да яго і павёў да сябе ў пакоі. Дубаваты чалавек стараўся не грукаць ботамі, але пасля заўважыў, што сам прыстаў нават стараецца, каб як мацней адбіваць па падлозе хаду. Тады і ён загрукаў, але раптам жа сціх — у прystава гэта было сапраўднае мастацтва, а ў яго — простая хамаватасць. Тут чалавек падумаў, што кожнаму мужыку, які выходзіць у людзі, гэтак як бы хоць і ён сам, трэба адукоўвацца. І ён пазайздросціў прыстаўскай культурнасці.

— Садзіцесь, гаспадзін Сурвіла,— запрасіў прыстаў.— З чым бог прынёс?

— З пудам кілбас і з другою дзяжкою мёду,— адказаў чалавек.

— Ды я не пра гэта,— перацяў ягоныя словы прыстаў,

вельмі ўзрадаваўшыся.— Я пра тое,— што чуваць у вас добрага, як жывеце.

І тут жа падумаў: «Эйш, сукін сын, мужлан. Адразу стараецца, каб я не забыўся, што гэта ўжо другая дзежка мёду!»

— Як жывем, ваша правасхадзіцельства? Жывем. Зямлю купілі. Цяпер раздаем сваім дробным хаўруснікам. Некаторыя кажуць, што я іх з Мазавецкім ашукаў, што ім горшую зямлю даю, што сабе лепшую ўзяў. Я пра гэта і прашу міласці вашага сіяцельства. Каб, значыцца, калі што якое, дык каб памаглі. Заняўся з гэтым хамаўём. Вы сабе не можаце прадставіць, ваша высокаправасіяцельства...

У гэты час моцныя галасы пачуліся дзесьці за сцяною, у глыбі ратушы. Нейкі атупелы і змардаваны голас гукаў:

— Ты ў мяне зараз усё скажаш.

Пасля гэтага штосьці загрукала, пасля плюхнула вада. Сурвіла не мог уседзець спакойна: па змардаваным голасе ён пазнаў свайго сына. Прыстаў, пачуўшы грукат, выскачыў, і праз хвіліну Сурвіла пачуў яго заядлую каманду:

— Пракраціць! Вывесці!

А яшчэ праз момант выскачыў адтуль малады Сурвільчык з расквашаным носам. Ля вока ў яго быў чорны сіняк, а з носа цякла кроў.

— Што з табою, сынок? — кінуўся да яго стары Сурвіла.

Прыстаў, увайшоўшы, загадаў Сурвільчыку зараз жа расказваць.

Адась Гушка на допыце трымаўся ўвесь час спакойна. Ён упарта маўчаў, калі ў яго пыталі, дзе ў гарадку шукаць ягонай арганізацыі. Прыстаў і пісарчук Сурвільчык змардаваліся з ім за некалькі гадзін. Прыстаў як выйшаў, Сурвільчык захацеў выслужыцца адным махам. Ён пачаў адразу націскаць на Адася.

— Я нічога не ведаю,— загаварыў ціха змучаны Адась.

Сурвільчык раптам узарваўся з месца, хапіў з-пад стала збан вады і лінуў на Адася. Той адразу, з гарачкі, адным махам кулака абараніў сябе.

— А сынок жа мой,— заенчыў цяпер стары Сурвіла.— І каб хто, а то гэтага сляпзака сын. Гада гэтага. Бяжы, сынок, на кухню, памыйся хаця.

І сам кінуўся следам за сынам ліць яму ваду на твар. Мыючы сынка, ён усё гаварыў, гаварыў:

—...Ты ж не ведаеш яго... Ты дома не жыў, дык і не ведаеш... А і ён таксама гэты парабчук у бацькі не жыў... А божа, а божа...

Хмуры Сурвільчык пасля гэтага падаўся на кватэру адхайвацца, а стары Сурвіла, пакуль прычакаў часіны яшчэ пагаварыць з прыставам, успамінаў, мармычучы сабе пад нос:

— Ён, гэты Леапольд, як і грошы мне даваў, дык вельмі скоса паглядаў на мяне, як бы я яго сілком цягнуў у гэты хаўрус. Што я яму павінен чакаць, пакуль ён мне адробіць, што я за яго пану заплаціў... Каб пасля гэты яго парабчук паказваў смела свой галетніцкі дух...

План у яго выспеў тут жа адразу. Успомніўшы пра дзежку мёду і не спускаючы з думак нядаўнага здарэння з Гушкавым сынам, ён адразу пачаў з прыставам пра справу:

— Тут у мяне, ваша благароддзе, на тэй зямлі ўсё, ёсць камяніца. Гэтакі неўрадлівы кавалак поля. Яго можна вырабіць, ачысціць ад камення, тады дагледзець, дык і поле ніштаватае будзе. Бацька гэтага самага Гушкі там якраз жыве ў мяне. Няхай бы ён вырабіў мне гэты кавалак...

— Дык што я павінен зрабіць? — гледзячы кудысьці паверх усяго і стараючыся хутчэй адчапіцца ад Сурвілы цяпер, сказаў прыстаў.

— А каб з гэтым ягоным падданствам пачакаць крыху, тады б ён на іншую зямлю не палез бы і там сядзеў бы. Я думаю, калі бог дасць, яшчэ забагацею больш, дык і пчол больш развяду...

Прыстаў адразу скеміў, што ад яго патрабавалі. Праз некалькі хвілін ён выправадзіў узрадаванага Сурвілу з пакоя.

Сурвіла выбраўся дадому позна. Змяркалася. На выездзе з гарадка ён заўважыў высокага чалавека, што ішоў проста-такі подбегам у горад. Чалавек заўважыў Сурвілу і падбег да яго.

— Гушка, Леапольд! — гукнуў Сурвіла, прыбянтэжыўшыся.

— Мне наказалі людзі... Я бягу шукаць яго.

— Каго? — схітрыў Сурвіла, здагадаўшыся адразу.

— Адасіка. Казалі, што нешта нядобрае з ім сталася: ужо не ў двары робіць, а сядзіць дзень пры дні на дарозе, б'е молатам каменне. На яго, кажуць, страшна глянуць — ногі ў анучы закручаны і молатам дзень

пры дні б'е. Схуднеў, казалі, хто бачыў. Божа мой, божа, што з ім сталася!..

Сурвіла паехаў далей, а стары Гушка пабег у вуліцу. Ён выбягаў за горад, туды, дзе пракладалася шаша, але там ужо нікога з рабочых не было. Ён сам не ведаючы навошта, абегаў за той вечар увесь горад і дадому пачаваць не пайшоў. Начаваў ён дзесьці на самай глухой вуліцы ў карчомнай стадоле, а назаўтра, ледзь занялося на дзень, кінуўся на новую шашу. Нецярпліва прычакаў ён пачатку работы і абышоў усіх рабочых, шукаючы Адася. Але не знайшоў.

— Няўжо не бачылі? — распытваў ён усіх,— малады, ногі ў анучы пазакручваны і молат у руках.

— Ва ўсіх нас ногі ў анучы пазакручваны і молаты ў руках,— адказвалі яму, аж пакуль ён не апрытомнеў і не ўбачыў, што сапраўды тут усе падобны адзін на аднаго.

Цалюткі той дзень ён правандраваў па горадзе і не напаў на след. Вельмі павольнаю хадою ён варочаўся назад, да сваёй хаты ў каржакаватым хвойнічку. У пустую хату больш яму ісці не хацелася. Сэрцам сваім ён чуў: Адась панёс кудысьці сваю крыўду, знаёмую яму самому з таго часу, калі аконам хацеў яго шляганудь нагайкаю. Ён і сам не стараўся разабрацца цяпер, чаму яго гэтак устрывожыла, што Адась раптам апынуўся з двара па іншай рабоце. Увушшу яго стаяў адказ аднаго з рабочых на шашы: «знік недзе раптам, калі гэта той, каго вы шукаеце».

Была ноч, калі ён вярнуўся дахаты. Як чорная кузня, яна стаяла тут на самоце. Балота тхнула туманам, каменне на ўзгорку перад ім шарэла ў змроку. Цяжка варушылася ў сэрцы — голыя сцены ў хаце, Сурвілава маўчанка з зямлёю, далечыня яшчэ да тае зямлі, на якую толькі малы задатак удалося даць... Думкі ў яго не ішлі, а стаялі, навісалі над сэрцам, як хмары на небе. Пайшоў драбнюсенькі дождж. На небе ясней крыху было там, дзе павінен быў быць месяц.

Паволі падышоў ён пад хату. Пастукаў у акно і сказаў у хаце, што Адась пайшоў на іншую работу. Сон яго не браў: трэба рабіць, жывучы, а не сядзець рукі склаўшы. Ён раптам падняўся паволі і доўга падпяразваўся па вопратцы. У сенцах абмацаў на сцяне папярочную пілу і падаўся з ёю праз балота на той бок ручаіны, дзе стаяла града лесу. Там ён доўга не шукаў таго, што

некалькі дзён да гэтага заўважыў: бураломнае дрэва, даўно сухое, ляжала пад навіссю галля і вецця. Ён выпрастаў з-пад вецця таўшчэйшы кавалак камля і пачаў адпілоўваць. І чым больш піла ўядалася ў дрэва, чым больш яму ўсё цяжэй рабілася пілаваць аднаму, тым спакайнейшы ён рабіўся. Неўзабаве ён адно цягаў пілу, стараючыся шпарчэй адпілаваць: стражнікі часамі мелі звычай абыходзіць лясы з цямна. Адпілаваны кавалак ён узваліў на плечы разам з пілкаю і пайшоў назад дахаты. Пачынала світаць. Ён запаліў у сенцах газоўку, раскалоў пень на дзве плашкі, акарыў і лепшую плашку адразу пачаў габляваць. Грукаючы, ён паабуджваў усіх у хаце. Марылька не паднялася, а маці ўспаролася, пытаючыся, што яму гэта ўзбрыло на думку рабіць уночы ўлетку.

— А што я пакуль што буду рабіць. Унь людзі просяць калёсы парабіць, абадоў панакупнівалі, а на чым я, на сцяне буду іх рабіць. А ўдзень я вазьму дрэва варштат зрабіць... Пакінь адно плашку неабробленую, дык хто мне можа сказаць, што стражнік не гляне да мяне ў хату. На, патрымай, я ўраўнуюю тут.

Ён яшчэ, як добра развіднела, з гадзіну заспуў, пакуль зноў брацца за работу.

Сонца ўзышло ў тумане, ясная імгла цярусілася перагонамі з неба. Ён ужо канчаў сваю гэтую простую штуку — варштат на колы, як у сенцы ўвайшоў Сурвіла.

— Ну што, чалавеча, пра падданства яшчэ няма нічога з канцэляры? — хітра сказаў Сурвіла.

— Няма.

— Дык я, чалавеча, гэтак мяркую — можа, там не вельмі спяшаюць з гэтым, можа, дзе паваляюцца яшчэ паперы, можа, не хутка будзе яшчэ гэта... Дык, пакуль што, бярэце, суседзі, я ж кажу, гэты клінок каля сваё хаты і рабіце. Рабіце сабе, кажу. А калі прыйдуць паперы пра падданства, дык тады я вам адвяду вашыя дзве дзесяціны, паедзем у канцыляру, запішам, пячатку, я ж кажу, прыб'ем... А, пакуль што, як жа нам абфармаліцца з гэтаю зямлёю, калі яшчэ вам падданства не прыйшло. Рабіце, пакуль што, гэты кавалак, я ж кажу.

— А як жа я тут рабіць буду?

— На палавіну мне.

— На палавіну? (Леапольд Гушка акінуў вокам камяніцу і лог.)

— Тут жа, на палавіну, дык вельмі крыўдна будзе.

— Вам жа трэба заводзіць гаспадарку, і ўсё... Я вам

свайго гнядога канюка дам на выплатку. Ён хоць стары, але яшчэ пацягне, лішне яго не прыціскаючы... З богам, значыцца.

Гушка спачатку не адважваўся. Хадзіў у хату радзіцца з жонкаю, нават з Марылькаю... У якой бядзе ні быў ён, а ўсё ж палохала яго гэтая камяніца. Нарэшце, праз некалькі гадзін, яны старгаваліся: першыя два гады, пакуль распрацуецца камяніца і дзірванец, Гушка нічога не будзе даваць Сурвілу. А з трэцяга года будзе даваць яму трэці сноп.

— Дык няўжо аж тры гады якія мне падданства не прыйдзе? — спалатнеў раптам, адумаўшыся, Леапольд Гушка.

— А мы нічога не можам тут, я ж кажу, ведаць, гэта справа канцылярская, а мы перад ёю, я ж кажу, простыя людзі.

— А калі прыйдзе?

— Ну, дык тады возьмеце свае дзве дзесяціны.

Пасля гэтага Сурвіла пацягся дадому, мармычучы сабе пад нос:

— Урабіўшы гэтую камяніцу і гэты лажок, дык тады хоць і паплавец тут можна будзе запусціць. А тым часам, значыцца... (тут ён памаўчаў) — значыцца, перабраўшыся на хутар, тут паша можа быць добрая, каб адно ён мне яе распрацаваў добра... За гадоў тры-чатыры ён мне можа гэты кавалак на юхт вырабіць, выпытлюе так, што...

Ён мармытаў доўга, аж пакуль не прыйшоў дадому, кладучы след цяжкімі ботамі на зялёнай траве.

### 5. Зямля

З тых дзён яго заўсёды бачылі тут. Дзе-небудзь пад імшыстым каменем, ад сонца хавалася біклага з вадою, сюды ён прыходзіў сярод работы піць ваду, піў яе доўга, закінуўшы ўгару твар і трымаючы над ім драўляную біклажку, пасля выціраў рукавом пот з ілба і зноў браўся рабіць. Дзень пры дні ён вазіў каменне да горада на шашу і кожны раз не забываўся акінуць вокам рабочых — ці не з'явіўся сярод іх Адась. Дробныя камені ён пазвозіў усе, а вялікія пакінуў на зіму рваць іх порахам. На восень заябліў клін, каб да зімы ўпрэла ралля, а ў лагу, дзе апошні раз пан зжаў свой авёс, старанна заараў іржышча. Ён цешыўся, што мае свайго каня, ён дагледаў яго лепш як

сябе, клапаціўся пра яго больш, чым пра сваю хату і сям'ю.

Высокая постаць яго была відаць з гасцінца, і хто часта праязджаў па ім, так ужо і прывык бачыць яго ў кожную хвіліну на гэтым полі. Знаёмыя давалі яму «памагай бог», і ён моцна заўсёды адказваў з свайго ўзгорка на дарогу. На розных рагах кліна працавалі жанчыны: Марылька і маці збіралі каменне, нават месцамі выкарчоўвалі грасамі задзірванелыя кусты пырніку. Пад плугам спачатку скібы ледзьве адкідаліся, і араты, даючы каню перадыхнуць, азіраўся і босымі нагамі ўтоптваў скібы, варочаючыся назад з пугаўём у руках. Ён як бы хацеў сказаць сам сабе: «Бач, як ідзе работа!»

Кучаравая галава амаль што ўсе дні на дварэ не ведала шапкі. Валасы абвяваліся водырным ветрам з хвойніку, сонца апякала і аратага і зямлю. Ён уставаў яшчэ ўдодні, клаўся апоўначы. Звычайны быў тут малюнак: конь выцягся ў плузе, як п'яўка, а за ім налёг на жалеза высокі чалавек.

Кожны дзень з гарадка даходзілі сюды касцельны і царкоўны звон. На захадзе сонца касцельныя званы жалобнаю песняй праводзілі ў вечнасць пражыты дзень, дзень канаў, а чалавек яшчэ нейкі час заставаўся ў полі. Змяркалася, пакрысе пачынала пуставаць нанач дарога, хвойнік пачаў мацней шаптацца. Чалавек канчаў працу, падаваўся да дробнай хаціны, несучы ў сабе жаданні і ўсё ж ясныя надзеі.

У гэтую мясціну з горада прыязджалі на чыстае паветра людзі — найчасцей сухарлявы папок, два ксяндзы, там яшчэ сёй-той, перад якімі гэтаму аратаму няйначай трэба было прастаяць некалькі хвілін і далікатна выслухаць што-небудзь — сцвярджэнне факта наконт яснага надвор'я, наконт ласкавай цеплыні сонца, радасці ўсяго жывога ў прыродзе, шырыні свету...

Раз ён сказаў жонцы:

— Як прыйдзе падданства, дык тады — з якога ж тады кавалка мне Сурвіла выража мае дзве дзесяціны? Можа, тады я і гэты кавалак як-небудзь пакіну пры сабе: гэтулькі ж мы тут працы паклалі. Да тых дзвюх дзесяцін ды яшчэ гэты клінок... Можна будзе жыць.

Нарэшце ён ужо не меў ніякага намеру калі-небудзь адцурацца гэтай дзялянкі, няйначай як-небудзь яе трэба будзе далучыць да тых дзвюх дзесяцін.

Але Павал Няміра не даваў яму як мае быць улята-

ваць у сабе пазаўсёды гэтую думку. Ен прыходзіў сюды часамі і ківаў галавою:

— Няхай бы яна гарэла, гэтакая зямля!

— Ну, а што я іначай зраблю?

Няміра адно паціскаў плячыма, не згаджаўся, але і не казаў нічога выразна. Леапольд Гушка тады гаварыў:

— Вядома, хто спрадвеку мае сваю зямлю, дык таму лепш цяпер, абжыўся. А я пачынаю жыць з гэтага. Нічога, год за годам, год за годам... Пачакай, хай адно падданства прыйдзе.

— А я як жыву? Гэтаксама на дзвюх дзесяцінах. Што, гэта я жыву? Я гнію, а не жыву.

Яны тады абое, хоць адзін быў малады, а ў другога ўжо дзеці вялікія былі, садзіліся, як спрадвеку таварышы, на адзін з камянёў і пачыналі гаварыць. Гушка пасля з одумам уставаў, не скончыўшы гаворкі, і спяшаў шпарчэй да пярэрванай работы. Няміра браўся дадому, глядзеў рухавым вокам на спарахнелую салому на застрэшшы, на бацькаўскую хату, на платцы навокал, на засохлую брудаватую гразь на вуліцы, нахмурваў бровы і запрагаў шпарчэй каня, каб надалужыць страчаны час.

На полі корпаліся людзі, цешыліся з новых дзялянак зямлі, што натрапіліся ім пасля панскага продажу. Па ржышчы блыталася восеннае белае павуцінне, птушкі збіраліся ў вырай, сонца хадзіла нізка. Шарачак, зрэб'е, злямцованая кудзеля варушыліся разам з людзьмі на загонах, на межах. Ішоў па дарозе пыл, блекла ўвосень зяленіва, ветракі скрыпелі скрыдламі, перамолваючы дробнае жыта на чорную муку. Лясы ўзвышаліся шчыльнымі сценамі, княжацкія і панскія аб'езчыкі стаялі па каморах. Каршакі падпільноўвалі дробнае птаства; біліся на ралы палявыя дзічкі. Восень несла смугу і доўгія ночы.

Вёсны прыходзілі з каламутаю снегавой вады. Вада бегла імклівымі ручаінамі з узгорка, з хвойніку, праз яго ў балотную лагчыну. Цэлымі начамі тады Гушка чуў з хаты, як ваюе вада пад узгоркам. За хатаю, у прыбудаваным аполкавым хляве, прыслухоўваўся рухавым вухам да вясны касцісты небарак конь, выкуплены ад Сурвілы за апошнія капейкі.

Як сцякла вада і тужэла зямля, абмытае каменне на ўзлеску блішчала пад сонцам, пакуль лета не ўкрые яго тонкім засцілам бялявага пылу. І вясна, і лета, і пасля зноў восень — цяглі за сабою бесканцовае вужышча цягавітай работы. Камення на полі ўжо не было зверху,

адно траплялася яно ў зямлі, аб яго скрыгітаў плуг. Камення на Гушкавым узлеску ляжалі цэлыя сцірты, але шаша скончылася і больш не было куды вазіць яго: каму тут патрэбен быў гэтакі матэрыял, тут усё навокал было адбудавана, улегавана, нерушыма. Царкоўныя, касцельныя і замкавыя вежы маглі яшчэ прастаяць стагоддзе і больш, муры бернардынскага кляштара і так пуставалі. Сярэднявечча заснула тут на абшарпаных, але моцных яшчэ сценах. На пустых званіцах зімавалі кажаны, гракалі вораны, пад імі, праз браму з адарванай адной форткай, праходзілі кожную раніцу тыя два ксяндзы адпраўляць сваю кожнадзённую імшу ў касцёлах. Яны ўздыхалі і ўважалі сябе за вялікіх прыгнечаных пакутнікаў за зганьбленую праўду чалавечага мінулага, калі красаваліся яшчэ калісьці тут бернардыны і водгаласкі інквізіцыі даходзілі сюды вельмі выразна, у гэтае месца, над якім панавалі вежы княжацкага замка.

Расійская прыстаўская канцылярыя вельмі добра пасела да старой ратушы, як усё адно на яе яна і будавалася стагоддзі да гэтага. Разгладжваючы вусы, прыстаў кожны дзень красаваўся ў гарадку, паліцэйскія арлы аддавалі ўсю сваю шчырасць і таленты на непарушнасць вялікай Расійскай імперыі на касцях бернардынскай вялікасці ў гэтым гарадку.

Адзін з ксяндзоў нарэшце пачаў заўважаць Леапольда Гушку. Было гэта на споведзі. Праз кратчастае акенца спавядальні ксёндз, распытваючы ў яго пра ўсялякую нават драбязу, дазнаўся раптам, што ў яго праваслаўная жонка. І тут Гушка пачуў гнеўны шэпт зняважанага гэтакай навіною духоўніка. Нарэшце Гушка здаўмеўся, што духоўны айча ўпікае яго за тое, што ён гэтулькі пражыў з праваслаўнай жанчынаю, пагадаваў ад яе дзяцей і нічога дагэтуль не зрабіў і нават не спрабаваў рабіць, каб давесці яе да праўдзівай перад панам богам каталіцкай веры. Тым часам жонка праз нейкі час паскардзілася яму, што чула гэта на споведзі, толькі ў кірунку да праваслаўя, ад папа. Чалавек з жонкаю пагаварылі пра гэта на свежую памяць, пасля — ён пайшоў на сваё поле, на Сурвілаву камяніцу, а яна — у лог, жаць ярыну. Марылька жала з ёю. Антусь да гэтай пары выйшаў ужо з пастухоў і першы год зарабляў сталым заработкам сабе на хлеб і адзежу, рэшта ж, што трэба было яму звыш гэтага, ішла Сурвілу на выкуп злізанага аб зямлю плуга, бараны, хамута...

Дзень хіліўся да вечара. Жаць яшчэ ставалася крыху.

Марылька з маткаю стараліся скончыць хоць прыцемкам. Самога Гушкі ні на полі, ні дома не было, ён, урваўшы на гэта ў гарачую пару вольны дзень, зарабляў дзесьці з канём у гарадку ці за ім. Яго чакалі дома з хвіліны на хвіліну.

Раптам маці выпусціла з рук сноп, пахілілася галавою на плячо і прысела на мяжу. Яна яшчэ старалася, каб як гэтага не заўважыла Марылька — дагэтуль заўсёды гэта ёй удавалася: нашто палохаць сям'ю, мала ім і так бяды, жывучы на свеце. Але гэты раз ёй было горш, як заўсёды, губілася прытомнасць. Яна ціха паклікала Марыльку. З спалохам прыбегла Марылька да маці, з гэтакім жа спалохам адпаіла яе вадою з біклагі, завяла дадому. Нікога ў пустой хаце не было. Яна пабегла да людзей. Куды бегчы? Яна пабегла сцежкаю на вёску. Самі ногі скіравалі яе на двор да Паўла Няміры. Той кінуў усю сваю работу і прайшоў да Гушкавых. Сам Леапольд быў ужо дома, маці сядзела на пасцелі і спрабавала ўставаць. Леапольд Гушка маўчаў.

— Заўтра ў горад...— панура сказаў ён пасля. І, нецярпліва чухануўшы калена, кінуў з сашчэмленых зубоў: — Божа мой, божа, самая работа, і так няма каму рабіць.

— Я заўтра магчыму рабіць, гэта са мной не першыня,— пацешыла жанчына.

Марылька заплакала. Гушка больш унурыў галаву. Няміра паглядзеў на ўсіх. Леапольд Гушка пачаў сцвярджаць факты:

— Якое дзіва, што яна ўсе сілы свае страціла. Гэтулькі яна тут адных камянёў папацягала, гэтулькі дзірвану гэтага пападрала. Я здаровы, а і то...

Няміра пайшоў на змроку. Марылька правяла яго з хаты, ды так і прайшла з ім аж да самай вёскі. Там была навіна, нават дзве, але першую Марылька і Няміра пачулі з абыякавасцю. Старыя сядзелі ў шэрую гадзіну на бярвеннях. Іх было два, абодва пыхкалі люлькамі. Старэчымі галасамі яны гаварылі:

— Дык я сам, знацца, чуў ад самога Сурвілы.

— Можа, хваліўся?

— Дзе бачыў! Што яму перада мною хваліцца. Кажа, знацца: я ўжо буду ў вас за валаснога старшыню.

— А-а-а, ці бач!

— Буду, кажа.

— А хто ж яго выбіраў?

— Яшчэ выбіраць будзем, некалі ўвосень. А цяпер стары як праштрапіўся нешта, прашпэціўся, дык гэтага ўмасцілі.

— А-а-а, ці бач!

— Умасцілі, знацца. Я цяпер, кажа, спаўняюшчы должнасць, сам гэтак мне і сказаў.

— Ці бач... А што ж, мяне з табою не зробяць за старшыню, бо калі часам праштрапішся, дык з чаго ты ў мяне пацягнеш. А там, калі казённыя грошы скруціць, дык у яго пацягнуць ёсць з чаго.

— Дык гэтак жа і падбіраюць...

Другая навіна была сапраўды навіна: дома Няміру чакаў ліст ад Адася Гушкі. Пісаў з астрога, што зараз вернецца, пад нагляд паліцыі, да бацькі.

Няміра правёў Марыльку дадому. Там ужо, у хаціне, было цёмна. Бялелі камяні на ўзлеску. Лог дыхаў вострым туманам. Марылька рада была гаварыць з Нямірам.

З таго вечара ў Леапольда Гушкі яшчэ больш падбавіліся сілы да работы: Адась зараз прыйдзе. Тады яны ўдвух, гэтакія здаровыя людзі, зробяць сабе гэтакі лад у жыцці, што не будуць жадны кавалку хлеба. У Леапольда Гушкі падвоілася стараннасць, цягавітасць, сіла.

Гэтак скончылася восень. Яшчэ раз прыйшла і адышла зіма. Яшчэ адна прайшла вясна і прыйшло лета.

Дзе ж Адась? Чаму ж ён не вярнуўся? Божа мой, божа! Чорны сум па Адасю пачаў душыць Леапольда Гушку.

Няміра зрабіўся ў Гушкавай хаце за свайго чалавека.

## 6. Ноч

Не сказаць, каб у той дзень у Леапольда Гушкі была хоць адна якая-небудзь прасветлая хвіліна з прычыны таго, што той дзень быў — не звычайны дзень: Марылька ішла замуж за Няміру. Марылька і маці, яны гэта рыхтаваліся з цямна да гэтакай урачыстасці. Сам жа Леапольд Гушка да самага, можна сказаць, адвячорка ў гэтую справу не мяшаўся: з цёмнага ён паехаў у гарадок, павёз воз камення знаёмаму карчмару. Той мураваў у сваёй стадоле склеп, на гэты склеп Гушка павінен быў навазіць яму чым найхутчэй камення, а за гэта карчмар даў яму наперад, на Марыльчына вяселле, грошай. Праўда, на вяселле гэтых грошай не магло хапіць, рэшту іх давялося ўрываць яшчэ адсюль-адтуль, нават два рублі

ўзяць на адработак у Сурвілы. Дык, значыцца, Леапольд Гушка з цямна павёз каменне ў гарадок.

Ён думаў і яшчэ з адным возам справіцца, бо дзень улетку вялікі. Ён павольна сабе ішоў за возам, і нешта апошні час вельмі чорныя думкі пра Адася не давалі яму спакою. Яны гналі з чалавека ўсё, што было не пра Адася. Нават выганялі настрой, які мог быць у чалавека перад дачным вяселлем. Гушка ішоў паволі за канём, пагукваў на яго і сапраўды-такі ў думках прасіў бога, каб ён памог яму яшчэ раз справіцца завезці каменне: праўдзівей кажучы, каб бог памог гэта зрабіць каню, бо конь ледзьве перасоўваў ногі. Пад скурай у яго ходарам хадзілі рэбры, галава была панурая і ля вачэй яшчэ больш як калі раіліся мухі. А ён нават не сцепаў ужо галавою, каб паадганяць іх.

Усе апошнія дні быў конь гэтакі. Гэтыя апошнія дні вельмі ж было работы яму: і каменне вазіў, і на полі рабіў, і Сурвілу адрабляў. Праўда, поле было ўроблена. Гушка выстараўся: на камяніцы (гэта, можна сказаць, не была ўжо камяніца) добра расло, добра спела і добра павінна было прыбрацца з поля пад працавітымі рукамі гэтай сям'і.

Конь гэты адбрыкаў сваю маладосць і адрабіў сваю сілу ў Сурвілы, а да Гушкі прыйшоў дажыць сваю апошнюю старасць. Тут яно і латвей было гэта: недалёка было балота, куды гаспадар павінен будзе выцягнуць яго косці.

Гушка ў гэты дзень думаў гэтак: гэты дзень няхай сабе, можа, і цераз сілу адпрацуе немагушчая жывёліна, але з заўтрашняга дня яна пагуляе ў яго з тыдзень затое. Што мог іначай парадзіць гэты чалавек? Дарога гэтая гэтак ім абодвум, і каню і чалавеку, была знаёмая. Апроч камянёў і заработкаў, яны за кіламетраў гэтых дзесяць ці мала папавазілі з гарадскога рынку гною за гэтыя гады, угнойваючы камяніцу.

Другі раз завезці каменне Гушка так і не справіўся, ды і не мог. Конь не браў. Ледзьве яны вярнуліся назад ад першага воза.

Завёўшы каня за хвойнік на выган, Гушка прыйшоў у хату, сеў, радасна адчуваючы спачын, пасля вымыўся, адзеўся ў лепшую адзежыну. Да вечара ён быў гатоў да ўрачыстасці. Марылька гэтакая была жыццярадасная, гэтакая вясёлая. Маладосць!

Вянчацца паехалі да таго ж усё сухарлявага папка, зноў, значыцца, Леапольду Гушку давялося быць у той

дзень, пад вечар, у гарадку. Ён ужо цяпер як бы плыў па хвалістай рэчцы: нават гэта як бы спачын яму быў. Ён сядзеў на возе, як ехалі ў гарадок, стаяў у царкве за дачкою, недалёка ад яе, як маладых вянчалі, глядзеў, як заходзіла сонца і ліло ружовае праменне праз высокія вокны на царкоўную падлогу, слухаў, як дзесьці за царквою, недзе высока, у глыбі званіцы, усядаліся нанач вераб'і. Хрыстос з іканастаса глядзеў на яго хмурна, дзяк драў гэтакім голасам, як усё адно крыкам на ўсе жылы выганяў куры з агарода...

Нарэшце паехалі назад.

У хаце было ўтульна: Марылька прыбрала хату, з якой задумала выйсці ад бацькоў назаўсёды. У хаце была і мэбля: за гэтыя гады Гушка нарабіў лаваў, зрабіў стол, шафу, адно што ў ёй яшчэ не было таго, што было спрадана, калі куплялі зямлю, якая ўсё і дагэтуль чакала Гушкавага падданства.

У хаце яны засталі чалавека: ён чакаў вясельных і не выпускаў з рук паперкі. Гэта быў дзесяцкі з валасці, ён з гэтым лістом гэтак не спяшаўся б, каб не ведаў, што ў Гушкі вяселле, на якім можна будзе выпіць чарку. І ён адразу прынёс паперку. Спачатку ён пацёрся ў куце, пакуль яго заўважылі. Тады апраўдаўся:

— Каб я ведаў, дык не ішоў бы перабіваць вам свята. Ліха яго не ўзяло бы, гэтага дакуманта, пачакаў бы колькі дзён!

— А якога дакуманта? — устрывожыўся Леапольд Гушка.

Госці ўжо сядзелі за сталом, ужо нават па чарак тры выпілі. Дзесяцкі падаў гаспадару паперу. Той глядзеў, глядзеў у яе і аддаў назад, крыва усміхнуўшыся:

— Я па-руску слаба...

Дзесяцкі прачытаў моцна, і ўсе госці чулі, што Леапольд Гушка з сям'ёю (была пералічана ўся сям'я) робіцца расійскі падданы.

Госці зашумелі, загаварылі больш, Гушка, здаецца, абняў бы дзесяцкага, каб не перашкаджаў стол. Ад гэтага дня ён, Леапольд Гушка, забірае ў Сурвілы свае дзве дзесяціны зямлі. Ды яшчэ як сказаць. Яшчэ ж гэтая дзялянначка за ім астанецца. Ён жа яе гэтак урабіў, гэтак выпытляваў, што не пазнаць цяпер яе. На ёй добра радзіць пачало. Можа, яму Сурвіла яе аддасць на выплатку.

— Садзіся, чалавеча, за стол,— сказаў ён да дзесяцкага.

Дзесяцкі сеў і пачаў балявацць разам з усімі. Леапольд сам наліў яму першую чарку. Цяпер сапраўды Леапольд Гушка ўсвядоміў, што дзень гэты яму незвычайны, адмысловы, адзіны на ўсё жыццё: Марылька замуж ідзе. І ўздым апанаваў Гушку. Які чалавек вясёлы і радасны, калі ўсё на свеце яму добра ідзе!

Дзень тоў сапраўды быў незвычайны. Усё адно як ісціся пачало на радасць чалавеку: хтосьці хадзіў перад вокнамі на двары.

За хвілін колькі да ўсяго гэтага абшарпаны высокі хлопец падышоў з кірунку ад гарадка да каржакаватага хвойнічку.

Ён не пайшоў адразу да хаціны, а агледзеў вёску з узгорка за полем. Ён як бы не спяшаўся. А можа, ён быў вельмі стомлены, што гэтак паволі ішоў. Як бы там ні было, ён прайшоў яшчэ паўз вокны, пакуль ісці ў хату. Тады яго і заўважыў пад вокнамі стары Гушка. А як толькі заўважыў, адразу кінуўся з-за стала, выбег на двор, адно госці з непаразуменнем глянулі на яго.

— Адаська! — закрычаў бацька, кідаючыся да сына ў парозе.— А божа ж мой, Адаська!

Ён не выпускаў сына з рук, апчаперыў яго навокал шыі.

— Што гэта ў хаце? — сказаў сын.

— Якраз жа цябе бог прынёс, сын. Марылька замуж ідзе. За Паўла. За Няміру... Не ідзі гэтак у хату, Адаська! Пачакай, я табе вынесу свой картовы гарнітур, не ідзі гэтак, як ёсць, у хату.

Ён усё стаяў ля сына, як той пераадзяваўся, каб увесці яго ў хату самому, каб пахваліцца вялікай сваёю радасцю перад людзьмі. Адась, кінуўшы вока на хату, убачыў, што ў расчыненых дзверах стаяла маці. Ад гэтакай нечаканасці яна як бы збянтэжылася, стаяла ля дзвярэй і плакала.

— Адась прыйшоў! — гукнуў Леапольд Гушка, ідучы за сынам у хату.

Адась і сам прыбянтэжыўся ад гэтай усёй нечаканасці. Ён пайшоў да сястры і Няміры і горача прывітаўся з імі.

Які незвычайны дзень! Адзіны дзень у жыцці! Леапольд Гушка бачыў перад сабою берагі шчаслівай зямлі, да якой плыў з самых маладых год сваіх.

Цяпер пачалася радасная ўрачыстасць. Пачалася весялосць. Прайшла гадзіна, праходзіла другая. У хаце зырка гарэлі дзве лямпы. Дзяўчаты заспявалі. Хлопцы пад-

цягнулі. Сам Леапольд Гушка падняўся на сваім месцы за сталом і нечакана сам для сябе ўспомніў старасвецкую песню, якую дзесьці калісьці чуў. І першы раз на жыцці сваім ён заспяваў:

Дай жа, божа, добры час,
Як у людзей, так і ў нас,
І добрую гадзіну...
Развесялім радзіну.

Ён яшчэ пасля сваёй песні доўга стаяў, як бы стараючыся ўпэўніць самога сябе, што — і Адась дома, і зямля ўжо ў яго руках, і ўсё і ўсё добра пойдзе...

Стол канчаўся. Дзяўчаты і хлопцы выйшлі на хату, загаманілі яны і на двары. Была месячная ноч. Падышлі вясковыя музыкі, Няміравы прыяцелі, дзве скрыпкі і цымбалы. Музыкі ўтнулі танцы.

За сталом асталіся сядзець адны старыя.

Да хаты пачалі на музыку, на танцы збірацца людзі з вёскі. Людзі ўсё ішлі і ішлі. І ў той меры, як яны ішлі, нейкая трывожная гаворка пайшла паміж іх. Раптам сабраліся ў натоўп, раптам сціхла музыка, раптам хтосьці адзін моцна загаманіў, а ўсе змоўклі, як сцяна.

— Што гэта!

— От нядаўна! З горада прыехаў пасланец і выклеіў на Сурвілавай хаце.

— Можа, не прачыталі добра? Хто чытаў?

— Усе чыталі.

Хтосьці з жанок заплакаў, загаласіў:

— А божа мой, божа, гэта ж і сыну майму трэба ісці. Пагоняць яго, небараку.

Жанчына згарнула рукі і яшчэ мацней загаласіла. У натоўпе ўжо стаяў Павал Няміра. Ён доўга не распытваў, ён зразумеў усё з першага слова: вайна, і яму заўтра ж трэба ісці ў войска. Унурыўшы галаву, ён падаўся ў хату да Марылькі.

Адась сядзеў поплеч з сястрою.

— І табе, значыцца, трэба ісці,— сказаў да яго Няміра,— разам са мною і ты пойдзеш. Ты ж цяпер расійскі падданы.

Белы, як палатно, Леапольд Гушка стаяў перад хатаю на двары, перад зорным небам, перад засціламі балотнага туману з логу, на роснай траве, у нежывым месячным святле. Ён адно чуў, як штосьці гняло яго, як згінала да зямлі, як не давала дыхнуць на поўныя грудзі; як сэрца яго тлела, марнела, сціскалася, чэзла.

## 7. Дзень

Одум яго ўзяў позна: калі занядужала ноч на ўсходзе. Першая світальная бялявасць расплывалася там, дзе павінна было ўзысці сонца, як Леапольд Гушка вярнуўся ў хату. Хата цяпер была пустая, вясельныя перайшлі на вёску, у Няміраву хату. Прыслухаўшыся, ён пачуў, як ад вёскі чулася яшчэ скрыпка — што б там ні было, а дагуляць вяселле трэба. Можа, таму і не заўважылі былі спачатку, што бацька не пайшоў з вяселлем, з дачкою, у зяцеву хату, што зрабілася ўсё гэта было ў гэтакім трывожным рэзруху. Ён адно цяпер успомніў, што хтосьці цягнуў яго тады і ён адказаў, што зараз ідзе.

Цяпер ён стаяў на двары, ля хаты. Штосьці грукнула раптам у хляве за хатаю. Ён пайшоў туды. На гнаі біўся капытамі і шыяй конь. Гушка тут зусім апрытомнеў. Ён на ўсю вялікую сілу сваю ўзарваў плечуком небаракуканя і памог яму стаць на ногі. Але той зноў пачаў лажыцца. Тады ён зразумеў усё: зноў ірвануўся на ўсе свае жылы і пацягнуў каня ў хвойнік, далей ад сялібы, каб неўзабаве не давялося прасіць людзей памагчы цягнуць яго нежывога. У ціхім хвойніку ён і пакінуў яго.

Што ж, ісці цяпер яму на вяселле ці не?

Ён прыйшоў туды, як вясельныя разыходзіліся. Добра ўднела ўжо. Тым часам на вёсцы з іншай прычыны збіраўся народ. Ля Сурвілавай хаты ўсё яшчэ чыталі друкаваную паперу: маладыя мужчыны і хлопцы сёння пакідалі сем'і і кіраваліся ў горад. Да паўдня там павінны былі быць усе.

Некалькі гэтых гадзін прайшло ў вялікім утрапенні. Леапольд Гушка прыйшоў з Адасем дадому збірацца. А якія там могуць быць залішне вялікія зборы!

Паўдзённае сонца бачылі яны ўжо гатовыя ў дарогу. Маці млела на ганку. Адась і Няміра ішлі разам; бацька, Марылька і хтосьці з Няміравай сям'і таксама праводзілі іх у горад. Самы малады Гушка, Антусь, сядзеў у перадку Няміравага воза, гатовы пасадзіць усіх і везці. Сумныя яго вочы глядзелі на ўсё гэта яшчэ ўсё з нявінным непаразуменнем. Раптам Леапольд Гушка штосьці дзіка глянуў у хвойнік: конь, блытаючыся на нагах, несучы шыю ў пярэдніх нагах, туляўся паміж каржакаватых хвояў, беручыся дадому. Да хлява ён не дайшоў, а перад ганкам кінуўся і больш ужо не падняўся. З-за гэтага яшчэ на паўгадзіны адцягнуўся ад'езд у горад. Антусь злез з воза,

глядзеў гэтак, як глядзяць на пажар, ведаючы, што ад агню не ўратавацца.

— Што ж ты не захацеў канаць не дома,— жорстка сказаў Леапольд Гушка, садзячыся на кладку перад ганкам і падпіраючы рукамі твар.

Сухі бляск з'явіўся ў ваччу яго, твар набыў нейкую непераможную ўпартасць, цягавітая маўклівасць, што была ў яго заўсёды пры рабоце, завладала ім.

— Няхай ляжыць,— скамандаваў ён, не гледзячы на нежывога каня.— Паедзем!

Пальцы рук яго сціснуліся, скурчыліся; ён шугануў да воза, роўны, высокі. Здаецца, камляватасць у плячах яго раптам прапала.

Яны прыехалі ў самы рэзрух. У царкве скончылася адправа. Народу было повен гарадок. Перад ратушаю троссе сцяг Расійскай імперыі. Поп у рызах стаяў на ганку ратушы з крыжам у руках. Адважны прыстаў стаяў поруч яго. Сурвільчык трымаў у руках нейкую паперку, чакаючы моманту, каб пачаць чытаць. Раптам Леапольд Гушка сціснуў зубы, заўважыўшы: у прыстава за плячыма нерухома трымаўся вусаты Сурвілаў твар. Сурвіла таксама трымаў нейкія паперы ў руках. Валасны старшыня здаваў сваю воласць у войска.

«Сурвіла гоніць у войска майго Адася! Сурвіла!»

Твар яго быў страшны, здавалася, ён зараз рушыць і скрышыць тут усё, гэтак змяніўся яго выгляд.

На ратушы крычалі вароны. Адна сядзела на краі ганкавай паветкі, хвастом над ганкам.

«Сегодня все, не только мы, русские, а и все иноверцы, населяющие великое наше русское отечество, должны проникнуться единым духом патриотизма, духом великой России»,— скончыў прыстаў сваю прамову і зняў шапку.

Сухарлявы папок прыставу першаму даў пацалаваць крыж і дадаў ад сябе:

«Да снизойдет на главы ваша, верныя сыны России, благодать святого духа и укрепит вас в борьбе с врагом».

Народ стаяў перад ратушавым ганкам. Папок гаварыў «напутственное» слова новым ваякам.

Натоўп у гэтую хвіліну быў маўклівы. Зрэб'е, шарачак, лыка, злямцованая кудзеля зліваліся ў шчыльную сцяну. Вочы, вочы, вочы — пакутны позірк анямеў па твары вялікага натоўпу.

Леапольд Гушка рушыў праз натоўп да ганка. І там загаварыў да прыстава: — не даваць яму падданства. Не

хоча ён ні падданства, ні зямлі. Усё адно ён паклаў на неўрадлівай камяніцы за ўсе гэтыя гады сілы і свае, і свае сям'і!

— А-а, Гушка! — абазваўся прыстаў.

— Але!

— Але! але! — перакрывіў яго прыстаў.— В такой день не можешь ответить русским языком!

Гушка адразу падаўся назад у натоўп. Узнятасць яго зноў раптам пачала ападаць.

Натоўп маўчаў. Пахла ўжо крывёю, жывым мясам з-пад гармат. Натоўп стаяў. Сядзеў адно Сурвіла поруч з сынам, перабіраючы ў руках свае паперы.

Гэта быў малюнак таго дня па ўсёй Еўропе. Народы стаялі. Стаяў расійскі народ. Стаялі іншыя народы, з'едныя абцугамі пад сцягам Расійскай імперыі. Іх гналі заваяваць сабе старое права: з жабрачымі торбамі на плячах дагніць свой век у вялікай турме і перадаць гэтае права сваім дзецям.

# ДРУГАЯ ЧАСТКА

## 1. Як людзі разумеюць адзін аднаго

От што было раз у ясную восень, як займалася на дзень.

Як ішлі людзі — дык ішлі, адны ўцякалі, другія іх гналі. Расійская армія адступала, германская яе даганяла. А як расійцам удалося прыпыніць фронт, дык гэта адразу ў шэрай салдацкай масе нават нейкую збянтэжанасць абудзіла спачатку. Зноў лезці трэба будзе на ражон, зноў ісці самахоць шукаць смерці!

Людзі ўжо заселі ў раней прыгатаваныя акопы; ужо ўмацоўваліся, ужо сапёры браліся за работу. Значыцца — неўзабаве трэба будзе брацца наперад, зрываць немцаў з фронту, спрабаваць адганяць іх!

Дык перад страшным боем, чакаючы яго, як займалася на дзень, у прытульным кутку, паміж хмызнякоў, шэрая постаць старалася, каб як мага шчыльней дапасціся да зямлі. Чалавек стараўся, каб хутчэй выбрацца з абсягу вачэй, што маглі бачыць яго адтуль, адкуль ён выпаўз. Ён поўз вельмі паволі, пакуль не адпоўз далёка. А тады ўжо

дастаў з кішэні белую хусцінку, усчапіў на адкручаны ад стрэльбы штык (стрэльба асталася недзе ў акопах. З якою радасцю пакінуў яе там чалавек!) і з гэтым імправізаваным белым сцягам цяпер пабег сагнуўшыся. Сцяг свой ён трымаў у выцягненай наперад руцэ. Чалавек меркаваў гэтак: і ззаду могуць заўважыць мой белы сігнал і на некаторы час гэта і іх збянтэжыць: можа, я афіцыйны пасланец. Адным словам, ён цяпер ужо не поўз, а бег. Наперадзе ўжо бачылі яго і адтуль не было аніводнага стрэлу. Чалавек задыхаўся, бегучы нарэшце ён ужо размахваў белым сігналам. Яшчэ віселі над зямлёю рэшткі тумановага змроку, вельмі можа быць, што там, адкуль выпаўз чалавек, яго зусім не заўважылі, хто б гэтага хацеў. Чалавек кінуўся на зямлю перад самым нямецкім акопам і ўпоўз у яго.

— Я ў палон прыйшоў,— сказаў ён, аддыхваючыся.— У палон, у палон!

Слова «палон» там было знаёма. Пакуль яго забралі і павялі акопам кудысьці ў глыб раскапанае лагчыны, ён яшчэ ўспеў «пагаварыць» з людзьмі:

— Адзін раз мяне ўжо былі ранілі. Я ледзьве выжыў. А цяпер, можа, заб'юць. Я не хачу. Я прыйшоў сам у палон. Мяне прыслалі. Я прыйшоў уперад за сваіх, сказаць, што зараз яны будуць ісці сюды, дык што гэта ні з вамі бягуць біцца, а ў палон падаюцца. Каб вы не стралялі. Зараз будуць ісці, мяне наперад паслалі...

Ён гаварыў, гаварыў, а навокал яго ціснуліся адзін да аднаго гэтакія самыя, як і ён, шэрыя людзі. Яны нічога не маглі разабраць з гаворкі добраахвотнага палоннага. Некаторыя трымалі ў руках недапісаныя лісты дадому: у лісце развіталіся перад боем з сваімі, на лістах былі сляды ад слязы, якое не мог стрымаць чалавек...

— У палоне мы, можа, хоць жывыя астаномся, а тут — няйначай пасірацяцца дзеці...

Тут наперад праціснуўся «немец». У яго адрасла барада, ён яе, відаць, нядаўна выстрыг, яна яму, відаць, надазаляла. У яго быў высокі лоб, ноздры, як загаварыў ён, неспакойна ўздрыгвалі. Ля вачэй клаліся тонкія зморшчыкі. Вайсковая магерка была высока паднята з ілба.

— Дзіця,— загаварыў ён,— дзіця, дзіця...

(Ён улавіў слова ў расійскага салдата,— «пасірацяцца дз-е-ц-і». Ён гэтае слова неяк ведаў.)

І ён пачаў гаварыць. Палонны нічога спачатку не зразумеў, пасля той, адумаўшыся, зноў сказаў «дзіця» і па-

чаў успамінаць цяпер польскія словы. Ён моршчыў лоб, часамі нават добра выгаварваў цэлыя сказы. Але не цераз гэтыя польскія словы, якія нейк ведаў германскі салдат, палонны і ён, а з імі і ўсе, хто стаяў тут, пачалі нейк адразу разумець адзін аднаго. Гэтае ўзаемнае разуменне вырасла адразу. Германскі салдат ужо трымаў за штрыфлі шыняля палоннага, а той трымаўся рукамі за грудзі і маўчаў з вінаватаю нейкаю ўсмешкаю, здагадаўшыся цяпер, што ўсё адно яго гаворкі тут не разумеюць. Нарэшце ўсе пачалі гаварыць жэстамі, позіркамі. І ўсю гэтую гаворку пачуццяў і думак стараўся выкласці палоннаму той, ломанаю сваёю польскай моваю.

— Каб не дзеці, я, можа б...

— Дзеці...— выгаварыў тут германец і ўзяўся рукамі за грудзі.

— Бой,— сказаў ён яшчэ, успомніўшы «варожае» слова і паказваючы рукою навокал.

Раптам па акопе пайшла каманда. Палоннага забралі. Перад гэтым барадаты германец патрымаўся яшчэ ў палоннага за руку, у вачах яго бліснула сляза, ён ткнуў пальцам сабе ў грудзі і, не пакідаючы трасці рукамі палоннага, з вялікаю шчырасцю некалькі разоў назваўся; шпаркаю гаворкаю, скрадваючы гукі:

— Эдврд Лявэр, Эдврд Лявэр... (Эдвард Лявэр).

Палоннага павялі. Каманда па акопе была на тое, што перад акопамі заўважылі рух: шэрая маса паўзла ў гэты бок. Пакуль падпусцілі бліжэй, калі зручна страляць, заўважылі белы сігнал. У гэтай мясціне акопа ведалі, здагадаліся, пра што тлумачыў нядаўна добраахвотны палонны пасланец, паказваючы рукою на расійскія акопы. Неўзабаве ў акоп палезлі зверху салдаты расійскае арміі, добраахвотныя палонныя.

Добра ўднела, усход здорава ружовіўся. Але яго не заўважалі людзі ў зямлі: над зямлёю, як чорная хмара, навісла чаканне бою, яно гняло чалавечыя сэрцы. І гэты раз было тое, што нядаўна з першым палонным: нямецкія салдаты траслі ім рукі, салдат з выстрыжанаю барадою таксама ўсё называў сябе аднаму, зусім маладому палоннаму:

— Эдврд Лявэр...

Як палонных павялі акопам далей, ён сумна глянуў на апошняга з расійскага палоннага ўзвода і прыпёрся плечуком да земляное сцяны. Побач яго стаялі гэтаксама на сваіх месцах яго таварышы.

Увесь той дзень працягнуўся, як пакута. Цішыня, нязвыклая, палохала людзей. На змроку Лявэр штосьці зашаптаў раптам свайму бліжэйшаму таварышу. А той неўзабаве пачаў шаптацца з сваім суседам. А як пачало цямнець, як змрок добра навіс над хмызнякамі, Эдвард Лявэр папоўз ціхенька да́ рускіх акопаў: форма і спосаб на гэтую справу выпрацаваліся сёння зранку. Праз паўгадзіны якой, следам за ім, папаўзла з нямецкіх акопаў шэрая маса.

Споўзшы ў акоп, яны з першага зірку зразумелі і маўклівую жорсткасць гэтых тут людзей і іх позу: неўзаметку ўпірацца адным плечуком у земляную сцяну. Гэтак сцішвалі людзі ў сабе пакутны накіп смутку, злосці і адвагі.

У тыя дні ў расійскіх газетах было паведамленне, што цэлая рота нямецкіх салдат (там, вядома, роты не было) добраахвотна падалася ў палон. У нямецкіх газетах таксама было падобнае паведамленне пра салдат рускай арміі.

Як палонных накіроўвалі ў тыл, першы ў спіс быў упісаны Эдвард Лявэр.

З лагчыны, парэзанай скрозь акопамі, палонных вывелі блытанымі дарогамі на гасцінец. Гасцінцам проста і пайшлі людзі ў глыб мясцовасці. Гасцінцам яшчэ ўсё, як бы з прычыны нейкай інерцыі, безупынна ішлі ў глыб краіны пабітыя часці расійскага войска. Побач з войскамі паўзлі незлічоныя ўцякацкія фурманкі. Часамі яны перамешваліся з вайсковымі абозамі, тады вайсковая навала гнала іх угрунь, аж пакуль сялянскія коні не падалі і, перакінутыя дагары коламі, фурманкі не раскідаліся па дарозе на дробныя рыштункі. Уцякацкая сям'я старалася выбрацца на абочыну дарогі і прымаць сваю чорную долю ў чыстым полі сярод чужых людзей, а найчасцей без іх. Колы і рэшткі набытку пятрэлі паабапал гасцінца; кожны дзень паўз яго вырасталі новыя магілы з крыжамі і без іх; небаракі кляліся парыць зямлю пад енкі і слёзы сваіх родных пакутнікаў, а праз некалькі часу, ад'ехаўшы крыху далей, тыя самыя, што плакалі нядаўна, хаваючы свайго блізкага, самі развітваліся з жыццём на гэтым жа самым гасцінцы, адно што па іх не было ўжо каму плакаць. Магілы паабапал гасцінца дзірванелі шпарка. Таксама шпарка дзікія птушкі і лясная зверына знімалі з касцей чалавечае цела: часта чалавек, не маючы жаднага паратунку, рабіў тое адно, што ўсяго асталося яму: выбі-

раў цішэйшае месца сканаць, і там па яго не заўсёды маглі адразу натрапіць.

Воінскія часці, адыходзячы назад гасцінцам, спрабавалі ўвесь час разганяць сум яснай восені царскімі казармавымі песнямі.

Палонныя ішлі гэтым жа гасцінцам. У той жа дзень, як выйшлі яны на яго, пачулі яны страшны гром бою. Гром чулі яны і назаўтра, а пасля гэтага стала ціха. Гасцінец абязлюдзеў, фронт стаяў там, дзе пакінулі яго палонныя. У наступныя дні нават льга было заўважыць першыя адзнакі руху на гасцінцы назад да фронту.

На трэці дзень дарогі, яшчэ да паўдня, палонныя ўбачылі перад сабою гарадок: над зборам брудных дамкоў і хатак — старыя вежы. Гарадок повен быў войска.

У самым горадзе палонных доўга не трымалі. Праз дзён два ім далі месца тут непадалёку: за горадам, у баку ад княжага замка, у спрадвечным хваёвым лесе, ужо з самага набліжэння фронту не працавала панская пільня. Цяпер яна згадзілася на выраб лесу на патрэбы войска: масты, дарогі, акопы, эшалоны дошак і брусоў пад фронт, рабіць умацаванні.

Палонныя засталі тут усяго з дзесяць рабочых: маладыя ўсё хлопцы, якім яшчэ рана было ісці ваяваць. Рэшта ж усе былі на фронце. Ужо ў наступны дзень пільню пачалі пускаць на поўны ход.

## 2. Як зменьваецца мясцовасць

Пасля ўсяго гэтага роўна праз год, у гэтай самай мясцовасці, па гэтым гасцінцы, паміж усялякімі іншымі, малымі і вялікімі падзеямі, адбылося от што.

Уночы, калі зоры збіраліся папялець на халодным небе, доўгі эшалон цяплушачных цялятнікаў падпоўз да дзівоснага і нязграбнага зборышча чорных рыштункаў: пад нежывым бляскам застылага неба чарнелі, на адзін схіл, стрэхі; нізкія сцены адно крыху павылазілі з зямлі; ліхтарныя слупы без ліхтароў, растрыбушаныя і цэлыя гарматныя перады і набойныя скрыні, кучы разламаных вазоў і колаў, загарадзі, насыпы, штосьці яшчэ без формы, шматлікае... Павольны рух чалавечых постацей, хрыпата і злосць у галасах...

Эшалон спыніўся стаяць. Ён прастояў нешта ўжо больш за паўгадзіны, як з нізкага барака выпаўзла насустрач яму чалавек з пятнаццаць вайсковых музык.

У цялятніках паадчыняліся дзверы; павольна, нехаця, гэтаксама як павыходзілі да іх музыкі, людзі вылезлі з вагонаў, выстраіліся перад імі. Кароткі чалавечак на ўсе свае жылы скамандаваў «смірна», ноч абазвалася яму рэхам «гаў-гаў»; падышла нейкая няясная ў змроку постаць, выпрасталася роўна і пачала вітаць людзей.

«Вы пралілі былі кроў за бацькаўшчыну, бог даў вам цяпер, пасля папраўы, зноў прыехаць сюды біць ворага... Герояў бацькаўшчына не забудзе...»

Нешта доўга гаварыла постаць. Ноч усё адкідала, следам рэха — гаў-гаў,— людзі ля эшалона стаялі моўчкі, ніхто не зварухнуўся.

Тым часам неба палавела, дзесьці з таго боку, адкуль прыйшоў эшалон, цадзіўся дзень; людзі ўсё стаялі, чакаючы каманды; было выгукнута «ўра», музыкі зайгралі марш. Раптам там, наперадзе, куды падышоў эшалон, грукнулі гарматы, пасля яшчэ, яшчэ з перапынкамі. Нават пакуль што і не зусім блізка яшчэ гэта было, наперадзе дзесьці.

У світальным змроку людскія твары яшчэ больш зрабіліся шэрыя, неспакой і прыгнечанне зусім апанавалі позіркам шчыльнага шэрага людзей.

Дзверы ў цяплушках больш не зачыняліся. Людзі неўзабаве тоўпіліся ля кухні — злосныя галасы, адзіны позірк, адзіны твар.

А як добра ўднела, пачалася маршыроўка. Гарматы ўдзень сціхлі.

Дзень прайшоў у бязладдзі. Людзей фарміравалі ў часці. Чыгунка далей адгэтуль не ішла. На фронт адсюль накіроўваліся салдаты пеша. Як на тую злосць, на світанні тады былі абазваліся гарматы: усе тыя часы было ціха на фронце. Некаторыя нават спрабавалі ў той дзень цешыць сябе: а можа, гэта дзе са стараны, не з фронту чуваць было, можа, манеўры якія.

Але гэта не адганяла трывогі і нуды. Гэтак прайшоў дзень. Ніхто не заўважаў залатое восені, здаровага подыху блізкай зімы. Увечары ж, пасля паверкі, калі салдатам загадалі лезці нанач у цяплушкі, адсыпацца перад заўтрашнім паходам на фронт, адзін чалавек, у натоўпе перад трэцяю ад канца цяплушкаю, не палез у дзверы, а сагнуўся і перапоўз пад вагонамі на другі бок эшалона. Эшалон стаяў на апошняй каляіне: чалавек гэта ўжо ўдзень выглядзеў. Чорная сцяна раскіданага барака цяглася там пад адкосам. Чалавек паўз яе і пайшоў паволі ў лагчынку. А там ужо нейкая дарожка, ці сцежка, паўз кляны, паўз

загарадзь. Поле! Лес! Ужо дайшоўшы да канца сцяны, чалавек заўважыў, што следам за ім, гэтаксама наволі, як бы нават крадуцца яшчэ людзі. Іх было два. Адзін, так, у сярэдзіне сцяны, другі ў пачатку яе. Ну што ж, чалавек зрабіў выгляд, што прыйшоў сюды з цяплушкі за патрэбаю. Аж убачыў, што і той, бліжэйшы да яго, спыніўся. А пасля і задні. Калі сярэдні баяўся пярэдняга, дык задні баяўся абодвух — ён бачыў перад сабою двух чалавек. І ён спыніўся адразу. Стаяў і не варушыўся, аж пакуль не заўважыў, што пярэднія сышліся разам. Тады і ён пачаў з асцярогаю падыходзіць. Сярэдні падышоў да пярэдняга не адразу. Ён паглядзеў спачатку, што той, убачыўшы яго, не пайшоў далей, адразу зразумеў і смела пайшоў. Яны спаткаліся. На абодвух змятыя шынялі, салдацкія пагоны з лічбамі, рэчаў — ніякіх; папуры недаверлівы зірк.

— З каторага вагона? — смела запытаў сярэдні.

— З трэцяга. А ты?

Тут падышоў трэці, ім больш згаворвацца не трэба было.

Пакуль узыдзе месяц, яшчэ цёмна звечара. А калі паяснее — там будзе ўжо лес, не гэтакая голая мясцовасць. І трое людзей пайшлі. Кожны меў за пазухаю, дзесьці ў нетрах халодных салдацкіх вопратак, кавалак хлеба і больш нічога. Ведалі яны раней адзін аднаго ці не? Важна тое, што цяпер яны ведалі адзін аднаго як не трэба лепш.

Поўнач спаткалі яны ўжо далёка адсюль. Куды яны ішлі? Што іх гнала ў беспрасветнасць? Гурт вяселіць людзей. Пакуль ішлі разам, можна сказаць, нічога не заўважалі самі ў сабе. Гаварылі ціха і больш нічога. Паддавалі самі сабе агню.

— Я ўжо раз страха не памёр, немаведама чаго, за каго і за што.

А другі не меў гэтакай яснасці ў думках.

— Можа, яно і не добра я зрабіў, але — чорт яго бяры з усім. Унь мая сям'я жыве ля самай пазіцыі, не сёння, дык заўтра, можа, немец займе. А я што, адзін буду аставацца ад сям'і? Хоць палонныя дзеці бацьку пры сабе мець будуць.

— А чаму ж сям'я не выбралася?

— Выбралася была, але як фронт стаў, дык вярнуліся. Усё лепш як бадзяцца па свеце. Жонка пісала яшчэ

ў шпіталь, што хата захавалася. От так каля салдат і кормяцца.

— Дык там цябе адразу і зловяць, калі гэта каля салдат.

Чалавек тут кінуўся на зямлю, сцягнуў з нагі бот і дастаў з шкарпэткі нейкія паперкі. Зрабіў ён гэта гэтак шпарка, што таварышы яго адразу ўбачылі: чалавек з усіх нерваў сваіх сам сябе абнадзейвае, сам сябе вяселіць. Усё будзе добра. Усё пойдзе як не трэба ўдалей.

— О! Глядзіце.

Быў лес. І месячная віднага была ў ім. Утрох селі на зямлю. Адзін паліў запалкі, другі растапырыў на сабе шынель, каб і не тухла і каб заўважыць агонь нельга было чужому воку. А той прачытаў паперку. Гэта быў самы сапраўдны дакумент, што чалавек, пасля раны на фронце, пасля шпіталя, пушчаны дадому на пабыўку, на паправу. Пячатка. Подпісы.

— Дык чаго ж ты туляешся, а не едзеш? І чаго яшчэ цябе сюды прывезлі?

— Бо тут мне блізка дадому. А дакумант гэты я сам сабе зрабіў. От, бачыце?

Ён паказаў некалькі пустых бланкаў, з гатовымі пячаткамі, з подпісамі.

— І праз штаб прайшло і праз усё, што трэба. Прызнацца, нас некалькі чалавек увесь час кралі пакрысе гэтыя бланкі з кабінета шпітальнага доктара. А другую пячатку, шпітальную, мне паставіў доктараў дзяншчык. Пройдзе тэрмін гэтай паперцы, дык я сабе другую напішу... Вядома, я не буду на вочы лезці кожнаму. Мясцовасць у нас глухая, сядзець буду ціхом у нары.

Тут толькі два астатнія пачулі ў сабе сапраўдную трывогу: што ж чакае іх дома? Пра гэта яны не думалі, калі страх перад фронтам пагнаў іх адгэтуль, балазе дадому адсюль кожнаму блізка было.

— Я вам дам па адным бланку, як толькі трапіцца дзе атрамант — панапісвайце дакуманты.

Цяпер яны разам не ішлі доўга. Дарогі іхнія разыходзіліся. Яшчэ да дня ім давялося разысціся. Але за гэтую рэшту дарогі было перагаворана не мала. Пакрысе высветлілася, што кожны нёс у сабе. Ясна было ім, на гэтым яны пагадзіліся, што надала ім адвагі зрабіць гэта тая лістоўка, што хадзіла па эшалоне, з вагона ў вагон, пакуль іх везлі сюды. Цяпер яны ўсё не маглі спусціць яе з думак.

— Значыцца, сапраўды нешта неўзабаве павінна быць. Калі ўсе адно чакаюць. Там, з чацвёртага вагона, таксама збіраліся шмаргануць. Разбягаюцца, каму дадому спрытней трапіць.

А другі ўспомніў, пра што гаварыла лістоўка.

«Чакайце рэвалюцыі! Рабіце рэвалюцыю! Годзе непатрэбнай вайны!»

— Нешта павінна быць.

— От я гэтак і падумаў. Годзе карміць вошай.

Тут, за лесам, адзін развітаўся з двума. А ўдвух пайшлі яшчэ разам далей. А на світанку і гэтыя развіталіся. Той, што меў з сабою адпускныя з пячаткамі бланкі, абагнуў лясок і выйшаў на даволі шырокую дарогу. Быў ужо дзень, як ён як мае быць пазнаў мясцовасць. Ён тады закрочыў цераз поле туды, дзе відаць было верхавіне прысадаў. Неўзабаве ён быў ужо на гасцінцы.

Некалькі разоў яму пападаліся насустрач вайсковыя абозы. Ён размінаўся з імі. Нарэшце адзін абоз дагнаў яго. Ён адразу, проста па-салдацку, сеў на воз, калі заўважыў, што пры абозе няма афіцэра.

— Куды, зямляк?

— Ды от... у водпуск, на пабыўку пасля шпіталю.

— А ў якім жа ты шпіталі быў? З фронту? Якія ж там шпіталі?

— Ды не з фронту, у нас жа гэтакія галовы камандуюць, што самі не ведаюць, што робяць. З тылу раней прывезлі сюды, выдаўшы там водпуск, а адсюль ужо я павінен брацца дадому... Накамандуюць яны доўга, калі гэтак будзе!

— Ну пэўна ж! — узрадаваўся абозны салдат.— Добра кажаш, каманда.

— І што,— падаваў усё голас, як бы сам сабе, адпускнік,— ім камандаваць не цяжка.

— Ім, добра кажаш, не цяжка. Не цяжка трымаць народ у акопах, на пакуце, а самі... няхай бы сам пайшоў пасядзеў у акопы! А то — я, ды от і ты, другі, трэці, чорт ведае чаго і за што... О,— салдат убачыў ля гасцінца свежыя магілы, паказаў на іх рукою,— о, куды народ кладзецца. І цяпер яшчэ ўсё магілы свежыя, падпаўляюцца дзень пры дні. Унь колькі народу без дай прычыны злягло.

Ён змоўк. У вачах бліснула. Пасля яшчэ гаворка:

— А за каго я ваяваць буду? Што, нехта пра мяне дбае? Нехта дбае, што мае дзеці дома пакутуюць? Некаму галава баліць, што з майго дзіцяці расце парабак?

— Можа, хто і дбае,— сказаў адпускнік,— можа, каму гэта і трэба.

Адпускнік раптам як успомніў што. Ён вельмі ажывіўся, нецярпліва стаў пагдядаць на дарогу, на бярозы.

— У нашай часці ўсе так гаворадь, як мы цяпер з табою,— гаварыў ён.

— У нас там па руках лістоўка хадзіла... Ці не будзе зараз тое самае, як у дзевяцьсот пятым годзе?

Праз некалькі гадзін абознік і адпускнік развіталіся. Пешаход пайшоў далей гасцінцам. Ноч была з замаразкам, і ён адважыўся начаваць у вёсцы. Гэта была ўжо знаёмая вёска. Там ён натрапіў на вайсковае начальства. Яму трэба было паказаць дакумент. І ўсё гладка сышло. Дык ён назаўтра смела пайшоў у свой бок. Стомлены пасля шпіталя, пасля дарогі і трывог, ён ішоў паволі і толькі шмат пасля паўдня падышоў да знаёмага гарадка. За войскам тут не было куды ўбіцца, каб прыйшлося. Салдат прайшоў праз гарадок, заўважаючы страшэнны вайсковы рух на гэтых мізэрных вулічках. Выйшаўшы за горад, ён агледзеў мясцовасць. Непадалёку, у панскім лесе, пачмыхваў паравік. Грэблі і лагчыністыя дарогі скрозь былі выбрукаваны тонкім бярвеннем і плашкамі. Ля самага гарадка на месцы хвойнага лесу былі адны толькі пні і ядлаўцовы хмызняк.

Разглядаючы мясцовасць, салдат ішоў далей. Сонца было ўжо нізка, як ён падышоў да каржакаватага хвойніку на ўзгорку. Налева ад яго ў лагчыне цягнулася доўгая вёска. Панскі шырокі палетак, што ішоў ля яе ад гарадка, увесь спрэс быў пабіты на дробныя загончыкі. Межы паспелі ўжо нават удзірвянець, паміж імі, як раўчукі, ляжалі вузкія, на тры крокі ўшыркі, палоскі. Тут спрабавала ўсходзіць, відаць, позна пасеянае, жыта. Ля самага хвойнічку стаяў новы, няскончаны зруб новага дамка на два ганкі. За зрубам цягнуўся даўжэзны агарод — агарожа з здаровых жэрдак зроблена, здаецца, на доўгі век.

— От як,— сказаў сам сабе салдат, пагдядаючы на зруб і ўваходзячы ў хвойнічак.

Там хлапчук, з вобраццю над пахаю, смачна зацягаўся махорачным дымам. Ні ён салдата, ні салдат яго не ведалі. Хлапчук за апошнія гады два вырас і змяніўся, змяніўся і салдат. Салдат пусціўся з хлапчуком у гаворку:

— Што ты тут робіш?

— Каня пасу.

— Нашто ж ты яго пасеш? Цяпер жа няма тут нідзе шкоды.

— Ого! Спусці адно з вока, дык уцекачы, што ездзяць тут па гасцінцы, як бачыш забяруць.

— Хто гэта дом там будуе?

— Чалавек з нашай вёскі.

— А як ён завецца, гэты чалавек?

— Нашто вам? Вы хіба тут людзей ведаеце?

— Не, я так сабе хачу ведаць.

— Ён завецца Сурвіла.

— У яго хіба хаты няма?

— Чаму няма? Хата ёсць. Але гэта ён сабе тут гэты кавалак зямлі купіў і цяпер на хутар выбіраецца. Забудоўвае хутар.

— І вайны не баіцца?

— Ну, дык ён пачаў будавацца яшчэ, як вайна была далёка. А цяпер, вядома, не будуе. Бачыце, што накрыў саломаю, каб зруб не гніў. А агарод сеяў.

— А ён хіба багаты, што гэтакі дом пачаў будаваць?

— Ого! Ён і яшчэ Мазавецкі ёсць, што жыве ў вёсцы на той бок рэчкі, за той лагчынаю. Наша вёска паабапал рэчкі. Некаторыя думаюць, што гэта дзве вёскі, а гэта адна. Дык Сурвіла з Мазавецкім самыя багацейшыя ў нас.

— Яны цяпер забагацелі ці былі гэтакія?

— Яны і былі багатыя. А цяпер — дык вельмі яшчэ ўгару пайшлі. Ім пашанцавала.

— Як жа ім пашанцавала?

— Яны ў пана зямлю адкупілі. Гэта што унь на той бок вёскі скрозь цягнуцца палосачкі.

— Дык нашто ж яны пабілі сваю зямлю на палосачкі?

— Ай, гэта як было, я вам зараз раскажу.

— Ну, ну, раскажы,— усміхнуўся салдат.

— Гэта пан зямлю спродваў. Ды не прадаваў пакрысе, колькі хто мог купіць, а зараз усё. А ў Сурвілы і Мазавецкага не было грошай, каб зараз усё купіць, дык яны надумаліся: падгаварылі нашых людзей, дык уся вёска папрылася ў гэту куплю. У каго колькі было грошай, той іх усе і аддаў Сурвілу і Мазавецкаму. А яны рэшту яшчэ недзе пазычылі і адкупілі зямлю. Узялі сабе колькі трэба ім было, а рэшту аддалі пад вёску. Яны цяпер з свае гаспадаркі могуць пацягнуць і пааддавалі свае даўгі, от ім і пашанцавала.

— А вёска? — запытаўся салдат ужо без хітрай усмешкі.

— А вёска — дык я вам скажу,— хлапчук па-гаспадарску, як стары, узяўся ў бокі,— я вам скажу, што цяпер некаторыя не рады, што падаліся ў гэтую кашу.

— Чаму?

— Таму, што цяжка прыйшлося. Сурвіла зямлю даў, і цяпер трэба яму выплачваць. А адкуль тут пацягнеш, каб аддаць? Дык Сурвіла і Мазавецкі чакаюць доўг, але нарастаюць проценты. Дык доўг трэба аддаваць, а проценты адробліваць. Дык цяпер, можна сказаць, уся вёска і робіць — і коньмі і рукамі Сурвілу і Мазавецкаму. А тыя, як паны, пахаджаюць адно паўз нашых людзей, за зад рукі пазакладаўшы.

— Дык хіба ў іх гэтак работы многа, што на ўсіх хапае?

— А што ж! Яны ж у пана хапілі зямлі халера іх ведае колькі. У фальваркоўцы павыбіваліся. Унь вясною як сеялі ярыну... я сам пяць дзён скародзіў сваім канём, а бацька два дні араў. Яны цяпер, трасца іх матары, усю вёску ў рукі ўграблі.

— Дык і вы зямлю купілі?

— Купілі. Дзве дзесяціны.

— Чый жа ты?

— Я Сымонаў Чуйкаў... Вы, мусіць, тутэйшы, што гэтак пра ўсё распытваеце.

— От так, зблізку... А як гэта лес высеклі там, ля горада?

— А гэта пан захадзіўся ўсё спродваць. Як толькі што пачалася вайна, дык ён прадаў лес купцам. А тыя прыехалі аднекуль, лес высеклі, некуды вывезлі бярвенне, а самі паехалі. Усяго, праўда, лесу не высеклі, бо не было куды вывозіць рэшту, казалі людзі, што вайна перашкодзіла. А цяпер зноў пачалі сеч — войска адкупіла, дарогі масціць ці яшчэ куды... Там пільня цяпер у лесе зноў пайшла ў ход. Унь і па той бок нашай вёскі таксама лес высеклі. Там другога пана, дык той сам, без купцоў, сваю пільню паставіў. А то так людзям ураздроб прадаваў, каму трэба было... Ого, лясы цяпер пачалі высякаць. Людзі кажуць, што зараз не будзе каля нас зусім лясоў... А Сурвілу — дык таму шанцуе. Яго і сын цяпер дадому колькі дабра цягне — страх!

— Як гэта?

— А так, што ён раней пры прыставе ў горадзе служыў. А цяпер служыць у гэтым саюзе...

— У земскім саюзе?

— Але, у земскім саюзе. За нейкага старшага. У нашым горадзе тут стаіць. Дык і грошай мае і так усяго. Сурвілавых наймічка казала, што стары Сурвіла ўсё ў гарадок ездзіць і дабро возіць: колькі адных колаў і хамутоў панацягваў! Казала наймічка, што мяшкамі рыс возіць і нават употай прадае сёё-тое, аж купцы прыязджаюць, але трасцу, ад людскога вока не ўхаваешся...

— Нашто ж яму гэтае дабро, а калі вайна прыйдзе і трэба будзе выбірацца,— зноў хітравата ўсміхнуўся салдат.

— Вайна, кажуць, цяпер не прыйдзе. Цяпер, кажуць, немцаў далей не пусцяць. Гэта летась усе збіраліся ўцякаць, нават ужо і вазы папрыстройвалі. А цяпер смялей стала. Цяпер, кажуць, нашага войска шмат сабралася на пазіцыі, дык немца пагоняць назад...

— Ты, здаецца, курыш, можа, закурым са мною?

— Чаму не.

Хлапчук ахвотна зацягнуўся дымам і закашляўся.

— Э-э-э, курэц з цябе!

Салдат пайшоў дарожкаю паўз хвойнік. Хлапчук пачаў браць на аброць каня. Салдат неўзабаве звярнуў у хвойніку з дарожкі на сцежку. Сцежка прывяла яго на другі бок хвойніку, зямля там абрывалася ўніз у балота. Перад салдатам была хацінка. Заходзіла сонца. Нанач браўся замаразак. Бялеў зусім ад яго на груду сівец.

### 3. Як зменьваецца чалавек

Ля глухой хатняй сцяны стаяла палатняная будка, знятая з воза: на арэхавыя, сагнутыя дугамі рамы нацягнены пасшываныя транты з старых мяшкоў. Гэтая прыстройка была прывязана да сцяны пад страхою. Таксама да сцяны туліўся стары хляўчук з аполкаў — «той усё самы» — салдат пазнаў. Быў вячорны змрок, як салдат падышоў сюды. У хаціне запалілі святло, салдат падышоў да акна. Высокі, плячысты чалавек стаяў пасярод хаты, ён чапляў да вялікага прабою ў столі калыску на вяроўках і драўляным круку. Маладая жанчына стаяла ля яго з дзіцем на руках. От чалавек пачапіў калыску, жанчына паклала ў яе дзіця і пачала калыхаць. Чуваць было, як яна заспявала калыханку, плячысты чалавек адышоўся да дзвярэй і стаяў там, камусьці штосьці гаворачы. Салдат некалькі момантаў не зводзіў вачэй з жанчыны.

**Што рабілася ў сэрцы гэтага чалавека? Можа, ён ду-**

маў пра тое, як некалькі дзён да гэтага, пазаўчора, ці што, развітаўшыся з тымі сваімі двума таварышамі, апынуўшыся ў лесе адзін, стаў раптам мяккі, як салома, быў блізкі да таго, каб цалаваць зямлю, што гэтак ціха драмала пад ляснымі імхамі, поўная цішыні, бязлюддзя, і гэта — пасля страшэннага грому вайны, пасля чакання смерці! А можа, і цяпер чалавекам апанавала гэтакае пачуццё? Можа, і цяпер яму нічога не трэба было, апроч самога сябе, выратаванага ад пакут і смерці,— далёка ад вайны?

Можа, і не было цяпер гэтакага пачуцця ў чалавеку, што панавала тады ў лесе шмат доўгіх момантаў, пакуль рэальнасць не пагнала назад да яго здаровых думак. Але ўсё ж у чалавека задрыжаў твар, ён не вытрымаў больш тут стаяць і адразу рушыў у хату.

— Добры вечар,— сказаў ён, зусім ужо валодаючы сабою.

Пазналі яго з голасу. Жанчына кінулася да яго. Высокі чалавек таксама заварушыўся, затупаў па хаце. З печы злезла старая жанчына.

— Марылька!

— Павал!

— А сынок жа ты мой,— заенчыла старая.

— Паглядзі на сына,— сказала Марылька.— Можа, зусім ты прыйшоў гадаваць яго? — зазірнула яна ў вочы мужу.

— Не, не зусім,— выгаварыў ён цвёрда,— на пабыўку.

Доўга было радаснае ўтрапенне. А пасля салдат, Павал Няміра, пачаў слухаць цесця, Леапольда Гушку.

— От бачыш,— сказаў Гушка, здымаючы з галавы магерку.

Няміра ўбачыў на Гушкавай галаве сівую кучаравасць. Зусім быў сівы чалавек.

— Я ссівеў. А Сурвіла — дык той памаладзеў. Што яму вайна! І я збіраўся ва ўцекачы выязджаць, і ён збіраўся. Дык я вопратку прадаў ды бракаванага салдацкага каня за дзесяць рублёў купіў на гэта. Многа я на тым кані наехаў бы! А ён на чацвярых конях строіўся ехаць, на двух параконных карах. І поўныя кішэні грошай. А цяпер — дык вайна яму — заработак, прыбытак. Яму гэтак пайшло цяпер. Сын, пане мой, горне грошы, а ён сам, як купец які, як пан той, што лес і зямлю папродаў, ды грошы ў банк перагнаў, ды не ў тутэйшы банк, а недзе ў Ангельшчыне, ці якая яму трасца! Ездзіць сабе і ні вайны, нічога не ведае. Сын яго, нябось, не пойдзе марнець у акопы!

— А з зямлёю як у вас?

— З зямлёю? Пакуль да той зямлі, дык Сурвіла траха духу майго не дагледзеўся. Гэта я яму зямлю купіў, а не ён мне! З майго мазаля ён сабе фальварак справіў. Каб не мы, гэтакія, што цераз яго зямлю даставалі, дык трасцы б ён агарнуў бы сабе гэтулькі! Твой жа бацька таксама пасля ўжо на дзесяціну паквапіў.

— Ведаю, пісаў бацька.

— Шмат хто пасля ўжо ў Сурвілы і Мазавецкага, як яны ўжо з панам разлічаліся, па дзесяціне зямлі ў іх паб-ралі. Цяпер ён тут, дзе я жыву, пашу сабе агароджваць строіцца. Ссадзіць мяне хоча, каб я яму месца ачысціў, ідзі, кажа, забудуйся на свае дзве дзесяціны. Дык гэта ён мог бы забудавацца дзе сабе хоча і калі хоча, а я — пачні адно раскідаць гэтую старую хату, дык з яе адна парахня астанецца. Як стаіць, дык стаіць, а зачапі паспрабуй!.. А што, я новую хату магу паставіць? Дзякуй яму за ласку! Адсюль ён мяне не зганіць! Я на гэтым кавалку ўсе свае сілы паклаў! Я ссівеў тут, камяні гэтыя раўнуючы. Няхай прыйдзе з прыставам ды жыўцом за горла бярэ, і то я пачну праўды даходзіць. Што, я ад пана ўцёк на тое, каб век вечны Сурвілу за парабка быць? Можа б, мне не варта было спачатку брацца за гэтую справу, але што ж, запозна я агледзеўся. Можа, каб я кінуў, рынуў, тады быў тут усё, ды туды, на радзіму, вярнуўся, адкуль бацька мой уцёк тады сюды,— можа б, там я не ведаў бы гэтакага гора, гэтакага здзеку.

— Пра якую радзіму ты гаворыш?

— Пра якую радзіму? Пра тую радзіму... пра тую... што я не ведаю яе, але няўжо ж і там гэтак усё? Няхай сабе цяпер немцы ідуць, я ўжо ўцякаць не буду. Пад Германіяй астануся, дзе хочаш...

Раптам ён змоўк, маўчаў колькі хвілін, пасля ўспомніў:

— Бацька не мог забыцца на радзіму, усё ўспамінаў, усё думаў калі-небудзь вярнуцца назад. А я тут, на чужыне, дзяцей нагадаваў і з гора-бяды век не вылазіў. Рабіў усё на некага...

— Дык што ты, бацька, хочаш сказаць?

— Ты тутэйшы, а я не тутэйшы. Мала што я ўжо гэтакі, як усе тут.

Ён дайшоў да найвышэйшага пункту раздражнёнасці і адвагі на ўсё. Ён моцна крычаў на ўсю хату пра нейкую радзіму, пра нейкае жыццё там, упэўніваў сам сябе, што

там бы ён не пасівеў бы гэтак яшчэ... Пасля зноў пераходзіў на тутэйшыя справы:

— Мяне гэтак проста Сурвіла не возьме. Што мне траціць! Хамут, у які мяне ўпрог Сурвіла? Або гэтую трухлявую хату я страчу? Чэрці яе бяры, з хатаю разам. Я за ўвесь век свой толькі гэтую трухліну і зарабіў. Няўжо мне гэтакая малая цана? Дзве дзесяціны цяпер маю. Дык што, гэта я жыць на іх магу цяпер па-чалавецку? На дзвюх дзесяцінах я разгуляюся? Або я маю чым іх урабіць? Зноў жонку ўпрагу ў ярмо, гэтак, як тады, камяні тыя рвучы? Або Адась тут вернецца на гэтую спадчыну, па долю свайго бацькі? Або Антусь тут засядзе на век? Не хачу я, каб асядалі на гэтай нядолі мае дзеці!

— Дык што рабіць трэба? — зусім шчыра запытаў Няміра, сумеўшыся ад навіны бачыць гэтакім Леапольда Гушку, гэтакім, якім ён ніколі дагэтуль яшчэ не быў.

Тут Леапольд Гушка зноў пачаў гаварыць штосьці пра нейкую радзіму, гаварыў і сам не ведаў, што і да чаго, і што там на той радзіме і якая яна. А пасля зноў варочаўся ўсё на тое, што балела яму:

— Я тут сам гаспадар. Хто сюды рукі прыклаў, да гэтай зямлі, я ці Сурвіла? Што ён абармоціў народ, дык гэта права гэтакае? Мой сын не ваюе? Не гніе ён у акопах, ліха ведае за каго і за што? За што ён ваюе? За тое, каб тут Сурвіла мяне з хаты выкідаў? За тое, каб я з торбаю, пасля вечнага парабкоўства, па свеце пайшоў? Гэта ён адваёўвае мне права дажываць веку старцам у ярме? За што ён ваюе? Сурвільчык, нябойсь, каля дому аціраецца ды грошы грабе. А мой Адась гніе недзе там. Што ж, калі гэтак, дык у зубы глядзець таму, хто на табе едзе? Няма ніякага граху! Мне дык грэх, а Сурвілу абармоціць усіх, дык не грэх? Закон? А што, гэты закон бог даў, ці проста яно пайшлося гэтак, як некаму зручней было? Унь у нас у гарадку малебства нядаўна адпраўлялася, каб бог памог пабіць германцаў. А германцы не просяць бога, каб ён памог ім пабіць рускіх? Дык каго ж богу слухаць? Што, германцы горшыя за расійцаў, што, яны не людзі? А яны ж таксама бога просяць! Недзе там стаіць сабе гэтакая маленькая цэрквачка, касцёлак, можа, той яшчэ самы, што бацька некалі хадзіў да споведзі. Увесь дрэвамі аброс... Той, што маці плакала ля яго, як мы збіраліся сюды выязджаць, як маці развітвалася там з кожным дрэўцам... Я памятаю, я ўсё гэта як бачу перад сабою, як ясны сон бачу, калі маці малога павяла за руку была ў той апошні

дзень пад той касцёлак... Можа, каб я вярнуўся туды быў ззамаладу, можа б, іначай я пражыў жыццё сваё, не гэтак, як тут жыў, можа б, іншаю, шчасліваю, сцежкаю дайшоў бы да труны свае. І, можа б, гэтая сцежка не была б гэтакая кароткая, можа б, гэта была доўгая і шырокая дарога. А то — чаго я гэтак раптам ссівеў? Можа, мне мала ўжо на свеце жыць асталося, дык нашто я век свой пражыў? Каб некага ўспамагаць? Жыў-жыў, дый дажыўся, што нават, калі прыйшлося рыхтавацца выязджаць, шукаць ліха ведае дзе ўцякацкае смерці, дык трэба было ў гандляроў транты з непатрэбных мяхоў збіраць, каб будку пашыць. Ідзі глянь, калі не верыш, за хатаю вісіць пры сцяне...

Выгаварыўшыся, ён сышоў некуды надоўга з хаты. Гаворка яго ўмацавала ў Няміры тую яго цвёрдасць, што была ў яго тады, калі ён пакідаў украдкі эшалон, і калі чытаў некалькі разоў, і да шпіталя, і пасля яго, лістоўкі, і калі чакаў тае рэвалюцыі, пра якую гаварылі гэтыя лістоўкі. Цесцева гаворка паддала яму ўпартасці: ужо ў першую хвіліну, як увайшоў ён у хату, убачыў, што не на дабро ён сюды прыйшоў: лішне так не нагаспадарыш, не будзеш рабіць, бо лішне тырчаць у людзей перад вачыма не можна: надоўга на пабыўку не пускаюць, трэба будзе назад варочацца. А паспрабуй, вярніся. Дый не на тое ён уцёк, каб назад вярнуцца, на гора, а можа, і на смерць. А не рабіўшы нічога, так сядзець і гатовы хлеб есці, якога няма? Ён ведаў: тое самае і ў бацькі. Бо яшчэ з самага пачатку пісала была Марылька, што прыйшла яна назад у бацькаву хату: не тое што ў Нямiравых ёй горш было, але сям'я там вялікая, хата цесная, людзей поўна, работы няма.

— А дзе Антусь? Што ён робіць?

— Ён цяпер на лесапільні робіць,— адказала Марылька.— Там найбольш палонныя, але таксама і нашы некаторыя вясковыя хлопцы маюць работу. Раней, як пан быў, з пачатку вайны, прадаў лес нейкім купцам, дык пайшла была пільня на поўны ход. А пасля зусім была стала, як фронт падышоў. Дый людзей, сказаць, не было. У войска рабочых пазабіралі. А гэта, як пасмялела з фронтам, дык зноў пайшла пільня. Казна цяпер ад купцоў заарандавала пільню і лес у іх купляе. Але таксама і купцы самі часткаю там уладаюць сабе на гандаль. Дык там і палонныя і нашы хлопцы, каторыя яшчэ маладыя ў войска ісці. А то і старых крыху ёсць.

— А ты як?

— Ну як я! Як усе, так і я. Ты ж бачыш. Сурвіла такі не на жарты хоча на вясну, каб бацька ачысціў яму месца. Хата стаіць на яго зямлі. Ён тут сабе выгароджваць будзе. Як яно прыйдзецца, немаведама.

Яна была блізка да таго, каб заплакаць. Каб не наганяць яшчэ больш на яе нуды, ён не сказаў нават і ёй, што сам сабе зрабіў гэты водпуск. Ён тут зусім стаў цвёрды і адважны. Ён смела пайшоў на вёску да бацькі. Бацька, пачухваючы кароткую сівую бараду, папраўляючы на галаве ўсё чорную шапку з аўчыны, распытваў, ці не чуваць пра канец вайны і калі пакінуць ужо народ мучыць. Ён тут жа павёў сына паказваць каня, якога набыў ад уцекача выпадкова, замест ранейшага, старога.

— Хоць і гэты стары,— гаварыў ён,— але мацнейшы. Ён у мяне за зіму выстаіцца і на вясну будзе рабіць. Адно каб вайна скончылася, каб спакойна на свеце пажыць.

У гэты вечар Павал Няміра не думаў, як ён тут і калькі будзе. Нейкая невыразная яшчэ ўпартасць апанавала ім. Начаваць ён пайшоў да сваёй сям'і, да Гушкавых.

## 4. Нашчадкі бунтоўных нявольнікаў

Пільня цяпер, можна сказаць, забаўлялася: не лішне зашмат яна цяпер пераводзіла лесу. З'ела яна яго многа, гадоў за два да гэтага, з самага пачатку вайны. Тады пан паспеў перавесці на грошы самы лесавы мацунак. Скрозь адно стаялі пні, дзе раней шумелі выносістыя хвоі.

Палонныя працавалі асобна ад тутэйшых рабочых: ішлі дзве машыны, адна на вайсковыя патрэбы, другая на купецкі гандаль. Гэтакім парадкам як бы дзве пільні былі тут разам. У той год, як надзея пачала ператварацца ва ўпэўненасць, што ўцякаць ад вайны не прыйдзецца, што, можа, нават і канец вайне не лішне далёка будзе, зноў пачаў асталёўвацца пакрысе абыклы рух жыцця: сёй-той нават пачаў канчаць раней пачатую будоўлю, а хто-небудзь і зусім спачатку адважваўся будавацца. Бо мясцовасць сапраўдны змянілася: не толькі гэты пан тут прадаў зямлю, тое самае і яшчэ сёй-той з паноў зрабіў у гэтым навакollі. Дык не толькі Сурвіла і Мазавецкі пашыліся ў фальваркоўцы, а яшчэ і больш гэтакіх льга было знайсці ў гэтай мясцовасці. Тым часам, калі фальваркоўцы былі лічаныя, дык больш было гэтакіх, што парабіліся добрымі паўвалочнікамі, і нецярплівасць рушыць на хутар, выдзеліцца на сваю раскошу руліла бесперастанку. Але найбольш

было гэтакіх, што або ў даўгі паўлазілі з-за якіх-небудзь дзвюх дзесяцін зямлі, або, калі абышліся без даўгоў каторыя, дык тыя дзве якія дзесяціны вомегам пачалі вылазіць: былі яны дзе-небудзь далёка ад бацькаўскай спадчыннай зямлі, і чалавек раскідаўся, можна сказаць, на два трухлявыя курыныя седалы, карысці з якіх толькі і было, што рабі на іх. Некаторым купleны крох зямлі папаўся гэтак далёка, што на яго льга было за дзень воз гною, не больш, завезці. Ад сілы два! Але і гэтакіх купцоў на зямлю нельга сказаць, каб было многа: аставаліся сабе людзі гэтак, як і былі, марнелі сабе па бацькаўскай горкай спадчыне, адно што цяпер сыны іх ваявалі.

Новыя паўвалочнікі дзе якія перабіліся, новыя хутаранцы зноў пачалі брацца за пярэрваную будову. Нясмела, пакрысе, але браліся. Пільня патроху скрыпела, і не на адны толькі вайсковыя патрэбы. Праўда, цывільных рабочых тут было ўсяго якіх чалавек дзесяць, але больш іх, пакуль што, і не трэба было.

Ад самага гарадка да гэтага лесу цягнуліся дробныя хутаркі, у хутарскіх хатах, разам з гаспадарамі і мясціліся палонныя з лесапільні. Тут жа, па гэтых прылесных хутарках, кватаравалі і цывільныя рабочыя, якім было далёка кожны дзень хадзіць дадому нанач.

Адзін раз, пасля работы, на самым змроку, палонныя ішлі на свае кватэры. На гэтую партыю палонных глядзелі крыху вальнейшым вокам — не забыліся яшчэ, што гэта яны самі, добраахвотна, падаліся былі ў палон. Адзін з палонных нешта астаўся крыху далей. Канвойны некалькі разоў азірнуўся на яго, гукнуў, каб ён спяшаўся. Той прайшоў подбегам, даганяючы сваіх. Выйшлі з лесу. Тут якраз нагналі яго некалькі чалавек цывільных рабочых. Усё маладыя хлопцы. Палонны ішоў сабе, падспеўваючы ціхенька, сам сабе, просты нейкі матыў без слоў. Пасля ён пайшоў шпарчэй і таксама шпарчэй і нават мацней пачаў перабіраць матывам у тахту сваёй хадзе. Следам за ім ішлі хлопцы. Адзін, высокі, тонкі, зграбны, з высокім ілбом, ясным тварам, пачаў прыслухоўвацца да гэтага матыву. От ён пайшоў хутчэй, каб дагнаць палоннага, накінуўшы крыху ззаду за сабою сваіх таварышаў. Палонны, пачуўшы за сабою шпаркую хаду, азірнуўся і ўсміхнуўся, пазнаўшы знаёмага хлопца: кожны дзень ім даводзілася спатыкацца як-небудзь зня чэўку пры рабоце. Часамі яны і загаварваць спрабавалі адзін з адным. Палонны найбольш трапляў гаварыць па-польску, але за год налаўчыў-

ся ўжо крыху і па-тутэйшаму. Разам з тым, ён некалькі слоў і сказаў — навучыўся ад канвойных і па-руску, гэтулькі, як нейкім парадкам калісьці ведаў па-польску. Ён мог ужо выгаварваць што хацеў на розных гэтых мовах гэтак, што яго разумелі. Нарэшце ён сам пачаў старацца аўладаць мовою тутэйшага насельніцтва.

Палонны і хлопец пайшлі поплеч.

— Ну. заспявай яшчэ,— сказаў хлопец.

Палонны паглядзеў на хлопца, як бы пытаючыся вачыма.

— Заспявай адно, заспявай. Чаго ж ты пакінуў спяваць? — Палонны зразумеў і шырока ўсміхнуўся.

— Ну, ну,— гаварыў хлопец і раптам, нечакана для палоннага, сам ціха зацягнуў той самы матыў. І гэтак выразна, што палонны здзівіўся, шырока расплюшчыў вочы, узяў хлопца за рукаў і, пакуль памагчы, некалькі хвілін слухаў. Нарэшце паціснуў плячыма і, як бы асвойтаўшыся з неспадзяванасцю, заспяваў песню. Цяпер гэта ўжо быў не матыў толькі, гэта была ўжо сапраўдная песня з словамі. Палонны выгаварваў словы моцна, са знарочыстым прыціскам. І з вялікага здзіўлення ён тут жа пакінуў спяваць, чуючы, як хлопец гэтаксама ягонай мовою выгаварвае словы гэтай песні. Палонны спыніўся і прытрымаў хлопца за руку. Хлопец ціха ўсміхаўся, палонны нейк пахмурна і разам з тым ясным зіркам глядзеў на хлопца. Ім трэба было дагаварвацца. І, пайшоўшы далей, яны пачалі гаварыць. І што ж выявілася?

Як хлопец ведаў гэтую песню на чужой мове?..

Ён сам яе ніколі не спяваў, ён першы раз цяпер яе заспяваў, калі пачуў, што палонны яе спявае. Яму трэба было з палонным як-небудзь загаварыць, натрапіць на што-небудзь агульнае.

Ён шмат разоў за сваё жыццё чуў, як бацька яго гэтак, як усё адно задуменны чалавек жуе саломіну, спяваў сам сабе гэтую песню. Нават не спяваў, а проста, можа, нават ужо не думаючы пра гэта, выгаварваў гэтую песню, ціха, невыразна, на нескладаны матыў. Чалавек гаварыў іншаю моваю, а спяваў гэтую песню на мове інакшай. Хлопец пераняў гэтую песню ад бацькі. І от ён цяпер гэтакім парадкам ідзе поплеч з палонным, і яны гавораць. Знаёмства набывае цікавасць, і пакуль яны дайшлі да хутарка, гэта ўжо было больш як знаёмства.

Што ж яны паміж сабою высветлілі? Што яны ўведалі адзін пра аднаго?

Выявілася, што хлопцаў бацька захаваў гэтую песню ад свайго бацькі. А той прынёс яе адтуль, адкуль прынёс яе на гэтую лесапільню і палонны. Хлопцаў бацька чуў яе ад свайго бацькі ўжо ў гэтай мясцовасці. Той стары яшчэ яе часта і вельмі выразна спяваў. Яна яму, відаць, была блізкая і шмат гаварыла ягонаму сэрцу. А ў сына яна захавалася, можа, усяго як успамінанне пра нябожчыка бацьку. Ён успамінаў яе, ірвучы каменне на польскай дзялянцы, аручы гэтую дзялянку, парабкуючы, гаруючы на свеце.

А палонны? А ў яго гэтая песня адтуль, дзе яе, старую, дзедаўскую, і па гэты дзень памятаюць.

Адным словам, палонны і хлопец, пакуль прыйшлі на кватэру, пасябравалі. Палонны напаткаў тут свайго як бы земляка. Развітваючыся ля брамы, паціскаючы адзін аднаму рукі, усміхаючыся адзін аднаму, яны, ні то з сяброўскай жартаўлівасці, ні то стала, яшчэ раз заспявалі:

І суд у нас, і суд у нас,
Тут нават і не судзяць:
Адразу возьмуць, павядуць,
Канец табе тут будзе.

Святла няма. Жывеш ты век
Пад мурам пад астрожным.
І колькі слёз, пакут, калек,
Пералічыць не можна...

— Эдвард Лявэр,— назваў сябе палонны, паціскаючы на развітанне яшчэ раз хлопцаву руку.

Ён пайшоў на кватэру засмучоны, пануры. Усё гэта, гэтае спатканне і гаворка, разварушылі яму сэрца.

У нядзелю, калі цывільныя рабочыя не працавалі, яму ўдалося адпрасіцца раней на некалькі гадзін пакінуць работу. Хлопец ужо чакаў яго на дарозе. Яны пайшлі разам. Праз кіламетраў пяць яны выйшлі на гасцінец, а там ужо блізка быў і каржакаваты хвойнік, а ля яго і Гушкава хата. Яны ўвайшлі ў хату.

— От, тата, са мною прыйшоў той палонны, што я вам тады расказваў,— сказаў Антусь.— Эдвард Лявэр.

Гушка захваляваўся спачатку, затупаў па хаце, змахнуў з лавы рукою нейкую адзежыну, запрашаючы госця садзіцца.

Госць убачыў у Марылькі на руках дзіцянё. Ён падышоў да Марылькі, пагладзіў дзіцянё пальцам па галоўцы, можа, нават ён быў гэта спачатку зрабіў з простай далі-

катнасці. Пасля ўзяў дзіця на рукі, прытуліў да сябе, падняў яго высока на руках, пачаў усміхацца, забаўляць дзіця, цмокаць яму губамі. Дзіця ў адказ засмяялася. Тады вочы яго пачырванелі, ён захваляваўся, пачаў растлумачваць, што як ішоў ён ваяваць, дык якраз гэтакае малое дома пакінуў. Таксама смяялася, калі яго забаўлялі.

Далей гаворка пайшла ў гэтакім кірунку: Леапольд Гушка расказваў пра сябе. Бацька быў спачатку ткач. Гэтага бацькавага ткачоўства Гушка ўжо не памятае. Пасля было ткачоўскае паўстанне. Шырокі быў бунт галодных ткачоў, бяспраўных людзей, бяздольных нявольнікаў. Ткачы спявалі сваю песню, збіраліся вялікім гуртам, згуртоўваліся больш, помсціліся сваім панам-гаспадарам, нападалі на іх. Пасля, вядома, былі салдаты, арышты, турма. Паўстанец Гушка ратаваўся. Ён выехаў з-пад Браслаўля далёка ў мясцовасць, дзе гаспадары гадуюць авечак на воўну. Там яму давялося зрабіцца за аўчара. Там у яго нарадзіўся сын Леапольд. Пасля яго і там пазналі, і недалёка было ад таго, што ўспомняць яму ткачоўскае паўстанне. Дык яму давялося ратавацца далей дзе. Ён, ужо спрактыкаваны аўчар, прыехаў сюды ў двор да тутэйшага пана. Гэты аўчар і ў сваёй Сілезіі і тут не забываўся ўсё на сваю калішнюю паўстанскую ткачоўскую песню. Сын Леапольд пераняў яе. І памятаў яе праз увесь век свой...

Пасля надышла чарга Эдварда Лявэра расказваць. У яго дзед быў таксама ткач-паўстанец. Бацька яго радзіўся пасля ўжо таго, як гэты дзед недзе кончыўся ў турме, здаецца нават, гаварылі пасля, у самыя дні ягонай смерці. Так што песню ён чуў не ад дзеда і, можа, нават не ад бацькі. Проста ён чуў яе ад усіх: бацькоў, таварышаў. Песня не памерла тады, калі сканала паўстанне.

Ён, Эдвард Лявэр, ніколі ўжо не займаўся ткачоўствам. Ён падаўся ўбок: у Тарнавіцкай навакольнасці, з самых малых год сваіх, капаў жалезную руду. А пасля быў, да самай вайны, на каменнавугольных капальнях. Адгэтуль яго і забралі ваяваць. У яго трое дзяцей, жонка — былая работніца на капальнях: тачкі з вуголлем адкочвала. Цяпер яна, застаўшыся адна, шукае сабе работы, каб як пражыць з дзецьмі. Яна не сядзіць на месцы. Яна за гэтыя гады аб'ехала гарады — Герліц, Шведніц, была і ў тым усё колішнім ткачоўскім Браслаўлі...

І далей ішла гаворка між Леапольдам Гушкам і Эдвардам Лявэрам. Гаварылі яны толькі ўдвух. Іх слухалі ў

хаце — Марылька, Антусь, Няміра. З Эдвардавай гаворкі от што зразумеў Леапольд Гушка:

— Чаго я сам падаўся ў палон? А за што я ваяваць буду? За што я галаву сваю складаць буду, за што я гніць у акопах буду? Каб я ведаў, што ад гэтага маёй сям'і там будзе лепей жыць, што я гэтым здабываю шчасце сваёй сям'і, сабе самому, дык і ішоў бы біцца. А то — сям'я там бадзяецца па гарадах, галодная, голая, спрацаваная гэтак, як і скрозь, заўсёды было мне і маім таварышам, што са мною разам у палон падаліся. Нехта там мае капальні, нехта там з таго вугалля, што я капаў век свой, багацее, а я кавалку хлеба жадзен, ды яшчэ ваяваць я павінен? Мне кажуць — ратаваць бацькаўшчыну. Дык няхай гэтакая бацькаўшчына праваліцца скрозь зямлю, калі ў ёй я павінен не жыць, а гніць! Гэтакую бацькаўшчыну трэба самому старацца збыць з свае галавы. Не трэба мне ні бацькаўшчыны гэтакае, ні вайны, ні акопаў гэтых, нічога гэтага! Мой дзед у турме кончыўся за тое, што не сцярпеў голаду і абазваўся, а я горшы за дзеда, што павінен слухаць і маўчаць, калі мяне мучаць? За што мне ваяваць? І з кім мне ваяваць? Прыйшлі былі, укінуліся ў наш акоп расійскія салдаты. За што, кажуць, мы будзем ваяваць з вамі? У нас дома дзеці малыя, мы іх сіраціць не хочам. І пайшлі ў палон. А я падумаў сабе: ну, а чаму я павінен сіраціць сваіх дзяцей? Яны ад гэтага шчаслівейшыя стануць? Ім хлеба ад гэтага больш будзе, калі я дадому галавы не прынясу? Дык я ў той жа дзень пайшоў у палон. Ваяваць за бацькаўшчыну? А калі я на гэтай бацькаўшчыне дабра ніколі не бачыў, дык тады як?

Леапольд Гушка маўчаў. Ён глядзеў кудысьці далёка праз акенца сваёй хаціны і стаяў гэтак доўга.

Палуднавалі разам усе. Лявэр, самым адвячоркам, заспяшаўся ісці. Яны прайшлі разам з Нямірам да вёскі і праз яе ўсю.

З тых часоў Эдварда Лявэра ведала тут уся вёска: як толькі льга было яму, ён прыходзіў сюды. Хутарская ж гаспадыня, дзе кватараваў ён, расказала раз неўзабаве пра яго на вёсцы, што гэта дзіўны чалавек: «Вельмі ж сумуе па сваіх дзецях, успамінае ўсё іх, раз нават плакаў. Бярэ маіх дзяцей на рукі, песціць іх, забаўляе. І ўсё называе іх па-свойму, не гэтак, як яны завуцца, а гэтак, як ягоныя там недзе дзеці».

— Гэтаксама і мой палонны кватарант,— гаварыла

другая,— таксама майго большанькага хлопчыка ўсё лашчыць, у яго, кажа, гэтакі самы дома астаўся.

— А мой,— сказала трэцяя,— маўчыць найбольш, нудзіць па сям'і.

— Што гаварыць,— заўважыла чацвёртая,— усе гэтакія, вядома, людзі.

### 5. Зіма

Дзве Гушкавыя дзесяціны былі па той бок вёскі, іх выбраў Гушку сам Сурвіла. Ён зрабіў ласку: дзесяціны гэтыя былі самыя раўнейшыя ад усіх іншых дзялянак. Вырэзваючы іх, Сурвіла сказаў:

— Я так падумаў: вы, Леапольдзе, гаравалі ўвесь век свой, няхай цяпер вам будзе поле раўнейшае. Я калі падумаю, дык, божа мой, божа, як іншаму чалавеку прыходзіцца гараваць на свеце. Хоць бы сабе і вы, век свайго не меўшы. Гэтулькі вы гора, пане мой, ужылі. Што, я не бачу, ці што? От бо не роўна прыходзіцца людзям на свеце! Гэта як каму бог дасць. Ці гэта шчасце гэтакае чалавеку выпадзе, ці што? На раду не роўна людзям напісана.

Гэта было ў першую восень вайны, Леапольда Гушку тады мучыла адно: з-за зямлі гэтай ён узяў падданства, а з-за падданства Адась пайшоў ваяваць.

— А што ж,— сказаў на гэта Сурвіла.— Тут, значыцца, справа гэтакая — на зямлі, перш за ўсё, трэба рабіць, пасля — яе трэба прыдбаць, калі свае няма, пасля, пане мой, трэба павіннасць несці за яе. Вайна — гэта і ёсць тая самая павіннасць за яе. Абараніць яе трэба.

— Я яшчэ з яе карысці не бачыў, каб ужо абараняць яе.

— Мала што, але вы ўвайшлі ў парадак нашага жыцця. У вас нялюдскія думкі.

Леапольд Гушка тады кідаўся ў думках сваіх і сюды і туды. Дзе праўда, хто яе гаворыць і хто так сабе, каго слухаць не варта? Можа, і праўда, гэта толькі ў яго «нялюдскія думкі». Але з таго часу, як Сурвіла, асмеліўшыся на думцы, што вайна сюды не дойдзе і што можна зноў займацца сваімі справамі, успомніў Гушку, што пара таму ачысціць ад сябе тую мясціну, на якой ён цяпер сядзеў, Гушка пачаў гаварыць гэтак, як гаварыў з Нямірам у той вечар, калі той прыйшоў у свой водпуск. З таго часу ён ні разу інакш не гаварыў пра сваю зямлю, ні з

Нямірам, ні з кім іншым. Эдвард Лявэр прымусіў яго больш не гаварыць пра «радзіму», усе думкі яго былі цяпер пра Адася. Адась быў на фронце.

Няміра сядзеў дома. Зіма цягнулася паволі яму: даўно ўжо той тэрмін водпуску прайшоў і цяпер ён ліпеў от так сабе, дзень за днём, без надзеі на яснасць наперадзе, сам не ведаючы, чаго ён прычакае тут. Лістовак тут гэтакіх, якія тряпляліся ў арміі, не было, званы ў гарадку кожны дзень вызвоньвалі сваё, фронт дзесьці не вельмі далёка стаяў сабе ціха на адным месцы, стварыўшы ў людзях упэўненасць, што далей вайна сюды не пойдзе.

Няміра, нарэшце, не выходзіў нікуды з Гушкавай хаты, стараўся не пападацца людзям на вочы: тады больш гаварылі б, што нешта ён вельмі задоўга ў водпуску дома сядзіць. У людзей жа гэтак: хочуць дабра ці бяды жадаюць, усё адно раней папагавораць, пагалоску распусцяць, хочучы дабра — нашкодзяць, а часамі, зычачы гора,— могуць памагчы, самі таго не бачачы. Ведама — вёска. Урэшце тут ні за кога, кожны за сябе.

Бывалі нават моманты, што Няміра проста-такі шкадаваў, што пайшоў на гэтую справу: што ж будзе наперадзе? Калі вайна будзе доўга яшчэ цягнуцца? Дзе тады дзецца? Дый калі вайна і скончыцца, зноў жа, як тады выкруціцца? А былі моманты, што ён стараўся не дбаць ні пра што: нейк жа будзе, можа б, ужо дагэтуль, каб астаўся там, даўно галавы на плячах не было?

Былі ў яго спатканні з Эдвардам Лявэрам. Той прыходзіў часамі ў хату з Антусём. Пра што тады гаварылі? І ці давалі гэтыя гаворкі якую-небудзь прасветласць у думках?

Давалі. Выразна яны нічога не высвятлялі, але заўсёды пасля іх варушыліся надзеі: унь чалавек з-за свету, а таксама думае, таксама гаворыць. Тады ўспаміналіся таварышы, што разам уцякалі ў «водпуск», франтавыя і тылавыя рэвалюцыйныя лістоўкі. Лявэр успамінаў тое самае, як гэта было па той бок фронту... Здавалася, што патрэбна была толькі іскра, каб гэты порах загарэўся. Каб хто прыйшоў і сказаў, што трэба рабіць, дык на ўсё б пайшлі гэтыя людзі.

«Порах» гэты высушваўся і ва ўсім наваколлі. Перш за ўсё гэтая ж самая вёска. Людзі не былі задаволены сваёю купляю зямлі. Мала што зямля гэтая цяпер як бы іхняя! Усё адно гаворкі адбываліся гэтакія, што «ў пана — во, а ў мужыка — во!». І былі выразныя жэсты,

колькі ў мужыка, а колькі ў пана. «Што гэта, ён сам гэтую зямлю зрабіў, што прадае яе? Або нашто гэта, канечне, гэтая справа Сурвілу і Мазавецкаму ўспамагла?..»

Гасцінцам ехалі то туды, то сюды вайсковыя абозы. Салдацкія песні чуліся адтуль. Новыя словы чуліся ў гаворцы тутэйшых людзей. Прыйшлі сюды словы з салдатамі і з Сібіры, і з самага поўдня, з поўначы... Нават палонныя, і тыя прынеслі сюды сваю гаворку. Гасцінец гэты бачылі ўсялякія людзі, з сваім звычаямі, з сваімі словамі, але з адным жаданнем: няхай бы хутчэй усё гэта скончылася, абы канец, абы не ваяваць, усё адно як бы людзі не хацелі і ведаць таго, пра што Сурвіла гаварыў Гушку: «Зямлю прыдбаць трэба, зямлю бараніць трэба...»

У Сурвілы ж цяпер была добрая зямля, было яе колькі трэба, у добрую Сурвілаву меру. Ён чакаў адно вясны: тады ён возьмецца за работу, за добрую забудову, а Гушка — калі будзе натурыцца, дык няхай сабе ўрэшце хата яго стаіць, адно няхай выгарадзіць сабе праезд хвойнікам, а не цераз дзялянку, а за месца пад хатаю арэнду плаціць.

## 6. Канец і пачатак

Гэта адбывалася, можа, нават на той самай апошняй ад фронту станцыі, адкуль калісьці ўцякалі дадому салдаты. Цягнікі адсюль далей ужо не ішлі.

Некалькі чорных эшалонаў стаяла на рэйках. Ноч была цёмная, імглістая. Ліхтара нідзе не было, і толькі як прайшоў паўз вагоны чыгуначнік, свецячы з-пад шыняля ліхтарыкам у вагонныя колы, відаць было ля яго ног снег, ваду, разгружаную зямлю.

Апошні эшалон прыйшоў нядаўна, ён мо з гадзіну як спыніўся, і ў ім гэта чалавек у шынялі з ліхтаром аглядаў колы. З вагонаў чулася гаворка на ўсялякіх мовах і гутарках: украінцы, рускія, беларусы... У адным з вагонаў рыпнуў гармонік. Зараз жа да вагона падбег нейкі старшы і загадаў маўчаць. Тады дзесьці раптам, як бы ў адказ старшому, высокі голас паспрабаваў спяваць песню. Песня аніяк не была падобна па рускую: ні напевам, ні словамі. Слоў нават старшы не мог разумець.

— Іш, татарва! — як мае быць раззлаваўся старшы, кідаючыся да таго вагона. Ён загрукаў кулаком у дзверы: — Што сказана? Не шумець! На губу счас! Хто гарланіць?!

Ён гукаў гэтак моцна, што ва ўсіх бліжэйшых зачыненых цяплушках яго чулі. Дык адразу ж яму адказалі зноў песняй. Песня была цяпер руская. Старшы кінуўся туды. Гэтак ён кідаўся ад вагона да вагона. Неўзабаве ён ужо арудаваў у сярэдзіне цяплушкі. Ён наводзіў парадак, дысцыпліну. Ён усё дапытваўся — хто спяваў, хто крычаў. Ніхто яму тут нічога не адказваў. Усе спалі. Усе ляжалі на лаўках, на паліцах, на падлозе. Недагарак свечкі ў ліхтарыку на сцяне асвечваў яго маладзецкія вусы. Яго службовая шчырасць цяпер ператварылася ў яго ўласную чалавечую злосць. Ён спаганяў яе крыкам. Раптам на паўслове ён, адумаўшыся, спыніўся і рушыў з вагона, не зачыніўшы за сабою дзвярэй. Ён шпаркай хадою падаўся да большага начальства. Праз чорную прорву дзвярэй ліўся холад.

— Чорт, дзвярэй не зачыніў! — абазваўся голас з-пад шыняля, але чалавек не крануўся ўстаць зачыніць: цяпер нават ужо той, што і спяваў, напэўна, улежаўся сабе пад коўдраю ці шынялём.

— Самі вы чэрці,— адазваўся з верхняй паліцы другі голас.— Памагло яму, што ён падражніўся з фельдфебелем?

— А што яму ў зубы глядзець? Годзе ўжо дысцыплінкі ўжылі!

— Дык не з гэтага пачынаць трэба.

— А з чаго?

— Зачыні дзверы.

Салдат пад шынялём зноў, але ўжо ціха, замармытаў песню.

Аднекуль з нараў, з цёмнага кутка, вылез малады высокі салдат, ціха падышоў да дзвярэй, выглянуў спершна двор, акінуў вокам цемрыва: на небе пачалі з'яўляцца зоры; пасля спакойна зачыніў дзверы і стаў перад імі, тварам да вагона.

— Ты заспяваў — ну і заспяваў,— загаварыў ён,— нічога. Але больш не трэба займацца гэтым. Не цвяліцца трэба, а рабіць работу. Перад намі большыя справы. Перад намі справы ўсяго народа (тут ён паправіўся: справы ўсёй краіны)...

І ўсё гаварыў гэтак, каб льга было разумець надвае. Гэтак ён кідаў словы, пакуль не ўпэўніўся, што ўжо сярод гэтых людзей работа зроблена, пакуль яго самога пачалі папраўляць, удасканальваць ягоныя невыразнасці. З-пад шынялёў, з-пад коўдраў павысоўваліся, паўзнімаліся га-

ловы, некаторыя паселі, пачалі пасля збірацца навокал яго шчыльным натоўпам. Сон прайшоў. Неўзабаве ўжо ў вагоне быў адзіны людскі арганізм. Гэта была з'една-насць, кіраваў якою малады высокі салдат. Цяпер ён загаварыў іншаю мовай, называў рэчы выразнымі іхнімі імёнамі.

— Ужо некалькі дзён, як ад нас стараюцца захаваць праўду. Стараюцца, каб да нас не даходзілі весткі пра тое, што робіцца ў краіне. У краіне пачынаецца рэвалюцыя. Што сёння там робіцца, я не ведаю, можа, там ужо адбыліся вялікія справы. Але ў мяне ёсць весткі з трэцяга дня, дык тады адбываліся вялікія выступленні пралетарыяту. Рабочыя дэманстрацыі, рэвалюцыйныя дэманстрацыі ў сталіцах. Калі рабочыя рэвалюцыю робяць там, дык тут рэвалюцыя ў нашых руках. Мы тут яе павінны рабіць. Мы павінны быць гатовы ўсе падтрымліваць рэвалюцыйныя камітэты, рэвалюцыйную ўладу, якая зараз можа пачаць працаваць легальна. Дзеля гэтага мы павінны, разбурыўшы старую дысцыпліну, быць арганізаваныя навокал сваіх рэвалюцыйных органаў. Мы тут павінны зрабіць рэвалюцыю. Даволі непатрэбнай вайны...

Ён як скончыў, пачалі тады выступаць наперад з натоўпу салдаты:

— Што нас ганяюць з кутка ў куток каторы ўжо час! Учора нас гналі цэлы дзень сюды, сёння пасадзілі ў гэтыя цяплушкі, а заўтра, ёсць загад, зноў высаджваць і гнаць туды, адкуль мы ўчора прыйшлі!..

— Дык што... калі гэтакая дысцыпліна, дык чаго больш чакаць...

— Годзе! Кідаць вінтоўкі!..

— Павярнуць эшалон назад... У тыл!..

Відаць, у той самы час гэтакая самая работа адбывалася і ў іншых вагонах, бо калі малады высокі салдат выйшаў з вагона, чуў узбуджаныя галасы за пазачыненымі дзвярыма.

Выйшаўшы з вагона, ён кінуў вокам уздоўж паўз цягнік: нікога не было. Ён перабраўся на другі бок эшалона і пайшоў упоперак цераз запасныя рэйкі. Некалькі ліній рэек ён перайшоў. Там, у самым кутку, наводшыбе ад баракаў і далёка ад першай лініі, вырысоўваліся цёмныя абрысы нерухомых эшалонаў. Салдат, як падышоў да іх, чуў адтуль галасы: там гаварылі; часам праз малюпаценькае цяплушачнае акенца выбіваўся на двор чырвоны сноп святла. Эшалоны стаялі ў некалькі радоў. Салдат

пачаў пераходзіць паміж імі, пералазіць, сагнуўшыся, пад вагонамі. Нарэшце ён, пералічыўшы вагоны ў хвасце аднаго цягніка, выбраў адзін вагон і пастукаў у дзверы. Вартавы салдат стаяў з самага краю праходу паміж вагонамі. Пачуўшы стук, ён азірнуўся і пачаў прыглядацца. Салдат не ўзяў гэта на ўвагу. Ён палез у прачыненыя дзверы. У вагоне не было цесна. Людзі не спалі. Гарэла свечка, устаўленая ў бутэльку, пасярод вагона стаяў доўгі ўслон, і цяпер ён замяніў стол: на ім ляжала тэка з паперамі, і некалькі салдат сядзела навокал яго на кайстрах і паскручваных шынялях.

— Я абышоў некалькі вагонаў,— сказаў салдат, увайшоўшы.

Цяпер ён заўважыў, што ў вагоне пануе нейкае ўзбуджэнне.

— Зараз трэба будзе фармаваць салдацкі камітэт.

— А што?

— Толькі што ўдалося атрымаць паведамленне: адбылася рэвалюцыя. Цар выракся трона... Трэба рыхтавацца да салдацкага сходу зранку.

— Ура! — не закрычаў, а сказаў малады салдат і сеў з краю ўслона.

Пачалася нарада.

Ішло пад дзень. З гэтага вагона вестка зараз жа пайшла па ўсіх эшалонах, з вагона ў вагон. Радаснае ўзбуджэнне запанавала ў гэтым цёмным, не асветленым ліхтарамі кутку. На пустых дагэтуль пляцоўках перад вагонамі заварушыліся людзі. Пагруквалі ў вагонах дзверы, разпоразу адчыняючыся. Нарэшце салдаты пачалі збірацца натоўпамі. Большы натоўп быў і ўсё вырастаў, перад трыма зялёнымі рудымі вагонамі, дзе было камандаванне.

Вартавыя былі ўжо разам з усімі.

Днела.

Стары генерал стаяў на вагонных усходах. Загад яго быў грозны. Ён яшчэ ўспомніў слова «пад суд», але неўзабаве яго сцяглі з яго месца:

— Ты хаваў ад нас дагэтуль рэвалюцыю!

— Зараз жа пусціць эшалон назад, у тыл, дадому, да волі ваяваць!

— А-а-а, ваша прасхадзіцтва!..

У генерала былі сівыя валасы каля вушэй. Хтосьці з салдат ужо стаяў на яго ранейшым месцы на вагонных усходах і трымаў над яго галавою ліхтар. У чырвоным святле генеральскі твар яшчэ больш быў стары; ён асу-

нуўся раптам, сківіцы задрыжалі, барада паз'язджала ў бакі ад натугі штосьці сказаць. Нарэшце ён затросся, закрычаў, можа, нават у апошні раз: «Отечество в опасности!..»

Рука яго гэтак і асталася, як адранцвелая, над натоўпам: у тую ж хвіліну, як ён пачаў гаварыць, да яго падскочыў рухавы салдат. Твар у салдата быў даўно няголены, барада была злямцована, вочы чырвоныя з бессані. Зімовая шапка была ўскінута высока на шырокі лоб. Ён, як толькі падскочыў да генерала, адразу скубянуў яго за плячо. Генеральскі пагон адляцеў убок. Тады салдат ірвануў і за другі пагон. Генерал упёр бараду ў грудзі і гэтак, з апушчаным тварам, хацеў падацца назад у вагон. Але на ўсходах ужо стаялі салдаты. Адзін ужо дамагаўся парадку і цішыні. Генерал, хоць яго ніхто ў гэты момант не чапаў, не мог прабіцца праз гэты натоўп і, знясілены, з'ехаў уніз паўз жалезны прэнт з усходаў.

— Дзе машыністы? — гукалі салдаты.— Зараз жа пусціць цягнікі назад.

У той жа самы момант салдат, што хацеў штосьці сказаць і не мог стварыць цішыні, каб яго слухалі, раптам махнуў рукою і пабег у начальніцкі вагон, на ўсходах якога стаяў. За ім рушыла яшчэ некалькі чалавек. А за імі і ўсе пайшлі, пакуль вагон і яго карыдор прымалі людзей. Праз некалькі ўжо хвілін не было ў вагоне ніводнага афіцэра з пагонамі.

У той жа самы час людзі заўважылі, як з вагона пятага ад канца ў апошнім эшалоне, не зачыняліся дзверы: адтуль часта выходзілі салдаты і таксама туды прыходзілі. Значыцца, нейкая тут яшчэ работа рабілася.

Раптам на высокім ганку вакзальнага будынка, у святле маладога дня, з'явілася постаць: гэта стаяў салдат з вінтоўкаю, ён выцягнуўся ў струну і заняў тут варту. Следам за ім выйшлі яшчэ два салдаты, адзін стаў на балясы ганка і прыбіў над уваходам чырвоны сцяг. Пасля, пакінуўшы за сабою салдата на варце, ён сышоў на некалькі ўсходкаў ніжэй і працягнуў руку:

— Таварышы, таварышы!..

Адусюль пачалі сыходзіцца салдаты, збірацца навокал яго ў шчыльную сцяну. Ля вагонаў стала ціха.

Салдат пачаў гаварыць. Гэта быў той самы малады высокі салдат.

— Таварышы! Рэвалюцыя адбылася. Улада перайшла ў рукі народа. Народ вырваў гэтую ўладу з рук нашых

катаў. Тут, у раёнах фронту, мы павінны ўмацаваць па ўсёй мясцовасці рэвалюцыйную ўладу...

...Тэлефонная станцыя і ўвесь вакзал ужо ў нашых руках. Толькі што перададзена паведамленне пра рэвалюцыю на фронт, у акопы...

...Ад імя рэвалюцыйнага вайсковага камітэта дазвольце абвясціць адчыненне агульнага сходу...

Гэтак пачаўся салдацкі сход. Кіраваў сходам той усё самы малады высокі салдат. Цяпер, стоячы ціха, шмат хто з салдат заўважаў, што гэта той самы салдат, што яго раней часта бачылі паміж сябе ва ўсіх гэтых часцях: часці гэтыя стаялі і пераходзілі з месца на месца ўжо доўгі час разам, паблізу адна ад адной. Ад яго чулі пра рэвалюцыю ўжо і раней гэтага дня. Але тады ён гаварыў так, што пра рэвалюцыю пачыналі гаварыць тыя, хто яго слухаў.

Сход пачаўся.

Сход абраў членаў у Савет дэпутатаў.

Сход абраў рэвалюцыйнае палкавое кіраўніцтва. Савет дэпутатаў адразу ж пасля сходу пачаў працаваць.

Ва ўсіх бліжэйшых вайсковых часцях салдаты сілком вырывалі ўладу з афіцэрскіх рук. Савет дэпутатаў паслаў сваіх членаў і так некаторых салдат па вёсках арганізоўваць рэвалюцыйную ўладу.

Надвечар два паравікі былі гатовы да адыходу з станцыі. Адзін паравік пацягнуў два вагоны далей да фронту: там яшчэ на адзін пралёт льга было ісці цягніку. У гэтых двух вагонах ехалі на фронт пасланцы Савета салдацкіх дэпутатаў з весткамі і на рэвалюцыйную работу з салдатамі-франтавікамі... Другі паравік пацягнуў назад ад фронту цэлы эшалон. Ён спяшаўся ісці. Эшалон шпарка прабягаў станцыйныя пралёты. Салдаты ехалі з фронту. Салдаты ехалі з вайны дадому.

Эшалон прайшоў некалькі станцый. На кожнай станцыі сыходзілі з яго салдаты. На трэцяй станцыі злез з яго і малады высокі салдат. Разам з ім і яшчэ некалькі чалавек.

Салдаты пахадзілі па станцыі пасля адыходу цягніка, паміж народу, распытвалі пра тое, што тут робіцца. Пасля малады высокі салдат, развітаўшыся з сваімі таварышамі, выйшаў пеша ў дарогу: фурманкі яму на станцыі не трапілася.

— Мы зараз убачымся,— сказалі адзін аднаму таварышы, калі развіталіся.

Салдат прайшоў кіламетраў дзесяць, тады з-за ляску заблішчалі перад ім на сонцы вежы гарадка па ўзгорку. Ён паддаў ходу і праз паўгадзіны ўвайшоў у гарадок.

Тут ён спаткаў ажыўленне: рэвалюцыя ўжо ўскалыхнула гэтае глухое месца. Але імперская ўлада яшчэ тут нібыта трымала ўсё ў руках. На ратушы яшчэ не было чырвонага сцяга. Салдат падаўся на рыначны пляц. Было ля паўдня. Свяціла сонца. На цэментовых тратуарах пад нагамі ледзь макрэў снег. На рынку быў рух. Збіраўся натоўп. Стаяў у натоўпе стол, на стале людзі. Салдат пайшоў туды. Стоячы на стале, прамоўца пачаў гаварыць. Народу было ўжо многа. Прамоўца гаварыў штосьці пра падтрыманне новага рэвалюцыйнага часовага ўрада, пра абавязкі перад бацькаўшчынаю, на якую насядае на фронце вораг і ад якога трэба бацькаўшчыну абараніць. Пасля пачаў гаварыць другі прамоўца і гаварыў, можна сказаць, тое самае. Змянілася некалькі прамоўцаў. Нарэшце, разапхнуўшы перад сабою натоўп, узлез на стол салдат. Ён загаварыў іначай. Гаворачы, ён заўважыў у натоўпе шмат салдат: мясцовы гарнізон? Тутэйшы пастой? — падумаў ён. І ўсё гаварыў. Ён гаварыў пра тое, што трэба рабочым і сялянам браць уладу ў рукі і зараз жа канчаць вайну. «На фронце ўжо ідзе братанне з тым «ворагам», з якім нас тут угаворвалі ваяваць!» «Ура!» — закрычалі салдаты. «Ура!» — закрычала большасць натоўпу.

— Таварышы, зараз жа браць у рукі ўладу. Таварышы, заўладаць ратушай і арганізаваць Савет дэпутатаў. Даволі вайны. Зямлю сялянам! Фабрыкі рабочым! — Ён саскочыў з стала. Салдаты рушылі за ім да ратушы. Частка натоўпу рушыла за салдатамі. Неўзабаве да ратушы падышла подбегам узброеная рота з казарм. З ратушавай вежы затрашчаў кулямёт. Салдаты выбілі прыкладамі дзверы і лінуліся ў сярэдзіну будынка. Неўзабаве з ратушы збілі трохкаляровы сцяг. Над горадам з'явіўся чырвоны сцяг.

Праз гадзіны дзве натоўп збіраўся ля ратушы. З ратушавага балкона гаварыў прамову малады высокі салдат ад імя рэвалюцыйнага камітэта рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.

З натоўпу пазналі салдата.

— Гэта ж Адась Гушка! — гукнуў хтосьці.

## 7. Кангрэсік

Мы падышлі цяпер да таго моманту ва ўсіх гэтых падзеях, які, як праз арфу, перапусціў думкі, перачысціў іх, паставіў іх рубам і паказаў выразна людзям, што рабіць і каго слухаць. Гэта была рэч, можа, і не тыповая для рэвалюцыі скрозь, але натуральная тут, у гэтым гарадку, у гэтым панскім гняздзе, дзе нават і дробныя засцянкоўцы, можна сказаць беднякі, не заўсёды маглі зразумець, з якога боку ім павінна сонца ўсходзіць, а як сляпыя маглі часамі ісці нават хоць бы сабе і за панам, з той прычыны толькі, што пан, як і яны, каталік. Тут машына працавала на ўсе застаўкі, два ксяндзы адразу ўзялі гэтую засцянковую масу ў работу. Яны віталі рэвалюцыю, агітавалі за яе нават з касцельных амбонаў. Але за якую рэвалюцыю і куды яны яе хілілі?

На ратушы ўзвіваўся чырвоны сцяг, узняты Адасем Гушкам. Ён быў відзён здалёк, на ўсю разлегласць. І на яго адусюль глядзелі. Але глядзелі кожны сваімі вачыма. Аднымі вачыма глядзелі на яго ўсе навакольныя дробныя сяляне, тыя, што цераз Сурвілаву ласку ўлезлі ў куплю зямлі, тыя, што хацелі ўлезці, ды нават на задатак не мелі грошай,— адным словам, усе навакольныя вёскі. Яны чакалі ад гэтага сцяга таго, пра што гаварыў Адась Гушка, пра што цяпер вельмі выразна загаварыў і Леапольд Гушка і Няміра. Іхнія аднадумцы былі: тыя самыя людзі з гарадка, якія каліські білі каменне на шашы, якія масцілі шашу, а пасля гэтага, як работа гэтая спынілася, займаліся ўсім, чым хочаш, абы толькі дастаць дзе кавалак хлеба. Каторыя не пайшлі былі з-за год сваіх на вайну, сядзелі сабе ў сваім гарадку, самі не ведаючы, куды падацца, а каторыя паварочаліся цяпер з вайны, выразна пачалі патрабаваць, каб праграма, што была выказана Адасем Гушкам, зараз жа была выканана. Да іх далучаліся былыя і цяперашнія рабочыя з лесапільні, рабочыя з былых княжых цагелень. Але гэтакага народу тут не было многа: найбольш тут былі вяскоўцы. У гарадку цяпер усё кіпела, як у катле.

Зусім іншага чакалі ад сцяга на ратушы гэтакія вяскоўцы, як, напрыклад, Мазавецкі і Сурвіла. Яны былі супроць рэвалюцыі? Не, Сурвілаў сын, напрыклад, быў ужо цяпер самы заядлы тут рэвалюцыянер і нават рэвалюцыйны дзеяч: ён арганізаваў у гарадку гэтак званую народную міліцыю. Ён нават стаў на чале гэтай міліцыі

ў гарадку, начальнік жа ўсёй павятовай міліцыі (гарадок абвясцілі паветам) быў ні хто іншы як сын гарадскога сухарлявага папка, чалавек высокі, белабрысы і сутулаваты. Значыцца, Сурвілава сям'я не была чужая гэтай рэвалюцыі, але сам стары Сурвіла не мог прайсці паўз людзей, каб не паскардзіцца:

— Мне крыўдна. Нашто ж я гэтакага клопату ўжыў, зямлю гэтую купляючы, нашто ж я гэтулькі грошай, як сабаку ў зубы, ткнуў, калі цяпер, пане мой, і так, кажуць, зямля павінна быць народная. Не. Гэта будзе няправільна. У рэвалюцыю трэба каб былі ўсе роўныя, а не то што адзін дарэмна зямлі награбе, а другому яна ў капеечку прыйшлася. Рэвалюцыя павінна ўстанавіць права, закон і парадак, а не то што як цяпер — лясы сякуць і ні ў кога не пытаюцца. Калі рэвалюцыя, дык трэба, каб пан лес народу прадаў за невялікую цану. От што.

Тая рэвалюцыя кранула таксама і касцельныя амбоны і царкоўную кафедру: два гарадскія ксяндзы заўсёды з амбону абвяшчалі народу, калі будзе які і пра што сход і за кім ісці і каго слухаць на гэтым сходзе. Сухарлявы папок тое самае рабіў з царкоўнай кафедры.

І от адзін раз, ужо ўвясну, гэтакім парадкам было абвешчана, што зараз мае пачацца кангрэс усіх партый, якія ёсць у гэтай мясцовасці. Каб дагаварыцца і ўстанавіць парадак, з якім бы льга было прычакаць усерасійскага ўстаноўчага сойму. Бо... І тут было выразна сказана, што сядзіць у гарадку нейкі Савет дэпутатаў, нейкі саўдэп, на чале з Адасем Гушкам, які не хоча ведаць, што над усёй Расіяй (гаварыў папок, а ксяндзы сказалі «над усёй краінай») ёсць часовы ўрад, якому народ даў абавязак давесці краіну да гэтага ўстаноўчага сойму.

Была вясна. Снег даўно сышоў, цёплыя дні жывілі зямлю, народ збіраўся выходзіць у поле. Кангрэс назначылі на нядзелю, ён павінен быў пачацца пасля паўдня. У той дзень ксяндзы і папок управіліся скончыць адправу раней як заўсёды, каб адразу па імшы з народам рушыць на гэты кангрэс.

Кангрэс гэты астаўся ў памяці тутэйшых людзей з назваю «кангрэсік». Гэтак ахрысціў яго, сам таго не хочучы, Мазавецкі. Яны з Сурвілам нешта за тыдзень яшчэ да гэтага ўсё тлумачылі людзям, што трэба ўсім быць на гэтым зборы.

— Такі, знаеце, кангрэсік у горадзе робяць,— сказаў Мазавецкі на вёсцы, прыйшоўшы з касцёла.

З таго моманту сяляне і гаварылі «кангрэсік», некаторыя нават казалі — «Мазавецкага кангрэсік». Але гэта ўжо гаварылі пасля самога кангрэсіка, калі ведалі ўжо, што гэта была за штука.

Перад самым кангрэсікам Мазавецкі стаяў у натоўпе навакольных засцянкоўцаў ля касцёла і чакаў канца імшы. Не зважаючы на тое, што за некалькі крокаў, у касцёле, адбывалася набажэнства, тут быў рогат: Мазавецкі расказваў пра «з'явы рэвалюцыі ў гарадку», а калі што было не ў гарадку, дык ён так і гаварыў, што гэта было, значыцца, у Мінску або ў Баранавічах...

— А то яшчэ гэтак было,— спяшаўся ён скончыць сваю гаворку, бачачы, што народ пачынае выходзіць з касцёла,— занатурыўся панскі фурман. Цяпер, кажа, рэвалюцыя, усе роўныя, дык ты, кажа, пане, садзіся за фурмана, а я сяду на тваё месца ў фаэтон. Мала я цябе павазіў? Цяпер вазі ты мяне. Ну, пан, ці ведаеце, спакойна сабе садзіцца на козлы, а фурман лезе ў фаэтон. Куды везці? — пытае пан. А туды, адказвае фурман, куды ты, пане, хацеў, каб я цябе вёз. Пан і пакіраваў коні. Ну, прыехалі. Злазь, кажа пан. Фурман злез. От сюды, кажа пан. Фурман увайшоў. Аж там некая канцаляра. Ну, садзіся, кажа пан да фурмана, ды разбяры гэтыя паперы. Фурман аж вочы вылупіў. Што ж, кажа пан, я тваю работу зрабіў, цяпер зрабі ты маю. Не ўмею, кажа фурман. Не, рабі, сукін сын! — кажа пан. Дык фурман тады зняў шапку, узяў у пана з рук пугу і сказаў — выбачайце, пане, я нявучаны на гэта. І палез на сваё месца, на козлы.

Шляхта зарагатала. Раптам голас разануў Мазавецкага вуха.

— Пастаў ты фурмана на месца пана, дык і ён табе будзе вучоны.

— Як гэта?

— Як? Каб фурман меў гэтулькі маёнткаў, як пан, дык ён, можа б, яшчэ мадарней за пана быў бы.

— А што ж,— падтрымалі яшчэ галасы Мазавецкага апанента.— Гаворыць ліха ведае што, як малы. Дзіва што пан вучаны, а фурман не вучаны...

Народ наплыў з касцёла, натоўп ля Мазавецкага раскідаўся. Народ спяшаўся на кангрэсік. Мазавецкі пайшоў таксама, вельмі нездаволены тым, што не ўсе думаюць гэтак, як ён.

Кангрэсік меўся адбыцца ў вялікай зале ратушы. Там было паўнютка ўжо народу. Народ стаяў таксама і на пля-

цы перад ратушаю, у карыдорах, ля ганка, і па пляцы стаяла народная міліцыя.

Сурвільчык, у новенькай вайсковай форме (з невычэрпных складаў «земскага саюза»), вядома, ужо без пагонаў, прахаджваўся перад ратушаю.

Ужо ўвайшоўшы ў ратушу, льга было бачыць, што гэты збор людзей не звычайны, тут былі людзі ўсіх катэгорый, якія толькі былі і маглі быць у гарадку і навокал яго. Але найбольш кідалася ў вочы тое, што тут было шмат жанчын, і не гарадскіх якіх-небудзь толькі, а найбольш сялянак: пасля кірмашу, а таксама пасля царквы і касцёла, адразу ўсе сюды і пайшлі.

Яшчэ за некалькі дзён да гэтага Савет дэпутатаў выклеіў адозвы, што гэты кангрэс будзе не што іншае як спроба ўгаварыць сапраўдны працоўны народ адхіліцца ад сапраўднай рэвалюцыі, бо той, хто гэты кангрэс задумаў, баіцца гэтай сапраўднай рэвалюцыі. Але разам з тым адозвы раілі пайсці на гэты кангрэс і там паказаць, што такое рэвалюцыя.

Цяпер народ тут, значыцца, быў усялякі. Гэта быў як бы агляд сіл і тых і гэтых. Тут стаялі ў зале і крэслы, яны займалі большую палову залы: перад рэвалюцыяй тут афіцэры наладжвалі свае зборышчы. Цяпер крэслаў гэтых, вядома, не хапіла. Народ стаяў скрозь, дзе толькі льга было стаць. Ціснуліся адзін да аднаго, ціснуліся да сцен. Але ўсё ж такі на першых радах крэслаў сядзелі гарадскія тузы, мясцовыя паны, два ксяндзы. Таксама там пагладжваў шаўковыя адвароты рукавоў парадннай расы гарадскі папок. Чаму яны апынуліся на першых месцах? Вельмі проста. Яны хоць і прыйшлі пазней, можна сказаць, за ўсіх, але гэтыя месцы не былі заняты: народ просты нёс яшчэ на сабе спадчыннасць паганых вякоў: ён прывык заўсёды станавіцца дзе-небудзь адзаду, неўзаметку. Гэтакім парадкам зала напаўнялася ад дзвярэй, натоўп адтуль вырастаў да самай эстрады.

Дзесьці там, пад нізкай навіссю старасвецкіх хораў, стаяў, прыпёршыся да сцяны, Леапольд Гушка поплеч з Марылькаю. Ён моўчкі глядзеў, як паўз яго ўсё праходзілі наперад людзі і займалі свае месцы, дзе льга яшчэ было стаць. Нарэшце ісці ўжо не было куды, стаялі гэтак шчыльна, што ніхто не мог нават паварухнуцца. Леапольд Гушка, можна сказаць, быў вышэйшы на цэлую галаву за ўвесь натоўп. Ён бачыў з свайго месца, як ля супрацьлеглай сцяны стаялі Няміра з бацькам, як Няміра

ўсё штосьці тлумачыў сваім аднавяскоўцам, што абступілі яго з усіх бакоў. Пасля ён заўважыў свайго Антуся. Той сядзеў на крэслах, нешта ў сярэдзіне залы. Там ішла жывая гаворка. Некаторых з Антусёвых суседзяў Леапольд пазнаў: гэта Антусёвы таварышы з лесапільні, а то і так гарадскія хлопцы — некаторых Леапольд Гушка ведаў. Натоўп стаяў і ў карыдоры, спускаўся па ўсходах проста на пляц.

Нарэшце пачалося.

Леапольд Гушка бачыў, як на эстрадзе з'явіліся людзі, як пачалі яны гаварыць, як гаварылі адзін за адным, як пасля адзін з іх запрапанаваў народу гаварыць, як пачалі выходзіць з натоўпу некаторыя і праціскацца да эстрады... Але спачатку нічога не чуў Леапольд Гушка. Яго ўвагу ўзяў на сябе стараваты чалавек у пярэдніх крэслах. Правая рука яго ляжала на рудым, прыгожа вытачаным кійку з манаграмамі, белыя вусы звешваліся ўніз. На ім быў чорны сурдут, а паліто ляжала на каленях. Гэта быў той самы пан, колішні «яго, Гушкаў» пан. Леапольд Гушка за гэты час адвык думаць пра гэтага чалавека, а цяпер гэтае аблічча пеканула яму ў сэрца. Ён дагэтуль яшчэ не зусім гладка разбіраўся ў тым, што адбывалася: адбылася рэвалюцыя, «народ узяў у рукі ўладу»,— пра гэта скрозь гаварылі, а што гэта такое, як яно ўсё будзе? Ён чытаў і адозву, таксама ведаў, што гэтую адозву недзе ў гарадку, у Савеце дэпутатаў, складаў яго Адась і ўяўляў сабе, што гэтае зборышча сёння некім хітра прыдумана. Але выразнасці тут у яго думках не было. Яна стварылася цяпер, неўзабаве пасля таго, як выступіў з гаворкаю на эстрадзе гарадскі чалавек. Чалавека гэтага Леапольд Гушка ведаў: гэта быў нейкі там даглядчык нечага ў княжым замку Стафан Марцынкевіч. Гушка ведаў нават, дзе ён у гарадку жыве: у Замкавым прадмесці стаяў новы дамок на высокай падмуры з паленай цэглы. Як толькі Стафан Марцынкевіч пачаў гаварыць, раз-поразу пагладжваючы свае рыжыя, тонкія і доўгія, як пацукоў хвост, вусы, хтосьці раптам з натоўпу падаў голас:

— Чаго яшчэ гэты княжы падлізнік выйшаў тут выпінацца!

Марцынкевіч нібыта і не чуў: ён адно глянуў у той бок і гаварыў:

— ...Я ад каго гавару? Я гавару ад сябе. Я пан? Я князь? Я магнат? Хто гэта скажа?! Я панскі слуга, а

свайго нічога не маю. Я гэтакі самы, можна сказаць, парабак...

— Ого, дзіва, што ты парабак! — гукнуў хтосьці з натоўпу.

— Да парадку, грамадзяне! — сказалі з прэзідыума.

— Што ж бо ён тут пнецца? Да чаго гэта ён гаворыць? Вось ужо каторую пору слухаем гэтыя казкі: парадак, парадак патрэбен, а які парадак? Каб пан гэтаксама, як і раней, сядзеў у сваім маёнтку?

— А дзе ж ён будзе сядзець! — узгарэўся раптам Стафан Марцынкевіч,— у віры ўніз галавою, ці што, ён павінен сядзець?

— А што ж, каб я там сядзеў? Нямала я папасядзеў там за свой век! Няхай цяпер ён паспрабуе, як смачна!

Леапольд Гушка азірнуўся: гэта ж гукаў з свайго месца стары Няміра. Сяляне, што стаялі ля яго, загулі:

— Праўда, праўда!..

— Можа, і праўда,— пайшоў на манеўр Марцынкевіч,— але нам трэба ў парадку прычакаць устаноўчага сойму, тады закон устанавіць, як рабіць з зямлёю, з лясамі, з маёнткамі і што тады астанецца пану, а што пойдзе пад народ.

— Ага, от як! — гукнуў раптам другі голас, перарываючы Марцынкевіча, які на гэтым скончыў, бачачы, што яму ўжо не дадуць гаварыць.

Леапольд Гушка пазнаў голас Паўла Няміры і ўбачыў, як ён пацісну́ўся праз натоўп да эстрады. Там ён узышоў на першую дошку ўсходаў і пачаў гаварыць:

— Значыцца, пан Марцынкевіч яшчэ спадзяецца, што нешта там пану павінна астацца, а нешта там выдзеляць народу? Дык што гэта? Гэта рэвалюцыя? А што, калі на той устаноўчы сойм, як яны кажуць, мяне ці другога гэтакага, як я, не паклічуць, а паклічуць гэтага вось самага пана, ды яшчэ Марцынкевіч яму ў помач? Многа ж ён тады выдзеліць мне зямлі! Тады ён зробіць гэтакі закон, пад якім наш брат ані пісне. Што ён тут гаворыць, што трэба чакаць там нечага! Раз рэвалюцыя, дык няма чаго чакаць. На дварэ вясна, трэба сеяць, дык і трэба зараз жа пра зямлю пагаварыць, а не чакаць там нечага...

Яму не далі скончыць радасныя сялянскія выгукі. Няміра стаяў і аглядаў залу. Пасля, бачачы, што сяляне гукаюць — «праўда, праўда», «праўду кажа»,— ён сам заляскаў у далоні і ўвесь, можна сказаць, натоўп за ім.

Няміра больш не гаварыў. Тады з свайго месца, адно крыху ўзняўшыся, віснуў папок:

— Надо сказать одкрыто, Россія на краю гібелі, і перад внешнім врагом, і перад внутреннім. Мы Россію погубім, еслі ў нас будет всё делацца так, как здесь цепер. Нам надо быць гражданамі свабоднай Россіі, а не талпой какога-то неорганізованага зброда...

Ён гэта выпаліў, вывішчаў нейк раптам і, мусіць, адчуў, што пагарачыўся, што лішняе сказаў. Тут ён пачаў узбягаць на эстраду, але скрозь ужо махалі рукамі, крычалі, не слухалі. Усе пачулі толькі яшчэ Няміраў голас:

— Дзіва якое, што тут гэтак будуць гаварыць! Калі ж сядзіць унь у першых крэслах той самы пан, які дзесяць мужыкоў цаніў танней за аднаго шчанюка.

Тут гучны голас прымусіў усіх замоўкнуць адразу: голас загучаў дзесьці зверху, з хораў; Леапольд Гушка пазнаў голас свайго Адася.

— Таварышы,— гукаў Адась Гушка,— што мы тут чулі і што бачылі? Не думайце, што тут яны незаконна, будзем так гаварыць, гавораць! Яны гавораць ад імя часовага ўрада. А хто гаворыць? Унь бачу я пана з белымі вусамі ў першых крэслах, які з нашага мазаля жыў у зямным сваім раі. Унь мы чулі княжага абаронцу, лёкая, ці як ён там у замку, Марцынкевіча. Мы чулі айца духоўнага, які, бачыце ж самі, як спрытна грае ў дудку таго, хто не хоча зямлі аддаць таму, хто на ёй робіць. Дык от мы бачым, хто сабраў нас сёння сюды, каб угаварваць нас не чапаць зямлі, нічога не зменьваць, каб усё было гэтак, як і раней, адно што калі раней паліцэйскі не даваў нам узяць панскую зямлю, дык цяпер стараюцца зрабіць, каб мы самі добраахвотна не чапалі гэтай зямлі. Таварышы рабочыя, сяляне, парабкі, салдаты! Хто нас гнаў ваяваць? От гэтыя якраз, хто цяпер тут стараецца ўгаварыць нас!..

Адась Гушка гаварыў гэтак моцна, што ўсё было чуваць нават на пляцы перад ратушаю. У самай ратушы і ля яе было гэтак ціха, што здавалася — тут няма аніводнага чалавека. Натоўп слухаў, твары жылі, вочы гарэлі, і ў тых, што маглі цяпер зрабіць усё, што толькі кажа Адась Гушка, і ў тых, што, сашчаміўшы зубы, пазіралі на гэтага маладога салдата на нізкіх, старасвецкіх хорах. Ён там навіс цераз балясы над залаю, яго ўсе ба-

чылі, хто не стаяў пад харамі, з яго не зводзілі вачэй. Нарэшце ў прэзідыуме зашапталіся, у зале, у першых крэслах, замахалі рукамі, Стафан Марцынкевіч усхапіўся з свайго месца, азірнуўся на залу, падняў руку, гатовы штосьці выгукнуць. Але ў гэты момант Адась Гушка дайшоў да фіналу сваёй прамовы:

— ...Калі скідалі цара, дык дагаварваліся з ім? Калі рабілі рэвалюцыю, дык дагаварваліся з тымі, супроць каго рэвалюцыю рабілі? Не. А тут хочуць, каб мы дагаварваліся з тымі, ад каго рэвалюцыя павінна адабраць тыя правы, якія яны мелі, і перадаць гэтыя правы нам, правы, якіх мы ніколі не мелі, заўсёды гібеючы век як у астрожных ланцугах!.. Ад імя Савета рабочых, парабчанскіх, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў абвяшчаю гэты кангрэс незаконным і скончаным цяпер жа. Таварышы, пакідайце ратушу, зараз жа выходзьце адсюль, не будзем тут больш, мы патрабуем зямлі зараз жа, без ніякіх устаноўчых соймаў! Рэвалюцыя адбылася, і нам чакаць больш няма чаго!..

Натоўп загуў, загаманіў, рушыў да дзвярэй. Натоўп лінуўся на пляц. Людская хваля панесла на сабе адсюль і тых, хто яшчэ ў гэты ж самы момант мерыўся не пакідаць залы і ўпарта канчаць кангрэс. У зале асталося ўсяго некалькі чалавек і прэзідыум на сваёй эстрадзе. Адась Гушка сышоў з хораў вузкімі ўсходамі за калонамі. Натоўп хваляваўся на пляцы перад ратушаю. Раптам над людзьмі ўзняўся чырвоны сцяг, пасля плакаты з надпісамі. Натоўп расцягнуўся ў дэманстрацыю, і Адась Гушка павёў яе па вузкіх, крывых вулічках гарадка.

І ў гэтай людской хвалі Леапольд Гушка ўбачыў непадалёку ад сябе Эдварда Лявэра: ён ішоў непадалёку ад сцяга, разам з усімі, гэты палонны салдат «варожай» арміі, а з ім і яшчэ некалькі яго таварышаў. Сярод гэтых людзей, у гэтай справе, што гэтыя людзі тут цяпер рабілі, яны ўбачылі тыя берагі, да якіх імкнуліся з самага маленства свайго, пра якія марылі іхнія дзяды, бацькі... Да самага канца дэманстрацыі Леапольд Гушка бачыў усё перад сабою Эдварда Лявэра.

### 8. Савет дэпутатаў

Ужо ў той дзень, калі яшчэ не скончылася дэманстрацыя, тая «рэвалюцыйная ўлада», што асталася пасля кангрэса на эстрадзе, там жа згаварылася арыштаваць Са-

вет дэпутатаў і перш за ўсё Адася Гушку. Адась Гушка гэта ведаў ужо адразу. Дэманстрацыя пайшла па вуліцах, і ён ішоў на чале яе: ён ведаў, што яго цяпер, перад народам, не возьмуць. Яго возьмуць аднаго калі-небудзь уночы. Пра гэта ён цяпер пакуль што не думаў. Ён яшчэ сказаў прамову перад дэманстрацыяй на вуліцы, дзе яна выходзіць на касцельны пляц. На ратушавы пляц, куды пасля гэтага пайшла зноў дэманстрацыя, ён ужо не пайшоў. Ён адно сказаў свайму таварышу, дзе і калі сабрацца ўсім, а сам пастараўся пакінуць цяпер дэманстрацыю. Яна скончылася без яго, хваляванне ў гарадку было да самага вечара, пакуль народ не стаў разыходзіцца па хатах, а сяляне раз'язджацца. Пакуль што яшчэ не паспелі даць загаду глядзець, дзе ён будзе да ночы пасля дэманстрацыі, і ён пайшоў проста за горад з касцельнага пляца. Ён ішоў нацянькі кіламетраў з пяць, пакуль не выйшаў на гасцінец. А тут пайшоў проста. Так што, калі стары Леапольд Гушка прыйшоў дадому, як ужо ўмеркла, ён застаў дома свайго Адася.

— Відаць, яны пачуваюць тут сябе моцна. А калі і не, дык стараюцца стварыць гэты мацунак і напэўна захочуць што-небудзь зрабіць са мною. Яны спадзяюцца на моц часовага ўрада...

Леапольд Гушка адно сказаў:

— Не даждуць.

І гэтым усё сваё выказаў. Тут ён ужо быў увесь. З таго моманту, як выслухаў ён Адасеву прамову ў ратушы, яму стала ясна ўсё. Нічога іншага ўжо не было ў яго.

Тым часам позна ўвечары ў гэтую хату на ўзбалоцці пачалі прыходзіць людзі. Перш за ўсё прыйшлі Антусь з Эдвардам Лявэрам — палонныя цяпер жылі дзе хто хацеў, і Лявэр жыў ужо тут. Яго прывёў сюды Антусь, калі спынілася работа на пільні.

Пасля прыйшло сюды яшчэ некалькі чалавек, усё незнаёмыя Леапольду. Два былі ў салдацкай адзежы, тры ў цывільнай. Яны паселі ў сенцах. Лявэр і Антусь асталіся пры іх, а пасля прыйшоў паслухаць і Леапольд Гушка. Так пачалося паседжанне прэзідыума Савета дэпутатаў. Тут гаварылі, што рабіць далей.

— Мусіць, цяпер не ўдасца надрукаваць новыя адозвы: цяпер, напэўна, над саматужнай гарадскою друкарняй будзе кантроль. Будзе, можа, проста загад уласніку

нічога іншага не друкаваць. І калі не будзе адозваў, ад рукі напісаць іх і выклікаць вёскі і горад зноў на дэманстрацыю. Зараз жа сялянства няхай бярэ сабе царкоўную і маёнткавую зямлю...

Паседжанне зацягнулася да поўначы. Гарадскія людзі з яго пайшлі ў горад. Стары Леапольд Гушка вывеў іх на гасцінец. Ён ужо хацеў павярнуць назад да хаты, як убачыў, што дарогаю проста на яго ідзе чалавек. Ён застаяў і пазнаў Сурвілу.

— Гэта вы, суседзе?

— Я.

— А я забавіўся ў горадзе. Толькі што іду. Нашы паехалі раней, а я астаўся... От дык сын твой! Ён што, чаго ён хоча? Яму рэвалюцыя не падабаецца? Ужо ж каму, як не яму, патрэбна гэтая рэвалюцыя!

— Ну ды ён жа рэвалюцыі і дамагаецца.

— Дамагаецца! Добра дамагаецца! Але праўда, што яму тутэйшчына! Па іх няхай сабе хоць немцы тут заўладаюць, яму ўсё адно. У ім жа чужацкая кроў: па бацьку, па табе гэта я кажу...

— Але! У мяне чужацкая кроў. Дык што ж! За парабка быць, дык тады абы-якая кроў добра, а калі ярмо з шыі скінуць, дык на гэта трэба мець тутэйшую кроў?!

Леапольд Гушка павярнуўся і пайшоў дадому. Сурвіла астаўся стаяць на дарозе. Ён прастаяў, пакуль Гушкава постаць не схавалася ў чарнаце каржакаватага хвойніку. Тады ён пайшоў у той жа бок, прайшоў паўз хвойнік, пасля яшчэ раз вярнуўся, вымераў крокамі шырыню палетка, пасля акінуў вокам Гушкаву хату і замармытаў сабе пад нос, падаючыся да вёскі:

— Чэрці яго бяры, з Гушкам разам. Няхай сабе сядзіць, цяпер не трэба яго спорваць. Выгараджу тут ад яго і канчацьму дом. Лесу цяпер падхаплю і так, няхай сабе сякуць — і мне будзе. А пан — халера яго бяры. Абы хутар забудаваць, а тады — няхай сабе хоць дзесяць рэвалюцыяў робяць, хоць падушаць гэтых паноў. Такі і праўда, што маёнткі, ліха ім, мелі, а мужык так сядзеў. Няхай сабе і Гушка грабе зямлю і робіцца хоць за фальваркоўца. Я яму не даю,— ці што?..

Ён мармытаў, пакуль не прыйшоў у вёску, і ўсё азіраўся на зруб свайго няскончанага дома, што бялеў перад хвойнікам.

# ТРЭЦЯЯ ЧАСТКА

## 1. Чалавек варочаецца дадому

У чалавека былі густыя валасы на галаве, сівізна іх толькі кранула дзе-нідзе срэбнымі ніткамі. Барада ж і вусы былі спрэс сівыя. Бараду чалавек стрыг, яна, кароткая, надавала твару шырокасць. А ад утомы твар яшчэ больш набыў скуластасць, а ўсё гэта, разам з шпаркім рухам ягоных ног, рабіла яго постаць вельмі жывою. Ён і быў гэтакі жывы, рухавы, узбуджаны. Гэтакі ён прайшоў шмат дарогі гасцінцам, гэтакі спыняўся па вёсках гаварыць з людзьмі. Ён ішоў з усходу на захад, проста старасвецкім гасцінцам. Быў ён босы, падперазаны сурамцовую пугаю, а цераз плячо ў яго перавязана была вобраць з іржавымі цуглямі: тое каняня, з якога яна была знята апошні раз, відаць, ніколі не келзалася. Чалавек ішоў ужо некалькі дзён, начаваў у людзей, выходзіў да захаду сонца, каб хутчэй патрапіць дадому. На чацвёртую ноч ён ужо не астаўся начаваць у дарозе: так, за поўнач, спадзяваўся ўжо быць дома.

Ён ішоў бітым гасцінцам. Некалькі разоў удзень перагонамі ішоў дождж, і мокрыя аўсы гнуліся да зямлі паўз гасцінец. Чалавек, мусіць, ішоў і дажджом, бо адзежа яго не была сухая, правяла толькі крыху. Апошняя ноч яго агарнула, калі ён ступаў леваю нагою адно на пальцы — ад вялікай хады басанож на пяце рваў падбой. Пад поўнач ён ужо быў як дома ўсё адно. Цяпер крыху павальней ён пайшоў. Ён пазнаваў ужо дальнія абрысы на даляглядзе — гэта знаёмы лес. А здаецца ён гэтакі высокі таму, што над ім навісае хмара.

— Зноў дождж пойдзе,— сказаў сам сабе чалавек.

І як сказаў, спыніўся ад нечаканасці. Яму здалося, што нешта заварушылася акрай дарогі, пад чорнаю бярозаю. Босы, ён ступаў гэтак ціха, што толькі голас ягоны прымусіў некага яго заўважыць. Сапраўды, пад бярозаю стаяў чалавек. Цяпер ужо стары як мае быць бачыў высокую постаць.

— Хто ідзе? — быў голас з-пад дрэва.

— А гэта хто? — пасмялеў стары, з голасу пазнаўшы вясковага чалавека.

— Хто?.. Чалавек...

— Ну і я чалавек...

— А куды ты ідзеш?

— Куды іду?

І стары сказаў, адкуль ён ідзе і куды. Ён падышоў ужо блізка і бачыў перад сабою высокага чалавека, заўважыў нават, што той у лапцях. Здалося яму нават, што той зусім малады. Той найбольш маўчаў, пакуль усё пытаць стараўся і слухаць. А стары рад быў расказваць яшчэ раз на дарозе пра сваю бяду.

— Так... мне асталося ісці якіх вёрст пятнаццаць... Дык от ледзьве іду, ногі ад хады праўцом сталі...

— Дык чаго ж ісці аж уночы? Чаму не адпачыць дзе па дарозе, пакуль днець не пачне?

— Бо душа мая неспакойная, дадому хутчэй ірвуся. Пакінуў усё там у гэтакім рэзруху. Аж тыдняў два таму.

— У якім рэзруху?

— А гэта як было... У нас там бяда ў вёсцы... Значыцца, нашыя, сказаць, людзі такі і навялі іх...

— Якія гэта вашыя людзі?

— Суседзі, можна сказаць, адно што паадсяляліся на адлегласць за гэтыя часы.

— А што ж ім гэта наводзіць канечне было?

— А гэта от як рабілася. Два іх. Адзін — дык войт. Дык і таму, што войт, і таму, што сам тут у гэтай справе сябе ў крыўду папусціць не хоча. А тут якая там яго крыўда, калі мы адно свайго ўласнага дамагаемся. Яшчэ да вайны пачалася ўся гэтая валаводзіна. Адкупілі мы ў пана зямлю. Можна сказаць, усёй вёскай адкупілі. Але не самі ад пана, а праз іхнія рукі — Мазавецкага і Сурвілы. Бо, вядома, мы народ дробны, бедны ўсё найбольш, адкуль тыя ў нас грошы. Дык яны нам самі зямлю панскую выдавалі, а мы ім за праценты адраблялі, а доўг пакрысе аддавалі. Па дзесяціне, па дзве на хату зямлі тае, а бяды — дык каб ім абодвум, разам з панам, праз бок вылезла...

— Ага, дык гэта ў вас?.. Чуў я пра гэтую справу... Дык што ж цяпер?

— А цяпер тое, што мы, уся, значыцца, вёска, да рэвалюцыі не выплацілі ўсяго ім за зямлю. А як прыйшла рэвалюца, дык мы і плаціць пакінулі. На чорта тады плаціць, калі да таго ісці павінна было, што зямля і так пад народ павінна была пайсці. Гэтак і было, мы такі засеялі былі з маёнтка кавалак зямлі, і нам ніхто слова не сказаў. Памаглі нават яшчэ. А чаму? А таму, што гэта ўжо была другая рэвалюцыя. Ой, які быў час! Тады ў нашым горадзе за старшыню рэўкома быў наш чалавек —

Адась Гушка. От ён усё гэтак і накіроўваў, каб усе правы рэвалюца нам давала. Сурвілу і Мазавецкаму мы, значыцца, пакінулі адробліваць. І так напарабілі! Панскі маёнтак, што яшчэ астаўся ў яго, як радавітае кодлішча, зачапілі. Усе мы там гуртам былі. Сам пан ледзьве паспеў пяты падмазаць... Ну, значыцца, гэта ўсё, я ж кажу, вельмі за гэта нашы людзі ўзяліся, як адбылася ўвосень другая рэвалюцыя. А тут неўзабаве немцы нахапіліся. Ураджай-то мы тады мелі добры, пан вярнуўся спаганяць з нас за маёнтак. Колькі там чаго не далічыўся з маёнтка, а рэшту сам прыдумаў, чаго, можа, і не было ў яго, от мы ўсё і выплацілі пад бізуном. Усё пайшло, як і было: той самы старшына сеў, што і раней быў,— Сурвіла. Гэтак сама націснуў ён на нас, каб зноў яму ўсёй вёскай адроблівалі. І рабілі, што мы маглі парадзіць? А гэтакі ж ён асэсар раптам стаў. Бывала, дык перад людзьмі, колькі я і памятаю яго, не лішне ёмкі на язык быў, а гэта гэтакую прамову закаціць мог! Страх! Дзе ён гэтак, калі патрэбна стала, і гаварыць навучыўся! Старшыня рэўкома ў горадзе, бывала, Адась Гушка, калі скажа перад людзьмі, дык здаецца, нежывога на ногі словам узніме. Дык і Сурвіла, як нагледзеўшыся ўсё адно, пачаў гаварыць. Адно што ў другі бок, гад гэты. То ён усё спачатку, як толькі стала рэвалюцыя, бедаваў, што прапала ўсё на свеце, то раптам, як прыйшлі немцы, пачаў гаварыць, што немцы, вядома, чужы народ, але мы беларусы і ў нас ёсць недзе там нейкая беларуская рада. Што яна, як прыйшлі немцы, прывітала нямецкага цара Вільгельма, і мы ўсе, увесь, значыцца, беларускі народ, павінны гэта самае рабіць, бо ў нас адны інтарэсы...

— З царом?.. Хэ-хэ...

— Ну, ён не казаў з царом, з радаю. У рады, значыцца, тое самае, што і з гэтай нямецкай уладаю. У адзін, значыцца, бок накіроўваецца іхняе кіраўніцтва народам: у нямецкай улады — нямецкім народам, а ў беларускай рады — беларускім. Гэтак ён і гаварыў раз на сходзе перад усімі, як толькі прыйшлі немцы. А немцы як адышлі і зноў таварышы прыйшлі, дык ён тады і з'явіўся, як відук у плоце. Маўчаў і духу не ўказваў. Пабыў крыху, а пасля зусім з'ехаў недзе, адно сям'я асталася. Сын яго, што некалі ў прыстава за пісара быў, ваяваць пайшоў за Расію. І цяпер недзе ваюе ўсё. А тут, як палякі прыйшлі, дык ён зноў з'явіўся. За старшыну ён цяпер не астаўся, а за войта зрабіўся Мазавецкі. Чэрці яго ведаюць, які рухавы зрабіў-

ся! Як памаладзеў усё адно. Аднекуль раскапаў, што ён не проста Мазавецкі, а Грак-Мазавецкі. Паны падвойныя прозвішчы маюць, дык і ён знайшоў, што бацькі яго ці дзяды таксама ў дзве столкі зваліся. Пан войт Грак-Мазавецкі, значыцца. От цяпер і пачалася самая бяда. Што ж, пасля немцаў мы зноў за маёнткі і за зямлю ўзяліся. Зноў адрабляць гэтым хаўруснікам пакінулі. Не дацяглі і да канца. Дык цяпер яшчэ мадарней стала, як за немцамі было. За ўсё дзякуюць нам — і за зямлю, і за маёнтак, і за Мазавецкага з Сурвілам, і за папоўскую сенажаць, што скасілі... А божа мой, божа, духі занялі. Гэтаму небараку, старому Гушку, Адасёваму бацьку, дык яшчэ за сына бяда. Цэлую зіму праседзеў у астрозе, нейк вырабіўся адтуль і ўсё яшчэ баіцца, што зноў забяруць. Не начуе ў хаце, прыхоўваецца. Мяне таксама цяглі за сына Паўла, і ўсё цераз Мазавецкага. Гэта што сын ахвотнікам ваяваць пайшоў з палякамі! Дык от на маю галаву і набегла ўсё. Усё як сабралася разам, дык цяпер свет чорны, здаецца. Гэта як было. На тым тыдні яшчэ, я ўжо і лік дзён згубіў, сам Мазавецкі прыйшоў у двор да мяне — у фурманку мяне гнаць. А везці трэба было нейкае збожжа з пастарунку на чыгунку. Я прасіцца, я маліцца — што ў мяне і конь слабейшы як у каго, што і з хаты мне няма ад каго. А ён — хоць ты яму што хочаш. І гэтакае слова ён мне сказаў — няма, кажа, табе ад каго, чаму ж сын не сядзіць дома, а за бальшавікоў ваяваць пайшоў? От я і паехаў. На чыгунцы скінуў збожжа, а там салдаты іхнія пагналі мяне далей. Завёз іх, а там другія яшчэ далей пагналі. От я і ехаў, пакуль каня насмерць не заездзілі. Драбіны таксама раскідаліся. Адно гэтыя ржавыя цуглі і засталіся... Дык каб жа гэта адно! А то сэрца маё неспакойнае. Як выязджаў з дому, дык там цэлы рэзрух пакінуў. Бо я ж казаў, што гэтулькі знайшлося асэсараў, як толькі паны прыйшлі, што кожнаму мы ўсёй вёскай вінаватыя то таго, то гэтага, то за гэтае, то за тое асталіся. Тут першы — пан з-пад гарадка. А пры ім ужо і Сурвіла з Мазавецкім к сабе цягнуць. Там бо яшчэ нейкі чорт, ці не той самы, што вітаў некалі Вільгельма, Пілсудскага прывітаў у Мінску, на нашу ўсё галаву ўсе гэтыя іхнія вітанні. Дык тут гэтым двум нашым асэсарам гэта як маслам па нырках. Сам Мазавецкі цяпер дома мала калі сядзіць, усё ў гміне, а як прыязджае, дык і пачынае — мы, кажа, беларусы. Ну, добра, мы беларусы. Ты, значыцца, беларус, ну дык і я ж беларус. Дык чаму ж

ты на мне конна ездзіш? А мой Павал не беларус, што недзе ў Чырвонай Арміі ваюе? Так я падумаў сабе. Ды так, мусіць, сказаць, і ўсе нашы людзі думалі, бо ніхто і пальцам не крануў, каб пайсці рабіць Сурвілу і Мазавецкаму за старыя там даўгі, за процанты. Таксама і ў двор не хацелі ісці пану рабіць, усю вясну салдаты ганялі. Пазаганяюць, а там пакоўзаюцца нашы людзі па полі, а пасля ходу дадому. Ведама, сваё дома не роблена астаецца, а тут пану рабі, усё адно як паншчына тая вярнулася. Цэлую вясну гэтак валтузіліся, а пасля — праз гміну ўсё пачало рабіцца, тут пэўна рука і нашых гэтых двух асэсараў прычынілася — жандараў наслалі на нас. Нібыта за панскі маёнтак гэта, але разам сюды і Сурвілава з Мазавецкім справа прыблытана. Парасцягалі ўсё, да апошняй ніткі ўсё пазабіралі, кароў з хлявоў у маёнтак пазаганялі, народ пазбівалі. А праз некалькі дзён суд — прысудзілі зараз жа і адразу выплаціць Мазавецкаму і Сурвілу і доўг і процанты. А працантаў гэтых гэтулькі нарасло, што больш, як таго доўгу, як усяе тае зямлі, каб яе ўжо нечага не бачыць. Дык з чаго ты тутака будзеш выплачваць? Зноў ніхто нават і не паварушыўся. Ні хлеба, ні жывёлы, усё ў пана апынулася. Тут, сказаць праўду, людзі на ўсё пайшлі. Што бог ні дасць. Што траціць асталося нашым людзям? Сказаць праўду...

Тут стары пільна агледзеў чалавека пад бярозаю, падступіў на паўкрока бліжэй, каб яшчэ раз убачыць, што гэта сапраўды ў яго стрэльба прытулена да боку пад ругою — чалавек у лапцях, з стрэльбаю, гаворка тутэйшая, ну, вядома, тут справа ясная... І стары смела сказаў:

— Дык нашы хлопцы, між намі кажучы, узялі і падпалілі маёнтак. І гумно і свірны. Не ўсе ведаюць і з нашых людзей, хто і як. От што... А што рабіць? Хоць сапсаваную кроў з душы сагнаць. Пасля гэтага хлопцы некаторыя зусім з дому зніклі. Па лясах туляюцца, што ты зробіш!.. Дык як я выязджаў з дому, дык што тады было! Чакалі з дня на дзень жаўнераў і паліцыянтаў з горада — браць людзей нашых на следства за спалены маёнтак. Пра гэта нашы людзі нейк жа дазналіся. Гэтакі страх найшоў на людзей, што баяліся мужчыны начаваць дома. Што гэта будзе, божа мой, божа! Вядома, што тут Мазавецкі свайго з Сурвілам не папусціць — латва, Мазавецкі сам войт, што хоча, тое і зробіць... Можа, ужо там няма мне куды варочацца, можа, адны галавешкі кураць. Што, паны маюць якую-небудзь літасць да нашага

чалавека?.. Божачка мой, няхай бы яна была калом пайшла гэтая зямля. Што было за царскай Расіяй яшчэ пачалося, цяпер пад Польшчаю ўглыб пайшло: ніяк не вылузаецца з хамута. Яшчэ цясней стала ў ярме. З старэчай торбаю па свеце пускаюць... Праз каторы год, ад цара яшчэ справа гэтая з зямлёю душыць нас, і рады проста няма...

— А якой ты хочаш, чалавеча, рады? Каб табе яе хто прынёс гатовую? Бальшавікі як прыйдуць, то табе будзе і рада тут. Сам сабе рабі гэтую раду... А ў вас там яшчэ гэтыя дні пакуль было спакойна. Я быў там гэтымі днямі ў вашым баку. Мо хіба ўчора ці сёння. Я нічога не чуў цяпер.

— Ды што рабіць? — развёў рукамі стары, яшчэ падаючыся бліжэй да чалавека. Сэрцам сваім ён пачуў тут нейкую абарону.

— Што рабіць? Пратрымацца як трэба. Не доўга ўсё гэта будзе. Бараніцца самім трэба.

— Бараніцца? Мы ж і баронімся. Я ж кажу, хлопцы нашы, як маёнтак згарэў, у лесе і асталіся... Ну... а я... стары, не магу...

— Я ведаю, што хлопцы вашы не дома. Я з імі некаторымі бачыўся...

— Дзе бачыўся? А сынок мой!..

Стары разгледзеў ужо, што перад ім малады хлапец.

— Можа, яшчэ і больш, чалавеча, па дарозе гэтак, як мяне, каго спаткаеш. Дык не бойся, гэта свае. Але ў гаворку лішне не падавайся. Бо, можа, і на чужога натрапіш.

— Я ведаю,— затрапятаўся стары, ажывіўшыся, забываючы ўтому.

— Ідзі, стары, дадому. Асцярожна ідзі. Але смела ідзі. Нікому і знаць не падавай, што мяне бачыў і гаварыў са мною. Ідзі сабе...

І стары пайшоў.

Было ля поўначы. Над лесам расла цёплая хмара. Чорна было, ён ледзьве бачыў, як шарэе ў яго пад нагамі роўная шырыня старога гасцінца.

### 2. Стары з'явіўся дадому

Усё адно, як ведаў ён наперад, што гэтак будзе. Рэшту дарогі прайшоў ён шпарка, утомленыя ногі неслі яго як ветрам. Не даходзячы з паўкіламетра якога да вёскі, ён

прыпыніўся і прыслухаўся, ці не чуваць чаго. Але было ціха. І ён рушыў далей. Ён прайшоў па загуменні, проста з поля да агародаў. Як мінуў ён платы і выйшаў на загуменную дарогу, ён сам сябе стараўся ўпэўніць, што ўсё тут ціха і спакойна. Ён быў змучаны і цяпер толькі адчуў, як аж адранцвела ягонае цела за гэтую дарогу.

— Рэнцэ до гуры,— як з грому ляснула проста перад ім.

Было цераз поўнач. Нізка вісла чорная хмара. Спрабаваў сеяцца цёплы веснавы дождж. Ён ледзьве распазнаў перад сабою чалавечую постаць. Ён адразу ўскінуў рукі ўгару. Польскі салдат трымаў перад грудзьмі яго штых. Падышоў другі, засвяціў яму ў вочы электрычным ліхтарыкам, павыварочваў яму ўсе кішэні і пагнаў перад сабою. Ён яшчэ не ведаў, дзе яго падзець. Стары пайшоў проста да сваёй хаты. Салдаты стаялі густа па ўсёй вёсцы і навокал яе. Яны падышлі ціха, ціха пасталі, і ніхто яшчэ нічога не ведаў. Стары Няміра быў ужо ў сваёй хаце, як вёска пачала абуджацца. Дзесьці загаварылі людзі, дзесьці закрычалі, і толькі цяпер дзесьці пачулася вайсковая каманда. Стары Няміра сядзеў на лаве як акамянелы. Хто быў у хаце — старая, Марылька, дзіця,— здавалася яму, не пазналі яго, ці гэта ён іх. Усё было як у тумане. Пасля дзесьці крычалі людзі, пасля плакаў Марыльчын хлапчук, утаймоўвала яго Марылька, галасіла старая, стралялі на вуліцы жаўнеры — усё гэта прыйшло раптам да ягонай свядомасці. У хаце гарэла лямпа, гучала ўся вёска.

Стары Няміра ўстаў з лавы. Салдат загадаў яму не кратацца з месца: яго злавілі за вёскаю апоўначы і ўсялякая падазронасць была на яго. Гэтак яго неўзабаве і вывелі з хаты. Цягавіты стары, каб прыйшлося, перамог бы яшчэ сваю ўтому пасля цяжкай дарогі і прайшоў бы яшчэ адным махам з пяцьдзесят кіламетраў, але тут задушыла яго трывога: ён зусім звяў. Ён цяпер ішоў гэтак няроўна і нязграбна нейк, што чапляўся, небарак, нагамі за кожную няроўнасць. Жаўнер убачыў тут нейкі манеўр і пагнаў яго прыкладам, не даючы агледзецца. Яго прыгналі туды, куды зганялі ўсіх мужчын — у крайнюю хату. На парозе ў сенцы стары спатыкнуўся, тулава яго падалося назад. Жаўнер, бачачы ва ўсім хітрасць ворага, штурхануў яго наперад, і стары ўпаў.

З гэтай хвіліны ён абнямог зусім. Ён бачыў яшчэ, што ў хаце, пры святле лямпы, цесна, шмат мужчын

суседзяў, што ўсё гэта мітусіцца ў яго ваччу, кудысьці падае, падае. Ён ледзьве сеў на лаву і ўпёрся на стол. Уваччу яго стала цёмна.

Тым часам людзей назганялі паўнюткую хату. Нахапіўся дзень. Салдат была поўная вёска. Вартавыя вайскоўцы сталі на ўсіх дварах і навокал вёскі. Стары Няміра ляжаў на лаве. Хтосьці падлажыў яму пад галаву нейкую вопратку, ён не чуў, як увайшоў у хату афіцэр і паўпісваў усіх у паперу. А пасля, як ужо добра ўднела, з'явіўся ў хату высокі чалавек у фрэнчы з рудога аксаміту. Рыжыя вусы яго прабірала сівізна. Каб быў тут Леапольд Гушка, ён пазнаў бы таго самага аконама, што калісьці прагнаў яго з панскага парабкоўства. Аконам пасівеў, пастарэў; Гушка ўжо даўно не бачыў яго. Аконам узяў з афіцэрскіх рук паперу і паадзначаў там алавіком прозвішчы некаторых. Іх было чалавек дваццаць. Туды папаў і Няміра. Аконам сказаў:

— Гэта самыя верхаводы. Гэта бальшавікі.

Пасля ён заўважыў на лаве Няміру:

— А ў гэтага сын самы першы ў маёнткі палез, як толькі рэвалюцыю сваю бальшавікі зрабілі. Дзе твой сын?

Няміра не чуў. Хтосьці адказаў за яго:

— Ягонага сына змабілізавалі, як яшчэ бальшавікі тут былі.

— Ведаю, як яго змабілізавалі! Чаму ж ён не астаўся дома, як з хутароў усе хлопцы дома?

І тут аконам успомніў:

— А дзе ж Гушка? Нешта я яго не бачу.

І ён яшчэ раз акінуў вачыма хату. Афіцэр запытаўся ў яго, пра каго ён пытае. Аконам выйшаў з афіцэрам з хаты. Неўзабаве пасля гэтага трое вайскоўвых коннікаў кінуліся за вёску цераз гасцінец да каржакаватага хвойніку. Трухлявая Гушкава хата з мокраю ад дажджу, растрыбушанай саламянаю страхою стаяла маўкліва, уся ўехаўшы ў зямлю. Коннікі ў хаце нікога не знайшлі. Хаціна была пустая — замок вісеў на дзвярах. Што там пільнаваў гэты замок? Старшы коннік падскочыў да акна. Ён убачыў венік пасярод хаты, нявыбранае смецце і больш нічога. Ён скамандаваў ехаць. Яны аб'ехалі навокал хаты, шмат хвойніку і, нікога не спаткаўшы, рушылі назад у вёску. Як выязджалі на поле, на сцежцы пад ялінамі ўбачылі старую жанчыну. Зусім сівая, з пачырванелымі ад бессані вачыма, з растрапанымі з-пад хусткі валасамі, яна баязліва хацела схавацца за дрэвы,

кінуўшыся ўбок са сцежкі. Гэтага руху яе вайскоўцы, вiдаць, не заўважылі, яны заўважылі, што яна як бы накіроўвалася ў бок вёскі. Яе аглушылі крыкам. Яна, як магла, пачала хітрыць: пачала выдумляць, што яна ідзе «з тэй унь вёскі, што за лесам, і выходзіць на гасцінец. А ідзе яна ў горад даведацца сына, што працуе там на лесапільні...» Сын яе, праўда, працаваў ля горада на лесапільні, але яго ўжо там не было. І яна зусім не была з той вёскі, пра якую ўспамінала цяпер. Вайскоўцы паверылі ёй ці не, але прагналі яе крыху перад сабою, пасля, бачачы, што яна ледзьве ідзе, прышпорылі коні і мінулі яе, а яна адна асталася на полі і як мага заспяшалася назад у лес. Босымі нагамі ступала яна па мяккай зямлі, бачыла, як сонца раптам выйшла з-за хмары, як хмара растае на досыць высокім ужо небе, як раніца яснее, як свет робіцца шырокі, зелянее трава, вецер сушыць дрэвы... Яна пайшла шпарчэй, несучы ў сабе радасць сваёй адзіноты, пасля таго, як вайсковыя людзі з нагайкамі і карабінамі згінулі ад яе. Вачыма сваімі яна абнімала свет, і яснае неба, і маладое сонца, і звыклыя гэтыя за жыццё каржакаватыя хвоі навокал. Раптам яна ўспомніла, і як бы ў ваду ўпала яе ўдзячнасць камусьці за гэты спакой. Яна подбегам падышла да старой хаціны на ўзлеску, дастала аднекуль з нетраў сваёй, усё адно як старэчай, адзежы ключ, адамкнула хату, баязліва паглядзела ў акно, прыслухалася, ці не чуваць чаго, і пачала завіхацца. Твар яе быў толькі ўсяго заклапочаны. Яна дастала з паліцы акраец хлеба, яшчэ чагосьці паклала ў сарвэту і завязала клунак. Пасля прысела на момант, думаючы, ці ўсё зрабіла, што трэба. Устала, пайшла з хаты і, з стараннасцю добрай гаспадыні, упэўненая, што навала паўз яе хату прайшла ў выглядзе трох вайскоўцаў і больш не вернецца, замкнула хату і падалася ў лог, дзе сівец пераходзіў у балота. Балотам яна выйшла на высокі груд, прайшоўшы які, падышла да лесу. Хвоі тут былі выносістыя. Яна доўга ішла глухою сцежкаю, а пасля пачала прыглядацца і прыслухоўвацца. Некалькі разоў яна нават ціха кашлянула. І яе неўзабаве пачулі:

— Мацi, сюды... Мацi...

Яна кінулася на голас у гушчырню. Сівы стары, высокі і моцны, стаяў перад ёю. Ён узяў ад яе хлеб.

— Ну што, мацi? Што чуваць?

— Добра, што ты сышоў. Ужо абкружылі вёску, яшчэ ўночы. І каля нашае хаты круціліся ўтрох конна. Я каля

хаты брадзіла. Бачыла. Пасля не ўсцераглася, папалася была ім на вочы, але пасля яны мяне пусцілі.

— Не ведаеш, Няміра стары вярнуўся?

— Не ведаю.

— А Марылька як?

— Не ведаю, звечара была дома. Тады яшчэ старога не было.

— Добра.

Ён глядзеў кудысьці далёка, штосьці думаў.

— Што добра... Ты мне скажы, дзе Антусь?

— Ты пра Антуся не дбай. Ён не малы.

— Божа мой, божа... Я ж маці...

— Ён там, дзе ўсім трэба быць... От што... Ты будзь каля дому. Лішне не думай ні пра што. Я тут буду яшчэ сёння да ночы. Увечары ты прыйдзі, скажы, што там робіцца... А пасля глядзі сябе. Беражы. А табе нічога не зробяць. Калі што якое, гавары, што як пайшоў я на работу ў горад, дык і дагэтуль з таго тydня мяне няма. І гэта будзе праўда — ніхто мяне гэтыя дні не бачыў. Старайся не мазоліць сабою Сурвілавых лішне вачэй — не выходзь пад ягоны хутар. Будзь дома, і ўсё.

— А Антусь жа?

— Антусь будзе там, дзе я. Я пайду з ім. Ты сама кажаш, што добра я зрабіў, што сышоў учора з хаты.

Яна паглядзела на мужа, заплакала і пайшла паволі назад.

— Дай кругу, ідзі нібы не адгэтуль,— сказаў ён ёй наўздагон.

І яна выйшла на ўзлесак з іншага боку.

Надвечар Леапольд Гушка пайшоў ёй на спатканне: што робіцца ў вёсцы, не цярпелася яму хутчэй даведацца. З лесу ён выйсці баяўся. З-за дрэў ён бачыў перад сабою, па той бок груду і балота, хвойнік. Хвойнік закрываў ад яго хаціну і вёску. Ён убачыў над хвойнікам рэдкі дым — штосьці паволі дакурвалася. Яму здалося, што гэта дагарае ягоная хаціна. Ён паволі пайшоў назад, не думаючы пра гэта.

### 3. Адно галавешкі курацъ

Няміра прыйшоў да памяці тады, калі яго хтосьці штурхануў: усіх пераганялі ў гумно — іх было чалавек дваццаць, тых самых «бальшавікоў», рэшту людзей выпусцілі. Усім было сказана, што яны рабаўнікі, зладзеі,

карыстаюцца чужым і аддаць чужога не хочуць. Што яны знішчаюць маёнткі, могуць забіваць паноў, не аддаюць таго, што каму вінны, не зважаючы на тое, што суд прысудзіў аддаць (тут усе зразумелі — ход ідзе пра справу з Сурвілам і Мазавецкім). Іх у гумне трымалі цераз паўдня, стары Няміра стагнаў на саломе,— трывога, здарожанасць адабралі ў яго ўсе сілы. Пасля ў ясны ўжо поўдзень іх, абкружаных жаўнерамі, пагналі ў гарадок. Пакідаючы вёску, яны бачылі: пасярод вуліцы стаялі пазлыгваныя коні, з двароў выганялі кароў — забіралі рэшту набытку. У панскі двор ці вайскоўцы сабе? Жанчына пасярод вуліцы рвала на сабе валасы, цераз твар у яе ішла крывавая пісага ад нагайкі. «Мільч!» — крычаў на яе вайсковец. Яна бегла за ім. Яна як бы страціла думкі — каго тут прасіць, што тут робіцца? Яна пасля пачала выганяць з гурту сваю карову. Тады яе зноў шляганулі нагайкаю. Пасля гэтага яна зусім роспачна прыбянтэжылася — пачала цягнуць вайскоўца за нагу з каня. Яе адапхнулі, і яна пабегла ў вуліцу з енкам. Яна дабегла да сваёй хаты і ўбачыла там поўна салдат — яны асталёўваліся там як бы надоўга. Яна ў хату тады не пайшла, а закрычала з новаю сілай, заенчыла. Ёй памаглі на вуліцы больш жанчыны. Жаўнеры, каб сцішыць іх, далі ўгару залп. Арыштаваных мужчын тады выводзілі з вёскі. Пачуўшы залп, яны, як згаварыўшыся, спыніліся — ніхто не хацеў гінуць пакорліва. Уцякаць не было як, ратаваць сем'і — таксама. Мужчыны не краталіся з месца. Верхавыя пусцілі ў ход нагайкі. Мужчыны падаліся наперад. Але ненадоўга. Стары Няміра спусціўся на зямлю і падняцца больш не мог. Тады прыгналі з вёскі фурманку і паклалі яго на салому. Увесь гэты час мужчыны з канвойнымі жаўнерамі стаялі на дарозе. Жанчыны не сціхалі — галасілі ўсё мацней.

Раптам усе заўважылі: з хвойнічку выбег хлапчук у вываленым у зямлі зрэб'і. Яго як бы хто гнаў да вёскі. Але за ім нікога не было. Ён прабег крыху ад хвойніку, пакуль не заўважыў, што ў вёсцы арудуюць вайскоўцы. Тады завярнуўся бегчы назад. Але яго ўжо заўважылі. Па ім стрэлілі. Ён кінуўся на зямлю і папоўз. Коннікі яго тут жа спынілі і пагналі перад сабою да вёскі... Тым часам дзесьці за лесам групуў залп, і пасля пачалася страляніна. Хлапчук увесь дрыжаў і калаціўся. Ён ледзьве мог выгаварыць да людзей, што і ў іхняй вёсцы робяць тое самае, што ён уцякаў сюды, нічога не ведаючы, і на-

трапіў на новую бяду. А з лесу выйшаў атрад партызанаў і бароніць вёску. Было за паўдня. Сонца найшло ўпіз, а рэзрух у вёсцы не спыняўся. Вось пагналі з вёскі жывёлу, вось павялі коні. А перад гэтым з-за лесу пагнала раптам сюды дым. «Нашу вёску запалілі!» — заплакаў хлапец. Яго трымалі пад штыхамі, і ён усё гаварыў адно і тое ж, што партызанаў найшло шмат, што нібыта прыйшлі з горада. І сапраўды, з таго боку пачулася раптам страляніна. Арыштаваных трымалі на месцы, за вёскай, пад жалезнай аховай штыхоў. Ужо сонца сплыло ніжэй, як гасцінцам прайшло некалькі вайсковых аддзелаў. Партызаны адышлі ў лясы. Арыштаваных пагналі ў горад. Вёска апусцела, толькі некалькі салдат у ёй яшчэ ўсё шукалі сабе кожны дабра. Жанкі з дзецьмі былі на агародах, баючыся паткнуцца ў вуліцу. Мужчыны ўжо аніводнага не асталося ў вёсцы і каля яе. Гадзін за дзве да захаду сонца, адыходзячы, салдаты з двух канцоў падпалілі вёску, а самі зніклі. Жанчынам і дзецям цяпер льга было смела ісці ў вуліцу. Пакуль яны адумаліся, што ў вёсцы больш не чуваць выгукаў польскіх салдат, ад вёскі курэлі адны галавешкі. Ніхто не астаўся начаваць на попелішчы — паразыходзіліся хто куды: у суседнія вёскі, падаліся на ўзлесак да хвойніку. Як пачаў меркнуць дзень, яны і адтуль разышліся — хто дзе меў блізкіх і знаёмых, а хто вярнуўся да сваіх родных галавешак і попелу — пацягнула іх туды вельмі. Там яны, на сабраных лахманах, і асталіся начаваць. Увечары было страшэнна ціха. Яны чулі, як на захадзе сонца, як і кожны дзень, гарадок касцельнымі званамі развітаўся з днём, як вызваньвала замкавая вежа гадзіны. Дзе цяпер арыштаваныя? Жанкі і нудзелі і, каб не трывожыць дзяцей, стрымлівалі роспачныя слёзы.

На Сурвілавым новым хутары, непадалёку ад Гушкавай хаціны, ля хвойніку, дзень кончыўся ціха. На змроку Сурвіла з парабкам паілі ля студні коні.

— Бачыце, гаспадар,— сказаў парабак,— унь на нашай сенажаці пагарэльцаў крыху, начаваць, мусіць, будуць.

— Ах, божа мой, божа,— адказаў Сурвіла,— праз каторы год, як толькі пачалася была вайна, няма спакою на свеце. Жыць людзям спакойна не даюць. Хаця каб нас бог крыў ад чаго. Небаракі-людзі гэтак пакутуюць. Дзе ім цяпер дзецца?

Ён сам пайшоў за браму, дзе нядаўна было прыбра-

на на сенажаці сена, дзе дзве сям'і немаведама чаго чакалі па захадзе сонца, і сказаў:

— Ідзіце, людцы добрыя, да мяне пераначуйце. Ці тут бог ведае што. Гэтакая бяда апанавала людзей. І калі ўжо той спакой на свеце будзе! Ідзіце, я ж кажу, месца знойдзецца... Гэта ж гэтулькі людзей згубілі. Божа мой!

Узяў малую дзяўчынку за руку і павёў уперадзе ад усіх на сваю кухню. І загадаў даць людзям павячэраць.

У Гушкавай хаціне таксама былі пагарэльцы. Першая прыйшла сюды Марылька з дзіцем. Старая яшчэ была дома. Яшчэ тады было рана. Яна неўзабаве сышла з дому. Цяпер яна ўжо ішла смела цераз балота да лесу — кругу не давала. Леапольд быў на ўзлеску.

— Хата згарэла? — запытаў ён.

— Не, вёска.

— Ага, вёска... Нядаўна бачыўся з Антусём. Яны не маглі даскочыць у пору сюды — унь там,— паказаў рукою на лес,— ратавалі яны людзей. Жаўнераў прагналі, але ад пажару не вырatавалі... Ну, ідзі дадому. Калі мы ўбачымся,— цяпер сказаць не магу. Я сам прыйду. Ты мяне не шукай.

— Старога Няміру пагналі разам з усімі ў горад.

— Ага,— сказаў адно ціха.— Ты ідзі. Марылька ў нас? Ну і добра.

Пасля гэтага ён астаўся адзін. Ён чакаў людзей. Людзі пачалі ісці той самай ночы. Адусюль ішлі. І ён накіроўваў іх, дзе трэба было збірацца. Яму гэта даручылі яшчэ апаўдні, калі ён бачыўся з людзьмі з атрада. Перш за ўсё пайшлі блізкія людзі з гэтых дзвюх спаленых вёсак. Кожны расказваў Леапольду сваю бяду. Ён выслухваў гэтую споведзь і казаў:

— А цяпер ідзі проста гэтай сцежкаю, пакуль не дойдзеш да другой палянкі. Там пачуеш людзей.

От як спавядаліся людзі.

Хлапец гаварыў:

— Мой бацька малоў муку саматугам у жорнах у сенцах. А яны ўвайшлі ўдвух, ні слова не кажучы, адцягнулі яго ад жарон і далі прыкладам у твар. А калі далі трэці раз, ён сканаў.

Другі расказваў:

— Майго сына павялі ў лес дапытваць. Спярша адрэзалі вуха, пасля пачалі выбіваць зубы. Я пасля знайшоў яго, як ён паміраў.

Трэці скардзіўся:

— Я з агню ўцёк. Як падпальвалі маю хату, мне загадалі ўвайсці ў сенцы і там зачынілі. Я кінуўся ў хату і выскачыў з агню праз акно. Мне наўздагон стралялі.

Леапольд Гушка чуў гэтую споведзь.

У агні і дыме высыхаць пачала на чалавеку сарочка, што чорным потам прыліпла была кагадзе да цела. Змучанае трывогаю цела набыло раптам сілу, што ў востры момант здольна рвануць чалавека на нечалавечую патугу. І чалавек, трацячы сілы, ірвануўся бегчы.

— Пачакай, пойдзем разам,— сказаў апошняму Леапольд Гушка.

Была ўжо ноч, як яны ўдвух падаліся ў самы глыб лесу.

З таго дня старая гаспадыня трухлявай хаціны ля хвойніку доўгі час не бачыла свайго Леапольда. Яна страціла сілы зусім і ледзьве тупала ля хаты ўдзень. Марылька была тут жа.

Неўзабаве мелася пачацца жніво. Спела жыта. І людзі трымаліся блізка ля свайго попелішча. У самога ж Гушкі жаць нічога не было: гэты год зямля яго пуставала. Ён проста махнуў рукою, бачачы, што нічога ўжо больш не будзе з ягонай нечалавечай працы, апроч мазалёў: з Сурвілам ён ужо расквітаўся, суд прысудзіў зараз жа аддаць і доўг і працэнты, і на гэта прадалі з самай вясны каня, які быў, і да яго яшчэ крыху набытку. Цяпер Гушка быў вольны ад даўгоў і меў сваю ўласную зямлю. Сурвіла пра яго пакінуў думаць, але затое думала ўсё наваколле — адны з вялікай дружбаю, другія з вялікай нянавісцю: гэта за Адася, старшыню рэўкома ў гарадку. Пан войт Грак-Мазавецкі з прычыны высокай у гміне пасады сваёй не спускаў Леапольда Гушку з думак. Гэтакім парадкам Антусь Гушка толькі ўсяго, як пачалася белапольская акупацыя, некалькі тыдняў папрацаваў ля гарадка на пушчанай панам зноў лесапільні. Зараз жа яго прагналі адтуль, не аддаўшы зарobленых грошай. І ён адразу знік з хаты; куды ён пайшоў, ведаў спачатку адзін толькі бацька. Цяпер яны былі разам.

### 4. Хлопец Сымона Чуйкі

Можа, праз тыдзень які пасля ўсяго гэтага старая жанчына ў сваёй хаціне на ўзлеску пачула сябе крыху лепш. Яна ўстала раней, памагла Марыльцы ўвіхацца ля

печы, пасля надумалася пайсці ў гарадок памаліцца богу. Вялікая трывога панавала над ёю. Сілы былі дарэшты растрачаны, думкі не мелі яснасці — дзе пачынаецца людская бяда, дзе яна канчаецца. Увесь свет быў у бядзе. Ён гарэў у агні, ён быў, з самых малых дзён чалавечых, у пакутах, у нечалавечай працы. Навокал хаты пачало ўжо абрастаць мохам каменне, што было павыкарчоўвана з зямлі доўгімі гадамі, разам з небаракам-працавіком мужам, нават дзірван на ўзлеску і той, здаецца, паліты быў потам і слязьмі старой гаспадыні гэтай хаты. Нічога, значыцца, яснага свет у сабе не мае. Нічога не відаць чалавеку з гэтага месца, да якога ён прыкаваны на ўсё жыццё сваё.

У гарадку званілі ў бажніцах, жанчына спяшалася на гэныя званы. Яна і дома памалілася яшчэ, пасля пасядзела перад дарогаю — адпачывала на дарогу. З сцяны глядзела на яе фатаграфія — чалавек з падстрыжанай барадою смяяўся вачыма. Эдвард Лявэр! Ён стаў тады быў у гэтай хаце за свайго чалавека. Дзе ён цяпер? Як яму жывецца цяпер на ягонай там радзіме? Ён, вядома, напісаў бы, каб спакойны час быў. З якою радасцю ён ад'язджаў тады быў дадому! Як ён развітваўся тады з усімі! Як горача гаварыў з Леапольдам і Антусём! Нават апошняя гаворка іх была пра рэвалюцыю!

Жанчына выйшла з дому. Яна з вялікім сумам чула на сабе ласкавае цяпло ранняга сонца. Ёй здавалася, што гэта ўвесь свет адпраўляе нейкую сумную імшу, якая лашчыць яе старое сэрца, тое сэрца, што аніколі не ведала за ўвесь век ні радасці, ні спачыну. Дзе яе радасць?

У гарадок яна прыйшла позна, ужо даўно ішла імша ў царкве. Яна прастаяла імшу, не думаючы ні пра бога, якому нібыта малілася, ні пра што іншае. З думак упарта не выходзіў Леапольд і Антусь. І Марылька з дзіцем — толькі папялішча адно засталося ў яе. Нават стары, апошні работнік з хаты, Паўлаў бацька, і той дзесьці тут у гарадку сядзіць у астрозе!

Сонца моцна грэла зямлю, як яна выйшла з царквы пасля імшы. Народу такі ніштавата было ў гарадку на пляцы перад царквою. Але найбольш народу было перад касцёлам. Стаялі панскія фаэтоны, маляваныя драбінкі прасцейшай шляхты. Старцы яшчэ не спынілі свае песні; гула лера, багамольныя жанчыны падказвалі сяму-таму з старцоў імёны памерлых — каго памінаць у малітве. Перад касцёлам стаялі паліцыянты — не пускалі просты народ наперад, каб быў праход з касцёла панам. Сама што

пад'язджалі пад касцельныя вароты фаэтоны. Жанчына падышла бліжэй і загледзелася.

Вось яна пазнала: той самы колішні белавусы пан, у двары якога прайшлі па парабкоўстве ўсе маладыя гады, які пасля спрадваў зямлю, які выгнаў іх з парабкоўства. Пра што думала цяпер жанчына? Яна чула толькі, як баліць сэрца, як усё цела ные, як цяжка дыхаць...

Вось пан з паняю падышоў да фаэтона, вось лёкаі падсадзілі іх у фаэтон. Вось пан штосьці з фаэтона загаварыў ціха з нейкім дваровым паўпанкам...

Раптам з-за рогу касцельнай агарожы выйшлі людзі, і вочы ўсіх упіліся ў іх. Вялі трох арыштаваных. Жанчына пазнала сваіх людзей. Папераддзе ішлі паліцыянты, за імі поруч адзін аднаго — стары Няміра, Сымон Чуйка і ягоны хлопец, малады яшчэ вельмі, год так семнаццаць яму. Жанчына чула, як гавораць у натоўпе:

— Што гэта іх сёння ўсё водзяць, то таго, то гэтага?

— А што ж, самы, мусіць, допыт ідзе.

— А можа, гэта куды адпраўляць будуць?

Спачуваюць гэта ім ці так сабе гавораць? Жанчына не магла ні сысці з месца, ні пагаварыць з кім. Яна стаяла, як аслупянелая, і не зводзіла вачэй з арыштантаў. Стары Няміра не мог ступаць на ўсю левую нагу — увесь ступень у яго быў абкручаны анучаю. Ён быў у сваім звыклым зрэб'і, чорным ад зямлі і бруду.

Арыштаваных было трое, паліцыянтаў жа навокал іх чалавек ці не шэсць адно — удвойчы.

Раптам пан кінуў вокам на арыштаваных. Ён адразу скочыў з фаэтона і вельмі шпарка ўзяў пад руку афіцэра, што стаяў з нейкай паняю тут жа. Пані яны тут жа знайшлі новага кавалера, а самі адышліся ўбок, і пан паказаў рукою на арыштаваных. Афіцэр штосьці сказаў пану, разгледзеў пільна тых, каго вялі пад штыхамі, пасля стаў слухаць пана, ківаючы яму ўсё галавою.

— Так, так! Так,— чула жанчына, як ён слухаў пана.

Пасля пан зноў сеў у фаэтон, і фурман пагнаў коні. Тым часам арыштаваных павялі далей кудысьці цераз пляц, у вуліцу. Жанчына назіркам пайшла следам. Выгляд у яе быў гэтакі ўбогі, што нікому яна не ўпала ў вока. Яна падышла да старога аблупленага будынка ратушы на рыначным пляцы і спынілася насупраць яго — арыштаваныя былі ўжо там.

Яна асталася стаяць насупраць ратушы — ногі яе як прыраслі да зямлі. Цяжар душыў усю яе істоту, яна не

здольна была ні пра што думаць. Яна не заўважала, як сонца пачало схіляцца да захаду, як два ўжо разы выдзаніліся гадзіны на замкавай вежы. Раптам яна ўбачыла таго самага скарбовага аконама — ён пад'ехаў конна да ратушы, здаў каня на рукі сторажу і сам знік у карыдоры. «Ці не прыслаў яго пан?» — з'явілася думка ў жанчыны.

Думкі цяпер у яе пачалі яснець. Чаго яна стаіць тут? Яна сама цяпер найбольш думала пра Чуйкавага хлопца, якога нядаўна з бацькам і з Нямірам пагналі ў гэтую ратушу. Яна хацела памагчы ім? Яна дазнацца чаго хацела тут? Таму, што Няміра яе сваяк, яна стаіць тут і чакае, пакуль іх будуць весці назад?

Ці не Адася, ці не Антуся свайго яна бачыла ў гэтым Чуйкавым сыне! Зрэб'е, тое самае зрэб'е ў гэтакіх самых гадах! Мазалі на руках і нагах, парабкоўства, панскі двор, камяні на ўзлеску, работа, страшная работа з малых год, агідная работа, якую толькі ненавідзець можа чалавек, хочучы выратавацца ад яе, каб пажыць на свеце.

Адась! Не, цяпер два Адасі ёсць на свеце. Адзін — той, што быў калісьці, малое дзіця. Над горам ягонага маленства яна плакала. Сама будучы ўжо спрацаваная і хворая, яна да містыкі ўжо тады даводзіла сваё замілаванне да яго. Цяпер Адась — гэта рослы мужчына, бальшавіцкі салдат, начальнік рэўкома. Цяпер ён гэтакі моцны, што ніяк не заспяваеш над ім калыханкі, той самай калыханкі, якую найлепш усяго ўжываць, як пахавальны марш, як пахавальную музыку. Антусь і Марылька — усе дзеці яе зліваюцца з вобразам Адася. Гэта адзін вобраз, і гэты вобраз раздвоены. Два вобразы аднаго чалавека. Адзін вобраз — пакутны позірк нявіннага дзіцяці з матчынаю калыханкаю над ім, другі вобраз — моцны чалавек, які адной рукою можа абараніць сваю старую немагушчую маці ад усялякага гора, якім повен свет.

І цяпер Чуйкаў сын, гэты хлапчук, не сыходзіць з яе думак.

— Чаго ты, кабета, стаіш тут каторую пору,— сказаў да яе нейкі стары, праходзячы паўз яе.— Калі твайго каго павялі на допыт, дык табе найлепш не быць тут, бо цябе заўважаць і пачнуць цягаць, пакуль ім не надакучыць. Не стой тут. Усё адно гэтым не паможаш нічога.

Яна паслухала яго — і адышлася. Каля нейкага дома яна прысела на камень і яшчэ чагосьці чакала, непакоячыся, што сонца нізка да захаду, ёй далёка ісці дадому, а іх чамусьці ўсё яшчэ не вядуць назад у астрог.



Кузьма Чорны *(другі рад, першы справа)*
ў групай беларускіх і рускіх пісьменнікаў. 1927 г.

№ 4-5

УЗВЫШША

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ МАСТАЦТВА КРЫТЫКІ

ЗЬМЕСТ

1930

БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ УЗВЫШША

Часопіс «Узвышша»,
дзе друкаваліся творы Кузьмы Чорнага.

Думкі яе зусім ясныя сталі, яна як бы адпачыла.

«Ніхто з нашых людзей не бачыў іх яшчэ за гэты час,— думала яна,— можа, мне як пашэнціць пачуць ад іх што, можа, яны сказаць што хочуць, нікога ж да іх не пускаюць».

Цяпер яна ведала, што гэтая думка прымусіла яе пайсці сюды і стаяць каторы час. А як гэта можа быць, яна не думала. Яна чакала выпадку, якім мерала ўвесь свет з ўсімі яго малымі і вялікімі падзеямі.

Нарэшце яна дачакалася іх. Вялі Няміру і Чуйкавага хлапца. Самога Чуйкі не было. Жанчына пайшла наперарэз дарогі ім. Няміра ні на што не глядзеў, ён быў змучаны, і вочы яго былі спушчаны ў зямлю. Ён ледзьве ішоў. Хлопец жа кідаў вачыма навокал сябе і ўбачыў знаёмую жанчыну. Ён ажывіўся ўвесь, спаткаўшыся з ёю позіркам, але і выгляду не падаў, што ведае яе — гэтак набываў ён практыку жыцця. Яна правяла іх вачыма, аж пакуль яны не зніклі дзесьці за рогам дальняй вуліцы. Усё адно як яна памагла што ім — гэтак яна адчула цяпер сябе. Ёй здавалася, што яна штосьці важнае зрабіла. І яна пайшла з горада. Яе агарнула ноч у паўдарогі.

Малады Чуйка таксама павесялеў, убачыўшы свайго чалавека ў горадзе. Арыштаваныя сяляне ўсе сядзелі ў адной камеры гарадскога астрога. Як толькі ўвайшлі яны з Нямірам у памяшканне, усе накінуліся на іх з запытаннямі. Няміра адразу лёг на сваё месца ў куце і паказаў рукою на Чуйку — няхай, значыцца, ён гаворыць. Сам жа ён сцішыўся на сваіх, пасланых на падлозе, лахманах. «Божа мой, божа,— сказаў адно ён,— калі гэта скончыцца? Я адно кажу, от як пачалося... калі ж яно яшчэ пачалося... Ніколі, мусіць, і не скончыцца».

— Дзе ж бацька твой? — запыталі ў Чуйкі.

— Пакінулі яшчэ там... Там аконам з двара.

— Чаго?

— Паказвае, што мой бацька першы ў рэвалюцыю на маёнтак пайшоў. Бацьку білі.

— Я ім кажу,— хрыплым голасам абазваўся з свайго кута Няміра,— я ім кажу — мы, кажу, век жылі старцамі, чаго вы ад нас хочаце?

І ён пачаў мыляць губамі, як бы шэпчучы што сабе.

Усе маўчалі. Іх душыла і тое сонца, што свяціла ўдзень у кратчастае акно іхняй камеры, і тая ноч, што гусцілася цяпер дзесьці за сценамі астрога. Яны рваліся адгэтуль, ціха перагаворваючыся самі з сабою:

— Да чаго мы дажыліся...

— Каб не спаленая хата, каб не сям'я, можа б, хоць лягчэй было тут гніць...

— Мы здуравалі, што адразу не падаліся былі ў лес. Гушкаў Антусь як сышоў тады быў з дому — кожны тады мог здагадацца, дзе ён. Ён ведаў мясціну, дзе збіраюцца людзі. Стары Гушка ведае, ён сказаў бы, напэўна...

— Ціха ты, можа, дзе хто слухае...

Раптам заўважылі, што стары Няміра плача. Стогне і плача. Твар яго ляжаў ніцма на лахманах, злямцаваныя валасы на галаве закрывалі яго зусім. Усе моўчкі глядзелі на старога, адзін толькі малады Чуйка не адыходзіў ад цёмнага кута за акном. Адтуль ён не зводзіў вачэй з акна — проста перад акном, блізка, быў высокі паркан. Размахнуўшыся з акна, льга было скочыць на яго. Над парканам ружовіліся апошнія ўспышкі захаду, а навокал была ўжо ноч. У гэтую хвіліну хлапец забыўся на краты ў акне.

— Вас з бацькам разам дапытвалі? — запыталі ў яго.

— Што там з ім робяць, з гэтым чалавекам?

Хлопец нічога не чуў. Ён цяпер, прыгнуўшыся, аглядаў тое, што заўважыў удзень: відаць, раней ужо тут спрабавалі шчасця людзі, бо ля самай сцяны дошка ў падлозе была без цвікоў і злёгку дыхала пад нагамі. Але заўважыць гэтага нельга было адразу. От хлопец цяпер і налёг на дошку. У яго моцна забілася сэрца, калі ён з трэскам узарваў яе і як бы вінавата тут перад усімі паклаў назад на месца і азірнуўся. Усе глядзелі на яго з прыбянтэжанасцю ад нечаканасці.

— Ціха,— прагаварыў шэптам хтосьці.— Пільнуйце дзвярэй.

І хлопец пачаў грабаць пад дошкаю зямлю. Астрог быў «новы» — стары будынак гэты нядаўна толькі быў дапасаваны да гэтага. Хлапец выграб за паўгадзіны які шмат зямлі з-пад дошкі і шапнуў усім:

— Ціха.

Ён увесь тросся і пабялеў, лезучы ў яму. Рукі былі ў яго да крыві паабдзіраны, а вылазячы, ён упічэнт парваў на сабе адзенне, але вылез і азірнуўся. Вартавы зайшоў за вугал, і крокі яго чуваць былі гэтак, што знаць было: ён варочаецца назад. Хлопец прыціснуўся да паркана.

Вартавы прайшоў паўз сцяну і зноў зайшоў за вугал. Хлопец ускочыў на паркан, перамахнуўся на той бок і пайшоў павольна змрочнаю вуліцай. За ім палез з нары яшчэ

адзін. Жаўнер зноў выйшаў з-за рогу і ўбачыў усё. Ён крыкнуў і стрэліў. Чалавек падаўся назад. Праз хвіліну ўсё навокал астрога было на нагах, у камеру набегла паліцыянтаў, жаўнеры сцяною пасталі навокал астрога. У камеры пачалося збойства.

Малады Чуйка на рагу дзвюх глухіх вуліц убачыў паліцыянта. Ён прайшоў паўз яго, заклаўшы рукі ў кішэні, і, як мінуў яго, не мог ужо стрымаць ног сваіх. Ён некалькі разоў азірнуўся, не ўбачыў сваіх за сабою: «Мусіць, на іх гэта стралялі, а не на мяне. Цяпер ім горш будзе ўцячы»,— падумаў і пайшоў яшчэ шпарчэй, не аглядаючыся. На цёмных вуліцах ён спаткаў некалькі вайсковых абозаў, пасля цэлы абоз сялянскіх фурманак — яны штосьці везлі, а поруч некаторых вазоў ехалі конныя вайсковыя канваіры. Хлапец пастараўся неўзаметку мінуць усё гэта. У цемені ночы выйшаў ён з горада глухімі завулкамі і не пайшоў на гасцінец, а полем, кустамі, прыслухоўваючыся ўсё і азіраючыся. Ён чуў, як па гасцінцы на ўвесь конскі ход праехалі некалькі разоў коннікі, туды і назад, і яшчэ далей падаўся ад гасцінца. Ён кружыў па знаёмай мясцовасці і ўсё чуў, як гасцінцам нешта ехаць пачалі вайсковыя абозы, як прамчаўся атрад кавалерыі — нешта неспакойнае рабілася.

Ён дайшоў да каржакаватага хвойніку тады, калі падняўся месяц. Гасцінец быў убаку, а тут хвойнік пачынаўся проста над балотам. Глухата і вільгаць здаровай ночы! Хлапец і пайшоў скрозь упоперак хвойнікам. Неўзабаве перад ім мільганула святло з акенца Гушкавай хаты. Ён прыслухаўся — ціха было ўсё. Ён зірнуў у акно — старая жанчына сядзела апраненая на парозе ў сенцы насупраць газоўкі — відаць, толькі што прыйшла ў хату з дарогі. Хлапец пайшоў у хату. Жанчына спалатнела, збянтэжылася.

— Я ўцёк,— сказаў хлапец.— Адзін, ім не ўдалося, мусіць...

— Дзе ж табе цяпер дзецца, маё ты дзіця? Адзін попел курыць там...

— А дзе нашы?

— Я і сама добра не ведаю. Паразыходзіліся ўсе па людзях... Што гэта, што гэтакі рух на гасцінцы пачаўся? Абозы з паўдня, кажуць, пачалі ехаць...

— Дзе ваш Антусь?

— Я табе скажу, мой сынок. І Леапольд мой там...

Ён ледзьве паспеў выслухаць і кінуўся з сянец.

— Я цябе завяду да іх, а то яшчэ трапіш не туды,— сказала Марылька, ледзьве паспеўшы кіпуцца за ім.

З разгону рушыў ён уніз на нізкае ўзбалоцце, плюхнуў нагамі ў першую купіну.

Не разбіраючы сцежкі, пабеглі яны цераз балота да лесу. Жанчына з сянец адно чула, як мокра шастае асака і мох у іх пад нагамі.

### 5. Ратуйся, хлопча

Усё адно як не было навокал тутэйшых людзей — ніколі нідзе ўбачыць нельга было. Адно лясы жылі нега звычайным жыццём, паўнюткія сялянскага гора; адно жанкі, ды і то найбольш старыя, сядзелі ціха ў хатах, чакаючы канца навалы і гаруючы — як гэта будзе пачаць жніво: жыта наспявала, на ўзгорках пад сонцам яно ўжо добра запалавела.

У гэтай мясцовасці гасцінец жыў ходам польскага войска і рухам скарбовых фурманак — паны выязджалі з маёнткаў.

Уночы партызаны выходзілі з лясоў перацінаць дарогу панскаму войску і панам. Партызаны ўночы вартавалі вёскі ад паганых гасцей, удзень партызаны цяпер трымаліся найбольш пры дарогах, не забіраліся ў глыб лясоў, каб заўсёды быць напагатове.

Старая жанчына ў хаціне на хвойным узлеску ўсе гэтыя дні вельмі ўжо сумавала па сынах сваіх і па мужу. Марылька не магла яе ўгаварыць. Яна недамагала вельмі, выходзіла ўсё на ўзбалоцце глядзець, ці не апусцеў гасцінец, ці не ідуць свае людзі дадому з лесу.

Аднаго дня яна ўбачыла, як яе сусед Сурвіла, добра вымасціўшы воз мяшкамі з нейкім дабром, развітаўся з сям'ёю і выехаў кудысьці. Дзесьці ў глыбіні істоты ў жанчыны заварушылася гордая радасць і пачала вырастаць, як Марылька здагадалася:

— Уцёк, гад. Адзін, без сям'і. Ці не спадзяецца неўзабаве зноў з панамі вярнуцца.

— Але ж уцёк?!

— Уцёк. Зараз і нашы тут будуць.

— Не дачакае ён вярнуцца больш! — упэўніла сама сябе жанчына.

Пасля гэтага яна, усё ж не могучы задушыць свой сум па людскім горы і па сваіх блізкіх, адчувала, як радасны ўздым надае ёй больш сілы. Але праз некалькі дзён ёй

зноў стала горш. Яна зусім абнемагла і найбольш ляжала. Павярнуўшыся тварам да сцяны, яна бедавала сама сабе, выказвала вялікую сваю скаргу:

— Колькі мне жыць засталося? На што я паклала свае сілы? Хто ўспамогся маёю працаю?..

— Зараз будзе спакойна,— цешыла яе Марылька,— і ўсё будзе добра.

Тады жанчына пачынала бедаваць за ўсіх людзей:

— Не жнуць людзі, нічога не робяць... Каб я хоць маладзейшая была, можа, і я тады не нудзела б гэтак. Бацька здароўшы, ён, бачыш, пайшоў з Антусём...

Яна не канчала пачатай думкі. То весялела, то больш яшчэ сумавала. Нездароўе мучыла яе.

Гэтак ішлі гарачыя дні.

Нарэшце гасцінцам рушыла рэгулярнае польскае войска. Але фронту яшчэ пакуль не было тут.

Ліў дождж цэлы дзень, а як добра ўмеркла, высвечваць пачалі зоры. Неба стала высокае, як з сіняй сталі. Нейкая птушка пачала абзывацца ў хвойніку.

Мокрыя аўсы выходзілі на самы гасцінец. Аўсамі ішоў чалавек, выбіраючыся з лагчыны на ўзгорак да гасцінца. Ён прыслухоўваўся і чуў, як некалькі разоў пачынала крычаць у далёкім хвойніку птушка, і браўся ў той самы бок, туды. Ён быў па пояс мокры: з ног мачыла збажына, а зверху адзежына правяла.

Гасцінец быў перад вачыма; хвойнік, дзе крычала птушка, быў далёка па той бок яго, ісці трэба было туды, але адразу перайсці ўпоперак цераз гасцінец чалавек не адважыўся. Ён доўга сядзеў з краю аўсоў і прыслухоўваўся да ночы. Было яшчэ рана, але дзіўна гэтак: хоць бы адзін гук чуваць было з вёскі: от тут жа, от проста перад вачыма, чарнелі стрэхі, крайняя хата проста-такі за некалькі крокаў ад чалавека выходзіла на самы гасцінец.

Чалавек такі не выйшаў адразу на гасцінец. Ці то спакуса падацца крыху ўбок, ці то ён надумаўся чакаць, пакуль пацямнее ноч (хмара вісла над лесам), але ён пасядзеў крыху, пасля пайшоў, прыгнуўшыся, да прыгуменных загарадзей. Тут пайшоў ужо ён смялей. Пад старым вішнячком прайшоў ён да весніц у двор; на вузкім падворку нават сабака не забрахаў. Сарваныя з завесаў дзверы ледзьве засланялі чорную прорву пустога хлява. Чалавек нават не глянуў туды: ён прайшоў спакойна, як бы даўно ведаў, што гэтак тут і павінна быць. Ён адно прыслухаўся пад акном ля хаты, пасля ціха пастукаў

пальцам у цёмную шыбу, пасля падаўся да дзвярэй. Замок трымаўся ў прабоях. Нікога ў хаце. Усё адно як пеканула адразу што чалавека: гэтак шпарка падаўся ён з гэтага двара. Падаўся проста на вуліцу. Набыў адвагу ці ўпэўніўся, што нікога тут больш не спаткае?

У каторую хату заісці пагаварыць з людзьмі, распытаць, чаму апусцела сяліба?

Чуваць было, як дзесьці конь жуе траву, як заплакала праз сон дзіцянё. Але чалавек пайшоў ужо проста да гасцінца: хмара закрыла неба, зусім чорная стала ноч, і не можна было ўпускаць часу, бо над лесам зноў цадзілася яснота. Чалавек даскочыў да гасцінца і роўную шырыню яго перайшоў як бачыш. Тады толькі азірнуўся: шэры гасцінец быў роўны і на ім ясней было, як на мокрых засевах навокал. Хутчэй на цёмную сцежку! І ён увайшоў у каржакаваты хвойнічак. Але птушка крычала не тут. Яна падавала свой голас не часцей, як праз паўгадзіны кожны раз. Чалавек ведаў, што ў гэтым хвойніку, на другім тольні ўскрайку яго, стаіць старая хаціна, але заходзіць тукі — дык трэба патраціць час, а ноч ідзе. І чалавек закрочыў проста ў лог, за якім, ведаў ён, пачынаецца вялікі лес. Ідучы, ён чуў, як у гарадку на замкавай вежы вызваніла поўнач. Тады ён яшчэ больш паддаў ходу.

Але, прайшоўшы крыху, ён памеркаваў наконт кірунку і разлегласці і пачаў даваць кругу — выходзіў на сцежку паўз хвойнік, каб пасля падацца адтуль да лесу бакотам: ён ведаў тут усе ходы. Гэтакім парадкам ён падышоў да цёмнай хаты на ўзлеску. Агню там не было. Ён асцярожна пастукаў у акно. Спачатку ніхто не адказаў, а пасля ціхім голасам:

— Хто там?

— Гэта я, Чуйкаў Рыгор.

І Марылька кінулася адчыняць дзверы.

— Я доўга не буду. Я адно па дарозе зайшоў даведацца пра вас, каб расказаць дзядзьку Леапольду... Нешта на гасцінцы пацішэла. Я, можа, з гадзіну быў ля яго, і на ім усё пуста.

— Дзе ж ты быў?

— У гарадку.

— Чаго?

— Ціха. Ці вывезлі арыштаваных. Пагналі з гарадка да чыгункі, мусіць, вывозіць будуць. Мне сказалі, калі яны яшчэ там, з таго месца, адкуль чуваць будзе, закрычы, як птушка, і мы адразу кінемся ў горад адбіць іх...

Раней не было сілы, а гэта, за гэтыя дні народу назыходзілася, і ўсе паўзбройваныя... А я, значыцца, крыкнуўшы, як птушка, маю права заняцца сваімі справамі — пашукаць, дзе маці з сёстрамі. Мне казалі, што яны ў Падолішчах. От я заходзіў туды, але там хата сваякоў нашых на замку. Больш я нікуды не заходзіў... Чуеш? Птушка ў лесе. Гэта знак, што чакаюць мае весткі. А мне даводзіцца маўчаць. Зараз яны будуць ведаць, што іх няма ў горадзе, калі я маўчу... От зноў нейкі грукат на гасцінцы...

— Табе лепш не быць тут... Як гэта ты пайшоў у горад, сам адтуль уцёкшы?

— У самым горадзе я не быў. Там у нас ёсць чалавек, які выйшаў мне сказаць. А я павінен жа быў пайсці пашукаць сваю сям'ю? Ці я павінен забыцца на сваіх? А мой бацька сядзіць у астрозе ці не?

— У гэтых самых Падолішчах сёння зранку палякі фурманкі бралі,— коні знайшлі ў кустах і бралі, колькі ім трэба было. Мужчыны паехалі ў фурманкі... А тата як, дзядзька Леапольд?

— Ого, ён учора на варце з вінтоўкаю стаяў на выхадзе з лесу пад гасцінец. Блізка адгэтуль...

— Што гэта зноў шумней на гасцінцы стала?

— Дык што сказаць дзядзьку Леапольду?

— Скажы, што здаровы ўсе, што чакаем; каб хутчэй вольна дадому вярнуўся. А Антусь далёка дзе?

— Яны недзе далей. Я яго даўно не бачыў... Бывай, Марылька...

Ён кінуўся бегчы балотам, там, дзе бег у лес у тую ноч, калі ўцёк з астрога.

Ён ужо быў на ўзлеску, ужо некалькі дрэў чарнелі на шэрані неба перад рэдкімі кустамі, як залапаталі коннікі полем паўз гасцінец. Ён шпарка шмыгануў у лес і пабег туды, дзе былі ўсе. Ён там мала каго застаў — атрад разбіўся на тры часткі і разышоўся ахоўваць вёскі. Палякі шпарылі цяпер ужо часта і не спыняліся надоўга. Некалькі разоў чуваць было, як раўнула некалькі палявых гармат — фронт быў ужо блізка. Рыгор Чуйка з апошнім аддзелам атрада рушыў пад Падолішчы. Не даходзячы за кіламетр які да гасцінца, на якім была вёска, яны асталіся ў ядлаўцовых кустах: пакуль што паўз вёску толькі праехаў аддзел польскай конніцы, не спыніўшыся там. У тых жа выганных кустах, дзе асталяваліся цяпер людзі з лесу, былі і падалішчанскія коні, ля рэчкі, у алешніку.

Некалькі мужчын і жанок вартавалі іх. Яны перабраліся сюды пасля мінулай раніцы з іншага месца.

Дзень нахапіўся неўзаметку.

Над лесам цвіло неба, а вартавы прыбег з-пад лесу: ці не падказаў хто, бо скрозь паўз лес чэша на ўвесь ход пэўна з дваццаць коннікаў і кіруюцца адрэзаць гэтыя кусты ад лесу. У адзін момант людзі нарыхтаваліся. Коней спусцілі ад куль уніз з абрывістага берага да самай рэчкі, вартавыя асталіся там жа. Неўзабаве давялося спаткаць коннікаў: ім хтосьці выразна падказаў, дзе хаваюцца коні, і яны проста туды шпарылі. Партызаны прымусілі іх паадацца назад, але яны адразу з новай сілай пачалі насядаць: пачуўшы страляніну, да іх з вёскі рушыла больш сілы. Партызаны ляжалі скрозь паўз рэчку, пад аховаю высокага, узгоркаватага берага. Іх быў доўгі ланцуг, яны занялі ўвесь прагалак, дзе вяскоўцы пераводзілі коні на той бок рэчкі і адтуль у лог, у кусты, далей ад навалы. А там да лесу недалёка было.

Палякі перарэзалі надвае ланцуг партызанаў. Партызаны цяпер пачалі адыходзіць у лес, меншая частка скрозь кустамі паўз рэчку да вёскі, іншая рада не служыла. Там, не даходзячы да вёскі, можна было выбрацца балотнымі зараснікамі на ўзгоркавае поле.

Рыгор Чуйка быў акрай усіх. Калі ўсе пайшлі рачным пераходам, задніх некалькі чалавек не паспела. Ім давялося шпарчэй ратавацца ў бок вёскі, пакуль тыя перабіраліся на той бок рэчкі. Чуйка дабег першы нізкімі кустамі да крайняй хаты. На вуліцы як быццам было ціха. Чуйка выбраўся на агароды, пад віншякі, дзе быў уночы. Абы прайсці ціхом да таго канца, там льга будзе падацца зноў да лесу.

Нідзе ўжо больш не стралялі — партызаны, відаць, зрабіўшы сваё, адышлі. Раптам, ужо можна сказаць, на канцы вуліцы, гукнулі:

— Ходзь тутэй!

Чуйка ўбачыў: на падворку паляк трымаў сялянскага каня і клікаў яго. Палякаў было двух, другі намерыўся страляць у Чуйку. Уцякаць пакуль што можна было толькі ў чыстае поле. Чуйку іншая рада не служыла, як пайсці ў двор. Ён быў абарваны; бегучы сюды, ён стрэльбу сунуў у знаёмы куст чароту ля рэчкі; шапкі на галаве яго не было — сялянскі, значыцца, хлапец, недаростак, што выбег толькі што аднекуль з пуні ці з гары злез, дзе пераседжваў страх перад чужым войскам.

Ён зразумеў, што на яго крычалі: дзе драбіны, у якія запрэгчы каня. Карабінавая руля сачыла за кожным яго-ным рухам. Ён глянуў навокал сябе, убачыў на прыгуменні крытую павець і паказаў рукою туды.— Эй-эй! — і пальцам загадалі яму рушыць сюды і самому адчыніць павець. Ён гэта зрабіў. Сапраўды там стаялі драбіны. Яму закамандавалі запрагаць. Ён запрог у незнаёмыя драбіны незнаёмага каня. Малады гаспадар клапаціўся ў чужым двары і нават у чужой вёсцы. Яму загадалі садзіцца за фурмана і везці іх, гэтых двух вайскоўцаў. Сэрца яго раптам яшчэ больш закалацілася, як у злоўленай птушкі. Ён сеў у перадок. Жаўнеры вылаялі яго за штосьці, і ён пагнаў каня. Яму паказалі ехаць проста на гасцінец. У тым месцы, дзе направа ад гасцінца бачыў ён попелішча роднай вёскі, а налева новенькі Сурвілаў хутар ля хвойніку з Гушкавай хатай, ён дагнаў невялікі абоз сялянскіх фурманак. Сяляне таксама везлі патомленых вайскоўцаў: нейкая растрыбушаная часць старалася, відаць, хутчэй выбрацца ў тыл. Абоз пагналі шпарка. Неўзабаве мінулі гарадок — адно праскочылі праз яго.

Ужо ад'ехаўшы ад гарадка кіламетраў з трыццаць, убачылі, што тут пакуль што яшчэ спакайней і цішэй. Гадзіну адпачывалі коні, а два вайскоўцы пільнавалі, каб фурманшчыкі не павярнулі назад. Не пусцілі нікога. Пакутуючы ад горкіх думак, думаючы толькі пра тое, дзе б і калі неўзаметку скаціцца з фурманкі і астацца на дарозе, пакуль не загналі дзе далёка, Рыгор Чуйка расказаў старому фурманшчыку ўсё пра сябе. Той зашаптаў яму:

— Пакуль ты, сынку, не ўцёк, табе трэба старацца прыдумаць сабе другое імя: цябе ж, напэўна, і цяпер яшчэ шукаюць, пасля таго як ты ўцёк з астрога. Памажы табе божа, сынку. Старайся ўночы ратавацца як. Табе трэба старацца. Табе горш, як нам усім,— мы пагаруем, калі не паўцякаем па адным як-небудзь, дык будзе ж недзе месца, адкуль вернемся. Бальшавікоў, кажуць, вялікая сіла ідзе. Бач, як паны драпанулі... Дык ты кажаш, што і твой бацька гэтаксама сядзіць недзе, небарака? Ай-ай, ратуйся, сынку, раней за нас. А пакуль тут — дык лепш забудзься на сваё імя. Ратуйся! Чакай ночы. Ратуйся!

### 6. Зламаны чалавек

Адно два ці тры разы раўнулі дзесьці палявыя гарматы, ніякіх вайсковых сутычак тут не было. У гэтых мясцовасцях вораг адно стараўся як мага хутчэй выбрацца.

Жаўнеры смалілі гасцінцам, ачышчалі мясцовасць гэтак шпарка, што апошняя часць не магла ўжо больш затрымлівацца тут доўга.

І от адным днём сонца ўзышло над ціхай мясцовасцю. Партызаны трымаліся на ўзлесках, рыхтаваліся ўжо варочацца ў вёскі. Людзі з першай жа хвіліны пакіравалі свае думкі да нераспелага жыта, адразу выйшлі жаць, збываючы сваю трывогу.

Марылька пакінула свайго хлапчука на дагляд старой маці і сама пайшла жаць. Нават і старая пабедавала, што нездароўе яе мучыць, ды і дзіцянё няма на каго пакінуць — а то б і яна сама не сядзела дома рукі склаўшы.

Яшчэ ўчора ў позні вечар заблыталіся нейк у гэтую хаціну двое, мусіць, апошніх, польскіх жаўнераў.

— Матка, млека! — гукнуў адзін да старой, страшна трасучыся, каб хутчэй атрымаць, што яму трэба было, і рушыць: цяпер ужо боязна было аставацца тут доўга.

— Няма,— развяла рукамі старая.

Жаўнеры не паверылі. Яны пачалі пераварочваць у хаце ўсё. Сапраўды, тут нічога не было. Быў толькі акраец хлеба. Яны забралі яго, пасля выпаралі яшчэ некалькі яек, забралі з седала ў сенцах курыцу і як бачыш зніклі, замахнуўшыся на старую прыкладам, упэўненыя, што яна не захацела ім даць сама больш чаго і пахавала ўсё.

Цяпер у хаце ўжо, можна сказаць, нічога не было. Калі Марылька выбіралася жаць зранку, дык не мела ўзяць нават з сабою крошкі хлеба, і пайшла так, спадзеючыся на тое, што дастане ў людзей. А тут старая павінна будзе таксама ў людзей дастаць на дзень, а там трэба будзе высушыць колькі снапоў жыта на печы, акалаціць, змалоць у жорнах, і гэтакім парадкам будзе хлеб. Старая і пайшла з дзіцём на залесныя хутары па хлеб — дзе была свая вёска, адно попел і галавешкі ляжалі. Яна, пакуль прайшла гэты кавалак дарогі, стамілася. А тут яшчэ не ела нічога, а тут яшчэ дзіця пара была карміць. І яна, пакуль вярнулася назад з акрайцам хлеба, зусім ужо аслабела. Ледзьве села яна на парог і глядзела, як хлапчук хапіўся за хлеб і глытаў яго, ледзьве пераважоўваючы.

— Еш, мой унучак, еш,— гаварыла ўсё старая, стараючыся пачакаць колькі хвілін, каб аддыхацца і самой ісці. Цяпер яна чакала дадому Леапольда і Антуся. А можа, і Адась неўзабаве вернецца, можа, гэтая вайна на гэтым скончыцца?

Яна была дома адна да позняй раніцы, наглядаючы за дзіцем, гледзячы на невялікі акраец хлеба на стале, думаючы пра Марыльку — як яна там жне галодная, ці ўдалося ёй дастаць у людзей хлеба? А людзі ж найбольш цяпер і самі не маюць — свае людзі пагалелі, пагінула ўсё ў іх. Яна, седзячы ў хаце, не бачыла, што на гасцінцы пачаўся новы рух. Таксама не бачыла, як перад гэтым скрозь хвойнікам ціха прайшлі рэдкім ланцугом чырвонаармейцы. Яны занялі мясцовасць без аніводнага стрэлу, белапалякі былі ўжо няйначай па той бок гарадка.

Прайшло яшчэ, можа, з гадзіну. Цяпер ужо проста ішлі гасцінцам і дарогамі блізка яго чырвонаармейскія роты. І от утрох забеглі ў гэтую хаціну. Яны былі ў растаптаных дашчэнту чаравіках, на адным ледзьве трымалася рубашка — гэтакая яна была парваная. Бялізна на іх была чорная, як зямля, твары былі прыпухлыя ад бессані, змучаныя самі яны былі, змардаваныя, ледзьве маглі вытрымаць, каб не заснуць тут жа адразу, як толькі паселі на лаву.

— Мамаша, покушать нет ли чего? — сказаў адзін.

— Няма нічога, а ні-ні, галубок.

— Ну, хлебца?

— От гэта ўсяго што на стале.

— Да как же?

— От гэтак жа, як я вам гавару, галубкі.

Чырвонаармейцы пераглянуліся паміж сабою. Пасля стаялі і маўчалі. Тады жанчына падышла да стала, узяла ў рукі акраец, падняла над сталом і выцяла ім аб край стала. Акраец разламаўся на роўныя дзве часткі там, дзе быў раней надрэзаны. Гэта былі не часткі, а ўсяго частачкі — гэтакія малыя кавалкі выйшлі. Адзін кавалак яна паклала на стол, а другі дала чырвонаармейцам. Глытаючы яго тут жа, яны рушылі з хаты. Адзін на парозе яшчэ азірнуўся:

— Чего-нибудь еще поищи, мамаша.

— Чаго я вам, галубкі, паішчу, божа мой,— абазвалася жанчына, ні то ўзрушаная тым, што ёй як бы не верацъ, ні то тым, што на стале асталося хлеба вельмі мала.

Чырвонаармейцы подбегам пайшлі далей, па гасцінец. Там ужо чулася чырвонаармейская песня. Жанчына ўзяла з стала хлеб, пакруціла яго ў руках, пасля адламала на нюх табакі, паклала ў рот, паволі перажоўваючы, і дума-

ла, што рабіць з гэтай рэштаю: ці яе есці, ці глядзець на яе.

— Бабуня, есці, дай хлеба,— працягнуў рукі малы.

Старая аддала яму частку гэтага хлеба, сама яшчэ ўзяла ў рот крыху, а рэшту паклала на паліцу і накрыла гаршком. Яна глянула ў акно — можа, Леапольд ідзе з Антусём?

— Божа мой, божа, дзе яны падзеліся? А можа, іх пабілі дзе, а можа, куды далёка пазаганяла іх гэтая вайна?

Нейкі роспач найшоў на яе. Яна глядзела, як малы даядаў хлеб, глянула яшчэ раз на паліцу — што з тым хлебам рабіць, ці яго есці, ці глядзець на яго.

— Як гэта там гэтая небарака Марылька? Можа, ёй занесці на поле гэты хлеб?.. Што мне рабіць, а божа мой, божа.

Яна стаяла пасярод хаты, адчуваючы, як няма ў яе сілы, растрачанай за жыццё.

З акна былі відаць кучы камення на ўзлеску, ля поля, на іх ужо вецер пананосіў пылу, месцамі мох знайшоў тут сабе цвёрдае аселішча.

З нейкай злосцю яна цяпер пачынала гаварыць:

— Ваююць, б'юцца, душаць адзін другога. Кожны да сябе грабе, каб другому не даць... Гэтыя на тых ідуць, а тыя на гэтых... Душацца, мучацца, льюць гэтую кроў, гэтыя слёзы! І ўсё ім мала. Нечага каб пасціналі ўсім галовы, усім людзям, дык няхай бы сабе тады самі з сабою...

Яна сціснула рукамі скроні і заплакала.

## 7. Ура! Ура! Віват!

Шмат сялян выйшла з лесу. Яны былі ўсе з вінтоўкамі, босыя, у лапцях, у растаптаных ботах. Яны накіроўваліся да гасцінца, перад імі ехалі тры вайсковыя польскія фурманкі. Дайшоўшы да гасцінца, яны прыпыніліся, кідаліся на зямлю. Сядзелі, моцна гаварылі. Чакалі яны не доўга: неўзабаве выйшла на гасцінец з-за ўзгорка новая рота чырвонаармейцаў. Чырвоная Армія цяпер ішла і ішла.

— Таварышы!.. Таварышы! — загукаў адзін з сялян, узнімаючы руку ўгару.

Камандзір даў каманду спыніцца. Чырвонаармейцы

пакідаліся на траву пад бярозамі, паабапал шырокай дарогі.

— Таварышы,— загаварыў высокі чалавек з натоўпу сялян.— Гэта вам мы сюды прывезлі, вы сабе, таварыш камандзір, распараджэнне дайце, няхай хлопцы разбяруць...

Ён паказваў рукою на тры фурманкі.

— Тут хлеба поўна. Мы адбілі хвост польскага абозу, тры гэтыя фурманкі. Ах, пярэднія паўцякалі, што ты зробіш!

Ён адкрыў брызент на адной фурманцы. Камандзір зразумеў, усміхнуўся, падбег да высокага чалавека, схапіў яго за руку і пачаў трэсці. Чалавек таксама трос камандзіравы рукі і ўсміхаўся.

— Гэта яшчэ, таварышы, учора звечара. Як тут гэты абоз блудзіў, мы такі адразу падумалі: харчы няйначай імчыць аднекуль...

— Бач, як наш Леапольд рапартуе,— сказаў хтосьці з хлопцаў, даючы чырвонаармейцу закурыць.

Неўзабаве тры фурманкі зліліся з чырвонаармейскаю ротай. Чырвонаармейцы з гадзіну адпачывалі, пасля рушылі далей гасцінцам на захад. Сяляне ішлі побач з імі паўз дарогі, і па адным разыходзіліся гэтак кожны ў свой бок, зварочвалі з гасцінца. Шмат мужчын звярнулі на папелішча насупроць хвойніку. Леапольд Гушка разгаварыўся з камандзірам, пакуль не трэба было яму звярнуць з дарогі. Ён развітаўся з камандзірам за руку, пасля зняў шапку, махнуў ёю ў паветры ўсім чырвонаармейцам, гукнуў «ура». Шмат чырвонаармейцаў адказала. Адказаў і камандзір і памахаў яму рукою. Ужо ідучы палявою дарогаю, Леапольд Гушка яшчэ глянуў, як аддалялася на гасцінцы рота, і яшчэ раз зняў шапку, яшчэ раз махнуў ёю, гукнуўшы:

— Ура! Віват!

Пасля шпарка закрочыў да сваёй хаты.

— Старая, жыва? — загаварыў ён і адразу напоўніў хату моцным сваім голасам.— Антуся яшчэ няма? Ну дык зараз будзе. Чаго ты плачаш, маці, чаго ты? Цяпер плакаць? Эх ты, маці. От я перакусіў бы чаго. А, няма нічога? Дык будзе. Ну давай, будзем чакаць Антуся. Эх, мы нядаўна пачаставалі добра чырвонаармейцаў! А Марылька жне? Ведаеш што, пайду і я. Замыкай хату, пойдзем разам туды... А не — запалі ў печы, от я табе запалю, а ты глядзі. Я пайду на Марыльчына поле. Прынясу сна-

поў, у печы насушым, заўтра змялю ў жорнах — от табе і хлеб будзе. Ну, я пайшоў.

Ён некалькі разоў за кароткі час справіўся з вязкаю снапоў і пачаў клапаціцца каля хаты.

— Што гэта Антуся няма? — клапацілася старая.

— Няма? Зараз будзе, калі няма. Што ж, далёка яны зайшлі.

Назаўтра да паўдня ён ужо накруціў у жорнах мукі на хлеб.

— Пячы, старая, хлеб.

А пасля выбраўся ісці памагаць Марыльцы жаць. Стоячы акрай дарогі, ён прапусціў паўз сябе чырвонаармейскую часць, пасля пайшоў упоперак цераз дарогу, дзе відаць было попелішча, а за ім жанцы на жыце. Раптам ён заўважыў наперадзе на гасцінцы каня ў рыштку — конь ляжаў і згрызаў перад сабою траву. Гушка падышоў і агледзеў каня. Конь быў цэлы, але гэтакі змораны дарогаю, што ісці далей ніяк не мог, і нейкая, відаць, часць, спяшаючыся наперад, пакінула яго тут, спадзеючыся, што яго тут адхаюць і ён яшчэ паваюе — дзе ён дзенецца. Леапольд Гушка сяк-так узвалок каня на ногі і павёў дадому. Конь аж хістануўся, небарака, у бакі, гэтак ён быў здарожаны. Фурманка ля каня была разламаная ўшчэнт, толькі адно кола Гушка мог выбраць. Ён яго і панёс на плячах.

Дома ён пачаў даглядаць каня. Паставіў яго ў хляўчук, укасіў яму травы і некалькі разоў уночы ўставаў глядзець яго.

У той дзень, як знайшоў ён гэтага каня, увечары прыйшоў Антусь — абарваны, з вінтоўкай на перавязі. З ім прыйшоў незнаёмы тут у хаце яго таварыш.

Пасля першага радаснага прывітання Антусь сказаў:

— Я ненадоўга. Мы з ім,— кіўнуў на таварыша,— заўтра зранку выходзім у горад. У армію там падавацца будзем.

— А можа, абыдзецца як, сыночак,— схіліла галаву маці.

Але ўжо з наступных хвілін яна, бачачы, што Антусь усё адно пойдзе, пачала думаць, што б яму прыбраць на дарогу.

Назаўтра зранку старыя правялі Антуся з кіламетр у кірунку да гарадка.

Гушка з тых дзён пачаў дзень пры дні хадзіць з Марылькаю жаць жыта. З поля відаць быў гасцінец. Цяпер

рух на ім рабіўся меншы, ехалі толькі сягды-тагды абозы, найбольш з сялянскіх фурманак.

Леапольд Гушка даглядаў увесь час знойдзенага каня. Праз тыдзень конь папрутчэў. А на другі тыдзень на ім ужо як мае быць ехаць льга было.

Раз на гасцінцы зменьваўся сялянскі, змардаваны вялікай дарогай абоз. Везлі скрынкі з набоямі. Чырвонаармейцы хадзілі па блізкіх вёсках і збіралі фурманкі. Адзін зайшоў да Гушкі ў хату.

— Добра, зараз,— сказаў адно Леапольд.

Ён пайшоў на падворак, выцягнуў з-пад струхлелай павеці драбіны, падмазаў колы, пайшоў на хутарскую сенажаць за ляском, набраў адтуль на дарогу скошанага сена.

— Не бяры, бацька, многа,— сказаў чырвонаармеец,— мы па дарозе даставаць будзем.

— А пэўна ж,— адказаў Леапольд,— рыхтуючыся ў дарогу.

— Дарога, мусіць, будзе вялікая,— сказаў ён старой.— Глядзіце з Марылькаю яе ўраджаю. Пакуль што якое, дык і я вярнуся, тады будзем гатаваць сяўбу жыта на Марыльчыным полі. Дастаньце дзе-небудзь у людзей каня звезці жыта. Да ярыны я сам думаю прыехаць. А можа, нават і хутчэй вярнуся. Будзьце вясёлыя. Ты заўсёды была ў мяне маладзец, мацi. Бывайце.

Ён пацалаваў Марыльку. Старая паклала яму рукі на плечы.

— Бач, як выйшла,— сказаў ён.— Пан з усімі нашчадкамі сваімі згінуў адсюль. І Сурвілу як мятлой змяло. Бывай, маці. Чуеш, на гасцінцы чырвонаармейцы спяваюць. Ура, маці. Віват!

— Мне заўсёды з табою было добра і весела,— сказала старая.— Варочайся хутчэй.

— Садзіся, таварыш, на воз,— сказаў Леапольд да чырвонаармейца.— Давай будзем выязджаць на дарогу.

Марылька і маці правялі іх да крайніх хвояў. Неўзабаве яны замкнулі хату і пайшлі на поле.

Праз некаторы час фурманка Леапольда Гушкі стаяла на гасцінцы ў шэрагу доўгага сялянскага абозу. Леапольд пераклаў з ранейшай фурманкі на сваю скрынку з набоямі. Праз гадзіны тры новы абоз выехаў гасцінцам ужо на той бок гарадка.

# ЧАЦВЁРТАЯ ЧАСТКА

## 1. Жыві як хочаш

Тады, калі верныя сыны Жэчы Паспалітай ужо звыкліся з радасцю аб уваскрошанні бацькаўшчыны сваёй, калі ўжо гэтая іхняя айчына як мае быць улягавалася па маёнтках і фальварках, калі ўжо толькі ўспаміны асталіся аб страшным бальшавіцкім маршы пад Варшаву, а над гарадамі і гарадкамі патрэсаўся ад ветру на сцягах бялы ожал і абуджваў магнацкія мары аб Дняпры, на ўсходняй ускраіне гэтай маладой дзяржавы от што было.

Бітым гасцінцам ішло двое людзей. Паабапал дарогі густа стаялі вёскі, значыцца, дарога была вельмі выгодная старцам і ўсім бяздомным вандроўцам. На гэтых вандроўцаў або на старцоў і былі падобны гэтыя два мужчыны. Адзін быў зусім стары, гэтакі стары, што, здаецца, мала што бачыў навокал сябе. Прынамсі, ён часта пытаўся свайго спадарожніка:

— Што гэта, Сымоне, чалавек унь стаіць ці гэта бяроза гэтак убок адскочыла ад гасцінца?

Або:

— Гэта едзе унь хто ці кусты?

Барада была ў яго нізка, няроўна выстрыжана — чалавек, відаць, не любіў насіць барады. Адзеты ён быў у нейкіх трантах, апіраўся на кій, адно што не было торбы ў яго цераз плечы. Другі, яго таварыш, быў маладзейшы, вышэйшы ад яго ростам, ішоў без кія і не быў у лапцях, як яго стары спадарожнік, а ў вылатаных юхтовых ботах. Транты на ім былі крыху зграбнейшыя.

Быў дзень халодны — позняя восень. Хмурна было, суха, дзьмуў вецер. З мёрзлай зямлі ўзнімаўся пякучы пыл і калоў твар, як іголкамі. Часта да пылу дамешваліся сухія крупы снегавых хмар, тады стары небарака аж стагнаў, перастаўляючы ногі, але ішоў, не паддаваўся, быў, відаць, вельмі цягавіты і да ўсяго звыклы.

— Ці далёка! Га, Сымон?

— От яшчэ крыху. Вежаў не відаць яшчэ.

— То, можа, яшчэ вельмі далёка? Нічога я не бачу, пазнаць месца не магу.

— Не,— пацяшаў яго таварыш,— з трэцяга ўзгорка павінна ўжо быць відна ратуша.

Яны абодва ішлі як нехаця. Адно добра было, што скавыш біў ім у плечы, а не ў твар.

Поле ўсё было шэрае ад мёрзлай зямлі і рухавае ад ветру і снегавых круп.

Двое міналі вёскі, хутаркі, паглядалі ўсё наперад, як бы чакалі там чагосьці такога, што адразу паможа ім забыцца на такую нялюдскую дарогу. Скрозь, паабапал дарогі, упоперак да яе, ішлі палосы поля, вузкія, як грады, і доўгія, як сама гэтая дарога. На частых межах шастаў пад ветрам быльнёг, на гарбах загонаў тырчала незазябленае ржышча, часамі гаспадар, відаць было, пачаў быў зябліць, але чамусьці не скончыў — так і пярэсціліся даўжэзныя істужкі запалавелай раллі то там, то сям.

Жытняя рунь часамі была ля дарогі. Вецер паразганяў па ёй салому, што гаспадары пацярусілі кожны на сваім загоне, каб паказаць, што тут пасеяна і што тут ужо нельга пераганяць быдла. А некаторы гаспадар дык старанна выцерусіў з саломы крыж — хай, значыцца, пан бог паможа чалавеку гараваць з гэтым загонам, з гэтым шчуплым насеннем, з гэтым канём, з гэтай драўлянаю бараною...

А тут от была і жывёла гэтая: дзе-нідзе па ўмерзлай руні хадзілі дробныя каровы, выхвастаныя за лета сурамцам коні — дробнае стварэнне, нявольніцкія нявольнікі.

— Нешта ж канца няма дарозе,— абазваўся стары.— Га, Сымон?

— Канца няма? Будзе канец. Так жа не будзе. Унь за тым узгоркам, здаецца, павінна пайсці панскае поле, а там і ратуша бліснe перад вачыма.

— Ой, ды здаецца ж, раней не было ў гэтай старане гэтакіх дробных загонаў! От народ расплaдзіўся.

— Ну пэўна.

Але Сымон адказваў нехаця. Вельмі можа быць, што ён нават злаваў крыху на свайго старэйшага спадарожніка, бо той, ведама, зусім стары, ледзьве перастаўляў ногі, а Сымон — ці не мог гэта ён перамагчы сваю змардаванасць гэтак, што ў дзве столькі паддаць ходу? Прынамсі, ён ішоў увесь час на крокаў тры ўперад за старога, а часамі і на крокаў дзесяць выпярэджваў, дык тады спыняўся і чакаў, пакуль той падклыбае пад яго.

— Позна ўжо, ці што? Га, Сымон?

— От, можа, цераз паўдня.

— Прыгледзься, гэта не ратуша відна? Га?

— Не яшчэ.

— А можа, калі ў гарадок і ўвайсці не давядзецца?

— Чаму?

— Як-то чаму! А можа ж, ён па той бок мяжы?

— Не, ён па гэты бок мяжы. Колькі ж людзі папагаварылі табе, а ты ўсё адно чаўпеш.

— То вёска наша па той бок.

— От гэта дык будзем бачыць... Хто яго ведае... Можа, і на той.

— А божа мой, божа. Дзе ж тады я прытулюся?

Цяпер стары раптам паддаў ходу. Застукаў кіем па мёрзлай зямлі, дробна закалываў плячыма.

— От так, от гэтак,— падбадзёрыў яго Сымон, але ўжо хвілін праз пяць стары ішоў зноў гэтак, як і раней. Зноў ён глядзеў адно сабе пад ногі, тады як ягоны спадарожнік не прапускаў вокам ніводнага дрэва навокал, ніводнага ўзгорка.

А от і панскае поле, добра ўбаранаваны палетак, і на ім добра паўзыходзіла жыта.

— Унь, стары, відна ратуша.

— Дзе, дзе, ага! Дык ніякае мяжы, Сымоне, не відаць?

Сымон не адказаў.

— А, цяпер я пазнаю. Гэта ж унь двор нашага пана.

— Але.

— Ага, от як. Шпарчэй хадзем. У гарадку спыняцца не будзем; гэта ж зараз наша вёска!

Стары зноў на хвілін пяць шпарчэй ірвануўся.

Як увайшлі яны ў горад, як прайшлі першую драўляную вулічку, прыселі ля трухлявага дамка, нізкага, крывога, да якога была прыбудавана доўгая стадола. Неўзабаве адчыніліся ў стадоле дзверы, і адтуль выехала некалькі басялянскіх фурманак. Пасля загрукаў калясьмі адтуль бягольскі воз. Сымон глянуў у стадолу. У прасторнай цемені ўбачыў ён старога яўрэя. Ён падграбаў каліва сена, што асталося пасля фурманак. Убачыўшы ў варотах чалавека, ён пачаў прыглядацца.

— Ага-а-а, гэта Чуйка Сымон?

— Што ты, не пазнаеш мяне, ці што?

— Хто гэта мог думаць, што ты на свеце жывы яшчэ.

— Я і сам не ведаю, ці жывы я, ці...

— Ай-яй-яй, які ты зрабіўся. Ай-яй-яй.

— Зрабіўся. Бачыш жа.

— Дзе ж ты быў дагэтуль? Няўжо?..

Сымон бачыў, што стары гаспадар стадолы спалохаўся і баязліва зірнуў з-за вушака на вуліцу:

— Увайдзі, Сымон, у сярэдзіну, а то калі сабака ўбачыць які, дык тады будзе мне цераз цябе капут... Бо ты ж...

— Бо я ж... Не бойся, я адседзеў і адрабіў сваё. Цяпер мяне выпусцілі з турмы. Ці дрэнны з мяне быў заложнік, ці я за гэтулькі год адбыў сваю кару за свае злачынствы, што захацеў быў не аддаць пану тых коп трох жыта, што нажаў быў на скарбовым полі за рэвалюцыяй, але мяне зусім пусцілі з турмы. Пехатой іду.

— Зайдзі, зайдзі хутчэй, кажу табе, Сымон!

— Дык там на вуліцы яшчэ стары Няміра.

— Дык чаго ён сядзіць там! Гвалт! Гукай яго сюды! Вы згубіць мяне захацелі... Пасталі як на выстаўку перад маімі дзвярыма.

Дык і стары ўвайшоў у стадолу.

— Ты, Ёсель, скажы адно нам, дзе мяжа прайшла? Па які бок наша вёска?

— Ваша вёска? Сказаць праўду, дык яна і там і тут.

— Як гэта?

— Як, я табе кажу. Папалам пайшла вёска. Мяжа ідзе гэтак, як ідзе рэчка. Па рэчцы мяжа пайшла. Дык па той бок рэчкі — там, а па гэты — тут. Ой, колькі год ты не быў тут! Ты мо забыўся ўжо, дзе твая вёска? І ты гэта ўсё ў астрозе сядзеў? А дзе ж больш людзі, вас жа тады больш забралі?

— А от стары са мною прыйшоў. От табе і больш людзі.

— Што ты кажаш!

— Кажу. Рэшта то памерлі, то ўцякаць спрабавалі, дык іх — немаведама дзе пасля гэтага дзелі.

— Ай-ай-ай-ай... Мяжа па самай рэчцы. Па той бок рэчкі поплаў, а за поплавам кавалак вёскі там, а па гэты бок поплаў, і за ім кавалак вёскі тут... Я бо забыў, у якім канцы вашы хаты?

— У гэтым канцы.

Ды невядома, ці гэта стары Ёсель не ведаў нічога, ці так змоўчаў, але ўжо больш ён мала што гаварыў. А напэўна, дык гэта ён баяўся, каб не ўбачылі, што ў яго ў стадоле гэтакія госці.

— І ніякіх я вестак не меў ад сваіх. Дзе мой Рыгор, можа, ты ведаеш, Ёсель?

— Не, не ведаю. А, ён на лесапільні працуе. Раней працаваў.

— А цяпер?

— А цяпер, здаецца, не. (Ёсель шкадаваў Сымона, каб сказаць яму ўсё адразу.)

— А дзе мае? — запытаў нарэшце Няміра.

— Дзе твае? Твае — дык яны, сказаць табе, на тым

баку. У бальшавікоў яны. Павал твой там, жонка яго там. А што яны там робяць, як яны там жывуць — хіба я ведаю?

— А божа мой, божа, дык жа мне няма да каго варочацца. Адзін буду, як пень, у хаце.

Ён зусім абязглуздзеў, гэты стары. Ён сабе ўяўляў сваю хату гэтак, як была яна калісьці, адно што нікога ў ёй няма.

Цяпер ужо Есель найбольш маўчаў, відаць, ён стараўся, каб не ўкалоць навінамі сэрца гэтым людзям. Ён ім вынес з хаты паесці, яны гэта ўзялі з сабою і зараз жа заспяшаліся ў дарогу. Праз гарадок яны прайшлі вельмі павольна — усё прыглядаліся. Яны бачылі, як на ратушы тросся бялы ожал на сцягу, як паліцыянты стаялі на скрыжаваннях гэтых глухіх вулічак. На рынку стаяла крыху сялянскіх фурманак, яны ўдвух прыглядаліся — ці няма тут знаёмых. Нікога знаёмага не ўбачылі. Зазванілі ў касцёле, пасля ў другім.

— Раней жа тут не было другога касцёла,— сказаў сам сабе стары Няміра.— Ага, ці не кляштар гэта адчынілі... Ага, так яно, гэта ж адтуль звоняць. Глянь, Сымоне...

Стары перасіліў сваю змардаванасць: ён жа варочаўся пасля гэтулькіх год пакуты дадому! Яго ж хата недзе зусім блізка чакае яго! Ён хутка забыўся, што нікога ў ёй там няма і ён адзін там будзе. Ён проста як пачынаў дзяцінець у гэтыя хвіліны.

Яны ўдвух перайшлі ўпоперак сустрэчную вуліцу і ў блізкім канцы яе сапраўды ўбачылі, што стары будынак колішняга бернардынскага кляштара выбелены нанава, вапна закрыла абшарпаную цэглу.

— Хадзем хутчэй,— тузянуў старога Сымон Чуйка.

— Хадзем.

Яны паволі пайшлі з гарадка, але на трэцім кіламетры іх запыніў конны паліцыянт ці так нейкі вайсковец, яны нават добра і не пазналі. Яны ж ішлі на самую мяжу, і ён наглядзеў іхнія паперы. Тут ім стала вядома, што ім трэба вярнуцца назад, бо так яны не маюць права ісці ў прымежную вёску — трэба ў гарадку справіць паперы на гэта.

Гэтакім парадкам ім давялося некалькі тыдняў блытацца па гарадскіх вуліцах, прасіць ласкі ва ўсялякіх знаёмых і незнаёмых падпанкаў. Нарэшце старому далі права вярнуцца ў родную вёску, але Сымон Чуйка быў мала-

дзейшы, ён яшчэ цвёрда хадзіў, моцна гаварыў, дык яму далі права адно выправіць у сваю вёску старога Няміру аднаго. Чуйка кінуўся ў лесапільню шукаць свайго Рыгора. Няміра ў тую самую хвіліну, як атрымаў права быць у сваёй вёсцы, рушыў туды.

Дзень быў той хмурны, востры холад за гэтыя дні не зменшыўся. Стары хоць не адпачыў, пакуль дамагаўся папер, але ногі ягоныя адышлі, і ён нешта вельмі хутка пасля таго, як выйшаў з гарадка, убачыў перад сабою хвойнічак і крыху ўлева сваю вёску. Некалькі разоў у яго глядзелі паперы, ён ужо ўразумеў, што гэты хвойнічак, у якім калісьці была тая Гушкава хаціна, цяпер па той бок мяжы і там быць ужо няма як, значыцца, нельга бачыць ні Паўла, калі праўду Ёсель казаў, што ён астаўся ў бальшавікоў, ні Марылькі, ні сваяка Леапольда Гушкі...

А от і вёска; гэта кавалак, па гэты бок рэчкі. Паабапал рэчкі паплавы, а на рэчцы, дзе была калісьці грэбля і масток, нічога цяпер няма. Нічагуткі! Вада паўз берагі нават змыла і сляды колішняга мастка. Дарога зусім зарасла травою, і скрозь паўз рэчку стаіць вайсковая варта. Стары Няміра добра ўбачыў у тым месцы пагранічніка.

Гэта ўсё ён убачыў яшчэ з гасцінца. І цяпер толькі ўбачыў, што па гасцінцы ў яго пад нагамі мёрзлы трыпутнік і спарыш. Ніводнай каляіны! Ніхто тут не едзе. А куды ж ехаць? Ён цяпер як апрытомнеў — вочы нешта добра пачалі свяціць тут, у сваёй старане, ля сваёй вёскі.

Хмары сплывалі з неба, неба яснела, браўся большы мароз. Было яшчэ зусім рана, паўдня яшчэ не было. Вось і вуліца. Сэрца старога пачало калаціцца, як убачыў ён гэтую вуліцу. Ніводнай хаты не пазнаў. Дый хат тых было вельмі мала. Стары пазнаў, што хаты гэтыя як бы нядаўна людзі пабудавалі — яшчэ мох матляўся з пазоў на ветры, але дрэва найбольш было старое, відаць, людзі выпадкова пакуплялі будову і трухлявую пераносілі. Тры ці што хаты былі з новага дрэва, малыя хаты з малымі вокнамі. А чый дзе пляц, чыя хата? Цяжка было пазнаць старому. Бо паміж хат паўрасталі зеллем печышчы — лебяда і верас сохлі на марозе. Што ж гэта? Стары як бы варочаўся да страчанай у думках сапраўднасці. Мала што чуў ён ад людзей некаторага году, што вёска была тады спалена, але ж ён прывык за век свой да бягучасці жыцця. Вёска спалена была, але людзі зноў зменяць твар попелішча, зноў жа неяк пааасталёўваюцца. І думкі пра спаленую вёску тады ў яго не вельмі доўга трымаліся ў галаве. Гэтаму

яшчэ спрыяла і тое, што самому пра сябе яму трэба было думаць, як не прапасці ў гэтакай бядзе, у гэтакай астрожнай пакуце. Цяпер ён стаяў у канцы ціхай вуліцы, не ведаючы, куды падацца. Ён палічыў хаты і попелішчы ад самага канца вуліцы і чацвёртае пазнаў сваё. Раскіданая печ зусім была размыта дажджамі, усё пазарастала і адзічала.

Як аслупянелы, стары доўга стаяў на адным месцы, пакуль стаў заўважаць адзнакі таго, што жыццё бяжыць. Цяпер ён заўважаў сляды гэтай бягучасці.

Трэба было кінуць вокам крыху далей ад гэтых хацін. Там, дзе на разлегласці раней яшчэ быў рассеўся Мазавецкі з сваім новым хутарам, цяпер быў проста-такі цэлы фальварак. Стары Няміра спачатку, пакуль здагадаўся, аж не пазнаваў нават мясцовасці з-за гэтага. А пасля ўжо, як памеркаваў і здагадаўся, да яго пачала варочацца ясная думка пра ўсё і кемлівасць. Ці Мазавецкі забагацеў гэта яшчэ больш, ці панок які асталяваўся на гэтым хутары? Да ранейшага новага Мазавецкага дамка быў прыбудаваны яшчэ адзін, большы за той, ранейшы. Навокал дома скрозь стаялі будовы, нейкая хата ля стайні, ну проста-такі і няйначай, афіцына парабкам.

Там, ля гэтай сялібы, быў вялікі кавалак поля як раскарбовага ўсё адно: без меж і загонаў. Там жа былі раней радавітыя сялянскія палосы, здаецца, нават і самога Няміры поле кратаў цяпер гэты польны абшар. За гэтым фальваркам будаваўся другі. Быў забудаваны ўжо, адно без агарожы яшчэ.

Стары Няміра адубеў, стоячы на скавышы, не бачачы людзей на пустой вуліцы. Недзе блізка, у пуні, чуў ён, шастала церніца, ён падаўся туды. Там яго спачатку не пазналі, пасля жанчына прыбянтэжылася, пазнаўшы яго,— гэтак усё ёй было нечакана. Хто думаў, што ён яшчэ жыве, гэты стары? Ён зайшоў у хату, назыходзіліся людзі яго распытваць, а ён ужо не мог расказаць усё пра сябе як мае быць. Барада яго дрыжала, рукі трэсліся, пакуль ён адбываў з колішняю суседняю сям'ёю полудзень. Яго ўсё цягнула пайсці зноў глянуць на попелішча сваёй хаты. Гэта ён зрабіў пасля таго, як адагрэўся ў хаце, хоць ламата ў касцях якраз тады і пачалася. З свайго попелішча ён бачыў цяпер па той бок блізкай мяжы каржакаваты хвойнік, другую палову вёскі, ля яе новы мост цераз рэчку, замарожаныя паплавы. Там недзе Павал, Марылька, Леапольд Гушка з сынамі. Усё гэтак блізка, хоць ты

вазьмі ды пайдзі туды. Нейкі ўздым апанаваў яго. Ён як пайшоў назад у хату, дзе быў кагадзе, разгаварыўся з людзьмі, пачаў, як умеў, расказваць, распытваць. Перасільваў ламату ў касцях і стараўся сядзець на лаве. Гэтак у хаце, ды і ўсе суседзі ўжо ведалі, што ўбачыў ён некалькі астрогаў за гэтыя гады.

Ён нават цяпер сам не ведаў, ці гэта ён усё чакаў суду над сабою, ці ўжо яго засудзілі. Як была яшчэ вайна, дык завезлі тады ўсіх арыштаваных у адмысловы лагер, а пасля вайны пайшлі яны па астрогах. Сам жа ён даведаўся, што нездарма ў Мазавецкага цяпер гэтакі фальварак — вёску пагналі на хутары. А тут як ты на той хутар пойдзеш, маючы адну палоску і трухлявую хату? Як ты гэтую хату перанясеш, каб яна цэлая была, і за што ты яе перанясеш? Ды і які там будзе хутар на адным загоне, на якім і так невядома што сеяць — не хапае месца, каб пасеяць усяго, што трэба сеяць гаспадару. Дык народ што робіць? Народ выпускае сваю зямлю ў арэнду, а сам ідзе куды на старану шукаць работы. А работы гэтай нідзе не чуваць нават. Дык, можна сказаць, усе пайшлі за парабкаў у панскія двары. А то яшчэ і гэтак: арандаваць зямлю папрыязджалі нетутэйшыя людзі. З сапраўднай Польшчы папрысылалі іх. Унь і той фальварак, што будуецца ля Мазавецкага фальварка, ведаў цяпер Няміра, належыць гэтакаму асадніку. Той хутар, што яму далі, ён размахнуў ва ўсе бакі, заарандаваўшы гэтакім парадкам навакольную сялянскую зямлю, а на зямлю гэтую наняў парабкаў. Гэтакім парадкам тутэйшыя людзі пайшлі за парабкаў рабіць на сваёй уласнай зямлі. Гэта ні тое, што багацейшыя, хоць сабе і тутэйшыя людзі. Тыя дык могуць пайсці на хутар і там не гараваць. Гэтакі — дык яшчэ і прыдбаць больш можа. А от тут гэтыя хаты яшчэ ўсё чакаюць, немаведама што ім рабіць. На вясну таксама, мусіць, давядзецца ў парабкі падавацца. А некаторыя нават пасля таго, як калісьці ў вайну вёска згарэла, дык нават і не пазабудоўваліся — лес дораг, помачы ніякай, дык так і парассыпаліся па свеце немаведама куды за ўвесь гэты час...

Няміра, нарэшце, стаміўся слухаць. Ён папрасіў, каб яму паслалі дзе. Гэтак ён перабыў, перастагнаў некалькі дзён у гэтай хаце, пасля перайшоў да іншага суседа. А пасля яшчэ да аднаго... І гэтак ён перабыў ва ўсіх вяскоўцаў. Нарэшце перайшоў у суседнюю вёску, жывячыся паміж людзей. Пасля падаўся яшчэ далей, страшна нудзячы па

сваім попелішчы, па сваім Паўлу, па сваіх блізкіх. Праз некаторы час ён не вытрымаў і пайшоў у той бок, дзе за рэчкаю астаўся другі канец вёскі. Ён нават ужо нейк дайшоў амаль што не да самой драцяной загарадзі, як яго спынілі і пагналі назад. У гарадку ён сядзеў у новым, нядаўна збудаваным астрозе шмат нешта часу. Некалькі разоў яго дапытвалі, ён ужо ледзьве жыў, ледзьве гаварыў. Яго зноў варочалі ў астрог, і ён ужо як у непрытомнасці адно разглядаў людзей навокал сябе. І ці сапраўды ён нікога знаёмага не бачыў ці не пазнаваў. А пасля пачалі трапляцца яму знаёмыя. Першы — дык гэта Сурвільчык. Яго ён не пазнаў адразу (вядома, прайшла маладосць у чалавека), а пасля, як пазнаў, дзівіўся ўсё — ён жа ў другую рэвалюцыю пайшоў быў ваяваць зусім не за Польшчу, а за Расію, гэта стары цяпер успомніў. Памяць яго ўсё добра трымала ў сабе, не гэтак, як цяперашняе ўсё, што не магло ўжо надоўга і глыбока аставацца ў галаве; толькі сэрца ягонае не пакідала сціскацца ад нуды, бяды і гора. Сурвільчыка ён убачыў у жандарскай канцылярыі, адкуль выводзілі яго пасля допыту. Сурвільчык яго не пазнаў. Стары, можа, і пачаў бы прасіць яго, каб той памог яму што, але той вельмі шпарка прайшоў, адно нейкія жандарскія шнуры бліснулі на ім. Другога, каго Няміра пазнаў,— дык гэта быў сам Мазавецкі. Яго як войта выклікалі, каб ён пасведчыў, што гэта сапраўды чалавек з падуладнай яму вёскі. Той пазнаў Няміру адразу і пасведчыў. Няміра пачаў прасіць яго памагчы яму, і ён зрабіў ласку ў імя таго, што калісьці яны разам аралі зямлю ля адной вёскі, хоць адзін параконным плугам, а другі нейкай ламачынаю,— ён распісаўся, што Няміра заўсёды жыў у гэтай самай вёсцы, пакуль не забралі былі яго той раз.

Пасля гэтага Няміра яшчэ шмат сядзеў, пасля, убачыўшы, што стары, напэўна, доўга не пажыве на свеце, выпусцілі, і ён распісаўся, як умеў, што далей гарадка ў бок дзяржаўнай мяжы ніколі не пойдзе. А на цэлы год не мае права нават і з гарадка нікуды рушыць. Гэтакім парадкам неўзабаве людзі пачалі заўважаць ля касцельных, кляштарных і царкоўных дзвярэй, у старэчым натоўпе, новага жабрака. Ён быў зусім сівы, стаяў заўсёды нейк няспрытна, крыху наводдалек ад усіх сваіх таварышаў, не маліўся, не спяваў нічога, а моўчкі трымаў працягненую руку. Зачырваненыя і мокрыя вочы яго глядзелі ў зямлю, а сівая галава трэслася. У кірмашныя дні ён хадзіў па рынкачным пляцы паміж вазоў, і знаёмыя сяляне не давалі яму памерці з голаду.

## 2. Маладога Чуйкі няма на лесапільні

Не сказаць, каб Сымона Чуйку вельмі аглушыла навіна, што ягонага Рыгора няма на лесапільні ўжо, можа, больш за тры гады. Чалавек звыкся з гэтакай справай, што ніколі не выходзіць яму гэтак, як добра. Апроч таго, ён як бы да гэтага падрыхтаваны тым, што бачыў навокал сябе. Шмат зямлі ён бачыў пабітай на хутары, шмат бачыў, як выраслі новыя фальваркі, а сялянскія загоны яшчэ больш падрабнелі. Асаднікі сядзелі на лепшых мясцінах, парабкі цягалі ярмо па панскіх дварах, змянялася ўсё, а разам з тым здавалася, што ўсё гэтакае спрадвечнае, улегаванае.

Ён бачыў, што колішняя там старая лесапільня стала большая, рабочых у ёй пабольшала, лесу яна пераводзіць больш, як калі раней. Лес скрозь паўз гарадок высякаецца, вывозіцца немаведама куды. Лесавыя высечкі ні новым лесам не засяюцца, ні пад поле не выробляюцца — хіба гэтак хапае людзям зямлі тут?

Паліцыянты, жандары стаяць у кожнай вёсцы, панскія стражнікі ездзяць па лесавых каморах, паплаўнічыя з бізунамі пазацiскалі ў сівец вясковыя паплавы і ў камяніцы і ў лагі сялянскія загоны. Вецер круціцца ў быльнягу на ўдзірванелых межах; натоўпы старцоў стаяць на касцельных цвінтарах.

Ён усё агледзеў, убачыў усё, пасля астрога, Сымон Чуйка. А ў вёску сваю ён так і не папаў, не мог нават глянуць на яе. Яму сказалі, што нічога ён там, што хацеў бы, не ўбачыць, нічога не знойдзе. Хлопец яго з лесапільні не пайшоў туды, ён гэта ведаў. А сям'я яго — недзе на тым баку мяжы, людзі ведалі гэта і сказалі яму. Як тады загналі яго былі разам з усімі кудысьці далёка ў астрогі і як мяжа пачала праходзіць, сям'я збаялася, што і за яе возьмуцца з-за яго. І яна падалася на той бок. А дзе яны там і што яны там робяць? А Рыгор яго так і прабыў польскім абознікам нешта вельмі доўга, ніяк нельга было яму выбрацца з самай гушчыні польскай арміі. А як вярнуўся ён дадому, попелішча ўжо зарасло травою, некаторыя людзі ўжо думалі, з чаго тут пачаць забудову; а нікога свайго тут ён ужо не знайшоў. Можа, ён тут і не быў бы, каб не думка пра бацьку. Недзе ў астрозе астаўся бацька, і, можа, яму ўдасца што-небудзь памагчы яму? Як гэта можа быць, нельга было сказаць, але таксама нельга было і пакінуць старога аднаго. І Рыгор Чуйка, падумаўшы крыху, як узяцца за бацькаўскае кодлішча, як паставіць яго на ногі

з попелішча, махнуў неўзабаве рукою, ні да чаго не дадумаўшыся, і пайшоў на лесапільню. Яму работу далі былі, а як жа, ён жа ваяваў за Польшчу, ён жа вельмі доўга прабыў у абозе польскай арміі! Гэтак ён умеў паставіць справу. Нельга сказаць, каб там ён спаткаў шмат рабочых — пільня не была вельмі вялікая. Але ўсё ж людзі з блізкіх вёсак найшлі тут сабе сякі-такі галодны заработак. Найбольш тут былі людзі тыя, што не маглі ўжо аніяк пражыць на сваіх загонах, былі і такія, што выпусцілі сваю зямлю суседу хутаранцу, не могучы выбрацца на хутар, або за якія даўгі аддалі сваю зямлю на час ці назаўсёды пану-асадніку. Былі панскія парабкі, зволеныя з працы. А найбольш, дык тут церліся людзі і з вёсак і з гарадка, якім не хапала работы. Гэтая глухая мясцовасць больш як якая іншая не магла даць ім заработку. Яны трымаліся блізка ля пільні, маючы надзею, што яна стане большая і больш запатрабуе людзей.

Цесляры не знаходзілі работы — ніхто нідзе не будаваўся. Лес, апрацаваны на панскай пільні, некуды ішоў. Гэтак гінуў лес ля гарадка. Мясцовасць зменьвалася дарэшты. Скрозь мясцовасць то драбілася на яшчэ меншыя загончыкі, то збіралася ў асадніцкія фальваркі і заможніцкія хутары. Восенні вецер гнаў па дарогах пыл, шастаў у быльнягах на шырокіх межах, плыў па верхавінні старасвецкіх бяроз на пустым гасцінцы. Ваўкі вылі начамі ў кустах, дзе пад месячным святлом бялявіліся снежныя пні ад нядаўняга лесу. Там адбываліся панскія і паўпанскія паляванні. Рысістыя коні жавалі цуглі, гонячы пыл з-пад колаў панскіх фаэтонаў, скарбовыя прыганятыя, стоячы ля дарогі над парабкоўскім каркам, знімалі шапкі перад гэтымі фаэтонамі, з кляштарных і касцельных амбонаў гарылася казань, званы праводзілі сваімі галасамі ў вечнасць кожны дзень. Парабкі цягнулі вужышча сваёй працы на панскім полі праз каторы ўжо век, праз доўгія вякі, ад бацькоў, дзядоў і далей у глыб цёмнага часу. Каравыя анучы, вечнае зрэб'е, лыка; гора і бяда — спрэс заслалялі свет, і ніякай прасветласці за імі не відаць у гэтым панстве. Жэч Паспалітая асталявалася тут у фальварках і панскіх маёнтках, з магнатамі, лёкаямі, падпанкамі, войтамі, і падвойтычамі, і скарбовымі прыганятымі і, калі не з прыгоннымі нявольнікамі, дык з галоднымі парабкамі.

Рыгор Чуйка прайшоў шмат мясцовасці, пазнаў усё гэта так выразна, як пазнаваў цяпер тое самае ў змене твару зямлі тут ягоны бацька. Ён знайшоў тут, на панскай

пільні, сваіх людзей. (Панская пільня! Яна належала пану, а трымаў яе ад пана і багацеў з яе нейкі падпанак з гарадка.)

Сымон Чуйка і сам ля пільні чакаў немаведама чаго, разам з усімі тымі, што церліся ў гэтай мясцовасці, у гэтым кутку, поблізу свайго аселішча. Цесляры з сякерамі выходзілі кожную раніцу да гарадка, у ім чакалі на рынку, калі хто-небудзь з гарадскіх мяшчан пакліча іх раскалоць шурку дроў, муляры дык нават выходзіць нікуды не адважваліся — нашто яны каму трэба? Кожны, хто меў дзе работу, дрыжаў за яе, трымаўся яе.

Аднойчы Чуйка перабыў ля пільні аж да канца работы на ёй. І тады, перад змрокам, пачаў распытваць у людзей:

— Ці магу я знайсці тут Чуйку Рыгора? Ён тут недзе ці працуе, ці працаваў.

Яму адразу адказаў хтосьці з рабочых:

— Э, яго тут няма цяпер.

— А дзе ён?

— Дзе ён? (Чалавек паглядзеў на Чуйку нешта вельмі пільна. Ён убачыў перад сабою высокага чалавека, абарванага, змучанага, але з жывым бляскам ваччу.) А нашто вы пра яго пытаеце? Вы ведаеце яго?

— Ці ведаю яго? Гэта мой сын.

— Вы Рыгораў бацька? А вы дзеля яго прыйшлі ці самі работы хочаце дастаць? Вы недзе, значыцца, зблізку адсюль? Рыгор жа быў тутэйшы.

— Скажыце мне, дзе мой Рыгор. А тады можна і пра работу пагаварыць. Калі можна — я стану на работу.

— Работы тут няма, а Рыгор ваш немаведама дзе цяпер.

— Як гэта?

— Так што ў нас была забастоўка, мы спрабавалі дамагчыся, каб падбольшылі нам заработак. Пільня стаяла два тыдні. Мы гэта пачалі наўмысля тады, калі пачалася была забастоўка лодзінскіх ткачоў і калі былі забастоўкі ў Вільні і ў Беластоку...

— Ну, дык што...

— Дык Рыгор Чуйка тут пачынаў усю справу, а канчалі мы ўжо без яго. Ён быў за старшыню забастовачнага камітэта, а канчалі забастоўку мы ўжо без старшыні...

— А дзе ж ён? — не сцярпеў Сымон Чуйка...

— Яго арыштавалі. Недзе, кажуць, іх усіх разам сабралі ў адным месцы; і з Вільні кіраўнікоў забастоўкі, і з Беластока, і з...

— І нічога не чуваць больш?

— Члены таго камітэта, напэўна, ведаюць (чалавек зноў пільна аглядзеў Чуйку, пасля падумаў), але тых камітэтчыкаў не забралі, бо не ведалі, што яны ў камітэце былі. І цяпер не ведаюць... Вы сапраўды Рыгораў бацька?

— Дзівак чалавек,— аж пакрыўдзіўся Чуйка, а пасля сціх, хмурна ўспомніўшы сваю астрожную практыку.

— Хадзем сюды,— сказаў чалавек.

Яны пайшлі ў бок залеснай вёскі, дзе ішлі абшары скарбовага поля.

— А як жа ты, чалавеча, дагэтуль пра сына свайго не ведаеш, гэтая ж справа была даўно ўжо? Гэта добра, што ты на мяне нарваўся якраз, я тут вельмі даўно працую і ўсё тут ведаю. І Рыгора твайго добра ведаю.

Тады Чуйка Сымон расказаў пра сябе.

— Дык от як, нічога пра бацьку свайго нікому Рыгор не расказваў.

Чуйка ўсё ішоў моўчкі, чакаючы, пакуль чалавек пачне яму гаварыць пра штосьці, пра Рыгора, пра тых, хто яго ведае, або прывядзе яго да тых людзей.

— Я сам,— гаварыў чалавек,— не тутэйшы. Таксама з гэтае стараны, але далёка адсюль. Нейк адразу пасля вайны з немцамі, калі з прычыны рэвалюцыі вярнуўся я дадому з фронту, дык тады і падумаў сабе — гаварылі ўсё, што я ваяваў за бацькаўшчыну, і генералы і палкоўнікі, усе ўгаворвалі нас увесь час ваяваць за яе. А якую я меў бацькаўшчыну з самых малых дзён сваіх? Што меў гнілую хату, дык гэта ўжо і бацькаўшчына? Што яна мне дала, гэтая іхняя бацькаўшчына? У таго бацькаўшчына, у каго маёнтак, або хутар добры, або от гэтая пільня, з якой мы ідзем. Дык я і пайшоў у рэвалюцыю, у самую рэвалюцыю падаўся. Мы маёнтак былі падзялілі, мы былі лесу ўхапілі панскага сабе на новыя хаты. Мы думалі — зямля нам будзе. Ажно ж, як тут усталявалася гэтая Польшча, дык і тую хату, што быў паставіў з панскага лесу, разабралі і перавезлі ў двор, бо пан там сабе свірны новыя пачаў будаваць, а я не меў чым сплаціць пану за гэтае дрэва. Хата, значыцца, выйшла не мая, а панава. А мы цяпер не ведаем, куды ідзем? Я табе, чалавеча, зараз раскажу, да каго мы ідзем... Дык я тады, як пан хату забраў і ягонае выйшла права, я пайшоў па свеце, забраўшы жонку. Яна недзе цяпер у гарадку ў нейкага там аптэкара служыць, а я тут на пільні сяк-так уліпеў праз каторы год. А што далей будзе, дык немаведама... Дык мы ідзем да майго кватэрнага гаспадара, я ў яго ўжо другі год жыву.

Таксама прыйшлося яму — хоць жывому ў зямлю лезь. Я-то хоць толькі з жонкаю, а ён дык з малымі дзецьмі. Ён ніколі свайго нічога не меў. Заўсёды быў за парабка. А цяпер узяў ад пана кавалак лясного выцерабу па раскарчоўку. Там ён, як яны ў скарбе згадзіліся, мог на гэтай раскарчоўцы паставіць сабе хату, раскарчаваць кавалак зямлі і за гэта карыстацца гэтай зямлёю колькі год, а пасля колькі год трымаць у пана ў арэндзе гэтую зямлю, але таксама не за лішне высокія грошы. Гэтакая была ўмова. Ну добра. Чалавек зрабіў, што ад яго трэба было, зямлю выкарчаваў, вырабіў, сама што яе прыйшла пара сеяць, а пан узяў ды і выгнаў яго адтуль. Баіцца, каб даўнасць не зайшла. А тым часам якая там даўнасць, калі чалавек яшчэ толькі першы год яе пасеяў, гэтую зямлю! Чалавек, небарак, і туды і сюды кідаўся, біўся як рыба аб лёд, а нічога не памагае. Куды ні павернешся — усё на панскае выходзіць.

Што рабіць чалавеку? З торбаю па свеце ісці? Ён за парабка б пайшоў, дык і так цяпер з двароў парабкаў выганяюць — работы няма. А так работу дзе знайсці — дык адкуль яна тут тая работа? У горад куды падацца, дык там, добра вядома, і так паўнютка людзей без работы, проста з голаду ўміраюць. От як...

Яны ішлі не лішне шмат ад лесу. Вёска стаяла на ўзгорку, а пры кустах, дзе пачыналіся свежыя пні ад высечанага лесу, стаяла хаціна з старога дрэва, з дробнымі гаспадарскімі прыбудоўкамі. Чуйка згадаў пра колішнюю Гушкаву хаціну.

— Гэта як Гушка той, калісьці,— сказаў Чуйка.

— Гушка? У мяне да Гушкі ліст ёсць. Ужо другі год ляжыць у кішэні. З нямецкае Сілезіі прыслаў нейкі Эдвард Лявэр. Адрасаваў сюды. Ён думаў, што ўся гэтая мясцовасць пад Польшчаю, ажно ж не ўгадаў крыху. Ліст тады былі забралі на пошце вясковыя, а пасля хтосьці прынёс на лесапільню. Мы гэты ліст разабралі ў гарадку — там у нас ёсць чалавек, што можа прачытаць. Увесь ліст з прывітанняў да Леапольда Гушкі і з гэтакімі словамі, з якіх, хто гэтак думае, як той Эдвард Лявэр, адразу здагадаецца: «Няхай жыве рэвалюцыя!» Гэты ліст нам усім падаў адвагі, калі пасля таго яшчэ ў нас былі забастоўкі. І там, значыцца, людзі думаюць гэтак, як мы, і робяць тое самае.

Яны прыйшлі ў хату. Гаспадар хаты быў чалавек год пад сорак. Ён нядаўна вярнуўся з гарадка.

— Ну што? — запытаў яго чалавек з пільні.

— Ну нічога. Апошні раз я быў там. Нічога ўсё адно не будзе. Я надумаўся.

Тут ён паглядзеў на Сымона Чуйку.

— Нічога,— сказаў чалавек з пільні,— гэта свой. Гэта, калі памятаеш, Рыгора Чуйкі бацька.

— Ага,— сказаў чалавек нейк, здалося Чуйку, абыякава — гэтакі халодны і спакойны быў твар гэтага чалавека, звыклага да няспыннай цяжкасці чалавеку таго, што завецца — жыць на свеце. І тады, азірнуўшыся на хату, загаварыў пошаптам:— Што ж, як яно робіцца. Я надумаўся, я паслухаў людзей, я наслухаўся людзей... Я падамся туды.

— Куды?

— На той бок. Колькі людзей цяпер пайшло туды — страх. Што ж, калі гэтак прыйшлося — дык чаго я тут буду? У горадзе там людзі казалі, што за гэтыя дні колькі туды народу перайшло мяжу, дык адно некаторых злавілі. А там, кажуць, работы кожнаму хапае, там кожны як дом сабе знаходзіць. Не дадуць мне там зямлі, дык так на работу стану. Або ў калгасах работу мець буду. Унь, мне выразна казалі ў горадзе, што нават наўмысля недзе ля Вільні ці ў самай Вільні шмат рабочых папрасіліся, каб пусцілі іх туды ў заработкі. Іх-то не пусцілі, а я і прасіцца не буду. Што мне рабіць больш? Дзе мне дзецца тут? А унь з Амерыкі, кажуць, туды людзі едуць. Даўней дык у Амерыку ўсё ехалі, а цяпер з Амерыкі да бальшавікоў. Калі толькі палавіна гэтага праўды, дык і то — чаго мне тут быць, чаго пільнаваць? Што ж, зараз жа прыйдуць з панскай, значыцца, хаты выкідаць. Дык няхай выкідаюць!

— А хто табе казаў пра ўсё гэта?

— Хто мне казаў пра ўсё гэта? Што каму рупіць, то той пра тое і жупіць. Калі мне што трэба пачуць, дык я да таго і прыслухоўваюся. А калі што каму трэба пачуць, дык ён знойдзе каго слухаць. Што ж, цяпер народ жыве, як на пораху. Спадыспаду, значыцца, порах і слухі вельмі. Народ чакае нечага. Народ рабіць нешта збіраецца. Ці на тое гэта вайна гэтакая па галаву ўсяго народа ўссела была, каб народ і дагэтуль дурны астаўся? Што, гэта на тое рэвалюцыя была, ды і не адна, каб пан з войтам правілі на маёй галаве сваё права? Унь маю дзяўчынку не прынялі вучыцца. А і што там вучаць. Калі дзіця скажа слова гэтак, як са мною ў сваёй хаце

гаворыць, дык значыцца — што? па-хамску, па-хлопску загаварыла? А па-польску не хочаш? Ну добра, калі ты паляк, дык я ж табе не затыкаю рота, каб ты па-свойму казаў. Што ж ты мне мой рот затыкаеш?.. А гэта — дзе я ні быў, усё адно на панскае з гэтаю зямлёю выходзіць. Чаму ж унь хутаранцам, дык як чорт дзеці калыша. І гміна і бог за іх стаіць. Чаму ж асадніку якому дык усялякі закон, каб яго не ведаць, памагае?

Ён скардзіўся, ён горніўся перад людзьмі, перад сабою, гэты чалавек. Ён ужо не меў іншай думкі.

— А што ж, чаго чакаць? Каб жа гэта са мною адно гэтак? А то ж куды ні глянь, каго ні паслухай. Усюды гэтак. Няма куды народу падацца, няма за што ўзяцца. Я пражыў век свой ціха з усімі, спакойна з кожным, я адно рабіў заўсёды, як чорны вол, на сябе ці на нейкага. Дык жа рабіць не даюць. Жыць на свеце чалавеку няма як. Хто дужшы, той прутшы. Дык, можа, і я дужы, а калі гэтая дужасць у ланцугах? У аднаго во колькі, як у пана, напрыклад, або ў багатыра кожнага, а ў другога — во колькі, аж не відаць, хоць ты праз шкло глядзі, колькі ў яго там ёсць. Ды яшчэ я і вінен тут у нечым. Што, гэта з дабра забастоўкі не спыняюцца па гарадах на фабрыках? Што, гэта з дабра людзі галодныя ходзяць, шукаючы работы? Што, гэта з дабра парабкі ў паноў на работу не выходзяць, а бунтуюцца? Заціснены ўсе. І каб жа гэта адно са мною, каб гэта адно тут, а то куды ні глянь, у каго ні папытай, куды ні кінься...

Сымон Чуйка чуў сябе гэтак, што нібы ён і не прыходзіў дадому адтуль, дзе ў арыштанцкіх лагерах рабіў некалькі год. У той вечар ён ведаў, што нездарма прыйшоў сюды: ён пачуў выразна пра свайго Рыгора. Той самы чалавек з пільні сказаў яму, што Рыгор яго ўжо на волі. Ён гэтаксама, як і раней, кіруе забастоўкамі парабкаў па дварах і рабочых па тутэйшых гарадах і гарадках. Што ён цяпер, здаецца — тут, чалавек або не адважыўся хоць і ягонаму бацьку адразу сказаць гэтакую праўду, або, можа, і сам дакладна не ведаў — Рыгор Чуйка цяпер, здаецца, зараз будзе тут поблізу.

### 3. Ратуша

У нядзелю зранку касцельныя званы ззывалі народ на імшу. На рынкавым пляцы збіраўся кірмаш. Да гарадка спаўзваліся сялянскія фурманкі з сялянскім на-

быткам. Да паўдня, пакуль пачалася ў касцёлах і ў царкве адправа, народу на рынку назбіралася ніштавата.

Перад ратушаю на пляцы быў прачышчаны ад вазоў шырокі праход. Паліцыянты аглядалі вазы, выстройвалі ў рад іх на праходзе, узнімалі крык, калі каторы воз вытаркаў крыху на праход. На ратушы тросся сцяг з белым арлом, перад самою ратушаю стаялі людзі, апраненыя ў добрыя ватоўкі, у суконныя, добрай работы, буркі. Кажушкі і выцертыя халаты мясціліся ззаду, прыслухоўваючыся да гутаркі ў натоўпе паважных гаспадароў у бурках і ватоўках. Нейкі чалавек у кароткай бравэрцы, у глянсаваных ботах — дробныя вусы ўгару, сіняя варшаўка нізка над вачыма — цёрся ўсё ў самай сярэдзіне шляхтаватага натоўпу і ўсё падвільваў ля вусатага чалавека ў старасвецкім футры. Гэты вусаты чалавек трымаў рукі ў рукавах, відаць, прыемна адчуваючы цяпло, выгаднасць адзежы. Твар яго рабіў часамі спробы ясненць ад усмешкі, калі гэтага вымагаў момант з трапятнкой гаворкі таго чалавека ў кароткай бравэрцы і глянцаваных ботах:

— ...Не падыходзь да законнэго ложка.— Так закрычала мнішка.

— Што, што гэта было? — усадзіў раптам бараду ў натоўп вусаты шляхціц, занепакоены, што спазніўся на пачатак гутаркі.

— А, пане Мазавецкі! — прывітаў яго хтосьці з паважных людзей.

Апроч Мазавецкага, яшчэ больш падышло, і кароткай бравэрцы давялося яшчэ лішні раз спачатку расказваць.

— ...Значыцца, украліся яны да мнішак і давай шукаць дабра. Грошай шукалі. Рабаваць кляштар узяліся. А іх чалавек, можа, з дваццаць усіх. Ноч, цёмна, а навокал заўсёды дагэтуль было спакойна, дык каму гэта ў галаў, васпане! А мнішка, як толькі падышоў адзін да яе, дзе яна спала, спакойна сказала яму — не смей падыходзіць да законнэго ложка.

— Дык ён што?

— Дык ён што? Дык ён, васпане, і адышоў адразу.

— Не пасмеў там грошай шукаць? А можа, яны там якраз і былі,— падала нецярплівы голас нейкая простая душа, захопленая не так сілаю слова мнішкі, як рамантычнасцю і прыгодніцтвам усёй справы, і гатовая, можа, нават пашкадаваць, што не выйшла да канца таем-

КУЗЬМА ЧОРНЫ

ЛЯВОН БУШМАР

АПОВЕСЬЦЬ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК — 1930

Вокладка першага выдання
апавесці Кузьмы Чорнага «Лявон Бушмар». 1930 г.

*Сяброўскі шарж*

**на Кузьму Чорнага**

**маст. Б. Малкіна**



Паважны выгляд мае матка
І задае паважны тон.
Наўкола труцца куранятκі
Адно другому наўздагон.
У паэтычнай большасць позе,
Ад вершу кожны ні на крок.
Аднак ім матка раіць прозу
І драматычнага чуток...

СТАХ Ш.

Сяброўскі шарж мастака Б. Малкіна на Кузьму Чорнага.
Газета «Літаратура і мастацтва». 1933 г.

ная, а значыцца, і цікавая работа нейкага адважнага чалавека, напэўна, героя.

— А можа, яны там і былі? Галава, васпане, у вас,— перакрывіў яго той, што расказваў,— ведама, што яны там былі, гэтыя кляштарныя грошы. Над ложкам у старэйшай мнішкі ўкрыжаваны Езус, а пад ложкам грошы ў гэтакі час якраз хаваліся.

— А што, хіба раней было вядома, што рабаўнікі прыйдуць у кляштар? — не сціхала простая душа.

— Вядома, было. Галава ў вас, васпане? Цяпер гэтакі час, што заўсёды трэба сцерагчыся. Што ж, пад бокам бальшавіцкая мяжа.

— А хіба ж гэта ў нас было?

— У нас. У нашым кляштары. А дзе ж!

— Ай, ах, ах-ах,— адно заахкаў хтосьці.— Гэта ж трэба, у кляштар увабрацца!

— І то скажыце, васпане, што якраз ад аднаго слова адышоў, як яго хто гарматаю адкінуў. І чаму гэта?

Тут ужо той, што расказваў, і сам не ведаў, што сказаць, і зрабіў самае лепшае, што мог у гэткім выпадку — зусім нічога не гаварыў больш, а значыцца, прымушаны былі дагаворваць да канца тыя, што слухалі, і гэтакім парадкам неўзабаве стала вядома тут перад ратушаю, а адгэтуль пайшло сярод некаторых засцянковых жанчын і дайшло аж да касцельнага цвінтара, што некаторай ночы на горад меўся быць напад нейкіх грабежнікаў, а мнішка з кляштара мела ад бога шчасце наперад усё ведаць і, выйшаўшы ўночы за кляштарную браму, адным словам сваім выратавала горад ад вялікага няшчасця.

— А нікога не злавілі? — пыталі там ужо, ля касцёла.

— Злавілі,— знайшоўся гэтакі нехта, што ведаў.

— А дзе іх злавілі?

Дык тут пачаліся дакладнасці. Перш за ўсё, знайшоўся гэтакі чалавек, што сам бачыў, як сёння зранку, «яшчэ пан пробашч не пачынаў імшы, а толькі пан арганіст граў на арганах гадзінкі», вялі аднаго злоўленага грабежніка. Ён быў пераадзеты за абарванца, і да твару яго была прыклеена барада зусім сівая.

— А куды яго павялі?

— Ну, куды ж яго павінны весці! Ведама куды!

— А-а-а-а-а-а.

— Ай-яй-яй-яяяяй.

— От жа бачыце.

Тым часам ужо хтосьці гаварыў тут, што бальшавікі больш панасылалі сюды сваіх людзей угаворваць народ, каб ён пераходзіў туды на іхні бок. Што яны там дакляроўваюць рай, а не жыццё, а як толькі чалавек туды пяройдзе, дык там адразу становяцца ў яго па баках два салдаты і гоняць чалавека секчы лес. Гэтак чалавек працуе, пакуль богу душу не аддасць. Дык нават і варона тады ягоных касцей не знойдзе.

— Дык чаго ж народ, дурны, слухае? — абурылася на народ жонка нейкага гарадскога паўпанка.

— Што ж ты з народам зробіш! Народ дурны!

Відаць, у гэтым натоўпе не знайшлося ніводнага чалавека, які б прылічаў бы сябе да народу, бо ніхто не пакрыўдзіўся на тое, што народ дурны. Наадварот, пачалі гаварыць пра нейкі там народ гэтакія рэчы, што каб гэта была праўда, дык сапраўды шчаслівы той, хто не належыць да пароду.

Тым часам скончылася імша, і натоўп пачаў разыходзіцца з-пад касцёла. Якраз у гэты час з новага гарадскога астрога кудысьці павялі некалькі чалавек. Натоўп з-пад касцёла кінуўся ў той бок глядзець.

— А што, гэта, можа, тыя самыя?

— Напэўна, тыя. Нездарма казалі.

Арыштаваных было чалавек чатыры. Сярод іх сапраўды быў стары з сівою барадой. Пра яго адразу і загаварылі:

— А што! От і той самы, што тут казалі, барада прыклеена.

— Э, дык гэта ж той самы старац, што стаяў заўсёды ля касцельнай брамы з працягненаю рукою.

— Што, ён заўсёды стаяў ля касцельнай брамы? А божачка мой, гэта ж гэтулькі часу ён быў у нашым горадзе, выглядаў усё, што тут робіцца, і паведамляў на той бок бальшавікам.

— Дык гэта ж шпіён, калі гэтак!

— Шпіён? Дзе шпіён! Каторы?

Тым часам арыштаваных вялі рыначным пляцам проста да ратушы. Сяляне адрываліся ад вазоў і праводзілі іх зіркам. Раптам хтосьці гукнуў з воза:

— Гэта ж унь Няміру павялі! Старога Няміру павялі!

І некалькі чалавек, пакінуўшы вазы, пайшлі следам. Арыштаваных павялі ў ратушу. Каб прапусціць іх, натоўп ля ратушы падаўся ўбок, і стары сівабароды чалавек, якога вялі, убачыў, як стаяў ля самага праходу

вусаты чалавек у старасвецкім футры. Ён трымаў рукі ў рукавах і не спускаў вачэй з арыштаваных. Стары чалавек, якога вялі, раптам загаласіў:

— Пане, паночку Марцынкевіч! Ці пазнаеце мяне? Ласкі прашу, злітуйцеся.

Ён ледзьве гэта выгаварыў. Яго штурхнулі далей, і праз момант ужо ён, задыхаючыся, падніма́ўся ўгару па ўсходах цёмнага карыдора. Натоўп стаяў перад ратушаю. У натоўпе гаварылі зноў пра ўсё тое, пра што гаварылі тут раней і пасля каля касцёла. Цяпер ужо і іншыя думкі тут падаваліся — народ сабраўся сюды і з кірмашу. Хтосьці моцна сказаў:

— Які ж гэта шпіён? Гэта ж стары з нашай вёскі. Ён ледзьве ходзіць.

Кароткая бравэрка ў глянсаваных ботах зноў штосьці тлумачыла ў натоўпе.

З ратушы выйшаў белавусы пан. У карыдоры ён размінуўся з арыштаванымі. Стары Няміра, як ужо быў прыбіты і прыглушаны, усё ж не пасмеў абазвацца перад знаёмым панам аб літасці. Можа б, ён і зрабіў бы гэта пасля крыху, каб пан гэтак шпарка не прайшоў паўз яго. Цяпер, выйшаўшы на ганак і сыходзячы з яго, пан акінуў вокам натоўп ля ганка і пайшоў яшчэ шпарчэй.

— Быдла,— мармытнуў ён, гледзячы на натоўп.

### 4. Падзеі ля ратушы

Стары Няміра пазнаў Сурвільчыка, але нічога на ягоным твары не змянілася ад гэтай нечаканасці, як бы стары быў упэўнены ў тым, што гэта так і павінна быць, як бы даўно ён ведаў, што гэтаму чалавеку тут месца. Сурвільчык сядзеў у пустым пакоі, куды ўвялі Няміру. Глянуўшы на старога, ён выйшаў, і на яго месца ўвайшоў другі дапытнік. Няміра цяпер не думаў пра чалавека, што не захацеў ці ўсё ж не пасмеў яго дапытваць, і, напэўна, не мог цяпер стары ўжо так ясна расказаць пра яго каму-небудзь, як калісьці расказваў пра яго і ягонага бацьку ўночы партызану, калі варочаўся дадому з польскага абозу.

Дапытвалі старога доўга. Святочны кірмаш у гарадку канчаўся, калі яго павялі назад. Ён ужо быў рад цяпер астрогу, там, прынамсі, хоць не крычыць на яго бесперастанку ніхто, выцягваючы з яго вуснаў тое, пра што стары і не ведае нават. Тут хоць не кожную хвіліну б'юць яго.

— Няміру зноў павялі! — загукаў хтосьці паміж вазоў.

— Зараз, мусіць, і нашых мужчын будуць весці! — яшчэ гукнуў голас.

Натоўп паваліў следам за старым, пакуль паліцыянты не пачалі адганяць назад людзей. Тады, нейк неўзаметку, натоўп стаў шчыльна збірацца ля самай ратушы.

— Усе да ратушы! — гукала некалькі галасоў,— патрабаваць, каб выпусцілі нашых людзей!

— Годзе трымаць іх!

— Завошта гэта іх? Тады ўсіх трэба браць, бо ўсе, гэтак як яны, хочуць есці, папарабіўшы да сёмага поту!

Кірмаш адразу змяніўся. Фурманкі раптам зніклі, баязлівыя рушылі з гарадка дадому, смялейшыя ад'ехалі далей, у вуліцы, у дварах і стадолах пакінулі коні і вярнуліся назад патрабаваць або проста глядзець, пакуль яшчэ нічога страшнага тут не было. А шмат назбіралася і тых, што пратэставалі сапраўды і другіх заахвочвалі. Выявілася, што тут абазваліся парабкі з панскага маёнтка, што тут і работнікі з прыгараднай цагельні, што тут людзі і з пільні. Натоўп вырас. Кіраўнікі людской абуранасці мусіць чакалі гэтага моманту напагатове, бо раптам пайшлі па руках лістоўкі. Там вычытвалі заклік зараз жа патрабаваць: выпуску арыштаваных сялян, змяншэння гадзін рабочага дня на пільні і цагельні, павелічэння пенсіі і ардынарыі парабкам у блізкіх тут панскіх маёнтках, скасавання выплаты пану і асаднікам за скошаную некалькімі вёскамі спрэчную сенажаць, за што наспела нарасці працэнтаў больш, як было там тае сенажаці.

Натоўп вырас вялікі. Аднекуль выбухнулі чырвоныя палотнішчы з надпісамі. Натоўп расцягнуўся ў дэманстрацыю.

Ужо тады, калі рабочы з пільні сказаў кароткую прамову, у натоўпе заўважылі, што на рагах вуліц пры пляцы збіраюцца паліцыянты. Тады выйшлі на ганак ратушы некалькі чалавек. Пазналі сярод іх — Стафана Марцынкевіча, войта Мазавецкага, Сурвільчыка, ксяндза... Марцынкевіч не гаварыў сваёй прамовы з ганка ратушы: а як жа, ён жа не жандар, не службовец тутэйшы, не прадстаўнік улады, ён проста паважны грамадзянін гэтага гарадка, «зарабляе сабе на кавалак хлеба службаю ў князя». Ён пачаў гаварыць з таго самага воза, з якога сышоў нядаўна рабочы. «Беларусы самі павінны пад-

трымліваць парадак у дзяржаве, бо ўсялякі непарадак на руку бальшавікам. Дзяржава ўжыве супроць нас сілу, калі мы будзем вар'явацца тут з гэтымі сцягамі. Мы павінны, калі чаго хочам, патрабаваць ад дзяржавы, заявіць законна, праз гміну, праз войта, праз старoства...»

— Вон! — загукалі галасы.

Натоўп змёў Марцынкевіча з воза і рушыў да ратушы. Пярэднія ўжо ўзышлі на ганак. Мазавецкі і Сурвільчык зніклі ў карыдоры.

— Выпусціць арыштаваных!

— Зямлі дайце! Жыць няма на чым, усё ў паноў апынулася!

— Рабіць няма чаго, з голаду ўміраць трэба!

Дзверы ў ратушу раптам зачыніліся, і ў той жа момант з двух бакоў грунулі паліцыянты з карабінаў у паветра. Дэманстрацыя застыла на месцы, і Сурвільчыкаў голас з адчыненага акна абазваўся на ўвесь пляц.

— Ад імя мясцовай улады загадваю ўсім разысціся!

Некалькі каменняў паляцела ў тое акно, і натоўп закрычаў, заварушыўся. Парабкі пайшлі з песняй паўз будынак на другі бок яго. З імі рушылі ўсе. Паліцыянты зноў далі залп. Некалькі параненых чалавек звалілася на зямлю. Пасля зноў стрэлілі. Зноў некалькі чалавек упала. З-за рогу ратушы вымчалася конная паліцыя. Яе было многа. Яна проста рушыла з коньмі на людзей. Дэманстрацыя была разагнана; яна пакінула пасля сябе на пляцы крывавыя сляды і трупы.

Праз некалькі гадзін, уночы, пачалася аблава па ўсім гарадку і па прыгарадных вёсках. Усё арыштоўвалі. Новы астрог у гарадку ледзьве змясціў усіх.

Праз дзён некалькі пусцілі толькі аднаго Няміру. Збіты, змучаны, ён зноў заняў сваё месца з працягненаю рукою ля касцёла.

Сымон Чуйка тады, калі была дэманстрацыя ў гарадку, таксама быў там. Ён дэманстраваў разам з усімі, з радасцю бачачы навокал сябе чалавечае мора. Як пайшлі былі па руках лістоўкі, нейкае пачуццё падказвала яму ўсё, што тут недзе павінен быць ягоны Рыгор. Ён шнарыў паміж людзей, пасля ішоў разам з усімі ў дэманстрацыі. Перад ім адно мільгалі людскія спіны і ногі, ён прабаваў, разам з усімі, спяваць, пасля, як гаварыў рабочы з пільні прамову, прыглядаўся — калі пачне гаварыць ягоны Рыгор. Нарэшце ён утаміўся ад гэтага шу-

кання, ён ужо сыпоў быў з часткаю натоўпу ў вуліцу, як пачулася страляніна. Ён адышоўся далей у вуліцу, пасля зноў выходзіў на пляц, як ужо там пацішэла, пасля пачуў чыюсьці перасцярогу, што там арыштоўваюць усіх, ловяць, і ён падаўся на самы выхад з гарадка. Там яго агарнуў вечар, і ён, не прычакаўшы спаткання з Рыгорам, пайшоў туды, дзе быў усе гэтыя дні: у тую хату, што стаяла на раскарчоўках і з якой пан выганяў чалавека. Была ноч, калі ён прыйшоў туды. У хаце агню не было, але там не спалі. Чуйка заўважыў гэты рэзрух, яшчэ калі быў на двары. Сенцы былі адчынены, і хтосьці быў там.

— Хто прыйшоў? — запытаў з сянец голас.

— Я,— абазваўся Чуйка.

— Ну дык як ты? Надумаўся ўжо ці яшчэ ўсё думаеш?

Чуйка адно сказаў:

— Не ведаю, як з Рыгорам маім. Можа, больш яго і не ўбачу. Кажуць, ён недзе тут поблізу.

— А ты ведаеш, што ў вёсцы ўжо арыштоўваюць? Кажуць, сёння ў горадзе што рабілася... страх...

— Гэта я ведаю.

Праз некалькі хвілін і Чуйка пачаў збірацца. Праўду кажучы, якія там маглі быць зборы — адно хлеба кавалак паклаў чалавек за пазуху.

Людзям шэнціла: ноч была вельмі цёмная, а Чуйка хіба мог дрэнна ведаць гэтую мясцовасць? Каржакаваты хвойнік прытуліў іх у сабе тады, калі неўзабаве павінна было заняцца на дзень.

Іх было пяцёра. Чуйка, чалавек, якога пан выганяў з хаты, жонка яго і двое дзяцей. У гэтым хвойніку яны перадыхнулі. Яны, тулячыся да хвоі, баяліся паварушыцца — усё ім здавалася, што іх хтосьці бачыць і верне іх зараз назад.

Як добра ўднела, яны ўбачылі новую выезджаную дарогу з хвойніку да вёскі. Гэты канец вёскі скочваўся ўжо ўніз, у лог. Раней вёска канчалася, не даходзячы да гэтага месца. Людзі стаялі на ўзгорку і глядзелі перад сабою. Чуйка бачыў тую мясціну, якую пакінуў быў год за дзесяць да гэтага.

На краі хвойніку, на ўзгорку, будыніна — доўгая, новая, глядзела ў лог вокнамі з-пад белай гонты. Гушкавай хаты там не было.

Налева ад хвойнічку, дзе Чуйка прывык калісьці ба-

чыць Сурвілаў хутар, было чыстае месца. Быў засаджаны малады вялікі сад, а рэшта — было поле роўнае; ралля чарнела з-пад лёгкага першага снегу. Уся мясцовасць адгэтуль была як на далоні. Вёска даходзіла новымі хатамі, каб траха дык да самага б гэтага месца. Вялікія новыя пабудовы стаялі і ў баку ад вуліцы. Сярод іх — Сымон Чуйка пазнаў гэты дом адразу, пабудаваны калісьці на новым хутары Сурвілам — стаяў ён цяпер пасярод новых будынкаў, перанесены ў вёску. «Школа»,— прачытаў на ім Сымон Чуйка.

На даляглядзе сінелі зімовыя лясы. Гасцінец ішоў проста ў шырокае поле.

### 5. Леапольд Гушка

Трэба было ведаць Леапольда Гушку раней, гэтак як ведаў яго калісьці Сымон Чуйка — тады, калі яшчэ Леапольд Гушка рваў камяні на неўрадлівай панскай камяніцы, а пасля сплачваў за яе ўсім жыццём сваім Сурвілу, трэба было тады ведаць яго, каб цяпер адчуць і ўбачыць няспынны поступ рэвалюцыі. І Сымон Чуйка ўбачыў перад сабою сляды гэтай рэвалюцыі, калі толькі што спаткаўся з Леапольдам Гушкам.

Абшарпаны і змучаны, Сымон Чуйка адразу адчуў, што і ён сам прынёс сюды на вялікую справу сваю цягавітасць.

Леапольд Гушка стаяў перад Сымонам Чуйкам — высокі, цвёрды, спакойны. Густая сівая кучаравасць была ў яго на галаве, упартыя маршчыны праходзілі праз лоб. Чуйку здавалася, што гэта ён адзін тут мог змяніць гэтак мясцовасць. Ужо ў наступныя дні, як стаў ён разам з усімі на работу ў гэтым прыгранічным калгасе, ён і сам адчуў сябе гэтак, як бы быў тут заўсёды і разам з усімі, і з Леапольдам Гушкам пачынаў і цяпер вядзе далей гэтую справу.

— Ты кажаш, што шкадуеш, што не пабачыўся перад адыходам сюды з сваім Рыгорам? — казаў Леапольд Гушка Чуйку,— дык ты сапраўды добры работнік. Бо ты не гаворыш, што шкадуеш, што Рыгор астаўся там, ён жа там, ты сам жа гаворыш, недзе робіць рэвалюцыю. Ты адно паслухай...

І ён дастаў з кішэні канверт, а з яго два лісты.

— Бачыш, адзін па-нямецку пісаны рукою Эдварда Лявэра, а от пераклад, каб я, значыцца, прачытаць мог.

Ён гэтак і прыслаў, у Маскве яму пераклалі, бо ён быў у Маскве нядаўна з рабочай дэлегацыяй з Нямеччыны.

«...У нас нядаўна, перад маім ад'ездам сюды, была партыйная канферэнцыя. Мы рыхтуемся да агульнай забастоўкі рабочых на капальнях. А гэтая наша забастоўка павінна перакінуцца на іншыя рабочыя цэнтры. Мы выказалі пратэст супроць астрожнага рэжыму ў Польшчы і супроць арыштаў у нас...

...Тут, у Маскве, бачыўся я з тваім Адасем. Я не ведаў яго дагэтуль. Ён сам прыйшоў да мяне, як прачытаў прозвішчы дэлегатаў ад нямецкіх рабочых. Ён казаў, што памятае маё прозвішча з расказаў вашых яму пра мяне...»

— А Адась твой у Маскве?

— У вайсковай акадэміі. Ён быў у арміі праз увесь час, як выехаў з гарадка з рэўкомам, як находзілі белапалякі. Камандаваў на фронце вайсковымі часцямі аж да канца вайны. Аж да гэтых год служыў у арміі, а цяпер падаўся ў вайсковую акадэмію.

— А Антусь?

— А Антусь — дык гэты пайшоў у іншую навуку. Вучыцца ён пачаў позна, ён жа не мог змалку вучыцца, як жа ён мог! Сам ведаеш. А ў вайну, як толькі выйшаў тады з лесу, як нашы прыйшлі, як цябе былі тады забралі, тады гэта рабілася, дык у армію пайшоў. Там быў да канца вайны, а адтуль на малы час прыйшоў быў дадому. У горадзе астаўся там, дзе з часцю сваёй стаяў перад водпускам зусім дадому. Рабіў там на заводзе першыя гады, пасля на рабфак пайшоў, а цяпер на інжынераканчае. А Марылькі з Паўлам няма таксама тут. Павал рабіў раней тут, а гэта перакінулі яго ў іншы калгас. Ён там работу наладжвае. Там і Марылька — за старшую брыгадзірку была ўсё гэтае лета. Так што я тут, з нашай сям'і, адзін з старою астаўся. Старая больш не абжынае сярпом камянёў, што асталіся сярод жыта — не ўсім я тады камяням на той дзялянцы даў быў рады. Ты памятаеш, Сымон, як я быў тады ў той хаце пры хвойніку?.. Ну давай, я табе дачытаю да канца, што піша Эдвард Лявэр.

«...Тут мы з тваім Адасем доўга былі разам. Да нашай дэлегацыі прыходзілі нямецкія рабочыя, што працуюць у Маскве. Да нас прыходзілі і амерыканскія рабочыя. Да нас прыходзілі і палякі. Шмат адкуль людзі тут ёсць. Мы з Адасем хадзілі пасля да амерыканскіх рабочых. Перад нашым ад'ездам дадому ў нас быў міжна-

родны тут рабочы мітынг. Я пішу табе перад самым выездам і вельмі шкадую, што не выпадае мне быць у цябе, паглядзець, як вы цяпер вядзеце рэвалюцыю праз сваю мясцовасць, пабачыць знаёмых людзей. Мне Адась гаварыў, што вы на самай граніцы, што гарадок той і пільня тая, дзе я калісьці з Антусём тваім працаваў, у Польшчы...»

— Пільня тая?.. Там і мой Рыгор гэтыя гады быў...

«...Мяне цяпер на вайну больш не пагоняць. А пагоняць, дык на сваю галаву. Гэтае самае сказалі і ўсе на нашым мітынгу — і амерыканцы, і палякі, і нашы землякі. Рот фронт. Рот фронт...»

Цяпер толькі Сымон Чуйка пазнаў, што значыць ён, яго Рыгор, Леапольд Гушка, яны ўсе — на свеце. Ён як бы раптам выйшаў з аднаго і ўвайшоў у другі план свету. І ён цяпер глянуў на самога сябе не як на пакрыўджанага лёсам чалавека, што прасядзеў гэтулькі год у турме. Гэтакаю ён знайшоў і старую жанчыну, што калісьці была за гаспадыню ў трухлявай хаціне на ўзлеску.

Ужо ў наступныя дні ён спатыкаўся з ёю раніцою, калі ішоў разам з усімі на працу, а яна ішла на сваю. Даваў ён добры дзень і чуў, што яны абое, можа, гэтак, як ніхто з тутэйшых людзей, разумеюць тое, як іх перамалола жыццё.

Леапольд Гушка ўпарта, як калісьці рваў тыя камяні ля хвойніку, вёў сваю работу. Гэтая ранняя зіма спаткала яго новымі клопатамі новай гаспадаркі. У калгас прыходзілі новыя людзі з таго боку. Там пятрэлі на ветры попелішчы ад іх хат і, праз каторы ўжо год гэта, дык яны, гэтак як Сымон Чуйка, знаходзілі сабе долю і волю тут. Калгас будаваў новыя хаты. Леапольд Гушка, пільным вокам спрактыкаванага гаспадара, сам планаваў месца, вылічваў дні, матэрыял і рабочыя рукі. З самага ранку яго бачылі ля калгаснай канторы, увечары дзе-небудзь на людскім зборышчы.

Снегу гэтую зіму было мала з пачатку зімы, і пад самую мяжу відаць было, як тырчыць з-пад белага засцілу бадыллё засохлага зелля, якім там урос гасцінец. Апусцелы тут, ён ажыў крыху далей, дзе ад новага канца вёскі брукаваўся ён каменнем: кучы гэтага каменя ляжалі паўз яго скрозь. З яго відаць быў новы будынак на ўзлеску, дзе стаяла калісьці тая хаціна: там нядаўна выбудавалі калгасную абору. Скрозь па гасцінцы. да самай вёскі і па ёй, перад хатамі, стаялі слупы — яшчэ дроту

на іх не было, але ўжо ў блізкім мястэчку капчаўся будынак электрастанцыі.

Праз некалькі дзён пасля таго, як Сымон Чуйка перайшоў на гэты бок, польскія газеты яшчэ сцвердзілі новыя пераходы сюды сялян. Паведамлялася, што парабкі і сяляне кідаюць усё і ідуць сюды. А нарэшце газета тлумачыла, што гэта зноў бальшавіцкія агенты падгаворваюць людзей ісці на згіненне.

Усю тую зіму польскія газеты раз-пораз скардзіліся на гэтых «бальшавіцкіх агентаў».

Той зімы Леапольд Гушка быў на раённым з'ездзе Саветаў. З'езд абраў яго за дэлегата на Усебеларускі з'езд Саветаў.

. . . . . . . . . . . . . . .

З непрывычкі кіраваць гэтакім вялікім сходам чалавек спачатку сумеўся. Пасля як сказаў — «шостае паседжанне Усебеларускага з'езда Саветаў пачынаем» — падбадзёрыўся. «Працяг спрэчак па дакладу аб калгасным будаўніцтве. Слова мае...»

Ён быў сівы, высокі, моцны з твару і з постаці, гэты сённяшні чарговы кіраўнік паседжання з'езду. Ён сядзеў на сваім месцы ў прэзідыуме і штосьці паволі запісваў у свой блакнот. Кучаравая сівізна сыходзіла ў яго ззаду па галаве на шыю. Ён даваў слова прамоўцам.

Прамоўцы змяняліся часта. Адзін затрымаў на сабе пільную ўвагу сённяшняга старшыні паседжання. Гэта быў чалавек паджылы. Апранены ён быў у кароткую суконную вопратку, на якую клаўся каўнер падапраненага падыспад кажушка. Перад тым як гаварыць, ён разгладзіў вусы, шырака паклаў рукі на накрытую чырвоным аксамітам з жоўтымі фрэнзлямі па краях трыбуну. Некалькі хвілін ён маўчаў, падбіраючы першае слова. У гэты момант старшыня і пачаў пільна прыглядацца да яго.

— ...Мяне на вайну былі забралі з немцам біцца. На вайне як дало мне было зямлёю ў грудзі, дык пасля гэтага мне сказалі — больш ты ваяваць не можаш, дык ідзі ты сабе дадому. Ты, кажа, цяпер вольны. Я падхапіў гэтую сваю волю і рушыў з ёю дадому. А які там у мяне быў дом! Панская афіцына заўсёды была мне дом. Сям'ю сваю быў знашоў недзе ў свінуху нейкім у двары, але затое сам я быў ужо вольны. Вольны, значыцца, і ад рук і ад кавалка хлеба. Ты, кажа мне тады пан, які ты

будзеш парабак, калі ты здароўя не маеш. Мне трэба людзі здаровыя. Дык я гэтакі тады стаў адразу вольны, што хоць кладзіся ды ўмірай. Гэтак жа яно і рабілася. Пайшоў я тады бадзяцца па свеце...

Пасля яго гаварыла жанчына. Старшыня паседжання не спускаў вачэй з нядаўняга прамоўцы. Як скончылася паседжанне, ён знайшоў яго ў фае.

Розніца ў гадах была паміж імі немалая, але яны адразу пазналі адзін аднаго.

— Гушка? — сказаў той чалавек адразу, як толькі старшыня паседжання працягнуў яму руку.— Я глядзеў раней усё на цябе, ды ўсё сам сабе не верыў...

— Не забыўся, значыцца, як ты тады, даўно, калісьці, хапіў быў за павады маіх коней, калі яны пусціліся бегчы па раллі, як са мною аконам распраўляўся?.. Дзе ж ты цяпер?

— У Н-скім калгасе.

— Дык нам жа разам дадому ехаць будзе...

З'езд тады падыходзіў да канца. З'езд ухваліў пастановы пра пабудаванне новых фабрык і заводаў, пра будаванне некалькі новых раённых электрастанцый. Гэтае апошняе пытанне ставіў на галасаванне Леапольд Гушка. Ужо ў апошні дзень з'езда Леапольд Гушка, праглядаючы газету, прабег вачыма кароткую натагку — перадрук з польскіх газет. Ён памеркаваў, што яшчэ дзён праз два, не раней, выедзе дадому, і выразаў гэтую натагку з газеты і паслаў з кароткім лістом у свой калгас Сымону Чуйку. От што пісалася ў гэтай натагцы:

«Бастуюць парабкі па маёнтках. Паліцыя шукае арганізатара забастовачных камітэтаў Рыгора Чуйку!»

Леапольд Гушка і колішні ягоны таварыш, парабак з двара, з якім яны цяпер спаткаліся на з'ездзе, трымаліся разам, аж пакуль не выехалі разам дадому ў адну дарогу. Гушка на ўсіх вялікіх станцыях пытаў новых газет і шукаў у іх навін пра заходнія падзеі. Высокая постаць яго была ўвесь час з газетаю ў руках ля вагоннага акна. Спачатку ён глядзеў, як беглі за акном аснежаныя прасторы, пасля сеў, каб больш ужо не адрывацца ад газет. Халявы высокіх ботаў яго прыгнуліся пад каленямі.

Пасля цягніка, з позняй раніцы і аж да змроку, таварышы ехалі ў павольных сялянскіх санях. Ехалі гасцінцам скрозь, пакуль не зачарнеўся перад імі, крыху ўправа, хвойнік. Тады яны ўзялі ўлева, у новую вуліцу. Быў ціхі змрок. Яны выразна чулі, як па той бок мяжы, у

княжым замку, замкавая вежа вызваніла гадзіны. Яны былі ўжо дома, у тым прымежным калгасе, дзе жыў Гушка. Яго таварыш заязджаў да яго. Яны сышлі з саней і пайшлі паволі. Чорныя вежы гарадка ў мясцовасці, ачышчанай ад лесу, вырысоўваліся на змрочным адлежным небе. Раптам Леапольд Гушка паказаў рукою ў той бок, і, прыпыніўшыся, пачалі яны ўдвух глядзець туды. Управа ад гарадка, дзе быў маёнтак белавусага пана, зашыбавала раптам угару полымя. Гэта было гэтак блізка, што адсюль відаць было, як узлятаюць снапы іскраў над агнём. У вячорным небе гэта было відаць ім выразна.

# ЭПІЛОГ

## Газетная хроніка

### 1

Трэці дзень не спыняюцца вулічныя масавыя дэманстрацыі і рэвалюцыйныя выступленні нью-йоркскіх беспрацоўных і фабрычных рабочых.

У Кітаі атрады кітайскай Чырвонай Арміі захапілі новыя тэрыторыі. У Шанхаі пачалася ўсеагульная забастоўка рабочых на ўсіх прадпрыемствах.

Пачалася забастоўка англійскіх гарнякоў.

Паўстанне неграў у Амерыцы.

Забастоўка бамбейскіх тэкстыльшчыкаў перакідваецца на прадпрыемствы іншых гарадоў Індыі. Узброеныя паўстанні індыйскага сялянства.

Акруговая канферэнцыя камуністычнай партыі горнага Шлёнска ў Польшчы вырашыла спешна рыхтавацца да забастоўкі рабочых на капальнях.

Няспынныя мітынгі беспрацоўных у Варшаве.

Паўстанцкі рух сялянства ў Заходняй Беларусі і Украіне.

Забастоўкі ткачоў у Беластоку і Лодзі.

Паўстанні на каланіяльных плантацыях на выспах.

Забастоўка гарнякоў Сілезіі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . .

## 2

Д а к л а д ч ы к
*(з трыбуны польскага сойму).*
Усходнія ўскраіны Польшчы ўдубальт поўны камуністычнай агітацыі. Дык і змаганне з камунізмам тут павінна ісці ўдубальт...

Г о л а с
*(з лавы камуністычных дэпутата).*
Абярніце палову дзяржаўнага бюджэту на турмы.

С т а р ш ы н я.
Заклікаю вас да парадку.

Д а к л а д ч ы к.
Мы чулі ўчора з гэтай трыбуны нахабнае выступленне камуністычнага дэпутата...

Г о л а с.
Калі з жывога нявольніка здзіраюць скуру і калі ён будзе спрабаваць бараніцца, дык гэта, значыцца, нахабнае выступленне?

Д а к л а д ч ы к.
Мы не можам тут вырашаць спакойна дзяржаўныя справы, калі яны ўздымаюць люд на ўсялякія дэманстрацыі...

Г о л а с.
Пасадзіце некалькі мільёнаў насельніцтва ў турмы і тады будзе вам тут латвей гаварыць.

С т а р ш ы н я.
Яшчэ раз заклікаю вас да парадку. Вы, пане пасол, павінны быць удзячны за тое, што вас выпусцілі з турмы.

Г о л а с.
Я ўдзячны за гэта тым рабочым, якія сваімі дэманстрацыямі не даюць вам тут спакойна гаварыць пра шыбеніцы ім.

Пасля гэтага падняўся гармідар, выгукі. Старшыня застукаў па трыбуне, стараючыся ўлегаваць ціпыню.

. . . . . . . . . . . . . . . .

## 3

У самых бедных, забруджаных галечаю кварталах горада, на вузкай вуліцы, у пакоі старога дома, упоцемку гаварылі ціха некалькі чалавек.

— Табе, Рыгор, не можна больш быць тут.

— Выбірайся з Беластока, таварыш Чуйка.

— Табе трэба цяпер быць на самым усходзе, на сваёй радзіме. Ты там усё добра ведаеш. Ідзі пад сваю вёску.

Малады чалавек, высокі, зусім з юнацкім выглядам, неўзабаве выйшаў ціха на вуліцу. Стараючыся не нарывацца на рухавыя вочы пэўных людзей, ён прахадзіў нейкі час па вуліцах, пасля сеў на цягнік. Цягнік ішоў да канца ночы і ўдзень.

Чалавек сышоў з цягніка на глухой станцыі. У пустой «рэстарацыі» ён пасядзеў хвілін з дваццаць, нагледзеў сялянскую фурманку і паехаў. Ён быў у кажушку, і здавалася, што гэта таксама малады фурманшчык. Яны ехалі бітым гасцінцам кіламетраў з пятнаццаць і ўехалі ў глухенькі гарадок. Там ён разлічыўся з сваім фурманшчыкам і зараз жа знайшоў трухлявую старасвечную Ёселеву стадолу.

— Ага, таварыш малады Чуйка,— спаткаў яго Ёсель і павёў яго ў глухую каморку з дзвярыма ў стадолу,— адпачні, тут цябе ніводзін сабака не знойдзе. Я падпільноўваць буду. Паведаміць тваіх таварышоў, што ты тут, ці ты сам?..

Аднаго дня малады Чуйка ішоў у гарадку вуліцай. Было яшчэ рана. Званілі зараз аж на трох званіцах. З пустога палаца ён падаўся ў вуліцу. Там заўважыў натоўп людзей і шмат панскіх фаэтонаў. Ён ушыўся ў натоўп. Там быў вялікі касцёл сярэднявечнай архітэктуры. У нежывой позе сваёй стаялі над уваходам у яго барэльефныя постаці акамянелых біскупаў. Натоўп быў не вельмі вялікі. Шмат панскіх слуг, падпанкаў, вусатых дзядзькоў у добрых гаспадарскіх суконных світах з капюшонамі. Дзецюкі з выглянсаванымі халявамі.

Арганы зайгралі ў касцёле. Дзве маладыя гарадскія жанчыны, робячы перад глянсаванымі дзецюкамі сціплы выгляд і, разам з тым, стараючыся паказаць ім неўзаметку, што каралі ў іх спускаюцца з голай шыі на грудзі і што каралі гэтыя мала чым не падобны да сапраўдных дарагіх панскіх караляў, спявалі адна адной сумысля перад дзецюкамі:

— Як мне млосна стала, калі пан пробашч пачаў казаць пра бальшавіцкія здзекі над народам.

З скуры лузаліся, каб выгаварыць не «папросту», а па-польску:

— Невядома, ці пан пробашч по мшы будзе чытаць адозву ойца папежа рымскего, ці...

Арганы сціхлі. Дзве жанчыны неўзаметку пераміргну-

ліся з дзецюкамі і пайшлі ў касцёл. Дзецюкі рушылі за імі. У цішыні раптам пачуўся старэчы голас. Загула лера. Паджылы шляхціц выскачыў з касцёла і затрос перад старцамі кулакамі. Старцы сціхлі. Малады чалавек, што прыехаў гэтымі днямі ў гарадок, акінуў вокам старэчы натоўп. Іх было многа. Сярод іх нават і калек было мала. Проста гэта былі абшарпаныя людзі, у брудных лахманах, сціснутыя, сагнутыя. Яны выбіраліся на вуліцу і па той бок брамы пачалі размяркоўвацца паўз дубовы тын. Сярод іх быў адзін стары чалавек, белы ўвесь, аспежаны сівізною. Ён моўчкі стаяў з працягненаю рукою.

Малады чалавек зірнуў на яго, спалатнеў раптам, не ведаючы — загаварыць з ім ці не. Пасля неўзаметкі падышоў пад яго.

На замкавай вежы выбіла гадзіну. Малады чалавек тады выйшаў на рог вуліцы і стаў чакаць. Чакаў не доўга. Неўзабаве пачалі выходзіць дэманстрацыі: вучні закрытых беларускіх школ, парабкі з бліжэйшых двароў, рабочыя з пільні, з цагелень...

Чалавек далучыўся да дэманстрацыі і павёў першую калону касцельнаю вуліцаю на пляц. Там ён пачаў гаварыць.

«...Не ад мора да мора, а ад мора да СССР (а ад Віленшчыны да Міншчыны, ад Львоўшчыны да Савецкай Украіны ўдубальт) ляжыць краіна з скрываўленым целам...»

Дэманстрацыя пайшла бураю па вуліцах гарадка.

Паліцыянты стралялі, а дэманстрацыя, разышоўшыся, зноў сыходзілася і зноў залівала вуліцы. Бачылі ў гэтым людскім струмені сівага чалавека, якога раней прывыклі бачыць ля касцельнай брамы з працягненай рукою. Ён як ажыў раптам, гэтак змяніўся ён. Ён ішоў разам з усімі, падняўшы кулакі ўгару, і выгукваў наконт спаленых вёсак, наконт змучаных у турмах людзей, наконт старэчай торбы... Яго голас зліваўся з навальнічнымі гукамі запоўненых людзьмі вуліц.

## 4

Парабкі з афіцын стралялі ў панскі палац, выганяючы адтуль паліцыянтаў. Перад палацам на снезе трапятаўся, пракаланы штыхом, белавусы пан. Мазавецкі аддаў богу душу ў агні свайго падпаленага хутара. Вецер гнаў і раскідаў полымя з панскіх маёнткаў. Трашчала ў агні

смольная хвоя на панскіх аборах і стайнях. Чырвоныя сцягі з'яўляліся на скрыжаваннях дарог. Лясы жылі тысячамі паўстанцаў. Пакінуў ісці дым з фабрычных комінаў. Асірацела ад выгнанага староства гарадская ратуша. Касцельныя і кляштарныя званы баяліся абазвацца. Вячорная смуга асвечвалася полымем па ўсім даляглядзе. Паўстанцы чыталі адозвы заводаў, забастоўкі і паўстанні гарадоў абзываліся па маёнтках і вёсках. Чуліся громы з капалень, з акіянскіх флотаў, з гарачых плантацый, з кітайскіх разлегласцей, з заакіянскіх гарадоў. Праз гром і дым, агонь і кроў чуўся твар новых савецкіх рэспублік.

## ПЕРШАЯ ЧАСТКА

# ПАМЫЛКА НАТАЛІ ПАЎЛОЎСКАЙ

### I

У тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе, увосень, з захаду на ўсход бралася разбітая пад Варшавай чырвонаармейская рота. Чырвонаармейцы былі галодныя і голыя. У іх быў падвойны клопат: каб хутчэй дайсці да таго пункта, дзе яны могуць перафарміравацца, і — каб дзе чаго пад'есці. Яны ішлі скрозь пеша і мала спявалі — ім, змучаным, лягчэй было ісці моўчкі. У дні паміж першым і пятым верасня яны мінулі дробны гарадок і гасцінцам прайшлі яшчэ кіламетраў пятнаццаць, дзе іх і агарнуў вечар. Сонца заходзіла ясна, на ружовым небе абрысы гарадка вырысоўваліся вельмі выразна: над сінім засцілам ляснога далягляду можна было заўважыць востры, як іголка, верх ратушы і яшчэ штосьці ішло ўгару тупым сваім канцом — званіца ці так якая-небудзь вежа. Там, дзе надвечар спынілася рота, гасцінец быў на самым высокім месцы над усёю мясцовасцю, і разлегласць воку адсюль была вялікая. Навакол сінелі лясы і горбіліся жоўтыя ад іржышча ўзгоркі.

Рота ўзышла на гасцінец яшчэ па той бок гарадка. Каб ісці трактам, які за гарадком скрыжоўваўся з гасцінцам, то льга было б за пераходаў тры дайсці да чыгуначнай станцыі і нагрузіцца ў поезд; гэта было і ў планах вайсковага руху, але камандзір роты, відаць, меў тут свае меркаванні. Гасцінцам было кружней, гасцінец нават ішоў не да станцыі, а ў бок ад яе, аднак жа камандзір павёў роту на гасцінец, не гаворачы нікому ані слова. У гэтыя дні, як толькі ўвайшлі ў гэтую мясцовасць, ён раптам стаў не гэткі, які быў заўсёды, гэты камандзір. У яго з'явіўся нейкі дзіўны настрой: ён то быў вельмі маўклівы і пануры, то раптам ім апаноўвала як бы беспрычынная весялосць. Ён жартаваў, высвістваў маршы, вабіў свістам з прыдарожных хмызнякоў птушак, і чырвонаармейцы шчыра

смяяліся, калі ў хмызняку абзывалася птушка якраз гэтак, як свістаў іхні камандзір.

У гарадку рота пастаяла не больш, як паўгадзіны. Людзі ляжалі на непадмеценым бруку рыначнага пляца, а камандзір вельмі пільна разглядаў тубыльцаў гэтага маленькага гарадка. Здавалася, што ён шмат каго з іх ведае. Пасля ён сваёй стомленай паходкай падышоў да сялянскіх вазоў. Іх было нешта з дзесяць. Яны стаялі паміж змрочнага будынка ратушы і белага двухпавярховага дома з шыльдаю настаўніцкай семінарыі. Іхнія гаспадары былі тут жа: паўзлягаўшы грудзьмі на білы, яны маўкліва жавалі хлеб. Камандзір роты спачатку пастаяў перад імі, шырока паставіўшы свае цыбатыя ногі ў паламаных прутківх ботах і зялёных, пазацыроўваных на каленях, галіфэ. Пасля ён запытаў:

— Адкуль?

Некалькі твараў павярнулася да яго, і ён пачуў назву вёскі.

— Чырвонаармейцаў везлі,— дадаў вясёлы дробны чалавек.— А скажыце, таварыш, гэта ізноў да нас палякі прыйдуць, што вы адступаеце?

Камандзір роты нічога не адказаў і адышоўся. Неўзабаве да яго падышоў чырвонаармеец з яго ж роты. От што пачуў камандзір ад свайго чырвонаармейца: «гэтыя людзі з вазамі родам з яго вёскі, і няхай камандзір пусціць яго на адны суткі паехаць дадому пабачыцца з сваімі. Ён пасля роту дагоніць».

— А калі ты там астанешся? — адказаў камандзір.— Зараз палякі зоймуць, а ты і рад астацца!

— Не, я даганю роту.

— Не пускаю,— цвёрда сказаў камандзір.— Не маю права пусціць,— растлумачыў ён далей, не зводзячы позірку з чырвонаармейца. А пасля яшчэ выразней сказаў: — Ты сам свае галавы не маеш, ці што?

Правільна ці не зразумеў гэты чалавек свайго цыбатага і лысага камандзіра, ён пра гэта не думаў, ён думаў толькі пра тое, што даўно ўжо карцела яму. І ён папрасіўся, каб яго пусцілі, калі так, схадзіць на хвіліну да гарадскіх знаёмых.

— Праз пяць хвілін мы рушым у дарогу. Ідзі!

Чалавек, як не трэба лепш, разумеў ужо свайго начальніка. Ён неўзаметку падаўся ў суседнюю вуліцу. Сапраўды, праз пяць хвілін камандзір загадаў ісці далей, і, пакуль сонца спусцілася да захаду, рота прайшла яшчэ

Пятро Тадаровіч далёкі быў і заўсёды, а яшчэ больш цяпер, у гэтыя хвіліны, ад таго, каб да роспачы напінаць нервы і забывацца на тое, што над ім вісіць смерць. З такою думаю можна звыкнуцца, але ўсё адно чалавек звычайны тут не пераступіць мяжы, за якою пачалася б абыякавасць да свайго жыцця. Таму Пятро Тадаровіч лёгка прывык да смерці сотняў і тысяч людзей навокал сябе. Перадсмяротныя шэпты нейкага невядомага цяпер у акопе не здзівілі яго. Ён адно падаўся крыху глыбей, прылёг плячыма да спусцістай, разбуранай гарматамі акопнай сцяны і маўчаў так колькі хвілін. Чалавечы няясны, можа, нават непрытомны, шэпт ішоў крыху зводдаleку. Раптам Пятро Тадаровіч пачаў заўважаць асобныя словы ў гэтым шэпце, выразна ён ужо чуў:

— Хто там? Хто там? Сюды. Сюды.

Пятро Тадаровіч, не думаючы лішку, падаўся ў цемень акопа. Яму дзіўна стала, што чалавек шаптаў не зусім ужо гэтак блізка ад яго, як яму раней здавалася. Яму прыйшлося ступіць акопам не менш, можа, як дваццаць пяць крокаў. Падышоўшы блізка, ён пачуў, што хтосьці шэпча, і не гэтак ужо непрытомна і слаба: можна было добра разбіраць і словы, адно што яны раней заглушаліся адлегласцю.

— Хто? Хто? — шаптаў хтосьці невядомы.

— Салдат,— сказаў Пятро Тадаровіч і на ўсялякі выпадак дадаў, падумаўшы: — Ранены ў нагу.

— Памажыце мне,— сказаў невядомы.— Я палкоўнік і ранены ў жывот.

Па-першае, гэта быў палкоўнік. Па-другое, ён гэтак маліў, прасіў. Значыцца, усё пераблыталася, ніякіх ранейшых устанаўленняў. І незвычайнасць найшла на гэтага радавога салдата, нявольніка, слаба раненага ў нагу, Пятра Тадаровіча. Без усялякіх чыноў, а так проста і разам з тым спелячы ў сабе пэўныя думкі, што пачалі ўжо набываць выразнасць, ён пачаў гаварыць з палкоўнікам.

— Што ж мне зрабіць, як памагчы?

— Вынесці мяне з акопа на гару, калі больш нічога не можаш. Тут акопы назаўсёды астануцца пустыя, ніхто сюды не загляне, і мне тут давядзецца канчыцца. На гары можа мяне заўважыць хто-небудзь. Калі ж можаш, занясі, ці як, да санітараў. Або заўваж месца і ідзі скажы, што тут ляжыць ранены палкоўнік. Ты хадзіць можаш?

— Магу, я няцяжка ранены.

Палкоўнік доўгія хвіліны маўчаў, стагнаў і адпачываў

ад сваёй нядаўняй гаворкі. Як варушыўся — новыя рамяні паскрыпвалі на яго плячах.

— Я табе дакляраю,— захрыпеў ён зноў,— белы білет...

— Значыцца, я ўжо тады ніколі не буду на вайне?

— Ніколі... Апроч гэтага, я дам табе зямлі, з свайго маёнтка выдзелю...

— Значыцца, вы белы білет можаце выклапатаць?

— Што гэта мне значыць! Урэшце, я магу даць табе гэтулькі грошай, што ты сам можаш купіць сабе белы білет. Нясі. Бяры мяне і нясі... Не бойся. Ты астанешся, калі баішся, пры мне. Ты мой дзяншчык, і больш нічога.

Салдат рашуча пайшоў у акопную цемень, абмацаў палкоўніка. Гэта быў грузны чалавек.

— Далікатна, далікатна бяры, памалу,— застагнаў ён, калі салдат, крэкчучы і ўсё ж адчуваючы і сваю рану ў назе, узваліў яго на плечы. Рамяні скрыпелі на палкоўніцкіх плячах.

Самае цяжкае — гэта было вынесці яго на гару. Прыйшлося спусціць яго на зямлю, узяць пад пахі і гэтак выцягнуць, плячыма па зямлі, галавою ўгару. Пасля гэтага і салдат, і палкоўнік ляжалі хвілін дзесяць на зямлі і абое аддыхваліся. Нарэшце салдат прыгледзеўся, заўважыў далёка ўжо ад сябе рухавае святло санітарскіх ліхтарыкаў, зноў узваліў на плечы палкоўніка і рушыў у дарогу. Ішоў ён паволі, ні то няроўным полем, ні то купістым узбалоццем. Ногі яго ўязджалі ў зямлю. Чорныя нерухомыя абрысы ночы сталі навокал. Далёка маўчаў фронт. Зоры ўсё гэтаксама свяцілі на халодным небе.

## II

Салдат Пятро Тадаровіч атрымаў белы білет. Ён калаціўся з радасці, адчуваючы ў сваёй кішэні гэтую паперку. Гэта ўсё адбылося вельмі шпарка, як нават ён і сам не думаў. Палкоўнік з дапамогаю гэтага свайго «дзяншчыка» праз вельмі малы час быў ужо ў шпіталі ў прыфрантавым гарадку. Да палкоўніка адразу прыехала радня: родная сястра, жонка, нейкі яшчэ малады чалавек. Паны! Яны прыехалі з маёнтка. Гэты палкоўніцкі маёнтак быў у паласе вайны, але ад фронту даволі яшчэ далёка. Можна сказаць, што гэта была тая самая паласа, калі браць раўналежна фронту, дзе была радзіма і салдата Пятра Тадаровіча. Палкоўнік адно падпісаў кароткі ліст, што быў

напісаны маладым чалавекам да нейкага знаёмага начальніка мабілізацыйнымі нейкімі камісіямі. Самога ліста Пятро Тадаровіч не чытаў, але ведаў, што там наконт белага білета. Ён хадзіў з гэтым лістом, да каго ён быў напісаны, і праз некалькі дзён меў цудоўную паперку. Ён цяпер назаўсёды развітваўся з вайною! Больш таго. Палкоўнік адно малы час будзе ляжаць у шпіталі, пакуль можна стане яго перавезці. Хіба пан будзе лячыцца ў шпіталі, калі ў яго маёнтак, пакоі, слугі, грошы, усяго цераз горла валіцца? Тыдняў так праз два палкоўнік будзе дома, тады Пятро Тадаровіч з'явіцца да яго па дакляраваную аддзяку.

І ён з'явіўся. Ён атрымаў тое, што дакляраваў палкоўнік. Але перад гэтым — гэтакія хвіліны ціхай радасці, ніколі за ўсё жыццё незнаёмыя яму, перажыў гэты небарака салдат.

Гэта было тады, калі ён дабіўся дадому. Рана яго дазволіла яму пусціцца ў дарогу адразу ж. Ён ехаў, ішоў. Усё яму было цяпер лёгкая справа. Вайна цяпер ужо справа не яго! Няхай там хто сабе хоча і за што хоча (ці за што, ці за нічога!) ваюе. Няхай там сабе свецяць зоры ўначы над халодным і страшным полем, а на тым полі пад агністым громам і свістам канаюць і стогнуць людзі. Ці на гэтым баку яны будуць уміраць, ці на тым — што цяпер да ўсяго гэтага і да ўсіх гэтых людзей шчасліваму чалавеку Пятру Тадаровічу! У яго ёсць ціхі кут, з вайны ён вырабіўся, і больш нічога. Нікога ён чапаць не будзе, і яго ніхто цяпер ужо чапаць не будзе. Вайна — бядота, няхай сабе бядота агульная, але ж яму пашанцавала з яе выйсці. Галоднае жыццё дома? Цяпер ён будзе лепш жыць, палкоўнік жа яго аддзякуе за тое, што ён выратаваў яго. Назаўсёды, значыцца, Пятро Тадаровіч выйшаў з шэрагаў шэрых людзей на вайне, нават і так ён як бы выйшаў з усялякіх людскіх шэрагаў. Ён сам будзе сабе пан.

Які ён шчаслівы цяпер!

Быў пагодлівы адвячорак, калі Пятро Тадаровіч з'явіўся дадому. Накульгваючы яшчэ крыху на хворую нагу, ён падышоў да дома, увесь трасучыся ад вялікай узбуджанасці. Ён сапраўды чуў нават, як пахне трухлявы плацец каля хаты пад чырвонаю рабінаю. Сонца свяціла ў сляпыя шыбы роднай хаціны. Пад паветкаю насупраць хатніх акон ляжаў лом. Мала яго было, але ён быў складзены руплівую рукою. Пасярод двара нейкія гнілыя, разлама-

ныя начоўкі ну проста-такі ўсцешылі сэрца гэтага чалавека.

— Тата прыйшоў! — закрычалі дзеці.

І хвілін пяць была радасная ўрачыстасць. Пасля адразу чалавек пайшоў аглядаць свае вуглы, усе закуткі ў двары. Сям'я не адставала ад яго ні на крок.

З таго ж самага дня чалавек пайшоў у работу. Ён зграбаў нейкую салому на таку, скасіў нейкі ўзмежак на агародзе, малаціў нейкі мізэрны ўраджай — так пудоў дзесяць жыта на год намалаціў! А пасля падаўся да палкоўніцкага маёнтка. Гэта было нават і не лішне далёка. Там ён цёрся, зняўшы шапку, на кухні. Яго пачаставалі астачаю ад абеду панскіх слуг. Нарэшце яго павялі да палкоўніка. Той ляжаў на верандзе, а каля яго доктар пераглядаў газеты. Доктар, мусіць, ужо ведаў гэтую гісторыю, бо далікатна падаўся ў сад.

— Ах, гэта ты,— сказаў палкоўнік.

— Як ваша здароўе, ваша...

«Дзяншчык» цвёрда і выразна выгаварыў палкоўніцкі чын.

Пра сваё здароўе палкоўнік, аднак, нічога не сказаў салдату. Ён некаторы час глядзеў кудысьці паверх усяго, здавалася, што ён раптам забыўся на салдата і слухае ціхі шум дрэваў у старым садзе. Салдат вокам не зміргнуў, стаяў і цярпліва чакаў.

— Ах, гэта ты,— зноў сказаў палкоўнік.— Дык чаго ты хочаш? Зямлю хочаш ці... ці, можа, даць табе добрую службу ў мяне пры фабрыцы? У мяне фабрыка не тут, а ў горадзе, вёрст за дзвесце адсюль. А зямля тут, у маёнтку.

— Як ваша ласка будзе.

— Ну, дык што хочаш, выбірай. Доўга не думай. На фабрыку хочаш?

— Вельмі далёка, паночку. Ды нейк у горадзе я ніколі не жыў.

— Ну, дык зямлі?

— Зямля ж панская тут.

— Тут. А ты дзе хацеў?

— Таксама далёка мне з дому перабірацца. Турбатня вялікая і кішэня не вытрымае.

— Дык як я табе павінен наравіць? Ну, гавары.

Салдат анічога не мог сказаць у тую хвіліну.

— Ты можаш жыць там, а тут зямлю выпусціць. Ты і гэтак не хочаш?

— Хачу, паночку, хачу!

— Ну, дык...

Палкоўнік, злосны і зняможаны, адкінуўся на падушку, з пакутніцкім выглядам заплюшчыў вочы.

Аднак жа салдат маўчаў. Ён не ведаў, што гэтак будзе стаяць справа, ён уяўляў сабе палкоўніцкую аддзяку так сабе, адцятую ад усяго. Ён не парадзіўся з жонкаю, з суседзьмі, можа, нават. З суседзьмі?! Не з усімі, вядома, суседзьмі: як трапіў у рукі белы білет, пра гэта трэба было маўчаць. Але адзін ці два з суседзяў ці з сваякоў маглі знайсціся, якім льга было сёе-тое расказаць і пакарыстацца іхняю парадаю ў гэтай заблытанай справе.

Палкоўнік з стогнам прыўзняў галаву з падушкі і ткнуў пальцам у нейкую кропку. Уваскочыў лёкай.

— Няхай мой камісар,— сказаў палкоўнік,— выдзеліць гэтаму чалавеку з маёнтка пяць дзесяцін зямлі. Без грошай. На вечную яго ўласнасць.

Салдат падзякаваў і пайшоў следам за лёкаем у камісарскую афіцыну.

Нешта дзён два яшчэ пасля гэтага Пятро Тадаровіч цёрся ў панскім маёнтку: чакаў усё фармальнай паперкі на зямлю. Сказаць праўду, дык за гэтыя два дні ён апрыкраў там маёнтаўскім службоўцам: усё дапытваўся і правяраў, ці моцная гэта будзе паперка, ці не трэба яшчэ будзе праз усялякія там гарадскія канцылярыі праводзіць яе. Даючы яму на рукі паперку на зямлю, яму сказалі, што яна ўжо як мае быць афармлена.

На трэці дзень увечары (пазнавата ўжо было) Пятро Тадаровіч вярнуўся дадому. Цэлы дзень ён ехаў з адным салдацкім абозам. Трохі дзіўна яму было, што салдацкі абоз раптам у гэтай мясцовасці з'явіўся, але і ў лішнюю гаворку з салдатамі не ўдаваўся. Кіламетраў за шэсць ад дому яму трэба было злезці з фурманкі. Ён пайшоў пешшу. Цяпер гэта ўжо быў зусім іншы чалавек, як тады, яшчэ нядаўна, калі блытаўся ён пад халоднымі зорамі на пустым полі, ля чорных акопаў. Цяпер ужо на задні план адышоў ён сам сабе, а клопаты пра зямлю, пра гаспадарку нёс ён у сабе. Гэтакі ён быў усю дарогу. Але як злез ён з фурманкі і прайшоў крыху пад дом полем, адбылося штосьці гэтакае, што нагадала яму ўвесь час, калі ён толькі дбаў, як бы ўратаваць на плячах галаву. У першую хвіліну ён не паверыў, толькі стаў і прыслухаўся. У наступную хвіліну валасы на галаве яго заварушыліся.

Вечар даўно ўжо агарнуў зямлю. Было ціха. Гэтак было ціха, што чуваць было, як з палявых дзічак, дзе-небудзь паўз дарогу, падала лісце на зямлю. Узышоў восенны месяц. Ад гэтага спакойнага святла яшчэ цішэй здавалася на зямлі. Дзесьці далёка брахаў сабака, піснула палявая мыш. І раптам... Але спачатку чалавек не паверыў. Не можа быць! Вайна асталася далёка, чалавек на векі вечныя выратаваўся ад яе. Няхай там хто сабе хоча ваюе, каго сабе хочуць гоняць на смерць — што цяпер яму, Пятру Тадаровічу! Яму пашанцавала, і ён адгарадзіўся ад усяго свету! Але ўжо ў наступную хвіліну ён хапіўся за галаву: сапраўды ён выразна чуў артылерыйскую кананаду. Гукі гэтыя ён добра ведае! Цяпер яму ясна стала, чаму ў гэтай мясцовасці з'явіўся вайсковы абоз. Як нежывы, дайшоў чалавек дадому. На двары ён яшчэ пастаяў, паслухаў. Кананада пачыналася здорава. З гукаў можна было меркаваць, што яна далёка — але ж яе чуваць, а гэтага тут раней яшчэ ніколі не было. Дома ўсе спалі і нічога не чулі. Ён не пайшоў у хату, а падаўся на ток, на салому. Ён трывожна прадрамаў цэлую ноч. Раніцою было ціха, але апоўдні з новай сілай, мацней як уначы, бліжэй, значыцца, чуваць было вайну. Яна, значыцца, даганяла чалавека, не давала яму атрапаць ад яе рук! Яна гналася за чалавекам свежым следам, і нічога іншага чалавек не мог тут парадзіць.

Можа, яшчэ прайшло якіх два ці тры дні І за гэты кароткі час аж, здаецца, сама мясцовасць змянілася: зноў пайшлі дарогамі ўцякацкія фурманкі, і гэта ўжо былі тутэйшыя людзі, з гутаркі можна было адразу пазнаць і з выгляду (раней, быў нядаўна час, ехалі людзі з Польшчы). А яшчэ праз некалькі дзён упартага гарматнага грому дзесьці далёка войска заняло ўсю мясцовасць.

Пятро Тадаровіч нацягнуў ужо на свае растрыбушаныя драбінкі верх з пасшываных старых мяшкоў. У тыя дні ён выехаў сохнучы, ныючы, повен пакутнае смагі да жыцця і чуючы перад сабою адно — чорную навісь смяротнай навалы. У кішэні яго ляжала добра зашытая моцнымі ніткамі паперка на пяць дзесяцін зямлі з панскага маёнтка. Вайна гналася следам за ім. Яму давялося змяшацца з тысячамі ўцякацкіх фурманак па восеннай дарозе. Як ён ні ратаваўся з таго агульнага гора, яно ўсё адно спасцігла яго.

## III

Наступным годам, а можа, і двума, бачылі чалавека на брудных вакзалах, там, дзе было цясней, брудней, чарней, бяздольней. Можна было думаць, што чалавек нічога іншага не ведае, ніколі не бачыў — гэтак спакойна і панура ён увечары клаўся спаць дзе-небудзь ля сцяны, на цэментовай заплёванай падлозе, або, калі дазваляла надвор'е, на стаптанай траве ці на апыленым лопусе. Усю сваю маёмасць чалавек падсцілаў пад сябе і падкладаў пад галаву. Часамі яго бачылі, і даволі доўгі час, як ён дзень пры дні стаяў на шумных праходах з працягненаю рукою, часамі чалавек даставаў работу і рабіў вельмі цягавіта. Пануры чалавек любіў работу! А колькі ён зарабляў — пра гэта невядома. Відаць было адно тое, што ён вельмі чорны і нейкі зямлісты. Пры ім быў яшчэ хлопчык. Калі бацька быў на рабоце або калі, не маючы работы, стаяў з працягненаю рукою, хлопчык быў дзесьці сам па сабе. Варочаўся да бацькі ён увечары. Спаць яны клаліся разам, акрываючыся ўдвух адным салдацкім шынялём. Пасля ўсходу сонца бацька ўставаў: ён пачынаў дбаць пра будучыню, ён не мог згуляць аніводнай хвіліны. Кожная хвіліна павінна была даць што-небудзь у скарбніцу той будучыні.

Гэты чалавек быў нешчаслівы, але ён не заўважаў таго няшчасця — гэтак моцна і ўпарта не паддаваўся ён сённяшняму дню, каб прыдбаць сабе тое, што прыйдзе пасля. Ён як бы не заўважаў самога сябе і ўсяго, што было навокал яго: усё гэта калі-небудзь павінна мінуцца, бо нічога ж няма вечнага. І не толькі самога сябе не заўважаў чалавек. Было падобна да таго, што ён не заўважае і свайго сына. Так, раз на тыдзень папытае яго, дзе ён ходзіць і што ён робіць. Сын жа жыў ужо сваімі інтарэсамі і, здаецца, гэтаксама мала цікавіўся бацькам. Гора зближае людзей, гэта факт. Але тут чалавекам апанавала адна ідэя. І ўсё іншае пайшло ёй у ахвяру. Гэта была ідэя таго, што трэба перабыць, перагараваць гэтыя дні і зрабіць сабе тое, за што можна будзе ўхапіцца, калі цяперашняе гора пройдзе. Аднойчы паміж бацькам і сынам адбылося вось што. Сын (яму было цяпер год дванаццаць) не прыходзіў да бацькі больш за тыдзень. Апошнія дні гэтага тыдня бацька пачаў тужыць — дзе дзеўся хлопец. Хлопец прыйшоў апоўдні і знайшоў бацьку за вакзалам, на чыгунцы. Бацька біў каменне велізарным молатам.

— Зноў работу дастаў? — сказаў хлопец.

— Дастаў,— адказаў бацька.

— Я табе хачу сказаць...— загаварыў хлопец.

— Пачакай,— перабіў яго бацька,— зараз будзе перапынак на полудзень, дык тады скажаш. А то гаварыць пры рабоце нязручна. Старшыня будзе крывіцца.

Хлопец паслухмяна адышоўся ўбок і праседзеў з паўгадзіны на адкосе. Бацька заўважыў, што за гэтую паўгадзіну сын скурыў чатыры папяросы.

— От што,— сказаў хлопец, калі бацька сеў палуднаваць,— я табе скажу, што я зусім заўтра паеду адгэтуль.

— Куды?! — устрывожыўся чалавек.— Хочаш есці? На хлеб, еш.

— Не, я палуднаваў,— адказаў сын.— Я даўно ўжо жыву каля сапёрнае роботы. Кожная вайсковая часць мае пры сабе аднаго-двух гэтакіх, як я. А цяпер рота выязджае адгэтуль, дык і я з ёю.

— А можа, яна выязджае на фронт? — зусім ужо ўстрывожыўся чалавек.

— Гэта вайсковы сакрэт. Самі салдаты нават не ведаюць да апошняга моманту... Я ўжо не буду гэтакі абарванец, як цяпер. Мне салдат шые з старога шыняля на мой рост шынялец. Таксама будзе гімнасцёрка, боты, а шапка ўжо ёсць.

Бацька глядзеў на сынаву галаву і сапраўды ўбачыў новую салдацкую шапку, на хлопчыкаву галаву якраз, а на шапцы салдацкая цэшка.

— Пагоны ў мяне таксама будуць,— пахваліўся малы.

— Як жа ты паедзеш ад мяне? Падумай ты, салдат ганяюць з месца на месца, ты можаш мяне зусім страціць. Можа, мы ніколі не знойдзем адзін аднаго.

— Знойдзем. Я табе буду пісаць, а ты мне адказваць будзеш. А там я затое не галодны. Я салдацкай кашы і баршча ем колькі захачу.

— Гэта-то добра, мой сынок, гэта добра, што добрыя людзі цябе кормяць. Але мне страшна цябе пускаць ад сябе.

— Што я тут буду пры табе рабіць? А так я паміж людзей вытруся.

— Ты ў мяне адзін астаўся, з усёй нашай сям'і. (Вочы ў чалавека пачырванелі ад слёз.) Матку мы сваю пахавалі пры дарозе, як мы ехалі сюды ад вайны, на ўцякацтва. Праехаўшы вёрст сто яшчэ далей, пахавалі ў адзін дзень тваіх меншых братку і сястру. (Чалавек ужо зусім плакаў.) А праз тры дні пасля гэтага ўжо больш ехаць не

было на чым — конь кончыўся, і ўсё на дарозе кінуць трэба было: хто ў такія часы мог купіць у нас усё, што там на возе ляжала. Вайна даганяла нас. Нам трэба было ратавацца.

— Пусці мяне ехаць.

— Цяпер як мы жывом? Мы цяпер жывом абы пражыць дзень, перагараваць. І што-небудзь трэбə каб асталося ў нас на той дзень, калі вайна скончыцца, усё ўпарадкуецца, можна будзе вярнуцца дадому назад і пачаць там жыць па-чалавечы. Я табе, сынку, скажу, ты быў у мяне яшчэ зусім малы і мала што можаш памятаць. Мы ўвесь свой век з тваёю маткаю і з вамі, малымі (зноў слёзы),— не жылі, а гнілі. Мы жылі на гэтакім маленькім кавалачку зямлі, на якім хіба адно агарод можна было зрабіць, а не хлеб сеяць. Мы жылі без хлеба, без адзежы, як старыя якія.

— Гэтак як цяпер.

— А можна сказаць, што і мала лепш... Пасля мяне забралі на вайну. Няшчасце на ўсіх людзей найшло: адным ваяваць, другім кідаць усё сваё і выязджаць ад вайны ў чужы свет. Мне было пашанцавала на фронце. Я вынес з акопа раненага палкоўніка і панёс яго да санітараў. Каб не я, ён бы там зайшоўся б адзін. Палкоўнік быў якраз багаты пан, у яго і маёнткі свае, і фабрыкі свае. Дык ён мне за гэта аддзякаваў: ён мне пяць дзесяцін зямлі адрэзаў з свайго маёнтка. Вось папера на гэтую зямлю. (Чалавек дастаў з-за пазухі паперу, паглядзеў на яе і шпарка схаваў назад.) Дык я цяпер збіраю кожную капейку, кожны грош. Я лепш галодны пасяджу, а капейкі не страчу. Калі няма работы, я стану, працягну руку і ў людзей прашу, абы мне кожны дзень хоць крыху што-небудзь дадаў да таго, што ў нагавічнай паясніцы зашыта. Бо прыйдзе час, пасля вайны, калі спакойна можна будзе вярнуцца дадому. Там пяць дзесяцін зямлі, свае, уласнае (папера за пазухаю) чакае. Там нанова гаспадарка пачнецца, пагаруецца і што-небудзь выгаруецца. А на пачатак справы патрэбны грошы.

— Дык мы будзем ведаць адзін пра аднаго. Не навек жа мы разлучаемся.

— Цяпер восень. Я выхлапатаў сабе ў камітэце на зіму месца ў бараку. На цябе і на сябе... Я ўжо нават сёння начаваў у тым бараку. Добра. Дождж на галаву не лье і вецер не дзьме. Барак мураваны, раней нейкія крамы там былі. Народу хоць многа там, але паразмяшчаць там можна

будзе. На зіму печы там паставяць. А тым часам, не можа быць, каб вайна на зіму не скончылася. Вайна ўсім у косці ўелася...

— Ну, дык я з табою зранку заўтра яшчэ развітаюся. Ты заўтра робіш? Дзе ты будзеш заўтра?

— Заўтра нядзеля, работы няма.

— Дык прыйдзі на вакзал зранку. Заўтра наша часць выязджае.

Хлапчук паважна і стала сказаў гэта і пабег. Пасля пайшоў паволі, два разы азірнуўшыся на бацьку. Бацька ўжо біў з-за вуха молатам у камень.

Назаўтра зранку чалавек убачыў свайго сына.

Гэтае малое хлапчанё мела такі выгляд, як быццам бы не будзь ён паміж салдат на вакзале, дык у адзін момант зруйнуецца ўвесь свет. Хлапчанё было — у мініяцюры салдат расійскай арміі: шынялец, боты (праўда, у адзін той бот можна было яму зараз дзве нагі ўсаджваць), пагоны з сіняга сукна, учарашняя цэшка на шапцы, шырокая папруга па шынялі пад хлясцік. Малы з гордаю знявагаю да ўсяго, што толькі было перад ім, трымаўся навыцяжку, браў рукі па швах...

— Здароў! — сказаў ён бацьку.

— Не забывай мяне, сынку. Ты яшчэ малы, ты яшчэ дзіця...

Салдаты рушылі на перон, малы з імі. Ён нават меў за плячыма нешта накшталт салдацкага ранца. Бацька паспеў адно развітацца з сынам. На перон ужо яго не пусцілі. Ён выйшаў з вакзала сумны. Штосьці пакутнае цяжка варочалася ў грудзях яго. Ён чуў цяпер сябе страшна самотным, як бы сярод мора на гнілой дошцы. Ён чуў, як прыходзілі і адыходзілі цягнікі, як маршыравалі салдаты, змучаныя коні цяглі гарадскімі вуліцамі гарматы, не менш змучаныя людзі, прыбітыя, прыглушаныя, штосьці рабілі каля гэтых гармат, штосьці адзін аднаму загадвалі, гаварылі, злавалі, лаяліся, маўчалі... Восеннае сонца пякло над горадам. Вуліцы былі пыльныя. Народу было на вуліцах поўна. Званілі ў царкве. Гук быў густы, моцны, не гэтакі, як калісьці там, адкуль выгнала вайна. Адчуванне самотнасці ў чалавека было большае, як тады, калі ён астаўся адзін на вайне ля зруйнаваных акопаў. Ён прабадзяўся з паўдня па гораду, заходзіў у царкву, стаяў пад гіпнозам імшы, вярнуўся ў барак, лёг на сваё месца і маўчаў. Навокал адчувалася вайна: салдаты, уцекачы, бядота, смерць (не толькі там, на фронце, салдацкая смерць, але і тут,

яшчэ страшнейшая, у ціхіх кутках, у трантах, у брудзе, у вошах). Ён нічога не думаў больш у той дзень. Ён не мог знайсці ні пачатку, ні канцоў, ні прычын — нічому: ні вайне, ні смерці, ні голаду. Як муха ў вадзе. Ён нічога не разумеў на свеце.

У наступныя дні ён зноў хадзіў на работу. Быў яшчэ больш пануры і з яшчэ большай упартасцю абмацваў паперку на пяць дзесяцін зямлі за пазухаю і грошы ў нагавічнай паясніцы.

Ад сына ніякае весткі ён больш ужо не меў. Можа, той і пісаў бацьку што, але бацька ў бараку доўга не быў. Ён неўзабаве, мокрым і халодным восенным днём, прамок і захаладзіўся на рабоце. Назаўтра на работу ён не выйшаў, а на трэці дзень быў у вялікай гарачцы. Яму пашанцавала: праз дзён дзесяць яго завезлі з барака ў больніцу. Там ён і пракачаўся вельмі доўга, нешта аж усю зіму, да самай вясны. Калі адбывалася рэвалюцыя, ён ужо хадзіў па больнічным пакоі, падоўгу прастойваў ля акна, глядзеў на залітыя сонцам тратуары і сцены. Чалавек быў гэтымі часамі вясёлы. Перш за ўсё рэвалюцыя. Як бы ён ні разумеў яе, якую б яе ні бачыў ці, праўдзівей, адчуваў, але ведаў ён адно цвёрда і ясна: яна за яго, яна ідзе на дапамогу гэткім людзям, як ён. Як клаўся ён у шпіталі, ён вельмі старанна выбраў з паясніцы грошы, далучыў да іх паперку на пяць дзесяцін зямлі, усё гэта завязаў у хустачку і паклаў пад падушку. Хоць быў ён і ў гарачцы, але на гэта ў яго знайшлося яшчэ сілы і яснасці ў галаве. З гарачкі ён усё гаварыў пра гэтыя грошы, пра пяць дзесяцін зямлі, пра дамоўку, пра тую часіну, калі ён зноў возьмецца націраць спакойна мазалі на руках і нагах і ціха сабе ліць сёмы пот на зямлі. Больш нічога яшчэ не трэба. І нікога яму не трэба. Увесь свет па сабе, і ён па сабе. І от прыйшла аднекуль рэвалюцыя. Што такое гэтая рэвалюцыя? Яна ёсць дадатак да грошай у нагавічнай паясніцы і да паперкі на пяць дзесяцін зямлі. Цар ваяваў — цара скінулі. Буржуазія была багатая, яна магла нават здароваму салдату выстарацца белы білет. Яна ўсё можа! А бедны, просты чалавек гараваў. Дык рэвалюцыя дала ці дасць па шапцы гэтай самай буржуазіі, на карысць беднаму чалавеку. Дык няхай жыве рэвалюцыя! І Пятро Тадаровіч кожны дзень абмацваў пад сваёю падушкаю малюпаценькі пакуначак у бруднай насатцы. Там былі папяровыя грошы, але найбольш яны былі перагнаны на золата. Як і дзе чалавек даставаў гэты метал — ён сам ве-

даў. Ратуючыся сам у сабе, з сабою і сваімі спосабамі ад усялякай навалы, ён выпрацаваў у сабе панурасць, праз панурасць прафільтравалася жалезная практыка.

Ужо калі выйшаў ён з шпіталя, горад кіпеў першымі месяцамі рэвалюцыі. Чалавек ахвотна і з цікавасцю хадзіў слухаць на мітынгі, сам адчуваў у сабе тую самую рэвалюцыю, праўда, па-свойму, і з вялікаю радасцю бачыў, што сапраўды вайна дайшла да канца. Зараз ачысціцца ад вайны тое месца, адкуль ён родам, дзе тыя пяць дзесяцін яго ўласнай на векі вечныя зямлі. А да гэтай зямлі рэвалюцыя яшчэ дадасць больш зямлі. Як тады не жыць чалавеку. У такія хвіліны чалавек быў блізкі да таго, што заплача; ён думаў пра загубленую на ўцякацтве сям'ю. Ён астаўся адзін. Адзіны жывы сын яго прапаў дзесьці без вестак! У яго вачах паўставалі тыя хвіліны, калі канаві на дарозе яго малыя дзеці, яго жонка — матка гэтых дзяцей. Няхай жыве рэвалюцыя, яна скончыла вайну, яна супроць той буржуазіі, якая ўсчала вайну! (Пра гэта ён ужо наслухаўся.) Зараз ён рушыць дадому!

Ён не ведаў таго, што ў барак яму прыйшло было за зіму некалькі лістоў ад сына. Але ў бараку думалі, што яго ўжо няма жывога. Калі б нават думалі і інакш, дык не ведалі дакладна, у якім шпіталі яго шукаць. Ды, урэшце, хто гэта будзе браць на сваю галаву ці, праўдзівей, на ногі гэтакі клопат? І лісты тыя марнавалі, губілі. Чалавек, як выйшаў з больніцы, заходзіў у барак, але нічога там не дазнаўся. Цяпер ён перабраўся жыць у іншы канец горада.

## IV

Ужо ў вайну з белапалякамі той мураваны барак быў зруйнаваны ўшчэнт. Усе тыя кватэры ля вакзала былі папалены і паўзрываны. Пятро Тадаровіч гэтага ўжо не бачыў. Яго тут ужо больш ніхто не спатыкаў пасля таго, калі ён пытаўся ў бараку пра сына або пра лісты ад яго.

Раз увосень, калі канчалася вайна, малады чырвонаармеец хадзіў у гэтым месцы і прыглядаўся да асобных будынкаў, што нейкім парадкам асталіся пасля гэтакай калатні. Ён нічога тут не пазнаў, нават самы вакзал стаяў, як шкілет: без вокан, без страхі, абсмалены, абкураны. Цягнікі хадзілі, але спыняліся яны ўжо крыху далей, дзе да часу выбудавалі нейкую паветку з дошчак. Пад гэтай

паветкай малады чырвонаармеец і чакаў раз пад вечар свайго цягніка. Ён быў не адзін. Нешта было з ім яшчэ чалавек трох вайскоўцаў, старэйшых за яго. Заходзіла сонца, была восень, суха было, ясна. Наводдалек шумеў горад. Адгэтуль відаць былі маўклівыя коміны спыненых заводаў, разбураныя вайной муры. Свежыя сляды вайны яшчэ не зацягваліся часам і чалавечаю працаю. На ўзгоркавым полі, за горадам, часамі відзён быў чалавек з плугам. Праходзілі людзі сцежкамі ў поле і ў горад...

Паміж вайскоўцамі адбылася гэтакая гаворка.

— Я хадзіў, хадзіў,— сказаў самы маладзейшы чырвонаармеец,— і дарэмна.

— Я табе казаў,— адказаў другі,— гэтулькі часу прайшло, і вайна гэтак тут пастаралася. Ты або неразумнаўпарты, або наіўны, як дзіця.

— Ты нічога не разумееш, каб у цябе самога што-небудзь было падобнае, тады б ты мог зразумець.

— Я і так разумею.

— Не, не разумееш. Ты сабе можаш уявіць, што я, скажам, зусім забыўся на свайго бацьку, ну, зусім, ніколі нават і не ўспамінаю яго. А ён жа пра мяне думае...

— Не, я гавару не пра гэта, а пра тое, што ты ўсё адно не мог яго так знайсці і гэта сам наперад ведаў, а аднак пайшоў вандраваць па папялішчах на цэлы дзень, нават больш.

— Я распытваў, заходзіў у тыя сем'і, дзе яго ведалі... Але не гэта важна тут у мяне. Я і сам ведаў, што не знайду яго, але...

— Але сам сабе давёў, што шукаў яго, што сумленне тваё перад бацькам чыстае?

— Няхай сабе і гэтак. Справа, бачыш, вось у чым. Ты не забыўся яшчэ, вядома, калі мы забіралі тую мясцовасць, дзе было вельмі шмат партызанаў. Там, дзе нам было б вельмі цяжка, каб не памаглі нам партызаны. Дык от у той мясцовасці праходзіць гасцінец. Памятаеш? Мы з табою ляжалі ўначы ля самага гасцінца, у мокрай ад расы траве, пад змрочным святлом маладога месяца. Там ля дарогі ляжала куча каменя, у тым месцы, дзе палетак узбягае, здаецца, на самы гасцінец. Я табе тады быў паказаў на тое каменне, а ты быў падумаў, што я там заўважыў нейкі рух і пачаў прыглядацца...

— Памятаю. Ну, ты мне тады гаварыў, што там пахаваны твае малыя брат і сястра, каля тых каменняў.

— Ты пачуў гэта як факт. І гэта зусім натуральна.

Але мне гэта больш як факт. Я тады быў малы, але самы большы з дзяцей майго бацькі. Я памятаю ўсё. І гэтае «ўсё» — трэба, каб ты зразумеў. Чалавек хавае сваіх дзяцей, зараз двое. А за некалькі дзён да гэтага ён пахаваў сваю жонку — маці гэтых дзяцей. І от, калі ён ужо засыпаў сваіх дзяцей зямлёю, калі ўжо назбіраў каменьчыкаў, і на гэтай магіле гэтак, як рабілі яго бацькі і дзяды, вылажыў з гэтых дробных каменняў крыж, тады глянуў на мяне, на дзіця, на ўсё тое, што асталося ад яго сям'і. Справа не ў тым, што ён плакаў ці не плакаў, што ён енчыў, кідаўся на гэтую магілу тварам. Справа ў тым, што ён быў як малое дзіця. Ён анічога не разумеў, што гэта з ім і з людзьмі робіцца. Ён тады, паглядзеўшы на мяне, сказаў мне, гэта я назаўсёды памятаю: «Чалавека апаноўваюць з усіх бакоў няшчасці, і хто здолее выратавацца, той шчаслівы. А таксама трэба спагадаць людскому гору. Цяпер нам будзе добра, каб хто нам, сынку, з табою паспагадаў». Мы ў той дзень да самага вечара прасядзелі з бацькам ля гэтай магілы. Я, малы, назаўсёды памятаю тое месца: паласу вёсак, глухі горад непадалёку, камяністы ўзгорак, на ім кучка хвойніку і ўбаку маёнтак. Я табе пасля тае начы паказваў той маёнтак. Мясцовасць тую я пазнаў адразу, як толькі наша часць падышла была тады і злучылася з партызанамі. Але я адышоў ад таго, пра што расказваю. Дык от, як сонца пачало заходзіць, мы з бацькам сабраліся рушыць далей у дарогу. Вайна гналася следам за намі. Мы паехалі на сваім здохлым канючку. Памятаю, я сядзеў унурыўшыся, у лахманах, бацька ў перадку. Я ўсё, памятаю, хацеў дачакацца зручнага моманту, запытацца ў бацькі, калі мы і дзе зноў спаткаем і возьмем з сабою сваіх, тых, што пазакопвалі ў магілах пры бітай дарозе, але ўсё баяўся запытацца, бо ведаў, што бацька ад гэтага яшчэ горш гараваць пачне. А ў гэтым кірунку ішлі тады мае дзіцячыя думкі таму, што, калі ўмірала на возе маці, яна сказала мне: «Не плач, маё дзіця. Я гэта на кароткі час пакіну вас, пасля, нават хутка, мы зноў спаткаемся». От і ўсё, чым яна магла ў тую страшэнную хвіліну пацешыць мяне. Пекла гэта ці не, калі цэлыя пакаленні гэтак жывуць і ўяўляюць сабе свет? Сама што мы выехалі і далучыліся да цэлага шэрагу ўцякацкіх незнаёмых фурманак, як убачылі, што з маёнтка на тракт выязджаюць два аўтамабілі. Бацька мой у гэты момант гаварыў мне: «Што ж, хто багаты, таму што! У таго ніхто не памрэ гэтак у дарозе. Чорт яго не возьме гэтакага. Таму ў горла мядо-

выя рэчкі самі цякуць. Таму вайна не страшна». У гэты самы момант бацька, яшчэ не скончыўшы гаварыць, раптам змоўк і рвануў з галавы шапку. Крыху прыўзняўся з свайго месца і скланіўся з прыніжанасцю малога чалавека перад вялікім. Гэта два аўтамабілі праязджалі паўз нас. Здаецца, чалавек з пярэдняга аўтамабіля пазнаў майго бацьку, бо (я тады гэта добра заўважыў) кіўнуў галавою па яго прывітанне. Але не спыніўся. Аўтамабілі адно бліснулі паўз нас. Бацька шукаў разрыўкі. Ён ішоў з суседам па фурманцы з боку дарогі і расказваў яму, што гэтага пана ён выратаваў на вайне нядаўна. Пан гэты палкоўнік нядаўна быў, а цяпер, мусіць, ад вайны з свайго маёнтка выехаў. Але чаго ён з гэтага маёнтка выехаў?

— А гэта ж таксама яго маёнтак,— адказаў сусед.— Я ведаю. У яго маёнткі скрозь паўз гэты гасцінец.

— Дык вайна ўсе яго маёнткі пазаймае.

— Халера яго не возьме. У яго фабрыкі па гарадах. І банкі пад яго абладаю.

— Праўда, чорт яго не возьме,— стала згадзіўся бацька.

Я не магу не шукаць бацькі. Я павінен яго знайсці. Мы от скончылі вайну. Я адчуваю цяпер сябе гэтак, як можа адчуваць сябе гаспадар на разбуранай гаспадарцы. Ён ведае, чаму і як разбурана гаспадарка, як яе падняць на ногі і з чаго пачынаць. І я цяпер думаю пра свайго бацьку гэтак, як калісьці, напэўна, ён думаў пра мяне, калі я, малое дзіця, адно асталося на яго растрыбушаным возе. Я шукаю цяпер бацькі, думаючы пра яго гэтак, як можа думаць бацька пра малое дзіця...

— А можа, ён цяпер нават апярэдзіў цябе. Рэвалюцыя і новая вайна прайшлі ўжо з таго часу. Не жыў жа ён у паветры...

Яны канчалі гутарку ўжо ў цягніку.

## V

Пятро Тадаровіч назаўсёды пакінуў у памяці хмурны дзень позняй вясны, калі ён з'явіўся «дадому». Хаты ён там не знайшоў, ледзьве пазнаў тое месца, дзе яна калісьці стаяла. Цалюткі той дзень ён прасядзеў на камені. Камень астаўся на месцы, раней ён падпіраў з вуліцы хатні вугал. Ён кідаўся то ў вялікую роспач, калі думаў пра адзінага свайго сына, які дзесьці «бадзяецца па свету», думаў пра сям'ю, што загінула на чужых дарогах, пра сваё адзіноцт-

ва; то апаноўвала яго радасць і ўздым да працы і дзейнасці, калі абмацваў ён у кішэні грошы і паперку на пяць дзесяцін зямлі. Цяпер трэба пачынаць усё спачатку.

І ён пачаў усё спачатку, адзін. Дзень той першы прайшоў як бы ў нейкай суглядальнасці. Змеркла. Ён сядзеў, пасля ўстаў і пайшоў дарогаю. Вярнуўся назад, выбраў месца на зямлі, лёг, прадрамаў сяк-так ноч, узняўся раней за сонца і пакінуў назаўсёды тое месца. Ён падаўся на месца тых пяці дзесяцін. Палова маёнтка была зруйнавана, але пан пачынаў ужо яго адбудоўваць. Зямлю сваю ён атрымаў, як толькі паказаў палкоўніцкую паперку. Але самога палкоўніка ён ужо не застаў у маёнтку. Якраз у тыя самыя дні палкоўнік выехаў камандаваць палком легіянераў. Пачыналася савецка-польская вайна.

Пятро Тадаровіч вельмі шпарка выкапаў сабе зямлянку на той сваёй зямлі. І як толькі начаваў у ёй першую ноч, адчуў, што гады прайшлі, сям'я загінула, вялікая самота пануе над ім, што ўсё адно не ўцёк ён ні ад вайны, ні ад усіх іншых няшчасцяў; гэтыя няшчасці якраз у той самай меры навісалі над ім, як і над усёю рэштаю людзей на свеце. Як быццам бы ўжо нейк і нецікава яму стала займацца гэтымі пяцьма дзесяцінамі зямлі. Нашто яму ўсё гэта? Але ён не мог сядзець рукі склаўшы, ды і трэба было жыць. І ён варушыўся на сваіх пяці дзесяцінах. Ён пусціў у ход з кішэні дарагі метал — сваю кроў і мазалі, і паставіў нейкую хаціну; у першы год пасеяў палавіну поля, набыў нейкага канючка. Ён чапляўся за зямлю, за традыцыі працавітага простага чалавека, за жыццё. Ужо да таго моманту, калі вайна была на пераломе, у самыя гарачыя яе часы, ён ужо меў сабе другую жонку — добрую, працавітую жанчыну. Усё пайшло лацвей; вырастала перспектыва новай сям'і. Чалавек ажыў, забыўся на свае ранейшыя сумныя трывогі. І зноў ён стараўся не думаць пра вайну. Няхай сабе ваююць! На ўсялякі выпадак ён яшчэ хаваў белы білет з ранейшай вайны. Але аднойчы ён зноў пачуў гарматны гул. А праз некалькі дзён выехала з маёнтка панская сям'я. І толькі. Больш ніхто не выязджаў, хіба адно панскія, не простыя, слугі. Пятро Тадаровіч усё яшчэ думаў, што вайна неяк пройдзе паўз яго. Але аднойчы зранку легіянеры выгналі яго ў абоз. Ён пачаў быў адмаўляцца, але нейкі старшы над гэтымі салдатамі (чына Пятро Тадаровіч не ведаў) сцебануў яго нагайкаю цераз плечы. Цяжарная жонка яго кінулася ратаваць мужа, але яе той самы начальнік збіў гэтак, што яна ледзьве дапаўзла

да пасцелі. Так ён і пакінуў яе зусім хворую, без догляду. Ён павёз нейкае вайсковае дабро. Яго мучыла думка пра хворую жонку, пра яе цяжарнасць, пра яе адзіноцтва — мучыла тое, што зноў вайна не мінула яго; чапае няшчасце ўсіх людзей, чапае і яго. Раз уначы ён паспрабаваў уцячы. Ён ціха вывеў з аглабель каня, як усе паснулі, правёў яго крыху, а пасля паехаў конна на ім. Яго заўважылі, вярнулі і збілі да паўсмерці. Так білі, што ён паспрабаваў, сцяўшы зубы, бараніцца: ён пхнуў кулаком у грудзі вайсковага начальніка. Пасля гэтага ён сам ужо далей ехаць не мог. Каня і фурманку пагналі без яго, а ён праляжаў дзён тры ў кустах ля дарогі, а пасля пачаў блытацца па ўсёй мясцовасці, не могучы прабіцца праз фронт туды, дзе была яго хата і дзе ўжо стаялі бальшавікі... Дабіўся ён дадому праз немалы час, калі ўжо зноў легіянеры занялі тую мясцовасць. Там ён знайшоў жонку зусім хворую — збітая тады вайсковым начальнікам, яна нарадзіла нежывое дзіця і сама з таго часу ледзьве хадзіла. На трэці дзень пасля таго, як Пятро Тадаровіч з'явіўся дадому, хату яго абкружылі вайскоўцы. Хату гэту вінавацілі ў тым, што ў ёй мелі прытулак партызаны: хата стаяла за маёнткам, ля лесу, з яе стралялі па маёнтку тады, калі з яго выязджаў на вёску карны атрад польскай арміі.

— Мяне тады нават дома не было,— пачаў прасіцца Пятро Тадаровіч.

— Значыцца, ты сам недзе з імі быў!

Чалавека забралі і пагналі немаведама куды.

## VI

У тысяча дзевяцьсот трыццаць другім годзе зімой даволі-такі стараваты, але яшчэ моцны з выгляду чалавек хадзіў па панскіх дварах, апытваючы, ці не можна дзе астацца за парабка. Мясцовасць была — паўднёвая частка Заходняй Беларусі. Чалавек хадзіў доўга, нарэшце яму пашэнціла: за парабка яму неяк усё ж удалося астацца. Ён закватараваў у агульнай парабчанскай афіцыне — сям'і ў яго не было.

— Дзе ж твая сям'я, чалавеча? — запыталі ў яго парабкі.

— Ат,— адказаў чалавек,— няма сям'і. За войны ўсё пагінула. Я ад вайны ўцякаў, па Расіі бадзяўся...

Парабак быў гэтакі самы, як і ўсе. Гэтаксама рабіў,

гэтаксама бедаваў, што, можа, давядзецца астацца без работы, бо збяднелыя людзі прагнуць абы-дзе астацца на службу, абы не памерці з голаду, а работы нідзе няма. Дык парабкам зменшваюць і так малы заработак. У каго сям'я, дык хоць кладзіся ды канай.

— Дык чаго ты вярнуўся сюды? Парабкаваць?

Чалавек не расказаў пра тыя пяць дзесяцін зямлі. Ён гаварыў гэтак:

— Тут таксама людзі патрэбны.

— Нашто яны тут, і так рабіць няма чаго,— ні то жартаваў, ні то стала сказаў хтосьці.

Парабак загаварыў:

— Работа ёсць, колькі хочаш. Адно рабі.

— Хіба панскія двары паліць? (Нібыта жарт, але зусім не жарт.)

— Нашто паліць? За гэта па астрогах цягаць пачнуць.

— А каб не цягалі?

— Дык тады і паліць не трэба было б.

Так і дайшлі з гаворкі неўзаметку да таго, што трэба паліць панскія маёнткі.

— Чаго ж ты ўсё-такі варочаўся сюды, чалавеча? Калі варочаўся, дык, значыцца, дамоўку тут маеш. Дзе ж яна, што ты ў парабкі пайшоў?

Чалавек, калі ўжо зжыўся добра з усімі парабкамі, калі ўжо ўведаў усіх, расказаў усё як мае быць пра сябе.

— Мяне як пагналі былі другі раз, дык жонка памерла, з нуды, з хваробы пасля нежывога дзіцяці. Я думаю, што хата мая ўжо не стаяла доўга на тых пяці дзесяцінах зямлі. Калі я на трэці год вярнуўся, пяць дзесяцін адышлі пад асадніка. Я стаў жабрак. Я пайшоў па свету шукаць работы. Меў я крыху работы ў горадзе. Пасля сюды падаўся. Нічога цяпер не маю. Рукі свае адно.

— Каб ты ведаў, што давядзецца табе гэтак, дык не ратаваў бы тады на вайне таго палкоўніка.

— А можа б, ты, чалавеча,— сказаў другі,— цяпер як-небудзь дабіўся да таго самага палкоўніка. Ты ж яму быў тады зрабіў, не жартуючы сказаць, вялікую ласку, як сам расказваеш. Няхай ён цяпер цябе папава аддзякуе. Ён астаўся, з тваё ласкі, жывы, каб панаваць, а ты яго выратаваў, каб гараваць. Ліха яго не возьме, калі і цяпер табе дасць як жыць на свеце. Ён цябе павінен

успомніць, дабіся адно да яго. Жыве, як у раі. Магнат. Маёнткі, фабрыкі.

— Дык, можа, ён мне паможа, каб не гараваць на свеце. Ну, дык што з гэтага? Я пакіну, скажам, гараваць, але ж табе ад гэтага не стане лепш. Мільёны людзей гаруюць, так і астануцца гараваць. Так ці не?.. Вы ведаеце, што цяпер вырабляюць яго гэтыя фабрыкі, фабрыкі гэтага самага майго знаёмага пана палкоўніка? (Ён цяпер напэўна ўжо ў большых чынах.) Ён сваю фабрыку пусціў на выраб вайсковых матэрыялаў. Чаго ён, значыцца, хоча? Вайны. Каму вайна — смерць і гора, а яму — заработак. Думайце самі...

Парабак не ўбыў доўга на адным месцы. Неўзабаве ён ужо зноў хадзіў па маёнтках, шукаючы службы, і па вёсках, шукаючы работы. Пасля ён быў нейкі час у горадзе — і там усё шукаў работы.

Раз загарэўся панскі маёнтак. Праз тры дні згарэў другі. Каля таго самага часу сяляне выгналі з вёскі падатковага чыноўніка. Карны атрад адразу з'явіўся на месца. Ён арудаваў шмат дзён і выехаў пасля ўжо таго, калі спустошыў і ажабрачыў людзей. Як толькі атрад выехаў, адразу ж з'явіўся туды, неўзаметку, той самы парабак.

— Работы ў горадзе я не дастаў,— сказаў ён,— буду спрабаваць шчасця зноў тут.

Праз некалькі дзён зноў загарэўся панскі маёнтак.

Той самай зімы, пад вясну, на хімічнай фабрыцы, у горадзе, баставалі рабочыя. Да хімікаў далучыліся рабочыя ўсіх гарадскіх фабрык і заводаў. Шматтысячная дэманстрацыя сышлася на пляцы і стала на мітынг. Пасля мітынгу, калі ўжо з'явілася войска і паліцыя, выйшаў вялікі вайсковы чын. Ён хацеў штосьці сказаць.

— Я гавару вам ад імя гаспадароў тых прадпрыемстваў, дзе вы робіце забастоўкі, ад імя арміі Жэчы Паспалітай і ад імя дзяржаўнай улады...

Камяні і кавалкі цэглы пасыпаліся ў яго. Ён шпарка рушыў у свой закрыты аўтамабіль. Дэманстрацыя рынулася ў бакавыя вуліцы. У першым шэрагу першай калоны ішоў Пятро Тадаровіч. Ідучы, ён гаварыў свайму суседу:

— Я яго адразу пазнаў. Гэта той самы палкоўнік. Мне страшна хацелася кінуцца да яго і палажыць яго на месцы. Я яго калісьці выратаваў, я яго і забіў бы.

У тыя самыя дні, на тым месцы, дзе калісьці быў той уцякацкі барак, чалавек праглядаў газеты. Ён сядзеў у малым пакоі. З акна відаць быў даўно ўжо адбудаваны вакзал. На месцы колішніх прывакзальных драўляных дамкоў і хат быў заліты асфальтам пляц. На месцы барака і ў глыб вуліцы вырас велічэзны хімічны завод. Чалавек, што праглядаў газеты, сядзеў у дырэктарскім кабінеце гэтага завода. Перад ім ляжала зводка заказаў на штучныя ўгнаенні. Спачатку ён толькі праглядаў газеты, пасля палажыў газеты на стол і пачаў чытаць пра паўстанні, забастоўкі, дэманстрацыі, расстрэлы за мяжамі. Прачытаўшы, ён задумаўся. Пасля ціха сказаў, апусціўшы галаву на рукі:

— А бацька ўсё калісьці думаў пра тыя пяць дзесяцін зямлі... Калі жыве ён, дзе і як мне знайсці яго?

# МАКАРКАВЫХ ВОЛЬКА

Каапературар Сафрон Дзядзюля вельмі заўзята расказваў, што прыцемкам, спускаючыся з высокага сельсавецкага ганка, ён убачыў такі малюнак: нейкая незнаёмая жанчына шпарка выйшла з-за дубовага паркана, які абгароджваў царкву і могільнік навакол яе, і ўпэўнена пайшла да таго месца, дзе калісьці была брама. Не знайшоўшы іншага спосабу ўвайсці ў могільнік, жанчына пералезла цераз жэрдкі, якія на месцы брамы былі наглуха папрыбіваны канцамі да слупоў. Паркан быў высокі, і Сафрон Дзядзюля не мог бачыць, што жанчына рабіла на могільніку. Ён толькі заўважыў, што яна адразу накіравалася кудысьці за царкву, дзе чатыры вязы густа ўсцілалі зямлю жоўтым лісцем. Ужо зусім было цёмна, калі жанчына выйшла з могільніка. Стоячы за рогам паркана, Дзядзюля бачыў, як яна некалькі разоў азірнулася на царкву і цяпер ужо зусім паволі пайшла ў вуліцу. Неўзабаве жанчына зайшла, мусіць, у адну з канцавых хат, бо раптам яе нідзе не відаць стала.

Постаць і хада гэтай жанчыны непрыемна нагадалі Сафрону Дзядзюлю адну асобу, раптоўная думка пра якую разварушыла даўнюю прошласць. Успаміны гэтыя былі прыкрыя. Але з-пад гэтай прыкрасці даволі ўпарта высоўвала галаву ганарыстае задаваленне.

Гэта было таму назад год дзесяць. Сафрон Дзядзюля сватаўся да Макаркавых Волькі. Вольцы тады было яшчэ не больш васемнаццаці год, і гэта была самая лепшая танцорка і заўзятая весялуха на ўсю вёску. Сям'я Макаркавых была бежанская. Яшчэ ў імперыялістычную вайну тут з'явіўся высокі чалавек з жонкай і малою дачкою. Прыехаў ён на сытым маладым кані. Сафрон Дзядзюля быў тады яшчэ падростак і разам з іншымі, такімі як ён, падшывальцамі, цёрся каля бежанскай фурманкі, пакуль высокі гаспадар яе хадзіў па хатах і апытваў прытулку. Бачачы на возе толькі адну бабу з малой дзяўчынкай, Сафрон так асмялеў каля чужога каня, што надумаўся навырываць з яго хваста валасні сабе на вуду. Конь хоць быў у аглоблях, але ўхітрыўся так зачапіць нагой Сафрона, што той адразу адцураўся валасні. Дзяўчынка на возе зарагатала. Сафрон адбегся, хапіў сукаваты пошвырак і смальнуў каню ў бок.

Бежанец астаўся ў вёсцы, і праз пэўныя гады Сафрон

Дзядзюля пачаў ныць па чорнавалосай Вольцы. Ён хадзіў за ёю доўга, але ў яе і ў думках не было ісці замуж, і не толькі за яго, але за каго б там ні было. Яна хацела ехаць вучыцца, і от аднойчы, не ведаючы, як ад яго адчапіцца, яна сказала яму ні то стала, ні то жартам:

— Я за цябе не пайду, бо ты такі...

— Які? Ну які?

— Ты такі, што абы дзе сеў, то пасля цябе заўсёды астаецца куча смецця, попелу з папяросы, пяску і гразі з-пад ног.

— Ну, а больш? — перабіў ён, увесь чырвоны ад злосці.

— Калі ты возьмеш у рукі якую-небудзь рэч, то адразу пачнеш на ёй цвіком, шклом ці хоць запалкай вырысоўваць сваё прозвішча і зглуміш тое, што трымаеш у руках.

— А яшчэ?

— Стол, за якім ты сядзіш, заўсёды астаецца пасля цябе зрэзаны нажом і сколаны. А на кожным лісце паперы, які трапіцца табе пад руку, ты сто разоў распішашся...

— Ну, кажы далей!

— Што ж далей?.. Ну, ты пусты ганарлівец... і яшчэ — кожнага любіш абсмяяць... От зімой, я памятаю, мая маці несла ваду і, пакаўзнуўшыся, упала, а ты пасля рагатаў, што, пакуль яна ўставала, у яе голыя калені відны былі.

Апошнія словы Волька сказала гнеўна, гнеў гэты явіўся ў яе нечакана, пры ўспаміне аб гэтым выпадку.

Усё гэта было праўда, і тым больш зняважыла высокія Дзядзюлевы пачуцці. Праз паўгода Волька паехала вучыцца на рабфак, а яшчэ праз паўгода ёй наўздагон пайшла заява аб тым, што яна «лісіца ў воўчай скуры» і не проста пайшла вучыцца на рабфак, а «пралезла» туды, і калі яна «працягвае» там вучыцца, то «гэта няправільна», бо бацька яе заўсёды трымаў сытыя коні. «Пад гэтага каня страшна было падысці», — такія гэта былі кулацкія стаеннікі. Усім было вядома, што ў тыя часы Вольчын бацька меў толькі і занятку, што з ранку да вечара вісець крукам у сельсавеце, дамагаючыся даведкі, што ён ніякі не кулак. Ён гаварыў, што ў часы бежанства сыты конь у яго быў таму, што ён, каб уцячы ад гарматнага агню, прадаў, што меў, да апошняй ніткі і купіў каня.

Але Дзядзюля быў вялікім актывістам. Хоць работа ў яго дома і стаяла, але затое ён быў практыкам у тым, каб лезці ў цэнтр «вялікіх» спраў. Ён пакрысе лез у кааперацыю, у малочную арцель, а пасля і ў сельсавет. Нейк

так выходзіла, што ён заўсёды трапляўся пад рукой, заўсёды ўсё ведаў, заўсёды пра ўсё мог тонка здагадацца, і нават самыя лепшыя працаўнікі так да яго прывыкалі, што трацілі патрэбу падумаць пра яго, а што гэта за чалавек такі? У гэтай справе Сафрон Дзядзюля быў сапраўдны талент, можна сказаць, глыбокі і тонкі. З некаторага часу ён пачаў нават дабірацца да раённага цэнтра, каб прымасціцца там, калі не на службу, то на годнасць раённага актывіста. Але райвыканком быў ад яго дома далёка, і Дзядзюля задаволіўся тым, што пакінуў за сабой агульнапрызнаную годнасць то «душы ўсіх спраў», то «цэнтра ўсіх спраў» у сельсавецкім маштабе. Вядома, з такога чалавека кпілі ў кожнай хаце, але за вочы. У вочы ж ніхто не хацеў з ім звязвацца, кіруючыся прыказкай, што «воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць». Скончылася тым, што словы «душа» і «цэнтр» з'ядналі разам і пачалі зваць Дзядзюлю «цэнтральнай душой». І от гэтая «цэнтральная душа» здолела так усадзіць свой нос у сельсавецкія справы, што Вольчын бацька ніякай даведкі не дабіўся. Злосны на ўвесь свет, ён напісаў дачцэ горкую праўду, што не мае больш сіл і цярплівасці.

Даходзілі чуткі, што Вольку з рабфака звольнілі.

Але дадому яна, аднак, не прыехала. Яна нібыта недзе асталася на працу, а вечарамі хадзіла ў вячэрнюю школу. Як бы там ні было, яна аднойчы ўлетку прыехала дадому на два тыдні з прычыны хваробы маці. Маці памерла і была пахавана ў тым далёкім кутку могільніка пад вязамі, куды цяпер хадзіла прыцемкамі незнаёмая жанчына. Пасля смерці маці Волька была яшчэ дома дзён чатыры. Яна крыху змянілася — пасталела, выраўнялася з паставы і стала яшчэ прыгажэйшая, як была.

Дзядзюля бачыў яе здалёку, і, як толькі яна паехала ў свой горад, следам за ёю пайшла заява, што яна ў свой час была звольнена з рабфака як кулацкая дачка. Здарылася так, што бацька яе тыдняў за пяць да яе прыезду купіў быў на гадоўлю цяля. Пасля пахавання жонкі, выпраўляючы Вольку ў горад, ён цяля прадаў і грошы аддаў ёй. Яна не хацела браць, але ён упрасіў яе: яму было прыемна хоць так выказаць сваю сардэчнасць да сваёй дачкі, якая толькі адна і асталася цяпер у яго. Такім парадкам, у Дзядзюлеву заяву было ўпісана, што апошнім часам Вольчын бацька займаецца спекуляцыяй цялятамі.

Зноў пачалі даходзіць у вёску чуткі пра Вольку. Гаварылі, што начальнік той установы, дзе яна працуе, пры-

слаў сюды ў сельсавет запытанне. Але ніхто не ведаў, што Дзядзюля зноў уцёрся ў гэтую справу. Поўны задавалення, ён слухаў гаворкі, што Волька нібы без працы. Але праз нейкі час Волька пачала раптам прысылаць бацьку грошы. Устрывожаны Дзядзюля пачаў збіраць весткі пра Вольку, але бацька яе раптоўна памёр, і пахавалі яго суседзі: Волька не прыехала. Больш таго, яна нават не адказала на тэлеграму, якую ёй далі. У тым, значыцца, горадзе яе ўжо не было. Рад — няволя, а Дзядзюлю прыйшлося забыцца на ўсю гэтую справу. Праз некаторы час Волька прыслала бацьку грошы, але іх ніхто з пошты не забіраў, і яны пайшлі назад. Узнепакоеная Волька напісала бацькаваму суседу, і той адказаў, што бацька памёр і пахаван побач магілы маці. Пра Вольку больш нічога не было чуваць.

Жывая карціна ўсяго гэтага і паўстала перад Дзядзюлем, калі незнаёмая жанчына нагадала яму Вольку. З задаваленнем думаючы аб тым, што ён сваімі заявамі адпомсціўся Вольцы за колішнюю знявагу, Дзядзюля спакойна клаўся спаць, акругліўшы свае думкі фразай: «Цяпер мы з ёю квіты».

Назаўтра быў ясны дзень. Стаяла восень. Высока ўзнімалася неба, і сонца залівала зямлю. Прыемны лёгкі холад адчуваўся ў подыху ветру.

Сафрон Дзядзюля зранку ішоў на сваю працу. Цяпер ён быў начальнік усёй кааперацыйнай сеткі па сельсавеце. З таго часу ён пастарэў, і дробная хада яго набыла большую выразнасць: цяпер ужо кожны мог заўважыць, што ступае ён дробна і ціха. Апрануты ў бобрыкавае паліто, ён нёс свой партфель, мінаючы шырокія завулкі новага калгаснага пасёлка. За апошнія гады на ранейшай вуліцы асталося не больш палавіны хат: хто будаваўся, хто выходзіў на шырэйшую разлегласць. Стаяла многа новых дамоў. Сафрон Дзядзюля таксама жыў ужо ў новым сваім доме, з чорным і чыстым ходам. З поўдня ад пасёлка, як вокам акінуць, цягнуўся нядаўна засаджаны калгасны сад. З другога боку ішлі калгасныя гаспадарчыя пабудовы. Маладыя таполі, клёны і каштаны стаялі жоўтыя паабапал дарогі. Каб Волька Макаркавых з'явілася сюды, тут яна ўжо зусім не пазнала б роднай сваёй мясцовасці.

Кааператыйнае праўленне было ў новым доме, за калгасным садам. Пешаходная сцежка вілася паўз самы могільнік. Падыходзячы да паркана, Сафрон Дзядзюля заўважыў раптам, што на царкоўнай сцяне вісіць нейкае

паліто. Зацікаўлены, ён пералез цераз жэрдкі і падышоў. Царква была зусім трухлявая. Гнілая шалёўка не трымалася на цвіках і сыпалася ўніз спарахнелымі кавалкамі. Доўгія цвікі скрозь тырчалі па сцяне. На адным з гэтых цвікоў і вісела паліто.

Паліто было жаночае, на ваце, з прышытым поясам і коцікавым каўняром. Шустры верабей шаргануўся аб гэты мяккі каўнер, улятаючы з заўзятым шчэбетам у акно, якое ўжо было без рамы і шкла. Сафрон Дзядзюля стаяў, задзёршы галаву, здзіўлена разглядаючы паліто. Раптам ён пачуў шоргат рыдлёўкі аб жвір. Азірнуўшыся, ён убачыў жанчыну. Пазнаў ці здагадаўся, але ён з першага моманту быў упэўнен, што гэта тая самая, учарашняя. Каб бліжэй яе разгледзець, ён інстынктыўна падаўся ў той бок і раптам спыніўся як ашаламонены: перад ім была Макаркавых Волька.

Гэта была маладая жанчына. Прывабнай сталасцю поўніліся ўся яе постава, рухі і рысы. Яна працавала. Рыдлёўкай капала яна зямлю і даводзіла да парадку дзве магілы пад жоўтымі вязамі. Постаць яе была мажная, і хараство, здаецца, яшчэ большае, як тады, калі яна была маладой дзяўчынай.

Ахоплены незразумелай трывогай, Сафрон Дзядзюля ціхом павярнуўся і шмыгануў за рог царкоўнай сцяны, поўны радасці, што яна яго не заўважыла. Выглядаючы паловай твару з-за сцяны, ён бачыў, як Волька некалькі разоў разгіналася, каб адпачыць, а пасля зноў бралася за працу.

Штосьці новае было ў ёй. Гэта не была тая ранейшая простая і вясёлая Волька. Наіўнасці тут ужо не было. Хоць Дзядзюля і не разбіраўся лішне ў тонкасцях тых адлюстраванняў, якія кладзе душа на твар, усё ж ён, стоячы тут за сцяной, падумаў, што гэтая жанчына ўжо, мусіць, глыбока ведае цану з'явам свету і людскім учынкам. У гэтую хвіліну ў яго з'явілася такое пачуццё, быццам яго асарамацілі перад усім светам. Сціснуўшы зубы, ён шпарка выскачыў з могільніка і рушыў да сваёй канцылярыі.

Да самага вечара ён быў неспакойны. За паўгадзіны да канца сваёй работы ён сядзеў у самым цёмным кутку канцылярыі і нехаця корпаўся ў паперах. Сонца спускалася за стагі саломы, і, увайшоўшы ў гэты пакой знадворку, адразу здавалася, што тут зусім змрочна.

Ціхом адчыніліся дзверы і хтосьці ўвайшоў. Дзядзю-

ля не падняў галавы. Ён толькі ўздрыгануўся, калі пачуў проста перад сабою пявучы голас:

— Выбачайце, мне параілі зайсці да вас. Справа такая, што я прыехала сюды пабыць на магілах сваіх бацькоў. Я хацела прывесці магілы ў парадак. Чалавек, у якога я начавала, зробіць балясы, каб агарадзіць магілы, але ў яго няма цвікоў. Ён гаворыць, што ў краме цвікоў так мала, што іх не кожнаму прадаюць. Я і прашу вас, каб вы адпусцілі цвікоў, іх трэба не многа.

Змяніўшы голас так, каб яго не пазналі, і зацiскаючыся глыбей у цёмны кут, Дзядзюля абазваўся:

— Можна падумаць, што вы вельмі шануеце памяць сваіх бацькоў! Аднак жа на пахаванне бацькі не прыехалі.

— Я тады толькі што скончыла медыцынскі інстытут і адбывала ў раёне першую практыку. Тэлеграма да мяне не дайшла.

— Няма цвікоў,— хрыпла раўнуў Дзядзюля.— Ніводнага цвіка няма. І не будзе!

Маладая жанчына шпарка выйшла. Сафрон Дзядзюля, сцяўшы зубы, падняўся. Ён аж счарнеў ад злосці і гневу. Як! Нягледзячы на ўсе заявы, яна скончыла інстытут і цяпер ужо доктар? Гэта жывы здзек з яго! Можна сказаць, што ніколі яшчэ раней ён не ненавідзеў Макаркавых Вольку так, як цяпер. Пануры, як кавалак хмары, ён дацягнуўся дадому і, каб асвяжыць гарачую галаву, перад сном выйшаў у адной бялізне на двор. Неба схмурнела, ужо ішоў халодны асенні дождж. Сумысля ён прайшоў пад даждждом па садзе. Ірвануўся вецер, дождж лінуў густа і, пакуль Дзядзюля дабег да сянец, ён увесь быў мокры. Падлазячы ў сенцах пад коўдру, ён адчуваў холад. К канцу ночы ў яго пачало балець горла, зранку яму зусім нездаровілася, а пад вечар высока паднялася тэмпература. Ён пачаў гаварыць з гарачкі, і сям'ю яго апанавала трывога.

Быў вечар. Волька сядзела ў свайго колішняга суседа за сталом. Ёй было прыемна слухаць успаміны гэтай сям'і аб бацьках яе. У хату ўвайшла жанчына і пачала расказваць, што Дзядзюля вельмі хворы, а па доктара далёка ў такое надвор'е ехаць, і ў Дзядзюлі ў хаце аж рукі ломяць з адчаю. Маладая жанчына адразу ўстала і папрасіла правесці яе да Дзядзюлі.

Трэба сказаць, што Дзядзюля быў смелы і храбры толькі там, дзе ўсё добра і лёгка ішлося. Цяпер ім апанавала няшчасце, і ён размяк, як гнілая салома. Аслабелы, ён

ляжаў і думаў пра тое, што нічога лепшага няма, як жыць на свеце. Хвароба напалохала яго, ён баяўся.

— Слухай,— замагільным голасам прагаварыў ён да жонкі.— Гэтая Волька, што прыехала — доктар. Ідзі пакліч яе.

У гэты момант адчыніліся дзверы, і на парозе з'явілася Волька. Дзядзюля затрапятаўся.

— Дзе хворы? — сказала яна сваім шырокім пявучым голасам.

— Я, я хворы,— прашаптаў Сафрон Дзядзюля.— Калі ласка, ратуйце, век буду дзякаваць. Так дрэнна мне прыйшлося...

Маладая жанчына пачала яго аглядаць. Будучы паслухмяным, як ягня, Дзядзюля бесперапынна выказваў просьбы — клапаціцца аб яго здароўі.

— У вас пачынаецца запаленне лёгкіх,— сказала маладая жанчына.— Як гэта вы маглі так захаладзіцца?

— Мяне прамачыў дождж,— прахрыпеў Дзядзюля.

— Тут ёсць дзе дастаць банькі? — запытала Волька.

— Ёсць тут у адной хаце.

— Дастаньце іх, я пастаўлю. А зранку трэба будзе лякарства. Рэцэпт я напішу.

— Вы мяне выбачайце,— ныў Дзядзюля.— Я вам цвікоў не даў. Прызнацца вам, то я забыўся, што яны ёсць. Я гэтую памылку выпраўлю, абы толькі паправіцца. Лячыце мяне, як мага, прашу вас.

— Дык гэта я ў вас прасіла цвікоў? А я і не пазнала. Нічога, хвароба не страшная, паправіцеся.

Волька пайшла. Праз гадзіны дзве Дзядзюлева жонка прыйшла сказаць, што банькі прыгатаваны. Ліў дождж. Волька ішла лячыць Дзядзюлю. Яму было горш. Хрып ішоў з яго горла.

— Аптэка ад вас далёка?

— На станцыі, шэсць кіламетраў.

— Я напішу рэцэпт, а вы ідзіце зараз жа запрагаць каня. Трэба адразу дастаць лякарства. Дайце на чым напісаць рэцэпт.

Дзядзюлева жонка пачала шукаць паперы і вінавата сказала:

— Ні кавалка паперы ў хаце няма, у яго ўсе справы ляжаць у канцылярыі. Хіба, можа, у шуфлядзе каля вас, там нейкі звязак старых яго папераў, можа, там знойдзецца.

Заплакала дзіця, і жанчына пабегла ў бакоўку. Воль-

ка адчыніла шуфляду і дастала адтуль жмут папераў. Гэта былі ўсялякія старыя рахункі і пратаколы, было некалькі пісьмаў. Волька шукала, адкуль бы адарваць кавалак няспісанай паперы. Нарэшце асобна яна ўбачыла некалькі паперын, перавязаных ніткай, і разгарнула іх. Глянуўшы ў іх, яна жахнулася, яна чытала чарнавікі Дзядзюлевых заяваў на яе. «Вось чаму я гэтулькі пакутавала, цярпела ганьбу і не меншы здзек!» Дрыжачай рукой яна адарвала ад аднаго чарнавіка палоску паперы і пачала пісаць рэцэпт. Увайшла Дзядзюлева жонка і ўбачыла, што Волька ставіць Дзядзюлю банькі.

Назаўтра Дзядзюлю стала лепш. А яшчэ цераз дзень ён ужо зусім бадзёра глядзеў са сваёй пасцелі на акно. Неба было зноў яснае, заходзіла сонца, і ў яго праменнях стаялі дрэвы за акном. Насупроць аконнай шыбы, на тонкай галінцы вісела яшчэ некалькі апошніх лісткоў. Дзядзюля глядзеў на іх, але не заўважаў іх. Як цвік з-пад малатка, яго мазгі прабівала думка, што на яго накладзена пячаць ганьбы: у цяжкую для яго хвіліну Волька прыйшла ратаваць яго. Нягледзячы на ўсе яго заявы, яна стала доктарам. Так, як ніколі, яна цяпер сталая, разумная, упэўненая ў сабе.

— Чартоўка паршывая! — замармытаў Дзядзюля.— Доктар называецца. Паставіла банькі, напісала рэцэпт, і ўсё. Ні разу не прыйшла паглядзець, толькі два разы нейкую бабу прысылала запытацца, як мне. Толькі назва, што дактары, а сваіх абавязкаў не разумеюць. А можа, не хочуць разумець!

У той жа самы вечар, падцягнуўшы да падушкі табурэт з лямпаю, Сафрон Дзядзюля пісаў карандашом на лісце паперы, вырваным з вучнёўскага сшытка. «Заява... Гэтая гора-ўрач дэталёва нават не азнаёмілася з хваробай. Ёй, безумоўна, трэба было дастаткова ўвайсці ў лячэнне, а яна абмежавалася толькі тым, што паставіла банькі і напісала рэцэпт. І ні разу не зайшла праверыць змагаючагася з захворваннем арганізма... І яшчэ трэба дадаць, што гэтая асоба рэлігійная, што не можа быць у адпаведнасці са званнем савецкага ўрача, як то: гэтая асоба, нягледзячы, што ў свой час выключалася з рабфака як дачка кулака і спекулянта цялятамі, павінна была ізулеч для сябе ўрокі, якіх не ізулекла, паколькі гаварыла чалавеку, у якога спынілася, што ёй прыемна было набываць на могільніку каля трухлявай царкоўнай сцяны. Гэта яна матывавала тым, што на яе ўспывалі

ўспаміны маленства, калі яна каля гэтай сцяны гуляла ў малыя гады з дзецьмі. Але тут падаплёка ўпаўне ачавідна...»

Дзядзюля раптам задумаўся: куды ж паслаць гэтую заяву? Невядома, адкуль яна сюды прыехала?

Зусім паправіўшыся, Дзядзюля ішоў на працу. Зазірнуўшы на могільнік, ён убачыў дзве акуратна абкладзеныя дзярном магілы Вольчыных бацькоў. Магілы былі абгароджаны новымі балясамі. «Недзе ж такі дастала цвікоў»,— падумаў Дзядзюля. Удзень зайшоў у кааперацыю былы сусед Вольчыных бацькоў.

— Паехала? — запытаў Дзядзюля.

— Паехала,— адказаў чалавек.— Але ненадоўга. Ёй тут вельмі спадабалася, а ў раёне якраз не хапае аднаго доктара. Казала, што будзе прасіць, каб яе сюды назначылі.

«Вось цяпер і вядома, куды пасылаць заяву,— падумаў Дзядзюля.— Раённым органам».

У тыя самыя дні Волька пісала сваёй сяброўцы:

«...Тысячы момантаў з майго маленства паўсталі перада мной як жывыя. Я пазнавала дрэвы, камені, узгоркі... Я прывяла да парадку магілы бацькоў і доўга хадзіла па родных дарогах. Тут усё так блізка і знаёма майму сэрцу. Я шаную тое, што было ў маёй душы з маленства і люблю сучаснае. Тут мне будзе весела і радасна працаваць. Сярод тых людзей, якіх я ведала заўсёды, і тым цікавей мне цяпер бачыць іх у сапраўдным чалавечым жыцці...

Не абышлося і без непрыемных успамінаў. Я дазналася, праз каго я тады гэтулькі перацярпела знявагі і крыўды. Але гэты прыкры эпізод увесь у мінулым: не перашкодзіў жа ён мне скончыць інстытут. Я гэтага чалавека лячыла. Як мне было агідна дакранацца да яго рукамі. Я хацела толькі аднаго: каб ён хутчэй паправіўся і каб больш не лячыць мне яго. Прыйшоўшы дадому, я доўга мыла рукі і думала: зусім можа быць, што ён зноў пачне займацца падобным шальмоўствам. Нашто? Так сабе, з ласкі на пацеху... Адным словам — чорт з ім...

Пасля сапраўднага асенняга дажджу зноў стаіць яснае надвор'е і яшчэ цвітуць познія кветкі...»

## КАМЕНТАРЫІ

Аповесць «Лявон Бушмар» упершыню надрукавана ў часопісе «Узвышша», 1929, № 7—10. Датуецца сакавіком 1919 г. Змешчана ў кнізе «Лявон Бушмар», БДВ. Мн., 1930.

Раман «Ідзі, ідзі» ўпершыню апублікаваны ў часопісе «Узвышша», 1930, № 4—10. Датуецца годам апублікавання.

У № 9—10 заўвага аўтара: «Раман рыхтуецца да асобнага выдання пад назваю: «Раскрыжаванне». Тыя раздзелы, што маюць тут эскізны характар, перапрацоўваюцца. Некалькі зробленых тут сюжэтных намётаў будуць мець сваё завяршэнне ў наступным рамане «Захаду і ўсходу», які будзе пабудаваны на далейшым развіцці гэтых характараў і падзей».

Асобным выданнем пад назвай «Раскрыжаванне» раман не выйшаў. Раман «Захаду і ўсходу» не напісаны.

Раман «Бацькаўшчына» ўпершыню надрукаваны ў часопісе «Узвышша», 1931, № 4—9. Асобным выданнем выйшаў у 1932 г. Паводле рамана ў 1932 г. напісана аднайменная драма.

Апавяданне «Семнаццаць год» упершыню з'явілася ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», 1932, кн. 2.

Апавяданне «Макаркавых Волька» ўпершыню апублікавана ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», 1938, кн. 5.

У трэці том увайшлі творы К. Чорнага, напісаныя з 1929 па 1938 год. У гэты час назіраюцца істотныя змены ў стылі пісьменніка. Калі ў папярэдні перыяд К. Чорнага больш цікавіла праблема ўнутранага самаруху асобы, духоўнага ўздымання людзей сацыяльнага дна, асуджаных на працягу вякоў быць толькі матэрыялам гісторыі, то цяпер пісьменнік засяроджвае ўвагу на дыялектыцы гістарычнага працэсу. У краінах Еўропы ў пачатку 30-х гадоў да ўлады рваліся фашысты. Узрасла пагроза новай сусветнай вайны. У Заходняй Беларусі пілсудчыкі разагналі ўсе прагрэсіўныя беларускія арганізацыі. З'явіліся першыя ахвяры культаўскіх рэпрэсій у СССР. Ідэалогія культу мела на мэце разбурэнне дыялектыкі гістарычнага працэсу. Адсутнасць цэлас-

нага яго разумення адкрывала прастор для дзеяння валюнтарысцкіх тэндэнцый.

К. Чорны востра адчуваў пагрозу філасофскага раззбраення грамадскай думкі. «Мне здаецца,— гаварыў ён на першым пашыраным пленуме Арганізацыйнага камітэта ССПБ у 1933 г.,— што бяда ў тым, што мы глядзім на маленькія кавалкі жыцця, фактычна на эпізоды». Адлюстраванае ў творах жыццё павінна быць, на думку пісьменніка, «атулена філасофіяй». Сэнс чалавечай дзейнасці К. Чорны бачыў у будаўніцтве новай культуры, якая не мае нічога агульнага з культурай адвечнага рабства, «смирения» і «славословия». У артыкуле «Рэальная шматграннасць і філасофскае адзінства» (1932) К. Чорны пісаў: «Энтузіяст сацыялістычнага будаўніцтва не толькі будаўнік сацыялізма, гэтай новай культуры, якая самым фактам свайго росту знішчае старую культуру, убіраючы ў сябе ўсё, што ў ёй ёсць каштоўнага, ён і знішчальнік усіх паневаў нявольніцкае гісторыі. Прычым ён знішчае ўсё гэта і ў самім сабе. Ён здымае замкі з «вечнасці». І гэтыя замкі з «вечнасці» павінна здымаць і літаратура».

Каб разняволіць грамадскую думку, К. Чорны выводзіць свайго чытача на гістарычны прастор. У «Заўвагах пра драматургію» (1933) ён пісаў, што «не толькі грамадзянская вайна ніколі не страціць у нас вялікае цікавасці да сябе, а нават (можа, каму гэта будзе здавацца смешным) іспанская інквізіцыя, скажам, з глыбіні сярэдніх вякоў уздымаецца перад намі як выключная цікавасць... Чалавецтва прайшло вялікі шлях, і гэты шлях нас вучыць». У артыкуле «Пра сваю п'есу» (1932) К. Чорны гаварыў, што ён задумаў напісаць цыкл твораў, «якія, разам узятыя, павінны даць карціну развіцця чалавечага грамадства за час ад паншчыны да бяскласавага грамадства». Пісьменнік імкнуўся прavесці чытача «не толькі па лініі хcraналогіі, а адначасна і па лініі ідэёвых катэгорый, носьбітамі і творцамі якіх ёсць чалавечыя вобразы: **бацькаўшчына, уласнасць, закон, сваяцтва і г. д.»**. Прыступаючы да ажыццяўлення сваёй грандыёзнай задумы, К. Чорны імкнуўся даць сучаснікам літаратуру, якая б была, кажучы словамі М. Чарнышэўскага, «падручнікам жыцця», надзейным сродкам у ідэалагічнай барацьбе супраць культаўскага абясцэньвання духоўных здабыткаў, супрацьператварэння чалавека ў вінцік бюракратычнай машыны.

У аповесці «Лявон Бушмар» К. Чорны паказаў, што адрыў чалавека ад сацыяльнага, чалавечага свету прыводзіць асобу да выраджэння. «Простасць» Лявона Бушмара, яго эмацыянальны прымітывізм — гэта вынік духоўнай ізаляцыі хутараніна ад чалавечага свету. Па-за чалавечым светам, па-за грамадскім інтарэсам асоба выраджаецца. Лявон Бушмар няздольны нават быць

бацькам сваім сынам, мецъ сям'ю. Індывідуалізм пазбаўляе чалавека магчымасці працягу нават біялагічнага існавання.

Вульгарызатарская крытыка адчула, што філасофская ўстаноўка К. Чорнага выводзіць чытача за межы шаблонаў, навязаных ідэолагамі бюракратыі, і паспяшыла павесіць пісьменніку ярлык. У рэцэнзіі «Пра адну рэакцыйную аповесць» («Маладняк», 1931, № 1) А. Кучар пісаў, што аўтар «Лявона Бушмара» стаіць нібыта на пазіцыях «фізіялагічнага жывізму». Прызнаючы, што «Лявон Бушмар» — «найбольш таленавіты і глыбокі твор з усяе творчасці пісьменніка», А. Кучар не лічыў патрэбным хаваць свае фальсіфікатарскія намеры: «І ўсё ж такі, нягледзячы на ўсе знадворныя адзнакі нібыта нават пралетарскага твору, мы пастараемся давесці, што аповесць «Лявон Бушмар» не толькі не з'яўляецца пралетарскім творам, а выражае проста процілеглыя пралетарскаму разуменню тае рэчаіснасці, якую яна надае, погляды і а б ' е к т ы ў н а служыць на руку класаваму ворагу пралетарыяту». А. Кучар заклікаў да расправы над пісьменнікам: «Пралетарская літаратура павінна ўзброіцца на змаганне супраць творчых асноў К. Чорнага».

К. Чорны, аднак, упэўнена ішоў у мастацкай творчасці сваёй дарогай. Выкрыццю індывідуалістычнай філасофіі прысвечаны ўсе яго творы, напісаныя ў 30-х гадах. Лявон Бушмар — уласнік, які за межамі свайго логава траціць арыентацыю. Куды большую небяспеку ўяўляюць сабой тыя, што авалодалі сродкамі ідэалагічнай мімікрыі. Яны спяваюць рэвалюцыі «акафіст», пракладваючы тым самым сабе шлях да вышэйшых эшалонаў улады. Так дзейнічаюць бацька і сын Нахлябічы ў рамане «Ідзі, ідзі», які К. Чорны збіраўся выдаць пад назваю «Раскрыжаванне». Сама назва сведчыць аб тым, што К. Чорны глыбока разумеў палярызацыю жыццёвых інтарэсаў энтузіястаў сацыялістычнага будаўніцтва і прыстасаванцаў, яшчэ больш небяспечных, чым зверавагыя мізантропы тыпу Бушмара. Ідучы да сваіх шкурніцкіх мэт, яны фальсіфікуюць саму прыроду сацыялізму, падмяняюць рэвалюцыйную ідэалогію «славословием» — падфарбаванай у чырвоны колер папоўшчынай. Для паспяховай барацьбы з фальсіфікатарамі гуманістычнай сутнасці сацыялізму патрэбны разумныя і адданыя народу лідэры. Такім чалавекам новай фармацыі ў рамане «Ідзі, ідзі» з'яўляецца Галена Сегень. Тыповы для творчасці К. Чорнага вобраз новай беларускай жанчыны — «сястры і мацеры» ў адносінах да ўсіх пакрыўджаных і зняважаных. Галена Сегень валодае «абвостранай цвёрдасцю» — ідэйнай загартоўкай, так неабходнай у барацьбе супраць фальсіфікацыі сацыялістычных каштоўнасцей «чырвонай» бюракратыяй.

Раман «Бацькаўшчына» (1931) — гэта філасофскі раман-прыт-

ча, у якім на базе канкрэтнага аналізу гістарычнай рэальнасці К. Чорны прыводзіць чытача да вываду: будучыня належыць таму, хто дбае пра бацькаўшчыну; ісці наперад можа народ, які руль дзяржаўнага жыцця трымае ў сваіх уласных руках. У кантэксце гэтай праблемы вобразы працаўнікоў Гушкі і Няміры набываюць эпічную маштабнасць і палітычную актуальнасць.

У рамане «Бацькаўшчына» К. Чорны абапіраўся на традыцыі, закладзеныя ў падмурак беларускай літаратуры яе стваральнікамі. Манументальныя вобразы Леапольда Гушкі, Сымона Чуйкі і Паўла Няміры дапаўняюць галерэю народных тыпаў, створаных у драматургіі Я. Купалы, у паэтычным і празаічным эпасе Я. Коласа.

К. Чорны вылучае ролю палітычнай свядомасці і арганізаванасці народных мас у барацьбе за сваё шчасце, за годную чалавека будучыню. Пісьменнік балюча перажываў гістарычную трагедыю працоўных Заходняй Беларусі, што да верасня 1939 года былі пад уладай буржуазнай памешчыцкай Польшчы.

Ідэйна-мастацкія вартасці рамана «Бацькаўшчына» абумоўлены не толькі актуальнай для свайго часу тэмай. Філасофская думка рамана і сёння не страціла сваёй вастрыні. Прытупленне пачуцця клапатлівага і дбайнага гаспадара, нігілізм у адносінах да гістарычнага лёсу бацькаўшчыны, яе будучыні сёння з'яўляецца небяспечнай духоўнай хваробай. «Бацькаўшчына» К. Чорнага — гэта твор, які дапамагае сучасніку пераадолець хваравітыя напластаванні часоў застою — інертнасць і абыякавасць, страту пачуцця адказнасці, пачуцця гаспадара роднай зямлі. Ідэйная задума пісьменніка выказана ў характэрнай структуры твора. Круті пекла, па якіх праходзяць Гушка і Няміра ў «Бацькаўшчыне», нагадваюць паэтыку, што складвалася ў народных казках пра шукальнікаў праўды, у сярэдневяковай жыційнай літаратуры, у савецкім рамане пра рэвалюцыю. Адметнасць твора К. Чорнага ў тым, што ўся яго структура прасякнута палымяным маральным імператывам: хочаш мець будучыню — дбай пра бацькаўшчыну. К. Чорны ў самым пачатку 30-х гадоў прадбачыў пагрозу нацыянальнага нігілізму ў духоўным жыцці новых пакаленняў.

Ідэйна-філасофская задума рамана «Бацькаўшчына» затым паглыблялася і распрацоўвалася ў наступных творах пісьменніка. На жаль, некаторыя з іх засталіся няскончаны. Зразумела, што зварот да разнавіднасцей вобраза «вялікага злодзея» стаў маштабным філасофскім абагульненнем, у аснове якога ляжыць напружаны роздум пісьменніка пра лёс беларускага народа, выказаны ў рамане «Бацькаўшчына» і напісаных пасля яго творах.

У рамане «Трыццаць год» (1934) К. Чорны выводзіць на

арэну гісторыі прадстаўнікоў розных сацыяльных слаёў. Твор застаўся няскончаным, але яго філасофская накіраванасць адчуваецца выразна. Мы бачым, як усе прыніжаныя і зняважаныя — выхадцы з сацыяльных нізоў горада і вёскі, надломленыя інтэлігенты — у «агнях і бурах» пераадольваюць душэўныя траўмы, размежаванасць, абстрактныя ўяўленні пра гуманізм, індывідуалістычны светапогляд і яднаюцца ў змаганні супраць класавых ворагаў — дробных і буйных гандляроў, увасобленых у вобразах Хурса і Сёмкі Фартушніка. Раман «Трыццаць год» аб'ектыўна скіраваны супраць індывідуалістычных крайнасцей экзістэнцыялісцкай філасофіі. Індывідуалістычны бунт, падкрэслівае пісьменнік, як і шчырая малітва, не прывядзе да вырашэння адвечных праблем. Умовай поспеху з'яўляецца шлях да яднання. У гэтым чытача пераконвае гісторыя духоўнага краху і ўздымання такіх персанажаў, як Аміля Снацкая, яе дачка Клава, Коля Высоцкі. Героі прыходзяць да вываду, што толькі ў яднанні можна адстаяць свае права ў змаганні з буйнымі і дробнымі гандлярамі чалавечым жыццём.

Раман «Трыццаць год» вылучаецца стабільнасцю стылю. К. Чорны ў сваім творы выступае як суддзя гісторыі. Ён выносіць прысуд духоўна-спустошаным індывідуалістам. Як вядома, літаратура крытычнага рэалізму ў свой час шмат увагі аддала паказу духоўнай дэградацыі індывідуаліста-інтэлектуала. К. Чорны ў вырашэнні гэтай праблемы знаходзіць свой ракурс. Буйны камерсант і прамысловец, свіны кароль Хурс з рамана «Трыццаць год» трымае ў сваіх руках важнейшыя рычагі эканамічнай улады над вялікай мясцовасцю, ад яго прыхамаці залежыць лёс многіх людзей, але тым не менш Хурса мучыць пастаянны душэўны голад. У маладыя гады ён выгадна збыў дробнаму местачковаму гандляру Сёмку Фартушніку прыгожую Амілю. Праўда, за грошы Хурс мог адкупіць Амілю, але ненадоўга. На схіле год Хурса мучыць і бацькоўскі голад, бо дачку Клаву разам з Аміляй ён таксама збыў Фартушніку.

К. Чорны падкрэслівае, што сутнасць Хурса не ў яго чалавечай драме, а ў гандлярскай дзейнасці. Махляр па натуры, Хурс усё жыццё пражыў з узаконенага ў класавым грамадстве крадзяжу і ў рэшце рэшт абакраў самога сябе. Вобраз Хурса — гэта разнавіднасць вялікага жорсткага злодзея. Тыпалагічна да яго прымыкаюць вобразы Вэні Шпулькевіча і Сашкі Стафанковіча з «Любы Лук'янскай», кааператары па сумяшчальніцтву паклёпнікі Дзядзюлі з апавядання «Макаркавых Волька», а таксама шэраг аматараў забяспечыць за чужы кошт сваю будучыню з раманаў ваенных год. Так К. Чорны па-свойму ў 30-я гады развіваў традыцыі вялікай літаратуры. Ф. Дастаеўскі стварыў вобраз Вялікага

інквізітара. К. Чорны палічыў неабходным раскрыць грамадству вочы на аблічча «вялікага злодзея», які дасканала валодае мімікрыяй.

У канцэнтраваным выглядзе гэтыя ідэі К. Чорны выказаў у філасофскай аповесці-прытчы «Семнаццэць год». Жыццё і духоўная эвалюцыя беларускага селяніна Пятра Тадаровіча нагадваюць пакуты біблейскага Іова, але пісьменнік і чытач робяць вывады, палемічна накіраваныя супраць прапаведзі цярпення і пасіўнасці. У апавяданні «Макаркавых Волька» К. Чорны паказаў, што жорсткасць і подласць даносчыкаў не ведаюць межаў, што адной працавітасцю іх перамагчы нельга. Усё гэта робіць творы К. Чорнага надзвычай актуальнымі ў наш час.

Сацыяльна-філасофская проза К. Чорнага 30-х гадоў — гэта унікальная з'ява ў гісторыі беларускай савецкай літаратуры. У неспрыяльных умовах падазронасці, варожасці і рэпрэсій культаўскага часу К. Чорны напісаў раманы і аповесці, якія замацавалі здабытак інтэлектуальнай беларускай прозы, зрабілі іх нацыянальнай традыцыяй. Філасофска-аналітычная проза К. Чорнага аказвае вялікі ўплыў на літаратурны працэс апошніх дзесяцігоддзяў. Традыцыі К. Чорнага знайшлі сваё далейшае развіццё ў творах такіх буйных празаікаў, як І. Мележ, Я. Брыль, В. Быкаў, а таксама ў творах пісьменнікаў наступнага пакалення — В. Адамчыка, І. Пташнікава і многіх іншых празаікаў.

ЗМЕСТ

**Чорны К.**

Ч-75 Збор твораў. У 6 т. Т. 3. Аповесць, раманы, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 502 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00098-2.

Для творчасці класіка беларускай савецкай літаратуры характэрны шырыня замыслу, манументальнасць адлюстравання, шматвобразнасць характараў і акалічнасцей, глыбокае пранікненне ў душу чалавека. Пра гэта і сведчаць творы, уключаныя ў трэці том Збору твораў. Гэта — аповесць «Лявон Бушмар», раманы «Ідзі, ідзі», «Бацькаўшчына», «Трыццаць год», апавяданні.

Ч 4702120201—106 / М302(03)—89 101—89

ББК 84Бел7

**КУЗЬМА ЧОРНЫЙ**

*(Николай Карлович Романовский)*

**Собрание сочинений в шести томах**

Том третий

ПОВЕСТЬ
РОМАНЫ
РАССКАЗЫ

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. Дз. Куліш. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Н. У. Доваль.

ІБ № 2901

Здадзена ў набор 29.08.88. Падп. да друку 03.04.89. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Ум. друк. арк. 26,46+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 28,14. Ул.-выд. арк. 29,26. Тыраж 6000 экз. Зак. 1783. Цана 2 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.